

## ЯЕ ДАРОГІ

Шчаслівая наканаванасць лёсу Вольгі Іпатавай — нарадзіцца, узрастаць, духоўна сталець сярод гістарычных мясцін Беларусі — Міра, Наваградка, Гародні з іх велічнымі старажытнымі замкамі, якія дыхалі нязведанай даўнінай і незвычайнай таямнічасцю. Адсюль пачалі развівацца дзіцячыя, юнацкія ўяўленні, паэтычныя фантазіі будучай пісьменніцы пра падзеі, што тут адбываліся, пра людзей, якія будавалі і ўпрыгожвалі гэтыя замкі, хто бараніў ад нападу ворагаў, тварыў гісторыю зямлі, якая стала і яе радзімай.

Аднак пачатак жыццёвага шляху быў не вельмі спрыяльным для Вольгі Іпатавай. І хаця нарадзілася яна ў пераможным 1945 годзе (якраз у ноч пад Новы год — 1 студзеня, у мястэчку Мір), але дзяцінства яе было азмрочана асабістай трагедыяй — у чатырохгадовым узросце яна страціла маці. Марыя Якаўлеўна памерла зусім маладой і пахаваная на старажытных могілках у Наваградку. (Пазней яе светлы воблік будзе ўвасоблены Вольгай у паэме «Слова пра маці», 1971.)

Сіроцкае маленства працягвалася ў Гродзенскім дзіцячым доме. Тут асноўным яе захапленнем былі кнігі, яна чытала запоем і пасля пяці класаў на памяць дэкламавала «Рамэа і Джульету», ведала Драйзера, Петрарку, спрабавала сама пісаць. Але галоўнае, у Гродне ёй пашчасціла сустрэць сапраўдных духоўных настаўнікаў, калі на яе вершы звярнулі ўвагу Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, а таксама Янка Брыль, якому, як сябру бацькі па «партызанцы», яна пасылала свае літаратурныя вопыты.

Першы верш Вольгі Іпатавай — «Кітайскім сябрам» — быў апублікаваны ў газеце «Зорька» (1957), і ці трэба гаварыць, якая гэта была радасць. З таго часу вершы маладой паэтэсы пачалі пастаянна друкавацца ў «Гродзенскай праўдзе», пазней у часопісах «Бярозка», «Маладосць», «Беларусь», «Полымя», «Работніца і сялянка», газетах «Во славу Родины», «ЛіМ», «Чырвоная змена», «Голас Радзімы», іншых выданнях. І вось гэтыя гады пражывання і вучобы ў Гродзенскім дзіцячым доме (1956–1961), нягледзячы ні на што, згадваюцца з вышыні пражытага са светлай тугою. Там было шмат сяброў, там нараджаліся радкі юнацкіх вершаў. Гэта і час удзелу паэтэсы ў літаратурным аб’яднанні пры Доме афіцэраў, куды, па ўспамінах пісьменніцы, «…прыходзілі літкансультант “Гродзенскай праўды” Васіль Быкаў, салдаты Хведар Чэрня і Пятро Сушко і якія вёў падпалкоўнік Еўсцігнееў. Але самымі вялікімі святамі былі паездкі і літаратурныя выступленні, якія ладзіў сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Аляксей Карпюк. Я гатовая была бясконца слухаць, як чытае свае вершы Данута Бічэль-Загнетава,

як хораша, з гумарам, расказвае нейкія гісторыі сам Карпюк і як сціпла гаворыць пра герояў сваіх аповесцей, што тады друкаваліся ў Маскве, Васіль Быкаў. Пару разоў удалося паслухаць і Міхася Васілька… Гэта найперш яны, пісьменнікі, раскрывалі мне вочы на тое, чаго я не ведала, — страшныя сталінскія рэпрэсіі, забароненыя пісьменнікі, чые імёны прамаўлялі шэптам, разбурэнне храмаў, фальш, што пранізвала старонкі часопісаў і газет. Вядома ж, спецыяльна не казалася нічога, гэта было небяспечна, але я, пачуўшы тую ці іншую рэпліку, лавіла яе сходу, доўга думала над ёю… Тыя начныя, цяжкія роздумы, якімі я не магла ні з кім у дзіцячым доме падзяліцца, бо разумела ўжо, што магу падвесці сваіх сапраўдных настаўнікаў, зрабілі тое, што вызначыла маё жыццё: я стала шукаць Беларусь, Беларусь, за якую аддалі сваё жыццё людзі, чые творы даходзілі да мяне ўпотай, урыўкамі, але якія не далі мне зрабіцца чужой на сваёй Бацькаўшчыне. І яшчэ — калі паўставаў перада мною выбар — атрымаць нейкую выгаду, дзеля якой трэба было схібіць душой, тады навальвалася на мяне тая агіда, якую я адчувала ў дзіцячыя гады, калі чытала пра даносчыкаў і катаў, і тая бурлівая нянавісць да несправядлівасці і двурушша, якія кіпелі ўва мне ў тыя дзетдомаўскія гады, гады майго духоўнага сталення. Бо чалавек можа ўсё жыццё пражыць духоўна няспелым, пражыць, не ўсведамляючы ні адказнасці за ўласнае жыццё, ні мэты, якая прывяла яго ў свет. Што да мяне, то і сёння я лічу, што, як казаў грэцкі філосаф Платон, людзі прыходзяць у свет, як на службу, альбо, як гавораць эзатэрычныя вучэнні, выконваць вялікую касмічную задачу, а яна ў кожнага — свая. Шчаслівы той, хто жыве паводле свайго вызначэння, але не кожны можа адгадаць яго…»

Вольга Іпатава шчасліва адгадала сваё прызначэнне. Богам дадзенае і выдатнымі творцамі падтрыманае пісьменніцкае дараванне рана праявілася і забруіла таленавітымі паэтычнымі і празаічнымі творамі, а плынь сірочага лёсу разам з духоўным сталеннем паступова ўваходзіла ў больш-менш спакойныя берагі самастойнага жыцця.

Скончыўшы школу ў шаснаццаць гадоў, яна выдатна здае ўступныя экзамены і паступае на аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (1961). Дыплом, аднак, абараняла па беларускай літаратуры («Творчасць Міхася Васілька»), дзеля чаго тыднямі сядзела ў архівах Вільні. З таго часу Вільня стала блізкім і дарагім сэрцу пісьменніцы горадам, як яна дарагая кожнаму беларусу. Яна пазнаёмілася з многімі вядомымі беларусамі, якія жылі ў Вільні: Зоськай Верас, яе зяцем Лявонам Луцкевічам і сынам Антонам Фабіянавічам Шантырам. У гады падрыхтоўкі дыплома Вольга пазнаёмілася і з Геніюшамі. Па ўспамінах пісьменніцы, «Ларыса Антонаўна ў лістах да Максіма Танка (апублікаваных у “Полымі”) узгадвае пра мяне ласкава і шчыра». (Дарэчы, Вольга Іпатава была адной з тых мужных жанчын, хто асмеліўся паехаць на пахаванне апальнай Ларысы Геніюш (1983), якая пасля ГУЛАГа жыла з мужам у Зэльве і знаходзілася пад пільным наглядам савецкага КДБ.)

Пасля заканчэння ўніверсітэта Вольга стала працаваць на Гродзенскай студыі тэлебачання. Галоўнай заслугай Іпатавай-рэдактара было тое, што яна без аглядкі на ўсялякія забароны і замоўчванні пачала рабіць перадачы пра вядомых беларускіх дзеячаў, грамадоўцаў, заснавальнікаў і энтузіястаў ТБШ, віленскіх беларусаў, апантаных ідэямі нацыянальнага адраджэння. Дзеля пошуку матэрыялаў для гэтых перадач Вольга часта ездзіла ў Вільню, і віленскія беларусы хораша прымалі маладую журналістку, знаёмілі са славутымі мясцінамі беларускай Вільні, дапамагалі рознымі матэрыяламі, успамінамі, кнігамі. Такія яе тэлеперадачы неслі вялікую, часта зусім невядомую інфармацыю, выхоўвалі нацыянальную свядомасць, падтрымлівалі годнасць і гонар беларусаў.

На той час сама Вольга Іпатава была ўжо вядомай паэтэсай. У 1969 годзе выйшаў першы зборнік яе паэзіі з сімвалічнай назвай «Раніца», які сапраўды сімвалізаваў ранне яе пісьменніцкай творчасці. У кароткай анатацыі гаварылася, што першая кніга паэтэсы — гэта яе «шчырая споведзь перад Радзімай, вершы аб дружбе, каханні, добрых чалавечых адносінах».

Як паэт Вольга Іпатава сцвердзіла сябе і ў наступных зборніках лірыкі: «Ліпеньскія навальніцы» (1973), «Снягурка» (вершы для дзяцей, 1974), «Парасткі» (1976), «Крыло» (1976). Ужо самі назвы іх трапна вызначылі сэнс першапачатковага этапу яе творчасці, абумоўленага перажываннямі сіроцтва, але і адчуваннем красы, непаўторнасці маладосці, якая пазнавалася «не розумам, а сэрцам», прарастала вершамі. Першае, што ўражвае пры іх прачытанні, — гэта лірычная настраёвасць, асабістасць, праўда пачуцця. Галоўная гераіня паэтычных кніг Вольгі Іпатавай — эмацыянальна ўражлівая, духоўна багатая асоба, якая, усвядоміўшы «вялікую цану жыцця», імкнецца пазнаць людзей і рэчаіснасць, знайсці сваё месца сярод іх, быць моцнай і незалежнай. Яна бачыць сябе дзяўчынкай, «з нагамі ўлезшай у цёплую раллю», якая радуецца сонцу, высокаму блакітнаму небу і паступова ачуньвае ад цяжкіх страт.

Пісьменніца настойлівая ў дасягненні мэты і добра разумее, што ўжо вызначыўся яе шлях у вялікую літаратуру, а гэта — раскрыццё супярэчлівых праблем грамадства, даследаванне глыбінь чалавечай псіхалогіі, бясконцае ўдасканальванне свайго майстэрства, разнастайная і цяжкая штодзённая праца. Увага паэтэсы звернута цяпер найбольш да ўнутранага, хутказменлівага душэўнага стану гераіні. Мы бачым яе ў розныя жыццёвыя перыяды, адчуваем, як адбываецца сцверджанне высокіх ідэалаў, спасціжэнне мудрасці пакаленняў.

Пазнаючы шматпакутную гісторыю Радзімы, Вольга Іпатава адчувае цесную знітаванасць з яе лёсам: «Я толькі кропля у тваіх крыніцах…» Так пачынае праяўляцца яе няўхільная цікавасць да гісторыі Бацькаўшчыны. Ужо ў ранніх вершах паэтэса звяртаецца да часоў паганства, адчувае, што не паміраюць старыя сімвалы, якім маліліся нашыя продкі. Яна адкрывае для сябе постаці беларускай мінуўшчы-

ны (вершы «Рагнеда», «Усяслаў», «Полацкай Сафіі»), апісвае лёсы славутых беларускіх патаў («Магіла Багдановіча», «Адам Міцкевіч у Туганавічах», «Міхасю Васільку»), захапляецца Камілай, дачкой Дуніна-Марцінкевіча («Равесніцы»), асуджае тых, хто забывае сваю гісторыю і вынішчае нацыянальныя святыні. Лірычная гераіня верша «На вуліцы Замкавай», калі ў яе «вісіць адзінотаю ноч на душы», спяшаецца да сцен замка, да адвечнай цішыні і спакою стагоддзяў:

Хай кране цябе вечнасць далонню шурпатай,
Голас продкаў далёкіх ў цішы прагудзе,
І чамусьці адразу з душою крылатай
Крочыш з вуліцы Замкавай да людзей…

Ужо на раннім этапе творчасці прыкмячалася, як у паэтычны, інтымны свет Іпатавай урываецца подых грамадскіх падзей, з'яў, як імкнулася паэтэса пазбягаць драбнатэм'я, апісальніцтва, паспешлівасці. Свет яе паэзіі ўздзейнічае на чытача ціхім смуткам і рамантычнай узнёсласцю, далікатным, безабаронна-жаноцкім вобразам галоўнай гераіні, аўтарскім хваляваннем за вострыя праблемы, што перажывае краіна. Важна адзначыць, што няма ў яе вершаў, прысвечаных чырвоным датам, партыі, розным камуністычным правадырам (нагадаем, друкавацца Вольга Іпатава пачала з 1957 года). Найперш гучаць нацыянальна-патрыятычныя матывы, якія дамінуюць у паэзіі Іпатавай, яе любасць да Беларусі, вёскі, роднай мовы:

Як бохан хлеба, ты дала мне мову, —
Яна як золак росны на губах,
Дзе кожны склад, пявучы і вясновы,
Дажджом і медуніцаю прапах…

У 1970 годзе Вольгу Іпатаву прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Рэкамендацыю ёй далі Васіль Быкаў, Данута Бічэль-Загнетава, Аляксей Карпюк. Атмасфера «вольніцы», павагі да беларускага слова і ягоных творцаў, якую адчула Вольга ў Саюзе пісьменнікаў, як бы замацоўвалі незалежніцкія імпульсы, атрыманыя маладой паэтэсай на самым пачатку творчага шляху. Яна адна з першых, яшчэ ў 1970-х гадах, выступіла ў абарону роднай мовы, гісторыі нацыянальнага адраджэння, напісала першую ў беларускай літаратуры аповесць пра Еўфрасінню Полацкую «Прадслава» (1971).

Нястомная энергія, уменне пераадольваць цяжкія абставіны і спадзявацца толькі на ўласныя сілы скіроўвалі маладую пісьменніцу на шлях удасканальвання і паглыблення сваіх ведаў. У 1975 годзе яна паступае і на працягу трох гадоў вучыцца ў аспірантуры Літаратурнага інстытута імя Горкага. Жывучы ў Маскве, Вольга Іпатава напоўніцу выкарыстоўвала магчымасці сталіцы дзеля агульнай і прафесійнай адукацыі — наведвала музеі, тэатры, вывучала, перачытвала багатую мастацкую, філасофскую, асветніцкую спадчыну сусветна вядомых аўтараў, асабліва тых, хто быў пад афіцыйнай забаронай, як, да прыкладу,

М. Бярдзяеў. Яго вядомы афарызм «Перад Богам можна апраўдацца толькі творчасцю» стаў для яе жыццёвым дэвізам. У гэтыя гады яна актыўна друкуецца на старонках «Правды», „Литературной газеты», «Дружбы народов», «Литературного обозрения», «Молодой гвардии», працягваючы і далей дасылаць у гэтыя маскоўскія выданні свае вершы, крытычныя і публіцыстычныя артыкулы. Гэта былі ў асноўным змястоўныя, напісаныя на рускай мове агляды твораў, якія выходзілі ў 70-х гадах у былой шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Як крытык Вольга Іпатава рэцэнзавала пераважна аповесці, раманы В. Быкава, І. Навуменкі, А. Ананьева, А. Кешокава, В. Петрасяна, К. Галаванава, Ю. Палухіна, А. Хакімава, Ю. Галкіна і многіх іншых аўтараў, якія закраналі самыя разнастайныя праблемы, тэмы тагачаснага жыцця, звярталіся да ваенных падзей. Крытычныя агляды Вольгі Іпатавай вылучаліся аб’ектыўнасцю, сведчылі пра добрае веданне літаратурнага працэсу, яе эрудыцыю. І заўсёды як бы другім планам было ў гэтых артыкулах і аглядах адчуванне сябе і грамадзянінам свету, і парасткам поля, засеянага продкамі, адчування сябе прадстаўніком роднай зямлі, дзе б ты ні жыў.

Вярнуўшыся пасля аспірантуры ў Мінск, пісьменніца некаторы час працавала ў Тэатры юнага гледача загадчыцай літаратурнай часткі, якую да яе ўзначальвалі Артур Вольскі і Аляксей Дудараў. Пазней зноў вярнулася да «вольнай» працы літкансультанта ў газеце «Чырвоная змена», адкуль і сыходзіла ў аспірантуру. Яна выводзіла на паэтычную арбіту маладых аўтараў, падтрымлівала божы дар у душах многіх пачаткоўцаў. Яе ўласнае жыццё, напоўненае творчай працай, было багатым на цікавыя падзеі, сустрэчы, знаёмствы. Яна не аднойчы брала ўдзел у папулярных тады Днях літаратуры, якія рэгулярна адбываліся ў розных рэспубліках былога Саюза. Такія паездкі садзейнічалі таму, што Вольга захапілася перакладчыцкай дзейнасцю. На беларускую мову ў 70–80-х гадах ёю былі перакладзены паасобныя творы ўкраінскіх (М. Алійнік, М. Ваўчок, А. Іваненка, А. Сенатовіч, А. Цясленка), літоўскіх (І. Авіжус, Я. Дзегуцітэ), латвійскіх (В. Брутанэ), армянскіх (С. Капуцікян), грузінскіх (М. Эліазішвілі), кіргізскіх (С. Джусуеў, Б. Абакіраў), казахскіх (М. Мурталіеў), узбекскіх (Зульфія, А. Абіджан, А. Арыпаў, Э. Ахунава, Э. Вахідаў, Д. Джабараў, М. Карыеў, П. Мумін, Н. Нарзулаеў, А. Хаджыева, М. Шайхаў, А. Шамірзаеў) пісьменнікаў.

Захапленне культурай Усходу ў Вольгі Іпатавай пачалося яшчэ са студэнцкіх гадоў і было, відаць, абумоўлена тым, што ў Кіргізіі нарадзіўся яе бацька — Міхаіл Іванавіч Іпатаў. Гэтыя ўражанні перараслі потым у сур’ёзнае вывучэнне літаратурных традыцый сярэднеазіяцкіх рэспублік, склалі пэўны перыяд у творчасці Вольгі Іпатавай, мастацкім вынікам якога стаў раман «За морам Хвалынскім», а таксама нарыс «Зоркі Узбекістана», за які, разам з нарысам «Не раз сюды прыводзілі дарогі», яна была ў 1980 годзе ўзнагароджаная прэміяй часопіса «Маладосць». З Сярэдняй Азіяй пазней будуць звязаны не толькі шматлікія паездкі, але і вандроўкі герояў яе прозы, на ўзбекскую мову будзе

перакладзена і выйдзе ў Ташкенце (1985) кніга «Дваццаць хвілін з Немезідай». Для дзяцей яна пераклала вершы ўзбекскага паэта Пулата Муміна, якія былі выдадзены асобным зборнікам (дарэчы, шматграннасць пісьменніцкага таленту Вольгі Іпатавай пацвердзілася тым, што, акрамя перакладаў з так званай «дзіцячай» прозы і паэзіі, яна сама шмат пісала для дзяцей і мае дзве кніжкі «дзіцячых» вершаў — «Снягурка» (1974) і «Казка пра Паўліна» (1983).

Але паступова проза пачынае дамінаваць у яе творчасці. На лепшых традыцыях сусветнай і беларускай літаратур пабудаваны празаічныя творы Вольгі Іпатавай. Некалі Б. Пастарнак сказаў, што сапраўдная паэзія — гэта проза. Шматгадовая плённая праца ў жанрах паэзіі, нарыса, перакладчыцкай дзейнасці, творы для дзяцей і логіка пошукаў, безумоўна, паспрыялі таму, што пісьменніца асноўныя свае намаганні скіроўвае на прозу, якая дае кожнаму мастаку шырокую прастору для ўвасаблення жыццёвых праблем і рэалій сучаснасці, падзей далёкай і блізкай гісторыі. «Час спеласці вядзе цябе па цернях / Шукаць прастор без столі і без дна…» — скажа Вольга Іпатава ў адным з вершаў, якія яна працягвае пісаць увесь час. Сёння бачна, што яе паэзія шмат у чым вызначыла ідэйную і тэматычную накіраванасць празаічных твораў пісьменніцы. Проза для Вольгі Іпатавай стала такой жа арганічна роднай стыхіяй, як і паэзія. Відаць, адлюстроўваць прастор «без столі і без дна», пранікаць у яго глыбіні і сапраўды найбольш прыдатна ў празаічным жанры, што было для аўтара натуральным працягам творчасці.

Першыя апавяданні Вольгі Іпатавай былі апублікаваны ў 1969–1971 гадах на старонках «Маладосці», «Работніцы і сялянкі», «ЛіМа», «Голасу Радзімы», а таксама ў саюзных часопісах «Дружба народов», «Молодая гвардия», «Волга».

У 1977 годзе выходзіць першая кніга прозы «Вецер над стромай» (Мінск: Мастацкая літаратура), куды ўвайшлі першыя аповесці «Вецер над стромай» і «Прадыслава». Гэта, можна сказаць, быў празаічны дэбют пісьменніцы, імя якой як паэта, публіцыста было ўжо шырока вядома не толькі на радзіме. Іпатава-празаік пачынала традыцыйна, як і іншыя пісьменнікі, з малой празаічнай формы — апавядання, але амаль адначасова пісала і аповесці, што сведчыла аб упэўненым авалоданні сакрэтамі эпічнага майстэрства. Прычым «Вецер над стромай» і «Прадыслава» — гэта зусім розныя эпохі, розны жыццёвы матэрыял, які стаў аднолькава падуладным яе пяру. Аповесць «Вецер над стромай» атрымала своеасаблівы працяг у апавяданні «Дваццаць хвілін з Немезідай». Гэта споведзь жанчыны, найвышэйшы момант узрушэння, калі яна стаіць перад сваім сумленнем, нібы перад самой багіняй помсты — Немезідай. Як адзначаў адзін з рэцэнзентаў твора В. Іпатавай, «нічога падобнага пра жанчын не даводзілася чытаць ні ў нашай “мужчынскай”, ні ў “жаночай прозе”». Вольга Іпатава стварыла галерэю цікавых, разнастайных характараў сваіх сучасніц — розных па характарах, лёсах, абставінах.

У нашай літаратуры амаль ніхто да Вольгі Іпатавай так праўдзіва-кранальна не паказаў пасляваеннае сіроцтва, адзіноцтва дарослых і асабліва дзяцей, побыт дзетдомаўцаў, якіх асіраціла не толькі вайна. Уласнае сіроцкае дзяцінства і жыццё сваёй незабыўнай бабулі апісвае Вольга Іпатава ў апавяданні «Хата з блакітнымі аканіцамі». Выразна аўтабіяграфічнымі момантамі пазначана і выдатная аповесць Вольгі Іпатавай «Вузялок Святагора», па якой, дарэчы, у 1988 годзе быў пастаўлены мастацкі фільм «Гамункулус». Аповесць разам з апавяданнямі («Цана», «Апоўначы, калі б'юць куранты», «Спасціжэнне», «Авантура», «Фарфоравая маладая», «Перакат», «Позні канцэрт», «Шакаладка», «Хата з блакітнымі аканіцамі», «Нявеста», «Дваццаць хвілін з Немезідай») была змешчана ў другой кнізе прозы Вольгі Іпатавай «Дваццаць хвілін з Немезідай», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1981 годзе.

Ужо на раннім этапе ў Іпатавай выспявала задума — даведацца самой і расказаць у сваіх творах пра гісторыю свайго народа. Так быў напісаны цэлы цыкл апавяданняў пад агульнай назвай «Гул далёкіх стагоддзяў». Некаторыя з іх («Ваўкалакам абярнуся», «Пад нагамі нашымі», «Святаслава», «Расанка», «Набег», «Песня маці») змешчаны ў трэцяй кнізе прозы «Перакат», выдадзенай у 1984 годзе. Пазней былі напісаны «Гайна і Мікаш», «Мара», «Давыд Гарадзенскі». Усе гэтыя творы ў жанравым плане ўяўляюць сабой невялікія падзейныя навелы, у аснову якіх пакладзены эпізоды з жыцця вядомых гістарычных асоб: Рагвалода, Усяслава, Давыда Гарадзенскага, славутага военачальніка, які вадзіў войска Вялікага Княства Літоўскага на крыжакоў, раскрываюцца побыт, звычаі, вераванні простых людзей, якія ўсё яшчэ маліліся паганскім багам і жыццё якіх цалкам залежала ад улады князёў. У невялікай навеле «Ваўкалакам абярнуся» аўтар расказвае пра цяжкі лёс паэта Паўлюка Багрыма, які прайшоў праз салдатчыну, але вярнуўся на сваю радзіму. Аднак усе апавяданні гістарычнай тэматыкі, ранняя аповесць «Прадыслава» былі толькі подступам пісьменніцы да больш грунтоўных твораў пра мінулае Бацькаўшчыны, як і тры першыя кнігі прозы — подступам да яе будучых раманаў. Гэтыя кнігі атрымалі высокую ацэнку крытыкі. Некаторыя апавяданні тады ж былі перакладзены на балгарскую, нямецкую, польскую мовы. Амаль усе раннія празаічныя творы былі таксама перакладзены на рускую мову. У 1980 годзе ў Маскве выйшаў зборнік прозы В. Іпатавай «Ветер над кручей» (выдавецтва «Молодая гвардия»), за якую ў 1981 годзе ёй была прысуджана першая прэмія Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя Максіма Горкага за лепшую кнігу маладога аўтара (арганізаваны ЦК ВЛКСМ, Дзяржаўным выдавецтвам СССР, Саюзам пісьменнікаў СССР). Прадмову да зборніка напісаў Васіль Быкаў, які адзначаў: «Проза В. Іпатавай — тварэнне прыроджанага празаіка, хоць шлях да яе ляжаў праз юнацкае захапленне паэзіяй.

...Імкненне да паглыбленага псіхалагізму ў адлюстраванні многіх герояў апавядальнай плыні — адна з самых прывабных якасцяў аўта-

ра, таксама як і яе даволі спелае ўменне “маляваць словам”, ствараць лапідарныя, але выразныя і змястоўныя карціны прыроды. Проза В. Іпатавай насычана колерамі, рухамі, пахамі. На старонках зборніка рассыпана нямала яркіх, запамінальных дэталяў, народных выразаў, трапных слоў, усё гэтае моўнае, выяўленчае багацце падмацоўваецца нетаропкай, без афектацый і пераціску аўтарскай інтанацыяй, за якой адчуваецца чалавек, узбагачаны жыццём і надзелены ад прыроды чулай і добрай душой.

Чытач не можа не паверыць таму, пра што прачытае ў гэтай кнізе, і, мусіць, не застанецца абыякавым да трывог і клопатаў многіх з яе герояў.

А гэта, відаць, самае галоўнае для кожнага сумленнага аўтара».

Такая праўдзівая ацэнка творчасці Вольгі Іпатавай Васілём Быкавым, неперасягальным майстрам прозы, пацвярджала, што маладая пісьменніца сапраўды знайшла прызнанне і прафесійных літаратараў, і чытацкай аўдыторыі. У 1986 годзе ў Маскве выходзіць яшчэ адна кніга прозы Вольгі Іпатавай на рускай мове «Узелок Святогора» (з грунтоўным пасляслоўем вядомага крытыка Нічыпара Пашкевіча). (Трэба адзначыць, што першай яе кнігай, выдадзенай у Маскве, быў зборнік вершаў «Крыло» («Советский писатель», пераклады С. Кузняцовай), прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкамі).

У лістападзе 1985 года Вольга Іпатава была запрошана на пасаду галоўнага рэдактара рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Старшынёй Белдзяржтэлерадыё быў тады Генадзь Бураўкін, які palічыў, што ў гэтай рэдакцыі асабліва патрэбны чалавек, які б спалучаў інтэлектуальны і нацыянальны пачаткі ў адно і змог стаць аўтарытэтам для супрацоўнікаў. І Вольга Іпатава, за плячыма якой быў і вопыт тэлевізійнай працы ў Гродне, і аспірантура Літаратурнага інстытута ў Маскве, бліскуча выканала гэтую задачу.

Беларуская тэматыка, якую яна «ўводзіла» ў праграмы Беларускага тэлебачання, была ў многім новай і нязвыклай: упершыню на ўсебеларускі, а не толькі гродзенскі экран выйшлі такія асобы, як Зоська Верас і «віленскае кола»: сын Фабіяна Шантыра Антон, Лявон Луцкевіч, Янка Шутовіч, Янка Багдановіч, грамадоўцы, а таксама былы пасол Сойму Рэчы Паспалітай Павел Крынчык са Слоніма. Найбольш дарагой свайму сэрцу Вольга Іпатава лічыць перадачу пра жонку Браніслава Тарашкевіча Веру Нежанкоўскую. Разам з вядучай глядач быццам гартаў старонкі гісторыі сваёй айчыны: даведваўся пра нацыянальную сімволіку — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», Турава-Пінскае княства, пачатак утварэння Вялікага Княства Літоўскага і род Гедымінавічаў, пра старажытны Кіеў і месцы, звязаныя з полацкім князем Усяславам Чарадзеем і непасрэдна з гісторыяй Беларусі, а таксама пра тое, што паломнікі з Турава і Пінска прывозілі грошы на будаўніцтва манастыра ў Кіеўскай лаўры, пра што сведчаць імёны ў сінодыку-памінальніку. Цікава распавядалася пра беларускіх князёў Міндоўга, Віценя, Гедзіміна, Альгерда, Вітаўта Вялікага, пра

выдатных палкаводцаў Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага, прадстаўнікоў вядомых магнацкіх родаў, іх мецэнацкую дзейнасць, асабліва пра род Радзівілаў, лёс Барбары Радзівіл, Уршулі Радзівіл і яе літаратурную спадчыну, заснаванне ў Нясвіжы тэатра, іх дапамогу ў адкрыцці друкарняў, выданні кніг. І, вядома ж, пра такіх дзеячаў, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Скарына, і іх час, пра старажытныя беларускія гарады, замкі, манастыры, пра музеі, бібліятэкі, рэдкія кнігі і рукапісы, статут ВКЛ, геральдыку на Беларусі, якая на 250 гадоў старэйшая за расійскую, гербы беларускіх гарадоў і княжацкіх родаў, пра рэлігійныя веравызнанні беларусаў, цудатворныя іконы і беларускіх святых і пра многае іншае.

Але сапраўдны глядацкі поспех прыйшоў да Вольгі Іпатавай як вядучай у часы перабудовы. Гэта яна «вывела» да шырокага гледача цэлы шэраг беларускіх гісторыкаў — ад Георгія Штыхава да маладога Сяргея Тарасава, якія ўразілі беларускае грамадства інтэлектуальнасцю і глыбінёй узнятых праблем. Менавіта Іпатава ў сваёй «Ліры» знаёміла беларусаў са святарамі і замежнымі беларусамі (тады на такое не асмельвалася ні адно беларускае выданне). Упершыню перад грамадскасцю паўставалі імёны са спецсховішчаў, забытыя гістарычныя асобы, праўда аб Курапатах, пра наступствы чарнобыльскай катастрофы. Гэта была праўда, пра якую ў Мінску тады яшчэ не асмельваліся гаварыць.

Заслугай Вольгі Іпатавай было і тое, што яна стварыла цыкл з 12 дакументальных фільмаў пра беларусаў далёкага замежжа, адна з першых вяртала іх імёны, творчую, гістарычную спадчыну на радзіму. У 1993 годзе яна разам з рэжысёрам Валерыяй Скварцовай пабывала ў Злучаных Штатах Амерыкі, запісала інтэрв'ю з беларусамі Кліўленда, Саўт-Рывера, Чыкага, Вашынгтона і Нью-Ёрка. Упершыню айчынныя гледачы на свае вочы пабачылі, які высокі матэрыяльны, побытавы ўзровень жыцця нашых землякоў-эмігрантаў у вольнай, дэмакратычнай краіне, даведаліся пра грамадскую дзейнасць такіх вядомых дзеячаў эміграцыі, як Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка і Надзея Запруднікі, спадарства Андрусішыных, Рамукоў, Лук'янчыкаў, пісьменнікі М. Сяднёў, Я. Золак, М. Кавыль, многіх іншых. Вольга Іпатава была заснавальніцай цыкла перадач «Спадчыннікі», якія адрозніваліся ад тэлеперадачы «Спадчына» перш за ўсё тым, што галоўным кампанентам кожнай перадачы стала не гісторыя, а літаратура. Галоўнымі яе героямі сталі пісьменнікі, якія пішуць на гістарычную тэму. Гэта І. Шамякін і яго гістарычны раман «Вялікая княгіня», У. Бутрамееў — аўтар кнігі «Карона Вялікага Княства», А. Петрашкевіч, А. Дудараў і іх гістарычныя п'есы, В. Чаропка і яго раманы, Генрых Далідовіч — вядомы празаік, аўтар цікавых гістарычных твораў. У цыкле «Спадчыннікі» прайшлі перадачы, прысвечаныя 200-гадоваму юбілею Адама Міцкевіча, такім значным падзеям культурнага жыцця нашай краіны, як 930-годдзе Мінска, аднаўленне крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, 480-годдзе беларускага кнігадрукавання, выхад у свет у 1517 годзе «Псалтыра»

Ф. Скарыны, перадача пра паэта Сяргея Законнікава з нагоды прысуджэння яму Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Г. Скаварады і многае іншае.

У 1991 годзе Вольга Іпатава стала працаваць галоўным рэдактарам газеты «Культура», а ў 1998 годзе была абрана намеснікам, а затым старшынёй пісьменніцкага саюза рэспублікі, на чале якога у розныя гады стаялі М. Лынькоў, П. Броўка. М. Танк, Я. Брыль, І. Шамякін, Н. Гілевіч і іншыя беларускія творцы. І гэта адбылося ў найцяжэйшы, лёсавырашальны час для нацыянальнай ідэі, калі гаворка ішла наогул пра выжыванне ўсяго беларускага.

І ўсё ж самы галоўны вынік жыцця і творчасці Вольгі Іпатавай — яе гістарычныя раманы і аповесці.

Сёння мы ведаем, якім адкрыццём для беларускай гістарычнай прозы сталася аповесць «Прадыслава». Дзве наступныя аповесці — «Агонь у жылах крэменю» і «Чорная княгіня» — пацвердзілі сур'ёзнасць падыходу пісьменніцы да асвятлення гістарычных падзей, яе ўменне жывапісаць словам, ствараць неардынарныя і жыццёва пераканальныя характары. Калі абедзве аповесці ўяўляюць сабой панараму XVI стагоддзя, то ў рамане «За морам Хвалынскім» пісьменніца ідзе ў больш аддаленую эпоху — XI стагоддзе. Штуршком для рамана паслужыла цікавая знаходка — клад арабскіх манет-дырхемаў на беларускіх землях.

Падарожжа палачаніна Алексы на Усход з мэтай знайсці і вярнуць каханую Бярозу, прададзеную князем бухарскаму купцу Абдурахману, стала для яго часам набыцця вялікай мудрасці і спасціжэння найважнейшых законаў Быцця. Разам з аўтаркай чытачы пазнаёміліся з легендамі, вытрымкамі з Карану, з твораў Ібн-Сіны, Амара Хайяма, іншых усходніх паэтаў і мудрацоў, арганічна ўплеценымі ў беларускую канву гэтага шматграннага і незвычайнага ў нашай літаратуры рамана. Створаны сілай мастакоўскай фантазіі вобраз Алексы ўносіць у маральна-патрыятычны поліфанізм рамана матыў невынішчальнасці народных талентаў, іх бязмежных магчымасцяў, паказвае здольнасць беларусаў выжываць у любых умовах, вучыцца, браць усё лепшае, што ёсць у другіх. Раман «За морам Хвалынскім» — першая ў беларускай літаратуры спроба асэнсаваць духоўны вопыт тых, хто не па сваёй волі вымушаны быў пакідаць Бацькаўшчыну ў самыя розныя часы і сцвярджацца ў чужым свеце, засвойваць непадобныя культуры, традыцыі, мову. Нездарма гэты раман вытрымаў шэсць выданняў, а на рускай мове выйшаў у 1991 годзе ў выдавецтве «Советский писатель» (пераклад Г. Нужковай).

Трылогія «Залатая жрыца Ашвінаў», «Вяшчун Гедзіміна» і «Альгердава дзіда» была напісана і выдадзена на працягу 1997–2001 гадоў. Яна прысвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму — магутнай беларускай дзяржаве, памяць пра якую была для беларусаў праз стагоддзі знішчаная. У рамане «Залатая жрыца Ашвінаў» упершыню ў беларускай літаратуры даследуюцца індаеўрапейскія, арыйскія карані нашай культуры, раскрываюцца тыя моманты, калі Наваградская зямля ста-

навілася цэнтрам ВКЛ. Вядомы беларускі філосаф Уладзімір Конан даў высокую ацэнку твору: «Новы раман Вольгі Іпатавай я прачытаў з вялікім захапленнем. Мастацкім адкрыццём рамана з'яўляецца вялікая цывілізацыя Візантыі, ад якой пайшла ўся еўраазіяцкая праваслаўная цывілізацыя… Культуру і лад жыцця Візантыі лепей вывучаць па гэтым рамане Вольгі Іпатавай, чым па гістарычных нарысах і некаторых даследаваннях, дзякуючы жыццёвасці, выпукласці, вобразнасці твора… Гэты раман для мяне ў нейкім сэнсе скарб, паколькі я рыхтую невялікі энцыклапедычны даведнік беларускіх міфаў і міфалагемаў. Вольга Іпатава па-майстэрску выкарыстала міфалагічную вобразнасць язычніцкай культуры беларусаў і міфалогіі агульнаславянскай.

Такім чынам, мы маем справу з новым этапам у гістарычнай раманістыцы. Вольга Іпатава працягвае традыцыі Янкі Купалы і Уладзіміра Караткевіча».

Новыя раманы пісьменніцы «Вяшчун Гедзіміна», «Альгердава дзіда» з'яўляюцца своеасаблівым храналагічным працягам рамана «Залатая жрыца Ашвінаў». Усе яны пасля друкавання ў беларускіх часопісах выйшлі ў 2002 годзе ў серыі «Беларускі гістарычны раман» пад агульнай назвай «Альгердава дзіда». У гэтых раманах чытач зноў сустракаецца з залатой жрыцай Жывенай — мудрай, пастарэлай захавальніцай беларускага роду, і з яе нашчадкамі, а таксама са славутымі людзьмі беларускай гісторыі — Гедзімінам, Давыдам Гарадзенскім, Альгердам. Ажываюць паганскія багі, якія доўгія гады суіснавалі побач з нашымі продкамі: Пярун, Ярыла, Вялес, Дажджбог, Дзявоя, Стрыбог, Судзеніца, Жыжаль, Зюзя, Мара, Лада, Трасца, Лядашчык… Яркім і цікавым атрымаўся вобраз жраца Гедзіміна Ляздзейкі — ён зафіксаваны ў хроніках. Жрэц, прадказальнік, якому адкрыта будучае і які часта пераўзыходзіць валадароў сілай духу, — увогуле ўлюбёныя вобразы пісьменніцы. Аднак яе найбольш прыцягваюць постаці магутных ваяроў, якія абаранялі сваю радзіму ад ворагаў. Завяршаючы трылогію перамогай Альгерда над татарамі, апавядаючы пра стасункі ВКЛ з Масквой, аўтар сцвярджае думку, што дзяржавай павінен кіраваць чалавек, надзелены высокім інтэлектам, разумны, прадбачлівы палітык і гаспадар, абаронца свайго народа, волі і незалежнасці краіны. І народ, і валадары павінны не толькі памятаць сваю гісторыю, кіравацца яе ўрокамі, але і захоўваць сваю адметнасць у свеце, мову, культуру, нацыянальныя сімвалы, лепшыя традыцыі і вераванні продкаў. Высокай паэтычнай мовай выказвае пісьменніца сваё разуменне народа: «Народ — гэта як грыбніца, у якой схаванае мінулае і будучае, і нават калі сёлета гарачыня і бездажджоўе і няма нідзе ні каліва, то на наступны год усё роўна вытыркаецца там ці тут грыбок, варта толькі пырснуць дажджу, пасланніку Перуна, нябеснага Грамоўніка. На грыбніцы напісаныя нейкімі невядомымі нам літарамі маланкі — вогненныя і чорныя, асляпляльныя і зусім непрыкметныя, як зараніцы. Запісаныя і грымоты, і шалясценне травы, і драцінкі, што ўтыкае раніцай у зямлю Дажджбог. І страсць, з якою рвецца ў Існаванне ўсё жывое, аплодненае Вялесам.

А ўладар? Струмень вады, які выкідае ў свет жарало крыніцы. І ніколі не ведаеш, чаму — ён, а не іншы…»

Працягам трылогіі, у якой храналагічна паслядоўна дзейнічаюць стваральнікі і вялікія князі ВКЛ — Міндоўг, Гедзімін, Альгерд, — з'яўляюцца новыя і пакуль апошнія па часе творы Вольгі Іпатавай — аповесць «Апошнія ахвяры свяшчэннага дуба» (2006) і раман «Знак Вялікага магістра» (2009). Як бы працягваючы сваю трылогію, у аповесці пісьменніца паказвае часы «позняга Альгерда», калі на змену афіцыйнаму язычніцтву прыходзіла хрысціянства. Прыходзіла праз непаразуменні, пакуты, змаганне. Тры постаці Кумец, Круглец і Няжыла, якія пазней былі кананізаваныя праваслаўнай царквой як святыя, нібыта замацавалі ў народнай свядомасці перавагу новага веравызнання. Свежа, ярка і вобразна, па-мастацку пераканаўча вырашае пісьменніца няпростыя гістарычныя калізіі, пазбягаючы саладжавасці ў апісанні хрысціянскіх пакутнікаў, што часамі пераважае ў кнігах жыцій святых. Гэта перш за ўсё мастацкі твор, і нездарма аповесць «Апошнія ахвяры свяшчэннага дуба» атрымала прэмію «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» (2008).

Раман «Знак Вялікага магістра» прысвечаны славутай бітве пад Грунвальдам 1410 года, калі аб'яднаныя сілы беларусаў, палякаў і літоўцаў ушчэнт разбілі самую магутную ваенную дзяржаву Еўропы — нямецкі Ордэн. Паездка ў 2000 годзе ў складзе сотні пісьменнікаў Еўропы («Літаратурны экспрэс — 2000») скрозь адзінаццаць краін дазволіла Вользе Іпатавай пабыць у Мальбарку, былой сталіцы крыжакоў. Па ейным прызнанні, цэлы дзень яна правяла ў замку, які і сёння ўражвае сваёй магутнасцю, а ў XIV–XV стагоддзях быў самай велічнай цытадэллю Еўропы. «Імя майго роднага Міра ўпершыню ўзгадваецца ў сувязі з тым, што ў 1395 годзе ён быў разбураны войскам магістра Конрада фон Юнгінгена, — расказвае яна, — і я стаяла перад яго бронзавай постаццю ў Мальбарку са зларадная думкай, што там, на Грунвальдскім полі, яму было адпомшчана за ўсё, уключаючы і знішчаны агнём Мір. Тады ж да мяне прыйшла, як нейкі магутны штуршок, карціна бітвы — і я там жа, у Мальбарку, прысеўшы на лаву, накідала першую старонку свайго будучага рамана…» У гэтым рамане дзейнічае сын Альгерда Ягайла і ягоны славуты сапернік Вітаўт. Гэта — працяг у часе своеасаблівай хронікі беларускіх уладароў і беларускай гісторыі. Калі аб'яднаць больш раннія гістарычныя раманы і аповесці Іпатавай і яе апошнія па часе раманы і аповесць, то разам яны складуць сапраўдную мастацкую панараму гісторыі Беларусі — ад X па XVI стагоддзе. Пакуль што ніхто з беларускіх пісьменнікаў, якія пісалі ці сёння пішуць на гістарычную тэму, яе не пераўзышоў. Тут дарэчы ўзгадаць і яшчэ адну яе кнігу «Паміж Масквой і Варшавай», што выйшла ў 1996 годзе на беларускай і нямецкай мовах і якую сёння шырока выкарыстоўваюць экскурсаводы і работнікі турыстычных агенцтваў у сваёй працы, бо яе сціслыя, але змястоўныя і насычаныя цікавай інфармацыяй гістарыч-

ныя нарысы пра беларускія гарады даюць мноства цікавых звестак пра нашу зямлю і яе мінулае.

У 2006 годзе Вольга Іпатава здзейсніла яшчэ адну сваю мару: разам з мужам Ягорам Фядзюшыным яна аб'ехала пятнаццаць раёнаў Беларусі, наведваючы помнікі і магілы нашых землякоў, якія аддалі свае жыцці, змагаючыся за свабоду. Разам з грамадскімі актывістамі яна арганізоўвала мітынгі і літаратурныя чытанні каля гэтых памятных мясцін, спрыяючы таму, каб яны былі добраўпарадкаваныя, бо часам мясцовыя людзі мала ведалі пра сваіх славутых папярэднікаў. Вынікам гэтых паездак, якія патрабавалі нямала сіл і энергіі пісьменніцы, стала кніга «Свабода да апошняга дыхання», куды ўвайшлі аповеды пра Фелікса Тапчэўскага, Ігната Буйніцкага, Язэпа Драздовіча, братоў Луцкевічаў, Тэадора Нарбута, Кастуся Каліноўскага, Уладзіслава Дыбоўскага, Міхася Васілька і многіх іншых. Увайшлі ў кнігу і апісанне магіл слынных беларусаў на знакамітых віленскіх могілках Росу, а таксама пахаванні беларусаў у Канадзе.

Пісьменніца вельмі шкадуе, што зробленыя ёю ўнікальныя тэлевізійныя перадачы пра славутых беларусаў Амерыкі, многія з якіх ужо таксама сышлі з гэтага свету, знішчаныя на Беларускім тэлебачанні па загаду кіраўнікоў, раўнадушных, а то і варожых да нацыянальнай культуры.

Сёння ні на Беларускім тэлебачанні, ні ў Оперным тэатры Беларусі таксама нельга пабачыць і іншыя яе працы — ні тэлевізійны мініспектакль «Давыд Гарадзенскі» (рэжысёр Надзея Гаркунова), ні оперу «Князь Наваградскі», лібрэта да якой напісала Вольга Іпатава паводле п'есы Л. Пракопчыка (кампазітар А. Бандарэнка). Але паказальна, што ў адной са шматлікіх рэцэнзій на оперу ўпершыню ўзгадалі імя таленавітай беларускай паэтэсы Наталлі Арсенневай, якая напісала некалькі лібрэта гістарычных опер. Такім чынам Вольга Іпатава як лібрэтыст працягвала плённыя традыцыі, пачатыя папярэднікамі ў гэтым жанры.

У 1995 годзе пісьменніца была абрана Ганаровым акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук «Еўразія», якая аб'ядноўвае вучоных, грамадскіх дзеячаў больш за 30 краін свету. Яна ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалём Ф. Скарыны і граматамі Вярхоўнага Савета Беларусі і Кіргізіі, з'яўляецца лаўрэатам прэміі імя Барыса Кіта (яе славутага земляка, якому яна прысвяціла нізку вершаў), а таксама прэмій імя М. Ганька і М. Матусоўскага. На самым пачатку 90-х гадоў Вольгу Іпатаву поруч з многімі беларускімі творцамі назвалі прадвесніцай нацыянальнага Адраджэння. Рыгор Барадулін трапна вызначыў яе пазіцыю: «Княгіня Вольга ў княстве духу беларускага» (газета «Добры вечар». 1995. 10 студзеня). Гэтая пазіцыя пісьменніцы — актыўнага нацыянальнага дзеяча — яскрава акрэсліваецца ва ўсёй яе творчасці і асабліва ў публіцыстыцы апошняга часу. Кніга яе публіцыстычных артыкулаў, падрыхтаваная да друку, пакуль чакае свайго выдання, але ўсе гэтыя артыкулы друкаваліся ў газетах і часопісах і паказваюць

высокі ўзровень яе публіцыстычнага майстэрства і духоўную спеласць творцы, яе мужнасць і выключную сумленнасць.

За апошняе дзесяцігоддзе яна стварыла таксама цыкл лекцый па беларускай міфалогіі, з якімі выступала ў Гродзенскім педагагічным універсітэце і Беларускім універсітэце культуры, удзельнічала ў дзесяці міжнародных канферэнцыях — у Беластоку, Празе, Маскве і Мінску. Брала актыўны ўдзел у Днях беларускай культуры ў Маскве і Карэліі, у навукова-творчай экспедыцыі «Шлях да святыняў — 2001».

Кнігі, паасобныя апавяданні і артыкулы Вольгі Іпатавай перакладзены на 23 мовы свету, у тым ліку на англійскую, нямецкую, шведскую, польскую, чэшскую, хіндзі. Некаторыя яе вершы («Сыну», «Аэліта», «Двое», «Нёманская сінь») сталі песнямі. Па яе кнізе вершаў «Задарожжа» (2004) настаўніца і пісьменніца з Вілейкі Зінаіда Крупская стварыла песенны цыкл, а «Балада пра Купалу», створаная З. Крупскай у супрацоўніцтве з М. Ермаковічам і С. Скаражонкам, гучала ў культурна-грамадскім цэнтры Згуртавання беларусаў Канады (Таронта).

У творчай майстэрні пісьменніцы — накіды пра каралеву-беларуску Соф'ю Гальшанскую і сыноў Ягайлы, пра дзеянне Крэўскай уніі і яе наступстваў для Вялікага Княства Літоўскага, пра апошняга караля Рэчы Паспалітай родам з Брэстчыны. Калі з вышыні сённяшняга дня агледзець здзейсненае Вольгай Іпатавай, то выразна акрэсліваецца нацыянальна-патрыятычная праблематыка яе творчасці, дзе няма ніякай даніны ідэалагічным установкам савецкага часу. Жыццё глыбіннай Беларусі, яе простых людзей, якія заўсёды жылі нялёгка, але кіраваліся агульначалавечымі, агульнахрысціянскімі законамі, не выракліся сваіх адвечных традыцый, выпрацаваных бацькамі і дзядамі, — менавіта з гэтых высокадухоўных пазіцый зыходзіць пісьменніца, раскрываючы ў сваіх творах сучаснае і далёкае мінулае Бацькаўшчыны, упершыню звяртаючыся да многіх не асветленых у літаратуры тэм, вобразаў, падзей айчыннай гісторыі. Яе гістарычныя раманы вяртаюць нам памяць, гонар і годнасць, выхоўваюць беларускіх патрыётаў на прыкладах жыцця і дзейнасці нашых славутых продкаў — герояў, святых — людзей, што тварылі нацыянальную гісторыю, якой можа ганарыцца любая еўрапейская краіна.

Заўсёдны неспакой, роздум, пошук, боль, святло, сумненні, захопленасць, пяшчота і гарачая любоў да Радзімы — вось тое, з чаго вылеплена душа паэтэсы, празаіка, грамадскага дзеяча Вольгі Іпатавай.

*Лідзія Савік*



* * *

Глядзім мы рэдка ў сэрца глыбіню,
Гаворым мала ўсё ж аб самым блізкім.
Радзіма! Стаў табой упершыню
Дзіцячы дом — майго жыцця калыска.

Да скону дзён забыць я не магу
Руінаў дым, натоўп па хлеб уночы
І крык: «Дзетдому ў першую чаргу!» —
Хоць у людзей гарэлі смуткам вочы…

## МАІМ АДНАГОДКАМ

Не ўсё нам у свеце вядома,
Мы ж дзеці гісторыі, творцы.
Сябры і сяброўкі з дзетдома!
Гэта пра нас гаворыцца!

Вы помніце? У інтэрнаце
У цёплыя сны дзіцячыя
Прыходзілі нашыя маці,
Якіх мы ніколі не бачылі.

Замучаныя — з канцлагераў,
З магіл уставалі брацкіх,
У сне нас пяшчотна лашчылі
І ў небыт вярталіся раніцай.

* * *

Вечар чырвоным абрусам
На памытай падлозе гарыць.
«Ах, веюць над Беларуссю,
Веюць злыя вятры».

Кладуцца словы гаротныя
На сэрца далёкай бядой.
Колькі майму народу,
Столькі і песні гадоў.

Васількі мы ў песні ўпляталі
І ў слуцкія паясы.
Цяпер бабуля спявае
І гладзіць мае валасы.

І за ёй паўтараю
Замову часоў старых:
«О, хай над табой, мой краю,
Добрыя веюць вятры!»

* * *

О Аэліта, ты мая саперніца.
Калісьці, абагнаўшы часу бег,
Каханы мой дадому з Марса вернецца,
Адчайна засумуе па табе.

Сцюдзёна вусны мне апаліць студзень,
Загарам шчокі жнівень апячэ,
А ён у сне гадамі бачыць будзе,
Нібыта казку, сінь тваіх вачэй.

А я ў расстанні смутак свой стрымаю,
Тугой касою рукі абаўю.
Пакіне дом наш песня незямная,
Што марсіянкі па начах пяюць.

І ўсё ж аднойчы з далечы вялікай,
Мне сэрца працінаючы наскрозь,

Раздасца раптам голас Аэліты,
І, пабялелы, страпянецца Лось…

* * *

Здаецца, такая кволая
Рука ў маленькай жанчыны,
А вось змясціла адразу
Дзве ножкі ружовыя сына.

І ўсё ж забываюць многія,
Пакідаючы сем’яў улонні,
Першы свой старт жыццёвы —
Маміны далоні…

## ЛІЛІТ

Не Ева — Ліліт была першай
Жанчынай і жонкай Адама.
Яна для каханага вершы
І нават паэмы складала.

А вечарам, як стамляўся
Жвавы агонь у пячоры,
Доўга, бывала, не ляжа —
Глядзіць і глядзіць на зоры.

І што зусім абурала
Адама, адзінага сведку, —
На свежых гаршках малявала
Агністыя райскія кветкі.

«Нашто табе кветкі тыя?
Ад кветак гаршкі не мацнеюць!»
Адкіне кудзеркі густыя:
«А людзі ад іх разумнеюць!»

Быў першы развод не гучны…
Бог шкадаваў мужчыну:

Сам ляпіў, як падручны,
З ягоных рэбраў жанчыну.

Ева была пакорай —
У простых гаршках варыла,
Дзяцей гадавала, пра зоры
Ніколі не гаварыла.

А толькі Адам начамі
Хадзіў блукаць у тых далях,
Дзе песні Ліліт гучалі,
Гойдаўся човен на хвалях.

Па сёння яму ўсё сніцца
То росны слядок, то спевы.
Па сёння Адам мітусіцца
Паміж Ліліт
і Евай…

## БАЛАДА ПРА ЛІЛЕЮ

У краі азёрным,
Дзе чэрвень духмяны
Абсыпаў суніцамі
Бор і паляны,

А дзеўчыны ў Нёман
Кідаюць вяночкі,
Расла я у бацькі
Адзінаю дочкай.

Казалі ўсе: «Рэчка
Плыве, не мялее,
Няма за цябе
Прыгажэйшай, Лілея.

Ды толькі і рэчку
Затопчуць, замуцяць,
Паны, як убачаць —
Загубяць, закруцяць».

Касу завязала
Істужкаю сіняй.

Сама ўпадабала
Ды панскага сына.

Ох, чэрвень ты, чэрвень,
Бяссонныя ночы!
Ад любага бегчы б,
Ды сэрца не хоча…

«Наш род каралеўскія
Меў прывілеі!
Пакінь майго сына,
Ты чуеш, Лілея?»

«Мой любы, твой бацька
Кляне і шалее…» —
«Чакай мяне сёння
Пад вечар, Лілея?»

Стаяла, чакала,
А сэрцам ляцела,
Нібы ўпершыню
На свет божы глядзела.

Спускаўся над долам
Задумлівы вечар.
А хто папіхнуў
Мяне ззаду у плечы?

У вір паляцела
І быццам растала…
Бялюткаю кветкай
На рэчцы я стала…

Як доўга кашуля
Пад дубам бялее,
Як доўга твой крык:
«Адгукніся, Лілея!»

За слова адно —
Ўсё, што маю і мела!
Ды я анямела,
Ды я анямела…

Праходзяць стагоддзі,
І рэчка мялее,

Я ж чую адно:
«Адгукніся, Лілея!»

## СЛОВА ПРА МАЦІ

Матуля, цябе не помню я —
Ні ласкі тваёй, ні жалю…
Смяецца з магільнага помніка
Жанчына чужая…

Ды кажуць бабы вясковыя:
«Аблічча ў аблічча!»
Можа, не выпадкова мяне
Марусяю клічуць?

Мне маладзік падковаю
Вісіць над сцежкай.
Можа, не выпадкова я
Жыву з усмешкай?

Ці ж я без племені?
Свой сум хаваю.
Ў жанчыне кожнай
Цябе адкрываю.

Можа, не выпадкова мне
Здаецца прадвеснем
Песенька жаўруковая
Тваёй песняй?

*

Мы сталі з табой равесніцы.
Адной і далей мне жыць.
Цяпер ужо стукнуць вясніцы,
А сэрца не задрыжыць.

Нарэшце яно паверыла,
Што з цёмнай тае начы,
Любая, ты не вернешся —
Крычы на ўвесь свет — не крычы.

Даўно, як мяне насіла
І светлага лёсу прасіла:

«Хай будзе дачка прыгожай,
Чыстаю, як крынічка,
Хай знойдзе хлапца харошага
Малая мая сунічка».

Адвечныя матак замовы!
І я гавару тыя словы,
І аднаго баюся — адзін
Сіратой каб не вырас мой сын.

Я сама расла сіратой.
Тэлеграфны завулак. Гродна.
І дзяўчат гаманлівы строй,
Не адразу мне стаўшы родным.

Я там доўга была дзічком,
Сярод белых качак — сініцай.
Кволым, тоненькім кулачком
Ад напасцяў хацела адбіцца.

У салёных слязах, адна,
Дрыжучы, як стрэлкі на шкалах,
Колькі сонных начэй да відна
Маці я з небыцця гукала!

І, напэўна, ўжо з тых часоў,
Жывучы па дзетдомаўскай мерцы,
Боль надзей і гаркоту слоў
Адкладаю глыбока ў сэрцы.

*

Не маглі адагнаць нас ад вокнаў,
Хаця кожны ў даўцы войкаў.
Навіна сапраўды была дзіўнай:
Адшукалася маці ў Дзімкі.

Кожны ведаў — ў дзетдоме сакрэтаў няма,
Што прынесла яго нам на ганак зіма,
Ў шыбу грукнуўшы, знікла ўначы назаўжды,
І імгненна змяла завіруха сляды…

…Цыбаты хлапчук з падрапаным носам —
Сцеражыце, дзяўчаткі, хвосцікі-коскі!
Быў наш Дзімка занадта ў школе вядомы.
Гаварылі ўсе: «Ведама, хлопец з дзетдома!»

Толькі нехта падслухаў з нас нечакана,
Як, пакрыўджаны, ціха ўсхліпваў ён: «Мама!»

Мамы, мамы… Упомніць пра вас было грэшна.
— Гэй ты, румза! — крычалі сяброўкі з насмешкай.
І ўсё ж па начах, у бяздоннай цішы,
Кожны гэтым грашыў.

Насмешнікі і задзіры,
Ішлі мы цераз гады
І марылі, як аб дзіве,
Што прыйдуць маці сюды.

Што сотні дарог яны пройдуць,
Паўстануць хоць з небыцця,
Толькі тая не вернецца,
Што кінула ноччу дзіця.

…А яна вось прыйшла да сябе яго зваць.
Дрыжучы, спрабавала пацалаваць.
Гаварыла — цяпер адна.
Той, даўнішні, цяпер пакінуў.

Гаварыла, што ў горкіх снах
Трызніла аб маленькім сыне.
Што хацелася шчасця тады,
Ў маладыя дурныя гады.

…Мы таілі дыханне за шклом,
Мы судзілі істотай адзінай
З бескампрамісным дзіцячым злом
За сябе, а потым за Дзімку.

Віншавалі яго і сябе
Мы пасля: «Вось як трэба трымацца!»
Толькі ён праз нядзелю збег,
Напісаўшы: «Еду да маці».

…Тою ноччу дзетдом не спаў.
Мы рашалі няўмольна і строга,

Што ніхто нам права не даў
У жыцці вырашаць за другога.

*

Ленка, можа, не ўспамінаць?
Толькі нельга не ўспомніць гэта:
Што зрабіла з маці тваёй вайна,
Чорным дротам спавітае гета?

Хто над ёй медыцынай грашыў —
«Хіба людзі яўрэйкі розныя?»
Чорным дротам вайна на душы.
Чорным дротам яна па розуму.

Толькі сэрца ў яе не закуць.
І прыходзячы ў свядомасць,
Аднаго прасіла: «Дачку!»
І цябе забіралі з дзетдома.

На гадзіну ўсяго. Без паперкі.
І сачылі маўкліва дзеці,
Як вярталася ты з цукеркай,
Што яна даставала недзе;

І, напэўна, ужо тады
Цераз гурбаў жыццёвых снежнасць
Я панесла з сабой праз гады
Мацярынскай любові бязмежнасць.

*

Я панесла з сабой у гады
Сум — тугі і няўмольны — па маці.
Прагу — быццам глытка вады —
Кволых цёплых ручак дзіцяці.

Каб аддаць яму я магла
Ўсё, па чым сама сумавала.
Каб хапала яму цяпла,
Бо ў мяне было яго мала.

Каб нашчадкі мае назаўжды —
Мае дзеці і дзеці сына —
Праз свае пранеслі гады
Слова «маці», як «бацькаўшчына».

На зямлі сёння — слёзы і кроў.
Паўпланеты ў атамным брудзе.
Слову гэтаму біцца ў шторме вятроў,
Але хай яно
вечна
будзе!

## СЫНУ

Па зямлі, якою ты яшчэ не крочыш,
Наліліся зернем каласы.
Хай зямля мая хадзіць цябе навучыць,
Як мяне вучыла некалі, мой сын.

Роднай мовай, звонкай і пявучай,
Размаўляюць з рэчкамі лясы.
Хай зямля мая спяваць цябе навучыць,
Як мяне вучыла некалі, мой сын.

Медуніцай, што расце на кручах,
У дзяўчат прапахлі валасы.
Хай зямля мая любіць цябе навучыць,
Як мяне вучыла некалі, мой сын…

## ЗВАНЕЦ

Вячэрні луг з канца ў канец
Я слухаю:
Звініць званец, звініць званец
Са скрухаю.

Звініць званец — пара касіць.
Адвечна так…
А драч натужліва скрыпіць.
Каму, дзівак?

Чаму ж той луг, здалося мне,
Не скосіцца,
А гэта лета не міне,
Не скончыцца?

Звініць званец, звініць званец
Са скрухаю.
Вячэрні луг з канца ў канец
Я слухаю…

* * *

Як ускрык, як боль тваё імя.
Сціснуся, перавяду дыханне.
Ёсць на свеце справы, акрамя
Адбалелага даўно кахання!

Што ж, нібы жаўна, душу дзяўбе:
Ў свеце, дзе і так не надта шчасця,
Мы ўмудрыліся з табой сябе
Так, як толькі можна, абакрасці?

Развялі дарогі убакі.
Пад святлом іду маладзіковым.
Позна! Лёсу іншыя шыўкі,
Ды у коней сцёртыя падковы.

Зорны шлях схіліўся над ілбом.
Нешта адказаў мне — ці здалося?
Падразае залатым сярпом
Жнівень дні мае, нібы калоссе…

* * *

Так расступіўся прада мною свет,
Такія паказаў мне велічыні…
А мы з табой, раней было, лічылі,
Што адзіночкі мкнуцца да планет.

А мы з табою спасцігалі код
Жыцця, людскія лёсы паасобку.
Якім жа знакам светлым і высокім
Гадзін маіх цяпер пазначан ход!

Нібы луску, усю з сябе здыму
Слоў драбязу і дробных спраў паспешнасць.
Ты да мяне прыйшоў як непазбежнасць
Усіх знаходак, радасцяў і мук.

## АДАМ МІЦКЕВІЧ У ТУГАНАВІЧАХ

Туганавічы… Туга
Любові і прадчування!
Каштанавым цветам ранне
Стары асыпае курган.
Дапытліва маладосць
Удалеч глядзіць… Трывожна
Ад гэтай смугі прыдарожнай,
Дзе ціш працінае наскрозь.
Запал ліхаманіць кроў:
У словах паэтавых дзіўна
Адна і другая радзімы,
І першая ў іх любоў.
Туганавічы… Туга
Кахання яго і прадвесця!
Над тым, што чакае дзесьці,
У полі вячэрнім «ку-га!»
Разносіцца… І зямля,
Пакутная і нямая,
Бела-ружовым маем
У сны яго прыйдзе пасля!

* * *

Ад грымот дрыжалі аканіцы.
Ліпнуў брук — пякучая смала.
Што з таго, што будзе навальніца?
Ты ішоў.
　　　　І я к табе ішла.

Хмара, як бугрыстая пачвара,
На галовы гмахаў налягла.
Што з таго, што летам — град па твары?
Ты ішоў.
　　　　І я к табе ішла.

Нам прадвесцем стаўся гэты ліпень —
То пагода, то дажджыць імгла.
Што з таго, што розныя былі мы?
Ты ішоў.
　　　　І я к табе ішла!

## КАНІКУЛЫ Ў ЗАБЕЛЛІ

Такое новае маё вядро!
І дужыя каромысла абдымкі.
А я іду даўнейшым тым зазімкам
І запавольваю таропкі крок.
Крыніца сустракае між снягоў
І звонка б’ецца ў чысціню вядзерца.
Няўжо ісці дамоў мне давядзецца,
І толькі рэха крыкне наўздагон?
Ды напярэймы скрозь: «О-о, пачака-ай!»
Ужо бяжыць! А я — не азірнуцца,
Прайсці недатыкальнаю і гнуткай
І не адчуць, што шчасця — цераз край.
Так хутка нам сталелася з табой!
Чаму ж не пасталелася шчасліва,
Чаму набытак гэтакі тужлівы,
А набліжэнне сталася бядой?
Імкненне быць… А «быць» яшчэ няма.
Блішчыць прастора сонечнаю беллю…

Каханы мой! Журботна нездарма
І незгасальна помніцца Забелле…

## АПОЎНАЧЫ

На бераг Нёмана прыйду апоўначы
І, кінуўшы адзенне на траву,
Свабодная, мінулага не помнячы,
Вадой празрыста-цёмнай паплыву.
Імгненнай плынню сцягнены, схаваецца
Зямлі прасцяг, і знікнуць берагі…
Узнікне боль… Няхай не развітаецца
Душа з тваім абліччам дарагім!

Бо не крыніца, што спякотай выпіта,
Бо не святло, што гасне пры начы,
Бо мне аднойчы ўжо на долю выпала
Згубіць ад шчасця звонкія ключы…

* * *

Мой незвычайны горад, дзе была
Такою я шчаслівай — і няшчаснай!
Навошта ад цябе тады ўцякла?
Не уцячы ж нам ад душы уласнай!

Пад ноч, калі вясеннія кусты,
Ажыўшы, заварушацца пад снегам,
І ахіне крысом туман густы,
І блізкім-блізкім стане раптам неба,

Цябе я ўспамінаю… Назаўжды
Я буду там хадзіць па вулках струнных
І ў ціхай плыні нёманскай вады
Яшчэ не раз знайду свой воблік юны.

Прыехала… Стаю ў тваёй начы…
Нікога на аўтобусным прыпынку,
Адно лятуць каштаны, як мячы,
І ліхтары высвечваюць іх спінкі.

Саслізгваюць хвіліны, нібы ртуць,
Гамоніць вуліца пра нешта ціха…
І толькі дываны нязмоўчна ткуць
На трэцяй змене рупныя ткачыхі…

## БРАСЛАЎ

Чайкі — кожная астраўком
На пранізліва-сініх хвалях —
З хвойным чысценькім гарадком
Нечакана мяне з'ядналі.

Міжазёрны круты прастор.
Гарадзішча — тугое прасла.
Я сышла ў нараджэнне не з зор,
Я была і тваёю, Браслаў!

Мо адтуль трапятанне крыла
У руцэ маёй, пальцах гнуткіх,
Як сцярожка у высі плыла
Камячком трывожна-бялюткім?

І сяляне па косы ішлі,
Выціраючы рукі націнай…
Першы раз на тваёй зямлі
Я — спрадвечнай тваёй часцінай…

## ЗАЛАТОЕ РУНО

У тым вечна зялёным краі
Нават вецер салёны — лізні!
На дасвецці ў моры згараюць
Дзіўна зваблівыя агні.
Неўміруча пяюць сірэны…
Праз салодкі бачыцца сон:
Адпраўляецца зноў — нязменна! —
За руном залатым Ясон.
У Ясона тваё аблічча…
О, я ведаю — далячынь
Несціхана мужчыну кліча

Ад найлюбых яго жанчын.
Разабрацца. Знайсці прычыну.
Невядомага вынайсці знак
І вярнуцца ізноў да жанчыны
Пераможцам. І толькі так.
Ды ў легендах сівой завеяй
Ёсць яшчэ адна даўніна:
Як пракляццем лягло на Медэю
Злое ззянне таго руна…

* * *

«Не ўвойдзеш двойчы у адну раку» —
Засвойвалі мы, школьнікі, калісьці.
І, залатым абсыпаная лісцем,
Стаю цяпер я на другім баку.

А сінява ля ног плыве наўсцяж.
Няўжо мне не адолець гэтай хвалі?
Дужэйшымі і рукі мае сталі,
І мудрасці крыху ўзяла ў жыцця.

Ды не! Не ўвойдзеш у адну раку,
Не вернешся ў праменнае Калісьці!
І, залатым абсыпаная лісцем,
Стаю цяпер я на другім баку…

* * *

Разлука ўдзень нібыта спіць.
Але штораз пры сне
Арліцай хіжай прыляціць
На ложак да мяне.

Па паліроўцы зарыпяць
Сухія кіпцюры,
І абаім ізноў маўчаць
Да самае зары…

## У БАТАНІЧНЫМ САДЗЕ

Зайздрошчу вам, каханыя, якім,
Патворлівыя станам і абліччам,
Імёны вашы ўзнёсшы на вякі,
Квітнеюць ружы ў садзе Батанічным!

Благаслаўляю тых, чыёй красы
Праменны цуд натхняў, а не калечыў!
…Капа лістоты — быццам валасы,
Што завіткамі падалі на плечы…

Смяюся без патрэбы і прычын,
Забытая завеямі і сцюжай,
Па садзе тым гуляючы, дзе ружы
Прасветлены імёнамі жанчын!

## АДНОЙЧЫ

Мне жыць не захацелася аднойчы.
На мосце — плямы сініх ліхтароў.
Унізе плёскаўся халодны змрок,
Дзень не пачаў яшчэ змагацца з ноччу,
Яшчэ з адною ноччу, дзе не будзе
Твайго цяпла… Увесь цудоўны свет
Мне засланіў адзіны чалавек.
О, гэта немагчымасць быць, дзе людзі,
Дзе ў кожнага ўглядаешся — не ён!
Дзе я адна, як на чужым надворку!
Вільготнае асенняе надвор'е
Было такім халодным, як неон.
Блішчаў асфальт, раўнюткі, нібы шкло.
Было вакол пустэльна так і дзіка!
І я ішла адна, як Эўрыдзіка,
Але са мной Арфея не было…
Мне жыць не захацелася аднойчы,
Ды дзень якраз пачаў змагацца з ноччу…

## ПОЛАЦКАЙ САФІІ

Чую звон твой, Сафія, чую
Скрозь стагоддзі і скрозь муры
У бяскрайнюю ноч глухую
І пад час світальнай зары!
Паімкне парой на палёгку,
Адарвуся ад роднай зямлі —
Ціха звон ударыць далёкі,
Сэрца водгукам забаліць.
Не ўзбунтуюся — а нашто мне
Працінаць і ўзносіць душу?
Што забыта — усё успомню.
Нежывое — уваскрашу.
Хай баляць мне, баляць, Сафія,
Дзіды тыя усе і мячы,
Што трымалі ў грудзі тугія,
Не скараючыся, крывічы!
Чую звон твой, Сафія, чую!
Аднаго прашу — не маўчы,
Дай мне моцы ў поўнач глухую,
Сваёй мудрасці навучы…

## ДА ДНЯ ЎТВАРЭННЯ БНР
*Дыпціх*

### 1

Веру я: крыніцаю праб’ецца
Праўда аб народзе і зямлі,
І у кожнае увойдуць сэрца
Нашы ваяры і каралі.

Нашыя прадвеснікі, святыя…
…Тыя, хто праз зло і недавер
Быццам горы перайшоў крутыя, —
Абвясцілі колісь БНР…

2

Над краем змучаным вайна гула.
Але краёчкам сонечна ўставала
Падзея, што ўсе сэрцы саграваала:
Абвешчана Рэспубліка была.

Той сакавік ахутвала імгла.
Яго хавалі ад усіх спецхраны.
Яшчэ дасюль смылеюць тыя раны…
Але Яна — абвешчана была!

## «ЗНАКІ ЗАДЫЯКА» ЧУРЛЁНІСА

Бесклапотнасцю, злом, адвагай
Пакаленні на спад сышлі.
На блакітных сузор'евых вагах
Вырашаецца лёс Зямлі.
Над налітаю стомаю пожняй
Пераліўся праменны Марс.
Кіньце жэрабя: быць апошнім
Выпадае камусьці з нас.
Напаўняючы акіяны,
Хлыне кроў. Дарагі наш мір!
На Купалле ўзыходзіць рана
Ў сэрца раненая Чагір*.
І пакоціцца колам сонца,
І пакажа паганскі знак.
Ты трывож нас, трывож, бясконцы,
Неспасцігнуты задыяк!
Твае Вагі — на ўсе рамёны,
І на ўсіх твая абалонь.
І на вогненныя пісьмёны
Пакладзецца мая далонь…

* Чагір — старажытная назва зоркі Венеры.

## ТОЙ ДЗЕНЬ

З табой упоравень кашу
Ячмень, ужо васковы.
І вёдры поўныя нашу
Для лазенькі вясковай.

Прылазнік вузенькі прапах
Распаранай бярозай,
І атулілі дымны дах
Галінкі вербалозу.

Бліжэй душою, як калі,
Мы ў гэтых ціхіх нетрах.
Агонь у грубцы запалі!
Я ж — атулю ад ветру.

Нам гаспадарыць удваіх
Нязвыкла, ды так згодна.
І дотык цёплых рук тваіх —
Нібы адвеку — родны.

Шапоча на двары лісцё,
І дзень складае крылы,
Адзін з тых дзён, што нам жыццё
Так шчодра падарыла…

## ХУТАР

Уздымаецца неба імкліва.
Дождж прайшоў — быў настырны, як зяць.
Ацяжэлыя ціхія слівы
Адрачона па садзе стаяць.

Да ад’езду машына гатова.
Падсыхае да Мінска шаша.
У цішы нараджаецца слова
Аб усім, што тут мела душа.

А было — састарэлая хата
Ды навокал — палі і палі.

І — усход. На паўнеба, як свята.
Блізка так, як нідзе на Зямлі…

* * *

Я так хацела цябе прыручыць —
Арла пасадзіць у клетку.
Ну, толькі хвіліну яшчэ памаўчы.
Пастой. І прыходзь хоць зрэдку.

Я ведаю, спеліцца сонцам час.
Такімі, як іншыя, — будзем!
І ўсё-ткі бунтую каторы раз,
І ўсё-ткі — што скажуць людзі?

Прымі раздваенне маё і даруй
Каханне маё без меры.
Здзіраю адчай з сябе — з дрэва кару.
Ідзі…
            Адчынены дзверы.

## СОН

З маім нядрэмным, неад'емным «я»,
Пакуль сама я спала на абрыве,
На мове сон-травы і салаўя
Жаўтлявыя пялёсткі гаварылі.
І гэтых слоў ці знакаў у вачах
Мільгалі каляровыя чародкі,
Ўшчувалі, што мяняюся. Падчас
І запаветы забываю продкаў,
Што чыстых іх пазбылася крыніц…
Але аспрэчвала мая трывога,
Што непасільны подзвіг дабрыні,
Што я адна, а бліжніх — надта многа,
Ды і жыву амаль што як усе
У горадзе, вялізна-раўнадушным,
І ці мая віна, што пакрысе
Свет замыкаецца акружжам скрушным,

І ці мая віна, што зноў і зноў
Мне набліжэнне бліжняга — апёкам?
А вецер лёгка тыцкаўся мне ў шчокі
Лабастымі галоўкамі званкоў…

## НА ВОЗЕРЫ ДОЎГІМ

На возеры Доўгім пад вечар здаўжэлыя цені
Гайдаюцца лёгка, як пругкі чарот і аер,
Як дзікія качкі, што доўга і цяжка ляцелі,
Каб песняй кахання свабодна ускрыкваць цяпер.

На возеры Доўгім здзічэлым стагоддзям не цесна:
І следу няма, хто ўглядаўся ў падводную глыб,
Хто лашчыў у хвалях свавольных калісьці тут цела,
Хто прагнуў спазнаць цябе — толькі ж спачыў каля рыб.

Схілюся смірэнна над люстрам тваім таямнічым.
Я тут усяго аблачынка, якая праз міг растае.
І ціха — так ціха, што чутна, як кліча
Душу маю хтосьці — мо Той, хто дароўваў яе?

Хвала, хто цябе бараніў і зрабіў запаведным
Твой сіні закон, і жывому навокал хвала.
Вось вёсачка толькі — стаяла на беразе гэтым,
Ды ўслед за дваццатым стагоддзем у Вечнасць сплыла.

Я цені заспела яшчэ і далёкія песні,
І дотык людскі памятае яшчэ азярод.
І гэтак тужліва, што вёска ужо не ўваскрэсне,
І гэтак жахліва, калі не ўваскрэсне народ…

## НА РАДЗІМЕ МІХАСЯ ВАСІЛЬКА

Ціха крочу вёскай небагатай.
Я не ведаю, чыя віна,
Што на месцы Васількавай хаты
Пырнік, ды палын, ды бузіна.

Моўчкі галаву сваю схіляю
Тут, каля ўтравелага двара.
Бачу: з хаты блізкай выглядае
Васілька старэнькая сястра.

Быццам Памяць у хусцінцы белай,
Што і за само жыццё даўжэй,
Села ля ваконца, скамянела —
Нібы тыя вербы сцеражэ,

Што лісцінкаю шапталі кожнай
Пра народ, пра здзекі і прымус…
Не, не лішняе на ўласнай пожні
Сёння тваё слова, беларус!

Гэта слова ад сцяжынкі мілай,
Ад людзей, якіх душой любіў,
Ён прынёс, не ўзважваючы сілы,—
Не узважваў, бо паэтам быў.

Не са званнем, не лаўрэатам
З тыражамі, лаўравым вянком,
А застаўся ён радком крылатым
І на роднай ніве — васільком.

*1985*

* * *

Ні радні, ні кутка дарагога,
Дзе б магла калі ціха пажыць…
Во й бабуля ласкавая Вольга
На пагосце вясковым ляжыць.

Па-над ёю — бяроза старая,
Даўні крыж са збуцвелым вянком.
І спакойнае сонца згарае
Над зляжалым дарожным пяском.

Я машыну далёка пакіну:
Не парушыць бы тут цішыню.
І вясковую нашу радзіну
Хоць цяпер, хоць адна памяну.

Папрацую пасля да знямогі,
Прапалю адзічэлы быльнёг.
І сцяжыну да самай дарогі
Пратапчу ад бабуліных ног.

*1986*

* * *

Нібы пуховаю хусцінай
Вандроўніка сярод снягоў —
Пяшчотай ахінаю сына,
Дыханне слухаю яго.

Як спіць ён бесклапотна ўночы…
Яму праз месяц, два ці пяць
Армейскаю дарогай крочыць,
Прысягу першую прымаць.

Над тварам гэтым, светла-мілым,
Бялюткай пасмай валасоў
Другія гаспадараць сілы
І час адточвае лязо!

Гляджу задумліва-гаротна
На край адвечных курганоў.
Калі ж для хат і ніваў родных
Мы станем гадаваць сыноў?

Нас не паставіць на калені —
Хай рвуцца, зблізку ці здаля.
…Што майго сына пакаленню
Рыхтуе гэты раз Зямля?

*1986*

* * *

Прыязджаў счарнелы, як скарынка,
Абдымаў калені у тузе…
Я адказвала адно: жарынкі
Перапалены. Даўно. Усе.

Не давалася размове шчырай,
Пасміхалася з чужой бяды.
Ах, няма больш жорсткай, чым жанчына —
Тая, што разлюбіць назаўжды!

Што халодны сустракае золак,
А ўначы глядзіць бяссонна ў столь.
…У якой пад сэрцам, як асколак,
Даўняй здрады, даўняй страты боль…

*1986*

* * *

Чым болей хочаш быць шчаслівым,
Тым менш жыццё табе дае.
Чакай, скарыся, будзь цярплівым,
І нечакана настае
У шэрані ці завірусе,
У мітульзе пустых гадоў
Хвіліна, што цябе прымусіць
Дагледжаны пакінуць дом,
Услед пайсці за бліскавіцай,
На ўсё забыцца, акрамя
Вады з бабулінай крыніцы,
Свайго уласнага імя…

## МІРСКАМУ ЗАМКУ

Распрамляе сагнутыя плечы,
Набіраючы сілы ў зары.
Вежы струнка паўсталі, як свечы,
Атуляючы цвержу ў Міры.

Іх запальвае сонейка ўранку —
Не задзьмулі б ліхія вятры!
Сем стагоддзяў віецца Міранка,
Аздабляючы цвержу ў Міры.

Завяшчалі нам спадчыну продкі:
Госць замежны, прыйдзі і замры!

Затрапеча душа, быццам плотка,
Адкрываючы цвержу ў Міры.

Час страшэнныя раны залечыць.
Ён зямлі маёй прыме дары,
Як надзею народа, у Вечнасць
Адпраўляючы цвержу ў Міры!

## ВІНДСЕРФІНГ

*Мужу Ягору*

Мне не ўтрымацца на дошчачцы кволай.
Лепш падымуся на ўзгорак — здаля
Буду глядзець, як, вандроўнік вясёлы,
Лёгка ляціш па планеце Зямля.

Як парушынка ў возера воку
Парус твой белы — цень аж на дне.
Вецер нясе твой віндсерфінг далёка,
Быццам забраць цябе хоча ў мяне.

О, не знікай, сінявокі Ягорыч!
Лёсу раптоўны і радасны дар.
З вуснаў сціраеш жыццёвую горыч.
Фізік і лірык, мудрэц і гусар.

О, не знікай! Закруціся ў сувоі
Часу — і ў гэтай хвіліне жыві!
Мы растварыліся ў леце абое
Бегам гарачай, шалёнай крыві!

Ў лёгкасці боскай нам не ўтрымацца.
«Я навучу! — ты гаворыш. — Пасля?»
Далеч. Спякота. Конікаў брацтва.
І прыцяжэння не мае Зямля…

## НА ЗЯМЛІ ТЭЎТОНАЎ

*Барысу Кіту*

На зямлі тэўтонаў — абярогам
Мова — незабытая ралля.
Чым бліжэй да вечнага парога,
Тым мілей бацькоўская зямля.

Колькі ўжо на вулачках зацішных,
Дзе прылізаны любы куток,
Выклікалі ў памяці вусцішна
Вы дзяцінства дарагі куток.

Засыпае лісце залатое
Вуліцу Карэліч, дзе калісь
Бацька дрэвы пасадзіў — на тое,
Каб яны да неба падраслі.

Каб бліжэй да сонца — і да долі,
Ад якой далёка беларус…
Сніцца Вам, я ведаю, да болю
Гэтых ніў засмужаных абрус.

Роўнай не было жыццё шашою.
Падсумоўка зробіцца пасля:
Чым чысцейшы чалавек душою,
Тым бліжэй бацькоўская зямля…

*1995, Карэлічы*

## НАСТАЎНІК

Доктар Кіт запальвае свечку ў Майнцкім саборы.
Заблудзілася рэха ў вышынях каменных прысад.
Змрочна біскупы з нішаў глядзяць. Можа, клікаў каторы
«На Усход, на язычнікаў» колькі стагоддзяў назад?

За высокім ілбом — таямнічыя формулы веку,
Што на Месяц узняў чалавечыя дзёрзкасць і тло.
Ззяе зорка над ім (ці анёл, што трымае апеку),
Ды не згледзець яе: нетутэйшае гэта святло.

Над жыццём і нябытам яна, і над лёсам вандроўным,
Над усім, што прайшло — дый сягоння жыве,
Над карэліцкім хлопчыкам, што выганяе карову
І бяжыць басанож па асенняй пякучай траве.

Ён запальвае свечку, і цемра ў куткі адступае.
Як асілак, у доўгім жыцці ён адужваў яе
Дзе як мог… А найбольш на радзіме, якая
Ачмурэлая прышлымі, толькі чужых прызнае.

Толькі не — ён вяртаецца ў сінія далі.
І выстуквае сэрца: яшчэ… чым змагу… памагчы…
Як усе, што ў чужыне душой не прапалі
(А сябры на радзіме прапалі у вечнай начы).

Дык запальвайце свечку, настаўнік, асветнік, вучоны…
Колькі год паміж намі калолася дротам сцяна.
Зараз разам ідзём — хай дарогаю гразкай і чорнай —
Ратаваць Беларусь. А яна ў нас, як доля, — адна…

*3 снежня 1993 г., Франкфурт-на-Майне*

* * *

*Васілю Мельяновічу*

Дождж грыбны абмыў званы на плоце
І цяпер па ганку шалясціць…
Яблыкі бялеюць у лістоце,
Белы бусел з вышыні глядзіць…

Рэчцы дадзены ўваскрэснуць шанец.
І па ёй, змялелай, ідучы,
Паляшук былы, амерыканец,
Джынсы аж па лыткі замачыў.

Ён ідзе з расхрыстанай кашуляй,
А душой нібы ў дзяцінстве знік…
«Тут казала некалі матуля,
Што ў віры зацягне Вадзянік.

А пасля я рос. Прыйшла навала,
І маланцы адгукнуўся гром.

І з зямлі прапрадзедаў пагнала,
Бо мой бацька быў гаспадаром.

Ён і за мяжой служыў зярняці,
Будаваў царкву, дзяцей любіў,
І аклад іконам Божай Маці
З дрэва нетутэйшага рабіў.

А дзядзькі палеглі ў Курапатах…
Нас жа ўратаваў заморскі вір…
Зачарпну — і цяжкі, як граната,
На магілах прадзедавых жвір.

Мне з сабой узяць казалі людзі
Жменьку ад магілы, што люблю,
Ды баюся — бацькавыя грудзі
Я зямлёю тою прапалю».

Скончыцца праз трое сутак віза,
Зноў дзяцінства высахне рака,
Расплываецца смугою шызай
Разарваны лёс палешука.

## НА БЕЛАРУСКІХ МОГІЛКАХ У АМЕРЫЦЫ

Магілы… Іх калісьці аплявалі,
Абвінавацілі ва ўсіх грахах.
За што? Адкажа кветка палявая,
Адкажа вецер: «Беларусь кахаў».

Тут Юрка Віцьбіч, тут Рыгор Крушына…
Іх словы й сёння выкрасае Час.
Чаму прыстанкам стала ім чужына?
Адкажа надпіс: «Я памёр за вас».

На іх кар’ерны ўжо не зробяць шанец,
Чужацкі іх не згоніць прэч хаўрус.
Спытае люд: «Хто тут? Амерыканец?»
Але зямля адкажа: «Беларус!»

## ПЕРШАЯ ЭМІГРАЦЫЯ
*(Выгнанне полацкіх князёў у Візантыю, год 1129)*

Над Дзвіной — як чорны покрыў ранне.
Гора смокча сэрцы, як змяя.
З Полацка з’язджае на выгнанне
Ўся вялікакняская сям’я.

Усьмавы пантофлік з прошвай сіняй
На назе дзявочае прамок.
Слухае манашка Ефрасіння
Бацькі пасівелага папрок:

«Ты бясплоднае абрала ложа,
Брат твой ад самоты занямог.
Без унукаў я. Хто нам паможа?»
Коратка яна сказала: «Бог».

Уздыхнуў. Ладдзю панесла плынню.
З далечы усе — як мурашы.
З ветрам данеслося: «Ефрасіння!
Прадыслава! Полацк беражы!»

Не ўстаюць з каленяў, плачуць людзі…
Шмыгнуў некуды з даносам віж…
Юная ігумення, хто будзе
Несці за цябе і гэты крыж?

Не, твая рашучасць не растане,
Мужнасць не патопіцца ў слязах…
Візантыя! Клетка залатая
Вольным птушкам — полацкім князям!

І гады, і жыцці, як атаву,
Косяць Часу вострыя нажы,
А яна ўсё чуе:
«Прадыслава!
Ефрасіння!
Полацк зберажы!»

## НАВАГРАДАК

Дождж зашаптаў таямніча.
Я падышла да стала.
Хто мяне, хто мяне кліча?
Ноч. Я ў гатэлі адна.

Вецер ліхтарык гайдае —
Звонкае колца святла.
…Мама мая маладая,
Ты тут таксама была.

Помню твой ложак смяротны.
Жах у паглядзе: «Жыць… ці?»
Наша сустрэча кароткай
Сталася ў гэтым жыцці.

Пыхнула кветкай — і годзе.
Помнік стачыла іржа.
Як негатывы стагоддзяў,
Цені на дахах ляжаць.

…Постаць Міндоўга паўстала.
Рок напярэймы яму.
Лёсу ўлюбёнкай не стала
Гэта сталіца чаму?

Сцялі дарогі чужыя,
Быццам жыцця абцугі.
Лёсам падрэзвала жылы.
Плацім за іншых даўгі.

Ім бы і зараз цвяліцца:
«Можа, зусім не была?»
Спіць у стагоддзях сталіца —
Жоўтая кропля святла…

## ЭДУАРД АКУЛІН НА ПОЛІ ЛЯ МАЛОГА ОЛЬЖАВА, ШТО Ў ЛІДСКІМ РАЁНЕ

На полі, дзе расійская пагарда,
Бы серп, сякла паўстання каласы,
Як рэквіем, гітара Эдуарда.
Сярэбраныя плачуць галасы

Па продках, што за волю тут плацілі,
Прастор палеткаў, сэрца не ірві!
Тут буракоў чырвонае націнне —
Сляды невысыхальнае крыві.

Прарос гарох скрозь тонкія мундзіры,
Прабілася скрозь грудзі сенажаць.
Тут паўтара стагоддзя камандзіры
Са шляхты беларускае ляжаць.

З каменняў нават сцерлі іх імёны,
Не адпусцілі душы на спачын.
Няхай жа восень дажджавой заслонай
Цябе захіліць, нейчы брат ці сын!

І адпяе завея галашэннем,
Каб старадаўні збыўся запавет —
Ляглі, каб не аддаць сваё найменне,
Ляглі, каб стаў свабодным гэты свет.

Пакутліва мы волю здабываем
Ды гонар чужакам не аддамо.
Гітара барда плача і спявае —
І з душ спадае рабскае ярмо…

*Ліпень 2003 г.*

## СЯДЗІБА ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА Ў КУШЛЯНАХ

Падыду да сядзібы, стану ў зацішку.
Час высмольвае памяць, таўчэ камяні.
Перад Кнігай Жыцця, адвакат Францішак,
Творцы сціплы набытак абарані!

Мо забаў маладых узяла я лішку
І людзям запаветных не сказана слоў…
Захілі мяне, адвакаце Францішку,
Ад зайздроснікаў злосных і махляроў.

Ля твайго жытла адпачну я крышку
І пайду ў турботныя тлумныя дні.
Адвакат беларускае мовы Францішку,
Беларусь нашу светлую абарані!

*12 жніўня 2004 г.*

## ВЕРШ НА СВАБОДУ

Я абрус памінальны паслала на светлым тым полі,
Дзе жаўнеры Касцюшкі лягалі на вечны спачын.
Шапатнула трава, і вятрыска пацвердзіў: «За волю!»,
І прарос скрозь тканіну спакойны і мудры палын.

Засцяліла я стольнікам слуцкую тую дарогу,
Дзе у сэрцаў пялёсткі ўгрызаліся кулі-чмялі.
«За свабоду!» — пранесліся словы паўстанцаў над логам,
І пакутніцкім цернам скрозь цяжкі абрус прараслі.

Я пайшла ў Курапаты, дзе шэрымі клубамі болю
Вочы выеў туман у бярозы пахіла-крывой.
Там на крохкай бяросце нязгасныя словы «За волю!»
Набрынялі гарачай — яшчэ ўсё гарачай — крывёй.

Я хацела ручнік завязаць на крыжы ацалелым,
Ды расстрэльныя чэргі яго, як ланцуг, абвілі.
«За свабоду!» — і вырваўся голубам белым,
Каб не згніць за нішто ў нялюбай зямлі.

Над дамамі, заціхлымі ў сонных турботах,
Над вірамі ў глыбокай таемнай вадзе,
Над палямі, салёным залітымі потам,
Кружыць лёгкая птушка — і крылаў яна не складзе…

* * *

Звільгатнелы туман забівае дарогу,
Я намацваю ўпарта, з адчаем яе.
І, пражыўшы жыццё, апялюю да Бога:
Што спакою і шчасця душы не дае?

Я кахала. З пасадаў сыходзіла тлумных,
У слязах забывала на ўласны зарок.
І часамі была вучаніцай бяздумнай,
Што рыхтуе зададзены некім урок.

Мне б пайсці па зямлі безыменнай жабрачкай,
Басанож па замерзлай і чорнай жарстве,
Ці стаяць ля дарогі адвечнаю Плачкай,
Ці акафіст спяваць у вясковай царкве.

Ды, нібы ланцугом, прыкавалі нябёсы
Да радка, да старонак, забытых у тле,
Каб вяртаць на зямлю абгарэлыя лёсы,
Дыяманты шукаць у пякельным катле.

Прэч, нячысцікі, прэч! Каб Пярун вас адужаў,
І разнёс на шматкі, і прабіў туманы!
Сэрцаў шмат, што Радзіме заўсёды паслужаць,
Ёсць і дочкі у Маці маёй, і сыны!



# ЗАЛАТАЯ ЖРЫЦА АШВІНАЎ
## *Раман*

### АД АЎТАРА

У томе III «Живописной России» («Литовское и белорусское Полесье»), што выйшаў у 1882 годзе ў Санкт-Пецярбургу, у артыкуле А. Кіркора «Следы язычества» ёсць цікавы сказ: «2 мая і 24 ліпеня, у пачатку і ў канцы палявых работ, народ святкуе памяць заступнікаў земляробства, князёў Барыса і Глеба, якія ўспрынялі ў народным уяўленні некаторыя рысы старажытных блізнят Асвінаў».

Здавалася б, браты-блізняты Ашвіны, якім у старажытнай «Рыгведзе» адведзена вельмі пачэснае месца (па ліку ўспомненняў яны ідуць пасля Індры, Агні, Сомы), не маюць ніякага дачынення да беларускай міфалогіі. Але ці так гэта? Той жа А. Кіркор піша, што на Беларусі іхні культ існаваў яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя.

Навука наша мала даследуе індаеўрапейскія карані беларусаў, аднак жа зусім невыпадкова, што той жа А. Кіркор даволі часта згадвае пра культуру і міфалогію старажытных арыяў, уплеценую ў нашы паданні, старажытныя святы. Сучасныя даследнікі таксама гавораць пра індаеўрапейскія карані нашай цывілізацыі.

Культ Блізнят — адна з асноўных рысаў старажытнаіндыйскай арыйскай цывілізацыі, нездарма ж у «Рыгведзе» Ашвінам прысвечана ажно 54 гімны, а таксама адведзена шмат месца ў «Махабхараце», «Шатапатха-брахмане», «Брыхадзеваце» і іншых помніках старажытнай індыйскай культуры эпохі арыяў. Думаецца, што менавіта іхні культ да сёння праіснаваў у выглядзе канькоў на нашых дахах, конскіх галоў на вышыўках.

Гэты, засыпаны попелам забыцця, культ светлых, сонечных братоў-лекараў мае права на ўспомненне. І я, выкарыстоўваючы даступныя мне матэрыялы, паспрабавала рэстаўраваць гэтую незвычайную старонку нашай культуры.

## КНІГА ПЕРШАЯ

…Кажуць дасюль, што ў прадоннях,
Над якімі бяжыць чарот,
Жывы ў гарадах падводных
Стары палескі народ.
Жывыя яго паданні,
І песня, і мовы строй
У недасяжных глыбінях,
Пад сіняй азёрнай вадой.
Яны зберагаюць скарбы
За сябе і за нас усіх,
А мы цягнем свой крыж штодзённы,
І мы забываем іх.

*У. Караткевіч*
*(«Званы ў прадоннях азёр»)*

Дзень выспяваў нетаропка, як выспявае пад гарачым сонцам на бяскрайняй ніве колас. І, нібыта колас, яго нетаропка падрэзаў залаты сярпок маладога месяца, што на змярканні завіс над Храмавым горадам. Спачатку празрыста-зіхоткі маладзік спакваля наліваўся жоўта-залатым святлом. Яно струменілася ўніз, на ўвесь агромністы трохкутнік горада з яго пасыпанымі чыстым пяском дарожкамі, з двума храмамі, адзін з якіх, большы, стаяў непадалёк ад увахода, а меншы хаваўся сярод дубоў на ўзвышшы, з постацямі грозных багоў ля брамаў, ля якіх даўно тоўпіліся людзі, што прыйшлі на сённяшняе набажэнства.

У сваёй святліцы на самым версе каменнай вежы напружана ўзіраўся ўдалячынь маг-звяздар Вакула. Маладзейшыя жрацы з дубовымі галінамі ў руках стаялі каля абедзвюх брамаў, праз якія маглі праходзіць вернікі. Трэцяя, за храмам багіні ранішняй зары Аўшры, адчынялася толькі для жрацоў, і ля яе збіраліся ўсе жрацы Храмавага горада, каб пасля першага ўдару меднага біла спусціцца ў храм Ашвінаў, дзе вярхоўны жрэц Святазар сёння, у ноч летняга раўнадзенства, запаліць агонь, якім павінны ачысціцца ўсе навакольныя селішчы. У гэтую ноч ніхто не павінен заснуць — менавіта сёння могуць хаця троху прыадчыніцца дзверы, за якімі багі хаваюць ад смяротных людзей будучыню, а таксама таямніцы жыцця і смерці. Таму з раніцы пад спевы свяшчэнных гімнаў гатавалі спецыяльныя служкі напітак багоў — сому, якою напалам з малаком будуць апырсканы ах-

вярныя вогнішчы і якую перад усходам сонца будуць піць самі жрацы, каб адчуць Неадчувальнае…

Паўтараючы сам сабе словы гімнаў, высокі танклявы юнак з пукатым ілбом і вузкімі шэрымі вачыма нібыта ўвесь час чакаў. І калі з-за каржакаватага недалёкага дуба паказалася невысокая дзявочая постаць, ён сцяўся, залаты медальён на грудзях нервова ўздрыгнуў. А дзяўчына, хутка заняўшы сваё месца ў ланцужку жрацоў, прамовіла вінавата:

— Купалася, мабыць, задоўга. Сонца так прыгожа садзілася ў Менцязь.

Старэйшы жрэц не паспеў сказаць сваё строгае слова — працяжна прагучаў над горадам таямніча-нізкі рык біла, і ўсе паспяшаліся да храма.

Высокі драўляны храм, дзе апорныя слупы зробленыя з костак ахвярных коней, упрыгожаны з верху да самай зямлі цудоўнай драўлянай разьбой, а на даху горда глядзяць на поўнач і поўдзень дзве вялікія конскія галавы. Такія ж, толькі меншыя, любяць майстраваць на дахах сваіх хатак і тутэйшыя людзі; знак таго, што тут пакланяюцца святазарным і магутным братам-блізнятам Ашвінам. Нездарма сярод розных багоў, чые постаці ў шаломах і латах стаяць па баках храма, найбольшыя і найбліжэйшыя да ахвярнага агню яны, чые ногі схаваныя разьбянай сцяной калясніцы. Ім першым прынясуць дары і жрацы, і простыя людзі.

Стоячы на адкрытай пляцоўцы каменнай вежы, дзе кожную раніцу спяваюцца гімны-малітвы Сонцу, Багіні ранішняй зары і Ашвінам, стары маг-звяздар глядзеў, як паволі цягнецца да храма тонкі ланцужок жрацоў. Суровы, пакрыты страшнымі шнарамі твар яго, каб хто мог бачыць, ледзь памякчэў, калі на вочы яму трапілася Жывена, што ішла, нібы ляцела над шурпатай пясчанай сцяжынкай, мабыць, ужо аброшанай вільгаццю. Самая здольная вучаніца Вакулы, яна, здаецца, яшчэ нядаўна тупала па гэтых жа сцежках маленькім двухгадовым камячком ружовай плоці, і яму заўсёды здавалася ў хвіліны, калі звяздар адрываўся ад неба і рабіўся звычайным слабым чалавекам, што такою была б ягоная дачка.

Тонкім смалістым пахам, пахам сонца і жывіцы, пацягнула ў святліцу — яшчэ нядаўна каля яе праносілі паленцы, што ўжо складзеныя ў храме на высокім алтары ў тры акуратныя стосікі і палітыя тлушчам. Вакула заплюшчыў вочы і ўбачыў да драбніц знаёмую карціну: нямоглы, як напоены празрыстай старэчай жаўцізной вярхоўны жрэц Святазар уздымаецца ўверх

па прыступках алтара, кожная з якіх адпавядае пэўнаму месяцу і вершаванаму памеру патрэбнага гімна, да першага кола цаглін, якімі абкладзенае месца вогнішчаў і дзе ўмацаваны паміж зажымамі кавалак сухога дрэва са свярдзёлкам. Але спачатку ён будзе маліцца — ціха, нячутна, пасля гучней стане дапамагаць яму бубен і спевы жрацоў. Затым Святазар стане круціць свярдзёлак, а людзі навокал будуць сачыць за кожным ягоным рухам. А пасля… пасля з-пад кашчавых ягоных рук вырвецца маленькі, трапяткі, нібы матылёк, агеньчык, і радасна-гучна адгукнецца на тое люд. А Святазар беражліва пасадзіць чырвонага матыля на першае вогнішча, пасля на другое, трэцяе, і вось ужо шугае вогнішча, трашчаць смалякі і бярвенцы са свяшчэннага гаю, дзе не ступае нага простага чалавека, і на вогнішчы, а таксама па баках алтара праступяць таямнічыя знакі, у якіх разбярэцца, бадай што, сёння толькі Святазар ды ён, маг-звяздар Вакула… Гэта розныя фазы Месяца і Сонца, знакі былых і будучых зацьменняў, пагражальныя шляхі свяцілаў. Але людзям, якія абступілі алтар, не да таго: яны радасна крычаць і ўздымаюць рукі, а жрацы працягваюць спяваць гімны Агню-Агні, у якога тры іпастасі — сонца, маланкі і ахвярнага вогнішча.

Вытанчаным слыхам мага Вакула пачуў у хоры чысты, светлы голас маладой дзяўчыны, адчуў хваёвы пах. І карціна перад унутраным яго зрокам змянілася: убачыліся магутныя, напоеныя густой смалою сосны. Яны гудзелі ад ветру, зялёныя мітуслівыя цені клаліся на цёплую сухую зямлю, дзе ляжаў ён з першай і апошняю сваёю жанчынай. Як жа клікалі яе? Сярмяжкай? Так, Сярмяжкай. Яна прыходзіла на запаветнае месца ў сухой лагчыне патаемна і заўсёды атрымлівала ад яго падарункі… Да знямення, да звону ў вушах лашчыў ён тады на аксамітавай посцілцы імхоў зваблівае жаночае цела, адчуваючы, што яго нібыта нясе ў жывую гарачую бездань, дзе — пагібель, нішто. Жаданне знікнуць хавалася там, у самых глыбінях асалоды, і Вакула, калі пастарэў, зразумеў, што каханне і смерць сапраўды ходзяць побач. Мужчына, пакідаючы семя ў лоне жанчыны, вычэрпвае сябе. Не, яшчэ застаецца абавязак абараніць новы парастак ад згубы. Ён, Вакула, свайго мужчынскага абавязку не выканаў: калі яе родзічы даведаліся, што будзе дзіця, ёй забаранілі хадзіць у сухую лагчыну, бо новаму чалавеку племені патрэбны былі спакой і абарона, а ён, жрэц, не мог гэтага ёй даць. Племя лотва, з якога была Сярмяжка, вымірала, а таму, калі ён, увесь як мярцвяк, тулячыся, выцікаваў яе ў лесе, яна спакойна распавяла, што жрэц прынёс шчасце, і да яе пасватаўся найлепшы паляўнічы,

бо яна — не ялаўка, дзіця аказалася моцным і вялікім, так што няхай цяпер ён спакойна служыць свайму богу.

Вакула каля года блукаў, тулячыся, па лясах, час ад часу цікуючы за сваім сынам і ёю, а пасля прыціх, паспакайнеў і аднойчы, лежачы пад загадкавым зорным небам, адчуў, што туга адпусціла яго, а ўзамен прыйшоў вялікі спакой і жаданне як мага меней думаць аб зямным.

...Тая дзяўчына была моцная, спакойная і, помніцца, рудая. Дык вось чаму ён успомніў яе! Падумаў пра Жывену — у яе таксама адметныя і нязвыклыя для тутэйшых валасы. Не рудыя, не, і не жоўтыя. Хутчэй, яны як залацістая салома, якая пахне ветрам і дажджом. Жрэц уздыхнуў, пайшоў да паліцы, дзе стаяў вялікі сярэбраны кубак з выявай багіні плоднасці, і наліў сабе салодкага кіпрскага віна, чакаючы, пакуль сонечнае цяпло не пабяжыць па жылах. Жанчына на кубку была мажная, шырокая, і жрэц, доўга гледзячы на яе, пагразіў пальцам. Вабіш аддаць табе сваё семя, а пасля выганяеш? Хрыпла засмяяўся і закашляўся. Зорка Зверыніца вісела проста перад акном, холадам цягнула ад яе, а хацелася, каб нейкае добрае дзіця, такое, як гэтая дзяўчына, пагладзіла касматую, ссівелую ягоную галаву, і пад мерныя гукі гімнаў Вакула ўсё цягнуў віно, радуючыся, што і зоркі сёння занятыя разам са жрацамі набажэнствам; можна патраціць хвіліну на сябе.

У гэты ж час служкі, што стаялі з дубовымі галінамі каля брамаў, рыхтаваліся ўздыхнуць з палёгкай: апошнія тубыльцы таропка заходзілі ў Храмавы горад, і толькі чатырох прыйшлося перапыніць. Звычайна не пускалі тых, хто залішне перабраў медавухі, таму што такім свяшчэннае вогнішча не толькі не дапамагала — наадварот, на віноўнага магло абрынуцца бяспамяцтва. Бывалі і моцна апантаныя злымі духамі — такім трэба было прайсці дадатковы абрад ачышчэння. Але якраз у той момант, калі служка Яр рыхтаваўся пакласці на зямлю ўжо звялае дубовае галлё, ля брамы спыніўся дарагі пародзісты скакун.

Коннік спрытна саскочыў на зямлю, і па адным гэтым руху спрактыкаванае вока служкаў магло згадаць выдатнага наезніка, да таго ж багатага: на ім быў аксамітавы каптан з дарагімі гузікамі, боты ільсніліся, як блішчыць толькі скура тонкага вырабу. Але, прыгледзеўшыся, можна было заўважыць, што адзін гузік выдраны разам з лапікам аксаміту, бронзавая фібула на плячы пагнутая, нібыта змятая няўмелымі пальцамі. І твар незнаёмца — яшчэ юначы, пульхны — нагадваў васковы злепак, па якім жорстка, ды ўмела прайшлася рука Творцы, але які, аднак, можа

скамянець ці расплысціся, у залежнасці ад абставін. Цяпер гэты твар быў амаль прыгожым, ды неспакой дробнымі дрыжыкамі час ад часу прабягаў па ім.

Служкі трывожна пераглянуліся, убачыўшы скураныя, расшытыя нітамі похвы, адкуль тырчэў кінжал. Адзін з іх перагарадзіў незнаёмцу дарогу, але той з напружаннем вымавіў:

— Я… айн рэйтар*… пры князі Раман Данілавітш..

Яр агледзеў госця, раздумваючы; пасля ветліва пакланіўся і павольна, каб той зразумеў, папрасіў усё ж пакінуць кінжал пры кані, якога адвядуць у храмавую стайню і добра пакормяць. Немец незадаволена нахмурыўся, аднак падпарадкаваўся і пругка пайшоў да храма, дзе, мяркуючы па напружанай цішыні і гучных спевах, вось-вось павінен быў з'явіцца агонь. А Яр, падабраўшы дубовае вецце, подбегам паспяшаўся да звездара Вакулы, каб падзяліцца трывогай — што спатрэбілася ў храме аднаму з нямецкіх рэйтараў, якія з часу перахрышчвання ў каталіцтва былога вялікага князя Міндоўга ўжо не пакідалі Новагародка? Можа, князь Раман Данілавіч задумаў зачыніць новыя язычніцкія храмы, як хацеў гэта зрабіць сын Міндоўга Войшалк?

Але захмялелы і ад таго вясёлы Вакула адмахнуўся:

— Раману Данілавічу цяпер не час пра язычнікаў думаць. Над Галічам, дый і над намі, татарская навала навісае. А гэты малойчык прыехаў, я думаю, не да нас з табою.

— Ведаю, што не да нас, — нецярпліва занерваваўся Яр. — Ды і вялікага жраца зараз не папярэдзіш.

— І не вялікага жраца прагне ўбачыць немчык, — пасміхаўся Вакула.

— Каго ж тады? — няўцямна перапытаў Яр, неадабральна касавурачыся на кубак з рубінавымі кропелькамі, што паўзлі па мажнай жанчыне з кветкамі. Хацелася, ох як хацелася віна і яму, але толькі Вакула карыстаецца сярод іншых многімі недаступнымі для жрацоў і служкаў прывілеямі.

— Я думаю, яго сюды дзяўчына прывабіла.

— Дзяўчына? — недаверліва прыжмурыўся служка. — Калі ён камандзір, значыць, крыжак. А крыжакам, як вядома, жаніцца нельга, яны ж рыцары-манахі, ці не так?

— Нельга, нельга… Прыгажосць — страшная сіла, еўнух ты візантыйскі! Жаніцца нельга, а прыгажосць цягне… Толькі вось дзяўчыне нашай гэткі закаханы ці патрэбны? Дай я зірну. А ты не чакай. Віна не дам табе, колькі ні прасі.

* Нямецкі воін-наезнік.

Яр з прыкрасцю махнуў рукой, выходзячы, і толькі на парозе азірнуўся і трывожна перапытаў:

— Дык ён прыехаў да Жывены? Ты напэўна ведаеш, што чужынец не прычыніць храму ніякай шкоды?

Але Вакула ўжо забыўся на яго, паглыбіўшыся ў свае патаемныя вылічэнні, і нейкі час у святліцы было так ціха, што асмялелая мыш заскрэблася ў кутку. Пасля звяздар падняў галаву, прычыніў дзверы за Ярам і глыбока задумаўся. Затым выйшаў на пляцоўку, адкуль лепей было аглядаць неба.

Тысячамі вачэй-зорак глядзела на яго ноч, лёгкія белыя аблокі, падсветленыя залацістым святлом, плылі над лесам, над храмамі. «Як грыва адвечнага тысячавокага каня з сямю павадамі, што абходзіць Сусвет», — падумалася яму. Выява такога каня была высечаная на каменнях малога храма, куды часта прыходзіў Вакула, каб пастаяць пад велічэзнымі ялінамі, што атулялі кашлатымі галінамі з'едзеныя часам камяні.

Найболей жа, праўда, любіў ён сядзець у сваёй святліцы — і цёмнымі зорнымі начамі, назіраючы, як плывуць у бяскрайняй бездані велічныя планеты, і вечарамі, калі зоркі, як маладыя дзяўчаты, нясмела праціскаліся скрозь вечаровыя аблокі. І ніколі не пераставаў здзіўляцца строгай гармоніі, якою жыве неба. Тысячагоддзі назад такія ж, невядомыя нікому жрацы вылічылі, калі павінна з'явіцца ў нейкім кутку нябеснай бездані пэўная зорка, і яна з'яўлялася ў той самы, строга вылічаны час… Часта, углядаючыся ў планеты, ён загадваў, колькі ж нарадзілася зараз людзей і якія яны. Вось блакітная Чагір, чыё пульсаванне падобнае да трапяткіх штуршкоў у жылах: народжаныя пад ёю будуць вечна шукаць любові і прыгажосці. А тыя, хто з енкам правальваўся ў гэты свет пад чырвонай зоркаю вайны, будуць прагнуць перамогі і бітваў… Вось як зараз, калі лягла яна, зорка вайны і няшчасця, разам з Чорнай Поўняй, вялікай Маці — разбуральніцай, на шляхі бесклапотнай маладой дзяўчыны, якая так лёгка слізганула ў храм Ашвінаў, каб там наліць у драўляную чашу цёплага малака, змешанага з сомай, і пырснуць гэтай духмянай вадкасцю на ахвярнае вогнішча, а пасля спяваць, як спявае яна зараз, і голас нясецца высока-высока:

Прыязджайце на ладдзі нашых думак*,
На трохмеснай, трохчленнай, цудоўна ўпрыгожанай
Калясніцы — прыязджайце, о Ашвіны!

---

* Усе тэксты гімнаў узятыя з «Рыгведы».

Можа, таму, што багі даруюць яму магчымасць зазіраць у будучыню, якая недаступная іншым, прыходзіць падчас невымернае шкадаванне і смутак, што смокча грудзі, як атрутная змяя?

На двары пачуліся крыкі. Людзі круціліся, выносячы некага з храма, нейкая кабета была загаласіла, але тут жа і змоўкла. А-а, гэта нехта з малельшчыкаў кінуўся ў вогнішча, каб разам з дымам і малітвамі Агонь перадаў яго багам. Нездарма раней у храме гадалі перад бітвамі, куды пацягнецца дым ад ахвярнага вогнішча. Калі схіляўся ён у той бок, дзе стаяў запытальнік, значыць, перамога дастанецца яму. Цяпер князі рэдка прыязджаюць да Ашвінаў, хіба толькі калі ад хвароб не дапамагаюць ні заморскія лекары, ні іншыя, больш знаёмыя багі: Пярун, Сварог, Вялес. Усё меней становіцца тых, каму дапамагаюць вялікія лекары Ашвіны, што намазваюцца святлом, як маззю, і аблятаюць свет на сваёй калясніцы, каб знайсці пакутнікаў і дапамагчы ім. Так, людзі навакол звяртаюцца да новых багоў, апошнім жа часам — да аднаго, чые храмы ўзводзяцца паўсюдна і дзе забараняюць звяртацца да зорак, каб спытацца пра нейчы лёс. Мабыць, той, хто толькі што ўзляцеў да багоў лёгка, нібы пёрка ці іскрынка, трапіў у вырай, але яму, Вакуле, хочацца жыць і жыць на гэтай зямлі, дзе так пакутліва-добра адчуваць хуткаплыннасць і непаўторнасць свайго існавання! І ён выпіў яшчэ віна, хаця трэба прачнуцца на дасвецці, калі схаваецца за небакраем Зверыніца і зацíхне наваколле, чакаючы, пакуль жрацы запрагуць сваімі спевамі каня, што вязе сонца. А выпіўшы, вырашыў, што нічога не скажа маладой жрыцы пра нядобрага незнаёмца, які, па прадказанні зорак, стане на яе шляху, каб скрывіць яго і закруціць вузламі. А іх ох як нялёгка разблытваць слабому зямному чалавеку!

Жывена і сапраўды напачатку не заўважыла маладога германца, таму што адразу пасля абраду выйшла праз маленькія дзверкі, што туліліся ў глыбіні храма, адразу за драўлянымі постацямі Ашвінаў. У яе быў сёння вялікі дзень — упершыню дазволена будзе на ранку, пасля гімна ранішняй Зары, лячыць людзей адной, без Святазара. Дзевяностагадовы вярхоўны жрэц сапраўды саслабеў: кашчавыя рукі яго дробна дрыжалі, калі круціў свярдзёлак, таму дзяўчына, гледзячы на адтуліну, усім сэрцам, усёй істотай жадала, каб «сын моцы», як называюць у гімнах свяшчэнны агонь, таму што здабываецца ён праз сілу рук і сілу духу, — каб Агонь хутчэй затрапятаў над кавалкам дрэва. Нягледзячы на сваю маладосць, яна добра заўважыла, што іншыя жрацы таксама нібы стараліся дапамагчы Святазару. Але які

нядобры позірк быў у Істра! Яшчэ паўгода таму, як рыхтаваліся яны да сённяшняга летняга раўнадзенства, а Святазар выкінуў падрыхтаваныя гэтым жрацом травы, сказаўшы, што яны не маюць гаючай сілы, бо рвалі іх без любові, працадзіў Істр услед вярхоўнаму жрацу:

— Шкада, не дажыве ён да дасканалай мудрасці*!

Але ў голасе не было шкадавання, а была патаемная прыкідка, і Відэвут, чые зёлкі былі адобраныя Святазарам, ціха засмяяўся:

— Табе не быць пасля Святазара вярхоўным жрацом, выкінь гэта з галавы, брат!

— Я табе не брат, — агрызнуўся Істр; Відэвут ласкава пагладзіў яго па плячы, і той замоўк, затаіўся, у позірку, скіраваным на Жывену, прамільгнула нешта цёмнае, змрочнае, але яна таксама ўсміхнулася маладому жрацу. Ён жа зямны цень аднаго са светлых Ашвінаў! Так, Відэвут не брат-блізня Істра, больш таго, нават не ягоны равеснік. Але абодва яны, як таго патрабуе звычай, нарадзіліся блізнятамі. Вось толькі Істраў брат памёр, а Відэвутаў загінуў, калі немцы палілі прусаў. Святазар не раз казаў, як цяжка цяпер знайсці для храма Ашвінаў братоў-блізнят: ванароджаных найчасцей хрысцяць, таму што ўсё болей хрысціянскім робіцца недалёкі Навагародак. Іншым свяцілішчам лягчэй, яны туляцца ў непраходных лясах, а тут, ля Менцязі, усё болей радзеюць лясы, і аднойчы з цяжкасцю ўгаварыў стары жрэц вялікага князя Міндоўга пакараць двух святататнікаў, што насмеліліся купацца ў свяшчэнным возеры, дзе могуць плаваць толькі жрацы.

Успамінаючы той дзень, Жывена лёгка тупала ўсьмовымі** вышытымі пантофлікамі па вільготнай дарожцы, што зычліва рыпела і крэхкала, як старая бабуля, якую размінаюць пальцы жрацоў. Але, выходзячы да Менцязі, дзе месціліся драўляныя святліцы жрацоў, яна адступіла назад: чорныя крылы кажана нібы прарэзалі паветра, у тонкім свісце гэтага вестуна няшчасця была пагроза. Некалькі разоў за сваё кароткае жыццё дзяўчына выразна чула гэткі свіст, хаця звычайным людзям не дадзеная такая здольнасць — і заўсёды нешта здаралася, нібы з глыбіняў Хаасу нехта пускаў у чалавека чорную стралу. Але на гэты раз стралу пусцілі ў яе, і таму юная жрыца прыспешыла крокі, а рукі скрыжавала на грудзях, дзе вісеў медальён з Ашвінамі, і ціха зашаптала:

---

* У старажытных арыяў гэта быў узрост 108 гадоў.

** Скуранымі.

О Ашвіны, прывязіце да нас сваю сілу,
Акрапіце мядовым кнутом, падмацуйце,
Павялічце жыццё, а цялесныя раны сатрыце,
І адрыньце чужую варожасць, сябрамі надзейнымі стаўшы!

Нязвыкла сцішаная, паднімалася яна ў сваю святліцу, і прыслужніца Юрна, якая падрыхтавала да ранішняга абраду адзенне і амулеты, спахмурнела.

— Ці не Агонь што нядобрае напрарочыў? — спыталася яна, у той час як лоўкія рукі яе імгненна сцягнулі з дзяўчыны белую сукню і кашулю. Кінуўшы на шырокую лаву калматую мядзведжую шкуру, яна дастала шкляны сподак з пахкім бабровым струменем, халцэдонавы флакон з маслам чабору, сакрэт вырабу якога быў вядомы толькі тут, у Храмавым горадзе. Жывена лягла на шкуру, што пахла яшчэ бярлогай і хвояй; Юрна, калываючы вялікімі грудзямі і пругкімі сцёгнамі, пачала расціраць мяккае атласнае цела жрыцы, гнуткае, як ліяна. Але словы ліліся з вуснаў прыслужніцы, як ліецца вада з бяздоннага жарала крыніцы:

— Кажаш, Агонь паказаў, што гэты год будзе ўдалым. Тады што цябе азмрочыла? Не таіся, кажы. Ці воран каркнуў не ў час, ці свяшчэнныя вужы вузламі паскручваліся? Ці сычы і совы завухкалі?

І яна лёгенька патрэсла Жывену, нібы гляк з зернем, каб вытрасці адтуль словы-зернеткі. Юрна дамаглася свайго: дзяўчына расказала пра тое, што адбылося.

— А яшчэ, скажу табе, проста ўвесь вечар нешта гняце. А я ж павінна радавацца, тым болей — захаваць сваю сілу да раніцы!

Рукі прыслужніцы заварушыліся хутчэй, нібы яна хацела перадаць паненцы сваю моц.

— Не-не! — запратэставала Жывена. — І не думай! Твая сіла інакшая, ёю не лечаць. Суцяшаюць, дапамагаюць, прадметы ў хаце пераварочваюць, але…

Юрна паслухалася, зменшыла намаганні. Уздыхнула:

— Усё ты разумееш. Але не смейся з мяне, залацінка мая. Я ж не пра сябе клапачуся. Тваю сілу сапраўды берагчы трэба, а ты ж, нябось, сёння ізноў старому Святазару дапамагала? Хай ратуе яго Радзігаст*, але баюся я, што Істр перасіліць яго і цябе заняволіць. А тады і Відэвута з храма выжыве.

— Ашвіны не могуць быць злоснымі і карыслівымі, не кажы мне нічога благога пра Істра. Да таго ж ёсць у нас Вакула, ёсць

* Вярхоўны бог балтыйскіх славян.

Сава… Калі пойдзе Святазар у Ірый*, камусьці з іх вярхоўная ўлада дастанецца.

— Хаця і гавораць табе багі свае таямніцы, але занадта ты мала зямныя справы ведаеш, залацінка мая! І Сава такая ж: не заўважае, што апранае. Каб не служкі, хадзіла б у рыззі! А Вакула… Той з неба вачэй не спускае. А тут моцная рука патрэбная, каб цуглі моцна трымала! Пусцеюць нашы клеці, усё меней багатых ахвяраванняў. Трэба, каб жрэц да князёў часцей запрашэнні дасылаў, коней нашых паказваў. Сама ведаеш, якія ў нас коні — як нідзе!

— Хопіць, ты ад абурэння пратрэш ува мне дзіркі, — строга сказала Жывена, скідваючы з сябе рукі прыслужніцы. — Я не хачу думаць пра ўсё гэта. Мне б хворым дапамагчы, а колькі злых духаў асядае на чалавеку, ты і не ведаеш. І веды мае, і чысціня, і спакой — меч для іх, дзіда вострая. А ты мне тут байкі апавядаеш!

Пакуль яны гутарылі, у храме Ашвінаў заканчвалася набажэнства, і чырвонае святло на трох ахвярных кастрышчах пацьмянела, кідаючы над цагляным колам жмені іскрынак. Багі каля сценаў стаялі нерухома, жалезныя латы на Перуне грозна выблісквалі. Вернікі выходзілі на пляцоўку перад храмам, дзе ад новага агню распалена яшчэ адно вогнішча: туды можна кідаць шпулькі нітаў, пасмы лёну. Гэта сімвалы ўсяго, ад чаго хацеў бы выбавіцца кожны з прысутных — іхнія трывогі, жахі, хваробы. Некаторыя ўжо выходзілі з Храмавага горада, забіраючы гаршэчкі, што стаялі ля брамы. Там тлела вуголле ад свяшчэннага вогнішча; людзі панясуць новы агонь у хаты і зямлянкі і будуць старацца падтрымліваць яго ў сваіх ачагах нязгасным. Тыя ж з набажэнцаў, хто хацеў, каб іх агледзелі жрацы і выгналі злых духаў, што насылаюць хваробы, усаджваліся перад вогнішчам. Яны будуць чакаць ранішняй зары, каб пайсці ў маленькі старадаўні храм.

Маладзік, прапорваючы вострым рогам неабдымную цемру начы, плыў высока ў небе, калі апошні жрэц услед за Святазарам выйшаў з храма Ашвінаў і пайшоў да сябе, каб змыць стому і пераапрануцца. Святазар жа затрымаўся каля вогнішча. Ціхім голасам сказаў ён да прысутных, каб не гаманілі яны паміж сабой, а сядзелі ціха, паглыбляючыся ў думкі аб вечнасці душы і хуткаплыннасці жыцця.

---

* Тут у значэнні «памрэ».

— Спагадайце ўсім, каго вы пакрыўдзілі, хаця здаецца вам, што вінаваты іншыя. Тады лягчэй будзе змагацца з цёмнымі духамі ўнутры вас.

Яны сядзелі, хто ўважліва, а хто і няўцямна гледзячы на старога чалавека, а калі той пайшоў, нейкі час маўчалі. Аднак праз нейкую хвіліну хтосьці выціснуў з сябе слоўца, што пякло душу, пасля сарокай застракатала на вуха суседу кабета, цыкнуў на яе муж. І ўсе яны ўпотай сачылі за маладым германцам, якому не сядзелася ля вогнішча. Ён нервова расхаджваў паміж храмамі, паспрабаваў зазірнуць у вузкую аканіцу меншага, прыцягнены мігатлівым ззяннем свечкі. Але гэта ўсяго толькі служка раскладаў на сярэбраных падносах зёлкі. Затое другі служка ціха папярэдзіў госця, каб не заходзіў ён, крый яго Ашвіны, на каменную дарожку, што вядзе да Менцязі.

— Можа, адвесці цябе ў нашыя святліцы для прыезджых? Яны збоку ад усходняй брамы. Жрэц Святазар не можа цябе прыняць, яму трэба рыхтавацца да абраду, — Яр, гаворачы гэта, не зводзіў дапытлівага позірку з бледнага твару германца. Але той, здавалася, амаль не слухаў.

— Ваша жрыца… яна зноў будзе там, на абрадзе? — запытаўся ён раптоўна.

— Пра каго ты гаворыш? — Яр прыкінуўся някемлівым.

— Пра ўнучку баярына Агапія, — з цяжкасцю вымаўляючы тутэйшыя словы, прамовіў прыезджы, і бледны твар яго, каб мог бачыць у паўцемры Яр, выдаў ягоны стан: ён раптоўна пабарвавеў.

— Ты кажаш пра Жывену? Але яна будзе займацца лячэннем. У храме Лялі… — Яр паправіўся, — Аўшры прымаюць хворых. Сёння прымаюць, — зноў паправіўся служка.

Штосьці бянтэжыла яго ў нерухомым твары госця; вачніцы яго здаваліся ў месяцавым святле глыбокімі, як у мерцвяка, абглыданага агнём, — Яру час ад часу даводзілася выносіць з полымя людзей, што кідаліся ў кастрышча. Вось і сёння той, хто задыхнуўся ў дыме, ляжаў у яго на руках. Яру здавалася, што ён ніколі не прывыкне да гарэлага паху чалавечай плоці і да таго, як пакутліва выходзіць з яе душа.

— Я хацеў бы пабачыць яе да абраду…

У месяцавым святле бліснула, як рыбка на вудзілішчы, сярэбраная манета. Служка адступіў. Нямецкая марка! Сярэбраны паднос, на якім ляжаць зёлкі ў храме, каштуе дзве такія манеты — цяжкія, як капыты дзіка.

— Мяне выганяць з храма, — амаль умольна прашаптаў ён. І зноў адступіў, матляючы галавой: — Яна рыхтуецца, а Юрна

сцеражэ яе, як ваўчыца. Крый мяне Ашвіны, каб я ўзяў грошы ад немца.

Ён крута павярнуўся, амаль пабег па дарожцы. Вочы любай сястры, Нары, паглядзелі на яго з дакорам. Ёй хацелася замуж за Дубіну, самага дужага хлопца ў селішчы, а бацька Дубіны сватаў Каліну, у якой чатыры каровы і 6 грыўнаў срэбрам. А за іх жа… 300 аўчын, альбо 2 кабылы, альбо 2 каровы — вось што можна было купіць за такі пасаг! Але, бегучы, Яр усё матляў галавой, і сестрыны вочы хутка зніклі, заслаліся ў ягоных думках іншым — сённяшнім абрадам і ўсімі справамі, звязанымі з ім. Падрыхтаваць ручнікі, драўляны посуд для напояў, крэмневыя нажы, глякі, забегчы на стайню да любімага жарабка Жывены, на якім яна сёння выедзе да вернікаў…

А тым часам Ашвіны выконвалі сваю звычайную працу — перапраўлялі людзей праз Ноч да раніцы. Так прасілі іх кожны вечар жрацы храма. І багі, упрыгожаныя зорнымі бранзалетамі, добразычліва прынялі сённяшнія ахвяры: багіня ранішняй зары, Аўшра, імкліва ўспарола сваім мячом пярыну аблокаў, і па першым яе ружовым слядку пацягнуліся на каменную вежу жрацы. Старажытны гімн выконваўся, як многія стагоддзі, на санскрыце, але рэчытатывам падхопліваў рытм Істр, прагаворваючы гімны на мясцовай мове:

Як вецер неаслабны, як рачная плынь,
Прылятайце да нас, о Ашвіны!

Знікла ў ружовым святле будучага дня Зверыніца, і адразу ўдарыла меднае біла, знак для вернікаў, што хутка пачынаецца абрад.

Яр, які ўжо чакаў жрацоў на вежы, падняўся на прыступку з сярэбраным падносам, на якім стаялі драўляныя чашы. У кожнай плёскалася свяшчэннае пітво, выціснутае яшчэ пазаўчора і ўжо збрадзелае, прызначанае менавіта для гэтай гадзіны. Гэтае пітво не п’юць простыя людзі, ды і жрацам дазваляецца рабіць гэта толькі некалькі разоў у год, бо варта зрабіць колькі лішніх глыткоў і тым наблізіцца да багоў на смяротную для чалавечых істот адлегласць — і нішто не верне неасцярожнага назад, у гэты свет*.

* Ёсць гіпотэза Р. Г. Уасона аб тым, што сома — гэта сок мухамора (Amanita muskaria).

Істр заспяваў адпаведны ўрачыстай хвіліне гімн; усе адпілі па колькі глыткоў, пасля сцішыліся, уздымаючы рукі насустрач сонцу.

Імкліва разгараўся ўсход, але вакол маленькага храма было яшчэ цёмна. Велічэзныя дубы, што затулялі яго, здавалася, хочуць схаваць яго ад знявечаных хваробамі і нягодамі людзей, што паспешліва падыходзілі да гладка абчасаных агромністых гранітных валуноў, з якіх быў складзены некалі высокі, а цяпер глыбока ўрослы ў зямлю чатырохкутнік з плоскім дахам. Якія велеты-волаты ставілі адзін на адзін гэтыя ружова-шэрыя кубы, якіх не вытрымлівала на сваёй паверхні зямля, нібыта стараючыся вярнуць у свае нетры каменне, некалі гвалтоўна вырванае ў яе? Адкуль быў прывезены чорны паліраваны камень-квадрат, што стаяў на даху і быў таксама звернуты на ўсход, хто прарэзаў у ім тонкую, нібы валасок, адтуліну? Менавіта перад ім узнікла цяпер тоненькая постаць маладой жрыцы Жывены, нібы ўзнесеная на дах нейкай даўняй, таямнічай сілай, якою дыхаў увесь будынак свяцілішча. Яна стаяла спіной да вернікаў, і яны застылі як прыкутыя да сваіх месцаў.

І тады нібыта і сапраўды вялікая Багіня-Маці на імгненне адшмаргнула заслону, што аддзяляе багоў ад людзей, і жрацы, як аслепленыя, заплюшчылі вочы. І перад кожным праплыло тое, пра што ён думаў ці хацеў спазнаць. Святазару адкрылася: ён пражыве васямнаццаць гадоў, што аддзяляюць яго ад узросту дасканаласці; Жывене — той кавалак лугу, дзе расце трава, што вылечыць хворую дзяўчынку з селішча. Брутэн жа пакутліва сагнуўся, нібыта яго ўдарылі пад дых, і тут жа спалохана выпрастаўся. Пабляднеў, але рашуча закусіў вусны Істр, а Вакула ўздыхнуў з палёгкай…

Другі раз загучала біла. Тады жрацы сталі спускацца з вежы, толькі бубен працягваў рытмічна вывяргаць са свайго чэрава гукі, нібыта выкідаць круглыя гулкія мячы. Жывена ж усё стаяла тварам да ўсходу, працягнуўшы рукі да чорнага рассечанага прамавугольніка. І раптам першы, тонкі, як лязо, праменьчык дакрануўся да круглага медальёна, што быў умацаваны на металічным абручыку вакол галавы жрыцы, і тады разляцеліся ва ўсе бакі зіхоткія і ясныя, як маленькія маланкі, зігзагі святла, высветліўшы яшчэ цьмяную ў густым цені постаць жрыцы.

Залатая парчовая сукня яе і доўгія валасы — усё нібыта ўспыхнула разам з медальёнам, — адкінуўшы ў глыбіню дрэваў яшчэ схаваную там цемру, і прысутныя закрычалі вітанні так

голасна і ўзнёсла, нібыта і сапраўды сама багіня ранішняй зары з'явілася перад імі ўвачавідкі.

Калісьці, як запісана ў храмавым летапісе, яе клікалі Сур'яй, дачкой бога сонца. Але паступова імя перамянялася на Аўшру, пра якую ўжо тут складалі казкі — і пра тое, як закахаўся ў ранішнюю зорку-заранíцу ясны месяц, і пра тое, як, раззлаваўшыся на здраду, рассякло сонца ягоныя грудзі надвое. Але апошнія стагоддзі ўсё часцей мясцовыя славяне клікалі багіню Ляляй, і дзяўчаты прасілі ў яе прыгажосці і вабнасці. Вось і зараз сярод вітальных клічаў гучалі розныя імёны багіні, але ўсе аднолькава радаваліся прыгажосці, гэтаму нябеснаму дару, і ўсе, хто тут сабраўся, праглі, каб багіня дапамагла, упрасіла прыляцець Ашвінаў, бо толькі адна яна жыве паміж імі — сынам ночы і сынам світання.

У храме, пакуль яшчэ закрытым, пяшчотна пачала весці сваю прыхаматлівую мелодыю жалейка, яна пацякла, нібы струмень крыніцы, што прабіўся на паверхню, і жрыца, што стаяла наверсе, пачала спускацца ўніз, у храм, дзеля чаго адсунулася адна з плітаў, адкрываючы металічную лесвічку. Нібы падпарадкоўваючыся жалейцы, натоўп пачаў ціха, пасля ўсё гучней мармытаць свае просьбы:

Вялікія Ашвіны, Зара-зараніца, дапамажыце!
…Каб ножанькі мае пайшлі…
…Каб замуж мяне сёлета ўзялі…
…Каб маё чэрава стала плодным…

Вогненна-чырвоная зара, што ахапіла паўнеба, здавалася, пульсавала ў рытме музыкі і спеваў, якія паступова падпарадкоўвалі сабе ўсіх, хто тут сабраўся. І тады трэці раз нібы пракацілася па галовах меднае: «Гу-у-ух!».

Заварушыліся цяжкія гранітныя кубы; адпаўзаючы ўбакі, яны адкрывалі чэрава храма. Там, уверсе, скрозь вузкае акно з рознакаляровымі шклінамі цякло святло, адлюстроўваючыся ў бронзавых люстэрках, якія, нібы збіраючы прамяні ў адно, факусіравалі іх на трох барэльефах, што выступалі на шурпатай сцяне. Гэта былі два юнакі і дзяўчына з доўгімі валасамі, што трымаліся за рукі. Гірлянды кветак віселі на іх шыях, валасы дзяўчыны развяваліся — нібы вецер нёс іх высока над людскімі клопатамі. Але яны ўсміхаліся людзям. І тыя ўкленчылі перад боствамі, кладучы ля іх ног свае дары. Зноў загучала жалейка, жрацы павярнулі бронзавыя люстэркі. Нібыта выступіўшы са

сцен, выйшлі пад святло трое: дзяўчына ў доўгай парчовай сукні і два юнакі ў чырвоных шаўковых кашулях з залататканымі паясамі. Узяўшыся за рукі, як на барэльефе, яны пайшлі з храма, ведучы за сабою натоўп, які, апроч тых, хто не могісці, пацягнуўся за імі — енчачы, усхліпваючы, плачучы. Абышоўшы тры разы вакол храма, дзе ля сцен служкі паспелі паставіць мноства васковых свечак, троіца спынілася зноў ля ўвахода. Тут ужо стаялі тры крэслы з высокімі разьбянымі спінкамі; Жывена села пасярэдзіне.

Сёння быў яе дзень, таму Відэвут і Істр дапамагалі ёй: аглядаючы хворых, яна загадвала даць кожнаму свае лекі — пук зёлак, сцябліны, мох. Служкі дапамагалі жрацам: мазалі маззю ці мёдам барвова-сінія з'едзіны на скуры, бінтавалі палатнянымі сувойчыкамі і карою бяроз вывіхнутыя на паляванні рукі ці ногі. Цестам мазалі раны, што доўга не хацелі гаіцца. Але і той, хто атрымаў дапамогу, не адыходзіў, толькі садзіўся ў большай ці меншай аддаленасці ад храма і чакаў.

Жывена даўно прыгледзела сярод цяжкахворых таго, на кім яна павінна будзе сёння паказаць сваё ўмельства. Гэта была маладая дзяўчына з запалымі ліхаманкавымі вачамі, з доўгімі нерухомымі нагамі, што цягнуліся па пяску, калі яе, трымаючы пад пахі, падвалаклі да храма. Цёмныя валасы яе, спушчаныя над вухам у выглядзе пятлі, абярог, што вісеў на падраным сухажыллі, тоўсты карычневы андарак — усё выдавала застарэлы адчай і разам з тым выяўляла надзею, якою жыла гэтая, па ўсім відно, надзвычай уражлівая істота: у валасах скамечылася барвовая разетка шыпшыны, на андараку былі нашытыя тоўстымі барвовымі нітамі такія ж кветкі. Таму, калі ўсім, апроч тых, хто нерухома сядзеў, не маючы відавочных пашкоджанняў, была аказана дапамога, Жывена ўстала з крэсла.

— Я малюся за ўсіх вас, — сказала яна, — я за ўсіх прашу цудадзейных Ашвінаў, якія вяртаюць жыццё памерлым, вылечваюць сляпых і кульгавых, дастаюць з бездані тых, хто страціў надзею. Але цуд знаходзіць толькі таго, хто адкінуў прэч свае правіны і гатоў душою ачысціцца…

Яна гаварыла, а сама нібы адначасна звярталася да дзяўчыны:

— Усё, што ёсць у табе жывога, устрасяніся! Усё, што дасць табе каханне і свет, радасць і мацярынства, — паўстань!

Сіла, якую яна песціла доўгімі пакутлівымі маленнямі і ачышчэннямі, гадавала ў сабе пад прыглядам мудрага Святазара, абудзілася ў ёй і з кожнай хвілінай мацнела, нібы сыходзіла на яе з самых глыбінь Сусвету… Нібы Ашвіны, якія, як казала

вучэнне, былі народжаныя ад смеху маланкі, узнялі яе рукі і сказалі яе голасам:

— Падыдзі да мяне!

Ногі ў скураных поршнях заторгаліся, моцнымі рукамі хворая абаперлася на сваіх суправаджальнікаў… і раптам устала і, хістаючыся, пайшла да Жывены. Служкі паспелі падхапіць хворую за плечы, калі яна, спатыкнуўшыся, пачала падаць, зайшоўшыся ў істэрычна-радасным:

— Іду-у!

Знямелы ад убачанага, натоўп загаласіў, загалёкаў, заплакаў на розныя галасы, і раптам сярод бязладдзіцы галасоў пачулася:

— Залатая жрыца! Залатая жрыца! Ляля! Люба!

Жывена пераваяла дыханне, вочы заіскрыліся радасцю. Кожная жрыца Ашвінаў павінна была праводзіць абрад вылечвання ў дзень летняга сонцастаяння, а калі ён праходзіў няўдала, гэта зачыняла перад ёю дзверы храма на год, да наступнага разу. І год гэты быў суровы: пасты, ачышчэнні, падземныя храмавыя маленні гадзінамі, цэлымі днямі, а то і начамі. Яна пераваяла вочы на Відэвута і заружавелася: ён глядзеў на яе захоплена, вузкія вочы свяціліся сінім, тавусінавым* колерам, як у самацветаў на скураных шчытах Перуна і Вялеса. Кажуць, гэткі ж камень упрыгожвае алтар у Дзесяціннай царкве хрысціян у Кіеве.

Вернікі зноў заходзілі ў храм — дзякаваць Ашвінам і Аўшры, а таксама каб абкурылі іх духмяным дымам з бурштыну — празрыстага жоўтага каменю, што прывозяць з берагоў мора балтаў. Дым гэты адганяе злых духаў, нездарма абкурваюць ім у багатых сем'ях немаўлят і маладых перад першай шлюбнай ноччу.

Жывена павярнулася, каб ісці, але ногі яе нібы прыраслі да пяску — пад дубовымі шатамі, што зацянялі дарогу да ўсходняй брамы, стаяў нямецкі госць. Бясстрасны і нерухомы, нібы хваёвая іглінка, што застыгла ў бурштынавай смале раніцы, і такі ж колкі, ён глядзеў на яе здаля, і нельга было зразумець, што было ў позірку тэўтона: ухвала ці пагроза. Відэвут і Істр ужо спусціліся ў падзямелле храма, каб пакінуць там свяшчэннае адзенне, што апранаюць толькі для абрадаў. Юрна ціха шапнула ёй на вуха:

— Паспяшайся!

— Пазаві яго сюды, — гэтак жа ціха адказала Жывена. Юрна здзіўлена ўскінулася, але дзяўчына ўладна зірнула на яе, і прыслужніца нехаця падышла да нежаданага госця.

— Цябе кліча жрыца.

---

* Лабрадор называлі «тавусіным» (паўлінавым) каменем.

І, убачыўшы крыж на ягоных грудзях, адхіснулася з непрыязнасцю:

— Што ад нас трэба крыжакам?

Тэўтон не слухаў прыслужніцу, ён павольна, але ўпэўнена падыходзіў да Жывены.

— Ты выглядаеш, як чорны вястун няшчасця, рыцар Райнер. Што-небудзь здарылася з маім дзедам? Кажы хутчэй.

Рыцар адмоўна паківаў галавой.

— Тады з маёй цёткай Апфіяй?

— Наколькі я ведаю, яна таксама здаровая.

— Тады, значыць, ты прыехаў да вярхоўнага жраца, — з палёгкай уздыхнула Жывена. — Што ж, раз у нашай сям'і ўсё добра…

— Ты забылася на Яўлампію, жонку твайго дзеда.

— Так, я забылася на яе, — нецярпліва згадзілася Жывена. — Але, спадзяюся, і з ёю не спяшаецца ўбачыцца багіня Мара*?

— Ты ўсё смяешся… А я прыехаў… прыйшоў, каб падарыць табе вось што. Я еду адсюль у Рыгу.

З кашаля на поясе ён дастаў белую шаўковую хустку, разгарнуў — і дзяўчына ледзь не ўскрыкнула: рэдкай прыгажосці камень, густога аксамітава-чырвонага колеру, падобны да галубінага яйка, прымацаванага да сярэбранага ланцужка, зайграў адшліфаванымі гранямі, таямнічай глыбінёй, што, здавалася, не мела дна.

— Адкуль ён? Гэта, здаецца, піропас**? Але я ніколі не бачыла такога!

— Ён з Багеміі і вельмі старажытны. Бачыш, грані пашчэрбленыя.

— Аддай яго ў храм Аўшры. Толькі багіня можа насіць такое.

Райнер адмоўна пахітаў галавой.

— Я хрысціянін і даў клятву выкараняць паганства дзе магу і як магу.

— Але да нас ты прыйшоў.

— Я прыйшоў да цябе, унучка хрысціяніна. Госпад даў табе вялікі дар, але душа твая яшчэ не асветленая.

Дзяўчына нахмурылася.

— Мне няма часу гаварыць з табою. Ведай: я не прыму твой падарунак. У мяне няма нічога свайго, я толькі жрыца Ашвінаў.

Твар яго здаваўся выразаным ужо не з воску, а з каменю.

---

* Багіня смерці.

** Рэдкі сорт граната.

— Прашу цябе, вазьмі. Мне будзе прыемна думаць, што гэты камень упрыгожвае цябе яшчэ болей…

— Не!

Тады ён спакойна, без напружання, узняў цяжкі каменны падсвечнік, у якім аплывала вялікая свечка і які стаяў ля парога, і з усяе сілы апусціў яго на камень, што кінуў на парог. Пырснулі барвовыя аскабалкі, адзін з іх упіўся Жывене ў руку. Пацякла кроў.

— Ён апанаваны Лядашчыкам*! — спалохана прашаптала Юрна, але тэўтонец, сцяўшы сківіцы, крутануўся на месцы і хутка накіраваўся да брамы, не азіраючыся. Жывена працягнула руку і, гледзячы на пунсовы парэз, што струменіўся крывёю, пачала ціха шаптаць замову. Набажэнцы, якія яшчэ заставаліся перад храмам, глядзелі на яе спалохана і сцішана, як бы зноўку чакаючы цуда. А калі парэз на іхніх вачах стаў зацягвацца, нібы раствараючыся, яны ўкленчылі перад дзяўчынай, і было відно, як не хочацца ім ісці адсюль у свой звычайна-будзённы свет, дзе падсцерагаюць іх Карачун і Лесавік, альбо Аўсенік ці Лазнік, альбо казытлівыя русалкі, а над усімі — злавесная багіня смерці Мара. Тут, у храме, ім абяцалі і давалі абарону і дапамогу, і яны, падпаўзаючы да Жывены і стараючыся пацалаваць яе руку ці дакрануцца да сукні, шапталі:

— Залатая жрыца, думай пра нас!

— Цябе чакаюць, — зноў прашаптала ёй Юрна. — Святазар павінен зачыніць свяцілішча.

Тады маладая жрыца схамянулася. Яна ласкава адарвала ад сябе чэпкія рукі вылечанай ёю хворай і, развітаўшыся з усімі, накіравалася ў падзямелле, дзе, выйшаўшы з пакоя, куды мог уваходзіць толькі ён адзін, чакаў яе Святазар.

— Нядобрыя прыкметы, дзіця маё? — запытаўся ён, не чакаючы тлумачэнняў. — Я буду маліцца Ашвінам, каб яны перанеслі цябе праз нягоды.

Яна кіўнула галавой і, падышоўшы, пацалавала ягоную руку, як заўсёды адчуваючы пры ім прысутнасць яшчэ кагосьці, нібыта сапраўды багі ці нехта з іх апякаў вярхоўнага жраца, не бачны нікому, апроч яго самога. Святазар пачакаў, пакуль Юрна ў спецыяльна для Жывены адведзеным пакойчыку не пераапране сваю паненку ў доўгую льняную кашулю, а пасля разам з імі выйшаў з ніжняга храма, старанна зачыніўшы дзверы, каваныя ўзорыстым жалезам, сваім ключом. Так павялося яшчэ пры

* Злы дух у славян.

ранейшым вярхоўным жрацы, калі аднойчы цікаўны служка, што парушыў запавет і зазірнуў у святая святых храма, памёр пакутлівай смерцю.

Калі яны накіраваліся да ўсходняй брамы, да іх наблізіўся Яр. У прыгаршчах ён трымаў вогненныя аскабалкі граната, і было падобна да таго, што ён нясе распаленае вуголле.

— Можа, упрыгожыць імі калясніцу ў храме? — запытаўся ён. — Там справа як бы не хапае ўзораў…

Святазар запытальна паглядзеў на Жывену, дакрануўся да зіхоткіх крышталікаў.

— Падарунак даваўся з пяшчотай, але цяпер ён напоўнены крыўдай і гневам, — яго словы прашалясцелі, як зямля, што асыпаецца пад рыдлёўкай. — Аднясі іх далёка ў лес, і каб побач не праходзіла ані сцяжынкі, ані дарожкі. Ты нарадзіла гнеў, — дакрануўся ён да пляча маладой жрыцы, — а гэта нядобра. І так усе тыя, каго багі заклікалі дапамагаць ім, мы, хто прыйшоў служыць светлым сілам, не паспяваем абясшкоджваць усю тую атруту і чарноцце, якія насылаюць адзін на аднаго людзі.

— Але, мудры Святазар, — з адчаем загаварыла Жывена, — я прасіла яго аддаць гэты дар Аўшры, а ён адмовіўся. Ён ненавідзіць нашых багоў і яе, багіню ранішняй зары і прыгажосці, дачку Сонца і Агню!

— Адкрытае сэрца, каму б яно ні адкрывалася, нельга зневажаць. Трэба было падзякаваць і прыняць. Ты магла б пасля аддаць камень у храм. А ён паехаў бы ў свой край суцішаны. Цяпер жа Зло стала працаваць, і толькі багі ведаюць яго шляхі.

Яны ўжо выйшлі да Менцязі. Таямніча-глыбокае, атуленае агромністымі дубамі і ялінамі, возера пералівалася пад ранішнім, ужо гарачым сонцам безліччу лускавінак, якія здаваліся жывымі.

— Яны жывыя, — нібы адказаў на думкі дзяўчыны стары жрэц. — Ты ж гэта ведаеш. У свеце няма нічога мёртвага. Што ж… Ты пагавары з імі. А я адпачну, шчурачка* ты мая…

Яр, што нячутна ступаў ззаду, падхапіў Святазара пад локаць і беражліва павёў да асобнай святліцы, якая ўся, з ганка да даху, глядзела ў возера вачыма дзіўных звяроў і птушак, драўляныя выявы якіх пацьмянелі ад дажджоў і шматгадовых зімаў, але затое набылі ў сабе нешта як бы жывое. Істр не раз казаў, што не здзівіцца, калі якое-небудзь стварэнне сыдзе з бэлькі і ашчэрыцца на непаслухмянага…

Жывена трохі пастаяла на беразе, стараючыся, каб неспакойны яе дух злавіў тое рытмічнае трапятанне, якім жыве возера

* Ласкавае ад назвы бога Чура. Тут у значэнні — нашчадак.

(як, зрэшты, і любое дрэва, і нават камень), каб увайсці ў яго і тым памагчы сабе зноў набыць сваю звычайную ціхамірнасць. Ды ўсхваляванасць ад сённяшніх падзей была мацнейшаю. Яна пайшла да сябе ў тым жа гарача-ўзрушлівым настроі, які не адпускаў пасля сустрэчы з Райнерам, і, лежачы на ложку, сярод белых фіранак, што ўздымаліся ветразямі бачаных ёю толькі ў кнігах лодзій, успамінала сваё кароткае шаснаццацігадовае жыццё і людзей, што ўваходзілі ў яго то светла і радасна, то трывожна і загадкава… Яна зазірала і ў сваё пераджыццё, думаючы аб тых, чыя кроў пульсавала ў ейным юным целе і чые лёсы так ці іначай кламіся рознакаляровымі метамі на яе жыццё.

Стары Святазар таксама думаў пра яе. Але ён ведаў болей і болей бачыў у мінулым, чым іншыя. Таму, праз стому і боль у бязважкім, як асенняе лісце, целе ён убачыў такі ж бязмерна-светлы і калыхлівы, як Менцязь у берагах, дзень, калі на гадавое свята Ашвінаў прыехаў у храм літоўскі князь Міндоўг. Ён любіў прыязджаць у Новагародскае княства, таму што тут заўсёды сустракаў прыязнасць, якою абдзялялі яго родзічы ў Дайнове, Нальшчанах, Дзяволтве дый іншых суседніх княствах, баючыся там узвышэння гэтага баявітага, натапырлівага і ўпартага валадара Руты. Святазар ведаў, што адной з першых жонак гэтага язычніка была хрысціянская князёўна аднекуль з Цверы, чаму яму і давярала новагародскае баярства. Аднак ведаў ён і тое, што Міндоўг моцна верыць старым багам і стараецца ўсюды, дзе бывае, прыйсці на пакланенне ці то багіні кахання Мілдзе, ці Перуну, ці ўсім тым больш-менш значным багам, якія альбо дапамагаюць, альбо перашкаджаюць чалавеку: Ненадзею і Целявелю, Лайме альбо Цёці, а яшчэ — стыхіям вады і зямлі, лесу і перакрыжаванняў. Любіў ён і гаданні, таму пры двары часта бывалі то заклінальнікі змеяў, то жрацы-гадальнікі па печані барана, па птушках і звярах, па дыме свечкі і па вадзе. Таму прыняў Святазар князя з вялікай пашанай, аднак багі ў той дзень маўчалі і не азваліся на просьбы жрацоў. Міндоўг, азмрочаны іх няміласцю, можа, і з’ехаў бы з Храмавага горада, каб не прыгледзеў тут прыгажуню — жрыцу.

Рысы яе, дый імя, амаль сцерліся з памяці Святазара, аднак у гэтую ноч ён успомніў яе так ясна, нібыта ўсё гэта было не сямнаццаць гадоў таму, а ўчора. І, лежачы, ён раптоўна нібы скочыў у той час, тыя хвіліны і ўвачавідкі ўбачыў, як усё адбывалася…

Жрыца стаяла перад Міндоўгам, абрысы яе гарачага, моцнага цела трапяталі ў зыркім, ярасным агні кастрышча, раскладзе-

нага непадалёку ад возера. Сквірчэла, дымілася туша дзіка, упаляванага пад вечар, кроплі тлушчу падалі ўніз бліскучымі дымлівымі струменьчыкамі, і яліны нібы адмахваліся ад іх, калыхліва гайдаючыся паабапал вогнішча.

— Святазар прыслаў табе зёлкі, якія ты прасіў, — дзяўчына працягнула яму палатняны мяшэчак, Міндоўг махнуў грыдню, каб той прыняў яго. Сам жа прагна ўглядаўся ў вабны твар, на якім выдзяляліся пульхныя вішнёвыя вусны.

— Падыдзі бліжэй, не бойся.

Жрыца сарамліва зірнула на яго і тут жа адвяла вочы. Яе нястрымна цягнула да гэтага грубага, як каменны ідал, мужчыны, ад якога пахла крывавымі вантробамі толькі што растрыбушанага дзіка. Слава ўдачлівага воя суправаджала яго ўжо многія гады, яшчэ дзяўчынкай чула яна сказы-перoccказы пра ягоныя перамогі над тэўтонамі, палякамі ды яцвягамі, і, як дзяўчынка, трапятала перад ім.

— Я не баюся.

— А сама дрыжыш! Гэта табе стары Святазар загадаў, каб ты адразу назад ішла?

Яна кіўнула, а ён ужо схапіў яе за локаць магутнай далонню. Усадзіў каля вогнішча амаль сілком.

— Зараз павячэраем і пойдзеш.

Яна адмаўлялася, але ён наліў ёй моцнай медавухі. Угаварыў выпіць глыток, пасля яшчэ і ўсё кранаўся яе гэтымі моцнымі, шурпатымі, як яловая кара, далонямі, сціскаў, спачатку лёгенька, пасля ўсё мацней і гарачэй яе плечы, пасля сцёгны… некуды зніклі слугі-воі, нахіліліся над ёю і схавалі ад усяго свету яліны… Ад усяго свету, ад Святазара…

— Вярхоўны жрэц заб’е мяне! — тузалася яна, каб устаць, а ён смяяўся і, агладжваючы яе, як наравістую кабылку, прыгаворваў:

— Нашто ж пасылаў цябе вярхоўны жрэц сюды? Ён ведае, што я люблю прыгожых.

— Ты папрасіў…

— Мала што я прашу!

— Але ж ты князь…

— Я найперш мужчына. І ён ведаў, што ты зачаравала мяне, нібы берагіня. А ты такая ж, як яны… белая, празрыстая, мяккая…

Ён шаптаў, нібы трызніў, і яна забылася на ўсё, гайдаючыся ў яго рытме, рытме шалёным, як біццё сэрца ў разгарачанага паляваннем драпежніка… і на кароткае імгненне, калі яна яшчэ

раз паспрабавала вырвацца, увачавідкі ўбачыла, што іскрынкі ад вогнішча нібы ператварыліся ў белыя пёркі, нібы коршун ірваў галубку, і гэтай галубкай была яна.

Святазару, што выклікаў гэтую карціну з мінулага, памроілася таксама: белае пёрка закружылася над мужчынам і жанчынай, нейчая душа прагне ўвасобіцца ў жывую плоць быцця і пачаць сваё існаванне на зямлі. І ён адчуў радасць, смутак і палынны прысмак віны адначасна. Радасць і смутак былі ад таго, што бясконца, з веку ў век, наканавана чалавеку нараджацца, паміраць і зноўку ўваскрасаць у бліскавічна-хуткім коле, што не спыняецца ні на імгненне. Віна ж ягоная была перад маладой жанчынаю, якую ён сапраўды згадзіўся пасланць да слодычалюбнага князя з зёлкамі. Думалася — а раптам назаўжды прывяжа да сябе маладая жрыца гэтага воя і ўладара і, стаўшы княгіняй, дапаможа храму і язычніцтву ў краі. Міндоўг страціў жонку-хрысціянку з Цверы, і яму патрэбная была б такая, якая не забывае старых багоў. Але не атрымалася нічога з ягонага жадання: хутка пачалася нейкая вайсковая звада ці то з палачанамі, ці то з пляменнікамі Міндоўга, і ён болей не зазіраў у храм. А пасля нарадзілася Жывена, а маці яе памерла пры родах, нібыта выканаўшы свой зямны абавязак.

На пахавальным кастрышчы ён, вярхоўны жрэц, адчуваў, што паліць разам з целам жанчыны і сваю ганьбу, хавае яе ў нетрах памяці і часу. Аднак і цяпер, кожны раз, калі глядзеў на Жывену, успамінаў, як маці яе прымала ад яго лекі, а вочы глядзелі даверліва-радасна, бязмерна аддана; яму, старому і мудраму настаўніку, яна, мабыць, гэтак жа пакорліва падставіла б і горла… яно, помніцца, было дрыготка-белае, як у толькі што народжанага ягняці.

Зарубка на свяшчэнным дубе; страла ў драўляных грудзях Перуна; незгаральны касмыль лёну на кастрышчы — вось чым была для яго гэтая гісторыя. А ўсю яе ведалі толькі звяздар Вакула ды Сава, але апошняя, відаць, забылася на яе. Як забываецца часам, на якім яна свеце… А Вакула вылічыў па зорках, што набліжэнне да князя Міндоўга стане для дзяўчынкі пагібельным. Аднак хіба могуць слабыя, як саломінкі на ветры, людзі затрымаць ход зорак альбо магутную навальніцу жыцця? Калі, вярнуўшыся з паломніцтва да Афона, прыехаў у храм знатны баярын Агапій, каб пабачыцца з дачкою, і даведаўся аб усім, адно схаваў ад яго Святазар — імя бацькі. Сказаў толькі, што ў свяшчэнную купальскую ноч панесла маладая жрыца, і, хутчэй

за ўсё, дапамаглі ёй у тым багі. І папярэдзіў, што прынясе ягонай унучцы пагібель літоўскі князь.

І хто мог тады прадбачыць, што Міндоўг стане хрысціянінам і прыедзе ў Новагародак, дзе адным з самых магутных баяр будзе якраз Агапій? Агапій, які палюбіў унучку і бясконца браў яе з храма да сябе, каб яна разам з ягонай дачкой вучылася ў настаўніка-грэка? І стары жрэц думаў пра тыя часы, калі ён разам з бацькам Агапія пачынаў служэнне ў храме Ашвінаў, і стараўся ўбачыць тыя непрыкметныя на першы погляд падзеі, якія завязваюцца вузламі для наступных пакаленняў і заўсёды маюць не толькі прычыну, але і следства…

Можа, таму, што пра яе ў гэтую ноч думаў стары Святазар, начныя роздумы і трызненні юнай Жывены былі надзвычай яркія і аб’ёмныя, нібыта яна бачыла іх праз павелічальнае шкло, якое толькі падчас самых вялікіх і складаных абрадаў даставаў з патаемных глыбінь храма вярхоўны жрэц.

Вераснёўскім днём 1246 года, калі маленькая Жывена ўслед за жрацамі толькі паспела даспяваць урачысты гімн Аўшры, служка Яр узяў яе ў прыхапак і знёс з каменнай вежы, каб пасля пасадзіць у вазок, дзе чакаў дзяўчынку стольнік Нар, спецыяльна пасланы сваім гаспадаром, баярынам Агапіем. Разгрузіўшы вазок з дарагімі падарункамі — кавалкам парчы, сасудамі з бабровым струменем і ружавым маслам, грабянцамі з самшыту, якімі прычэсвалі льняныя пасмы багіням Аўшры і Мокашы, Нар хацеў быў ехаць назад, але нечакана напала на яго трасца, якую ўдалося выгнаць толькі пасля апоўначы. І цяпер ён спяшаўся — накрыў чатырохгадовую Жывену футрам, абцягнутым шаўковай тканінай, каб, не дай Пярун, не прахапілі б яе ні Трасца, ні Ліхаманка, ні Начніцы, якія, пэўна, не ўсе ўцяклі яшчэ ў свае лясныя бярлогі.

Як ні борзда ўздымаў ранішні пыл сыты баярскі конь, аднак сонца добра набрала сілу, калі ўязджаў вазок у Новагародак, і стольнік вырашыў кіраваць адразу да старажытнай царквы Барыса і Глеба. Там павінна была вось-вось пачынацца падзея, якою жыў сёння ўвесь горад, дый, бадай што, і ўсё Новагародскае княства: хрышчэнне новага вялікага князя Міндоўга з сям’ёй і многімі ягонымі знатнымі людзьмі. Але праехаць да самой царквы стольніку не ўдалося. Таму, адпусціўшы кучара, ён узяў за руку маленькую Жывену і, з праклёнамі і пагрозамі расчышчаючы шлях, прабраўся нарэшце да самой храміны, спецыяльна пабеленай да ўрачыстасці.

Агапій, высокі, плячысты, узвышаўся над субяседнікамі, сярод якіх стольнік убачыў дзьмухаўцова-белага старца Давілу, родзіча памёршага князя Ізяслава, які гадоў з дваццаць нікуды не выходзіў, а таксама многіх славутых людзей новагародскіх, апранутых па-святочнаму: у кашулі з атласу чырвонага, сіняга, зялёнага колеру, высокія шапкі, аблямаваныя футрам; і на кожным было то асляпляльна-бліскучае, то высакародна-матавае багатае карзно-плашч, што замацоўваецца на плячы сярэбранай ці бронзавай фібулай. Палюбаваўшыся на плашчы і зайздросна ўздыхнуўшы, Нар перадаў Агапію ўнучку, але той уладна махнуў рукой, і тут жа падбегла да яго дачка Апфія і адвяла дзяўчынку да купкі знатных жанчын Новагародка, што таксама стаялі непадалёк. Стольнік толькі пакруціў галавой, агледзеўшы баярынь: парчовыя і шаўковыя хітоны, упрыгожаныя залатой тасьмой, паласой з жэмчугу ці проста абшытыя каштоўнымі камянямі, што яны пераліваліся на сукнях, як кропелькі ранішняй расы. Кароткія каптанчыкі, таксама падбітыя футрам, альбо накідкі — футры былі самых наймодных колераў, гэтак жа як і павоі на жаночых галоўках, і вяночкі, і бісерныя павязкі. І трымаліся жанчыны ганарліва, з годнасцю, як і належала тое жыхаркам багатага прыгожага горада, што вёў гандаль з самой Візантыяй і далёкімі ўсходнімі гарадамі.

— Кажуць, Міндоўг сам аглядаў кожнага са сваіх вояў, каб не з'явіўся каторы на хрышчэнне са звярыным лобам аблупленым* замест шапкі, — казалі між сабой жанчыны, мужчыны ж болей гаварылі пра тое, ці прынясе карысць новагародцам укняжаванне чужога, не спадчыннага князя.

Тым часам з боку замчышча пачуліся вітальныя крыкі, яны набліжаліся, і цівуны сталі вызваляць дарогу для шэсця, адпіхваючы простых людзей уніз, да падножжа ўзгорка, на якім стаяла царква, а пярэднім загадваючы стаць на калені.

Загулі доўгія жамойцкія драўляныя трубы, а таксама валынкі, затахкалі бубны; ад замка да царквы накіравалася святочнае шэсце. Наперадзе на шэрым у яблыках кані ехаў Міндоўг, побач — княгіня Мілена, за імі, насцярожана ўзіраючыся ў твары новагародцаў, вoі літоўскага князя. Па тварах некаторых адчувалася, што ім моцна не хацелася ўдзельнічаць у абрадзе. Маладзейшыя ж глядзелі весела і зыркалі па баках, нібыта ўжо зараз вышуквалі тут сваю долю. Апранутыя яны былі ў большасці ў белыя льняныя кашулі з вышыўкамі, закрытымі

* Так апавядае летапіс пра язычнікаў-вояў Міндоўга.

спераду скуранымі шчытамі, у чорных альбо шэрых портках, са скуранымі ж абручамі вакол бялявых галоваў. Былі сярод іх і цёмнавалосыя — мабыць, яцвягі. Святочны аршак прыезджых выглядаў значна больш сціплым, чымся натоўп, што сустракаў іх ля царквы. Аднак сёдлы пад імі, а таксама мячы і кінжалы, што выглядалі з похваў, прымацаваных да конскіх шыяў, красамоўна сведчылі аб вайсковым шчасці і зухаватасці, і народ, спачатку нясмела, стрымана, а пасля ўсё болей гучна стаў крычаць:

— Міндоўг! Міндоўг! Люба!

Міндоўг, выставіўшы наперад плячук, трымаўся на кані ўпэўнена, але чэпкія рукі яго неспакойна перабіралі конскія павады. Трохі пасівелыя валасы з-пад шапкі, абшытай перламі, не хавалі вострых зялёных вачэй, гэтак жа як барада і вусы — няроўных белых зубоў, моцных, як у ваўка, што адкрывала, нястрымна наплываючы на ягоны твар, усмешка задаволенасці. Яму хацелася думаць аб хрышчэнні — галоўны святар Новагародскай зямлі тыдзень біўся, тлумячы сабе голаў імёнамі паганскіх багоў, якіх хацеў выгнаць з душы гэтага язычніка, — але бачыліся твары родзічаў, далёкіх і блізкіх, якія думалі забраць ягоную зямлю, цешачыся надзеяй, што пасля паразы пад Амботэнам ён, Міндоўг, саслабеў і не зможа абараняцца. Зласліва думалася аб тым, як ён неўзабаве пачне рыхтаваць да вайны новагародскае войска, і тады мацнеў белы няроўны выскал усмешкі.

Княгіня Мілена таксама ўсміхалася. Але ейная ўсмешка была роўна такая, якой і належала быць усмешцы жонкі валадара: стрыманая, як бы ўзнесеная над людствам. Яе разглядалі з прагнай цікаўнасцю: дзеля гэтай жанчыны забіў Міндоўг яе мужа, булевіцкага князя Вішымунта, а таксама ягоных братоў Едывіла і Спрудэйку, якія б маглі за гэта помсціць. Разглядалі доўгую белую сукню з сярэбранымі пранізкамі, што віліся па падоле спіраллю, і тую ж спіраль на сярэбраным з ланцужкамі поясе, што шчыльна ахопліваў амаль дзявочы стан, тоўстую попельную касу, замацаваную на патыліцы шпількамі з эмалевымі галоўкамі, што выглядалі з-пад шытага срэбрам каптурыка — невысокай шапачкі з вушкамі, таксама нязвыклай для мясцовых прыгажунь. Але ні на кім не спыняліся яе вялікія блакітныя вочы, што адлівалі дзіўным адценнем, нібы і да іх таксама дадалі серабра, якога так багата было на ёй. Каля царквы да яе працягнуліся рукі знатных новагародскіх баяр, каб дапамагчы сысці з каня, але яна, спакойна абвёўшы ўсіх вачыма, працягнула рукі да невысокага сухарлявага юнака, які ехаў за ёю і Міндоўгам і, здаецца, не зважаў на яе аніякай увагі. Той, убачыўшы скірава-

ныя на яго вочы, сумеўся, падняў галаву і, увесь успыхнуўшы, хацеў быў адвярнуцца.

— Войшалк! — нягучна прамовіў Міндоўг.

Тады юнак, нялоўка скочыўшы з каня, прыняў княгіню, якая спакойна гэтага чакала. Кароткае імгненне здавалася, што юнак не здолее ўтрымаць маладую жанчыну і ўпадзе разам з ёю, ды баяры дапамаглі, падтрымалі абаіх. Шаленства палыхнула ў зялёных вачах Міндоўга, але не знік белы няроўны выскал усмешкі, калі, узяўшы жонку за руку, павёў яе ў царкву, куды за імі пайшлі астатнія, і амаль апошнімі ўціснуліся туды Апфія са сваёй маленькай пляменніцай ды маці яе Яўлампія, якая затрымалася, каб апырскаць сябе ружавай вадой і паправіць вялікі залаты крыж на высокіх пульхных грудзях. Аднак Апфія, гнуткая і вёрткая, як яшчарка, змагла неўзабаве праціснуцца ажно да царскай брамы, ледзь не ўпрытык з маладым княжычам Войшалкам. Яна так упарта і цікаўна сачыла за кожным ягоным рухам, што ён урэшце і сам стаў час ад часу пазіраць на незнаёмую дзяўчыну, амаль падлетка, якая трымала за руку чатырохгадовую дзяўчынку. Побач з Войшалкам стаяла ягоная сястра — худзенькая дзевяцігадовая князёўна з заплецenымі на скронях тонкімі коскамі, з прадзетымі ў валасы колцамі, у кашулі, вышытай белымі ж нітамі, упрыгожанай шыйнай грыўнай і такімі ж, падобнымі да манжэтаў, бранзалетамі, нашытымі на тканіну. Відаць, нядаўна ўзятая за жонку прыгажуня не надта песціла падчарку: тая неспакойна зіркала навокал і непрыкметна для сябе самой як бы старалася трымацца наводдаль ад княжацкай пары. Амаль прытуліўшыся да Апфіі і маленькай Жывены, яна нагадвала маленькага спалоханага звярка.

Дачка імянітага баярына заўважыла гэта. Яна падбадзёрліва пагладзіла дзяўчынку па плечуку, як бы здымаючы ў той нябачную пушынку, і ветліва паказала вачыма, што трэба пасунуцца бліжэй да царскай брамы. Князёўна слаба ўсміхнулася ў адказ, тварык яе, як бы сціснуты напружаннем, страхам памыліцца і ўвогуле боязззю перад чужымі, паружавеў і паспакайнеў. Войшалк, спачатку таксама напружаны і як бы зацяты, злагоднеў: ён пасунуўся, вызваляючы сястры зручнейшае месца, так, каб паміж княжацкай сям'ёй і натоўпам баяр заставалася даволі месца, і ўвесь астатні час, пакуль ішоў абрад, апекаваўся сястрою.

Калі, добра апырсканыя вадою, з залатымі крыжыкамі на грудзях, яны выйшлі з царквы ўслед за Міндоўгам і ягонай жонкаю, Войшалк абвёў вачыма натоўп і, выгледзеўшы Апфію, паклікаў да сябе.

— Вы чые?
— Баярына Агапія дачка. А гэта, — Апфія паказала на Жывену, — унучка.
— Так… — Войшалк раздумваў. — Як цябе завуць?
— Апфія.
— Гэта што — грэцкае? Нязвыклае тут… Дык, значыць, бацька добры хрысціянін. Нябось, хадзіў паломнікам?
— Хадзіў, княжыч.
— У манастыры паслушнікам жыў, але пасля перадумаў, вярнуўся на радзіму, — салодка заспявала, усміхаючыся княжычу, Яўлампія, што таксама далучылася да іх.
— Я скажу… папрашу бацьку, каб цябе ўзялі ў двор. Маёй сястры патрэбна такая, як ты.
— Калі мой бацька згодзіцца… — пачала Апфія.
— Ён згодзіцца! — абарваў яе Войшалк.
Апфія наравіста тарганулася, хацела змоўчаць, але не сцярпела:
— Новагародцы, княжыч, не падобныя да твайго ляснога народу…
Бровы княжыча грозна ссунуліся:
— З сённяшняга дня бацька мой і сярод новагародцаў першы!
— Твой бацька так не гаворыць з баярамі, ён клянецца паважаць вольнасць нашу!
Супраціўленне падлетка, відаць, раз’юшыла княжыча, ён схапіў дзяўчыну за руку, нібыта збіраючыся шпурнуць на зямлю. Але тут маленькая Жывена падбегла да яго і, абшчаперыўшы ручкамі ягоныя калені, загаварыла, ледзь не плачучы:
— Апфія добрая, а ты… злы! Ты як Лядашчык!
Княжыч апамятаўся, моцна пабляднеў. Некалькі імгненняў, згасаючы тварам, глядзеў на дзеўчаня, што, задраўшы золатавалосую галоўку, грозна зіркала на яго. Моўчкі, непрыветна пазіралі на маладога княжыча і тыя з баяр, якія затрымаліся ля царквы і не спяшаліся ўслед Міндоўгу.
Тады хлопец нахіліўся, узняў Жывену перад сабой і сказаў, пачціва схіляючы перад ёю галаву:
— Ты перамагла мяне, маленькая рачніца*. Я, канешне, пагарачыўся, але я вельмі хачу, каб твая Апфія дапамагала маёй сястры. А ты згодная?
Усе з палёгкай заварушыліся, засмяяліся. Яўлампія голасна праспявала:

* У значэнні — русалка.

— Прабач, княжыч, маю дачку, яна, як і я, таксама з княжага роду, продкі нашы…

Войшалк не слухаў баярыню, неадрыўна глядзеў на дзяўчынку, якая таксама не зводзіла з яго вачэй.

— Дык я Лядашчык, злы дух?

Жывена, не адводзячы пагляду, раптоўна пахітала галавой:

— Ты не злы. Ты нейкі… няшчасны.

І, пацягнуўшыся ручкамі да шыі княжыча, раптоўна абвіла яе, прыціснулася да грудзей, а ён, уражаны, як і ўсе навакольныя, таксама нечакана для сябе моцна прыціснуў пяшчотнае, пругкагарачае цельца, але тут жа, як засарамаціўшыся, апусціў малую на зямлю і буркліва загадаў-кінуў Апфіі:

— З заўтрашняга дня.

Агапій, паслухаўшы аповед аб тым здарэнні, пакруціў галавой, задумаўся, пасля парашыў:

— Мне ў двары свой чалавек патрэбны. Бач ты, як семя Міндоўгава на нас узлезці хоча! Ды мы крамяністыя, а на крэмені не надта пасееш!

Так Апфія перайшла жыць у княжы драўляны замак, дзе раней жыла сям’я Ізяслава, якая цяпер пераехала ў новы мураваны дом ля дзяцінца. Міндоўг, агледзеўшыся тут і абжыўшыся, вырашыў будаваць на гары, велічэзна ўзнесенай над усёй навакольнай зямлёй, харомы, вартыя князя, што паяднаў Літву і Новагародскую зямлю. Хаця тое паяднанне толькі пачыналася, і нездарма на хрышчэнне не прыехалі родзічы-язычнікі, што спадзяваліся захапіць ягоныя землі, а цяпер трымцелі перад новым узвышэннем моцнага, як ніколі, князя, сам ён не сумняваўся, што даб’ецца свайго. Яго дзяржава будзе магутнай, яго продкі, сярод якіх былі і вешчуны, нездарма ведалі старое родавае паданне аб тым, што нехта з іх праславіць сябе навекі. Цяпер нібыта збывалася тое…

Сабе ён узяў пакоі, вокны якіх выходзілі на даліну, а на горад — толькі адно. Войшалку ж жадалася глядзець на горад — часта ўставаў уначы і слухаў, як ходзіць варта, пераклікаецца, пераразаючы цемру вогненнымі палосамі смалякоў.

Сястра яго, Ваверыца, што атрымала ў хрышчэнні імя Алены і моцна ад таго перажывала, таксама спала блага, хваравітыя яе ночы былі запоўнены трызненнем, плачам, ад чаго Апфіі не часта даводзілася начаваць у роднай хаце. Але паколькі баярскі дом быў непадалёку, яна ўпохапкам адведвала маці і бацьку; Яўлампія прагна, нібы далоні пад лузгавінне, гатова была падстаўляць

цікаўныя вушы пад вадаспад навінаў аб тым, што любяць і носяць новыя ўладары. У сваю чаргу Ваверыца-Алена таксама прагна распытвала сваю прыдворную аб жыцці новагародцаў, і нават сама Мілена, якая не хацела забыцца на былое сваё імя багіні кахання Мілды, часцяком выпытвала бойкую і паслужлівую Апфію, як спадабаецца ганарлівым модніцам-баярыням яе новы ўбор. Ад вострых вачэй княгіні не схавалася нейкая асаблівая пяшчота пасынка яе Войшалка, якую той адчуваў да маленькай Жывены, якая зрэдзь разам са сваёй маладой цёткай завітвала ў княжы замак.

— Яна ж язычніца, слаўны мой Войшалк! — казала яна, прыжмурваючы вочы, як прыгожая пушыстая кошка. — І не проста язычніца, а будучая жрыца. Як жа ты, такі хрысціянін, не грэбуеш гэткім чарцянём?

Войшалк звычайна адгаворваўся альбо ішоў прэч. Ён не казаў нікому, што баярын Агапій адмовіў княжычу, калі той настойваў на хрышчэнні дзяўчынкі:

— Як ні ганарова для нас мець за хрышчонага бацьку самога княжыча, але даваў я брату свайму, жрацу Ашвінаў, клятву, што нехта з нашага роду заўсёды будзе служыць храму. А бацька мой, якога я страціў малым, такую ж клятву даваў прадзеду нашаму. Як я на Дзяды продкаў сустракаць буду?!

Войшалк сам не ведаў, чаму яго так цягне да дзяўчынкі. Часам, калі княгіня, нявінна гледзячы на яго блакітнымі, з сярэбрана-металічным бляскам вачыма, пацвельвалася з таго, што, мусіць, сумуецца княжычу па ўласнай сям'і, ён гатовы быў агрызнуцца так, каб ніколі болей не хацелася гэтай гнуткай, як змяя, жанчыне кранаць тое, што стараўся схаваць глыбока-глыбока ў душы. Так, малады княжыч некалі марыў аб сям'і і ўласных дзецях, але ніводная з жанчын, з якімі быў блізкі, не зацяжарала ад яго. Жрацы ж, да якіх звяртаўся, прадраклі страшнае — ніколі, ніколі не будзе ў яго дзяцей, нічыё каханне не запаліць у ім свяшчэннага агню, ад якога злятаюць на зямлю душы, што прагнуць увасобіцца ў чалавечую зямную істоту. А калі так, то нашто заводзіць сям'ю і выстаўляць перад усімі патаемнае? І княжыч усё болей цікавіўся манастырамі, цэрквамі, боскім, душою як бы адварочваўся ад нялёгкіх справаў княжання. Міндоўг жа, наадварот, прагна спрабаваў захапіць паболей улады, яму хацелася б цэлы свет засяліць сваімі нашчадкамі, але княгіня, мабыць, не хацела шмат раджаць: яна, як магла, ухілялася ад шлюбнага ложа, але рабіла гэта ласкава, угаворліва, асцерагаючыся мужа. У замку, аднак, яе хутка сталі баяцца

нават болей, чымся Міндоўга, і Ваверыца-Алена, змушаная сядзець насупраць мачыхі, скардзілася Апфіі, што кавалкі ежы застраюць у ейным горле кожную раніцу… Міндоўг, аднак, не надта спрабаваў да чаго-небудзь прымушаць княгіню — можа, таму, шапталіся слугі, што толкам не ведае, даравала ці не яна забойства свайго мужа, якога, па чутках, кахала. Апфія аднойчы на свае вушы чула, як падчас спрэчкі, калі князь выгнаў усіх слуг і якія, аднак, стаіліся пад дзвярыма, раз’юшаны валадар, гахнуўшы кулаком па дубовым стале, зароў так, што задрыжалі вялікія каляровыя вазы на паліцах:

— Захачу — будзеш ногі мне цалаваць!

А ў адказ прамурлыкаў сярэбраны голас:

— Тады твае сыны, што народзяцца, будуць не ільвамі, як ты, а манахамі, як вось ён…

Тады ж упершыню пачулі прыдворныя шалёны рык Войшалка:

— Назавеш яшчэ раз манахам — заб’ю!

Тады жанчына, як кінуўшыся ў ваду, загаварыла чужым, незнаёмым голасам (нібы рвалася палатно, падумала Апфія):

— Вы мяне і так забілі, твой бацька забіў!

— Мілда, замаўчы! — зноў стукнуў па стале Міндоўг.

— А я так прасіла цябе пакінуць Вішымунта жывым! Жывым!

— О, як ты шкадуеш яго! Мяне ты так не пашкадуеш! — голас князя асеў на самыя нізкія, з гудзеннем, гукі. Войшалк жа выскачыў са святліцы, стукнуўшы дзвярыма так, што адвалілася жалезная клямка, мусіць, нядбайна прыбітая, і заенчыў стольнік Мікіта, што не паспеў адскочыць ад дзвярэй.

Пакуль усе стаялі, чакаючы покліча князя, самая харобрая, Апфія, зноўку падкацілася пад дзверы, прыадчыніла іх. Тады слугі ўбачылі, што Міндоўг цвёрда падышоў да як бы пераламанай плачам княгіні і ўсхапіў яе на рукі.

— Калі б застаўся жывым Вішымунт, прыйшоў бы забіць мяне. А мёртвы не ўстане. Затое ты не нейкая там булевіцкая княгіня, а новагародская. Но-ва-гарод-ская!

Пасадзіў яе на магутнае, як сцягно вепрука, калена, стаў гайдаць, як дзіця. Убачыўшы прыадчыненыя дзверы, схапіў шкляную вазу і штосілы шпурнуў у шчыліну. І зноў аскабалкамі пабіла цікаўнага стольніка, што, адпіхнуўшы Апфію, упліўшчыўся ў шчыліну.

— Кроў цурком па твары, тата! — расказвала дзяўчына. — Аддала яму хусціну з залатой камкай, бо ён бы і так выцяг яе з кішэні!

Агапій жа гнуў на іншае.

— Хай бы хто з нашых самых разумных баярынь павучыў бы яе, га? Ды не проста так, яна толькі гневацца пасля будзе. А вось як збярэ вас княгіня на якое вышыванне ці на манер нямецкі на спевы якія запросіць — тут вы пра каханне і пагаварыце, ды якой прытчай і давядзіце ёй, што стол навагародскі вышэйшы і што ёй не след брыкацца, успамінаючы свайго Вішымунта…

— А сам ты! — не ўтрымалася Яўлампія. — Сваю Каліну колькі год у сне ўспамінаў!

— Агонь цябе ведае, калі ты ўгамонішся, перастанеш раўнаваць да мёртвай! — з сэрцам прагаварыў Агапій.

— Язычнікам і застаўся са сваім агнём, хацяімя ў Афоне перамяніў! — не сунімалася баярыня. — Думаеш, не ведаю, што тваё імя «люблю» значыць па-грэчаску і што не пра Бога ты думаў тады ў Афоне! А што дазволіла табе і Апфію назваць імем вогненным*, дык ад таго, што маладая была і дурная!

— Хопіць! — цвёрда супыніў яе Агапій. — Перад Богам сам за ўсё адкажу.

— І праўда, мама, даўно ўсё тое было, не тачы бацьку! — заступілася за яго і дачка, якая ўжо чула неаднойчы пра першую бацькаву жонку і не ўхваляла матчынай рэўнасці. Тады баярыня змоўкла, але размова тая ўскалыхнула ў сэрцы даўно ссівелага і сагнутага часам Агапія даўняе, амаль забытае…

Ноччу ён пайшоў у свой пакой, дзе трымаў кнігі і запісы, але замест таго, каб перачытаць Эклезіяста, як хацеў, перагарнуў калярова-ўзорыстую старонку там, дзе кінаварам выведзеныя блішчэлі на цвёрдым пергаменце Саламонавы словы пра жанчыну, чые грудзі падобныя да вінаградных гронак.

Даўно, о як даўно лашчыў і ён, нібы садоўнік крамяны яблык, аксамітава-цвёрдыя грудзі каханай! Параўноўваў і ён, толькі на свой, мясцовы лад, яе гнуткае і гарачае цела — не з вінаграднай лазой, а з маладой ліпкай, якая ўся трапеча пад веснавым ветрам. А валасы ў яе былі бледна-жоўтага, саламянага колеру, і ён ніколі не называў іх залатымі, таму што золата ўбачыў толькі паехаўшы адгэтуль…

У маленькай дачушкі валасы былі цёмнымі, як у яго, але вочы нібыта падабрала да драбочка ў маці — такія ж фіялкавыя, бяздонныя, як у браткаў, што распускаюцца на веснавых схілах. Якім жа шчаслівым бацькам пачуваў сябе тады малады дзяцюк Куп, вясёлы язычнік і вой княжацкай дружыны, што хадзіў з усі-

* Імя ад грэчаскага «апфо» — запальваць.

мі новагародцамі на галічан ці чарнігаўцаў, мазоўшан альбо палаўцаў! Не ўсе паходы былі шчаслівымі, але свой апошні паход запомніў навекі: у памежных сутычках з тэўтонамі атрымаў меч у грудзі, а калі амаль нежывога прывезлі яго назад у Новагародак, там ужо не чакала мужа, як звычайна, каханая жонка: папалілі ў час кароткага нападу новагародскія пасады яцвягі. Князя не было ў той час у горадзе, але прагналі новагародцы ворага; аднак жа сярод тых, хто загінуў альбо згарэў у пажарышчах, была і Каліна. Можа, і пакінуў бы гэты свет ад гора і адчаю Куп, калі б не даслаў яму брат вестку з храма Ашвінаў, што дачушку, хаця і моцна абгарэлую, уратавалі; калі ж трохі ачунялы Куп дабраўся да Храмавага горада, даведаўся, што патрабуе галоўны жрэц прысвяціць малую багіні Зараніцы-Аўшры. Іначай не выжыве яна, а калі і выжыве, то застанецца караваю, з рубцамі ды апёкамі… Не вагаўся Куп, тым болей што і брат яго на тым настойваў. Аднак жа лячыць самога параненага воя ў храме не сталі. Доўга раіліся жрацы, а пасля разважылі, што занадта глыбока ў сэрцы Купа засела чорная страла нянавісці, і пакуль не растворыцца яна, не аздаравее пахолак, што і паранены не выпускае мяча з далоні. Тады, пакінуўшы дачку ў храме, пайшоў неўтаймоўны вой да гарадскога храма, і там параіў стары святар вандроўку на Афон, каб суцішылася сэрца і не рвалася ў бой, у той час як слабое, параненае цела патрабуе супынку.

З таго часу завіхурыла, закруціла па свеце новагародца, як бы Карачун зацьмяніў яму вочы: спачатку, не дайшоўшы да Афона, стаў матросам на венецыянскай галеры, але не здужаў цяжкай працы і, выкінуты на бераг, прыбіўся да генуэзскай рыбачкі-ўдавы. Пражыў што-кольвечы, ды закарцела ўсё ж у Афон. Але і там, тры гады, дзень-дзённа спяваючы дзямесцікам*, падпяваючы манахам падчас псалтыра дзесяціструннага, молячыся, перад самым пострыгам ірвануў на радзіму, ды так, што толькі пыл курэў пад босымі парэпанымі пятамі. Не мог адмовіцца ад уцех свету зямнога, як не мог і забыцца на пакорлівыя фіялкавыя вочы той, першай, любай… Таму і імя выбраў адпаведнае, калі хрысцілі яго ў царкве, калі акунуўся ў купель, як магутны сом у цесны глячок, прасіў-малiў хрысціянскага Бога забраць у яго памяць пра мінулае.

На зваротным шляху кідаў грамабітны Пярун стрэлы ў адступніка. Кіпела ключом-варам Рускае мора і старалася разламаць ладдзю, дый толькі патрапала парусы, а Мара-Марэна

* Своеасаблівае выкананне духоўных вершаў.

ўсё дыхала наваспечанаму хрысціяніну ў патыліцу, насылаючы на дняпроўскія парогі клубкі тумаяоў дый вятры несціхальныя. Вялікага страху набраўся Куп-Агапій, пакуль дабраўся да берага і ступіў на тупкае месца, адкуль пехам паклыпаў па спрадвечным шляху паломнікаў-навагародцаў назад, у родны, вабны, як кліч маладосці, горад. Убачыў здаля, сярод цяжкай зеляніны дрэў, лёгкую залатую макаўку царквы — лёг на зямлю і адчуў, як сціхае ў вушах нейкі бесперапынны за гэтыя гады свіст, нібы Карачун нарэшце стаміўся важдацца з яго прагна-шукальнай душой, адпусціў са сваіх чорных прастораў.

Але жанчына, Марэна, помслівым, смяротным дыханнем усё хукала ззаду, і таму, дабраўшыся да храма Ашвінаў, даведаўся Агапій, што цяжка хварэе, прастудзіўшыся, яго дзяўчынка.

Тады прынёс ён у храм Ашвінаў усё, што зарабіў за вандроўныя гады, асабліва па вяртанні, дапамагаючы купцу-грэчніку*: залатыя ланцужкі, зашытыя ў плашч з валю — грубага сукна, манеты-дырхемы і траянкі**, запампаваныя ў посах вандроўніка, якім адмерваў шлях і на якім хітрэц-майстар прымацаваў разьбяную ручку з сакрэтам. Прынялі багі-лекары шчодрае ахвяраванне, вярнулі малой здароўе, а ён пакляўся і перад Ашвінамі, і ў хрысціянскім храме, каб крапчэйшаю была клятва, што ніколі больш не выедзе з Навагародка надоўга, каб не пакідаць родную істоту без апекавання. Мабыць, не хацелі багі, каб ён пакідаў Навагародак, таму раз'юшыліся і помсцілі насланнём — хваробай альбо смерцю. І яшчэ даў сабе зарок былы вой — не прывязвацца душою без астатку да анікога, каб не цалялі старыя багі ў самае дарагое і блізкае, бо і сам не ведаў, хто ж мацнейшы — новы, хрысціянскі ці яны, старыя і звыклыя. Таму жаніўся ён не па сэрцы, а па розуме і ніколі не шкадаваў пасля аб тым, бо адразу трапіў у мужы імянітыя, паступова прыйшло гаіла*** на спакутаваную душу, а Марэна таксама адступілася, Трасцамі ды Ліхаманкамі губячы іншых, а за ім ужо не наглядаючы, не гмырачы. Дый надта стараўся Агапій не цярабіць жыццё за крысо, патрабуючы зашмат, бо добра засвоіў, што не любіць яно, жыццё, настырных, таму часцей пасылае да людзей адбіраць, чым даваць што-кольвечы.

Яўлампія сталася заўзятаю хрысціянкай, але дачка ад гэтага шлюбу, Апфія, надта гарнулася да бацькі, таму часцяком брала

* Купец, які гандляваў на шляху з варае у грэкі.

** Залатыя рымскія манеты часоў Траяна.

*** Старажытны назоўнік ад «гаіць».

ягоны бок, калі ўсчыналася ў хаце гаворка пра язычнікаў, якіх усё болей цясніла новая рэлігія.

Апфію ж часцяком браў з сабою Агапій, калі ездзіў у храм Ашвінаў з багатымі падарункамі, якія яго дачка, жрыца, нязменна аддавала Святазару. З цягам часу баярын адразу вярнуў свой вазок да храмавай скарбніцы, дзе гладкаязычны* Нар, прыцмокваючы і вохкаючы, прымаў скруткі з дзібай, — з яе, шаўковай тканіны, шытай золатам ці срэбрам, шылі заслоны ў храме — альбо скрынкі са шкляным посудам, які выраблялі майстры ў Новагародку, альбо, часцей, аксамітавы кашэль з манетамі. Гледзячы ў фіялкавыя, бліскучыя вочы дарослай дачкі, якая рабілася прыгажуняй на вачах, стараўся Агапій не даваць волі любасці, якая ўспыхвала ў ім. Аднак раўнівая Яўлампія здагадвалася аб тым і незалюбіла, што ўласная яе дачка брыдчэйшая за тую, язычніцу. Таму ніколі не запрашаў у свой дом Агапій старэйшую дачку, дый тая, мабыць, і не прыехала б: затуленая дзіка-прыгожым чараўнічым возерам і храмавым жыццём, яна калыхліва гайдалася ў зацішку, як пярэлка ў ружовай ракавіне, схаванай на марскім дне. Ішлі гады, зманлівы спакой загойдваў і Агапія, аднак жа нездарма бачыў ён у сваіх падарожжах страхотлівыя грымасы-маскі глумцоў — вандроўных акцёраў: яны выказваюць праўду жыцця, якое таксама глуміцца дзе і як можа з беднага чалавека.

Не захлынуўся горам Агапій, калі паміраў ягоны брат-жрэц; апошнім часам той пераехаў на капішча, што ляжала на поўнач ад Новагародка і якое называлася Ашватха — конская стаянка. Нягледзячы ні на што, паспеў баярын закрыць вочы старэйшаму брату, развітаўшыся з ім у гэтым зямным жыцці, паабяцаўшы сустрэчу ў іншым і цвёрдай рукой запаліўшы развітальнае вогнішча. Дзеля павагі да памерлага аднавілі на капішчы старажытны абрад спальвання каня разам з нябожчыкам, і дым пацягнуўся якраз на поўдзень, дзе ляжыць краіна памерлых. Пасля прывялі яшчэ аднаго каня, тройчы абвёўшы яго вакол ахвярнага слупа, следам за пярэстым казлом, і закалолі, а пасля і разабралі па строгіх правілах, бо, як вядома, правільнае ахвярапрынашэнне дае жрацам уладу над багамі. Агапій еў конскае мяса і ўспамінаў аповеды брата аб тым, што ў старажытнасці, выбіраючы сабе зямлю, князі ці ўладары спачатку выпускалі каня, а той блукаў месяцы ці гады, пакуль не спыняўся на сталым месцы. Тады там рабілі алтар, арыентаваны на ўсход, унутры

* Ліслівы.

ж усё было так, як і ў сённяшніх храмах — тры рытуальныя вогнішчы, на ўсходзе — алтар з ачагом у выглядзе птушкі. Такія ж алтары рабілі і тады, калі ўладар не меў нашчадкаў. Казалі ў старажытнасці, што сто рытуалаў, калі прыносілі ў ахвяру каня, маглі даць уладу над светам…

Не гараваў Агапій на тым пахаванні, але яго кароткая адлучка прыйшлася на Купалле, і, як высветлілася пасля, тады зацяжарала старэйшая дачка. Ён і не здагадваўся ні аб чым, калі апошні раз прыязджаў у Храмавы горад, падзівіўся толькі са змучанага выгляду сваёй пястункі: запалі яе фіялетавыя вочы, твар пацьмянеў, расплыўся. Толькі калі прыслалі па яго служку з жахлівай навіной, калі таяла яна на вачах васковай свечкай і не адказвала на ягоныя пытанні, а глядзела з нейкай далечыні, нібыта стаяла ўжо на другім беразе, які імкліва аддаляўся, — вось тады ўспомніў, што апошнія глыткі ахвярнай каніны падаліся згарчэлымі, ажно не мог іх даесці.

Калі ж падносіў галаўню да яе пахавальнага кастрышча, рукі трэсліся так, што ледзь не папаліў на сабе адзенне, ажно Святазар ушчуваў за тое, што перашкодзіць баярын лёгка-імклівай душы несціся ў свой незваротны вырай, бо нашто гараваць, калі неадменна настане і твая чарга? Багоў не папракаюць; застаецца схіліць галаву перад іхняй воляй.

Толькі праз паўгода прыехаў Агапій глянуць на ўнучку. Зазірнуў у вочы — з фіялетавай глыбіні іх глядзела нешта грозна-бяздоннае, нібыта прыляцелая душа не асвойталася яшчэ з навакольным светам і раздумвала, а ці не варта вярнуцца назад. Нібыта ржавая піла разанула па жывому — адхіснуўся баярын, застагнаў, а дзяўчынка няўцямна-мудра глядзела на яго, не міргаючы. Тады як заслона спала з вачэй: уцяміў раптоўна сэнс кола з дванаццацю спіцамі, узнесенага над храмам Ашвінаў. Вечна паўтараецца ўсё на зямлі, таму што не спыняецца, як бег крыві, кругазварот неба і Зямлі. А там, дзе, як агромністы конь да кола, прывязаны да Кол-зоркі* Сусвет, там корань усяго. Адтуль адпраўляюцца людзі, рэчы і першапродкі на віткі касмічнай спіралі, сюды яны і вяртаюцца пасля таго, як прайшлі свае колцы быцця, непаўторна-вялікія для іх і такія маленькія для бяздоннай варонкі Быцця. Пра гэта талкаваў колькі разоў брат, дый малады Куп прапускаў жывую ваду складанай і простай той мудрасці, як рачны пясок празрыстую хвалю, не затрымліваючы яе. А ўсплыло, бач, калі… Толькі ён не народжаны для мудрасці,

* Палярная зорка.

яму б супыніць тахканне неслухмянага сэрца, якое рванулася да маленькага, ружовага камячка плоці, з якога, як рассыпаныя па схіле браткі, глядзяць неўміручыя вочы ягонага кахання, якое, аказваецца, ніколі ў ім не памірала.

…Апамятаўся стары Агапій, сплішчыўшы паміж цвёрдымі дошкамі цёплыя лісты пергаменту, над якімі праседзеў ноч, беражліва паклаў кнігу ў чэрава абабітага жалезам куфра, зверху атуліў кавалкам ватолы*. Успомніў прароцтва Святазара аб тым, што нельга набліжацца ягонай унучцы да княжага двара, і вырашыў трымаць яе на адлегласці ад Новагародка, каб зберагчы ад няшчасця.

Неспакойнымі для Новагародка, але і габіннымі** выдаліся наступныя гады. Вялікі князь Міндоўг рыхтаваў войска, шмат грошай даставалі кавалі і збройнікі, чаканшчыкі і сядзельнікі, але і ў княжацкую скарбніцу цяклі пенязі і ваверыцы, грыўны і талеры, бо набіраў сілу гандаль іншаземны, а багіня плоднасці Цёця, альбо, як казалі жрацы, Жытняя Баба, папрацавала напоўніцу: адным рукавом дажджы на глебу сыпала, другім хмары адхіляла, каб сонейка хапіла зярнятам. І так тры гады запар. Як зацяжаралі клеці і еўні, глякі і бочкі, свірны і катухі ў падклецях; куфры і сундукі пацяжэлі, хаты ад прыбудовак ушыр раздаліся. На замку высокая каменная вежа пастала, замест дубовай сцяны вырасла таўшчэзная валуновая. Спакойна спаў баярын Агапій: у стругах купецкіх, што ішлі па Дняпры да Рускага мора, а па Нёмане праз валокі да Балтыйскага, нямала было ягонага дабра. Дый у ладдзях, што плавалі да Хвалынскага мора, таксама сёетое месцілася. Ад яго перападала і храму Ашвінаў; новагародскія ж святары, ведаючы тое, маўчалі, бо шчодра адорваў баярын і старую, і новую цэрквы таксама.

Аднак у месяц бярозазол, калі распускаюцца вербы залатымі бубкамі, адразу пасля поўначы, калі прыйшоў у грузнае ўжо цела баярына макавым малаком сон, выгнаў яго адтуль прыслужнік. Сам Святазар прыехаў у горад, шапаценнем ссохлага ліста пранік у ложніцу, каб паведаміць, што забілі на конскай стаянцы Ашватха, у самім капішчы, хрысціянскага старца Елісея, які спрабаваў не дапусціць ахвярапрынашэння. Не, забілі, вядома ж, не жрацы, а людзі, што сабраліся дзеля абраду. Раніцай збіраецца княжыч Войшалк імчаць з атрадам вояў на капішча, а ад яго, вядома, не будзе літасці нікому, бо ад сваёй маці, княжны цвяр-

* Тоўстае сукно.

** Шчодрымі.

ской, набраўся княжы атожылак нянавісці да веры бацькоўскай. Міндоўг жа, як вядома ўсім, хаця і абрад грэчаскі прыняў, але не крыўдзіць і старых багоў. Аднак не стане ён пярэчыць сыну, бо новагародскія баяры ўжо амаль усе хрысціяне, і не асмеляцца яны захіліць сваёй уладай капішча.

— І я не асмелюся, — разважыў баярын. — Елісей блізкі да Войшалка чалавек, мо таму і асмялеў да таго, што абрад перарваў і тым учыніў святатацтва. Люд жа там, у лясах, такога не сцярпеў, іх таксама зразумець можна. Не, празарлівы старац, не змагу я за капішча заступіцца…

— Якраз ты і зможаш, — уладным голасам, нібы на яго, голас, была нанізаная, як лісце, уся ссохлая плоць жраца, запярэчыў той.

— Гэта чаму ж — я? — прадчуваючы нейкую пастку, затрывожыўся Агапій.

— Табе Міндоўг не адмовіць.

— Ну, што там у цябе за пазухай, шаноўны старац? Якія загадкі, пра якія я не ведаю? У які венцер ты хочаш мяне злавіць?

— Ты не карась, баярын, каб цябе лавіць. Памятаю, у дзяцінстве ты быў такім жа нецярплівым. А загадка мая такая: твая ўнучка, Жывена, народжаная ад Міндоўга. Можа, калі ён дазнаецца пра тое, не стане караць гілеўшчыкаў* і капішча Ашвінаў не кране.

— Чаму ж ты мне ніколі пра тое не казаў? — толькі і прашаптаў ашаломлены баярын.

— Час не настаў. А цяпер нябесная Чаша павярнулася, і тайнае стала явай.

— Міндоўг мне не паверыць.

— Дай яму гэта, — Святазар дастаў берасцяны карабок, шчоўкнуў застаўкай. Пакой напоўніў водар свежай скошанай травы і яшчэ нечага востра-пахкага. Церушлівую шчопцю травы стары жрэц паклаў на стол.

— Хай ляжыць, і цябе не кране ні Начніца з яе мроямі, ні Стрыга, якая любіць прыходзіць не толькі да дзяцей, але і да старых, бо яны вяртаюцца ў сваё вусце. А Міндоўгу зелле верне памяць аб начы, на якую ён забыўся.

— Ён зняславіў маю дачку, а ты пра гэта ведаў і маўчаў?!

— Чалавек спрабуе ўплесці ў свой лёс узоры Неба і Зямлі, але гэта яны ўплятаюць яго ў свае, нам не падуладныя шляхі.

---

* Бунтаўшчыкі.

— Я не пайду прыніжацца перад Міндоўгам! А забіць яго ў мяне ўжо не стае сіл. Ды і хрысціянства забараняе тое.

— Капішча Ашвінаў — апошняя справа твайго брата. Ты пакляўся яму… Што тваё ці маё ў параўнанні з месцам, дзе мы, жрацы, абраныя нейкай невядомай нам самім сілай, можам час ад часу слухаць і разгадваць таямніцы быцця, пульс Сусвету? Цьмянее чалавечы дух ад стагоддзя да стагоддзя, гнецца ніжэй да зямлі, а раўнавага толькі пасярэдзіне…

Баярын, цяжка тупаючы па цёплай падлозе, качкай перавальваўся з нагі на нагу, нібы калыхала яго нястрымна-раздзіральная сіла. Жрэц сачыў за яго няўклюднымі крокамі, маўчаў. Нарэшце Агапій прахрыпеў амаль умольна:

— А ты сам?

— Мы пойдзем разам. Я скажу, што Войшалк не можа забіць сястру, бо і так зоркі кладуцца нешчаслівым узорам на лёс ягонай сям’і.

— Жывена — там? — схаладнеў баярын.

— Ужо там.

— Ты адправіў яе на смерць?! Закрыў ёю капішча?!

— Калі мы пераканаем Міндоўга, то не.

— Для цябе і сапраўды жыццё чалавечае як пылінка, святы старац, — горка паскардзіўся Агапій, адчуваючы, як чэпка, умела, нібыта і сапраўды вудзільнам падлавіўшы карася, трымае яго Святазар. Адчуў і даўні свой дзіцячы страх перад вярхоўным жрацом, зноў вярнуўшыся ў маленства…

Міндоўг сапраўды спыніў Войшалка, які раз’юшана рваўся разам з вярхоўным ваяводам Астафіем Канстанцінавічам пакараць гілеўшчыкаў, што ўсчалі бунт супраць дарагога княжычу святара, а пасля і сцялі яго горла*.

Шапталіся ў горадзе, што адседзеў княжыч тры дні ў падзямеллі, ахалоджваючы тым палкую кроў і душэўнае клекатанне, і быў моцна незадаволены бацькам. Навагародскую ж баярскую раду супакойваў Агапій, які даводзіў, што неразумна цяпер, перад вялікім паходам Міндоўга на сваіх родзічаў-ворагаў, уздымаць супраць князя чорную чадзь, ды дзе — на межах княства! Хадзіў баярын і да княжыча і супакоіў амяцежаны дух Войшалка тым, што ўнёс у абедзве навагародскія цэрквы вялікія ахвяраванні на супакой душы і на ўспамін і маленні аб Елісею. А яшчэ параіў Войшалку, калі той некалі збярэцца ў манаства,

* Забілі.

як абяцаў не раз бацьку ў гневе, то няхай возьме сабе манаскае імя свайго настаўніка ў веры.

Ні аб чым не даведаўся княжыч, хаця чуйна-насцярожаная душа яго недаверліва ўспрыняла і нязвыклую бацькаву мяккасць, і гарачае заступніцтва за язычнікаў-забойцаў імянітага баярына. Горка наракаў пасля Войшалк на тое, што прымусілі яго ў рэшце рэшт скарыцца, і разарыў-такі праз колькі гадоў капішча, калі давялося Міндоўгу, пакінуўшы навагародскі пасад, вяртацца ў свой стольны горад Руту, у маленькае сваё родавае княства. А яшчэ ўзяў малады княжыч, стаўшы манахам, імя Елісея, і пад тым імем пісаў у Лаўрышаве, якім названае было праз многа гадоў месца ахвярапрынашэнняў, летапіс, а таксама перапісваў Евангелле.

Нічога не сказаў аб патаемнай размове з Агапіем і Святазарам вялікі князь нікому. Быў асцярожным і хітрым, а хто ведае, чым абернецца для княства, дый для самой сям'і, з'яўленне маладой жрыцы як ягонай дачкі. Хісткая шахматная дошка яго жыцця, з усіх бакоў ворагі-сапернікі, а новая постаць — не проста пешка. Любіў вялікі князь гульню ў варцобы*, крумкачом у засадзе выглядаў, як цікаваў за кожнай фігурай на дошцы альбо калі кідаў косці, спадзеючыся, што выкінутая колькасць будзе дзяліцца на чатыры і ён выйграе. Любіў выйграваць, але не раз даводзілася, як і ў жыцці, пятляць загнаным зайцам, вяртаючыся на свае ж сляды. Адно заўважылі, падглядаючы за чужым шчасцем, баяры: цяплейшым да Агапія стаў Міндоўг, а той, мабыць, не надта цаніў літасць князя, бо меней, як заўсёды, бываў пры двары. Затое жонка ягоная ласіцай улезла ў прыдворнае кола баярынь, зацьміла ўборамі ды лёстачкамі нават жонку Астафія Канстанцінавіча, ваяводы. Дый тое сказаць, была Яўлампія прыроджаная навагародская імянітая баярыня, дый не абы-якога, а княжацкага дрэва атожылак. Княгіня надта прыслухоўвалася да яе, хаця і пацвельвалася часцяком, што надта падмаладжваецца немаладая ўжо кабетка. Апфія ж таксама прыкмеціла, што надта неахвотна стаў браць у дом яе бацька Жывену, нібы лацвей было яму самому ездзіць у Храмавы горад. Падзівілася з таго, але лёгка жылося ёй пры двары, дзе грыдні і сыны людзей вятшых нямала за ёй прылягалі, асабліва ж спявак пры дружыне княжай Раман. Круцілася кола жыцця, апускаючы адных і ўздымаючы на вяршыню тых, каму прыходзіў час адпрацоўваць сваё і тым выконваць прызначэнне. Уздымаўся, рос Навагародак, трашчалі

* Так называлі шахматы.

путы ягонага васальства і торгаўся хрыбет Галіцка-Валынскага княства, аточанага татарамі. Дзікая іх сіла ламала ўсё на сваім шляху, падбіраючыся да Еўропы, і трывожыліся каралі і герцагі, біскупы і просты люд, асабліва калі ў кароткіх маланкавых набегах спустошаныя былі берагі Віслы і Дуная, заліта крывёй Унгарыя. Яшчэ ў 1246 годзе спрабаваў папа дамовіцца з дзікунскім тым народам, падобным да Гогаў і Могаў, што паўсталі з самых нетраў зямлі, раз'юшанай людскімі грахамі: пасылаў да іх паслоў на чале з Джыавані да Плана Карпіні, і яны, праязджаючы праз зруйнаваны Кіеў, напісалі аб тым з жалем і страхам. Аднак ні францысканцы, ні дамінікане, што былі сярод паслоў, не знайшлі слоў, каб заваяваць давер кагана: татары сталі пагражаць і папе.

Трэслі папскі стол звады паміж Інакенціем і германскім імператарам Фрыдрыхам Другім, таму, склікаўшы Ліёнскі сабор у 1245 годзе, сярод пяці скрух, што тузалі ягонае сэрца, як пяць язваў распятага на крыжы Збаўцы Свету, назваў папа наступныя: татарская навала, раскол у Грэцыі, нашэсце хаварэзмійцаў на Святую Зямлю, поспех ерэтычных вучэнняў і непаслушэнства імператара. Калі кардыналы, якія першы раз апранулі чырвонае аддзенне, як сімвал таго, што гатовыя заўсёды праліць сваю кроў дзеля ісціны, выступілі наперад у час адлучэння Фрыдрыха, а папа і біскупы нахілілі свечы ўніз у знак праклёну — адчай ахутаў Германію, бо Генрых, ландграф Цюрынгскі, якому папа загадаў перадаць імператарскую карону, меў меней уплыву і ваеннай сілы, чымся непакорны Фрыдрых. Бурлівыя хвалі еўрапейскіх звадаў мала трывожылі б новагародцаў, калі б не татары — грозны іх вал каціўся з Усходу і, не баючыся Еўропы, мог змесці, адно за адным, тутэйшыя княствы, як раз'ятраны вецер зрывае з дахаў дзерціцу-дранку, рупліва пакладзеную гаспадаром.

Таму ведалі імянітыя людзі і пра тое, што на пачатку 1253 года кароль франкаў Людовік Дзявяты таксама паспрабаваў дамовіцца з мангола-татарамі, паслаўшы фламандца Вілема Рубруквіса да хана Мункэ, каб прыцягнуць таго да ўдзелу ў крыжовым паходзе на заняты сарацынамі Святы горад, абяцаючы багатыя падарункі і здабычу, сам жа шукае славы вызваліцеля хрысціянскіх святыняў і збірае грошы для паходу сярод усіх краін Еўропы, але не ўсе адгукаюцца на ягоны прызыў, як і на заклік папы. Аднак жа тым часам разбітыя Міндоўгам князі разам з галіцка-валынскімі князямі сабралі сілы, каб пайсці на яго вайной, і Тэўтонскі ордэн стаў на іхні бок, бо добра супадалі

ягоныя планы з заклікам рымскага прастола распаўсюджваць веру Хрыстову сярод язычнікаў.

Схіліліся ў тыя гады вагі нізка-нізка для новагародцаў, спазналі яны цану збірання вакол сваёй зямлі навакольных княстваў. Прыходзілі пад горад пераможаныя Міндоўгавы родзічы, прыводзілі тэўтонаў і полаўцаў, жамойтаў ды яцвягаў, палілі Ваўкавыйск, Слонім ды іншыя гарады. А вакол іх усіх мацней, неадольней сціскалася тэўтонская пятля, адрывала князёў ад любага імі язычніцтва: шукаючы ў немцаў дапамогі, хрысціўся Вікінт, жамойцкі князь, следам за ім Таўцівіл, Міндоўгаў братаніч. Магістр Лівонскага ордэна Андрэй Стырлянд нястомна пашыраў свой уплыў, ягоныя пасланнікі атабарваліся амаль пры кожным княскім двары — у Дзяволтве, Жамойтах, Нальшчанах і Крэве.

Зачасцілі крыжакі і ў Новагародак часцей, чым у іншыя двары; разам з імі прыходзілі ў замак новыя звычкі — турніры ды розныя спаборніцтвы, падчас якіх пераможца ўручаў свой прыз даме сэрца, выбіраючы яе сярод прыдворных прыгажунь. Не раз схіляліся ганарыстыя рыцары перад княгіняй, абіраючы яе каралевай прыгажосці, і ад таго сустракалі ў яе баярынь куды больш ветлы прыём, чымся ў Міндоўга і яго радцаў. Але мусіў і Міндоўг прымаць крыжакоў, і раздзяліўся ад таго ягоны двор на дзве часткі.

Хрышчэнне па ўсходнім абрадзе не прызнавалася тэўтонцамі, а пагроза ўсё большала; і таму, як ні стараліся праваслаўныя святары ды частка баярства, што падтрымлівала іх, усё ж у Рым было адпраўлена пасольства з просьбай даць згоду на каранацыю. Тую падзею адзначылі ў замку вялікай вячэрай, дзе, аднак, не было многіх імянітых людзей. Андрэй фон Стырлянд быў вясёлы, шмат еў вепрычыны і мядзведзіны, а закусваў хмельны мёд грыбамі валжаніцамі*, улюбёнымі Міндоўгам, хаця княгіня Мілена тыя грыбы не прызнавала з-за таго, што гарчылі яны, нават вымачаныя. Міндоўг, аднак, не еў тых грыбоў — як шапталіся нядобразычліўцы, з-за таго што на сэрцы ў яго было так горка… У той жа дзень у замкавай віўлеофіцы** чытаў малады рыцар Северт радкі з паэмы Готфрыда Вайсенбургскага «Lieber Evangeliorum Domini gratia theodisce conscriptus» альбо коратка «Евангельскай гармоніі», а талмач ад сябе расказваў, што напісаў тую паэму аўтар трыста восемдзесят пяць гадоў таму ў

* Ваўнянкі.

** Бібліятэка.

Вайсенбургу, у Эльзасе. Княгіня неадрыўна глядзела на зграбнага юнака, аднак Яўлампія, дбаючы аб абранніку дачкі Рамане, прапанавала, каб пасля паэзіі спяваў для госця новагародскі «міннезінгер». Тады Раман выступіў наперад, але, перабіраючы струны, заспяваў ён не пра каханне, як спадзяваліся жанчыны, і не пра вайсковыя справы новагародцаў. Аб вайне паміж мазонамі і прусамі расказваў ён чамусьці:

І сказаў правадыр мазонаў
Відэвуту, каралю Брутэніі:
«Адмаўляешся нам даніну
Аддаваць — сцеражыся ночы».
…Верх узяў у бітве Антонес
І пайшоў з багатай здабычай.
Ды сказаў вярхоўны жрэц Брутэн
Усім сабрацца на свята ў Рыкойта,
Дзе багам аддаюць ахвяры.
І прыняў Пярун прынашэнне:
Навальніца грымела магутна,
І натхніліся моцна людзі.
І Антонес разбіты быў.
Сын жа, Чанвіг, хутчэй прыехаў
У Брутэнію. Пакланіўся
Іх багам і прынёс ім ахвяры,
А яшчэ кабылу загнаў.
Так, у полі загнаў да смерці.
Быццам снег, была яна белай.
А спаліў ён яе ў ахвяру,
У ахвяру прускім багам.
З таго часу ў краіне прусаў
Боствы толькі на белых конях.
А смяротным людзям не варта
Спакушаць і багоў, і лёс…*

Пасля спеваў маўчанне павісла ў пакоі цяжкай заслонай. Княгіня звузіла свае вялікія вочы, адкуль як палыхнуў сярэбраны бляск. Але паспешліва ўмяшалася Яўлампія, выставіўшы пульхныя грудзі, працягнула да спевака рукі, упрыгожаныя вітымі шклянымі бранзалетамі са шкляной крошкай:

---

* Тэкст узяты з Хронікі Сымона Грунаў «Забытая гісторыя прусаў».

— І такіх харобрых людзей перамаглі нашы госці-тэўтоны! Малайчына, Раман, што зрабіў прыемны падарунак рыцарам!

Калі Апфія расказала аб тым бацьку, ён хмыкнуў, раздумваў нейкі час, пасля адабральна кіўнуў жонцы:

— Нашы хлопцы больш харобрыя, чым мудрыя. Прусаў перамагаюць тэўтоны, але гэта іхні лёс. Нам жа цяпер утаймоўваць трэба немцаў, моц на іхнім баку, сам Даніла на іх аглядаецца. Вунь, зяця ягонага Земавіта разам з жонкай паланіў брат, куявіцкі Казімір, і нічога парабіць магутны князь Галіцкі не можа. Бацька іхні Конрад прызваў немцаў, каб з прусамі справіцца, — цяперака крыжакі каб ягоных дзяцей разам з прусамі да продкаў дымам не адправілі!

— І баярын Парнус так разважае, як ты, тата, — узрадавалася Апфія. — А дачка мужа імянітага Мікулы казала пра цябе, што ты здраднік і немцам прадаешся!

— Любім мы адзін аднаго таўчы ў ступе дый покрыўкай накрываць, каб не выскачыў! — зазлаваў Агапій. — Тут агонь яго ведае што рабіць. Мяняць веру? Але ж ужо на багоў сваіх спрадвечных забыліся, дык што цяпер, галаву класці за новых? Дый Бог рымскага абраду той жа, што і грэчаскага. Праўда, Полацак увесь праваслаўны, і агонь яго ведае, як яно ўсё абернецца. Але я падтрымаю князя Міндоўга, хаця нават Войшалк працівіцца пярохрысту. Для мяне найлепшае тое, што лепшае для Навагародка!

— Я заказала ўжо сабе і Апфіі сукні новыя, як у Еўропе носяць, — заспявала Яўлампія. — Яны доўгія, прыталеныя, з вузкімі рукавамі, а на галаву турбан альбо покрыўка празрыстая…

— Цьфу! — плюнуў Агапій. — Так і не зразумею: ці ёсць усё-ткі ў баб хаця якія мазгі?

Апошнім часам Войшалк часта прыкладаўся да гарэліцы, і таму, калі ён пагрукаў на досвітку 6 ліпеня 1253 года ў тоўстыя дубовыя дзверы Агапіевай сядзібы, сонны вартаўнік спачатку не хацеў адчыняць.

— Спіць яшчэ баярын, і каго там Лядашчык нясе! — бурчэў ён.

— Не адчыніш княжычу — засяку! — урэшце прыгразіў ранні госць, тады спалохана адчынілася брама, вартаўнік пабег наперадзе трушком, але Войшалк апярэдзіў яго, уварваўся ў ложніцу, дзе, як ведаў ён, баярын гады са два спіць адзін. Той, цяжка сапучы, сунуў цяжкія ногі ў скураныя пантофлі з высцеленым унутры футрам, загадаў прынесці вару з брусніцамі.

— Застудзіў нутро? — па-дзіцячы цікаўна нахіляючы галаў, прамармытаў княжыч. — Скажы, каб і мне кіслага квасу прынеслі.

Хлябтаў квас прагна, ажно захлынаючыся. Выцер рот шырокім расшытым рукавом, заявіў пагрозліва:

— Я заўсёды паважаў цябе, баярын, але зараз… Чаму ты настройваеш бацьку супраць мяне? Вы яго сцяной абкружылі — ты, Парнус, Астафій Канстанцінавіч. Ён і слухаць мяне не хоча.

— Таму, што ты, княжыч, хочаш выбрыкнуцца: глядзіце, які я харобры! І што было б, каб бацька зрабіў па-твойму? Таўцівіл, Вікінт, Дуцэ, Мільгернэ, Дзіндэне, сам Даніла Галіцкі з сынамі, нарэшце — і ўсе супраць нас. Ці не замнога нават для такога магутнага горада, як Новагародак? Ты забыўся, як мы тут ледзь адбіліся? Калі немцы з ворагаў стануць саюзнікамі, гэтыя князі адразу хвасты падціснуць.

— Міндоўг падпісвае грамату за граматай. Што ж застанецца мне?

— Падпісаць грамату — яшчэ не аддаць. Да таго ж тыя землі, якія нібыта адыходзяць да крыжакоў, яшчэ трэба было б павяваць. Ты сам будзеш князем, дык вучыся мудрасці і абачлівасці, якія ты называеш здрадніцтвам.

— Я не пайду на каранацыю.

— Што ж, у Міндоўга ёсць і другі сын, хай сабе і малы. Княгіня чакае дзіця. Што, калі гэта таксама будзе сын?

Войшалк затраўлена азіраўся.

— Тады хай пашле мяне хаця б у родавую Літву. Яму застанецца Новагародак!

— Яго Літва належыць цяпер таксама Новагародку. Няўжо ты думаеш, што мы дапусцім тое? Мы, якія столькі грошай падкінулі пад ногі Міндоўгаваму каню, які нёсся праз усе бітвы і перамагаў разам з гаспадаром?

— Каню?

— І Міндоўгу.

— Ты яшчэ жартуеш… Дык вы і зусім не прымаеце мяне за патомнага княжыча?

— Калі б не прымалі, я не гаварыў бы з табою. Але май цярпенне! Думаю, ты прыйшоў да мяне таму, што цябе не падтрымалі ні Мікула, ні Ратбор, ні Векша, хаця ты на іх моцна спадзяваўся.

— Адкуль ты ведаеш?

— Пажывеш з маё княжыч… А на каранацыю — ідзі. Хітруе Міндоўг з немцамі, як хітраваў са сваімі родзічамі. А выйграе самы цярплівы.

У пакой зазірнула Жывена, але, убачыўшы Войшалка, адступіла, хацела зачыніць дзверы. Ён жа падскочыў да яе, выцягнуў на сярэдзіну пакоя, агледзеў.

— Даўно не была ў Новагародку, даўно! Нябось, прыехала на каранацыю паглядзець? Ну, глядзі, глядзі, як мой бацька новым вапленнем* займаецца.

Яна ўсміхалася, гледзячы на яго, падобная са сваёй шапкай ярка-залатых валасоў на дзьмухавец. Тонкае сцябло яе цела нібы калывалася ў густым летнім ветры, настоеным на паху расцвілых ліпаў, худзенькі твар, рукі, ногі былі яшчэ нейкімі неакрэсленымі, струменлівымі. Падлетак, які вось-вось нальецца сокам жыцця. Фіялкавыя вочы, адцененыя пушыстымі вейкамі, здавалася, павінны былі б належаць дарослай дзяўчынепрыгажуні, і таму дзіўнаватай, нібы з іншых земляў, здавалася адзінаццацігадовая ўнучка баярына.

— Хутка ўжо нявестай будзе. Не Апфія — у дзеўках не заседзіцца, — падкалоў Войшалк баярына, і той спахмурнеў.

— Апфія ўсё выбірае, а цяперака той, на каго заглядаецца, нешта цягне. Вось, вазьмі яе замуж. Буду чакаць унукаў, — пакпіў і баярын, ведаючы, што княжыч бяздзетны.

— Лепей ужо вось яе вазьму, — вырашыў аджартавацца той, як бы не заўважаючы куслівай старэчай завядзёнкі гаспадара. Са здзіўленнем пабачыў, як паплыла белізна па жаўтлявым твары, калі загаварылі аб Жывене.

— Пра гэта ты і думаць не павінен. Чуеш? Ніколі!

— Што з табой? — падазрона зіркнуў на яго Войшалк і ўтаропіўся ў мутныя старэчыя вочы. — Ты нешта ведаеш?

Але той ужо спахапіўся і паспрабаваў адгаварыцца:

— Яна ж яшчэ дзіця. Да таго ж жрыца, і любяць яе Ашвіны.

— Ты нешта хітруеш, — раздумліва прамовіў княжыч. — Што?

Агапій махнуў рукой, і Жывена пырхнула за дзверы лёгкай ластаўкай.

— Не выдумляй нічога, шаноўны сын Міндоўга, — пачціва схіліўся перад ім Агапій, — лепей спяшайся да сябе, каб іншаземныя паслы не поркалі ў цябе пальцамі. Спадчынны княжыч Новагародка павінен выглядаць як мае быць. Ды і мне час апранацца. На нас гледзячы, будуць меркаваць і аб княстве нашым.

Княжыч быў падступіўся да старога, каб той патлумачыў, чаму так спалохаўся простага жарту, але той упарта стаяў на

---

* Афарбоўка (ад вап — фарба).

сваім, і яны разышліся, моцна незадаволеныя адзін адным, асабліва ж Агапій. Сварыўся на сябе за тое, што выдаў страх за ўнучку. Ведаў учэпісты і настырны характар княжыча, які і сапраўды зачапіўся думкаю за незвычайнае хваляванне баярына і вырашыў у рэшце рэшт даўмецца, што да чаго.

На самым досвітку таго дня пачалі сцякацца на галоўную плошчу Новагародка госці і мясцовы люд, моцна заклапочаныя нечаканымі падзеямі.

Спяшаліся туды, дзе яшчэ ўчора да глыбокай ночы шчыравалі мулярі, завяршаючы капліцу-мураванку, над якой высіўся нязвыклай формы крыж і ля якой меўся быць пабудаваным першы на Новагародчыне касцёл, дзеля чаго новапрызначаны біскуп Хрысціян ужо абышоў ледзь не ўсе багатыя дамы горада, збіраючы ахвяраванні.

Ён жа, біскуп, мітусіўся ля капліцы, даючы распараджэнні служкам то пераставіць кветкі, то працерці краёчак абраза, то паправіць чырвоную суконную дарожку, па якой пойдзе да памоста новаахрышчаны князь з жонкай і сярэднім сынам. Былы ордэнскі каплан Хрысціян добра разумеў, якую ролю надае ягонай дзейнасці сам папа, і рыхтаваўся пашыраць межы свайго біскупства не шкадуючы сіл, насуперак усім высілкам спрадвечнага тут язычніцтва і за стагоддзі ўзмацнелага на тутэйшых землях праваслаўя. Мог перашкаджаць ягонай дзейнасці і рыжскі біскуп Альберт, які доўга працівіўся назначэнню каплана, але затое моцна падтрымліваў яго холмскі біскуп Генрых, дзеля чаго і прыехаў сюды на каранацыю, дабіўшыся гэтага гонару не без моцнай падтрымкі аднаго з папскіх кардыналаў, свайго брата.

З-пад свежачасанага, жоўтага, як масла, памоста выглядалі цесляры з заткнутымі за пояс склюдамі*, якімі яны таксама да начы абчэсвалі драўлянае ўзвышша, пацеючы над кожнай дошкай, каб дзе за які сучок не зачапіўся тонкі газ** княжавага альбо магістравага бота.

Варта цясніла цікаўных уніз, у ручаіны-вуліцы, таўкла ў каршэнь упартых, зацятых новагародскіх рамеснікаў, якія жадалі бачыць усё да драбніц на свае вочы, дзідамі падколвала хлапчукоў, якія гронкамі звешваліся з дахаў мураванак — не дай Божа, разаб’ецца каторы, азмрочыць свята, хаця ў купцы старцаў-язычнікаў шапталіся, што ў былыя часы ахвярнай

* Сякеры.

** Казловая скура, вырабленая ў саф’ян.

крывёю абавязкова замацоўвалі кожную падзею, каб не злавалі на няўдзячных багі.

Як хваля пракацілася па натоўпе, калі на плошчу выйшаў невялікі атрад крыжакоў і накіраваўся да памоста, стаўшы паабапал яго. У белых плашчах з нашытымі крыжамі стаялі яны нерухома, гледзячы скрозь вузкія вачніцы шаломаў, бліскучыя накаленнікі нібы падвышалі іх, жалезныя пальчаткі, пакладзеныя на рукаяці мячоў, здаецца, гатовы былі схапіць і сціскацца на шыі ворага, не шкадуючы яго. Навагародцы, аднак, помнілі, што адчайнае супраціўленне прусаў, што доўжылася амаль сем гадоў*, было адкінула гэтую грозную сілу і добра пашчапала яе; многія з тых, што і самі сутыкаліся з тэўтонамі ў баі, глядзелі на іх з цікаўнасцю, але без боязі.

Ля памоста пачалі збірацца людзі імянітыя, набліжаныя да князя, іхнія сем'і — кожнага, расхінаючы перад імі дзіды, прапускала на плошчу сцярожкая варта, абмацвала вачыма. Мужчыны ішлі да памоста, жанчыны тоўпіліся наводдаль.

Жывена пайшла на плошчу з Яўлампіяй, якая ўсю дарогу крыўдавала, што не ёй, а дачцы ейнай Апфіі выпала суправаджаць княжацкую сям'ю, трымаючы за Аленай доўгую белую накідку. Яе ж, якая магла б ісці за княгіняй, адцясніла на гэты раз жонка ваяводы, якая выплакала тое ў самога князя. Аднак ганарлівая баярыня цешылася тым, што ў невялікай свіце Міндоўга будзе разам з ваяводам і Парнусам ейны муж. Падыходзячы да купкі імянітых жанчын, абмацала вачыма Яўлампія ўсе парчовыя і шаўковыя сукенкі прысутных, іхнія каптурыкі і шапачкі. А відовішча было надзвычай прыгожае: смарагдамі, яшмай ці вірэламі** абсыпаныя паясы, наміткі, бранзалеты залатыя ці шкляныя трохгранныя, бронзавыя і медныя фібулы, сумачкі, абшытыя бісерам, тонкія пантофлікі, якія можна сціснуць у далоні, — многа багацця маюць навагародцы, ад таго ўпрыгожваюць сваіх жанчын. Промні сонца, час ад часу прабіваючыся скрозь густыя хмары, выблісквалі на залатых крыжыках, што ляжалі ля алтара, чашы і паціра, дараносіцы, а таксама на жалезных даспехах рыцараў. Прысутныя, асабліва жанчыны, з трывогай задзіралі галовы — вільготная гарачыня поўніла цэлы млявасцю, дождж кожную хвіліну мог абрынуцца на ўсё святочнае шэсце. У натоўпе ж, што гудзеў, як устрывожаны вулей, таксама шапталіся, што недарэмна ад самога Вялікадня амаль не сціхае дождж

* З 1242 па 1248 г.

** Берыл.

і нават рыбін знаходзяць у барознах, калі ля поля блізкая рэчка, дык якога ж ураджаю можна чакаць сёлета?*

Голасна ўскрыкнулі трубы, загудзелі валынкі, нямецкія барабаншчыкі загрукаталі палачкамі па тоўстых чэравах сваіх барабанаў, новагародскія музыкі ў адзіным рытме затохкалі ў варганы. На плошчу ўступіў Міндоўг, па абодва бакі ад якога ехалі магістр Андрэй Стырлянд і холмскі біскуп Генрых, якія, аднак, на паўкрока адсталі ад яго, кругам праязджаючы плошчу, за імі ехала світа князя і княгіні, а таксама княжыя дзеці. Тады, па камандзе: «Das Visier lüften!»** знялі свае шаломы рыцары, гучна выкрыкнулі вітанні. Завыў, загалёкаў, загаласіў натоўп, схіліліся ў нізкім паклоне баяры, цяжка затрапяталі харугвы — каляровыя і белыя, а таксама бела-чырвона-белыя з коннікам, што высока ўздымаў меч.

Каля капліцы ўжо стаялі крэслы — высокая разьбяная спінка амаль схавала трохгадовага Рэпенью, альбо, як яго клікалі ў замку, Рэплю. Наструненая постаць княгіні Мілды-Мілены нібы злілася з тонкай разьбой дрэва, Міндоўг жа ўзвысіўся над крэслам, як бы падмяўшы яго пад сябе. Наводдаль ад іх стаялі Войшалк з сястрой і баяры, а таксама магістр, паслы і сястра княгіні Якса з мужам, нальшчанскім князем Даўмонтам. Цёмнавалосая, з бліскучымі вачыма-вішнямі, яна кусала вусны, каб стаяць нерухома, бо ўся як трапятала жывой, пругкай сілай, падобная ў сваім строі на вузкі каснік агню — ярка-чырвоны, зіхоткі.

Затое надта падобным да вярхоўнага жраца Святазара здаўся Жывене біскуп Генрых — у доўгай белай альбе, падпаясанай цынгулем і аздобленай карункамі, у аздобленым каштоўнымі камянямі арнаце, ён вяршыў абрад хрышчэння тым жа гучным, але лёгкім голасам, нібы спяваючы, гэтак жа ўладна пырскаў вадой на схіленыя перад ім галовы. Аднак Святазар падвязваў доўгія свае валасы толькі белай павязкай-галавізной, у біскупа ж, апроч чатырохвугольнай шапачкі, на якую надзеты доўгі белы каўпак — мітра, белыя рукавічкі, а галоўнае — крыж, упрыгожаны празрыстымі белымі камянямі, якія — і гэта разгледзелі яе зоркія вочы — час ад часу ўспыхвалі асляпляльнымі іскрынкамі. «Гэта дыяманты», — шапнула зайздросна Яўлампія.

Глядзелі новагародцы і на яшчэ не бачаных імі манахаў — у сандалетах на босых нагах, у чорных прасторных сукнях з

---

* Аб гэтых незвычайных дажджах пішуць летапісы.

** Забралы падняць! (Ням.)

шырокімі рукавамі, у капюшонах; брытыя галовы іх час ад часу выглядалі з-пад капюшонаў, калі яны азіраліся навокал, седзячы на лавах ззаду світы.

Люд жа талопіў вочы на алтар, ніжняя частка якога — антэпендыум — была, мабыць, прывезеная з самога Рыма — з рэдкім майстэрствам на металічных пласцінах, упрыгожаных яшмай і лазурытам, выбітыя сцэны з жыцця Хрыста і апосталаў; на келіх, крапіла, бурсу, што з рук у рукі перадавалі біскупу апранутыя ў белае служкі з брытымі макушкамі. У напружаным маўчанні скончыўся абрад, і Міндоўг, з палёгкай уздыхнуўшы, пругка пайшоў таропкімі крокамі, далёка пакідаючы сына і жонку, нібы рвучыся на памост, дзе яго чакаў магістр.

Андрэй фон Стырлянд трымаў карону высока, уздымаючы яе ўсё вышэй, і яна трапятала ў ягоных руках сярэбраным целам злоўленай рыбіны. Біскуп, перавальваючыся, узняўся на памост, на ягонай руцэ пярсцёнак з часцінкай святых мошчаў здаваўся вялікім чорным жуком. Міндоўг, а за ім жонка і сын апусціліся на калені, і з шоргатам, рыпеннем, уздыхам паўтарыў тое народ. Біскуп узяў карону і паволі, імкнучыся падоўжыць гэтую хвілю, апусціў яе на галаву князя, нахіленую перад ім. З натоўпу крыжакоў Стырлянду перадалі загорнуты ў празрыстую кісяю сярэбраны абруч з невялікім конусам наперадзе, у які быў упаяны крыж з бірузы. Яго, асцярожна выняўшы з абгорткі, наклаў на галаву княгіні таксама біскуп, у той час як магістр апаясаў маленькага Рэпенью скураным поясам з металічнымі ромбамі і ўклаў у похвы пры поясе мініяцюрны меч — знак таго, што прымае хлопчыка ў рыцары. Тады крыжакі, падняўшы рукі ў жалезных пальчатках, тройчы ўдарылі далонь аб далонь.

— Каралі Свяшчэннай Імперыі заўсёды шчаслівыя атрымаць разам з каронай святое папскае блаславенне, — загаварыў Генрых. — І сёння гэтае блаславенне пасылаецца табе і твайму народу, які разам з табою ўступае ў сям'ю, прасветленую ісцінным вучэннем Хрыстовым. Ад гэтага часу ўсе хрысціяне Еўропы абавязаныя дапамагаць табе, кароль Міндоўг!

Зноў загрукаталі барабаны, звонка заспявалі ля капліцы служкі. Міндоўг сышоў з памоста, ля якога ўжо стаяла лава, засланая сінім аксамітам, куды ўселася княжацкая сям'я. Ваяводзіна і Апфія, стоячы за княгіняй і дачкой, трымалі іхнія белыя накідкі. Світа тоўпілася ззаду.

На ўзвышша амаль узбег танклявы, гнуткі Раман, следам за ім узнеслі цымбалы. Перабіраючы струны, хлопец заспяваў

складзены ім славаслоў у гонар князя. Паслы зашапталіся: голас спевака, высокі, звонкі, з няўлоўна аксамітава-мяккім адценнем, заварожваў, варушыў у сэрцах нешта патаемна-тонкае…

Апаясаная воямі плошча застыгла, змоўкла мурашліва-бязладнае варушэнне на ніжніх вуліцах, дзе тоўпіліся навагародцы. Жывена абвяла позіркам твары крыжакоў: круглы твар Северта з тоўстымі пажадлівымі вуснамі ільсніўся задавальненнем, магістр заплюшчыў вочы, немалады яго, з глыбокімі зморшчынамі лоб схіліўся; нейчыя вочы перахапілі ейны позірк, скрыжаваліся погляды, не адпускаючы адзін аднаго.

Малады, жаўтлявы як воск твар, на якім разцом выразаны рысы прыгожыя, жорсткія, уладныя. Нібы чуе Жывена, як нерухомы рот загадвае апусціць вочы, але яна не адводзіць.

— Ты што, закамянела на гэтым рыцары? — тарганула за рукаў Яўлампія. Жывена няўцямна перавяла на яе позірк, як не пазнаючы: нешта праціяло грудзі, не ўздыхнуць.

— Перапудзілася, ці што? — дыхала заморскімі пахкасцямі, цясніла пульхнымі грудзямі цікаўная жанчына. — Ты лепей на князя, ой, на караля зірні: ён жа ўсё касавурыцца на гэтую… нашай княгіні… каралевы сястру. А людзей! Хоць лыжкай мяшай!

Міндоўг, як ніколі падобны да ваўка са сваім белым няроўным выскалам усмешкі, сядзеў, выставіўшы правы плячук, і позірк яго стоена раз за разам абягаў Яксу, яе высокія грудзі пад пунсовым адамашкам, чорныя кудзеры над белым ілбом. Маладая жанчына была амаль адбіткам сваёй сястры, але адбіткам маладым, стоена-гарачым, у той час як цяжарная каралева агрузнела і, мабыць, пачувала сябе нездаровай: халодна-блакітныя вочы затуманіліся, пачырванелі.

— Трымайся роўна! — раздражнёна сказала яна Алене-Вавёрыцы. — Ты дачка караля!

Тузанула галавой, так што медная шпілька, якой была прыколатая да чапца кісяя, да крыві драпанула рукі ваяводзіны, тая вохнула.

— Даруй, княгіня Мілена, — зашаптала спалоханая жанчына, — не ўтрымала за табой убор!

— Ці ты не чула: мяне ахрысцілі Мартай. І я каралева!

— Даруй, каралева Марта, — схілілася ваяводзіна, а слёзы ад болю і крыўды так і пакаціліся па ейных шчоках…

Баярын Агапій, калі Апфія пераказвала здарэнне, дакараў дачку і жонку:

— Ці вы, агонь вас ведае, не бачыце, што цяжарная жанчына змаглася? І Міндоўгу не да сестрыных спадніц: мабыць, думае, ці

дапаможа холмскі біскуп улагодзіць Данілу Галіцкага? Той усёткі да Ордэна прыслухоўваецца, самога хрысцілі і каранавалі. Таўцівіла мы з гульні выкінулі… Прынясіце лепей варцобы дый отрака паклічце. І не пайду я на плошчу, бо і так ногі баляць…

На плошчы ўвечары народу было як маку, хаця цяжарныя дажджом аблокі ледзь не дакраналіся да смалякоў, якія скрозь матляліся вогненнымі венікамі, прыбітыя да слупоў, пад якімі нястомна чэрпалі з бочак і разлівалі ў чашы і брэцьяніцы хмельны мёд і піва княжацкія слугі. На кастрышчах угіналіся пад зубрынымі тушамі на пожагах моцныя рагаткі, сабакі грызліся з-за костак альбо, ацяжэлыя, драмалі пад памостам, сквірчэла мяса, шугаючы ў насы пахам сытасці і свята. Гаманілі, меркавалі, спрачаліся новагародцы:

— Каб жа кожны дзень так, а то кугеня* абрыдла!

— Працуй, дык дастанеш і гуся з грыбамі! А то як верабей жывеш.

— Рад бы, братка, ды раны не загойваюцца, вайна не дае.

— А мне дык вайна добра здабычы ў клець натрэсла…

— Добра, што Міндоўга за князя ўзялі — зух!

— Гэта, як малады быў… А цяперака зух — супраць мух. Во з крыжакамі танцуе, а ім пальца ў раты не кладзі… Даніла зубы на нас точыць. Дый хто толькі не лезе, і ўсе — чортава семя, воўкава племя…

На трэці дзень свята прызначаныя былі стрэльбы ў замку, дзе сапернічалі рыцары і знатныя воі новагародскія. Рознакаляровымі вапамі намалявалі ўмельцы на ліпавых дошках зуброў і аленяў, баброў і векшаў, а то і дробных птушачак. Цалялі стралкі хто як мог, але пераўзышоў Міндоўг магістра Андрэя. У конных жа скачках удзелу яны не прынялі, затое, усеўшыся на памосце, разам глядзелі, як, зрабіўшы чатыры кругі вакол гарадзішча, урываюцца на плошчу коннікі, дапінаючыся як хутчэй да запаветнай рысы, намаляванай ці, хутчэй, налітай кінаварам на ўтаптанай зямлі.

Першымі, як прастрачыўшы пыл капытамі, праляцелі, амаль пыса ў пысу, гнедая і шэрая ў яблыкі кабылы, на якіх сядзелі рыцар Райнер і, як перадалі князю, Гастамысл, сын баярына Мікулы. Аднак жа, калі Гастамысла падвялі да памоста (бо ягоная кабыла на паўгалавы апярэдзіла немца) і збіраліся павесіць яму

* Страва з хлеба і вады.

на шыю сярэбраны медальён з выявай Міндоўга, разгледзелі ўсе, што гэта зусім не Гастамысл, а пераапранутая ў яго адзенне ўнучка баярына Агапія, Жывена. Як жару ўхапіўшы, упаў перад памостам на калені галоўны наглядальнік за скачкамі Дубравец. «Ахці-хці-хці», — запрычытаў княжацкі канюшы Пелка. Кароль жа Міндоўг, разгледзеўшы худзенькага няскладнага падлетка, падобнага да дзьмухаўца з шапкай вогненна-залатых валасоў, раптоўна разрагатаўся, і яўна адабральны той смех абурыў не толькі рыцара Райнера, які не мог зразумець, як дазваляюць такое ў каралеўскім горадзе, але і самога магістра. Тады кароль загадаў аддаць медальён Райнеру, а Жывену адвесці да дзеда, які заўтра прынясе прабачэнне за яе неразумны ўчынак. Аднак жа магістр палічыў такую мяккасць абразай для гасцей, ажно пакуль назаўтра не змякчыў ягонае сэрца стары Агапій, заявіўшы, што толькі захапленне ўмельствам крыжакоў штурхнула ягоную ўнучку на такую дзёрзкасць.

— У яе дар на коней, — тлумачыў баярын, паказваючы на ўнучку, што, сціпла апусціўшы вочы, стаяла за ім, у вяночку і доўгай вышыванай кашулі зусім не падобная да распаленага гонам конніка, што пластаўся на кабыле, абганяючы маладога крыжака. — Яны яе слухаюцца як нікога ў храме.

— Мая кабыла яе не паслухаецца, — заявіў Северт. — Пяць гадоў я прыручаў яе, і нікому не дасць яна над сабой волі, апроч мяне.

— А давайце паспрабуем, — нарэшце падала голас Жывена.

Зацікаўленыя тэўтоны гуртам павалілі на стайню, адкуль Северт вывеў прыгажуню-кабылу, зацугляў і пабег па кругу. Яна, лёгка перабіраючы сухімі, як вытачанымі з охрыстага каменю нагамі, рухалася за ім, нібы ляцела. Северт нарэшце спыніўся, пагладжваючы ільсняны бок жывёлы, чакаў, пакуль падыдзе дзяўчынка. Яна ж, не набліжаючыся да іх, ледзь чутна прысвіснула і, калі кабыла ўтаропілася ў яе, стала нешта шаптаць, ледзь варушачы вуснамі.

— Donner vetter*, падобна да таго, што твая Эльке яе слухае! — раздаўся голас. І сапраўды — кабыла схіліла грыву, вушы яе заторгаліся; нібы раздумваючы, яна стала ціхенька заграбаць капытом пыл, зафыркала, пасля ізноў супакоілася.

— Хадзі сюды! — паманіла яе дзяўчынка.

Уражаныя рыцары не верылі вачам: Эльке ціха падышла да Жывены, абнюхала яе, ледзь чутна заіржала і пачала торкацца

* Чорт пабяры (ням.).

разумнай, таксама як выразанай з рудага каменю пысай у худы дзявочы плячук.

— Дзядуля, падсадзі! — папрасіла Жывена.

Седзячы бокам на кабыле, яна павольна аб’ехала круг па двары, лёгка саскочыла, зноў нешта зашаптала, і Эльке пайшла да Северта — трохі вінавата, нібы разумеючы, што падвяла гаспадара.

— Мы рыцары Хрыста, — нахмурыўся Стырлянд. — А тое, што мы бачылі, — гэта чарадзейства. Перакладзі яму гэта, талмач.

Рыцары адступілі ад Агапія і ягонай унучкі, якая ясна і спакойна глядзела на іх.

— Я хрысціянін, такі ж, як і вы, — не збянтэжыўся баярын. — Думаю, што адзін Усявышні адорвае людзей. Мой брат таксама любіў коней, і яны адказвалі яму тым жа. Любоў — гэта дар, без яе не можа быць жыцця. Скажы, аб чым ты прасіла кабылу, унучка.

— Я сказала толькі, што яна ад ветру, а я ад зямлі. Што яна ведае, як ляцець па зямлі, а я ведаю, куды. І мы патрэбныя адна адной, бо я ніколі не пакрыўджу ніводную жывую істоту. І яна мне паверыла…

Пасля таго як талмач пераказаў яе адказ, наперад выступіў рыцар Райнер і працягнуў Жывене медальён, атрыманы ўчора на скачках.

— Гэта твой.

Яна адмоўна паківала галавой, гледзячы на яго знізу ўверх фіялкавымі вачыма, у сваёй белай сукні падобная да кветкі, пастаўленай у дарагую шкляную вазу.

— Ты наш госць, і хай застаецца табе на памяць, рыцар. Твой меч моцны, але я толькі хацела паказаць, што ёсць нешта мацнейшае за сілу…

Моцна сварыўся тады Агапій на сваю ўнучку, дакараў яе. Апфія ж найболей шкадавала Гастамысла, якога за тое, што дазволіў дзяўчынцы скакаць замест сябе, пакараў ваявода вялікім штрафам. Быў бы чорнай чаддзю, засеклі б, можа, да смерці; пры двары ж шапталіся аб тым, што надта прыслухоўваецца Міндоўг да Агапія і шануе яго — нават не карае за дзёрзкасць унучкі. Жанчыны ж меркавалі, што тут умяшалася Апфія, упрасіла каралеву Марту, абяцаючы, што не пусціць болей сваю ўнучку Агапій ні на якія ўрачыстасці пры двары.

Ад'ехаў Войшалк — правіць ад імя Міндоўга самымі багатымі гарадамі Панямоння Ваўкавыйскам і Слонімам. І з ягоным ад'ездам як закруціліся, завіравалі вакол Новагародка розныя, благія і добрыя, падзеі.

Сын Данілы Раманавіча Шварн пасватаўся да Алены, і паехала яна з бацькоўскім блаславеннем і багатым пасагам да яго ў Галіч, забраўшы з сабою Апфію і Рамана, якія абвянчаліся ў той жа дзень, што і княжацкая пара. Яўлампія была і ўсцешаная тым, і пакрыўджаная, што не ўдалося ёй паказацца ў новай сукні, дзе ўстаўка на грудзях была вышытая прадзеным золатам, каляровай фольгай і залотнымі блішчынкамі. Аднак жа ад'езд дарослай дачкі дадаў бляску яе цікаўным вачам, і, як ніколі раней, наведвала яна двор, дзе каралева Марта, ледзь паспеўшы нарадзіць другога сына, ладзіла то чытанні аб прыгодах Трышчана і Ізоты, то спевы салодкагалосыя, а то і глумцоў, вандроўных актораў, запрашала, не шкадуючы на тое грошай. Любілі бываць на тых зборышчах тэўтоны, атрад якіх застаўся ў Новагародку, найболей жа рыцар Северт, аб чым ужо шапталіся па завуголлях замка, вакол якога будаваліся дзве новыя каменныя вежы, дзе, як тоўстагалоўкі-мухі, поўзалі па рыштаваннях глафеі*, муляры і каменячосы.

Стары ж баярын пачаў згінацца ў крук ці то ад скрухі, ці то ад хвароб. Дарэмна піў ён адвар з таўкачыкаў, які даў яму княжы лекар, дарма шапталі над ім замовы жрацы, а замест смажаніны падавалі яму найболей драчону посную ў макавым малацэ. Балюча перажываў ён нязгоды паміж Галіцка-Валынскім і Новагародскім княствамі, а сам, калі ўдзельнічаў у перамовах, тарокаўся**, раздражняўся, што ні на макулінку не думаюць іншыя пра Новагародак. Калі ж прыязджаў у храм Ашвінаў, дзе, ужо зусім не выязджаючы ў Новагародак, жыла і сталела Жывена, нібы маладзеў: борзда тупаў да вежы, там малады жрэц-вяжар*** даваў яму глядзець на неба праз крышталёвы пацік****, падоўгу стаяў на каленьках перад ахвярнымі агнямі, як бы стараючыся нешта ўбачыць праз зменлівыя абрысы чырвані.

— Жыццё ўжо гарэлага шэлегу не варта, — казаў Жывене. — Душачка мая і так на адной нітцы тут затрымалася, можа, каб

* Бялільшчык.

** Доўга дамаўляцца.

*** Жрэц, які дзяжурыць на вежы.

**** Шар з крышталю (старажытнарускае фаціс, ад індыйскага пацік).

убачыць, што з нашай зямлёй станецца. Агонь яго ведае, што татары надумаюць і што галіцкія князі праз іх утвораць…

Жывена чакала яго і разам з тым заўважала, што вечны яго клопат аб Новагародку раздражняе душу. Яна прагна вучылася ўсяму, што ўкладаў у яе Святазар, а вучэнне тое амаль не закранала хуткаплынных зямных праблем. Храм стаяў далёка ад дарог, па якіх ішло на Новагародак войска, якое як сарвала Міндоўга са стала і шпурнула яго назад у Руту, вярнула ў замак Войшалка, які пачаў перамовы з магутным некалі сапернікам. Цяпер, як нястрымная паводка падточвае жаралістыя камлі дрэў, падточвала татарская навала сілы Галіцка-Валынскага княства, тым даючы надзею Новагародку скінуць з сябе, як апрыкрае лапікла, васальную залежнасць. Але пакуль цягнуўся, ахінаючы крысом бацьку, маладняк: дачка Данілы Пераслава княжыла ў Мазовіі і Куявіі, пабраўшыся з сынам Конрада Мазавецкага Земавітам, сын жа Раман ажаніўся з Гертрудай, пляменніцай герцага аўстрыйскага. Патрабаваў Даніла новагародскую карону для Шварна…

Тое, што ярыла дзеда, выслухоўвала Жывена, але горкія яго прыкідкі пакідалі яе раўнадушнай, і не раз стрымліваўся Агапій, каб не расказаць унучцы аб усім. Адчуваў, што пакідае яе адну, безабаронную перад хітраспляценнямі Лёсу, які недарэмна ўзвышае князёў над усімі, але тым і прымушае іх плаціць па асобным рахунку. Аднак помніў старажытны выраз: «Вагай валодаюць словы, і цягнуцца лёсы за Словам», а таму баяўся сурочыць унучку і маўчаў.

У год, калі Жывене споўнілася чатырнаццаць, у храм прыехаў Міндоўг.

Толькі што прайшла Сёмуха, калі ў храм прыносілі зеляніну, вянкі з маладых красак, а ў селішчах плялі для самай прыгожай дзяўчыны карзно-плашч з зялёных галінак, у якім яна сядзіць пад бярозай, дзе скачуць хлопцы і дзяўчаты, спяваюць-гукаюць шчасце, раз-пораз выкрыкваючы «Мая, о Мая!» альбо «Дзід-Лада!». Песні даносяцца да храма, а Святазар апавядае сваёй вучаніцы пра глыбінны сэнс культу Маі, багіні расліннасці і буяння, а разам з тым падману і ілюзій. Так, у багоў дзве абалонкі: адна — зразумелая для ўсіх, другая ж — патаемная, для жрацоў, якія вучацца пранікаць за абалонку, каб дазнацца пра волю багоў і няўмольны поступ лёсу. У Лады, славянскай багіні кахання, як і ў літоўскай Мілды, свае таямніцы, як і ў Жытняга Дзядка, у іншых багоў, і, паўтараючы прыпевы, звяртаюць людзі на сябе ўвагу багоў, спрабуюць іх улагодзіць. На Сёмуху былі

добрыя прыкметы: ярка гарэлі вогнішчы, і, мабыць, данесліся да багоў з дымам памкненні вернікаў, таму што сонца ўперамешку з гаючымі дажджамі нібыта выцягвала з зямлі кожную, самую слабую раслінку, песціла яе, і радасна завіхаліся на палетках агнішчане і простая чадзь.

І да свята Ашвінаў, альбо першага Конскага Вялікадня, рыхтаваліся па селішчах: рвалі рагоз, фарбавалі тканіны з цыбульнага шалупіння ці з яловых шышак, разводзілі для чырвані ржавае жалеза. Ды ў якой гаспадыні няма пад рукой валошак ці сухой дубовай кары альбо алешыны, каб прыйсці на свята ў новапафарбаванай кашулі? Ткалі лён на белыя наміткі, ручніковыя ўборы, вышывалі іх альбо аблямоўвалі сярэбранымі і жалезнымі бляшкамі. Для коней жа таксама стараліся: грукалі па селішчах кавалі, бразгацелі падковамі, каб абнавіць старыя; у стайнях чысцілі і прыбіралі, вешалі бразготкі, каб адагнаць нячысцікаў; драўлянымі грабянцамі разбіралі грывы, бо, бывала, яны ў струкі пакачаюцца ад натруджанасці. Дастаецца сялянскім конікам, ірвуць яны жылы на лядах, дык стараліся хаця б на свята агледзець іх як найлепей навакольныя гаспадары. Да таго ж перад Конскім Вялікаднем звычайна аб'язджалі селішчы жрацы з храма, каб абкурыць хворых коней зёлкамі, а здаровых апырскаць вадой са свяшчэннага возера. У апошнія гады надта прасілі прысылаць Жывену: светлая ўсмешка дзяўчыны, заўсёды радасны настрой і гатоўнасць дапамагчы прыцягвалі да яе сэрцы. Да таго ж заўважылі людзі, што коні цягнуцца да яе, і самыя наравістыя заціхалі пад ласкавымі пальцамі маладой жрыцы, калі дакраналася яна да вахлакоў* ці выцятых месцаў. Таму ў дзень ахвярапрынашэння яна ледзь паспела вярнуцца з аб'езду і, выкупаўшыся ў возеры, пераапрануўшыся ў святочнае адзенне, стаяла ў канцы купкі жрацоў каля ахвярнага кастрышча, сярод якога высіўся грамозны** разьбяны конь з устаўленымі замест вачэй агатамі. Калісьці ў час вялікай ахвяры палілі жывога каня, але цяпер усё часцей карысталіся драўляным; у многіх вернікаў на ланцужках альбо вяроўках матляліся на шыі маленькія драўляныя альбо гліняныя конікі.

— Вялікі князь! Міндоўг! — прашалясцела ад брамы.

Яр, трымаючы аберуч гліняны гаршчок з вуголлямі ад жывога агню, куды жрацы павінны былі ўторкнуць свае смалякі, каб падпаліць ахвярнае вогнішча, спыніўся каля Святазара, але ціха загадаў вярхоўны жрэц:

* Нарост.

** Вялізны.

— Пачакаем князя.

У натоўпе прыгнечана зашамацелі: чаканне, хаця і кароткае, было нядобрым знакам — ці захочуць багі прыняць ахвяру? Усе моўчкі глядзелі ў бок брамы, на мошчаную каменем дарожку, дзе, шоргаючы ботамі, падбітымі сярэбранымі цвікамі, у чырвоным карзне, з-пад якога выглядала белая кашуля з залатым мулетам-змеевіком на грудзях, велічна ішоў Міндоўг. За той час, як не бачыла яго Жывена, ён пацяжэў, асунуўся і пажаўцеў тварам, але па-ранейшаму нешта непакорліва-воўчае было ў яго зялёных вачах і выстаўленым наперад правым плечуку. Жрэц блаславіў яго схіленую перад ахвярным кастрышчам галаву, а слуга падаў авечы пузыр, ад якога моцна запахла бабровым струменем. Князь выліў каштоўнае змесціва на ногі драўлянага каня, чые вочы-агаты загадкава зіхцелі зверху. Тады Святазар запаліў свой смаляк і ўрачыста прагаварыў цвёрдым голасам-стрыжнем, на які, здавалася, была нанізаная яго шапаткая, стончаная плоць:

— Прыміце ахвяру, светлыя Ашвіны! Дайце нам добрых памочнікаў-коней! Ахініце нас усіх сваім залатым адзеннем!

І жрацы падхапілі хорам:

Бо вы — два лекары з гаючымі сродкамі,
І два каляснічыя з крылатай павозкаю,
Вы, два грозныя багі, уладай надзеліце
Таго, хто шануе вас ад душы.

Ярка страпянуўся агонь, загулі, запалалі паленцы, сінявата-аранжавая заслона паднялася, калыхаючыся, накрыла сабою каня, і, прабіваючы яе, ляцелі ў кастрышча прынашэнні — пацеркі, бранзалеты; пырскаліся жоўтымі кроплямі мёд і хмельнае пітво, якія таксама лілі ў агонь, даючы яму спажыву, людзі, узбуджаючыся, гаманліва скакалі вакол кастрышча, падпяваючы жалейцы і варгану.

— Радасць — гэта таксама пітво багоў, — заўважыўшы трохі грэблівы выраз на твары князя, загаварыў Святазар. — Ты ж гэта ведаеш, высокі наш госць… Ці адвык ужо ад прадзедаўскіх звычаяў?

Міндоўг, не адказваючы, паглядзеў яму ў вочы.

— Можа, твая жрыца Жывена паглядзіць майго каня? Ён нешта капрызіць…

— Твая дачка, прасветлы князь, сапраўды валодае дарам разумець гэтых высакародных жывёл. Нездарма самі Ашвіны называюць сябе сынамі кабылы, хаця мы шануем іх — аднаго як

сына чыстай дзевы Сумахкі, другога як сына неба, — гаворачы гэта, Святазар зусім не выпадкова падкрэсліў «твая дачка».

Міндоўг хмыкнуў, запытаўся шэптам:

— Яна пра гэта ведае?

— Не.

— Чаму ж ты ёй не сказаў?

— Зоркі гаворацЬ, што ты прынясеш ёй няшчасце, можа, нават пагібель, як прынёс яе той, другой… Нашто ж ёй ведаць?

— Я? Прынясу ёй няшчасце?

— Ты, князь. Слаўны ты вой, але старасць не дадае табе развагі. Гатовы ты і сёння змагацца за новагародскі стол, за ўладу. І не можаш пакласці яе, як галінку, пад калясніцу, каб праехаць якое топкае месца…

— Жорстка ты гаворыш са мною. Не баішся?

— Багі даўно адвярнуліся ад цябе, і цяпер ты нездарма зноў шукаеш у іх падтрымкі. Калі ты быў з імі, яны заўсёды табе спрыялі.

— Дык хай жрыца паглядзіць каня, — перавёў размову Міндоўг.

Святазар кіўком паказаў Жывене, каб яна пайшла ўслед за князем. А той, выйшаўшы з храма, загадаў:

— Калі ты такая разумная, як кажуць, то адкажы, што з канём?

Жывена ўважліва агледзела невысокага, але зграбнага скакуна нязвыклага рудога колеру з чорна-бурым «рамянём» па ўсёй спіне і белай плямай на пысе. Мясцовыя ж коні былі ўсе цёмна-шэрыя, цяжкія целам — мабыць, уздзейнічала парода заходніх, ардэнскіх скакуноў альбо барбансонаў, на якіх так любяць ездзіць нямецкія рыцары. Міндоўгаў скакун, хаця і наравіста касавурыўся на дзяўчыну, дазволіў падняць капыты і палюбавацца на сярэбраныя цвікі, якімі былі падбітыя падковы, пагладзіць сябе па кароткай грыве.

— Я не знаходжу ў яго ніякай хваробы, — мовіла яна нарэшце.

— Значыць, цябе дарэмна хвалілі.

Дзяўчына схілілася перад ім у нізкім паклоне.

— Даруй, вялікі князь, што не змагла табе дапамагчы. Можа, ты папросіш пагля дзець твайго каня каго іншага?

Напружаны позірк князя, якім ён нібы абмацваў танюткую дзявочую постаць, відавочна змякчыўся, зялёныя вочы пад ссівелымі брывамі пасвятлелі, вызначыўся няроўны выскал моцных белых зубоў:

— Не забылася, што я вялікі князь…

Шчоўкнуў пальцамі, слуга падаў яму бяроставы карабок. Міндоўг працягнуў яго Жывене. Расчыніўшы вечка, тая няўцямна падняла на дароўцу фіялкавыя вочы з пушыстымі вейкамі:

— За што мне падарунак?

Князь нягнуткімі пальцамі дастаў пярсцёнак з карабка. Дзівоснай сінечы лазурыт падобны быў да кветкі.

— Іншая б прыдумала хваробу, каб паказаць, на што здатная. А ты праўду сказала — здаровы мой Вецер.

І ўжо ўсеўшыся на каня, сказаў зверху:

— Хто твае бацькі?

Дзяўчынка пацiснула плячыма, сказала спакойна:

— Усе мы дзеці Зямлі і Неба, толькі не ўсе ведаюць гэта.

— Аднак дзеда ты любіш.

— Я люблю ўсіх, бо мы ўсе душы, што прыляцелі сюды, каб зрабіць наканаванае.

— Як па-пісанаму чэшаш, Юр цябе разбяры! — развесялелы князь зграбастаў павады, загадаў: — Калі хто будзе крыўдзіць — перадай мне. Дзед твой мне верным застаўся, і ўнучку ягоную не пакрыўджу.

Жывена яшчэ раз лёгка схілілася ў паклоне і, нахіліўшыся над ёю, амаль прашаптаў князь:

— А ты не надта схіляйся, чуеш! Не надта!

Крануў павады, паехаў, не азіраючыся. Дзяўчынка жмурыла вочы пад млявым сонцам, гледзячы ўслед.

Вясновы дзень набіраў моц: трапяталі жаўранкі ў пераменліва-кіянітавым* прасторы, зялёным сокам наліваліся ля дарожак сцяблiны прываратня** дый серабрыстага палыну, удалечыні слалася пад ветрам маладое жыта.

— Ого, як цябе ўважыў князь Міндоўг! — зайздросліва пачулася ззаду.

Да дзяўчынкі падыходзіў Істр, прагна разглядаючы падарунак.

— Калі падабаецца, бяры! — працягнула пярсцёнак Жывена.

— Княжацкімі падарункамі не раскідваюцца!

— Гэта толькі мёртвая рэч, хаця і прыгожая.

— Мёртвая… Ты ж ведаеш: дотык любых рук, а тым болей княжацкіх застаецца.

— Ведаю… але…

---

* Сіні.

** Піжма.

— Мне дык не пашанцавала, як вось яму, — кіўнуў Істр услед князю. — Нарадзіўся простым служкам.

— Аднак жа ты мог нарадзіцца і вось гэтым… — Жывена паказала на скручанага хваробаю старога, што паціху клыгаў з храма, аберуч трымаючыся за пашмальцаваны вярэнь*, у якім, мабыць, прыносіў падарунак багам, у падраных лапцях з вязелля**.

— Тады б мне і не хацелася нічога апроч якой-небудзь поснай драчоны з макавым малаком дый мяккага рыззя пад бок. А калі кроў кіпіць, калі галава поўная задумаў? У нас усё так ціха, як… як у дубовай калодзе***.

Калі ж прагудзела біла, заклікаючы да абеду, і яны ішлі назад, запытаўся Істр зменлівым ад унутранай напругі голасам:

— Ці праўда, што цябе нарадзіла маці ад Міндоўга?

Жывена шырока расплюшчыла вочы ад здзіўлення:

— Ад Міндоўга?! Хутчэй ад Купалы. А можа, ад Вялеса.

— Ты, значыць, нічога не ведаеш. Альбо… прытвараешся, — прамармытаў жрэц, хутка пераводзячы размову на іншае.

Калі ж пасля абеду запытаўся ў Жывены Відэвут, ці пойдзе яна ў стайню, а пасля на бегавыя дарогі, Істр зазлаваў:

— Мяне вы ніколі не клічаце. А людзі не любяць, калі жрэц калюхаецца на кані, як пусты мех.

Відэвут і Жывена пераглянуліся, заўсміхаліся.

— Ты ж сам не любіш надта абівацца на конях. Яны гэта адчуваюць.

— А цяпер буду! — з сілай сказаў Істр, падазрона гледзячы на падлеткаў. Але яны глядзелі на яго яснымі поглядамі, і ён вырашыў назіраць за імі. У галаве стаяла адно:

— Калісьці яна будзе выбіраць кагосьці з Ашвінаў. Калі і сапраўды яе бацька Міндоўг…

З таго дня старанна выбіраў Істр з падораных храму каштоўнасцей найчасцей пахкасці і духмянае зелле, а таксама сам збіраў па лугавінах чабор і піў чароўныя слёзы перагтупеня****, для чаго з вечара рабіў на каранях незвычайных гэтых раслін надрэзы, і ніколі не ленаваўся скрэбсці белыя карані драўлянай самшытавай лыжкай, цярпліва дастаючы змесціва.

---

* Плецены з палосак кары кашэль.

** Вяз.

*** Нябожчыкаў славяне хавалі ў дубовых калодах.

**** Расліна брыёнія, якая раней расла ў краінах Еўропы.

Навакольныя дзяўчаты валам валілі ў храм і дзеля таго, каб паглядзець на рослага прыгажуна-жраца з тварам гладкім і белым, як малако, з рухамі павольнымі і вывeранымі, як у танцора. Ішлі гады, а ён выглядаў усё тым жа юнаком — Ашвінам, які не можа састарэць і змарнець, таму што яго люляе неба. Каржакаваты Відэвут выглядаў цяпер ягоным равеснікам, і ўсё больш раўніва клапаціўся Істр, каб малады прус і Жывена не заставаліся ўдваіх. А яна расла, выцягвалася, як стрункая сасонка на ўзлеску, і позірк Відэвута ўсё часцей спыняўся на ёй не з брацкай цеплынёй, а з гарачым захапленнем. Яна ж жыла, захопленая жыццём храма і сваімі марамі, а таксама пастаяннай вучобай, як быццам Святазар, станчаючыся як кляновы ліст, разам з часам, стараўся пераліць у яе змесціва свайго розуму і душы. І гэты год, у які ёй спаўнялася шаснаццаць і калі яна ўжо магла мець свой голас у храмавых справах, запоўніўся менавіта гэтым — замілаванасцю жыццём, якое нібы перадавалася праз Святазара.

Яны спускаліся ў нізінныя пакоі, дзе Святазар захоўваў кнігі, а таксама найстаражытнейшае вузялковае пісьмо, якое павінны ведаць усе жрацы. Аднак жа з маладых толькі Жывена магла, перабіраючы пальцамі пашорхлыя ніты, разбіраць законы, па якіх будаваўся і існаваў храм Ашвінаў. Павучылі, але хутка забыліся на мову Ашвінаў і Істр, і Відэвут, а мова гэтая называлася санскрытам.

— Ашвіны нябачна прылятаюць у свае храмы, трэба ж, каб яны маглі пагаварыць са сваімі жрацамі, — гаварыў напаўжартам, напаўсур’ёзна Святазар. І тут жа дадаваў, што яму не давялося сустрэцца з боскімі блізнятамі, якія за дзень на сваіх скакунах аблятаюць Сусвет, а на гэтую далёкую зямлю ніяк не збяруцца.

— Як жа і калі прыйшлі яны сюды першы раз, каб заснаваць свае храмы? — спыталася Жывена.

Яны разам перабіралі амаль спарахнелыя вузельчыкі, і нават Настаўнік не мог назваць часу, калі прыйшлі сюды перад славянамі іх папярэднікі балты. Але і тыя, і другія захавалі памяць аб далёкіх арыях і іх цывілізацыі, якая адгукаецца агульнымі словамі і звычаямі ў памяці абодвух народаў.

— А можа, Ашвіны не прылятаюць да нас таму, што мы забыліся на іх запаветы? — пыталася Жывена.

— Можа, і таму. Мы страцілі жывую радасць ад жыцця — проста жыцця, здрабнелі ў жаданнях і забыліся, што мы лісты аднаго дрэва. А яшчэ, — горка дадаў Святазар, — нават мы, жрацы, спрабуем дагадзіць сіле, аднак жа князі — гэта ўсяго

толькі маленькія чалавечкі, якія падскокваюць, каб вышэй паказаць сябе.

Жывая радасць жыцця ажно перапаўняла ў той лета маладую дзяўчыну, яе нібы несла над зямлёю, як, бывала, падхоплівае шаўковы каснік ласкавы вецер. Свет раскрываўся ў незлічоных сваіх загадках — чаму пахнуць кветкі, што кіруе дрэвам ці раслінаю, калі яны з пупышак расхінаюцца ў раз і назаўсёды вызначаных формах, што рухае сок у зёлках і надае ім жыццядайную сілу. Ці праўда, што валошка альбо сіноўнік — гэта хлопец, які не захацеў пакінуць зямлю і пайсці за прыгажуняй-русалкай у ваду, у бездань, за што і быў ёю пакараны? А чарнічнік — куст, які адзіны згадзіўся схаваць пад сабою барздукоў*, на якіх палявалі зайздросныя да іх багаццяў людзі? А ясянец, які не згарае ў агні і застаецца зялёным? Яны лечаць хваробы, а жрацы звяртаюцца да душаў, таму што любая хвароба — гэта расплата за парушаныя законы, па якіх трэба жыць чалавеку. Як ёй хацелася адчуваць прысутнасць багоў, якія дапамагаюць у імгненне зразумець неспазнавальнае: той карэньчык зла, які прарастае нядужасцю і нядошласцю!

…Неяк уначы Жывена прачнулася ад таго, што за акном нешта ценькнула, нібы праляцела страла.

Месячык-сход, падобны на акрайчык хлеба для магутнага цара багоў — Перуна, ільсніўся амаль на мяжы неба і зямлі, бляклае жоўтае святло не даставала да зямлі, расплывалася наверсе, над дубамі; цемра была пагрозлівай, трывожнай, а на вяршалінах дрэў бесперастанна вібравала лісце.

Пахі напаленай гарачым днём зямлі, калі дзяўчына выйшла з церама, здаліся гаркавымі: скошаная пожня, раструшчаны колам колас, вырваныя з зямлі і завялыя чараты, пахкі балігалоў. У такую ноч, выходзячы на раздарожжы, чараўніцы шэпчуць закляцці і пырскаюць крывёй чорнага пеўня на чалавечы след, каб навесці на ўладальніка цёмныя сілы. След дастаюць з-пад парога альбо на пыльнай дарозе, дзе мякка ступаць босай назе. Дастаюць пасмы валасоў, зрэзаныя рагавінкі пазногцяў, каб шаптаць над імі нялюдскай чарнечай напоўненыя словы. Непамерную сілу мае Слова! Яно спыняе кроў і наводзіць сон, авалодвае ветрам і насылае градабой, знаходзіць у нетрах клад і насылае процьму злыдняў, а таксама, бывае, выклікае нябожчыкаў. Ёсць Слова вешчае і Слова нядобрае, якое, сказанае ў пэўны час, абернецца няшчасцем. О, як іх вучылі ў храме адчуваць ч а с д л я д з е і і

* Гномы (бел.).

д л я  п р а м а ў л е н н я! Але вучылі не шкодзіць, а дапамагаць, адводзіць зло. І Жывена зашаптала ў ноч замову, каб перабіць нейчую чорную сілу, якая нясецца блізка-блізка на сваіх чорных крылах, несучы некаму смерць альбо калецтва:

— Пайду я ў чыстае поле, пад чырвонае сонца, пад светлы месячык, пад частыя зоркі, пад палётныя аблокі; стану я ў чыстым полі на роўнае месца, аблокамі аблачуся, нябёсамі пакрыюся, на галаву пакладу чырвонае сонца, падпаяшуся светлымі зараніцамі, абтычуся частымі зоркамі, што вострымі стрэламі — ад усялякай злой немачы…

Не паспела дашаптаць апошняе слова, як вострымі іголкамі закалола ў грудзі, замлелі каленькі. «Як жа я? — мільганула думка, — не памыўшыся, не памаліўшыся Зары-зараніцы і Ашвінам? Таму зло не спаліла, а на сябе прыняла…»

На яе крык падхапілася Юрна, спрасонку ніяк не магла запаліць смаляк, пасля стала хутка расціраць дзяўчыну алеем з ружовага каменнага сасуда.

— Што ты, зярнятка маё, — дапытвалася лятонка, — што ты не так сатварыла? Маленькая ты яшчэ, а сілы нячыстыя ой якія моцныя!

— Ніколі шчэ такі ўдар не атрымлівала, — прамармытала Жывена. — А Настаўнік не раз папярэджваў, што, хаця і перапаўняе жаданне перамагаць чорную сілу, трэба добра да таго рыхтавацца…

— Блага гэта, ой, блага! Чараўніца чуе, як трава расце, а ты гэткую яруху* пакуль што не супыніш…

— На сходзе замовы не шапчы, — засынаючы, успомніла Жывена, а сход струменіўся і струменіўся на заціхлую зямлю, і пагрозліва несліся скрозь ноч вядзьмарскія злыя заклёны…

Перад самымі Дзядамі бесперапынныя абложныя дажджы скончыліся, бог маразоў Зюзя лёгенька прыклаўся сваёй ледзяной паліцай да дарог, да тужлівых самотных палёў, і яны застыглі, заледзянелі. Тонкімі шклянымі нітамі зазвінелі пад ветрам чараты, шэрань, як малако, папаўзла па дарогах, і начны снег, растаючы на полі, усё гусцей залягаў пад ялінамі.

З Новагародка прыслалі вазок з наказам ад баярына Агапія прывезці ўнучку. Адчуваў ён смяротную знямогу і хацеў развітацца з ёю, бо, па ўсім відаць, Апфія не прыедзе, не паспее пабачыць яго жывым, а значыць, Жывена развітаецца за дваіх…

---

* Раз'ятраная жанчына (стараж.).

Дзяўчына як чакала гэтай страшнай абвесткі — перад гэтым бачыла, як малады, вясёлы Агапій гахкае сякерай і радуецца новаму цераму, які будуе.

Праязджаючы цераз рэчку, Жывена спынілася на мастку, угледзелася ў ваду, непрыветную, як бы ўжо абыякавую да ўсяго жывога. Плыткая рачулка вірылася дзе-нідзе глыбокімі ямінамі, і дзяўчыне ўбачыўся на імгненне касматы, тоўсты і з'едліва-пасміхасты Вадзянік, а вакол коратка рагатнулі і звіліся клубкамі зялёныя цягучыя водарасці.

З шоргатам, спачатку рэдкая, пасля ўсё гусцейшая, паплыла з неба каламуць, зацягваючы наваколле. Справа ад дарогі, дзе, матляючы галінамі, старыя кашлатыя яліны нібы вартавалі шалом-курган, раздаўся хрыплы крык ругана. Ён нешта дзёўб, злобна косячыся чорным вокам на няпрошаных гасцей. Тут, успомніла Жывена, ляжыць багатыр Рагаты Сокал, які знёс вогненнай паліцай галаву Вогненнаму Змею і чый посвіст з коранем выдзіраў магутныя дубы.

— Нядобрай будзе паездка, — ціха прагаварыла ззаду Юрна.

Паездка сапраўды была цяжкай — коні паволі прабіваліся скрозь заслону ветру, нібы бесперастанку дзьмуў насустрач грамозны змей.

Навагародак, які звычайна прыветна свяціўся ў змроку агнямі княжага замка і таўшчэзнымі смалякамі, якімі асвятляліся вуліцы, быў таксама як затулены ў калматы кажух непагадзі, а таму цёмны і непрыветны. Коні нават праехалі былі церам баярына, давялося разварочвацца на вузкай гарыстай вуліцы пад замкам.

Агапій ляжаў у ложку, згаслыя вочы хаваліся за калматымі брывамі, завастрыўся, выставіўся наперад доўгі нос. Абняўшы яго і ўдыхнуўшы знаёмы пах мятнай вады, Жывена адчула, што спакутаванае ад болю цела перайшло мяжу жывога і цяпер дацягвае, напінаецца з апошняга.

— Што, вырабіўся твой дзед у смык? — слаба ўсміхнуўся Агапій, не выпушчаючы ейнай рукі і з любасцю гледзячы на ўнучку.

— О, хай тое на звей-вецер будзе сказана! — прамовіла яна звычайныя ў такіх выпадках словы, але ён перапыніў:

— Не ўжо, вырабіўся. Жыццё маё гарэлага шэлегу не вартае, бо надта замучыўся я. Таму і не шкада пакідаць гэты свет. За цябе толькі і баюся, дзеля цябе хацеў бы пражыць троху, каб уладкаваць цябе, мая шчурачка. Яўлампія маладая яшчэ, ажно праг яе бярэ. Пражыве.

— Але мяне любяць у храме. Клічуць у селішчы. Чаго мне баяцца?

— Шлях твой не просты. Раздумваў я — ці варта табе казаць праўду? Але няма часу на адвалоку*, а з таго свету сюды не прыбяжыш.

Ціха адчыніліся дзверы, у пакой праслізнула чаляндніца, у драўлянай карчазе прынесла гарачае мятнае пітво для баярына. Яны перачакалі, пакуль яна пойдзе, і тады, перадыхваючы і спыняючыся, расказаў Агапій унучцы пра ейную маці. І пра князя Міндоўга, які забыўся на прыгажуню-жрыцу. І пра тое, што мучыцца віною стары Святазар.

— Значыць, гэта праўда… — раздумліва прагаварыла Жывена. — Чаму ты не казаў пра тое раней?

— Можа, ужо сёння цябе не было б у жывых. Альбо кружыла б галаву, хацелася б таго, што дае ўлада — людскіх лёстачак, пакорлівасці.

— А цяпер ты не баішся за мяне, дзядуля?

— Баюся. Але толькі абставін. За тваю душу я ўжо спакойны. Адчуваю: ты вышэйшая за той парог, аб які спатыкаецца большасць. Таму я бязмерна ўдзячны храму і Святазару. Тут, пры мне, ты, можа, была б іншай. Бо грэшны я: падабалася мне літасць Міндоўгава, хаця дбаў я найперш пра Новагародак. Табе адно магу завяшчаць: любі нашу зямлю, аддай ёй лепшыя сілы душы…

Зняможаны, адкінуўся на ўзгалоўе. Боль праходзіла па ім сутаргамі, па твары прабягалі цені, нібы баярына неслі ўздоўж дрэваў, а святло клалася збоку. Стыла пітво ў карчазе.

Абое яны не чулі, як, стоячы за дзвярыма, уважліва слухала чаляндніца шчырае прызнанне Агапія. Пасля яна лоўка слізганула па калідоры і далей — за браму, у замак, дзе ўсё пераказала даверанаму чалавеку Войшалка. Не ведаў Агапій, калі жонка яго прымала тую чаляндніцу на працу, што княжацкая рабыня павінна была атрымаць адпушчэнне на волю, калі раскрые тайну баярына. Не забываўся Войшалк ні на што, таму, злавіўшы неасцярожнае слова, што вылецела неспадзявана і бойка, як верабей, некалі з вуснаў баярына, пастараўся ўлавіць мудрага Агапія ў сплеценыя ім цянёты. Таму, занатаваная на бяросце, назаўтра ж у торбе ганца пырхнула таямніца Жывенінага нараджэння шукаць Войшалка, — і знайшла яго ў Палонінскім манастыры, дзе смі-

* Прамаруджванне.

рэнным манахам Елісеем перапісваў ён святыя кнігі і працаваў у садзе. Хрысціўся Елісеем у гонар забітага язычнікамі духоўнага настаўніка, і, каб застаўся жывым, нарадавацца не мог бы на яго Елісей: колькі ні віравала вакол віжаў-даносчыкаў, ніводзін так і не змог адпісаць Данілу праўду: што пільна сачыў смірэнны манах за ўсім, што дзеецца ў Новагародку. Вось і зараз, калі сустрэў ганца-новагародца брамнік, і, пакуль той ставіў каня ў стайню, абгледзеў ягоную сумку, пабачыў ён толькі пергамент, у якім паведамлялася, што спакойна ў горадзе і шануюць новагародцы Данілавага сына, які па волі Войшалка і з ягонай згоды атрымаў княжанне. Калі ж манах Елісей застаўся адзін, нагрэў ён ліст на агні і прачытаў іншае: прагна глядзіць Раман Данілавіч на захад, на герцагства аўстрыйскае, а жонка ягоная Гертруда ўводзіць пры двары парадкі нетутэйшыя, ад таго праваслаўная царква ў занядбанні, а primi proceres* спадзяюцца вярнуць князю спадчынны стол. Калі ж прачытаў пра споведзь Агапія, доўга хадзіў па прасторных сваіх пакоях ціхмяны ўдзень манах-князь, раздумваў і прыкідваў. Як пры гульні ў варцобы, расстаўляў ён постаці князёў нальшчанскага і дайноўскага, жамойцкага і новагародскага, а бацьку свайго Міндоўга то адстаўляў убок, то зноў пасоўваў наперад. Пакуль малыя зводныя браты Рэпік і Рукля, сваё адыграе на палітычнай дошцы і Міндоўг, толькі вось на чыім баку? Многа думаў ён і пра Жывену. Танклява-юная, як маёвая сцяблінка, дзяўчынка магла, нечакана для сябе і для Войшалка, павялічыць ягоныя шанцы ў дакладны час адразу дапяць да каралеўскага стала, абышоўшы ўсіх сапернікаў і недружалюбцаў. І ён ставіў яе то на адно, то на другое месца, нібы і сапраўды яна была паслухмянай касцяной фігуркай, якую проста перастаўляюць, як таго захоча ўладар-князь. І неяк забывалася, што яна — сястра яму, і бацькава кроў у ёй можа клекатаць гэтак жа, як яна струменіць у ім — штуршкамі, выбухамі, нечаканасцямі, і даводзіцца ціхамірыць яе то пастом, то чаканнем, то халодным, цвярозым розумам…

* Людзі імянітыя (лац.).

* * *

На хаўтуры ў дом баярына Агапія прыехаў вялікі князь навагародскі Раман Данілавіч.

Толькі селі мужы імянітыя за памінальны стол, як унізе, ля брамы, усчалася мітусня. Баярыня Яўлампія, у сваёй карычневай сукні і чорнай намітцы падобная да тоўстага хрушча, жвава патрусіла па лесвіцы, вокамгненна, з кішэні дастаўшы маленькае люстэрка, зіркнула ў яго, азірнуўшыся, каб не пабачыў хто ейнай слабасці. У вялікай стольніцы, дзе сцены былі размаляваныя фрэскамі, лавы абцягнутыя чырвоным сукном, а вялікія вітыя свечы ў сярэбраных падсвечніках былі ў тон талеркам, на якіх па сталах раскладзены быў багаты пачастунак, усё змоўкла, і ў паветры павіс ўрывак размовы паміж стагадовым старцам Аленем і васьмідзесяцігадовым ягоным сынам:

— …раней такіх людзей хавалі з канём і рабамі, а побач клалі рысіныя і мядзведжыя кіпцюры, каб на Шкляную гару, на суд багоў, лацвей было караскацца, а зараз што? Апусцілі ў дубовай калодзе дый ручнік з грабянцом толькі і паклалі…

Хрысціяне ж былі задаволены тым, як хавалі Агапія: адпяванне ў царкве ішло амаль дзве гадзіны, на магіле быў пастаўлены вялікі крыж, зрублены з моранага дубу. Аднак жа пасвяціў магілу ўслед за праваслаўным епіскапам і біскуп Хрысціян, якога некалі пасвячаў у сан папскі легат Альберт і які старанна пашыраў межы каталіцкага біскупства. Адбылося ж тое па жаданні Яўлампіі, якая сталася блізкай і пры двары Гертруды. Таму моўчкі гадалі прысутныя, каго прывядзе на памінкі князь Раман — самога біскупа ці, можа, каго з заморскіх паслоў?

Аднак за Раманам ішоў толькі малады крыжак у кароткім ордэнскім плашчы з нашытым на ім чорным крыжам. Жывена амаль не звярнула на яго ўвагі: стоячы ля дзвярэй, яна разам з родзічамі схілілася перад князем Раманам, паспеўшы заўважыць насцярожаны позірк і моцна высунутыя сківіцы, а таксама рэдкія русявыя валасы, што віліся па шчоках. Ён упэўнена прайшоў на пачэснае месца, побач пасадзіў крыжака, і Яўлампія, віючыся ўсім сваім мажным целам, пачала частаваць знатнага госця.

Пасля, калі добра нагаварыліся пра нябожчыка і стол напалову апусцеў, а на двары падняўся брэх з-за аб'едкаў зайчаціны, вепручыны, дзічыны, якія выкінулі гончым і вартавым сабакам, князь, заядаючы кіпрскае віно мігдалавымі бубкамі, пачаў распавядаць пра нядаўні паход разам з бацькам на Апаву, дзе атрымаў перамогу над войскам чэшскага караля Пшэмыслава

Другога Атакара, жанатага з пляменніцай герцага брандэнбургскага. Той таксама аспрэчваў правы на аўстрыйскае герцагства, аднак на гэты раз адступіўся.

— Твой бацька заключыў з Ордэнам дамову, па якой за дапамогу табе аддаў немцам трэцюю частку Яцвягіі? — пыталіся баяры.

— Гэта не ён, а швагер мой Земавіт, — адказаў Раман. — Што ж, ён толькі працягвае палітыку свайго бацькі, Конрада Мазавецкага. Таму таксама моцна дапамагаў Ордэн.

— За тое і паланіў Земавіта разам з княжнаю Пераслававай твой родзіч, а ягоны брат Казімір? — дапытваліся людзі імяністыя.

— Нічога, Земавіт моцны, княства Новагародскае не можа баяцца Казіміра. Нашы сябры крыжаносцы ў апошняй бітве паказалі сябе, як заўсёды, лепшымі воямі хрысціянскага свету. Рыцар Райнер, напрыклад, выратаваў мне жыццё, за што атрымаў павышэнне. Цяпер ён камандзір атрада, хаця і малады.

Тады толькі Жывена, якая сядзела непадалёку, пазнала рыцара. Ён змяніўся: жаўтлявы твар яго набыў выразнасць, каля вуснаў лягла жорсткая складка, кароткая барада хавала шнар на сківаіцы. На погляд дзяўчыны ён павярнуў галаву. Зрэнкі яго звузіліся, як быццам перад ім палыхнула маланка, і маладая дзяўчына адчула, нібыта яе пругка штурхнула ў грудзі нейкая хваля. Яна таропка апусціла позірк, чамусьці спалохаўшыся.

— У той бітве загінуў баярын Вышата, а колькі было паранена, — гаварылі за сталом. Раман нахмурыўся:

— Такое жыццё воя. Сёння ён абдымае жонку і дзетак, а заўтра яго жыццё праз горла дымам вылятае, а подзвігі застаюцца сярод храбрацоў.

— Гэта калі за сваю зямлю ваюеш… — пачуўся голас.

Рамана перасмыкнула. Ён хацеў крыкнуць, але, зірнуўшы на Яўлампію, стрымаўся.

— Новагародцы цяпер заадно з Галіцка-Валынскім княствам, — коратка абрубіў князь, і ўсе зноў прымоўклі, а пасля, занурыўшыся, смакталі заедкі, думаючы аб хуткаплыннасці чалавечага лёсу і аб тым, што як васалы галіцка-валынскіх князёў зноўку пойдуць у бітву лепшыя сыны Новагародчыны. А што, калі прыйдзецца змагацца на баку татар, манголаў — гэтых дзікіх народаў, якія не прызнаюць ніякай дыпламатыі, перамоў, а пруць і пруць наперад, агнём заліваючы ўсё перад сабой? Нездарма ж яны ўсё болей згінаюць шыю гордага і магут-

нага Данілы, і, верагодна, могуць, калі што не так, пераламаць яму і хрыбет. А разам з ім — і залежнаму ад яго Навагародку…

Калі князь выходзіў, родзічы Агапія зноўку падняліся, каб праводзіць іх. У той момант, калі Раман аб нечым загаварыў з удавой, Райнер падышоў да Жывены.

— Я спачатку не пазнаў цябе. Ты стала прыгажуняй.

Гаварыў ён павольна, але на мясцовай гаворцы, а яна знарок адказала на мове лацінянаў:

— А ты стаў сапраўдным крыжаком, забіваеш людзей.

Райнер здзівіўся:

— Ты выглядаеш на сапраўдную высакародную даму. Але я не бачу на табе крыжа. Ты што, усё яшчэ не хрысціянка?

— Не.

— У такога дзеда? — цяжка глянуў на яе Раман Данілавіч. — Значыць, не надта трымаўся сапраўднай веры Хрыстовай.

І дадаў, не стрымаўшыся:

— Новагародак такі: адразу надвое думаюць і робяць.

Але адчуўшы, як пагрозліва замоўкла застолле, адпусціў натужна:

— Я жартую.

І ўсміхнуўся. Абвёў вачыма агромністы стол, на якім стаялі сярэбраныя падносы з заморскімі ласункамі — фінікамі, разынкамі, вяленым інжырам, зацукраванымі пластамі згусцелага вінаграднага соку, павярнуўся і патупаў уніз па лесвіцы. Райнер, спускаючыся за ім, зноўку азірнуўся на Жывену, і зноў яе нібы ўдарыла ў грудзі пругкая хваля, ад якой стала млосна.

— Што са мной? — здзівілася яна. — Я не буду думаць пра яго, і хай ахінуць мяне светлыя Ашвіны сваім залатым покрывам, уратуюць ад цікаўнасці яго і пажадлівасці!

…Вось аб чым думала маладая дзяўчына ў вечар, калі раз’юшаны тэўтон патрушчыў цёмна-пунсовы камень на ейных вачах. Адчувала, што, сама таго не жадаючы, закранула ў жорсткім маладым воју нешта глыбіннае, балючае.

А пасля зноўку закруцілі, завіравалі падзеі, і яна старалася не ўспамінаць пра Райнера, які, вярнуўшыся ў Новагародак камандзірам атрада крыжакоў, служыў пры двары Рамана. Жывене не было цяпер патрэбы ехаць у горад; Яўлампія жыла як маладая прывабная ўдава, уборы яе здзіўлялі раскошай і як бы выдавалі прагу да ўсяго чужаземнага.

З Галіча, а пасля Холма прывозілі час ад часу праз ганцоў лісты ад Апфіі, яны былі сумнымі. Моцна перажывала маладая

жанчына разлуку з Новагародкам, сумавала па ягоных магутных кручах і па родным доме. Шкадавала, што не Шварну давялося княжыць у Новагародку з княгіняю. А яшчэ гаравала, што ў маладой пары няма дзяцей, а значыць, ніколі не зможа яна, Апфія, вярнуцца дадому, бо застанецца Новагародак нашчадкам Рамана. Войшалк жа пайшоў у манахі, і ці стане ён дапамагаць братам ці камусьці з іх сесці на стол у committee княстве альбо ў Руце?

Як толькі прасохла зямля пасля зімовай наледзі і пырснулі жоўтым пупышкі на вербах, у храм прыехала з Новагародка немаладая жанчына ў скураной шапачцы з набітымі на ёй дробнымі сярэбранымі бляшачкамі, у суконным сарафане пад ватолай*. Яна шукала жраца Відэвута. Але той паехаў у селішча лячыць некага з хворых, і да жанчыны выйшла Жывена.

— Мой сын Відэвут расказваў пра цябе, — загаварыла жанчына. — Табе, як і яму, бог Аўшайтэ** дараваў здольнасці гаварыць з багамі. Дык скажы, чаму мне вось ужо два гады сніцца карабель мёртвых Нагльфар?

— Нагльфар? — Жывена з цяжкасцю прамовіла нязвыклае слова.

— Гэты карабель змайстраваны з пазногцяў нябожчыкаў, і вязе ён нябачных ужо ў гэтым свеце. Але той, хто любіць і трывожыцца аб адсутных, можа ўбачыць на ім дарагіх людзей, калі… калі яны там. Дык вось, я бачу, як мой сын, другі сын, не Відэвут, а Брутэн, плыве на караблі, але раптам нейкая сіла вырывае яго адтуль, ён падае ў ваду і плыве да берага. Але ж я на свае вочы бачыла — ён мёртвы.

— Я перадам тваю просьбу Святазару. Для таго, каб адказаць, ці жывы твой сын, трэба правесці спецыяльны абрад.

Святазар згадзіўся на тое, і тыдзень асабліва старанна пасцілі і раніцай распявалі свяшчэнныя гімны будучыя ўдзельнікі абраду. Маці ж Брутэна рабіла на кухні чорную працу — падмятала, перабірала ячменныя крупы, а па вечарах чытаў над ёю Відэвут асаблівыя — ачышчальныя — малітвы.

У прызначаны дзень у падземным капішчы яшчэ да світання ярка гарэлі спецыяльныя васковыя з духмянымі зёлкамі свечы, пастаўленыя ў бронзавых падсвечніках па кутах вялікай залы. Правёўшы ў сваіх пакоях бяссонную ноч, сюды выйшаў Святазар, на якім была надзетая тонкая белая льняная кашуля, а на шыі вісеў вялікі залаты медальён сонца з гравіроўкай, дзе на адным

* Безрукаўны плашч у прусаў.

** Бог лекарства.

баку была пяціканцовая, на другім — шасціканцовая зоркі ў колах. Істр падаў галоўнаму жрацу булаву. Зробленая з няплоднай ляшчыны ў час прырастання Месяца, яна была раздзеленая на тры часткі, пафарбаваныя ў чырвоны колер. Перамычкі ж на булаве, канец якой упрыгожвала ручка з яшмы, былі жоўтымі.

Жывена прынесла драўляныя брэцьяніцы са свяшчэнным напіткам — сомай, а пасля ўвяла ў залу і пасадзіла на драўлянае крэсла маці Відэвута. Прама перад вачыма жанчыны вісеў на тонкім залатым ланцужку бліскучы шар з адпаліраванага горнага крышталю — пацік. Маленькай бронзавай лыжачкай Жывена правяла па вуснах жанчыны, пасля намачыла лыжачку ў напоі і дала пакаштаваць яго. Праз імгненне галава яе ацяжэла, яна падала, але Святазар загадаў:

— Глядзі сюды!

Дакрануўшыся да шара, жрэц прымусіў яго лёгка гайдацца, а сам, узняўшы булаву, стаў чытаць заклінанні, павышаючы голас. Жрацы стаялі ў куце, вакол іх было абведзенае белаю фарбай кола. Празрыстая глыбіня шара відавочна пачынала пераліваецца рознакаляровымі агнямі, ажываць. І цяпер ужо жанчына не магла адвесці вачэй ад магічнага шара. Як прыкаваная, глядзела яна перад сабой нерухомым поглядам, толькі зрэнкі яе адбліскваді матава-светлым. Прайшла хвіліна, другая, трэцяя.

— Што ты бачыш? — булавой пацэліў у грудзі жанчыне вярхоўны жрэц.

— Бачу агонь і хаты, і людзей у белых плашчах з крыжамі… Яны забіваюць. Мой муж… О! Дзіда ўпілася ў ягоныя грудзі, ён упаў.

— Кажы далей!

— Я і мае сыны ляжым сярод мёртвых, і кроў цячэ, цячэ па кашулі, яна робіцца цяжкай, душыць мяне.

— Дзе твой першы сын?

— Ён ляжыць пад маім бокам, паранены, яго твар белы, як мука.

— А другі сын?

— Брутэн уздымаецца, ідзе, спатыкаючыся аб трупы!

— Што далей?

— Я нічога не бачу — кроў залівае мне твар. Але нейчы голас гаворыць: «Забяры яго, фон Шонвальд, ён будзе добрым пастухом для тваіх свіней!»

— Кажы, не змаўкай! Паўтары імя!

— Шонвальд, фон Шонвальд! «Забяры дзіця, яно будзе добрым пастухом для тваіх свіней!»

— Што яшчэ?

Жывена неўпрыкметкі зірнула на Відэвута. Ён стаяў спакойна, але яна заўважыла — рукі хлопца дробна дрыжаць.

— Чую ягоны плач, а на нас з Відэвутам падае сучча, яно цісне на грудзі, о, я задыхаюся! Горача, паліць агонь, няма ратунку! О!

Яна здрыганулася, пачала енчыць, а вочы яе не адрываліся ад крыштальнай глыбіні пацика.

— Што ты бачыш там яшчэ?

— Толькі кроў! О, як шмат крыві! Яна не дала нам згарэць у кастрышчы! Я ўзяла сына, і мы пайшлі… Далёка, у чужыя землі…

— Досыць! — гучна перарваў яе Святазар. — Прачніся! І забудзься на гэта, не ўспамінай.

Ён стукнуў булавой па шары, той працяжна зазвінеў, і пырскі святла ад яго здаліся Жывене кроплямі нейчай крыві.

Жанчына расплюшчыла вочы, дзіка агледзелася навокал. Яна не пазнала сярод жрацоў сына, а той стаяў, пакуль Святазар не дазволіў жрацам выйсці з намаляванага ім кола. Мінулае б’е — і хто ведае, якія сілы і духі хаваюцца ў ім? Таму вярхоўны жрэц узяў усё на сябе, а яны да дробязей запаміналі кожны ягоны рух. Жывена падышла да жанчыны, дала кубак з адварам зёлак. Маці Відэвута прагна піла.

— Што са мной было?

— Ты ўбачыла ўсё, што было з табой калісьці. Твой сын жывы.

Відэвут падышоў да іх. Разам з Жывенай яна вывелі маці з храма. Яна цяжка дыхала і ўздрыгвала, пасля пачынала плакаць.

— Брутэн жывы! Мой сын жывы!

— Але яго забралі крыжакі, маці, — стрымана прагаварыў Відэвут.

Яна не слухала.

— Нездарма я аддала Відэвута ў храм блізнятаў! Відэвут і Брутэн — боскія блізняты і ў нас, прусаў. Гэты храм даў мне радасць і надзею. Мы знойдзем Брутэна. Дзе ён?

— Але багі не сказалі нам гэтага, маці. Яны толькі паведамілі, што Брутэн жывы.

Жанчына глядзела няўцямна, пасля ізноў заплакала.

— Калі ж яны скажуць, дзе ён?

— Гэтага не знае ніхто. Мы ведаем толькі, што яго забраў фон Шонвальд.

Чырвань макавымі пялёсткамі клалася на яе збялелы твар. У вачах засвяцілася надзея.

— Я дапрашуся ў багоў, дзе ён. Я выратую свайго сына…

Жывене здалося раптоўна, што вецер таркаю абдзёр ейныя шчокі, і пачулася, як на выспе білі крыламі качкі. «Вешчая хвіліна, знак багоў, што яны тут, — падумалася ёй. — Толькі чаму ні Відэвут, ні ягоная маці не адчулі нічога? Гэты невядомы Брутэн для мяне ніхто — але дзе ўсё-ткі гэты падхоплены крыжакамі для пацехі хлопец?»

Відэвут наняў для маці фурманку ў селішчы, а калі адправіў яе ў Новагародак, прыйшоў да Жывены.

— Яна патрабавала, каб я кінуў храм і разам з ёю пайшоў шукаць брата.

— А ты? — яе праняла трывога.

— Я не магу пайсці з храма, хаця кожная жылка ўва мне дрыжала, як маці расказвала пра смерць бацькі і кастрышча, у якім мы ледзь не згарэлі.

— Табе дарагі наш храм?

Тады Відэвут упаў перад ёю на калені.

— Мне дарагая ты. Ты, залатая жрыца! Я шчаслівы, што ў нашым храме не забаронена каханне да жрыцы, як у іншых свяцілішчах. Я хачу, каб у Дзень Ашвінаў ты выбрала мяне.

— Я… я не гатовая! — хацела сказаць Жывена, але словы яе, як вадою, заліло шкадаванне да хлопца, якога палілі ў кастры, везлі па чужых дарогах далей ад радзімы і які пачуваў сябе такім адзінокім тут, дзе ёй так утульна і лёгка. І яна пагладзіла яго па мяккіх валасах, сабраных вакол галавы белаю стужкай. Ён шчасліва ўткнуўся галавою ў ейную сукню, потым падняў галаву, хочучы нешта сказаць, але словы як душылі хлопца, а яна разгублена глядзела на яго зверху, і шкадаванне — цёплае, як дотык сонца да рукі ў летні поўдзень, усё расло і расло…

Праз сядміцу*, калі Жывена сядзела на беразе возера і бяздумна назірала, як калыхлівы вецер чуйнымі пальцамі дакранаецца да чарацін, з кустоў прама на яе выйшаў чалавек у чорным манаскім уборы. Дзяўчына адхіснулася, а ён сказаў знаёмым голасам:

— Не бойся, Хрыстос з табой.

— Войшалк! Вялікі князь!

Яна ўстала, хацела схіліцца ў паклоне, але Войшалк, схуднела-жаўтлявы і ад таго нібы вышэйшы, чым звычайна, спыніў яе:

* Тыдзень.

— Табе не трэба кланяцца, сястра.

Жывена здрыганулася, але сказала спакойна:

— Я чула, што ў манастыры хрысціян так называюць усіх жанчын. Ці не так, вялікі князь?

— Я цябе не пазнаю. Ніколі ты не была такой… змяіна-вёрткай, як мая мачыха, а зараз… прыкідваешся перада мной? Ты таксама дачка Міндоўга, а значыць, мы родныя.

— Калі ты прызнаеш мяне як родную табе, то дазволь запрасіць цябе…

— Не. Я на кані, і мяне чакаюць. Там, — ён махнуў рукой у напрамку пералеска. — Я хачу з табой пагаварыць. Нас тут ніхто не ўбачыць?

— Наўрад ці. Сярод гэтых вербаў мы непрыкметныя. Але чаго ты баішся, вялікі князь?

— Я просты манах. Вялікі князь цяпер Раман Данілавіч.

Ноткі горычы ўпляліся ў ягоны спакойны тон, нервова ўздрыгнулі вусны.

— Наш бацька Міндоўг хацеў адразу ўсё — вялікія землі, вялікую ўладу. Трэба было не так спяшацца. А цяпер мы амаль страцілі Навагародак…

— Мы?

— І ты таксама, сястра. Нашчадкі Рамана стануць тут валадарыць. А мы? Маленькае княства бацькі, неўтаймоўныя і хцівыя родзічы, якія цікуюць за ўсімі, мае браты… Што будуць мець твае дзеці?

— Я ніколі не думала пра гэта. Калі я выберу кагосьці, то хачу аднаго — каб ён кахаў мяне.

Войшалк з прыкрасцю махнуў рукой:

— Каханне? Прыдумкі для слабых, для верабейчыкаў, якія шчабечуць, варта прыгрэць сонцу. Ты яшчэ такая юная, амаль дзяўчынка. Я хацеў бы прасіць цябе — дапамажы мне зараз. І я ніколі не забуду табе гэтага. Ты не пашкадуеш, даверся мне.

— У чым, вялікі князь?

— Ніяк не можаш сказаць — брат… Нічога, прывыкнеш. Паслухай! Мне патрэбны саюзнікі. І аднаго, самага надзейнага, я мог бы займець праз цябе.

Яна маўчала, бо нядобрае прадчуванне халоднай змяёй запаўзала пад грудзі.

— Алена замужам за маім ворагам і ворагам Навагародка. Але твой будучы муж… Са сваім войскам і вернымі нам навагародцамі…

— Ты падабраў мне кагосьці? Каго ж?

— У Таўцівіла ёсць сыны. У жамойцкага Выкінта таксама сын і два пляменнікі. Ды найбольш важны мне цяпер полацкі Таўцівіл. Бачыш, я выкладваю табе зараз свае планы, але я давяраю табе, сястра. Іначай… тваё жыццё зараз у маіх руках, помні.

Гарачая, шалёная хваля так моцна ўзмыла ў ёй, што Жывена здрыганулася, а ён палічыў, што гэта — ад перапуду, і зноў паўтарыў сваё «Не палохайся».

Стараючыся ўтаймаваць сябе, свой гнеў, Жывена са страхам адчула, колькі ў ёй нейкага дзікага, безразважнага, бясстрашнага агню, які гатовы спапяліць чалавека, што стаяў побач.

«Гэта мой брат, брат!» — паўтарала яна сабе раз за разам, дакараючы сябе і за гэты неўтаймоўны, незнаёмы ёй самой агонь, і за недастойную жрыцы Ашвінаў злосную сілу. А ён усё пытаўся аб нечым, і нарэшце яна пачула:

— Ці згодная ты дапамагчы Навагародку?

Жывена нарэшце падняла вочы на Войшалка, зірнула на яго ясна і спакойна. Знерваваны, бледны пад асляпляльна-гарачымі промнямі сонца, з раннімі зморшчынамі вакол упалых вачэй, у чорным пакамечаным манаскім уборы з наліплай конскай валаснёй, ён здаваўся нейкім прывідам, чужым спакойнай, раўнадушнай да чалавечай мітусні раніцы і ўсёй навакольнай прыродзе. І ёй стала сорамна свайго гарачага гневу, а ў сэрцы нарадзілася шкадаванне. А яшчэ — цішыня. Тады, стараючыся перадаць свой, з такой цяжкасцю набыты спакой, яна загаварыла:

— Мяне многаму тут вучаць, брат, а найперш таму, што ўсё наканаванае ўжо існуе ў будучым, жыве яно і ў мінулым пасля таго, як адбылося, бо Час не рухаецца. І мы, толькі мы, праходзячы скрозь ягоную вось, сутыкаемся з падзеямі, а яны сцерагуць нас, выпрабоўваюць на нешта, што вядомае толькі багам ці вагам, на якіх узважваюцца пасля смерці ўсе нашы грахі.

— Я пытаюся ў цябе не пра гэта. Я хачу ведаць: ці дапаможаш ты мне? І Навагародку?

— А Навагародак будзе існаваць — з табой ці без цябе. Калі ты любіш яго, то ўсё тое, што ты зробіш для яго, пакладзецца на ягоныя — і твае таксама — вагі і будучыню. Але зробіш без насілля, хітрасці, адчаю…

— Магу я паабяцаць тваю руку сыну альбо пляменніку Таўцівіла?! Калі ты хочаш, ты можаш пасля адмовіцца. Але цяпер… цяпер… Сястра! Я апошні раз кажу табе…

Яго рука сутаргава лягла на чорную расу, і яна выразна ўбачыла пад ёю абрысы похваў. Тады яна стала блізка ад яго,

і левая рука яе сціснула ягоную, напоўненую варожасцю і жаданнем забіваць:

— Наш бацька забіў шмат нашых родзічаў, а колькі ён пасылаў на смерць, нават не задумваючыся над тым! Цяпер ты, князь, будзеш рабіць тое самае. Але мяне… мяне вы не прымусіце браць ва ўсім гэтым удзел. Калі не верыш мне і думаеш, што я пайду да тваіх… нашых ворагаў, калі хочаш мяне прылучыць да тваёй прагі і нянавісці… тады забі мяне тут, зараз…

Чамусьці Жывене выразна ўбачыліся два клінкі, скрыжаваныя над іхнімі галовамі. Яны ажно трымцелі, напоўненыя сілай, якая перапаўняла іх, такіх блізкіх па крыві і такіх розных. І раптам як пераламаўся ягоны клінок. Войшалк глыбока ўздыхнуў.

— Хрыстос з табой, сястра. Я ўсё ж не вой, я воін Хрыстовы, і забіваць магу толькі ворагаў.

Адступіў ад дзяўчыны, зірнуў на яе з павагай.

— Я ніколі не думаў, што ты… такая. Не сярдую, што не захацела дапамагаць. Мабыць, такая ўжо воля Божая; аднак жа нешта гаворыць мне, што буду я на стале новагародскім…

Князь павярнуўся і знік у прыбярэжным кустоўніку так хутка, што Жывене магло б падацца, што ўсё памроілася ёй, каб не глыбокія сляды на шаўкова-светлым азёрным пяску ды конскае ржанне, на якое адгукнуліся кабылы ў храмавай стайні.

Яна яшчэ доўга стаяла ля возера, думаючы аб віхурах, якія месцяцца ў чалавечай душы і ўтаймоўваць якія так невыносна цяжка. Гады посту, роздумаў, самаачышчэння часам змятаюцца сакрушальным ураганам страсцей так лёгка, як пярынка — навальнічным ветрам… Так не раз гаварыў ім Святазар, але адчула яна гэта ўпершыню. І ёй было сорамна. Што ж казаць пра людзей простых, якія жывуць, не задумваючыся над наступствамі, жывуць, як пагоняць іх жаданні ці голад, калі яна, жрыца, якой багі час ад часу давяраюць патаемнае, гатовая была сарвацца ў шалёны віхор? І яна дзякавала Ашвінам, стараючыся ізноў зліцца з прыродаю, загайдацца ў хвалях спакою і чысціні, якімі дыхала навакольнае…

Яўлампія не прыслала ў належны час дары храму, і Жывене давялося самой ехаць у Навагародак.

Баярыня, хаваючы вочы, доўга гаварыла аб гандлёвых стратах сям'і: татары захапілі ладдзю з шаўковымі тканінамі, што плыла з Кіева, знік, захапіўшы выручку, гандлёвы госць Каўрон. Дый сама яна хварэла, бо прыслала Апфія з ганцом нядобрыя весткі: нядаўна яна скінула дзіця, а так спадзявалася на сына! Як бы не стаў муж пахаджваць да віслен — гуляшчых

жанчын, шмат іх развялося ў Галічы. Шварн таксама крыўдуе на жонку, хаця ні ў чым не вінаватая Алена; гэта брат яе, Войшалк, пажадаў перадаць навагародскі стол Раману, хаця, вядома, змушаны быў зрабіць тое. Але чаму не Шварну? Была б тады Алена навагародскаю вялікай княгіняй, жыла б сярод блізкіх людзей, а не паміж недаверлівых, а часта і варожых да яе галічанаў. Яшчэ перадавала Апфія маці, што Даніла Галіцкі, які спачатку спадзяваўся на немцаў і нават каранаваўся дзеля таго, разарваў саюз з крыжакамі.

Аднак жа калі Жывена, як навучыў яе Святазар, загаварыла аб тым, што пойдзе да біскупа Хрысціяна і святара Гаўрыіла, якіх прызначыў Агапій перад смерцю сваімі душапрыказчыкамі і якім даручыў раздзел сваёй маёмасці, адразу змякчылася Яўлампія: папрасіла пачакаць гадавіны, пасля якой займецца справамі нябожчыка-мужа. А пакуль аддала Жывене вялікі кашэль з залатымі манетамі і падарыла ёй стужку, вышытую сярэбранай каніцеллю.

Перад тым, як вяртацца ў храм, пайшла дзяўчына ў гандлёвыя рады, што месціліся непадалёку ад замка, каб прывезці з сабою патрэбнае для службаў — ружавай вады, якою мыюць алтары, розных араматаў*: белай, як снег, камфары, залацістага шафрану, мушкатных бубкаў, зялёных, чырвоных і вохрыстых раслінных алеяў, што поўняць гандлёвую плошчу хваёвымі, бэзавымі і ўвогуле дзіўнымі пахамі далёкіх краін. Цудоўныя пахкасці, як вядома, адганяюць злых духаў, якія любяць усё смярдзючае, чым гідзяцца добрыя людзі.

Калі возчык Вялет перанёс усё накуплянае ёю ў вазок, а Жывена, стоячы ля яго, раздумвала, ці ўсё патрэбнае храму яна ўспомніла, паказаўся непадалёку рыцар Райнер. Ён нават не павітаўся з дзяўчынай — проста стаў перад ёю, не спускаючы вачэй, і маладой жрыцы давялося сабраць у адно ўсю волю, каб павітацца з ім прыязна і адкрыта:

— Апошнім часам, калі ты прыязджаў у храм, я пакрыўдзіла цябе. Даруй. Ты ездзіў у Рыгу?

— Гэта ўсё запозна, усё запозна, — прамармытаў крыжак незразумелае. Пасля дадаў выразна: — Ваш князь Раман, як і ягоны бацька, адмаўляецца ад святога хрышчэння, ад благаславення папы… а мы едзем у Святую зямлю, дапамагаць сваім братам.

— Вы з’язджаеце?

---

* Пахкасцей.

У голасе Жывены прагучала радасць, якую яна не змагла схаваць.

Тады ён спытаўся павольна, але са стоенай сілай, ад якой абцягнуўся жаўтаўлявай скурай малады, быццам выразаны на камені, твар:

— Скажы, залатая жрыца: ты магла б… хаця калі-небудзь… пакахаць такога, як я? Я не магу заводзіць сям'ю, але вашы багі дазваляюць любіць вольна, шчасліва. Ты — магла б?

І зноў, перш чым падумаць, яна адказала вокамгненна:

— Не!

І тут жа кроў збянтэжанасці прыліла да шчок. «Светланосныя Ашвіны, калі я навучуся развазе!» — падумалася з адчаем. Яна працягнула руку, каб нешта патлумачыць, дадаць, пераканаць… але ён павярнуўся, пайшоў, глянуўшы на яе так страшна, што сэрца дзяўчыны затахкала бязладнымі штуршкамі, а возчык Вялет перасмыкнуўся:

— Можа, правучыць яго добра, каб не палохаў цябе?

Яна ўскочыла ў вазок, падагнуўшы белую льняную сукню, махнула рукою, каб ён ехаў. Вялет падпарадкаваўся, але доўга яшчэ бурчэў сабе пад нос, што, будзь ягоная воля, правучыў бы крыжака. Але Жывена, успамінаючы размову, бачыла скрозь нешматслоўнасць Райнера пачуццё, якое палохала, як чужая немач, гатовая абрынуцца на цябе, прымушала сціскацца ў прадчуванні нядобрага. Здавалася, у тым напружанні душы, якое апанавала яе, нешта прыйдзе зараз на дапамогу, падасць аб сабе знак. І знак прыйшоў: калі вазок спускаўся з гарыстай вуліцы, на велічэзную ліпу, што ўся як бруілася пад маладым летнім ветрам безліччу зялёных лістоў, камяком упалі дзве птушкі. Па вохрыста-шэрых рулявых пёрах, сіняватай дзюбе і чорных кіпцюрах маладая жрыца пазнала ястраба, які ўпаляваў галубку. Але яна не здавалася: упаўшы, імгненна перакінулася ў гушчу сучча, так што ястраб, залопаўшы шырокімі крыламі, узмыў над дрэвам, нібыта выглядаючы страчаную здабычу. Жывена закрычала Вялету, каб спыніў вазок, — хацелася бачыць, што будзе далей, але коні не змаглі адразу спыніцца, а калі павярнулі ізноў да ліпы, птушак не было відно. Не то ўпаляваў ястраб нарэшце сваю здабычу, не то яна змагла, забіўшыся ў якую шчыліну, схавацца ад бязлітасных чорных кіпцюроў…

А яшчэ праз дзве сядміцы, перад самым днём летняга раўнадзенства, маг-звяздар Вакула паклікаў да сябе Жывену і маладога жраца-пруса Відэвута.

Юнак з пукатым ілбом, няспешны, сарамліва-збянтэжаны, з любасцю глядзеў на Жывену, шэрыя вочы яго свяціліся. А тая, у белым вяночку і белай сукні, здавалася самой багіняй прыгажосці Ляляй, што спусцілася ў гэты ціхі куточак беларускай зямлі, каб суцішыць здрабнелых душою людзей, занятых цяжкай чорнай працай.

— Праз тры дні ты, Жывена, хочаш назваць імя твайго абранніка. І гэта — Відэвут. Так? — загаварыў Вакула.

Твар яго ў страшных шнарах быў, як ніколі, падобны да шурпатай драўлянай выявы Перуна, але ў вачах, запалых і пакутліва-пранізлівых, бачылася спачуванне.

Відэвут зірнуў на Жывену, яна суцішыла яго вачыма і адказала за абаіх:

— Так.

— Не рабі гэтага, дзіця.

— Чаму? — ускінуліся маладыя людзі.

— Вам не суджана быць разам. Магчыма, пазней зоркі павернуцца да вас. Але не цяпер, не.

— Але чаму?! — прастагнаў Відэвут. — Што ці хто перашкодзіць?

— Ты, жрэц, пытаешся: «Чаму»? Я магу сказаць табе толькі адно: «Таму што».

— Што яшчэ адкрылі табе зоркі? — спахмурнела запыталася маладая дзяўчына.

— Што ў цябе вялікая цёмная паласа, але што ў ёй — прачытаць я не магу. Сама ведаеш: багі даюць нам толькі часам прыадчыніць заслону, і то мы доўга думаем, ці так мы зразумелі іхнюю волю. На цябе палююць, як… як на белую курапатку. Будзь асцярожнаю.

— Я так і думаў, што няпроста будзе пражыць, нават у такім ціхім кутку, як наш, дзяўчыне з княжацкаю крывёю. Крывёй Міндоўга. Можа, і ён, як брат твой Войшалк, хоча ўцягнуць цябе ў свае звады за навагародскі стол? — гаварыў з Жывенаю ў сваёй святліцы, дзе аблічча багоў здаваліся тварамі жывых і цікаўных людзей, вярхоўны жрэц Святазар.

— Вялікі Святазар, але чаму нават табе не адказваюць Ашвіны? І я пыталася ў іх пра свой лёс, а яны маўчалі. Але хто я — пясчынка на беразе Менцязі. А ты…

— І я не заўсёды быў вярхоўным жрацом, а чалавекам з палкаю крывёй. І, можа, грахі мае зацьмяняюць бачанне, — ста-

нчэлы на кляновы асенні ліст часам і жыццём, стары Святазар нячутна даклыпаў да выявы Зары-Зараніцы Аўшры, пяшчотна пагладзіў па плечуку драўляны барэльеф, ад чаго, здавалася, выразаная майстрам-разьбяром галоўка багіні выпрасталася і зірнула на яго з затоенай смяшынкай.

— Ты зразумела, што яна сказала?

— Не, вярхоўны жрэц. А ты?

— Але ці чула ты яе голас?

— Я толькі чула, як нешта празвінела над возерам, нібы ўпала ў яго сярэбраная кропля…

— А гэта і быў голас багіні. Чым старэйшым раблюся, тым, бывае, у большую ўпадаю горыч: усё вакольнае гаворыць, смяецца, тужыць. Кожная птушка расказвае адна адной пра нешта. А я так і сыду з гэтага свету, чуючы толькі, можа, адну макавінку з цьмы цем* таямніц быцця…

— Калі так гаворыш ты, то што ж могуць сказаць пра сябе іншыя, асабліва людзі простыя?

— Яны над тым не думаюць, і ў гэтым іхняе шчасце. Нашто сляпым ведаць пра тое, што яны сляпыя? Бывае, што і гаварыць пра тое не выпадае, а выпадае настрашыць і прымусіць рабіць так, каб чалавек не ачарніў вакол сябе прастору — забойствам, зайздрасцю, проста зласлівасцю. А калі я стамляюся страшыць і забараняць, я іду да багоў, і яны суцяшаюць мяне тым, што, хаця шлях да дасканаласці цяжкі, яго трэба прайсці. Іншага выйсця няма. І пройдзем мы яго разам, толькі разам.

— Але, светлы ўладыка, ніколі не змогуць людзі простыя так разумець шляхі багоў і людзей, як мы, жрацы!

— Гавораць мне Ашвіны, калі адкрываюць свае твары, што некалі будзе так. А значыць, трэба не траціць надзею.

— Але як быць і чаго пільнавацца мне? Цяпер, сёння ці заўтра?!

— Пільнуйся святла. А астатняе ад цябе не залежыць. Лёс усё роўна шпурне цябе туды, куды патрэбна не табе, але — Яму…

Так і скончылася начная гутарка Жывены і вярхоўнага жраца. Калі паднялася на вежу спяваць ранішнія гімны Зараніцы, дзяўчына пабачыла, што Відэвут увесь як пацямнеў абліччам, шчокі ягоныя запалі, а вочы былі поўныя невымернай тугі. Белае наплечнае яго пакрывала, зашпіленае бронзавай фібулай, з’ехала на плячо, а тонкія пальцы, узнятыя ў вітальных гімнах, як бы

---

* Безліч (старажытнарус.).

струменіліся ў рытме, далёкім ад агульнага настрою ўзнёсласці. Таму Святазар, перапыніўшы славасловы, адправіў Відэвута з вежы:

— Сюды трэба прыходзіць, толькі выбавіўшыся ўсяго свайго, акрамя ўдзячнасці багам.

Пільным позіркам упіўся ў Жывену, і яна дазволіла гэтаму позірку як пралыгаць сябе наскрозь, прамацаць усе куточкі душы. Відаць, вярхоўны жрэц застаўся задаволеным, таму што даў знак працягваць спевы.

На вільготных пасля начной расы каменнях вежы мітусіўся, ладзіўся вязаць сваю бела-шаўковую сетку вёрткі павучок, не зважаючы на тое, што кожны з прысутных незнарок, а можа і спецыяльна, мог у імгненне змясці крысом ці даланёй увесь плён ягоных намаганняў. Жывене ўспомніліся ўчарашнія словы Святазара. Так, трэба рабіць сваё, настройваць душу ў лад са светлымі струнамі быцця, а ўсё астатняе ад цябе не залежыць. І яна пацягнулася ўвысь, стараючыся пераліць сябе ў спеў, каб, пачуўшы яго, зірнулі боскія блізняты Ашвіны на маленькі куточак зямлі, дзе жывуць і паміраюць людзі са сваімі маленькімі, але для іх саміх вялікімі патрэбамі — здароўя, шчаслівага кахання, заможнасці…

Надвячоркам у храм прыехаў ганец. Цёмныя кругі пад пахамі яго шэрай шарсцяной світы, збітыя ў лямец валасы пад ваўнянай павязкай, асабліва ж парэпаная скура сядла, з-пад якой выглядаў драўляны арчаг — аснова, — усё гаварыла аб доўгім і нялёгкім шляху. Перш чым узяць з ягоных рук світак, Жывена звярнула ўвагу на жарабка: з больш кароткай, чым у тутэйшых коней, але моцнай спіной, з грубай галавой і пукатымі нагамі, ён быў не падобны да мясцовых. Адрозніваўся і моцнымі капытамі, на якіх не было падковаў.

— Адкуль конь? — коратка запыталася, ламаючы пячатку на скрутку пергаменту.

— Мангольскія коні ўсе такія, — стомлена буркнуў даўгалыгі, з чорнымі, зрослымі ў адну паласу брывамі ганец, пацёпваючы плячамі, як бы размінаючыся. — Дзе б тут вады папіць?

— Пачакай, прачытаю спярша пасланне.

Чытала з цяжкасцю: на паскрэбанай паверхні цялячай скуры новыя літары, хаця і выведзеныя кінавар'ю, клаліся цяжка. Апфія паведамляла, што, мабыць, прыйшоў яе час: нясцерпныя болі нічым не здымаюцца, нават макавымі адварамі і опіем. «Абецадла было ад лекараў, што чарнобыл тоўчаны ды змешча-

ны з вадою апіевай травы камень з пузыра выведзе*, — чытала Жывена, — але не дапамагло і тое». Надта прасіла яна прыехаць Жывену — мо гэта прынясе палёгку. Калі ж не, то хаця развітаюцца яны на гэтым свеце, бо на тым, невядома, сустрэнуцца ці не, таму што рознае месца ім, відаць, адведзена на тым свеце.

Усё як быццам не выклікала падазрэнняў. Але дзяўчына ўсё разглядала ды разглядала кавалак пергаменту, як бы хочучы тым выклікаць вобраз любай цёткі. Тады ганец пакорпаўся ў капшуку і падаў пярсцёнак. Жывена пазнала сярэбранае колца з зялёнай кропляй акінфа** — Апфія амаль не здымала ўпрыгожанне з пальца.

— А хто пісаў?

— Лекар, што ходзіць за ёю, — левае вока даўгалыгага было з касабочынкай, пальцы кароткія, як абрубленыя. І ўвесь ён быў як ахутаны шчыльнай татарскай кальчугай — баданай. Дзяўчыне не ўдавалася адчуць, ці праўду ён кажа.

На роспыты аб тым, як жывецца ў Галічы, коннік адказваў коратка, але дакладна. Высветлілася, што ён паспеў пабываць у Навагародку, але Яўлампія ці то не пажадала, ці то і папраўдзе не змагла выбрацца ў дарогу. На словах яна перадала Жывене просьбу: калі толькі яна зможа, хай адведае Апфію. «У памяць дзеда», — прасіла яна. І словы тыя як схілілі вагі, што няўпэўнена калываліся паміж падазронасцю і жаданнем дапамагчы. Святазар сказаў ёй адно — калі не адгукнецца на покліч дарогі, нешта ўсё роўна прыйдзе па яе. Дазволіў узяць з сабою маладога служку Лямца — той не так даўно быў воем, ды пажадаў служыць людзям не зброяй, а лекарскім умельствам. А яшчэ даў вярхоўны жрэц Жывене куфэрак з дубовых дошчачак, у якім месціліся арамаціцы*** з пахкімі алеямі і лекі: шэры парашок з атрутных грыбоў, якім праганяюць трасцу, чорная мазь з бярэсты, якою лечаць артэты — хваробы суставаў, і многае іншае, што ва ўмелых руках прынясе палёгку, а ў няўмелых — пагібель.

Ледзь заружавела неба, пакрысе праяўляючы сонны і амаль нерухомы яшчэ свет, па дарозе, дзе не астыў мяккі пыл і над якою схіліліся высокія травы ў буйной расе, што як маціцай**** паслалася па лузе, памчаліся тры коннікі. Паміж двума мажнымі мужчынскімі постацямі доўга бачыў з храмавай вежы Відэвут

---

* Дакладны выраз з летапісу. Апіева трава — сельдэрэй.

** Яхант.

*** Сасуды.

**** Перламутр.

спіну танклявага юнака ў барвовым каптане, які мільгаў з-пад шэрага ваўнянага карзна. Яшчэ раз падзівіўся малады жрэц, як лоўка сядзіць у сядле Жывена, а пасля сышоў з храма ажно да самага вечара, і Святазар не сварыўся за тое, хаця і сказаў неадабральна, што жрацы тым і адрозніваюцца ад простай чадзі і нават людзей імянітых, што цвёрда сустракаюць выпрабаванні, якія на іх насылае Лёс.

Жывена ж і двое яе спадарожнікаў тым часам вячэралі пад веліканам дубам, што шапаткім духмяным буданом раскінуў свае таўшчэзныя галіны непадалёку ад дарогі.

Садзілася сонца, усё глыбей утыкаючы свае чырвоныя промні-спіцы ў зямлю, Лясун ужо колькі раз вухнуў у гушчары, прачышчаючы шурпатае горла, каб пасля цэлую ноч галёкаць па лесе, гукаючы Балотніка ці Вадзяніка і разам з імі качацца па махавінах; цені ад бяроз, станчаючыся ў чарацінкі, цягнуліся па зямлі, як постаці дванаццаці сясцёр Трасцы. Лямец прыціх, жаваў хлеб, спалохана касавурачыся. Жывена слухала галасы лесу і назірала за коньмі — яе белы, з чорнаю грывай Рос спакойна шчыпаў траву, мангольскі ж скакун фыркаў, азіраўся. Можа, чуў дзе Кумяльгана — злыдуха з чалавечым тулавам і конскай галавой, што адводзіць коней у лес на згубу, падманваючы іх ціхім іржаннем? Але яго гаспадар ладзіў начлег — збіраў суччa для вогнішча, шчапаў сухія кавалкі дрэва на трэскі.

— Хацеў бы я пабачыць Драгічын, — раптоўна азваўся Лямец. — Мой бацька гадоў трыццаць таму быў ля яго, калі войска Данілы Галіцкага рыцараў Дабжынскага ордэна і іхняга магістра Бруна добра пасекла, ажно сам ордэн распаўся, а тыя, што жывымі засталіся, да тэўтонаў падаліся. Бацька шмат дабра тады прывёз, сёстры дасюль шаўковыя каптурыкі з тых тканін носяць…

— Мы не заязджаем у Драгічын, — буркнуў ганец. — Ты б, чалавеча, для дзяўчыны сетку наверх закідаў. А то ваўкі недзе выюць.

— То не ваўкі — Кадук пачуў жывых людзей у лесе, — са страхам зашаптаў Лямец. — Ты ж нас тут, у глухім месцы, абароніш, залатая жрыца?

Жывена кіўнула, устала. Яна абышла дуб тры разы, шэпчучы замовы, каб не ўселася на сонных людзей ні Мара, ні Стрыга, ні Лядашчык, ані Паўночнік, каб не мучылі іх ні прахі, ні паралікі, ні хто іншы, ласы на жывую, гарачую кроў і чалавечае цяпло. Рос, кінуўшы скубсці траву, ішоў за ёю, як аберагаў ад подыху начы і небяспекі, якім нібы цягнула з лесу.

— Першы раз бачу, каб конь так слухаўся дзяўчыну, — буркнуў даўгалыгі, цікуючы за абаімі.

— Яна не проста дзяўчына. Ведаеш, як яна лечыць? — загарачыўся Лямец. — Я, мажа, дваццаць гадоў у храме пражыву, а толькі макавінку ад таго, што яна ведае, спасцігну. Ёй, кажуць, самі Ашвіны ў сне падказваюць, што да чаго.

— У нас няма такіх багоў, — азваўся ганец. — Сварог, Пярун, Вялес, Мокаш — усе яны ёсць. Дзед, праўда, казаў, што пакланяліся раней Спарышам — братам, але цяпер больш да Перуна ходзяць, а княжацкія ды баярскія сем'і — да Хрыста.

Цямнела. Жывена, стомленая вялікім дзённым пераездам, заснула адразу, як толькі забралася ў вераўчаную сетку, падвешаную да галіны, і, зірнуўшы на ганца, што сеў спіной да дрэва. нібы абліты барвовым водбліскам кастрышча, заплюшчыла вочы. Ёй снілася, што яна нястрымна ляціць наперад, а Рос амаль не дакранаецца капытамі зямлі, аднак жа пошчак тых капытоў такі гулкі, што напаўняе прастору. Ці не Ашвіны гэта лятуць у паднябессі, громам распорваючы перад сабою аблокі? Ці не іхняя гэта залатая калясніца, ззяючы, як гарачае летняе сонца, падскоквае на грудкаватай лясной дарозе, якая вядзе… куды? Куды віецца тая мяккая, гулкая, як бубен, дарога, па якой цэлы дзень скакаў яе конь? Што крычыць яна — кожнай сваёй увагнутасцю і грудком?

— Трывога! Ратуйся, Жывена!

Ускінуўшыся злоўленай ў цянёты рыбінай, Жывена адным позіркам ахапіла тое, што адбывалася вакол дуба: Лямец, прыхінуўшыся спіною да ствала, адбіваўся мечам ад двух воінаў у жалезных латах і аплеччах, поршні яго дыміліся. Мабыць, малады служка, адступаючы, прайшоў праз вогнішча, якое курэла і слалася па зямлі дымным покрывам, кідаючы мігатлівыя водсветы на недалёкі лес, куды паспешліва адводзіў двух коней ганец. Белы яе Рос, мабыць, падсечаны пятлёю, курчыўся на зямлі, спрабуючы вызваліцца, але яго моцна трымаў, натужваючыся з усяе моцы, трэці з нечаканага гэтага нападу. Але ці нечаканага? Жывена, спрабуючы выбрацца з сеткі на ствол дуба, выразна ўбачыла ў святле мігатлівага касніка полымя, як ганец тузае за руку чацвёртага з нападоўцаў, пальцам паказваючы якраз на тое месца, дзе выкарасквалася з сеткі яна, імкнучыся не пабегчы наверх, як крычаў Лямец, але кінуцца на дапамогу яму — насуперак розуму, насуперак усяму, што хацела ў ёй жыць і ратавацца.

Яна саслізнула з шурпатага, як вялізная тарка, ствала якраз у тое імгненне, як адзін з воінаў выбіў меч з рук Лямца і спакойна, нават неяк зняважліва, дзелавіта, усадзіў свой доўгі меч у грудзі маладога служкі, які, захлынуўшыся, грузна ўпаў проста пад ногі Жывене, прахрыпеўшы апошняе:

— Бяжы!

Але яна не бегла — дый нашто? Не міргаючы, глядзела на забойцу, на акрываўлены меч, які той хацеў выцерці аб спіну Лямца; на бліскучую сталь у руках другога — Жывене здалося, што гэтая бязлітасная, упітая чужой крывёй вузкая паласа зараз увап'ецца ў яе сэрца, забіраючы ад яе ўвесь гэты жорсткі, страшны і такі невымоўна-вабны свет… Аднак воін проста працягнуў меч за яе спіной і тым як бы адсек шляхі назад. А той, забойца, ужо з азартам паляўнічага працягнуў меч так, каб ёй давялося ісці наперад праз цела Лямца.

— Хто вы і што вам трэба? — спыталася дзяўчына, але тут жа зразумела, хто перад ёй: пачулася нямецкая гаворка, ганец паслужліва злавіў кінуты яму кашэль і, ускочыўшы на свайго каня, схапіў за повад кабылу Лямца.

— Цябе праз год заб'юць твае сыны, якія будуць шукаць гэтыя грошы, — Жывена, нібы чытаючы напісанае недзе там, на світку часу, гаварыла выразна і жорстка. — Здрада не прынясе табе таго, на што ты спадзяваўся.

Ганец коратка ўзвыў і з плачам і праклёнамі кінуўся ў цемру, у дарогу, дзе, магчыма, паспрабуе знайсці паратунак ад страшнага лёсу, не то прадказанага, не то насланага на яго служкай незнаёмых яму багоў… А Жывена схілілася над целам Лямца, прыўзняла яго.

— Можаце мяне забіць, але я пахаваю яго, перш чым вы зробіце тое, што вам загадана, — па-нямецку сказала яна, і воіны адступіліся, але цікавалі за кожным яе рухам.

Можа, таму яны не паспелі нават паварухнуцца, як здарылася нечаканае: Лямец расплюшчыў вочы і, ускінуўшыся, з дзікай сілай выхапіў меч з рукі свайго пераможцы. Мабыць, багі кіравалі ім, таму што меч увайшоў у цела воіна так лёгка, як уваходзіць нож у кругляк масла, і абое яны пакаціліся назад, прама ў вогнішча.

Тады ўсе трое нападоўцаў кінуліся да іх, але той, хто стаяў паблізу, паспеў тузануць яе за крысо так, што і яна апынулася на зямлі. Ударыўшыся галавой аб дуб, дзяўчына страціла прытомнасць. Яна ўжо не бачыла, як немцы пахавалі свайго таварыша, са страхам гледзячы на Жывену і паўтараючы «ведзьма», як

паклалі ў нагах нябожчыка Лямца, скурчанага і са звязанымі рукамі, як знак служэння ў нябеснай Асгардзе, дзе рай для абраных — Валгала — павінен прыняць маладога Гетца, што загінуў так неспадзявана, забіты мёртвым.

Ачомалася яна ад таго, што вецер, які пругкай халоднай сцяной выгінаўся насустрач, дабраўся, мабыць, да яе здранцвелай душы, камячком скарчанелай у знясіленым целе. Колькі часу яна, хапаючы ротам паветра, якое, здавалася, запоўніла яе ўсю, вярталася ў гэты свет; у ім, туга абвязаная вяроўкамі, як лялька, яна сядзела на Росе, які нёсся паміж двума коннікамі ў нейкую апраметную чарнату. Відаць, адчуўшы, што яна ачуняла, верны конь коратка і ласкава заржаў, як супакойваючы, і ад таго на вочы дзяўчыны наплылі слёзы, якія высыхалі на шчоках, шчыпаючы іх.

На прывале да яе падышоў трэці з воінаў, чыю постаць Жывена заўважыла каля Роса. Быў гэта немалады, з вялікім віслым носам і нечакана ясным позіркам чалавек. Ён разблытаў вяроўкі на яе нагах, даў напіцца, выцер падалом ейнай сукні заплаканы, засцябаны ветрам дзявочы твар. Маладыя глядзелі на яе ваўкамі, гэты ж усяляк клапаціўся аб дзяўчыне, нібыта прыслужніца яе Юрна.

— Куды ты вязеш мяне? — па-нямецку запыталася Жывена, але ён адказаў так, як гаварылі ў Новагародку:

— Ты не пазнаеш мяне, юная конніца? Я дзядзька Райнера, Бруна.

Яна адмоўна пахітала галавой.

— Маладосць ніколі не глядзіць на старых, — зазначыў чалавек. — А я памятаю цябе, калі ты абагнала пана майго, рыцара Райнера. Я некалі вучыў ратнай справе бацьку ягонага, пасля — сына. Прыязджаў разам з ім у храм, бачыў, як ты шпурнула назад каштоўны гранат. Дарэмна ты тое зрабіла… Камень гэты — з іхняй фаміліі, сям'і значыць. Райнеру дастаўся тады, калі ад чумы ўвесь замак перамёр, а старэйшы брат недавумкам стаў.

— Я не ведала таго, — са шкадаваннем прамовіла Жывена. — Наш вярхоўны жрэц на мяне сварыўся. Але ці не большае зло робіць твой пан зараз, палюючы на мяне?

— Я казаў яму тое, — блакітныя вочы старога пацьмянелі. — Але ён упёрся, як Охсэ*. І маленькім быў упарты. Ты прынізіла яго — цяпер яму трэба расплаціцца з табою. Але найгорш, што

* Der Ochse — вол (ням.).

ён кахае цябе, а жаніцца яму нельга: уступаючы ў Ордэн, кожны рыцар дае зарок, што застанецца цнатліўцам…

— Досыць гаворак! — перарваў іх пануры, з жорсткімі, як у драўлянага ідала, рысамі тэўтонец. Другі, вёрткі і рыжы, як лісіца, ужо трымаў коней напагатове. Рос зноў каротка заржаў, калі Жывену садзілі на яго і мацавалі да сядла, але цяпер яна ўстрымалася ад слёз, толькі з любасцю нахілілася наперад і звязанымі рукамі пагладзіла яго па чорнай грыве.

Абыходзячы нейкае селішча, яны нарэшце павярнулі на захад і паімчаліся насустрач сонцу, што садзілася за лес гэтак жа, як рабіла яно ўчора. Учора… Як далёка было ўсё, што яе акружала раней — пачцівы і радасна-захоплены позірк маладога служкі Лямца, які біўся за яе да апошняга, хцівы позірк даўгалыгага, які прадаўся за тыя манеты, якія шпурнулі яму зняважліва — добра, што не забілі; пачуццё свабоды, якое распірала грудзі, калі са спіны трапяткога свайго скакуна глядзела яна на дарогу, што рассцілалася перад ёю, абяцаючы нешта новае, нязведанае!

Нібыта абламалі крылле, якое так лёгка несла яе дасюль па жыцці, — так забалела ў грудзях Жывены, калі дабраліся яны ўчацвярых да прыземістага мураванага будынка: ён стаяў у такой глушэчы, што болей нагадваў гняздо разбойнікаў, чым карчму: каржакаватыя ліпы і дубы раслі вакол агароджы густа, аб'ехаць гэты пастаялы двор можна было толькі добра абадраўшыся аб шыпшыннік, лазоўе ды карчы — вывернутыя нейкай нялюдскай сілай, яны скрозь вытыркаліся з бур'яну ды крапіўя. Магутная дубовая брама неахвотна расчынілася перад імі, і так пажадліва-радасна зарыпелі вароты, калі падарожныя зайшлі ў гладка вытаптаны двор, што здавалася, яны ніколі не выпусцяць адсюль сваю ахвяру. Каля трыццаці крыжакоў — хто ў каптане, хто ў латах ці кальчузе, а некаторыя ў шэрых сваіх плашчах з чорнымі нашытымі на іх крыжамі — стаялі ля доўгага драўлянага карыта з вадой, якую прагна пілі іхнія коні, некаторыя ж валаклі ў дом рознае дабро: сувоі палатна, бочкі з зернем, кадоўбцы мёду, адзенне. Жывена азірнулася на немаладога свайго спадарожніка, але ён адводзіў вочы ўбок, а пасля, разблытаўшы яе, павёў у будынак пад агульны рогат і салёныя жартачкі мужчын, што тоўпіліся ў двары.

Пах затхласці, бруду і няшчасця як ударыў у Жывену, калі яна спусцілася ўніз па склізкіх прыступках і ўвайшла ў вялікі пакой, запоўнены людзьмі, дзе не было вокнаў, толькі чадзілі смалякі, устаўленыя ў зажымы, што тут і там гняздзіліся ў адсырэлых

каменных сценах. На яе мала звярнулі ўвагі — прыгнечаныя палонам і страхам, жанчыны, якіх было найболей тут, сядзелі, збіўшыся ў чараду, як качкі на вадзе. Мужчыны і хлопцы, у акрываўленых лахманах, стагналі ў куце, дзе дзве маладыя дзяўчыны суцішалі параненых. Жывена прысела ля жанчын і дзяўчат. Блізка ля яе туліліся адна да адной трынаццацігадовая зграбная дзяўчынка ў скуранай шапачцы і сарафане і старэйшая — падобная да яе кабета з раннімі зморшчынкамі ля вачэй, чырвоных ад слёз.

— Мамачка, а хто ж татку пахавае? Яго ж душа блукаць па свеце будзе без прытулку! Я папрашуся ў іх, яны ж людзі! — загаварыла дзяўчынка.

— Сціхні ты, не тузай у маці душу! — прыкрыкнула на яе светлавалосая маладзіца.

Мужчыны перажывалі раптоўны напад на іхняе селішча, успаміналі, як хто з тутэйшых абараняўся, а хто, як заяц, пятляў між хатамі, спрабуючы ўцячы і тым уратавацца. Але ўратаваліся нямногія: тэўтоны абкладвалі селішчы па ўсіх правілах ваеннай навукі, і мужчыны, аратаі, бондары ці кавалі, засягнутыя знянацку, не мелі ні сіл, ні ўмення, каб адбіцца ад ворагаў. Толькі лютасць. І яна клекатала ў іх, нібыта крынічная вада ў жарале. Таму адзін з параненых крыкнуў Жывене, што, адкінуўшы галаву ў лямцавай шапцы, сядзела з заплюшчанымі вачыма, спрабуючы сабрацца з духам і ўтварыць вакол сябе хаця б нейкае падабенства спакою:

— А ты, малойчык, што прысеў ля баб? Можа, хочаш спадніцу надзець? Бач, цалюткі ўвесь: мабыць, сам у палон пабег?

Светлавалосая маладзіца штурхнула Жывену ў бок, і тая расплюшчыла вочы. Уцяміўшы, чаго ад яе чакаюць, яна замест адказу зняла шапку, адкалола касцяныя шпількі. Залатыя валасы, як цёплая хваля, упалі ёй на плечы, грудзі. У пакоі ўсталявалася цішыня, і ў гэтай цішыні жрыца спакойна адказала юнаку:

— Твае раны павінны зажыць, а тады думай над тым, хто вінаваты. Няшчасным заўсёды хочацца зрабіць навакольных яшчэ больш нядошлымі духам, чымся яны самі.

Людскія вочы глядзелі на яе — хто з адчаем, хто з раптоўнай надзеяй, а хто — і дзяўчына ўбачыла гэта выразна — з нянавісцю.

— Хто ты, каб вучыць нас? — крыкнула светлавалосая кабета, пагрозліва насоўваючыся на маладую жрыцу.

— Гэта Ліпец вінаваты, ён заснуў на варце! — захрыпелі ў куце.

Але паранены юнак, кульгаючы, прабраўся наперад, паклаў Жывене руку на плячо:

— Яна гаворыць праўду. Нас чакае рабства, а то і смерць. Дык будзем добрымі адно да аднаго.

Бразнула клямка, завіскаталі засовы. У пакой увайшла маладая жанчына ў чэпчыку, у белай адкрытай кофце з карсажам, які падпіраў высокія напаўадкрытыя грудзі. Яна несла ладны кавалак тлустага жаўтаватага сыру і дзве вялікія лусты хлеба.

— Хто тут жрыца Жывена? — запыталася яна, абводзячы ўсіх позіркам, і спынілася каля дзяўчыны. — Гэта табе перадалі.

Але Жывена пахітала галавой, убачыўшы галодныя позіркі вакол.

— Я не буду есці адна, — сказала яна. — Прынясі ўсім.

— Усім! — засмяялася жанчына. — Да іх чарга дойдзе. Можа, вечарам, а можа, і заўтра. Бяры!

Ціхі стогн раздаўся ля ног жрыцы. Трынаццацігадовая дзяўчынка глядзела на хлеб, рукі яе дробна трэсліся. Тады Жывена ўзяла хлеб і сыр. Жанчына задаволена засмяялася, пайшла прэч, паўз воіна, які старанна зашчапіў за ёю дзверы.

— Аддамо хлеб самым слабым, — сказала Жывена, а юнак, які стаяў побач, паўтарыў яе словы. Тады светлавалосая кабета папаўзла да яе, абняла за ногі.

— Даруй мне, жрыца, — заплакала яна. — Я веру, што твае багі пакараюць іх. Мабыць, яны самі баяцца цябе. Але пакуль… Дай мне кавалачак…

— І мне! І мне! — пачуліся галасы. Людзі паўзлі да яе, да хлеба, які яна трымала ў руках. Тады яна здалася: раздзяліла ўсё прынесенае на роўныя, у пазногаць, кавалачкі, і толькі тады супакоіліся і зноў памірыліся паміж сабою людзі… Не ўзялі хлеба толькі юнак і тры ягоныя сябры, аддаўшы свае долі дзяўчатам. Затое Жывена, як магла, дапамагала параненым — яна загаварыла кроў у Берасцвя дый супакоіла страшэнны боль у пераламанай ключыцы ў каваля Пуцілы.

А тым часам набліжаўся вечар, і нешта ныла-торгалася ў яе ўсярэдзіне, пад сэрцам. Недарэмна: пакуль, працягнуўшы руку, шаптала яна замовы над маладзіцай, што выгіналася на падлозе ў крыках і калатні, дзверы ізноў расчыніліся, і знаёмы голас працяжна сказаў:

— Табе пра сябе думаць трэба. Пра сябе, чуеш?

Яна рыхтавалася да гэтай размовы, збірала ў адно свой дух, але крыжак усё ж захапіў яе знянацку. Таму зняважальны тон Райнера, яго несхаваная варожасць і адначасна радасць, што так

і праменілася з твару, як ніколі ажыўленага і нават паружавелага, хаця жаўтлявы лоб рэзка кантраставаў з румянкам, — усё гэта як садрала з яе ахоўную абалонку, і яна адказала дзёрзка:

— І табе, рыцар, трэба думаць пра гнеў багоў. Хаця… што я кажу: «рыцар». Вы, я бачу, звычайныя рабаўнікі.

— Не, мы звычайныя воіны, якія бяруць здабычу там, дзе яна дрэнна ляжыць.

— Не баішся Навагародка? Ці Данілы Галіцкага, чыю зямлю ты папаліў? Сваіх жа саюзнікаў?

— Не баюся. Мы едзем у Сіцылію, у войска Хрыстова. А вашы князі — здраднікі і вераадступнікі. Таму што саюз не мы — яны разарвалі. Але мы ўтаймуем іх. Як я ўтаймую цябе.

Яна апамяталася. Некалі ён пацягнуўся да яе, а яна… гэта яна зрабіла з маладога крыжака свайго асабістага ворага. Аднак жа ўспомніліся ёй словы дзядзькі Райнера: «Ён кахае цябе». Наструнeная і ваяўнічая імгненне назад, яна раптоўна як апала. Немец задаволена ўсміхнуўся, паклікаў:

— Казінта, забяры яе ў мой пакой!

Маладая жанчына ў чэпчыку паслужліва пасунулася да Жывены, пацягнула яе за сабой, па слізкай лесвіцы, наверх, дзе прыступкі былі меней сцёртыя. Казінта штурхнула дзверы аднаго з пакояў, увяла туды дзяўчыну, павярнулася, каб ісці.

— Чакай, — ласкава дакранулася да яе Жывена. — Ці не магла б ты даць мне вады? Простай вады.

Казінта глядзела на яе моўчкі, вочы нядобра блішчэлі; зялёны шоўк гарсажу, шэрая спадніца рабілі яе падобнай да пліскі, якая шашэрыць пер’е, каб здавацца большай і важнай. Зноў ні слова не прамовіўшы, яна пайшла з пакоя, зачыніўшы яго звонку на ключ. Жывена агледзелася.

Закратаванае вузкае акно выключала ўсялякую магчымасць выбрацца адсюль праз яго. На пабеленай сцяне вісеў крыж, пад ім стаяў прыземісты стол з белым абрусам. У куце месціўся ложак, чорны зашмальцаваны полаг ахінаў яго, хаваючы ўзгалоўе. Дзяўчына здрыганулася, ізноў, як зачараваная, падскочыла да акна — там была воля, дарога, якая магла б вывесці яе адсюль! Задрыжалі рукі, закалацілася сэрца. На імгненне захацелася з усяе сілы ўдарыцца ў дзверы, каб навекі ўпасці ля іх непрытомнай… Але тут загучалі ў ёй словы Святазара: «Чалавек ведаў не можа не быць цвёрдым і рашучым, бо ноша ягоная цяжкая, а шлях далёкі». Яна паўтарала і паўтарала іх, а вочы няўважна глядзелі на тое, як крыжакі ў двары гучна выкрыквалі нешта Казінце, як адзін з іх, узяўшы гляк, у які яна набірала ваду,

другой рукой пацягнуўся да яе падбародка, а яна, адкінуўшы назад галаву, выставіўшы грудзі, нешта млява гаварыла, пажадлівасці навакольных не толькі не жахаючыся, а наадварот, як бы ўзбуджаючы іх. Тады нейкая думка, далёкая, як кропля вады, што страсае на другім беразе з крыла качка, таўканулася ў ёй. Жывена ўгледзелася ў Казінту — попельныя кудзеркі ў той былі амаль той жа даўжыні, што і пасмы на плячах Жывены. Амаль аднолькавы рост, нейкае падабенства ў тварах — па-славянску круглых, з крыху ўздзёртым носам. Вось толькі чэшка больш мажная, пругкая, як калядная булка. Напасці на яе ззаду, звязаць і, апрануўшы ейны ўбор, выслізнуць пад вечар з карчмы ці што там гэта ў іх — патаемнае сховішча рабоў і здабычы?

Але яна тут жа зразумела, што гэтага не зробіць. І не таму, што можа не справіцца з кабетай — яна, Жывена, лоўкая і хуткая, на скаку дастае галавой зямлі і вяртаецца назад у сядло. Проста нават дзеля свабоды яна не можа ўчыніць гвалт над нявіннай. «Нявіннай?! — загаварыла ў ёй абурэнне. — Ды яна ж прадажная жанчына, віслена, альбо, як казалі агнішчане і простая чадзь, прасталытка!» І нейкі ўнутраны, спакойны, як сумленне, голас сказаў рашуча, як убіўшы кол у разгарачанае месіва думак: «Не!»

Казінта ўнесла гляк, паставіла яго на стол і накіравалася да дзвярэй. Жывена ўстала на яе шляху.

— Дапамажы мне. Ты ж славянка, як і я. Адчыні мне дзверы. Я заплачу табе. Дай мне збегчы адсюль!

Зеленаватыя вочы жанчыны шырока раскрыліся:

— Ты хочаш бегчы?!

Яна гаварыла на мове, якая была зразумелая Жывене, хаця асобныя словы вымаўляліся іначай.

Дзяўчына хутка заківала галавой, а душа яе рванулася прабіць сцяну непаразумення паміж ёю і гэтай жанчынай, ад якой магло залежаць яе выратаванне. І нешта як скранулася ў Казінце, вочы яе пацяплелі:

— Мне сказалі, ты застанешся ў нас. Можа, будзеш таксама абслугоўваць гасцей. А ў мяне дзеці — хлопчык і дачушка. Ты — прыгажэйшая, і ў цябе няма дзяцей…

Тады Жывена зразумела прычыну варожасці Казінты, і шкадаванне заліло ёй грудзі варам:

— Я лепей памру — ты верыш мне, Казінта?

Жанчына няпэўна пацiснула плячыма, пасля, павагаўшыся, дадала:

— Мабыць, так… Але я не магу табе памагчы — мяне заб’юць.

— Я звяжу цябе… ты скажаш — я заспела цябе знянацку!

Але цяпер Казінта сказала цвёрда:

— Яны заб’юць мяне, а куды дзенуцца мае дзеці? Я шкадую цябе, я была такая ж маладая і гордая. Але мне хацелася жыць — хай у палоне, сярод насільнікаў… Толькі б жыць. І вось жыву.

Жывена зняла з грудзей запаветны залаты медальён з выявай Ашвінаў — «Яны даруюць мне святатацтва, яны добрыя».

— Я не вазьму яго, — Казінта адхіснулася. — Мае дзеці…

— Тады замяні мяне, — патрабавальна глянула на яе Жывена. — На сённяшнюю ноч. І прынясі кварту медавухі.

Медальён вісеў перад вачыма Казінты, яна пераводзіла позірк то на яго, то на Жывену.

— Ты… ты атруціш яго, Райнера?

— Абяцаю табе… як называецца ваша багіня прыгажосці? Ляля?

— Красапані альбо Лада…

— Клянуся ёю і маці-Зямлёй, што ён застанецца жывым і нават здаровым. Можа, будзе піць разам з усімі — кінь шчопцю ў кварту. Тады ён не здолее адрозніць цябе ад мяне. Памажы мне — і нашы славянскія багі дапамогуць і табе. Ты згодная, калі я не памру да вечара альбо не збягу адсюль, легчы замест мяне ў гэты ложак?

Казінта асцярожна пагладзіла медальён. Уздыхнула.

— Яны не ўзялі ў цябе нават твой сярэбраны бранзалет, — яна дакранулася да запясця жрыцы. — Падары мне яго і пажадай калі-небудзь выбрацца адсюль. А медальён, — дадала кабета, — пакінь сабе. Я не хачу крыўдзіць багоў-блізнят — ім пакланяліся і мае продкі.

Яны абгаварылі прыдуманы Жывенаю план і, здаецца, зразумелі адна адну. Жрыца не памылілася: тут, сярод глухой пушчы, заезны дом-карчма прызначаны быў для ліхіх малайцоў, хто хацеў хутчэй збыць нарабаванае. Сюды звозілі палоннікаў, каб прадаваць іх далей — у краіны ісламу, Міжземнамор’е. Разлік крыжакоў на тое, каб, ад’язджаючы з земляў сваіх былых саюзнікаў, пацешыцца там вайною і рабаўніцтвам, не вельмі выяўляючы сябе, быў хітрым: як разбірацца на папялішчы, хто яго ўтварыў — разбойнікі, татары альбо крыжакі? Тым болей што Міндоўг хітры: адпісваў немцам землі, якія яму не належалі, часам паказваў, можа, і не хочучы таго, як апрыкралі яму пагрозліва-буйныя германцы, якія, аднак, пагардліва глядзелі на новаахрышчанага князя, што не хаваў сваёй даўняй адданасці язычніцтву. Жывена ведала пра тое, таму не хацела, як спяр-

ша збіралася, раскрыць таямніцу свайго нараджэння рыцару Райнеру. Падумаўшы, яна вырашыла, што можа тым толькі пашкодзіць сабе.

Вечар густа мазаў спачатку барвовымі, пасля ружова-бледнымі, затым сіне-шэрымі фарбамі вапнавую сцяну насупраць акна. Цені сцякалі па ёй туды, дзе нараджаюцца ўсе формы быцця, што прыходзяць спраўджвацца на зямлю. Знізу паднімаліся ўсё гусцейшыя пахі цыбулі, кропу, смажаніны і дымнага, п'янага застолля, чуўся грукат посуду і рогат, загудзела валынка. Пасля, мабыць, з падзямелля вывелі дзяўчат і маладзіц — заенчылі, заскуголілі, як прапашчыя душы, тонкія галасы. Але хто мог дапамагчы няшчасным тут, дзе кожная бэлька і дошка крычма крычалі аб пакутах і злыбедзе, гвалце і крыві? Пітво рабіла сваё: дзікія крыкі мацнелі, яны паднімаліся наверх — мабыць, немцы цягнулі пакутніц па пакоях-логавах. Плач і лаянка, хрыплае галёканне, тупат і рыпенне дошак напоўнілі, здаецца, усё навокал. Яна ціха сядзела ў цёмным пакоі, дзе чорнымі струменямі мільгацелі па кутах злыдухі, якія так любяць спажываць чалавечую нянавісць і страх, ад таго селяцца толькі там, дзе яны ёсць. Мышыны іх, зласлівы піск выразна чула Жывена, але не было ў яе ні агню, які прымушае адступаць усе чорныя сілы, ні магічнага жазла, а самае галоўнае — душа яе ніяк не магла сабрацца ў адно і адкінуць прэч дробную калатнечу страху, а без таго не справіцца ёй з пошасцю, якая кіруе і гэтымі нячысцікамі, і ўчынкамі Райнера. Спалоханай душы не дадзена прабіць і варожую каламуць хмараў, што шчыльнай заслонаю ахінулі гэты злашчасны дом і яго насельнікаў… Усё разумела Жывена, але глядзела на амаль непрыкметны ў цемрадзі жоўты круг месяцовага святла і пачувала сябе звязанай путамі чужой, варожай чалавеку волі, пакінутай светлымі сіламі, такімі спачувальнымі да яе раней…

Ад лязгату ключа ў жалезным замку амаль падскочыла маладая дзяўчына, але Райнер, які грузна ўваліўся ў пакой, на шчасце, не ўбачыў таго, бо ў паядынку, які пачынаўся між імі, першы крок, першае слова маглі вызначыць усё.

— Дзе яна тут? — прамармытаў ён невыразна, і Жывена зразумела: той гран* парашку балігалову, які яна дала Казінце, ужо дзейнічае. — Агню! — закрычаў ён.

* Гран (лац.) — 0,062 г.

Не падаючы голасу, палонніца стаяла за полагам, і крыжак, спатыкаючыся ў цемры, расставіўшы рукі, пайшоў да ложка. Але Жывена лёгка слізганула да дзвярэй, намацала ключ.

— Нашто тут агонь? — голасна сказала яна, каб заглушыць рыпенне замка, заміраючы ад думкі, што Казінты не акажацца за дзвярыма. Але тая, як толькі прыадчыніліся дзверы, вёрткай ласіцай праціснулася ўнутр, шчыпнула дзяўчыну.

— Зжалься, рыцар! — хуценька прагаварыла жрыца, зразумеўшы, што ёй цяпер трэба як мацней замацаваць свой вобраз і голас у свядомасці гвалтаўніка. — Пашкадуй мяне! Дзеля нашага дому, у якім цябе прымалі як дарагога госця, дзеля майго дзеда Агапія!

Райнер, які, абмацаўшы ложак, ішоў да дзвярэй, на імгненне прыпыніўся. Здавалася, у яго замутнелай галаве нешта праяснілася. Ды толькі на імгненне. Ён зласліва засмяяўся.

— Ты думаеш абагнаць мяне і тут? — прагаварыў крыжак. — Не спадзявайся. Я мужчына і воін, не горшы за астатніх! Не горшы, чуеш ты?!

Постаць Казінты захіліла сабою Жывену, якая здолела выціснуцца з дзвярэй і тут жа прыкрыць іх за сабою.

— А-а, ты думала збегчы ад мяне? — перахапіўшы Казінту ля дзвярэй, крыжак растапыранай пяцярнёй ледзь не ўпаяў яе ў сцяну, правай жа рукой зноў павярнуў ключ у замку і на гэты раз апусціў яго ў кішэню каптана. Кабета, як бы змагаючыся з ім, нахілілася, укусіла яго за плячо. Тады раз’ятраны мужчына кінуўся на яе, як раззлаваны доўгай пагоняй коршун падае на зняможаную зайчыху, когцячы яе без жалю і спяшаючыся глытнуць свежай, гарачай крыві…

Скурчыўшыся ў камяк пад цёмным сваім карзном у кутку калідора, ледзь асветленага смаляком, і кожную хвіліну чакаючы, што нехта з п’яных крыжакоў альбо вартавы, што тырчаў ля лесвіцы, якая вяла ўніз, заўважыць яе, чакала маладая жрыца, калі выйдзе Казінта, і ці ўдасца ёй ашукаць Райнера, замглёнага моцнай медуніцай і парашком.

— А што, калі не атрымаецца? — пыталася яна ў сябе і не знаходзіла адказу. Не для таго доўгія гады вучылі яе ў храме, каб у найгоркі час яна шукала смерці як выбаўлення. Колькі разоў паўтараў ім, юным, шапаткі, як стончаны часам кляновы ліст, Святазар, што ўсе жахі жыцця прыцягваюцца самім жа чалавекам, і ў сабе, верачы багам і светламу пачатку жыцця, трэба шукаць паратунку. Але адным не валодае чалавек — уласным

жыццём, бо яно даецца багамі па іхняму, невядомаму смяротнаму плану і не можа абрывацца па прыхамаці самога чалавека.

— Але калі здзекуюцца, калі хочуць зламаць душу? — помніцца, наіўна запыталася аднойчы Жывена, ніколі не думаючы, што некалі сутыкнецца з тым сама.

— Калі ты сама не пагодзішся на тое, душу не зламаюць ніколі! — цвёрда адпрэчыў вярхоўны жрэц.

Тады, помніцца, гаворка цягнулася доўга, але менавіта гэтыя словы ўсплылі зараз у Жывене, і чамусьці стала лягчэй дыхаць. Якраз тады ціха расчыніліся дзверы; пільна агледзеўшы калідор і вызначыўшы, дзе Жывена, Казінта, тулячыся да сцяны, падкралася да яе.

— Спіць, — прашаптала ледзь чутна. — Не бойся ўжо…

Можна было разгледзець пад плашчом разарваную кашулю і пісягі на шыі, але жанчына, махнуўшы рукой, паказала: «Ідзі!» Толькі калі жрыца схавалася за дзвярыма, прыслужніца выпрасталася і пайшла да выхаду, дзе, убачыўшы яе, ажывіўся і радасна загергетаў вартавы. Калі ж ён, пажадліва ўхапіўшы за плячо, запытаўся ў Казінты, ці спадабаліся ёй нямецкія мужчыны і ці прыйдзе яна да яго пасля вахты, жанчына, шчыльней кутаючы плашчом грудзі, адказала па-нямецку клічам, які неаднойчы вечарам ужо гучаў унізе, у карчме, дзе яны пілі напачатку:

— Sturm und Drang!*

Тады вартавы жартоўна адсалютаваў, падняўшы ўгору меч, а кабета дадала:

— Пасля вахты прыйду, але гэта будзе каштаваць тры манеты!

Ён зморшчыўся, павагаўся, кіўнуў, а яна, гідліва крывячыся, пачала спускацца ўніз, у сваю каморку, дзе спалі дзеці. Але, падышоўшы да дзвярэй, пайшла ў двор, да студні, дзе доўга і захлёбіста піла ваду з драўлянага цэбра, абкаванага вобадам, ад якога ў яе чамусьці, нібы ў сцюжу, мерзлі рукі…

Жывена, наадварот, уся як палымнела, заходзячы ў пакой, дзе пад чорным полагам ложка чулася соннае булькатлівае дыханне Райнера. Той спаў цяжкім, пакутлівым сном, стогнучы праз зубы, так што, асвойтаўшыся з цемрай, дзяўчына паклала яму ў кішэню каптана, што валяўся побач, узяты ключ — паклала з горкім шкадаваннем, з надзеяй усё ж выкарыстаць яго дзеля волі. Пераканаўшыся, што крыжак не прачнецца да раніцы, яна стала на калені перад акном і, сціскаючы ў руках медальён, з адчайным маленнем стараючыся прабіць імгліста-непрыветную

* Штурм і націск! (Ням.)

цемрадзь, стала, гімн за гімнам, звяртацца да Ашвінаў. Сілы паволі вярталіся да яе. Першая, хаця і маленькая, зусім няпэўная перамога акрыліла жрыцу. Яна не ведала, колькі прайшло часу, аднак у нейкі момант, калі малітва зрабіла яе лёгкай, як пёрка, гатовае ўзляцець ад непрыкметнага подыху ветру, між вязкімі, як шэрая гразь, аблокамі выбліснула сузор'е Ашвінаў* — дзве яркія, як агні ў начы, зоркі глянулі ў пакой. Тады рыданне вырвалася з грудзей жрыцы, і яна распасцёрлася на падлозе. Калі ж падняла галаву, сузор'е зноў зацягнулі хмары, але цяпер ёй не было страшна, яна ведала, што знойдзе сілы, каб змагацца.

Таму, даручыўшы сябе боскім блізнятам, яна, захутаўшыся ў карзно, лягла ў куце далей ад ложка і неўзабаве заснула таксама. Была страпянулася, калі ўставаў Райнер і няўцямна мармытаў не то праклёны, не то малітвы, апранаючы даспехі, а пасля, не падышоўшы да яе, грузна патэпаў да калодзежа, дзе ўжо рыпеў калаўрот, але тут жа заснула ізноў, ажно пакуль не загукаў да ўсіх рог і нейчы голас унізе не пракрычаў, што прыехалі купцы.

Тады дзяўчына ўстала, зазірнула ў акно, адкуль чуліся ржанне коней, рыпенне падэшваў, лязганне ланцугоў. З будынка выводзілі першых палоннікаў. Дзяўчынку, што сядзела побач з Жывенай у падзямеллі, пазнаць можна было толькі па сарафане ды скураной шапачцы — твар яе, ссінелы і распухлы, здаваўся маскай глумца, рухі былі запаволеныя; маці ж, наадварот, увесь час торгалася, нібы ад ўзмётнага нядужання**. Светлавалосая маладзіца закрывала далонямі голыя грудзі — апратка яе вісела рыззём. Каваль Пуціла ішоў скасабочаны, пачарнелыя плямы крыві на кашулі закарэлі. Каржакаваты, у чорным валоссі, нібы жук-гнаявік, чалавек біў молатам па маленькай накавальні, заклёпваючы на нагах нявольнікаў першыя цяжкія ланцугі. Адзін з мужчын-нявольнікаў, што стаяў непадалёку ад сцяны, вялізнымі скачкамі, мабыць, разарваўшы вераўчаныя путы, ірвануўся да яе, спадзеючыся пераваліцца праз перашкоду, але вартаўнік заспеў яго на сярэдзіне — гакнуў меч, перасечаны амаль напалам чалавек асунуўся на зямлю, таргануўся колькі разоў і заціх. Крыжакі адабральна зараўлі. Захадзілі па плячах і сцёгнах знямелых людзей цяжкія бізуны. Купцы аглядалі жывы тавар, таргаваліся, завязвалі ў вузлы тканіны і мяхі, бразгацелі манетамі і сярэбранымі брускамі. Жывена выглядала Роса, але

* Сузор'е Блізнятаў.

** Падучая.

яго не было відаць, і яна зразумела, што яе не стануць прадаваць разам з астатнімі.

Звонку ў дзвярах павярнуўся ключ, і ўвайшла Казінта.

— З цябе трэба было б яшчэ пару манет, надта ён дурны, — азірнуўшыся, прашаптала карчмарка. — Што, ні разу не быў з жанчынай?

Жывена паціснула плячыма, вымавіла з горыччу:

— Ты магла б мне дапамагчы. Загавары вартавога, я праслізну міма, а там…

— Маю папярэдніцу засеклі толькі за тое, што развязала ногі цяжарнай жанчыне, якую трое сутак трымалі ў падзямеллі без ежы. Усё, што я магу, — прынясу табе абцугі, можа, спатрэбяцца ў дарозе. Бруна сказаў, што павязе цябе следам за атрадам.

— А куды яны едуць? — узбурылася Жывена. — У Сіцылію, далучацца да крыжовага паходу? Праз нявольніцкія рынкі ў Дэбрцэне і Венецыі?

— Не ведаю, — спагадліва прамовіла Казінта. — Адно скажу — нічога добрага ад іх чакаць нельга. Я ўжо іх ведаю…

Яна яшчэ некалькі разоў заходзіла да жрыцы — то прынесла паесці, то падарыла ёй маленькія, як цацачныя, абцугі, якія, відаць, засталіся ад кагосьці з нявольнікаў-палонных, то папрасіла бронзавую спражку і скураны пояс, якія надта ўпадабала. А пасля абеду, калі сонца схавалася за вершаліны змрочных навакольных дубоў, у пакой завітаў Бруна. Ясныя вочы яго вінавата зіркнулі на Жывену.

— Збірайся! — коратка кінуў некуды ўбок і пасляшаўся за дзверы, не адказаўшы на яе таропкія пытанні. Адтуль ужо, з калідора, праз хвіліну гаркнуў па-нямецку:

— Ком!*

Двор быў амаль пусты, толькі ля брамы стаяла фурманка з расцярушаным па дошках сенам. Звераваты каваль ладзіў над ёю заслону з палатна і выгнутых арэшын, забіваючы апошнія цвікі. Знаёмы ўжо крыжак — вёрткі, рыжы, як ліс, — вывеў з будынка таго параненага юнака, які падтрымаў маладую жрыцу. Збіты на горкі яблык юнак, аднак, усміхнуўся Жывене разбітымі вуснамі, патрос звязанымі наперадзе рукамі. Рыжы моцна штурхнуў яго да фурманкі, падхапіў за ланцугі на нагах і падсадзіў у воз, ды так груба, што хлопец тыцнуўся тварам у драўляную сценку. Жывена падскочыла да фурманкі, дапамагала юнаку сесці. Рыжы

* Сюды! (Ням.)

змрочна сачыў за ёю. Коратка сказаў нешта кавалю — той стаў таропка біць малатком па канцы доўгага, больш цяжкага ланцуга, да якога як прыкляпалі юнака, а потым Жывену, на ногі якой таксама надзелі калодкі. Апошнім пасадзілі ў фурманку каваля, які ўласнымі рукамі накінуў на сябе калодкі, а ключ ад іх узяў, замкнуўшы ўжо самога каваля, рыжы крыжак. Ён жа ўладкаваўся ў фурманку, каб сцерагчы палоннікаў, а Бруна сеў за фурмана. Тады прывялі Роса і прывязалі ззаду.

Калі ўжо расчынялася, як нехаця, брама, да вазка падскочыла Казінта, якая паклала на ногі Жывене скрутак.

— Тут хлеб і сыр. Маліся за маіх дзяцей, жрыца, як я буду маліцца Багародзіцы за цябе, — шапнула яна, а на пагрозлівы рык рыжага выцягнула вусны трубачкай, як бы цалуючы яго:

— Der Schurke!* — буркнуў той, аднак падабрэў і, разгарнуўшы скрутак, вярнуў назад кавалак жоўтага круглага сыру і паўбохана.

Жывена не зводзіла вачэй з любімага каня, а Рос бег, лёгка перабіраючы нагамі ўслед за вазком, і час ад часу, нібы перагаворваючыся з ёю, коратка ржаў.

— Ты сапраўды чараўніца, — заўважыў юнак. — Аднак жа немцы, мабыць, мацнейшыя за нашых славянскіх багоў. А як цябе завуць, дзяўчына?

Яны пазнаёміліся. Юнака клікалі Заяц, ён, як і Жывена, быў язычнікам, лепшым гаршкалепам у селішчы, дзе крыжакі ўзялі і каваля Няжылу, што ехаў разам з імі. Іх абодвух забраў сабе Бруна, які, як і Ота, служыў камандзіру крыжакоў — высокаму, з нейкім нежывым тварам.

На першым жа прывале, калі Бруна, адамкнуўшы калодкі Жывены, стаў даглядаць яе, пакінуўшы абодвух мужчын Ота, а той шпурнуў ім толькі сухі праснак, які яны ламалі звязанымі рукамі і прагна глыталі, Няжыла мармытнуў:

— Хай бы мне лепей памерці, як я перажыў сваіх сыноў. Хай бы Веляс уцягнуў нашых ворагаў жыўцом у сваё падземнае царства да нячысцікаў, а тыя б распорвалі ім жываты так, як яны паролі нашым. І дзеўцы гэтай туды ж дарога…

Бруна, пакінуўшы Жывену, якой ён даваў вады з біклагі, падышоў да каваля, ударыў яго ў жывот, той сагнуўся, заенчыў.

— Не гавары пры ім нічога, ён разумее па-нашаму, — з жалем да няшчаснага прамовіла жрыца. Заяц жа злосна тарганууўся:

* Шэльма (ням.).

— Што ў славян за звычка — каб кожны побач няшчаснейшым за цябе рабіўся! Ты ж паглядзі, якая яна прыгажуня — няўжо і ёй праснак коўтаць, як нам?!

Але ў Жывены зноў, як і ў падзямеллі, звяло сутаргай горла, і яна настаяла, каб тое, што было ў скрутку, падзялілі пароўну паміж усімі палоннікамі.

— Куды вы везяцё нас? — каторы раз задавала яна пытанне старому дзядзьку-збраяносцу, і той нарэшце неахвотна прамовіў, што Райнер загадаў везці ўсіх траіх у ягоны родавы замак, бо старэйшы брат — уладарнік баронскага тытула і сеньёр — не будзе клапаціцца ні пра разбураныя часам масты і равы вакол замка, ні пра паўднёвую сцяну, прабітую падчас вайны з князем Манфрэдам, калі той паўстаў супраць улады Ордэна.

— А дзе ваш замак? — пыталася Жывена, і Бруна, ізноў адмаўчаўшыся, урэшце працадзіў, што на мяжы з франкамі. Куды больш ахвотна апавядаў ён на другім прывале, зробленым пад вечар, аб сыне Фрыдрыха Другога — Генрыху Восьмаму, які паўстаў супраць свайго бацькі, праклятага папам Інакенціем Чацвёртым. Праклянцце тое лягло, як зламесны водгук, і на сына Генрыха, Конрада Чацвёртага, які загінуў зусім нядаўна, якіх тры гады назад, і на ўсю Германію, дзе цяпер пануе вялікі Інтэррэгнум*, калі гарады набываюць сілу і сплочваюцца ў саюзы, якія не хочуць падпарадкоўвацца манархам. Рыцарам цяпер таксама цяжка — вольнасць іх моцна абмяжоўваюць уладары ўдзельных княстваў, бадай што, свабодным па-сапраўднаму застаўся толькі Нямецкі Ордэн, Тэўтонскаму ж, які пануе паблізу ад славянскіх земляў, пакуль не пагражае княжая ўлада, і ён дапамагае папе ператвараць язычнікаў у хрысціян.

Апавядаючы ўсё гэта, збраяносец Райнера нібы рыхтаваў Жывену да яе новага жыцця, аднак зняць ланцугі з яе адмовіўся наадрэз:

— Мой уладар верыць, што я выканаю яго загад. А ты не дзяўчына — агонь, і калі я ўпушчу цябе…

Рыжы Ота неадабральна касіўся на Бруна, які, развязаўшы ўвечар рукі Жывене, дазволіў ёй паесці адной пад разложыстай ліпай, а пасля трохі паляжаць. Аднак жа ніхто з немцаў не абшукаў яе і не знайшоў маленькія абцугі, якія яна паклала ў патайную кішэню каптана. А яны грэлі яе, як надзея на выратаванне, якая то згасала, то разгаралася нястрымным, зыркім полымем душы, гатовай ахвяраваць жыццём дзеля волі. Аднак

* Міжцараванне (лац.).

жа не выпадала рызыкаваць дарэмна, а Бруна на прывалах амаль не зводзіў з яе вачэй. Цяпер усё часцей за фурмана сядзеў Ота, таму Жывена і не магла ні аб чым дамаўляцца з Зайцам, які, мабыць, таксама абдумваў планы ўцёкаў, бо пры кожным прывале перш за ўсё чэпка абмацваў вачыма наваколле, як прыкідваючы нешта, на што рыжы Ота злавесна і пагражальна штурхаў яго ў плечы і гразіў мячом.

Дзень за днём ехалі яны ўглыб Нямеччыны, мінаючы вялікія дарогі. Ехалі лясамі, як разбойнікі, бо, патлумачыў Бруна, рабавалі якраз на вялікіх шляхах, асабліва на памежных землях княстваў. І толькі ў канцы другога тыдня выдалася нагода, аб якой даўно марылі і Заяц, і Жывена, і маўкліва-панылы Няжыла, які цяпер зацята маўчаў, не гледзячы на дзяўчыну і свайго напарніка, ды неадменна стараўся ўхапіць кавалак большы, чым у Зайца. Але хаця і марыў Няжыла аб волі, аднак, калі Заяц выклаў яму свой план пабегу, рызыкаваць не захацеў:

— Сілком зброю ў іх не захопіш, яны воі, а мы…

Тады Жывена і Заяц згаварыліся зрабіць па-свойму. Дзяўчыне ўдалося непрыкметна перадаць свайму спадарожніку абцугі, і ўвечары, калі моцна заснуў Бруна, які заўсёды клаў непадалёку ад сябе давераную яму дзяўчыну, а Ота, які дзяжурыў у тую ноч, падкідваў галлё ў вогнішча, да яго ззаду падпоўз малады гаршкалеп. Усё адбылося імгненна: выхапіўшы меч з похваў вартаўніка, хлопец з усяе сілы ўсадзіў яго ў ворага. Кароткі хрыплы крык прымусіў ускочыць Бруна, але, калі ён кінуўся з кінжалам на Зайца, Жывена лоўка схапіла яго за нагу, і ён грымнуўся на карчы, як вяпрук, з рыкам, аднак ускінуўся і пачаў бой. Заяц, нягледзячы на маладосць, уступаў старому вою ў сіле і спрыце, але Жывена закрычала па-нямецку:

— Бруна, ён не заб’е цябе, толькі дай нам уцячы!

Няжылы ўжо не было тут — ён паўзком пакінуў сваё месца, падаўся, відаць, у лес. Чуваць было ў цемры, як гнеўна заржаў Рос — мабыць, бегляк спрабаваў усесціся на яго.

Жывена бездапаможна азірнулася — Заяц адступаў, хаця і адчайна супраціўляўся. Меч Бруна ў похвах ляжаў ля яе ног, выблісквала дзяржальна ў выглядзе змяі. Яна з агідай схапілася за халодную змяіную галаву, выцягнула даўгі, цяжкі меч. Закрычала яшчэ раз з адчаем:

— Бруна, я заб’ю цябе, чуеш? Адыдзі ад яго!

— Лепей не падыходзь, дзяўчына, іначай я прывязу Райнеру толькі тваё залатыя валасы! — з натугай, здзекліва прасіпеў ахоўнік, не адводзячы вачэй ад маладога свайго саперніка, але,

мусіць, супакоіўшыся наконт яго вайсковага ўмельства. Бачна было, што ён ужо выбіраў хвіліну, калі можна будзе параніць таго ў руку, каб, выхапіўшы меч, канчаткова з ім расправіцца.

Жывена ўбачыла: ён не дасць падысці і ёй, не дазволіць нават падняць меч. І адначасна са страхам, разгубленасцю раптам з самых глыбінь душы ўзнялася ў ёй шалёная, неўтаймоўная прага вызвалення. І позірк яе ўпаў на два камені, што ляжалі ў вогнішчы, — на іх ставілі гаршчок з варывам. Яна скочыла да іх так хутка, што Бруна не паспеў ухіліцца ад каменя, які ўдарыў яго па вуху так моцна, што прымусіў вохнуць і схіліцца ад болю. Тады, адначасна з крыкам Жывены «Не забівай!» Заяц зверху секанўў яго мячом, і Бруна грузным мехам паваліўся яму пад ногі.

— Гатова! — задыхаючыся, вымавіў хлопец і з дакорам глянуў на жрыцу: — Яшчэ трохі, і ён бы змянташыў мяне на капусту, а ты…

Тонка праспявала страла, упіўшыся ўсім сваім жалезным, смяротным наканечнікам у яго маладое цела, і Жывена так і не даведалася, ці пашкадаваў ён у апошнія свае хвіліны таго, што не дабіў Ота, які таксама на апошнім дыханні дапоўз да калчана са стрэламі і здолеў пусціць гэтую, каб дзіка зарагатаць і тут жа памерці. Дагарала патрывожанае вогнішча, яна стаяла, працягнуўшы да памерлага Зайца апечаныя рукі, а на нагах дробна пазвоньвала жалеззе ланцугоў, і яны, ногі, здавалася, ураслі ў зямлю, дый сама яна, як казюрка ў бурштыне, застыгла ў гэтай гаротнай хвіліне, дзе былі смерць, і чарната, і рогат нячысцікаў, якія падступалі ўсё бліжэй.

Мяккая пыса Роса дакранулася да пляча, і тады спала здранцвенне. Абняўшы цёплую шыю каня, дзяўчына, выпрастаўшыся, крыкнула ўсім, хто падбіраўся зараз да мерцвякоў, да яе, жывой, магічныя словы адпрэчання, і тады калыхнулася вогнішча і затрашчала вогненнымі вугельчыкамі, сціх рогат, а яна сцягнула нябожчыкаў да кастрышча і, закідаўшы ўсіх галінкамі і суччам, прачытала замовы-суправаджэнні ў вырай, царства памерлых, дзе ім давядзецца караскацца на шкляную гару Меру на адвечны суд. А можа, немцы пойдуць у сваю Валгалу? Як бы там ні было, яна не магла пакінуць і іх без словаў жальбы, не магла адмовіць і іх душам, якія, здаецца, малілі не пакідаць на растурзанне звярам ужо скарчанелую плоць. Калі б так здарылася, асуджаная была б душа заставацца на зямлі, блукаць па свеце і палохаць жывых…

Жывена вымаўляла старажытныя, суровыя словы да Уладара мёртвых, а душа яе плакала, ніяк не могучы прымірыцца

з тым, што на зямлі, дзе ёсць усё, каб быць шчаслівымі, людзі ненавідзяць, зайздросцяць і забіваюць адзін аднаго. Бясконцай спіраллю цягнецца Зло, і дзе тое месца, якое можна было б выпаліць святлом і любоўю, як выпальваюць у храме праз крыштальны шар-пацік — страшны гнілец* на целе хворага?!

У куфры, што везлі з сабою слугі Райнера, яна знайшла залатыя і сярэбраныя манеты, грыўны, колты і завушніцы. Павагаўшыся, узяла іх з сабой, частку зашыла ў карзно, ад чаго яно пацяжэла. Каня, які вёз фурманку, выпрагла, прывязала да Роса і накіравалася назад.

Хутка, аднак, яна заблудзілася. Лясныя дарогі бясконца раздвойваліся, растройваліся, некаторыя, даўно не ходжаныя, зараслі хмыззём, так што раніцу Жывена сустрэла ў гушчары, з якога выбралася толькі пад полудзень.

Невялікі нямецкі гарадок чырванеў непадалёк чарапічнымі вастраверхімі дахамі, былі відны вартавыя з нязвыкла тупымі дзідамі, востры позірк жрыцы нават распазнаў герб над брамай — чорны мядзведзь на задніх лапах. Дзяўчына некаторы час вагалася — што чакае яе там? Што сказаць варце? Але ж у катомках яе няма галоўнага — ежы.

Прысела пад ліпамі, загадала на першага сустрэчнага — ці пададуць праз яго багі ёй знак, які просіць? Коні ціха скублі траву каля пня, на якім сядзела жрыца, а яна ўсё чакала. Але нарэшце пачуўся голас; па дарозе ехаў чалавек, ён ціха напяваў праз зубы аднастайны матыў. Жывена ўгледзелася ў яго і не паверыла вачам: з-пад безрукаўкі выглядала кашуля з вышыўкай, і вышытая на ёй была Жытняя Баба з двума коньмі. Кашуля была старая, але чырвоныя і чорныя ніты вышыўкі не выгаралі, нібыта ў іх усялілася душа той славянкі, якая некалі іх вышывала. Так, славянкі, таму што Жывена добра ведала таямнічыя знакі вышыўкі і ткацтва, якія лепей за словы гавораць, адкуль чалавек і хто ягоныя продкі.

Яна выйшла на дарогу, і стрэчны спачатку спалохана, а пасля супакоена сказаў, што гэта за горад. Яе мовы ён не разумеў, аднак помніў, што продкі яго з сорбаў — славян, якія яшчэ паўтара стагоддзя назад змагаліся тут супраць Альбрэхта Мядзведзя, які ўрэшце пераламаў іх супраціўленне і зрабіў гэтую зямлю нямецкай. У разрэзе кашулі выбліснуў крыж — Пауль, як звалі чалавека, быў спраўным хрысціянінам, ён з ахвотай узяўся дапамагаць

* Ваўчанка.

падарожніку, які ўцёк ад рабаўнікоў. Зрэшты, яна і не крывіла душою, таму ёй лёгка паверыў гаспадар карчмы — родзіч Пауля, хаця і запытаўся пра другога каня — каму належаў ён.

— Майму слузе, — адказала Жывена. — Але яго забілі, і я ўцякаў адзін. Ці не дапаможаш мне прадаць яго?

— Я хацеў бы сам купіць такога, на іх звычайна ездзяць толькі рыцары-крыжакі. Але баюся, што ты запросіш зашмат.

Тады Жывена прапанавала абмен: яна аддасць каня ўзамен за пражыццё і праваднiка, які правядзе яе да межаў Брандэнбургскай зямлі. На тым і пагадзіліся. Аднак жа, хаця і дамовілася дзяўчына выехаць з гарадка праз два дні, закупіўшы ўсё неабходнае для падарожжа, атрымалася інакш.

Калі, прагуляўшы Роса, яна вярталася да карчмы паўз гарадскі калодзеж, ля якога з цэбрамі і глякамі стаялі жанчыны, гучна абменьваючыся гарадскімі навінамі, яна пачула прозвішча, якое прымусіла спыніцца і застыць непадалёк, робячы выгляд, што правярае капыты скакуна.

— Мне прыйдзецца падаваць скаргу бургамістру, таму што фрау Шонвальд два месяцы не плоціць грошы, — шчабятала маладая румяная таўстуха ў карычневай суконі і клятчастым андараку з белымі фальбонамі.

— Не рабі гэтага, Хельга, бо інакш бургамістр усё-ткі адправіць яе ў прытулак для калек і вар'ятаў, што пры манастыры Сан-Петэр, — казалі жанчыны.

— Але грошы, цэлых паўмаркі! — гаравала таўстуха.

— Нагадай яшчэ раз, яна знойдзе чым аплаціць, яна не бедная. Слаўнай жанчыне выпалі такія выпрабаванні! — пярэчыла старая, высахлая, як стручок бобу, кабета.

— Сама вінаватая: жанчына не павінна ўмешвацца ў справы мужа, тым болей такога воіна, як фон Шонвальд, — злосна агрызнулася яшчэ адна жанчына і, падхапіўшы гляк з вадой, пайшла дадому. Адправілася з драўляным вялікім цэбрам і Хельга, а за ёю, наводдаль, каб не прыцягваць увагу, Жывена.

Назаўтра раніцай яна пайшла да маленькага, як цацачнага, дамка з чысценькім каменным ганкам і вялікім кветнікам абапал яго, пастукалася ў дзверы з металічнымі трохкутнікамі па краях. Не паспеў заціхнуць лязгат акуратнага металічнага колца, як на парозе з'явілася старая кабета са звялым, але некалі прыгожым тварам, з раўнадушнымі выцвілымі вачамі, нежывымі, як у нябожчыцы, валасамі, што неахайнымі пасмамі выбіваліся з-пад чэпчыка, таксама засаленага і зжаўцелага.

— Я шмат чуў пра подзвігі вашага мужа, рыцара фон Шонвальда, — павітаўшыся, загаварыла Жывена. — Дзе ён зараз?

Твар гаспадыні ўспыхнуў гневам.

— Подзвігі! Губіць чалавечыя душы, паліць няшчасных жанчын і дзяцей — гэта подзвігі?

З-за яе пляча паказаўся твар таўстухі. Убачыўшы зграбнага юнака з залатымі валасамі, што падалі да плячэй, яна ажывілася.

— Запрасіце госця ў дом! — загадала яна жанчыне і, не чакаючы адказу, пайшла да стала, каб паставіць там яшчэ адно крэсла. Але гаспадыня не адступалася:

— Я — законная яго жонка, і хаця біскуп дазволіў яму ўзяць другую, ён грэшнік, так, грэшнік, а не праведны хрысціянін! — амаль закрычала яна.

— Але вам без яго лепей, фрау! — лагодна зашчабятала таўстуха, усміхаючыся Жывене.

— Так, так! Хай ён сядзіць сабе зараз са сваёй… яна не жонка яму, не! Усё роўна! Канешне, яна не папракае Рыхарда тым, што ён спаліў незлічоную колькасць чалавечых душ!

— Вы гаворыце пра славян і прусаў, на якіх ён хадзіў? — запыталася Жывена.

— Як ён любіў расказваць пра тое! — не слухала нікога жанчына. — Як страляў з лука, як сек… А мне мроіліся тыя людзі, яны нібыта ўваходзілі ў наш дом, стагналі, зазіралі ў рот, калі нешта ела… Я ўскоквала, уцякала, а ён… ён рагатаў мне ўслед. І тады біскуп дазволіў яму ўзяць іншую, а мяне адправілі назад, сюды, да бацькоў.

Служанка пагардліва ўсміхнулася за спіной сваёй гаспадыні, але на словах як бы падлабуньвалася да яе:

— Добра, што ў бацькоў былі два дамы, іначай фрау засталася б зусім беднай, хаця ў фон Шонвальда шмат дабра…

— Відаць, ён прывозіў рабоў? — Жывене не хацелася весці роспыты пры служанцы, таму яна папрасіла прынесці вады. Хельга заспяшалася дагадзіць прыгожаму юнаку. Застаўшыся ўдзвюх, Жывена запыталася:

— Фрау Шонвальд, вы не памятаеце сярод тых, каго прывозіў Рыхард, маленькага хлопчыка-пруса? Рыцары тады разграмілі свяцілішча, забралі шмат палонных. Я чуў пра гэта баладу і хачу што-небудзь напісаць пра тыя… подзвігі.

Яна задумалася, а Жывена напружыла ўсе свае сілы, каб уваскрасіць у памяці жанчыны тыя даўнія гады і твары, якія ўтрымала памяць. Нарэшце фрау Шонвальд няўпэўнена прамовіла:

— Былі хлопчыкі… А гэты быў самы маленькі. Так, быў. Бруна смяяўся, бо ён забаўна плакаў. Але я пашкадвала хлопчыка і аддала яго.

— Каму?!

Вярнулася Хельга, але Жывена не глядзела на яе. Погляд жрыцы нібы пранізваў кабету, і яна дробна затрэслася:

— Багатым, багатым людзям… Фон Бамбергам, яны былі бяздзетныя, а фрау Хільда хацела дзіця… хлопчыка. Але нашто табе гэта?

— Госць, ты павінен ісці — калі яна памрэ, я ніколі не вярну свае грошы! — сурова загаварыла служанка.

— Я не памру, не, не! — усё болей ліхаманкава казала фрау Шонвальд. — Спачатку ён, мой муж, ён! І я буду смяяцца на ягонай магіле!

Яна сама схапіла алавяную конаўку, прагна выпіла вады. Жывена падышла бліжэй, заспакаяльна паклала руку на скурчаныя пальцы няшчаснай кабеты:

— Забудзьцеся на ўсё, зараз вам стане лягчэй.

Яна зашаптала замову супраць Лядашчыка, які насылае немачы праз успаміны, і гаспадыня абмякла, яе вочы сталі заплюшчвацца. Хельга ўжо з непрыхаванай варожасцю глядзела на іх.

— Якой сілай ты лечыш, хлопец? Ці не д’ябальскай? Ты не хрысціўся, ты распытваеш пра нейкіх людзей. Я прынясу на цябе скаргу бурмістру.

— Няўжо ён будзе займацца тым, чаму ад маіх слоў фрау стала лепей? Я распытваю не дзеля таго, каб прынесці ў ваш дом зло. А лячу… Свет такі агромністы, і ўсё ў ім зразумець мы пакуль не здольныя.

Таўстуха незадаволена хмурылася.

— Я думала, ты сёння пойдзеш у карчму, там будуць танцаваць і піць піва. А ты гаворыш нешта незразумелае, як студыёзусы, што прыязджаюць на канікулы з дамініканскай школы і збіраюцца стаць манахамі.

— Я паспрабую знайсці цябе ў наступны раз, калі захачу пайсці ў карчму.

— Праўда? — недаверліва перапытала тая. — Калі мая гаспадыня ачуняе, магчыма, яна аддасць грошы, і я куплю сабе новую спадніцу…

Але Жывена, кінуўшы позірк на паружавелы твар гаспадыні, лёгка збегла па чысценькіх прыступках ганка, подбегам заспяшалася па вуліцы.

Багі падалі ёй знак, і яна пазнала яго. Так, гэтыя знакі раскіданыя па нашым жыцці, аднак бачыць і пазнаваць іх умеюць нямногія. Рэгенсбург — дзе гэта, блізка ці далёка? Адно яна ведала цвёрда — паедзе туды, нягледзячы ні на што, таму што нічога выпадковага не бывае, а ёй так ясна, так выразліва далі пачуць імя, што вырваў з глыбінных сутарэнняў памяці вярхоўны жрэц у Новагародку!

Узорыстая торба, прытарочаная да сядла, трохі пацяжэла, але Рос не адчуваў таго. Ён лёгка нёс яе па дарозе да Рэгенсбурга, а тая то адгукалася шэлестам ссохлых лістоў, то ўздымала пыл да самых вяршынь ганарыстых клёнаў. Жывена купіла тутэйшае адзенне, і цяпер на ёй былі скураныя штаны і камізэлька, чорны суконны плашч ніжэй за калена, чорная суконная шапка на залацістых валасах. Як хлопцу ехаць было зручней. І хаця днём на дарогах было спакойна, аднак жа не перапыняліся сутычкі паміж незаконным сынам Фрыдрыха і ганарлівымі нямецкімі баронамі, якія не хацелі падпарадкоўвацца ні яму, ні тым, хто мог прэтэндаваць на імператарскую карону — Рычарду карнвальскаму альбо Вільгельму. А адзінокі спадарожнік мог патрапіць якому-небудзь ваяўнічаму атраду, якіх таксама хапала на дарогах. У мястэчку яна пачула шмат песень і балад пра колішні Ругіланд, пра люцічаў і іх браніборгскага валадара Прыбіслава, чыёй спадчынай завалодаў Альбрэхт Мядзведзь. Ёй успаміналіся размовы пра Саксонію, Цюрынгію і Баварыю, якія вялі між сабою баяры, што прыехалі разам з Раманам Данілавічам да новагародскага княжага стала. Галіцкія князі былі здаўна звязаныя з гэтымі землямі праз шлюбы, і цяпер дзяўчыне мроіліся балады, якія спявалі галіцкія спевакі аб падзеях гэтага стагоддзя, калі да маркграфства Брандэнбургскага, дзе раней жылі люцічы, далучыліся і землі шпрэвян. Помніцца, нават Раман спяваў пра тое, як саксонскі герцаг Генрых Леў пайшоў вайной на абдрыцкага князя Ніклота*. У той раз перамогі дабіцца яму не ўдалося. Але калі князь захварэў, яго сын не ўтрымаў бацькоўскіх уладанняў. Так узнікла герцагства Мекленбургскае.

У дарозе Жывена раздумвала пра далейшы лёс Новагародскай зямлі, княства, якое, нягледзячы ні на што, пашырала свае межы і набывала ўсё большую вагу. Што дае моцы княствам, герцагствам, вялікім каралеўскім дзяржавам? Сіла навакольнай зямлі ці магутны штуршок духу, пажадлівасць да валадарства

* Гэта было ў 1147 г.

ці ўзнёслае імкненне даць навакольным людзям абарону і спакой? І нашто даецца чалавеку княжая кроў — дзеля большай адказнасці яго за іншых ці дзеля выпрабавання яго самога? Прывабная, як салодкі мёд для казюрак, улада гэтая бывае горкай і невыноснай для чалавека, яна забірае ўсяго яго ў палон і кіруе ім так, як хочуць таго багі ці сама яна, улада…

Жывена спынялася на ноч у карчомках — нізкія бэлькі старажытных будынкаў былі цёмна-бліскучыя, як спіны хрушчоў, якіх яна любіла некалі ў дзяцінстве страсаць з бяроз, але сцены ўсюды пабеленыя і дарожкі выкладзеныя з акуратна адпаліраваных шэрых гранітных аскабалкаў. У драўляных кадках раслі незнаёмыя кветкі, гаспадыні старанна палівалі іх з вялікіх металічных конавак; вецер лагодна гайдаў на вяроўках белыя абрусы з фальбонамі.

Жывена ўглядалася ў акуратныя мураваныя дамкі з нязвыклымі чырвонымі дахамі, прыгожыя роўныя вуліцы, дзе з яркай зеляніны вытыркаліся вострыя шпілі хрысціянскіх храмаў з высокімі авальнымі вокнамі і суровымі каменнымі сценамі. Старыя багі былі адвергнутыя тут, у гэтых землях, але яны яшчэ канчаткова не пакінулі ладныя дубовыя гаі, шапаткія затокі, рачныя віры — іх галасы чуліся тут і там, і не раз у вірлівых струменях вады дзяўчына бачыла доўгія валасы русалак, а за кустом — калматую галаву лесавіка. Але ў гарадах іх ужо не было — доўгія вуліцы з дамамі-мураванкамі былі маўклівыя і ганарліва-паныла глядзелі на чужога. Раз-пораз у харчэўнях пастаялых двароў яна чула імя Бяртольда — францысканскага манаха з Рэгенсбурга, які з нечуваным поспехам змагаецца з рэшткамі паганства, так што нават старому салдату, які сварыўся «Донэргот* цябе пабяры!», перасталі прадаваць хлеб, пакуль ён не стаў прытрымліваць язык. Некаторыя гаварылі пра той выпадак з гонарам, але той-сёй крыў манаха як мае быць, хаця хрысціянскія храмы стаялі на ўсіх галоўных плошчах гарадкоў.

І Рэгенсбург яна ўбачыла, узабраўшыся на высокі пагорак, спярша як востры шпіль найвялікшага з усіх бачаных ёю дасюль храмаў, што аб'яўляў аб сабе за многія вёрсты ўсім падарожным. Пасля, прыгледзеўшыся, яна прыкмеціла нашмат ніжэйшую спіцу ратушы, што выблісквала з-за зеляніны, а пад'ехаўшы бліжэй, разгледзела славуты каменны мост цераз раку Данау, пра які ёй апавядаў яшчэ Пауль.

---

* Грамавержац (ням.).

Гарадской варце яна сказала, што прыехала здаля, каб убачыць, як будуюць Залатую вежу, вышыня якой павінна здзівіць сучаснікаў. Вартаўнікі задаволена расказалі ёй, што сапраўды сярод Патрыцыянскага квартала расце такая вежа, але яна недабудаваная, як і дамініканская царква святога Блазіуса, як і магутны дом святога Пятра. Жменя манет развязала ім языкі настолькі, што адзін з іх нават правёў яе да вуліцы, што кіравала проста да ратушы, каб разам з канём не заблудзілася яна ў вузкіх вулачках гэтага вялікага, багатага горада — некалі фарпоста рымскіх легіянераў, ад якіх застаўся Патрыцыянскі квартал і стадыён, амаль ужо разбураны. Там, ля ратушы, месцілася лепшая ў Рэгенсбургу гасцініца, адкуль зручней за ўсё было пачынаць пошукі сям'і Бамбергаў.

Каля ратушы Жывена прастаяла доўга, зачараваная не бачаным ёю раней сонечным гадзіннікам, а таксама высокімі каменнымі дамамі з дахамі паўкруглымі, выступчастымі, узорыстымі, дзе прыляпіліся каваныя металічныя балкончыкі з пакручастымі ўзорамі. Падняўшыся трохі вышэй да гасцініцы, яна разгледзела паміж дамамі даліну — сіняватая смуга стаяла над бясконцымі ляснымі вершалінамі, залітымі вясёлым сонцам. Там, у даліне, калі яна на досвітку ўставала да акна і, ціха варушачы вуснамі, узносіла гімны Ашвінам, ёй здавалася, што словы яе, магчыма, далятаюць да светланосных братоў, якія нясуцца высока над зямлёю ў сваёй калясніцы. Але тут, у каменным чатырохпавярховым будынку з вежамі па краях, над якім узвышаюцца хрысціянскія храмы, — ці змогуць яе словы набраць вышыню?

З гэтымі думкамі яна заплаціла грошы за пакой і за месца Росу ў стайні, дазволіла занесці наверх цяжкую скураную сумку і прысела ля стала ў невялікай акуратнай зале, дзе гарэў ачаг і сквірчэла на пожагу курыца. Праз нейкі час да яе падышла пульхная красуня ў зялёнай сукні, аблямаванай чорнай атласнай стужкай, з высока зачэсанымі валасамі.

— Bier, Wein?* — загаварыла яна, а калі Жывена адмовілася і папрасіла садавіны і салаты, служанка трохі зняважліва адгукнулася «Gut» і хутка падала алавяную талерку з зялёнай салатай і хлеб з белай мукі. Пасля, не звяртаючы на яе ўвагі, пайшла да суседняга стала, дзе, нахіліўшыся над мужчынам у пацёртым аксамітавым каптане, так што грудзі яе амаль краналіся ягонага пляча, стала пра нешта пытацца. Мабыць, ён не стаў адмаўляцца ні ад віна, ні ад піва, таму што красуня неўзабаве прынесла

* Піва, віна? (Ням.)

яму і тое, і другое. Ён наліў піва ў кубак і азірнуўся навокал, але акрамя маладога танклявага юнака не ўбачыў нікога і таму, падняўшы кубак, крыкнуў яму: «На здароўе!» — і хутка выпіў. Наліваючы зноў, ён нешта коратка сказаў служанцы, і тая хуценька паставіла перад Жывенай яшчэ адзін кубак. Незнаёмы мужчына падышоў да Жывены і, не пытаючыся, наліў ёй піва. Круглы малады твар яго быў вясёлы і бесклапотны, як у чалавека, які заўсёды радуецца жыццю і чакае ад яго толькі дабра. Жывена змушаная была ўзняць кубак і хаця б трохі адпіць. Піва было свежае, прыемнае, яно спатоліла смагу, якая стала навальвацца на яе пасля ўсяго гэтага клапотнага, неспакойнага ранку, трывогі за тое, што павінна прыйсці да яе з братам Відэвута. Ці жывы ён увогуле, гэты брат, чыё імя выплыла да яе, як быццам у іншым жыцці, у навагародскім храме Ашвінаў, і паклікала ў дарогу — спачатку супраць волі, затым — неадольна панесла, як нясе веснавая вада падталую льдзіну? Не, да мёртвага яе не панесла б. Хіба каб сказаць нешта тою моваю, якою любяць размаўляць са смяротнымі багі — можа, толькі для таго, каб прымусіць іх думаць? А можа, каб падражніць прывідам магутнасці і ўлады?

Незнаёмец не адыходзіў ад Жывены, як быццам чакаў яшчэ нейкіх слоў, апроч падзякі. А можа, яму проста спадабаўся маўклівы юнак, што сядзеў адзінока ў харчэўні гасцініцы і думаў пра нешта сваё?

— Ніколі не бачыў такіх прыгожых пёраў слонкі, — Жывена паказала на тры калыхлівыя рудыя пёркі, што ўпрыгожвалі капялюш яе нечаканага субяседніка.

— О! Ты, юнгэ, разбіраешся ў пародах птушак? Я больш за ўсё люблю слухаць якраз слонку, а ты?

— Харошая птушка. Яна так упрыгожвае вясновы лес.

— Так, так! Калі сядзіш з лукам у засадзе, каб упаляваць такога прыгажуна, здаецца, увесь лес табе дапамагае! Ух ты!

— Ты, мабыць, выдатны паляўнічы!

— Яно так і ёсць, але адкуль гэта ведаеш ты? Можа, ты ўжо чуў пра паляўнічага Альбрэхта — гэта значыць пра мяне?

— Пра гэта гавораць нават сцены… І твой дарагі калчан, хаця і без стрэлаў.

Альбрэхт не зразумеў іроніі, ён аж засвяціўся.

— Ух ты! Ты харошы і ветлівы юнгэ! Але, я бачу, чужаземец. Адкуль і навошта прыехаў да нас?

— Хачу паслухаць вашага славутага прапаведніка, брата Бяртольда.

Твар паляўнічага затуманіўся.

— Дык ты да гэтага чарнахвостага… Які трасе сутанай перад дурнымі жанчынамі і абяцае ім заўтра ж царства нябеснае. Ён запалохаў ледзь не ўвесь горад.

— Няўжо?

— Жанчыны па ім млеюць, значыць, іхнія сыны пойдуць на казань. А мужы таксама мусяць прыслухоўвацца. Эх, лепей пайшоў бы ты са мной увечары на ўскраек лесу. Сядзеш і бачыш — паляцелі, галубочкі, над дрэвамі, то вышэй, то ніжэй. Але нельга страляць у першую: гэта самка. Лепей у трэцюю — у яе чамусьці найтлусцейшае мяса. І смак… куды гэтым курыцам! — ён зняважліва паказаў на пожаг. — Я часцяком прыношу сюды слонак, таму сюды любяць прыходзіць багатыя гараджане і нават сеньёры.

— І якія ж сеньёры любяць сюды прыходзіць?

— Фон Хэсены — бацька і сын. Нордліген, нават часам сам бургамістр Гунвальд. Ух ты!

— А малады фон Бамберг? Кажуць, ён вельмі набожны, — як бы пусціла наўздагад стралу маладая дзяўчына. Альбрэхт задумаўся.

— Фон Бамберг? Не прыгадваю…

— Танклявы, з пукатым ілбом. Вочы вузкаватыя, шэрыя, попельныя валасы, — Жывена малявала партрэт Відэвута, спадзеючыся, што блізнец-брат падобны да гэтага, ніколі не бачанага ёю. І, мабыць, страла трапіла куды трэба.

— А-а, гэты! — успомніў Альбрэхт. — Іх дом на самай ускраіне. Калісьці быў багаты род, амаль першы ў горадзе. Але старэйшы брат пасварыўся з герцагам, замак разрабавалі. Малодшая галіна роду жыве каля прытоку Нааба. А іхні спадчыннік… уяві сабе, юнгэ, ён не палюе, як іншыя знатныя сеньёры, не шукае шчасця пры двары герцага, нават не спрабуе задзіраць спадніцы харошанькім гараджанкам!

— Чым жа ён займаецца?

— Уяві сабе, юнгэ, ён малюе! Нібы які рамеснік! Думаю, што з-за гэтага ён не знойдзе сабе пару. Якой знатнай даме захочацца шлюбіцца з такім? Ды што пра яго? Давай вып’ем, юнгэ!

Жывена паклікала прыслужніцу, загадала ёй прынесці віна. Напаўнячы кубак, яна толькі падносіла яго да вуснаў, але не дакраналася да рубінавай вадкасці. А Альбрэхт, наадварот, уваходзіў у смак — яго круглы твар наліўся чырванню, ільсніўся, як намазаны маслам. І гаварыў ён бесперапынку.

— Кажуць, грэшнікаў чакае пекла. Калі тое будзе! А зараз… Смачнае мяса, добрае віно, прыгожая жанчына, — ён шчыпануў кабету ў зялёным. — Ух ты! Гэта і ёсць сапраўднае жыццё!

Ад віна ў кубку пахла гарачым поўднем, сонцам, што млява кладзецца адпачыць на схіле гары, сярод разнатраўя, перад тым прагрэўшы зямлю да самых каранёў вялікіх вінаградных лозаў, так што рудыя яе камякі ляжаць на паверхні і не разбіваюцца пад капытамі каня. Яна ўжо ехала па такой дарозе, яна бачыла і іншыя — зарослыя кустоўем, збітыя капытамі кароў, забруканыя — і ўсе яны вялі сюды, у вялікі і багаты горад, дзе ўсё ж знайшоўся Брутэн, брат ейнага Відэвута. Хаця… А раптам гэта простае супадзенне? І ёй стала страшна, захацелася як мага хутчэй убачыць маладога фон Бамберга.

— Я хацеў бы заказаць гэтаму маладому мастаку партрэт брата Бяртольда, — сама здзівіўшыся таму, што знайшла добрую прычыну пазнаёміцца з Брутэнам, прагаварыла яна. — Ці не змог бы ты нейкім чынам прывесці фон Бамберга на казань да манаха?

— Я?! — здзівіўся той. — Але як?

— Ты вясёлы і лёгкі чалавек. І калі ты прынясеш у той дом сваіх качак, ты лёгка дамовішся з маладым гаспадаром. Калі ж ён не захоча слухаць казань, то я сам пайду да яго з такою просьбай. Але мне хацелася б спачатку пaглядзець на яго, можа, і пасябраваць.

— Ты, мабыць, не разумееш, што такое сям'я знатнага сеньёра, нават і збяднелага, і я, просты паляўнічы. Малады гаспадар не захоча мяне слухаць!

— Я думаю, што творца, калі ён сапраўдны носьбіт духу, не будзе тварыць толькі для сябе.

Альбрэхт нахмурыўся.

— Калі ў цябе ёсць грошы аплаціць мне мае клопаты і калі ты зможаш паказаць фон Бамбергу, што ты не просты вандроўнік, які лезе да яго з цікавасці, можа, ён і паверыць табе.

Жывена дастала кашалёк, падала яму сярэбраны талер. Альбрэхт падкінуў яго, прысвіснуў:

— Ух ты! Ты і праўда слаўны хлопец. Што ж, скажу табе адно: праз два дні каля ратушы, вось тут непадалёку, будзе выступаць брат Бяртольд. Спадзяюся, што змагу ўгаварыць сеньёра, бо ты моцна падштурхнуў жорны майго красамоўства. Эх, і наладжу ж я цяпер добры пачастунак сваім сябрам у гэтай харчэўні!

* * *

Раніца выдалася дажджыстая, туман попельнымі клубамі чапляўся за цёмна-шэрыя, пашчэрбленыя часам сцены манастыра святога Якава, пабудаванага, як даведалася Жывена, стагоддзя паўтара назад на грошы кіеўскіх князёў. Цяпер тут, у прыземістай трохпавярховай будыніне пад крутым чарапічным дахам, набажэнствы ішлі па лаціна-рымскім абрадзе, але старажытныя абразы былі падобныя да тых, якія дзяўчына бачыла ў новагародскай царкве падчас адпявання дзеда Агапія, а на ляпніне, што вытанчаным поясам нібыта апаясвала храм, з радасцю пабачыла яна і постаці двух коней, чые галовы глядзелі ў розныя бакі. Такія знакі сустракаліся ў яе на радзіме, як і постаці двух юнакоў — на конях альбо без іх, заўсёды крочылі яны побач. Адкуль, з якіх глыбінь чалавечай цывілізацыі прыйшлі да розных народаў аднолькавыя сімвалы? Мабыць, гэта памяць аб арыях, чые словы адгукаюцца ў сённяшняй мове і славян, і немцаў…

Шэраю рабрынаю выгіналася пад дажджом вуліца, па якой трэба было ісці да ратушы, але варта было Жывене выйсці з-пад каменнай аркі, як дождж нібыта ўпіваўся ў яе плашч, і яна адступала назад. Сэрца яе ныла — не будзе казані, давядзецца самой ісці ў дом да фон Бамбергаў, і гэта можа скончыцца няўдачай альбо чым горшым, бо людзі, якія бралі дзіця, наўрад ці захочуць, каб яно, падросшы, ведала праўду. А можа, яно, ці, дакладней, ён, малады іх выхаванец, што-кольвечы і ведае аб сваім з'яўленні ў гэтым доме, але ведае тое, што захацелі расказаць яны, ягоныя прыёмныя бацькі.

У тую самую хвіліну, калі яна вырашыла, што слата будзе працягвацца ўвесь дзень, магутна, радасна і трошкі нібы збянтэжана з-за аблокаў зірнула сонца і, хаця кроплі яшчэ сачыліся з прадзіраўленага рэшата нябёсаў, заззялі, заіскрыліся ручаіны, што беглі па вуліцы ўздоўж, закурылася парай брукаванка і ясна глянула з пашчэрбленай сцяны шыльда цырульніка з намаляванымі на ёй рудым тазам і нажніцамі.

Калі Жывена дайшла да ратушы, там ужо сабралася купка людзей, якая хутка павялічвалася. Драўляны памост з лесвіцай, збіты з акуратна пагабляваных дошак, стаяў непадалёк, чалавек з харугвай, на якой быў намаляваны хрысціянскі бог, вымяраў, з якога боку дзьме вецер, каб усе, хто сабраўся, маглі пачуць прапаведніка. Пераважная большасць у натоўпе былі жанчыны, яны расказвалі пра цуды, якія суправаджалі брата Бяртольда: чалавек, які пасмяяўся з ягонай апошняй казані, быў забіты

маланкай на ўласным ганку. А перад тым манах напрарочыў распусніцы, што прыйшла да яго пакаяцца, месца ў царстве нябесным і тым моцна збянтэжыў набожны люд. Але праз тыдзень тая распусніца загінула, ратуючы дзіця, што танула ў Данаў і, мабыць, сапраўды-такі пайшла адразу да прастола Божага…

Тым часам худы, як выпетраны постам і маленнямі, чалавек ускараскаўся на памост, адкашляўся, загаварыў, час ад часу абтрасаючы доўгімі тонкімі пальцамі касматыя, падобныя да грывы валасы, што падалі на лоб. Спачатку ціхія, словы яго паступова наліваліся сілай, яны падалі ў натоўп, як іскры з вогнішча, якое ўсё набірала і набірала моц. Хутка на плошчы запанавала такая цішыня, што было чутна, як гучна пераклікаецца каля гарадской брамы варта і як вуркочуць галубы на карнізах вузкіх брукаванак з белымі выцягнутымі чатырохкутнікамі вокнаў.

Хтосьці асцярожна дакрануўся да яе пляча. Альбрэхт, пазмоўніцку падміргнуўшы, паказаў вачыма ўбок. Жывена зірнула — і сэрца як штурханула гарачая хваля: на кані, непадалёку ад яе, сядзеў Відэвут. На ім быў ярка-пунсовы каптан з вышытым каўняром, чатырохкутная аксамітавая шапка, з-пад якой віліся крутыя локаны — мабыць, валасы былі падвітыя па тутэйшай модзе, і, прыгледзеўшыся, дзяўчына заўважыла на шчацэ тонкі белы шнар. Каб не гэта, яго сапраўды можна было б прыняць за жраца з храма Ашвінаў. Але гэта быў ягоны брат, названы ў гонар прускага бога Брутэна, неад'емнага ад ягонага брата Відэвута, свяцілішчы якіх і цяпер яшчэ скрозь стаялі ў краіне прусаў — прынамсі, у той частцы краіны, якая яшчэ не была заваяваная тэўтонамі.

Нейкая сіла пацягнула да гэтага чалавека, і, выклікаючы незадаволеныя погляды слухачоў, яна ціха, але ўпарта рухалася да гэтага двайніка яе абранніка. А ён слухаў з нерухомым тварам, на якім толькі іранічна крывіліся вусны — танчэйшыя, як у Відэвута, які ўсміхаўся шырокай дабрадушнай усмешкай амаль заўсёды, калі не служыў у храме.

Пры апошніх словах брата Бяртольда Жывена, стоячы ля каня Брутэна, ціха прашаптала словы, якія калісьці гаварыла ў Навагародку, калі побач стаялі крыжакі:

— Ты ўмееш ляцець, а я ведаю, куды. Ты — ад ветру, а я ад зямлі, і мы можам зразумець адно аднаго…

Конь, які спачатку злосна касавурыўся на юнака, што прабраўся амаль пад ягоную пысу, раптам пацягнуўся да яго і, прыхіліўшы галаў, пацёрся аб плячо. Уражаны Брутэн утаропіўся ў

незнаёмца; калі ж Бяртольд скончыў сваю казань, нахіліўся да Жывены і прагаварыў:

— Ты не надта ўважліва слухаў манаха, незнаёмец. А між тым гэта, відаць, ты хацеў заказаць мне ягоны партрэт?

Ён яўна браў пяршынства ў размове; Жывене даводзілася адказваць. Яна кіўнула галавой, згаджаючыся.

— Адкуль ты пачуў пра мяне і хто ты такі?

Дзяўчына памарудзіла з адказам. Трэба было альбо сплятаць праўдападобны аповед альбо, спадзеючыся на бостваў, якія прывялі сюды, казаць праўду. І яна, гледзячы проста ў вочы хлопцу, вымавіла выразна:

— Я пачула пра цябе далёка-далёка адсюль, у славянскай зямлі.

— Пачула? Дык ты — дзяўчына? Скажы…

Але Жывена працягвала:

— Твая маці пыталася ў багоў, ці ты жывы, Брутэн, і яны адказалі ёй, што цябе не спалілі тэўтоны, як яна думала раней.

Твар чалавека, што сядзеў на кані, імгненна змяніўся — кроў адхлынула ад твару, як запалі вачніцы, а ў голасе пачулася скрыгатанне каменных жорнаў:

— Маё імя — Сігурд фон Бамберг.

— Але раней, калі ты нарадзіўся, маці назвала цябе Брутэнам.

— І дзе я нарадзіўся?

— У зямлі прусаў, пад Ромавам.

— Але ты кажаш, што мая маці на славянскай зямлі?

— І твой брат Відэвут. Яны беглі да нас, славян, каб застацца жывымі, і мы прытулілі іх, таму што няшчасце можа чакаць любога.

— Але чаму прыехала ты, жанчына? Хто ты?

— Багі вучаць нас — калі патрэбна падаць вестку, то з ёю прыпаўзе і мураш. Захочаш выслухаць мяне, я раскажу ўсё, што магу.

— А калі не захачу?

— Што ж… Мураш, падаўшы вестку, пойдзе сваім шляхам.

— Я — Сігурд фон Бамберг! — сказаў юнак з выклікам. — Мая сям’я можа навекі схаваць цябе ў цямніцы горада за вар’яцкія чуткі, якія ты распускаеш пра нас.

— Тады ўсе даведаюцца пра гэтыя чуткі. А ты… ты ніколі не дазнаешся пра тую незвычайную казку, якую спляло для цябе жыццё.

Жывена павярнулася і пайшла, не прыспешваючы свой пругкі крок. І сапраўды — ён дагнаў дзяўчыну.

— Дзе ты спынілася?

Яна паказала на гасцініцу.

— Ты прыехала адна?

— Калі ты хочаш паслухаць тое, з чым я прыехала, прыходзь. Астатняе цябе не тычыць.

— Значыць, адна… Ну што ж, я буду тут заўтра.

Яны развіталіся. Але, калі Жывена падыходзіла да гасцініцы, Сігурд-Брутэн зноў дагнаў яе.

— Я хацеў спачатку дапытацца ў маці, ці праўда, што я нядодны ёй… Але нешта гаворыць мне, што ты не лжэш. Тады раскажы ўсё зараз. Тут.

Выслухаўшы аповед Жывены, ён доўга маўчаў, абшчаперыўшы галаву рукамі, і праз попельныя кудзеры яна ўбачыла светлыя слязіны, што павольна пакаціліся па твары.

— Мне трэба ненавідзець усё, што люблю, — вымавіў хлопец з горыччу, ад якой у яго зводзіла рот.

— Вораг хацеў зрабіць цябе свінапасам, але тыя, хто ўзяў цябе, назвалі сваім сынам. За што ж іх ненавідзець?

— Лепей бы я нічога не ведаў. Ты не павінна была прыязджаць! — Сігурд-Брутэн усё каўтаў сліну, нібы і сапраўды яго апаілі палыннай вадой.

Гнеў успыхнуў у ёй зноў, і яна не змагла авалодаць ім:

— Ты адракаешся ад маці, што і праз гады не хоча забыцца на сваё дзіця? Ад брата, да якога падобны, як падобнае на нас адлюстраванне ў вадзе! А што ты скажаш свайму сумленню, калі яно пераверне тваю душу? Сваім дзецям, якія, магчыма, пойдуць на зямлю прусаў, каб заваяваць яе і дашчэнту знішчыць магілы ўласных прашчураў?!

— Мне трэба падумаць… — прамармытаў ён, паднімаючыся, выходзячы з яе пакоя, як ахмелены.

Уначы яна зноў стаяла на каленях тварам да ўсходу, узіраючыся ў тонкі сярпок маладзіка і пытаючыся ў Ашвінаў знаку. Прыхаматлівыя абрысы ратушы, храмаў Пятра і Блазіуса праглядваліся з акна ейнага пакоя як выразаныя на жаўтавата-цёмным агаце неба з падсветленымі срэбрам аблокамі, і яна чакала часу, калі над зямлёю ўстаюць багі-блізняты ў гронцы свайго цёплага сузор'я. Яны павінны былі прыйсці там, дзе стромкаю ялінай уздымалася ўвысь хрысціянская храміна прарока Пятра, і таму Жывена баялася, што не ўбачыць зоркі. Але ў той час, калі цемра згушчаецца да такой асязальнасці, што яе, здаецца, можна праткнуць пальцам, аблокі, нібы іх рассунулі магутнай

рукою, разышліся, і пераможна заззялі над сонным горадам дзве яркія калмата-рудыя, амаль чырвоныя вястункі хуткага рання. Яна зашаптала словы доўгага радаснага гімна, і адразу ўсплылі ў памяці затканыя павуціннем ялінкі, на якіх пераліваюцца кроплі расы, свежы холад каменных прыступак храма, чабаровы пах курыльніцы ля драўлянай постаці Перуна. О, любая, родная зямля Новагародчыны, зялёна-сіняя смуга над узгоркамі, што пераклікаюцца галасамі маладых русалак! А ў позняй восені раптам мільгане між ссірацелых галін белая барада Белбога, як напамінак пра Зюзю, што спяшаецца паваладарыць напоўніцу над самотнымі прасторамі! Добра ляцець у такі час па лесе, спяшаючыся ў далёкае селішча, бо ніхто не перастрэне і не забароніць, галёкаючы, клікаць душы пракаветных дубоў абараніць цябе ад цёмных сілаў зла! Тады кіпіць кроў, і адчуванне маладосці, радасці жыцця кружыць галаву надзеяй, што так будзе заўсёды… Стары Святазар, хаця і сварыўся на яе, усё ж не забараняў ездзіць адной — мабыць, адчуваў, што маладая сіла павінна час ад часу выплеснуцца, як буйная забрадзелая сома, што пеніцца ў свяшчэнных кубках падчас абрадаў.

…Звычныя словы грэлі ціхай цеплынёй, але нешта не давала спакою, мучыла. Дзяўчына шукала адказу, у глыбіні душы ведала яго і не хацела здагадвацца. Але пад раніцу, калі сон змарыў цела, усплыў твар Сігурда-Брутэна, і адразу ўся яе істота як ірванулася да яго. Так ніколі не цягнула да Відэвута; нібы замест медуніцы ўдыхнула яна дурнап’ян, ад якога і хацелася выбавіцца, і нястрымна праглася яшчэ.

Мабыць, нешта новае ў ёй адчуў Сігурд-Брутэн, калі прыехаў назаўтра; па ягоных вачах здагадалася, што і яго штурханула ў сэрца пругкая хваля любасці. Распытваючы пра брата і маці, раптам сказаў:

— Хочацца, каб ты надзела белы строй і залаты парчовы каптур, такі самы, якія ў цябе валасы.

І адразу ж абое спалымнелі, замоўклі. Размову аднаўлялі з цяжкасцю, шукаючы словы. А ёй стала здавацца, што стаіць на беразе ракі, дзе плывуць цяжкія, як кавалкі сала, ільдзіны, і варта ступіць крок, як завіхурыць, панясе чорная вірлівая вада. А можа, ужо нясе?

Яна заспяшалася ад’язджаць. Забаялася. Нечакана стала не хапаць шапаткога старэчага голасу Святазара, ягоных парад і пачуцця ўпэўненасці, што Ашвіны не пакінуць у бядзе. Узмацнялася нядобрае прадчуванне, а на яго накладвалася слодыч

сустрэч з Сігурдам-Брутэнам, калі ўдваіх ціха ехалі яны па ласкавай даліне ўздоўж Данау, гутарылі аб усім, што здавалася важным, і гэтым важным было ўсё навокал…

На развітанне ён падаў дзяўчыне скрутак шурпатага палатна. Яна разгарнула — і адступіла назад. Подых багоў быў у карціне.

Сігурд-Брутэн намаляваў яе ў белай сукні і залатым капялюшыку, але, нібыта бачыў раней, зрабіў валасы доўгімі, так што яны закрывалі плечы і падалі хвалістымі пасмамі вакол твару. Зялёны дуб быў ззаду, з-пад ягоных каранёў цякла крыніца, і два юнакі ў чырвоных каптанах паілі з яе коней.

— Хачу, каб ты помніла мяне, — паказваючы на аднаго з братоў-блізнят, прамовіў хлопец. — Я зрабіў іх падобнымі да нас, мяне і Відэвута.

Жывена не стала пытацца, што ён рашыў. Усё астатняе зробяць багі, якія прывялі яе сюды. Яна толькі на імгненне заплюшчыла вочы, калі ён, зусім як Відэвут, схіліўся перад ёю і ткнуўся тварам у далоні жрыцы, пакрываючы іх пацалункамі…

Дарога была доўгай і цяжкай. Наступала восень, дні рабіліся халаднейшымі, парудзелае лісце ляцела ў вочы на адзінокіх шляхах да Чэхіі, куды яе суправаджалі двое слуг з дому фон Бамбергаў. Цёмнай сінечай напаўняліся рэкі, непрыветныя берагі сталі слізкімі і небяспечнымі.

У Празе ёй пашанцавала. На пастаялым двары начавалі купцы, што ехалі з таварамі ў Бярэсце. Да іх далучылася маладая пара з гандлёва-рамесніцкага паселішча каля Вышаграда — зусім юная Гайна і Душан, якія ехалі замяніць бацьку Душана, што каля двух гадоў ужо гандляваў у горадзе на Бузе, зарабляючы на вялікі дом у Вышаградзе, які стаяў у рыштаваннях і які глытаў, нібы цмок, усе іхнія зберажэнні. Гайна чакала дзіця, але яна не засталася ў доме, а наважылася на далёкую дарогу таму, што не жадала ні дня жыць без Душана, вакол якога абвілася, як тонкі павой вакол моцнага дзядоўніка. Вясёлы і лёгкі на нагу юнак зараўнаваў быў сваю маладую жонку, якая на прывалах не адыходзіла ад Жывены і яе Роса, шэпчучы той свае няхітрыя сакрэты, тым болей што старэйшыя купцы сталі яго паджыгваць. Ды маладая жанчына адкрыла мужу сакрэт сваёй равесніцы, апранутай у мужчынскае адзенне, і Душан стаў клапаціцца пра абедзвюх. Жывена таксама ўсёй душой пацягнулася да танюткай сінявокай жанчыны, чыя галоўка, што выглядала з вазка, нагадвала ружовы павой і якую цяжарнасць упрыгожвала,

надаючы кругламу тварыку таямнічую задуменнасць. Наіўная і непасрэдная Гайна пры першым жа поглядзе ўгадала дзяўчыну ў заклапочаным юнаку з кароткімі залатымі валасамі, што рассядлаў на пастаялым двары белага каня, і сказала аб гэтым з такім мілым і шчырым здзіўленнем, што Жывена не стала таіцца, але папрасіла не казаць пра тое нікому. Затое і жрыца, калі на другім прывале ўкалыханая дарогай юная жанчына страціла прытомнасць, хутка расцёрла той скроні нейкай пахкай травой і стала апекавацца ёю.

Яны ўтраіх былі самымі малодшымі ў тым атрадзе, які пад аховай ехаў у Галіцкую Русь. Жывена меркавала дабірацца з ім да Бярэсця, каб пасля кіравацца на Навагародак, ды вагалася: ці не варта ўсё ж заязджаць у Холм і Галіч? Купцы казалі пра вайну галічан супраць навагародцаў, але Войшалк мог у любую хвіліну заключыць мірную дамову з Данілам Галіцкім — колькі ўжо разоў то ваявалі, то мірыліся паміж сабою Галіцка-Валынскае і Навагародскае княствы. Апошняе ўсё часцей спрабавала вырвацца з некалі магутных абдымкаў суседа, якога з кожным годам усё мацней падточвалі татары, гэтыя страшныя барбарынцы, сярод якіх, мабыць, цяпер пасяліўся наймагутнейшы на зямлі бог Разрушальнасці і Вайны, якога розныя народы завуць то Рарогам, то Вогненным Змеем, то Шываю. Гэты бог не жыве ў адным народзе, але ходзіць па зямлі, і гора той краіне, якая паддалася злому чараванню і дазволіла свайму духу-аберагальніку (бо, як вядома, у кожнага народа ёсць свой аберагальнік) прыняць заваёўніка! Нават калі той народ заўладарыць паўсветам, усё роўна давядзецца плаціць крывавую даніну Рарогу — будучымі сваімі нашчадкамі, выпаленаю зямлёю… Пралітая некалі кроў паліць грудзі Маці Сырой Зямлі, плача яна па дзецях сваіх і з-за іх…

Так думала Жывена, калі гадзіна за гадзінаю мерна калыхалася ў сядле, не рызыкуючы адыходзіць ад атрада, які, абараняючы свае нагружаныя таварамі вазы, ехаў вольна і асцярожна. Аднак сцярожкі позірк жрыцы раз за разам заўважаў знакі, што звычайна, у вялікай сваёй літасці, пасылаюць смяротным багі, і знакі тыя былі нядобрымі: злавесны клёкатругана на далёкім кургане; чорны галыш на дне ражачкі, якую выцягнулі са студні дзеля Гайны і які яна са смехам дастала і паказала ўсім; слізкі зялёны валун, аб які спатыкнуўся і закульгаў конь Душана і адкуль маланкай слізганула ў кустоўе цёмна-жоўтая гадзюка…

Неяк раніцай, калі ўжо сядлалі коней, Гайна са страхам прашаптала Жывене:

— Бачыла ў сне судзяніц* — са свечкамі, у белым. Усе тры глядзяць на мяне моўчкі, а малодшая раптам галавой адмоўна паківала, хаця я ні аб чым і не пыталася…

— Сёння сны лгуць, — схітрыла жрыца. — Да таго ж судзяніцы свой прысуд на лбе пішуць, і перад чым благім твар цямнее і завастраецца. А ў цябе вунь які — як кветачка.

— Дык ты і праўду не бачыш на мне якога нядобрага белегу**? — зарадавалася Гайна.

— Думай пра дзіця! — абарвала яе Жывена і ласкава дадала колькі суцяшальных словаў, бо будучым парадзіхам гавораць толькі добрае, каб не палохалася цяжару гэтага свету дзіця і не заседжвалася ў чэраве. Да таго ж заставалася два дні шляху да Бярэсця, і Жывена спадзявалася, што да горада дабяруцца яны без злыбеды.

Аднак жа таго, што напісана на лёсе чалавека судзяніцамі, адмяніць не ў сілах ніхто і нішто. Ясна чытала Жывена на твары маладой жанчыны змрочныя палосы-пісьмёны, не бачныя іншым. Аднойчы, загаварыўшы ваду, глядзелася ў яе і сама, аднак не ўбачыла цёмнага кола над галавой; белы ж скрутак на грудзях разгадаць не магла. Хвароба — не хвароба? Страта? Набытак?

І, плывучы ў пругкім струмені жыцця, наляцелі яны на той чорны дзень, аб якім сведчылі злавесныя білінчы***, пра якія маўчала жрыца.

У цьмяны перадсвітальны час завыла, загалёкала навокал пастаялага двара, нібыта ўсе нячысцікі свету сабраліся разам. Жывена адсунула дошку аканіцы, угледзелася скрозь слюдзяную бель: ніколі не бачаныя постаці ў вастраверхіх шапках, на нізкіх, таксама нянаскіх коніках ламалі дзверы, падпальвалі саламяную страху ў некалькіх месцах і секлі тых, хто пачаў скакаць праз вокны, ці то ратавацца, ці то ўцякаць прэч.

— Бесерменіцы! Татары! — пачуліся крыкі, і тут жа затупалі па сенцах, высадзіўшы дзверы, страшныя прышэльцы, і адчайным, страшэнным хрыпам задыхаўся першы з воінаў-ахоўнікаў, што паспеў з мячом выскачыць насустрач. Жывена, вылятаючы з дзвярэй пакоя, адразу ж кінулася назад — у калідоры закіпела сеча, паўголыя, хто ў нагавіцах, хто ў адной кашулі купцы і ахоўнікі адчайна супраціўляліся прышлым. Яе ж кінжал застаўся ў пераметнай сумцы, у стайні. Значыць, вось так прыходзіць

* Паркі, багіні лёсу.

** Мецiны.

*** Знакі.

Смерць, насылаючы сечу і жах? Але ў вачах адразу ж паўсталі невялікія дзверцы ў вінны склеп, што месціліся непадалёк, у самым куце калідора, з якога можна было патрапіць на кухню. Туды вадзіў яе слуга, які расказаў пра камень, што плача перад бядой. Госці, захмялелыя ад віна, учора паднялі слугу на смех, а яна пайшла, бо было цікава.

Яна зноў выглянула ў калідор. У тускла-барвовым святле пажарышча было бачна, што сілы абаронцаў слабеюць, аднак жа можна яшчэ было неўпрыкмет выскачыць з пакоя, джыгнуць у кут і, намацаўшы запыленыя дзверцы, слізгануць у чорнае чэрава склепа. І якраз тады, калі яна зашывалася ў кут з рыззём, якім, мабыць, час ад часу працiралі вялізныя бочкі, пачуўся сярод лязгатання мячоў і кінжалаў такі пранізліва-моцны, адчайны і нечалавечы крык, ад якога, мабыць, і падаюць часам сцены крэпасцяў. Але гэтым разам то быў крык Гайны, ён паўтарыўся другі раз, а пасля, не паспеўшы набраць вышыню, апаў і больш не ўздымаўся.

Нехта ўбег у склеп, сапучы, падвываючы ад жаху. Мабыць, гэта быў учарашні слуга, ён палез некуды пад бочку. А праз доўгія пякучыя імгненні ў дзвярах пачулася тузаніна, і гартаннымі крыкамі зласлівасці адказалі татары на ўмольнае віскатанне гаспадара, які маліў захаваць жыццё. Праткнуты кінжаламі, ён паміраў перад бочкамі, якія, мабыць, здаваліся яшчэ так нядаўна апірышчам і аховай ад бядотнай старасці. Татары знайшлі слугу і разбілі ягоную галаву аб той самы камень, які ён учора паказваў з такім захапленнем. Жывену ж, мабыць, ахоўвалі Ашвіны, бо дзіда, якою адзін з нападальнікаў паварушыў рыззё, ткнулася побач з плячом дзяўчыны. Аднак факелы ледзь гарэлі ў задушлівым склепе, і татары, рагочучы, павыбівалі затычкі; назіраючы каля дзвярэй, як віруе пітво, так любае іх ворагам, зняважліва рагаталі яшчэ. Потым заспяшаліся прэч — вогнішча разгаралася, даўкі дым слаўся над паверхняй пахкага п’янкога пойла, у якім плавалі абодва трупы і праз які ледзь прабілася да выхаду Жывена, натужна кашляючы і заплюшчваючы вочы, якія раз’ядала дымам.

На кухні бушавала полымя, давялося паўзці па калідоры, дзе валяліся рэчы, не забраныя рабаўнікамі — старая бялізна, патрапаныя калчаны. Усё ж каштоўнае было забранае, нават трупы воінаў і купцоў валяліся абдзёртыя да галізны. Прапаўзаючы каля апошніх дзвярэй, Жывена прыўзнялася: слаба, жаласна падало голас дзіця. Так, гэта было немаўля, яно ляжала ў крыві, што нацякла з Гайны, на чыіх пасечаных грудзях ляжаў Душан,

таксама мёртвы. Яна схапіла чырвоны, амаль нежывы камячок разам з паследам, не паспеўшы зірнуць на мёртвы твар маці — трашчалі бэлькі, муцілася ў галаве. Толькі адпоўзшы ад ганка як мага далей, каб не прыдушыла абсмаленымі бярвёнамі, павяла вокам і застагнала: да яе ляцеў коннік, круцячы над галавой вераўчаную пятлю і галёкаючы. Перад тым, як аркан абхапіў яе плечы і павалок па камкаватай акрываўленай зямлі да кучы палоннікаў, яна паспела схапіць дзіця; раздзіраючы спіну аб каменне і з апошніх сіл прыціскаючы яго да грудзей, яна ўспомніла белы скрутак у вадзяным адбітку, а пасля, шпурнутая разам з ім да перапалоханых людзей, ужо не памятала нічога…

Так амаль на парозе радзімы яна была адкінутая ад яго татарскай навалай, якая ў 1258 годзе пранеслася па паўночнай частцы Берасцейскай і Новагародскай земляў, пакідаючы пасля сябе сівы попел і чорныя галавешкі замест хатаў і здзічэлых свойскіх жывёл, што замерзлымі гурбамі ляжалі ўздоўж дарог, па якіх гналі палоннікаў на ўсход.

Гаспадаром Жывены стаў мангол Кагедэй, воін з карычневым, ссохлым на зімовы яблык тварам і ўрослай у плечы галавой. З неспасціжнай быстрынёй запальваў ён на зімняку вогнішча, рабіў на прывале юрту, дзе месціўся разам з жонкай забітага брата — суровай кабетай з задубелым цёмна-жоўтым тварам; ускокваў на свайго коніка, як толькі гучаў у далечыні покліч у дарогу. Кабета ж, якую, што высветлілася пазней, звалі Аваргай, пякла ў гарачай глінянай пасудзіне, пакладзенай у вуголле, плоскія ляпёшкі, якімі гаспадары кармілі дзесяць сваіх палоннікаў. Гэта былі, апроч Жывены, людзі з вакольных селішчаў — ганчары, цесляры, кавалі. Іх спадзяваліся дарага прадаць на безэстэнах — базарах у краінах мусульманскага Усходу. Сярод палоннікаў была яшчэ жанчына, чыё дзіця забілі ў час нападу, і яна з радасцю падстаўляла свае грудзі маленькаму Святазару — так назвала ўратаванае дзіця маладая жрыца. Карміліца ж Рада болей гаравала з-за палону, чым з-за смерці дзіцяці.

— Сёлета была бясхлебіца, наўрад ці выжыла б яно, — гаварыла яна, тыцкаючы тугі карычневы сасок у роцік Святазара, стараючыся лісліва ўсміхнуцца Кагедэю, калі ён праходзіў міма. — Сталі мы, як якія бескаленнікі*, бясплатныя — без аніякай адзежыны, плату, значыць. Муж мой, нашто быў біўлівы — ой, любіў біцца! — сціх і зблажэў. А прыехаў бірыч княжы — той, хто ўказы абʼяўляе, — і загадаў звычайную даніну

* Тыя, хто не мае надзелу.

князю аддаваць. Тут во хаця гэтую ляпёшку дадуць, мукой пахне… Я баба вясёлая, нідзе не прападу. Во гэты, — міргала яна на мангола, — ужо даўно мяне б у сваю гэтую… юрту паклікаў бы, дык тая кікімара ўсё выглядае…

Аварга, у каптане і мужчынскіх штанах, жылістая і моцная, як корч, сапраўды стала часта ацірацца каля абедзвюх палонніц. Але Жывена прыкмеціла, што раскосыя вочы жанчыны нібы мякчэлі, калі глядзела яна на дзіця. Спачатку яна хацела прымусіць Жывену, як і Раду, рабіць чорную работу, але Кагедэй прыкрыкнуў на яе, паказаўшы на рукі жрыцы, і загадаў памацаць іх.

— Хочуць цябе, мабыць, якому багатаму прадаць, — здагадалася Рада. — Берагуць… У іх, я чула, мужчыны маюць столькі жонак, колькі пракормяць. А ты ж прыгажуня, пойдзеш, як залатая грыўна!

Аднойчы на дасвецці, калі воз з палоннымі борзда калываўся на выбоінах, а яны спалі, накрытыя рыззём, пазвоньваючы ў сне ланцугамі, Жывена, прытуліўшы да сябе малое і гледзячы на Мілавіцу, што нізка гарэла над непрыветнай, скарчанелай зямлёю, зашаптала словы вітання Зары-Зараніцы. Даўно не звярталася яна да багоў, змучаная палонам і яго нягодамі, даўно не спявала гімнаў, можа, недзе ў глыбіні душы крыўдуючы на тое, што пакінулі яе светлыя Ашвіны. Забыўшыся, яна спачатку не заўважыла рысіных вачэй Аваргі, што засталася ззаду, а цяпер непрыкметна пад’ехала да воза.

— Цалмон? — паказваючы рукой на Мілавіцу, запыталася яна. — Ёй спяваеш?

Дзяўчына змушана кіўнула, зразумеўшы, што сказала манголка. Тая адабральна цокнула, па твары яе слізганула ўсмешка. Вечарам, калі клаліся на начлег, яна паказала на Кол-зорку:

— Алтан-гадас!

Рукой як бы ўбіла ў зямлю кол, пасля паказала на коней, нібы прывязваючы іх да яго. Затым зноў — на Вялікую Мядзведзіцу.

— Гэта ж яна сем зорак назвала. У нас жа таксама Кол-зорка! — узбуджана загаварыла Рада, а пасля недаўменна запыталася: — Дык што, яны такіх жа багоў маюць? Як людзі?

— Усе людзі, — азвалася Жывена. — І неба на ўсіх адно, і зоркі на ім тыя ж.

— А прыгожае якое неба, — задуменна прамовіла жанчына. — Цёмнае, як аксаміт, а зоркі на ім, нібы бісер нанізаны, бачыла я на адной падарожніцы багатую такую сукню. Табе, можа, і давядзецца такую апрануць. Ты ж з багатых, я бачу. Рукі далікатненькія… Нічога, мабыць, не ўмееш рабіць…

Абедзве яны не пераставалі дзівіцца строгай размеркаванасці качавога жыцця стэпавікоў-воінаў. Агромністы караван, які вёз назад у стэпы нарабаваную вялізную здабычу, падпарадкоўваўся адной, магутнай сіле, якая за некалькі хвілін магла прымусіць увесь лагер падняцца на ногі, амаль адначасна асядлаць коней і, запхнуўшы ў вазы палонных, ехаць наперад, на радзіму. Самі заваёўнікі былі, здавалася, зроблены з дрэва альбо жалеза — не баючыся холаду, скакалі яны на сваіх калматых коніках, якія капытамі рылі снег, шукаючы там былінкі; елі вяленую каніну, рэжучы яе палоскамі. Маліліся багам-ангонам з футра і лямцу, а таксама Сонцу і Месяцу. Калі ў час паходу ўсё ж памёр знатны сотнік, як казалі, пасечаны ў бітве, манголы спыніліся ў даліне і, паставіўшы чорную юрту, а над ёю павесіўшы чорную харугву, трое сутак чакалі, пакуль шаманы дапамогуць душы памерлага пазбегнуць сустрэчы з жахлівымі боствамі цара падземнага свету Эрлік-хана. Калі адзін з палонных, што нёс суччa для кастрышча, прайшоў заблізка ля юрты памерлага, яго тут жа ссеклі бізунамі да смерці, і ён адправіўся ўслед за сотнікам, каб дапамагаць яму як раб.

Калі войска падышло да Дняпра, сустрэчныя купцы прынеслі нядобрую вестку: палонных яшчэ летась было захоплена столькі, што цана на рабоў рэзка ўпала, а цяпер, мабыць, упадзе яшчэ болей. Спачатку Кагедэй не верыў той вестцы, пасля ж задумаўся. Цяпер палонныя са страхам чакалі стаянак — некаторыя іхнія ўладары, не спадзеючыся атрымаць грошы, сталі прыносіць ахвяры багам, думаючы хаця б заручыцца іхняй літасцю. Назаўтра, пасля таго, як па лёдзе перайшлі Днепр, пад вечар, калі на зеленавата-ружовым небе ўзышлі першыя зоркі, а Рада слала салому перад вогнішчам, каб лацвей усесціся на яе, запяяла страла з рук Кагедэя, і жанчына, коратка крыкнуўшы, упала на салому мёртвай.

— Гэта — Хухедэй-Мяргену, — паказваючы на сузор'е Паляўнічага*, коратка прамовіла Аварга, убачыўшы, як ледзь не выпусціўшы ў вогнішча дзіцяа, скаланулася Жывена. А Кагедэй задаволена агледзеў сваю ахвяру і з гонарам паказаў сваячцы, як метка ён стрэліў — у самую сярэдзіну горла. Астатнія палонныя з жахам глядзелі на мёртвую, не думаючы выконваць загад мангола — падцягнуць Раду на вогнішча, каб яно спаліла яе і іскрамі прынесла вестку Нябеснаму стралку, валадару грамовых стрэлаў, аб павазе да яго слаўнага воіна Кагедэя. Гэта зрабіла

* Сузор'е Арыёна.

за іх Жывена, прашаптаўшы малітву багіні Мары, каб была яна літасцівай да вясёлай кабеты, што так нечакана скончыла сваю зямную дарогу ў голым стэпе, у дні шляху ад разбуранага Кіева, які і цяпер, праз васямнаццаць гадоў, не адбудаваўся. Так казалі сустрэчныя купцы, якія ўзялі ў Кагедэя трох палоннікаў і прапаноўвалі аддаць ім Жывену. Тады ён не згадзіўся. Але калі назаўтра ў першым селішчы каганата, дзе чакалі караван кітайскія і арабскія купцы, высветлілася, што цэны і сапраўды не тыя, якія чакаліся, Кагедэй спахмурнеў зусім. Калі ж адзін з купцоў сказаў, што ў Тане, дзе заўсёды збіраліся велізарныя натоўпы рабоў, наўрад ці можна будзе ўвогуле прадаць прыгожых жанчын, таму што манголы, слава ім, ужо ўзялі Багдад і забілі халіфа, воін і ўзрадаваўся перамозе, і зніякавеў. А купцы расказвалі, што турэцкі султан змушаны быў з сям'ёю, гарэмам, казною ўцякаць у Нікею, да Міхаіла Палеалога, з якім у яго быў ужо заключаны мір і дамовы аб дапамозе адзін аднаму. Выходзіла сапраўды, што ў халіфаце, які, як ненасытны звер, глытаў усе нявольніцкія партыі жанчын і патрабаваў яшчэ, цяпер не да папаўнення гарэмаў. Ды і туркі, якія ўцякалі ў Нікейскую імперыю і папаўнялі яе памежныя гарнізоны, вымушаны лічыцца з тым, што хрысціянская Візантыя не пацерпіць мнагажэнства.

— Няўжо і такую не возьмуць? — ледзь не з адчаем запытаўся Кагедэй, паказваючы на Жывену, але купцы, што аглядалі жывы тавар, толькі развялі рукамі. Аднак жа адзін з іх, крывы на правае вока грэк, зацікавіўся дзяўчынай і перадаў талмачу, што якраз збірае ў Царгорад караван з таварамі. Караван той павінен адплыць у месяцы бярозазоле, калі пачнецца на Дняпры крыгалом і ў Віцічаве збяруцца з усіх гарадоў, што гандлююць з Візантыяй, лодкі і лодзіі.

— Аднак жа каля самага страшнага парога, Неясыця, мы выгружаем тавары і вядзём нявольнікаў па беразе. Ці адолее яна такі шлях? — запытальна-бесцырымонна аглядаючы Жывену, мітусіўся грэк. — Яна будзе трымацца за сваё дзіця да апошняга, а калі што, дык ссохне ад тугі — я ўжо не раз меў непрыемнасці ад гэтых славянак!

— Бо славяне не гандлююць жывымі людзьмі, як вы, хрысціянскі народ, — ускіпела, не помнячы сябе, Жывена.

— Яна разумее нашу мову? — здзівіўся купец, але не паспеў больш нічога сказаць: цяжкі бізун, сплецены з конскага воласа, абрушыўся на жрыцу, яна сагнулася, заплюшчыўшы ад болю вочы, але не ўскрыкнула. Кагедэй сплюнуў, прамармытаў са знявагай:

— Мужчыны гавораць — маўчаць трэба. Іначай — калабалык*.

— Што ж, сапраўды, гаспадара слухаць трэба. Феляксай се аўтон**! Аднак жа наравістыя рабыні каштуюць меней…

— Затое яна ведае вашу мову, — не ўступаў Кагедэй.

— І не дзяўчына яна — дзіця мае…

— Кабыла з прыплодам лепей, чым без яго, — не здаваўся Кагедэй.

Яны спрачаліся, адыходзілі адзін ад аднаго, зноў сыходзіліся. Пасля татарын загадаў рабыні ўзяць дзіця і ісці за новым гаспадаром. Аварга скоса паглядзела, як, кусаючы вусны, утаймоўвала Жывена пякучую нянавісць і жаданне выхапіць у ворага кінжал, усадзіць у ягонае сэрца, а там — хай будзе што будзе. Татарка падышла і, паказаўшы пальцам на Святазара, з дакорам паківала галавой. Тады нянавісць адхлынула ад душы дзяўчыны, і зразумела яна, што вучыць яе жыццё вялікаму цярпенню і мудрасці прымаць тое, чаго змяніць яна не ў сілах. Святазар заплакаў, нібы погляд татаркі пранізаў яго, і Жывена, прыціскаючы да грудзей цёплае цельца, раптам заплакала сама ад вялікага шкадавання да камячка жыцця, якое далі багі дзеля абароны яго і дзеля цярпення і любові яе, маленькай іскрынкі вялікага вогнішча, што прыляцела на зямлю вучыцца… Аварга дагнала яе на парозе, зняла са сваіх плячэй плашч: цёплы і доўгі, ён быў зваляны з поўсці дзіўнага двухгорбага каня***, і пад ім утульна было дзіцяці. Туга была ў жоўтых вачах жанчыны, але Жывена, выйшаўшы, уздыхнула з палёгкай: баялася яна, што Аварга забярэ Святазара, але, мабыць, не дазволіў таго Кагедэй.

Руды, колеру сухой гліны плашч не раз ратаваў Жывену і маленькага Святазара ў доўгія веснавыя ночы, калі Зюзя разпораз вяртаўся з халодных сваіх краёў і дзьмуў сіверам у спіну; і ў спякотныя дні, калі сонца расцякалася, як вялізны жаўток, па распаленым небе і смаліла рабоў, што сядзелі ці ляжалі на палубе вялікай лодзіі; і асеннімі вечарамі, калі яны цягнулі на сабе тавары, выгружаныя перад страшнымі дняпроўскімі парогамі.

Калі б Жывена была адна, яна, магчыма, паспрабавала б уцячы. Але на руках быў маленькі Святазар; здавалася, што паміж хлопчыкам і вярхоўным жрацом Святазарам існуе нейкая

---

* Непарадак (цюрк.).

** Кожны клапоціцца пра сябе сам (грэч.).

*** Вярблюд.

таямнічая сувязь, і калі яна парвецца, ніколі Жывене не вярнуцца на Новагародчыну. А вярнуцца туды, на родную зямлю, стала для яе марай, што давала сілы жыць.

Грэк Мікадзім, былы еўнух пры двары нікейскага дэспата, які памяняў сытае жыццё ў няволі на прыгоды ў марскім порце, куды ён рэгулярна прывозіў мёд, воск, мяхі і рабоў, загадаў дзяўчыне прыслугоўваць яму за сталом. Мікадзім любіў салодкае грэчаскае віно, мяккія шкуры пад босымі нагамі, белае адзенне з залатой аблямоўкай, фаршыраванага фазана з перцам і смаўжоў на вячэру, падчас якой ён любіў цытаваць грэчаскіх паэтаў. Часам, калі Жывена чула слабы плач Святазара, які быў разам з рабамі, ёй нясцерпна хацелася запусціць сярэбраным кубкам у зморшчаны ліслівы твар з крывым вокам, аднак жа адразу ўяўляла, што станецца з хлопчыкам, і рукі ў яе апускаліся. Затое чэпкая памяць імгненна запамінала тое, што гаварыў Мікадзім, і начамі, седзячы пад зорным небам і чакаючы, пакуль узыдзе зорка Канопус*, думала пра тое, што вершы і магія — родзічы і што нездарма ў ведыйскіх народаў Слову пакланяліся як Богу. А колькі загадак у жыцця! Чаму, напрыклад, менавіта зорка Канопус, узыходзячы, прымушае спяваць пеўня першы раз, а другі — тады, калі адыходзіць з небасхілу? Чаму ў гэты кароткі час, калі яна свеціць тужлівым зеленаватым святлом, так добра чытаць гімны Ашвінам і Сонцу? У такія хвіліны ажывае сіла, якая нясе душу высака-высака і беражліва апускае яе ў залацістае Нішто. І тады лягчэй надзяваць сандалеты на жоўтыя і парэпаныя, як кара, ногі Мікадзіма, да ламаты ў руках біць валком ягоную доўгую белую адзежыну, каб падаць яе на плечы гладкай і не заскарузлай ад марской солі.

Рускае, альбо Понцкае, мора, было неспакойным, яго цёмныя хвалі кідалі і шпурлялі ўверх-уніз лодзіі; Жывене здавалася, што выжыла яна толькі таму, што лежачы на палубе, чапляючыся за яе, яна адчувала пах жывіцы і ўяўляла сосны, што раслі ля Менцязі. Каржакаватыя, з мядзянай карой, яны прыветна махалі ўзорыстымі калматымі галінамі, а зялёныя шышкі, падаючы, прапорвалі мяккі і чысты пясок, у якім патаналі ногі…

Але настаў нарэшце дзень, калі скончылася шпурлянне, неспакойны восеньскі вецер не перашкодзіў лодзіям увайсці ў бухту Залаты Рог. Белымі кветкамі гайдаліся на мутных хвалях чайкі, трапяталі парусы на мностве суднаў, якія ўваходзілі і выходзілі з бухты, загарэлыя маракі гаманілі паміж сабою на

* Сірыус.

незнаёмых мовах, і пахла карыцай, якую рассыпалі пры пагрузцы з суседняй манаксілы — грэцкай лодзіі.

На прычалах было мноства люду.

А ўдалечыні, за мачтамі і гурбамі тавараў, праглядваліся пазалочаныя дахі і цэрквы вялікага горада, які ўжо восем стагоддзяў кіраваў з берагоў Басфора палітыкай і культурай многіх краін.

Яркае сонца выглянула на імгненне з-за шэрых хмар. Жывена ціха прамовіла, падняўшы на руках маленькага шэравокага хлопчыка:

— Глядзі, сынок! Вось яна — Візантыя!

* * *

Рынак рабоў у Канстанцінопалі месціўся за сцяной Канстанціна, непадалёку ад Маландзінскай брамы. Раней, да заваявання Царгорада ў 1204 годзе крыжакамі, рабоў прадавалі ў самім старым горадзе каля форума Быка. Але цяпер, калі цэлыя кварталы сумна выстаўляліся закурэлымі сценамі і абгарэлыя чэравы дамоў хавалі рабаўнікоў, гандляры стараліся рабіць свае справы да заходу сонца. Затым непрададзеных рабоў звязвалі і замыкалі ў спецыяльных памяшканнях. Змучаная морам Жывена, ідучы з лодзіі, амаль не глядзела па баках: дзіця адцягвала яе рукі, а нагу абцяжарваў ланцуг. Але ўранку, калі залаціста-чырвонае святло заліло горад да самых мармуровых ганкаў і брукаванкі, адпаліраванай сотнямі гадоў, а з драўляных паддашкаў пазвісалі ўніз квяцістыя тоўстыя дываны, вуліцы Царгорада здаліся ёй прыгожымі. Гандляр купіў ёй чыстую палатняную столу, якую па поясе абвіваў карычневы калматы шнур, выдзеліў кавалак мыльнага кораня, якім яна вымыла валасы і абмыла Святазара.

На рынку рабоў, дзе пад пажоўклымі алівамі на каменных лавах сядзелі сотні людзей, Мікадзім змог купіць толькі заднія лавы. Таму каля ягоных рабоў не затрымліваліся — выбіралі лепшых, тых, чые гаспадары не скупіліся на ежу і пітво; іх рабы не былі такімі знясіленымі. Прымасціўшыся ля цаглянай старой сцяны, жрыца дастала жмут саломы, прыхоплены ёю з начэўні; хуткія яе рукі пачалі плесці саламянага коніка, якіх часта можна было ўбачыць у сялянскіх хатах Навагародчыны. Успомніўся Рос — чуйны і ласкавы да яе, ён, мабыць, загінуў у час пажару. Ёй хацелася сплесці падобнага да яго — свайго былога вытанчанага, хутканогага сябра — і папрасіць Ашвінаў, каб не прадалі яе

са Святазарам хцівым, жорсткім гаспадарам альбо, яшчэ горай, у дом блудніц. Таму, сплёўшы коніка, яна паставіла яго на далоні. Заплюшчыўшы вочы, пастаралася ўбачыць ахвярнае вогнішча, якое ахоплівае коніка і, уздымаючыся ўгору, нясе ейныя мольбы да вечных вандроўнікаў-лекараў:

— Я не ведаю віны, з-за якой трапіла сюды. Падкажыце мне яе, дапамажыце не страціць сваёй душы!

Яна малілася ўсёй сваёй істотай, а дзіця абхапіла яе за плечы і прыціснулася да залатых валасоў, якія зноў пакрывалі маладую жрыцу. І ў той момант, калі Жывене здалося, што яна раствараецца ў ахвярным вогнішчы, Святазар жаласна паклікаў:

— Мама!

Жывена расплюшчыла вочы.

Немалады грэк у шаўковым каптане, вышытым жоўтымі грыфонамі, вывучаў рабыню. Погляды іх сустрэліся.

Вострыя зрэнкі ўпіліся ў дзяўчыну. Разумны, стомлены твар з абвіслымі шчокамі і высокім ілбом, уладная пастава. Слугі, што тоўпяцца ззаду, пачціва схіляюцца пры кожным яго руху. Гандляр падбег да іх, стаў хваліць свой «жывы тавар». Грэк не слухаў.

— Спытайце, чаму яна пляце коніка.

— Конь — самы высакародны з усяе свойскае жывёлы. Ён — сябра, — адказала сама Жывена.

— І што ты ўмееш з імі рабіць? — яго вочы ажывіліся.

— Усё, высакародны, — адказала Жывена. — Скакаць, размаўляць, лячыць…

— Ты — са скіфаў?

— Не, я — славянка. З Новагародскай зямлі, каля Нёмана.

— Склавіны ўпартыя, але яны ўмеюць трымаць слова. У мяне ёсць конь. Калі вылечыш яго, атрымаеш залатую намісму. Пойдзеш на стайню.

— Высакародны Нікіфар… Жанчына з рабоў у імператарскай канюшні… — зашаптаў нехта з натоўпу, але Нікіфар рэзка абарваў:

— І ў імператарскай стайні коні хварэюць!

Уладна запытаўся пра цану, шчоўкнуў пальцамі, загадваючы заплаціць.

— Ну і пашанцавала ж табе! — прашаптаў Мікадзім, здымаючы з яе, па загаду новага гаспадара, ланцуг. — Цябе забраў коміт* імператарскіх стайняў, высакародны Нікіфар Склір!

---

* Загадчык.

Жанчына з іхняга роду — славутая Склірэна — была каханкай самога севастакратара*!

Трохпавярховы каменны палац Скліра хаваўся ў глыбіні аліўкавага саду. Алівы тапырыліся вузкім, як кінжалы, лісцем, каменныя сцены абвівалі ліяны з пахкімі фіялетавымі кветкамі, яны яшчэ цвілі. Шырокія мармуровыя прыступкі ганка былі цёплымі, як шкарлупінне перапёлчыных яек, і такімі ж пярэсташэрымі. Некалі чорнавалосы, а цяпер сівы араб Салім, у чыё падначаленне перадалі Жывену з хлопчыкам, быў увесь у рабацінні. Салім завёў яе ў аднапавярховую будыніну ля стайні, дзе жылі слугі і сам ён са сваімі чатырма жонкамі. Нашчадак некалі палоненых візантыйцамі мусульман, Салім не перамяніў веру: у Царгорадзе жыло шмат іншаземцаў, яны свабодна спавядалі свае рэлігіі, аднак у правінцыях працавалі толькі хрысціянскія храмы.

Малодшая жонка Фаціма, амаль аднаго ўзросту з Жывенай, адразу стала апекавацца Святазарам. Таму, калі ў той жа вечар Нікіфар узяў новую рабыню ў імператарскую стайню, яна ішла без той заўсёднай трывогі, якая апаноўвала, калі даводзілася расставацца з хлопчыкам хоць на кароткі час.

Імператарскія стайні ўразілі яе: якіх толькі коней не стаяла ў багатых, з чорнага дрэва ці дарагога дубу стойлах! Здавалася, з усяго свету звезлі сюды гэтых дагледжаных, з ільснянымі бакамі скакуноў, вакол якіх мітусілася мноства людзей.

Нікіфар падвёў дзяўчыну да гнедага аргамака з тонкімі нагамі і высакароднай паставай галавы, які зашыўся ў кут і не хацеў адгукацца ні на якія ласкавыя словы.

— Дыёна прывезлі нам з Ферганы, коням адтуль няма цаны, — заклапочана тлумачыў коміт. — Самыя славутыя лекары глядзелі яго. Паспрабуй сваё ўмельства. Калі ж усё, што ты казала пра сябе, толькі прыдумкі…

Ён не дагаварыў, але конюх, які стаяў за ім, са шкадаваннем зірнуў на маладую рабыню.

— Я застануся з ім. Дазволь мне толькі ранкам схадзіць да сына, на хвіліну, — папрасіла Жывена.

Яе пакінулі каля Дыёна. Яна звярнулася да яго з замовай, але конь, паглядзеўшы на яе тужлівымі вачамі, зноў адвярнуўся, не захацеўшы слухаць. І раніцай ён амаль не еў, толькі папіў крыху вады. Але, прамацаўшы кожны ягоны мускул, Жывена не знайшла ніякай хваробы — дагледжаная грыва была бліскучай,

* Імператар.

капыты не пашчэрбленыя, ні на баках, ні ў пахвінах не было ніводнай балючай кропкі.

Жывена разгубілася. Збегаўшы раніцай да Святазара, яна зноў прыйшла на стайню. Дыён па-ранейшаму не еў, ягоныя вочы памутнелі, вушы апусціліся. Замоўленую ваду ён не стаў піць, толькі панюхаў драўляную ручку цэбра.

— Нікіфар загадаў, каб заўтра сюды прывезлі лазіны, — спачувальна сказаў ёй вечарам конюх, што даглядаў каня. — Ён лічыць, што ты яго ашукала…

— Скажы мне, што табе трэба! — прасіла Жывена жарабка, але ён касавурыўся на яе цёмным вокам і хіліў галаву да падлогі. Аднак жа на досвітку, калі вадавоз разам з конюхам прынеслі яму піць, ён раптам страпянуўся, пацягнуўся да вадавоза. Бакі яго задрыжалі. Калі ж хлопец пайшоў далей, Дыён ціха, жаласліва заржаў.

Нейкая здагадка мільганула ў Жывены. Яна вярнула вадавоза і, разадраўшы покрыў на галаве, аддала кавалкі хлопцу.

— Пакладзі іх да кожнай кабылы ў стайні, адкуль ты прыйшоў.

Перад самым прыходам коміта Жывена подбегам паспяшалася ў суседнюю стайню і сабрала свае каснічкі, а пасля прынесла іх да Дыёна. Абнюхаўшы адзін з іх, ён, гэтак жа як і на дасвецці, ажывіўся і доўга стаяў, уткнуўшыся ў каляровую анучу.

— Я прасіла б прывесці да яго кабылу з мангольскіх стэпаў. Яе завуць Акта, — паведаміла Жывена коміту.

А калі кабылу прывялі, усе ўвачавідкі маглі пабачыць, як загарцаваў вакол яе жарабок, як разам з ёю пачаў есці авёс, прынесены конюхам.

— Няўжо коні могуць перажываць расстанне гэтак жа, як людзі? — уражаны коміт доўга глядзеў на Дыёна і Акту. Радасць яго была вялікаю: імператар любіў Дыёна, таму шмат папракаў начальніка стайні за хваробу жарабка.

Даючы Жывене залатую намісму, коміт адабральна сказаў:

— У цябе тонкая і пяшчотная душа. Ты, відаць, высакародная. Але за што так пакараў цябе лёс?

Жывена не стала спавядацца. Аднак з таго часу адчувала, што над ёю нябачна нібы распасцёрты покрыў гаспадарскай увагі: сівы Салім ставіўся да яе асцярожна, не нагружаў цяжкай працай, а ягоныя жонкі часта сталі забягаць да новай рабыні. Малодшая ж, Фаціма, неўзабаве зблізілася з Жывенай больш за іншых.

Гэтая прывабная таўстунка дзівіла сваёй жыццярадаснасцю і нястомнасцю. Яна спрытна, як жартуючы, варыла спецыяльнае варыва для хворых коней, настойвала адвары, збірала зелле, у той час як астатнія жонкі пралі воўну, ткалі палатно ці вышывалі шоўкам коўдры. Любіла яна ствараць новыя мазі і націранні, касметычныя дзівосы — ім аддавалася са страсцю, нібыта душа прыроджанага даследчыка-алхіміка ўсялілася ў мякка-калыхлівае жаночае цела. Бывала, урываючыся ў стайню, пачынала яшчэ з парога абвяшчаць аб сваім:

— Паглядзі, якога адцення гэтая хна! Іранская лепшая, чым багдадская, а калі развесці яе дзесяццю грамамі вады, то валасы мае абаўюць сэрца Саліма, і ён не захоча глядзець на іншых жонак, тым болей на царгародскіх весялух, якім аддае шмат грошай!

Ад гучнага вясёлага голасу коні пачыналі стрыгчы вушамі; дзеці, якія акружалі яе гаманлівым колам, вішчалі, сварыліся між сабой; Салім жа абурана адгукаўся на яе словы:

— Я такі развядуся з табою, дачка Ахрымана! Ты ў мяне дачакаешся!

Ён нават неяк паскардзіўся Жывене:

— На радзіме продкаў нашы жанчыны ходзяць у чорных покрывах, што закрываюць твары, і не смеюць узняць голас супраць мужчыны. А гэты разгульны горад распаляе іх.

— Чаму ж вы не едзеце туды? — запыталася тая. — Вы ж тут не раб.

— Так, мне тут добра плацяць, бо гэтая краіна багацейшая за нашу. Да таго ж цяпер там бліжэй да татар, а яны, хаця і спавядаюць веру прарока, не шкадуюць нікога. Бачыш, як разрабавалі Багдад. Дасць Алах, не дойдуць да Візантыі…

Ледзяным ветрам Дзікага стэпу, праз які яна разам з іншымі палоннымі ішла і ехала зусім нядаўна, дзе да васковай жаўцізны калелі яе рукі, як страсянула Жывену, і запякло ў плячах, якія абвіў некалі бізун Кагедэя… Але яна адразу адагнала ўспаміны: няма ў чалавека ўлады над мінулым, значыць, не трэба раз’ядаць раны душы ўспамінамі, шкадаваннямі, прыкідкамі, як магло б быць. «Трэба адужаць бяду, адолець усё, чым выпрабоўвае нас лёс», — паўтарыла сабе словы, якія не раз казала ў час дарогі, і адразу стала лягчэй.

Фаціма часта брала з сабою новую рабыню, і яны ішлі на гаманкія царгародскія кірмашы, дзе спрытна махалі крылламі дзівосных тканін нястомныя рукі купцоў, бразгацелі сярэбранымі бранзалетамі і завушніцамі, дзынькалі сінімі, чырвонымі, жоўтымі венецыянскімі шкляніцамі і вазамі чорна-, жоўта- і

беласкурыя прадаўцы. У лаўках жа, дзе прадаваліся славутыя егіпецкія духмяныя алеі, якімі абцірае сваё цела жанчына перад начнымі ўцехамі, Фаціма гатовая была круціцца гадзінамі.

— Гэтым піхтавым алеем націралася царыца Егіпта Клеапатра, а таксама наша імператрыца Зоя*! — трашчала яна. — Зоя памерла ў 72 гады, і на яе твары не было ніводнай маршчыны! А замуж яна выйшла ў 50 гадоў, і пасля рабіла гэта яшчэ двойчы. Апошні ж раз яна ашчаслівіла бязроднага рамея, пляменніка еўнуха, які праз яе стаў імператарам, а затым выслаў парфірародную** Зою на далёкі востраў!

— А вось гэтай пахкасцю любіла абціраць сябе прыгажуня Касія***, і яна спадабалася імператару Феафілу. Аднак жа калі ён упэўніўся ў яе незвычайным розуме, то адвергнуў яе і саслаў у манастыр, дзе яна ад гора пачала пісаць вершы, вельмі злосныя і едкія…

— А гэты вось ружавы алей, што прысылаюць баўгары, не знікаў з шуфлядак дачкі карчмара Феафано****, якая за сваю боскую прыгажосць стала ўсемагутнай імператрыцай рамеяў!

Жывена была раўнадушнай да касметыкі і сакрэтаў жаночай вабнасці: прырода і багі даюць патрэбныя чары, і не след павялічваць іх штучна. Але цікавіла яе ўсё, звязанае з дзяржавай рамеяў, таму слухала яна нястомную Фаціму, не перабіваючы.

Дзед шмат расказваў ёй пра сваё жыццё на Афоне, пра звычаі грэкаў, пра дзяржаву іх, заснаваную вялікім Канстанцінам у першыя стагоддзі хрысціянскага летазлічэння***** ў працівагу саслабелай Рымскай імперыі. Збудаваныя гэтым хрысціянскім імператарам палацы і сады на месцы невялікага гарадка Візантыя паклалі аснову будучай сталіцы, названай у гонар Канстанціна, дзе жыхары сталі адразу ж называць сябе рымлянамі — рамеямі, а свой горад — Новым Рымам. Раздзел самай магутнай у свеце Рымскай імперыі на Усходнюю і Заходнюю праз некалькі стагоддзяў выліўся ў раздзел самой хрысціянскай царквы******, але Жывена не магла зразумець, чаму так утрапёна змагаюцца цяпер адна супраць другой гэтыя галіны аднаго дрэва.

---

* Зоя разам з сястрой Феадорай правіла імперыяй у 1042 г.

** Дзеці імператараў нараджаліся ў спецыяльнай пурпуровай палаце.

*** Касія нарадзілася каля 810 г.

**** Жонка імператара Рамана II, які правіў з 959 па 963 г.

***** Канстанцін Вялікі правіў з 324 па 337 г.

****** Раздзел рэлігій на праваслаўную і каталіцкую адбыўся ў 1054 г.

Расказваў яшчэ дзед, што менавіта ў Царгорад былі высланыя разбітыя кіяўлянамі полацкія князі і іхнія сем'і. Як добра было б нешта даведацца пра іх лёс. Можа, варта было б пайсці на рускае падвор'е, дзе жывуць купцы з Кіеўскага, Маскоўскага і Галіцка-Валынскага княстваў? Але калі яна папрасіла Фаціму разам з ёю пайсці туды, жанчына спалохана адмовілася:

— Гаспадар не дазваляе нікуды хадзіць самім. Папрасіся, і, калі дасць дазвол, пойдзем.

Але Нікіфара каля трох месяцаў не было ў сталіцы. Казалі, што імператар адправіўся на зімовыя паляванні некуды ў далёкую сваю вілу, і коміт павінен быў быць пры ім неадлучна. Гаспадыня ж дома з ложка не ўставала, і немагчымай была б просьба неяк дайсці да яе.

— Якая яна, камітэса Еўдакія? — пацікавілася Жывена ў жонак Саліма. Яны разам засакаталі:

— Ніякая, цень, дый годзе!

— Была прыгажуняй, а цяпер…

— Гаспадар яе шкадуе, яна высакародная і разумная…

— Каб ты бачыла, якія ў яе пакоі! — захаплялася Фаціма. — Шаўковыя завесы з залатымі львамі, на падлозе ўзоры з дубовых дошчачак, на сценах мазаіка з кветак. А вокны каляровыя, так што святло ўзорыстае ідзе праз іх, цуд! А парфумай пахне, як… як у райскіх садах!

— Мабыць, ёй не да ўсёй гэткай прыгажосці, калі яна хворая, — задуменна адказала Жывена. — А што кажуць лекары?

— Самыя знакамітыя візантыйскія дактары ў нас перабывалі. Колькі залатых намісмаў аддаў ім гаспадар! — распавядалі жанчыны. — Быццам бы трохі адыдзе хвароба, а пасля яшчэ з большым імпэтам грызе бедную.

— І ікона цудатворная не дапамагае, — уставіла Фаціма. — Хаця хрысціяне вельмі захапляюцца ёю, а дактары заўсёды становяцца на калені, калі прыходзяць у спальню да камітэсы.

Яна расказала пра тое, што продкі Нікіфара выратавалі падчас нашэсця лацінян і захопу імі Візантыі* ікону, якая належала імператрыцы Зоі. Казалі, што парфіраодная магла па ёй прадказваць будучыню: калі ікона была ясная і фарбы не мяняліся, то можна было супакоіцца. Калі ж лік Багамаці станавіўся цьмяны — чакай бяды. Бацька Нікіфара хацеў аддаць ікону ў палац, але імператар сказаў: «Калі ікона сама выбрала сабе ўладара, хай у яго і застаецца». Праўда, шэпчуцца, нібы ён баіцца цудатворнай іконы, бо яна — грэчаскага пісьма і належала

* Захоп лацінянамі Канстанцінопаля адбыўся ў 1204 г.

сапраўдным парфірародным, а не нейкім там заходнім рыцарам, у якіх дзяды яшчэ былі пастухамі…

«Так, — думалася Жывене, — усё правільна. Святазар вучыў нас, што дух і справы даўно памерлых усё яшчэ жывуць разам з іхнімі рэчамі. Таму такімі асцярожнымі трэба быць з даўніною, якая пераходзіць ад пакалення да пакалення, несучы з сабою не толькі добрае».

Пасля той размовы яна мала згадвала пра гаспадыню, але аднойчы слугам загадалі сабрацца перад палацам.

Побач з галоўным пасцельнічым Феафілактам на прыступках стаяў нізкі каржакаваты чалавек, пры поглядзе на якога Жывена ўздрыгнула: раскосыя вочы і выдублены карычневы твар нагадалі ёй Кагедэя і крывавую ноч захопу. Чалавек павольна пайшоў уздоўж рабоў і наёмных слуг, углядаючыся ў іх твары. Ён спыніўся быў перад Фацімою, але, падумаўшы, пайшоў далей. Злавіўшы позірк Жывены, хмурна запытаўся ў яе:

— Цябе купілі ў манголаў?

Грэчаская яго мова была падобная да гартаннай мангольскай, але, зразумеўшы сказанае, яна ўпілася ў яго позіркам і сама запыталася ў адказ тое, што прыйшло да яе паміма волі, нібы падказанае:

— І цябе таксама?

«Што ты чалавек Духу, я ўбачыў адразу, — сказаў ёй пасля Галдан Цэрэнхан. — А калі згледзеў страх у вачах, зразумеў, што ён ідзе ад маёй знешнасці. Але тыбетцы ніколі не хадзілі ў паходы супраць славян і не гандлявалі імі».

Так увайшоў у жыццё Жывены тыбецкі лекар Галдан Цэрэнхан, захоплены ў палон падчас вандравання, куплены пасля захопу Багдада візантыйскім дыпламатам і прывезены ў Царгорад, дзе ён выкупіў сябе сам. Слава аб ім шырока разышлася па сталіцы, ды тыбецец толькі адрабляў свой доўг візантыйцу Зянону і цяпер збіраў грошы на зваротны шлях, таму прыняў запрашэнне коміта наведаць ягоную жонку. Але пасля першага ж агляду ён папрасіў Нікіфара, каб той даў яму сваю руку. А праслухаўшы пульс*, заявіў гаспадару:

— Твая жонка можа памерці адразу пасля жніва, але калі за ёю будуць назіраць з любоўю і клопатам, то гэта адбудзецца якраз перад другою сяўбой**.

---

* Славуты тыбецкі трактат «Чжуд-Шы» рэкамендуе лекарам пры хваробе жонкі слухаць пульс мужа, і наадварот.

** У Візантыі сеялі пшаніцу ў кастрычніку–лістападзе, а некаторыя злакі і ў лютым.

Слугі, якія расказвалі пра гэта, распавядалі, што коміт ускочыў, як апечаны.

— Толькі Госпад Бог ведае, калі хто памрэ! — закрычаў ён. — Якой сілай ты лечыш, няхрышчаны чалавек з далёкай краіны?!

— Сіла, якая падказала чалавеку, як лячыць сабе падобных, адкрыта яшчэ ў тыя часы, калі нават не было такога пышнага горада, як твой, — яна светлая, жыццядайная. Па пульсе лечаць і вашыя дактары, але яны шмат думаюць пра мітусню свету. Дваццаць год у цішыні снежных гор, толькі сам-насам з настаўнікам і мудрасцю гор, вучымся мы разумець пульс жыцця і пульс смерці. А яшчэ сны. Давай зойдзем зноў да тваёй жонкі і спытаем, каго яна найчасцей бачыць у сне. Калі яе клічуць бацькі ці родныя — гэта знак, што час збірацца пад вечнае крыло Быцця.

Яны пайшлі да Еўдакіі.

— Каго ці што найчасцей ты бачыш у сне? — запытаўся лекар.

Гаспадыня задумалася.

— Да мяне часта прыходзіць маці. Яна працягвае руку.

— А ты?

— Я хачу да яе і баюся.

— У што яна апранутая?

— Яна выглядае як імператрыца: у пурпуровым плашчы, чырвонай павязцы на галаве, на якой нашытыя смарагды і брыльянты, а на скронях — белыя жамчужныя ніці. Мне страшна, мне так страшна!

— Не бойся гэтага сну, ён нясе выбаўленне ад пакут, — абнадзеіў яе тыбецец.

— Праўда? — узрадавалася Еўдакія. І яна ўсё працягвала ўсміхацца, доўга пасля таго, як лекар і муж пайшлі. Але адразу за дзвярыма лекар стаў развітвацца з Нікіфарам.

— Ты пакідаеш мой дом? Еўдакія адразу зразумее ўсё. Прашу цябе — зрабі выгляд, што лечыш, змякчы яе невыносныя пакуты, калі можаш, — коміт перамяніў тон, і слёзы выступілі ў яго на вачах. Тады лекар згадзіўся застацца, але вырашыў сам выбраць слугу для догляду. Выбар яго спыніўся на маладой жрыцы.

Першыя дні, калі гэты непарушна спакойны, падобны да адзінокай абсушанай сонцам каменнай глыбы, што ляжыць у стэпе, чалавек паказваў, як даваць хворай лекі і ваду, Жывена курчылася, рукі яе рабіліся няўмелымі і нягнуткімі. А можа, так уздзейнічала на яе гаспадыня, якая, агледзеўшы маладую

рабыню, варожа-капрызліва стала як бы адмахвацца ад яе праз-рыста-жоўтай схуднелай рукой:

— О, якая яна прыгожая! Аж свеціцца… А я… Не, не хачу яе!

— Выйдзі, — паказаў Жывене Галдан, і яна пайшла прэч, убачыўшы, што схуднелая на трэску жанчына з тварам-чэрапам і вялікімі вачамі без вейкаў, з рэдкімі чорнымі валасамі сапраўды на краёчку жыцця, але прагна цягнецца назад, у бясконца вабны свет кахання і ўцех. Некалькі гадоў назад ёй зрабілі аперацыю ў бальніцы манастыра Пантакратара, дзе працавалі лепшыя ў Рамеі ўрачы; асабліва там славіліся хірургі і акушэркі, бо ўсе яны заканчвалі школу па лекарскім майстэрстве, што працавала тут жа ў манастыры. Аднак праз тры гады камітэса захварэла зноў, і на ногі яе ўжо не змаглі паставіць. Адна з найслаўнейшых прыгажунь Царгорада, яна найперш не магла згадзіцца з тым, што страчаная прыгажосць, таму ў яе пакоях не было ніводнага люстра.

Аднак праз некалькі дзён тыбецец дазволіў Жывене ўвайсці ў пакоі Еўдакіі. На гэты раз хворая была спакайнейшай.

— Лекар сказаў, што ў цябе ёсць сіла і ты можаш дапамагчы, — прашаптала яна. — Сапраўды, у цябе добры твар. А я стамілася ад хцівых і нядбайных. Нядаўна адна… ледзь не атруціла мяне, паклаўшы опію ў тры разы болей…

Жывена ведала пра тое: чарнавокая грачанка Алена, прададзеная ў рабства бацькамі-беднякамі, моцна тужыла па жаніху, якога забілі ў бойцы, і памылкова паклала ў кубак болей заспакаяльнага рэчыва, якім супакойваліся болі. За тое яе білі бізуном з уплеценымі ў яго свінцовымі шарыкамі, а пасля асляпілі. Аднак старыя рабы, хаця і шкадавалі дзяўчыну, казалі, што раней за такое спалілі б альбо аддалі б на арэну дзікім звярам, у лепшым выпадку адсеклі б рукі ці ногі.

Камітэса шаптала нешта яшчэ, але тут Жывена ўбачыла над яе галавой ікону — мабыць, пра яе расказвалі жонкі Саліма. Тонкі твар жанчыны, аточаны цёмна-карычневым покрывам з залатой візантыйскай паласой, няўлоўна падобны быў да твару Еўдакіі. Толькі вочы былі іншыя: задуменныя, глыбокія, яны праціналі, але не вастрынёй, а нейкай бясконцай мяккасцю. А дзіця на руках у яе было падобнае да Святазара, толькі чорнавалосага. Яна страсянула галавой, нібы адганяючы морак, ды тут голас Еўдакіі зрабіўся іншым, загучаў пранізліва:

— Я пытаюся, як цябе клічуць, рабыня?

— Жывенаю, — паспешліва схілілася дзяўчына перад слабою, але страшнаю сваёй бязмежнай уладай над яе жыццём, лёсам, як і лёсам соцень іншых рабоў, камітэсай.

— Жыв… Не, гэтага варварскага імені мне не запомніць. Я назаву цябе Ефрасінняй, так клікалі маю старую няньку, якая памерла.

Яна паківала пальцам, і пасцельнічы Феафілакт нячутна наблізіўся да ложка.

— Павесь яе імя ёй на шыі, — загадала камітэса. — І апрані ў ліловае, ты ж ведаеш, я люблю гэты колер на слугах.

З таблічкай на шаўковым шнуры, у ліловым хітоне заходзіла цяпер Жывена ў пакоі да камітэсы, і часам ёй здавалася, што ўсё ранейшае жыццё было толькі сном, прыгожым і яркім, які, аднак, раніцай раствараецца, як белы калыхлівы туман. Брутэн і Відэвут, Святазар, Менцязь, дзе так лёгка і вольна было гайдацца ў сонечны дзень, лёгкасць і спакой душы, нібы пранізанай сонцам, — з ёю гэта было ці таксама прыснілася? І куды падзеўся дар, які яна з такой радасцю несла людзям, дапамагаючы ім? Глуха было ў душы, хаця часта, як і раней, малілася Ашвінам, хаця адразу ж пасля таго, як атрымала ад Нікіфара залаты салід-намісму, заказала рамесніку-чаканшчыку медальён, падобны да храмавага. Ды паступова рабілася радасцю і забірала ў палон любоў да хлопчыка — усё болей і болей, ажно Жывена сама дзівілася з гэтага новага, невядомага раней пачуцця. Першыя крокі дзіцяці, першыя ягоныя словы поўнілі пяшчотай і нібы надавалі моцы.

Нечаканай радасцю рабілася і знаёмства з Галданам Цэрэнханам.

Суровы і нешматслоўны лекар уражваў спакойнай сілай, якая нібы асаджвала капрызную Еўдакію, уладнага Нікіфара, не кажучы ўжо аб слугах. Тыя, як зачараваныя, кідаліся выконваць кожнае распараджэнне чалавека, якога яны спачатку празвалі Брутусам* і, насміхаючыся, перадражнівалі за ягонай спіной. Цяпер жа нават пасцельнічы Феафілакт, хітры і ліслівы, усміхаўся і нізка кланяўся Галдану — амаль гэтак жа нізка, як і гаспадарам.

Нікіфар усё ж спадзяваўся на выздараўленне жонкі, назіраючы, як ружавее яе твар і спакайнейшым робіцца сон. Смерць яе магла пацягнуць за сабой загад прыняць пострыг. І хаця ўдаўцы ці ўдовы са знатных сем’яў маглі не ісці ў манастыр, якому перадавалася маёмасць, над ёю яны былі ўжо не ўладныя. Коміту ж такі загад мог прыйсці ў першую чаргу, бо лаціняне і так скоса пазіралі на тое, што такая ўплывовая пасада займалася

* Тупы, грубы (лац.).

грэкам, хай сабе і знатным. З таго часу, як крыжакі, якія ішлі праз Канстанцінопаль вызваляць Святую Зямлю ад няверных, захапілі яго і ўсталявалі сваю ўладу, яны імкнуліся адхіліць знатных грэкаў ад палітычнага жыцця. Аднак улада севастакратара была акружана такой веліччу і пышнасцю, так салодка люляла абранніка і яго світу тронная падушка, што ўжо Балдуін Першы, воін і рыцар, неўзабаве апрануў імператарскі плашч з вышытымі на ім залатымі арламі, пурпуровыя сандалеты, карону і аднавіў увесь уклад візантыйскага двара, калі кожны крок імператара суправаджаецца складаным цырыманіялам і хваласловамі-акламацыямі, дзе праз пакаленні не мяняецца ніводная нота, дзе нават імператарскае чарніла — пурпуровае. І ўсе астатнія лаціняне, што ўзыходзілі на візантыйскі трон, загадвалі аб’яўляць пры кожным урачыстым выхадзе, што яны пераемнікі Юстыніяна і Комнінаў, і паступова зноў набліжаліся да трона старыя візантыйскія роды, нягледзячы на супраціўленне прышлых. Нікіфар ад бацькі чуў, як смяялася старая знаць, калі прызначаны протавестыярыем* ваяка Канон Бецюнскі блытаўся ў раскошным доўгім адзенні і раз’язджаўся па мармуровай падлозе ў найтанчэйшых, як шоўк, скураных пантофлях, у якіх так спрытна ходзяць звыклыя да пышнасці сенатары. Сам Нікіфар вылучыўся пры Балдуіне Другім, бо на іпадроме толькі ягоныя коні раз за разам прыходзілі першымі, а імператар, як і ўся прыдворная вярхушка, любіў конныя заезды, тэатральныя відовішчы, любіў, калі плебс радасна вітаў яго прыход на імператарскую трыбуну.

Любіў Нікіфар выходзіць на людзі з прыгажуняй жонкай, калі, апранутая ў святочны хітон, ззяючы каштоўнымі каменнямі, садзілася яна ў ложу коміта блізка да імператара, а той, на рыцарскі манер, схіляў галаву перад яе прыгажосцю. Цяпер імператар быў незадаволены тым, што вось ужо тры гады прыгажуні Еўдакіі нідзе не відно, і хаця не вінаваты ў тым быў коміт, аднак жа ўсё халадней і халадней глядзеў на яго ўладар, усё больш адцяснялі Скліра прыдворныя. Вось чаму, гледзячы, як ажыўляюцца запалыя жончыны вочы, спадзяваўся ён на цуд і сам ледзь не хадзіў перад Галданам на дыбачках, хаця прывык да таго, што сотні і тысячы людзей схіляюцца перад ім самім.

Але лекар як быццам не ганарыўся тым і нават не заўважаў таго, што непамерна ўражвала слуг. Гаварыў з усімі аднолькава — ветліва, але неяк адрачона. Адзін раз убачыла Жывена

* Прыдворны, які аб’яўляе выхад імператара.

здзіўленне на ягоным твары — калі, забыўшыся, прагаварыў ён доўгі рэцэпт на санскрыце, а яна згодна кіўнула галавой.

— Адкуль ты ведаеш гэтую мову? — спытаўся ён.

Яна адказала, і тады ён ціха прамовіў:

— Значыць, і ў славяна-балтаў захавалася памяць аб сонечных Ашвінах? Аб тым, што бог Дакшапаці перадаў веды, як лячыць чалавека, менавіта спачатку ім, а яны ўжо затым перадалі тое Індры і, нарэшце, мудрацу Бхаратваджы*?

— У нашым храме толькі чытаюцца гімны Агні і Ашвінам і твораццa свяшчэнныя абрады.

— Значыць, вы не ведаеце «Аштанга-хрыда-самхіту» Вагбхаты, якую ў нас пераклаў Рынчэн-Занпа**? Ці маеце вы свой пераклад?

— У нас няма дзе хаваць старажытныя запісы. Нашы драўляныя хаты гараць, а войны падпальваюць іх часта. Толькі два з паловай стагоддзі назад пабудаваны першы каменны храм у Полацкай зямлі…

— Але цікава, што памяць аб арыях у вас засталася. Што яшчэ засталося ад іх мудрасці?

— Няшмат… Радуніца, калі мы радуемся сустрэчы з продкамі. Абярогі ад зла, з дзвюма конскімі галовамі альбо, цяпер часцей, дзвюма птушкамі. Нашы людзі моцна вераць, што багі-блізняты адольваюць нячыстую сілу. Але, калі карова ацеліцца двайнятамі, вёску абворваюць баразной, а плуг вядуць два бычкі — інача й можа напасці пошасць. Можа, якраз ад нашых храмаў памяць аб Ашвінахператварылася ў казкі — напрыклад, аб тым, як два сыны Вялікага Бога закахаліся ў дачку Сонца. Яны дзеля яе запальваюць на моры два агні і возяць на лодцы з яблыневага дрэва гэтую прыгажуню. Казкі, гэты злепак з былога ці мінулага, аздабляюць жыццё людзей.

— О так. Цемра ўсё болей накрывае іх, як удушлівае воблака, і нават мудрацы часам здаюцца, ідуць насуперак сабе і служаць Злу.

Гэтая першая размова паміж імі сталася пачаткам доўгіх гаворак аб вечнасці і аб загадках жыцця, якое круціць у сваім коле людзей дзеля нейкай невядомай ім самім задачы.

---

* У «Чжуд-Шы» менавіта так апавядаецца пра перадачу ведаў па медыцыне ў старажытнай Індыі.

** Вучоны XI ст., вучыўся ў Індыі і пераклаў гэты медыцынскі трактат VII ст.

Не адразу Жывена даведалася, як трапіў сюды, у краіну Кхран*, тыбецкі лекар, які ў маладосці жыў пад Дахам Свету ў будыйскім манастыры і рыхтаваўся да манаства. Але малодшага, любімага брата забіў хан, і тады паслушнік не сцярпеў. Помста перапыніла ягоны Шлях**, зацьміла духоўны зрок. Выгнаны з манастыра, ён не меў права лячыць, таму пасвіў авечак як наймiт. Аднак боствы гневу не пакідалі яго: авечак задзіралі ваўкі; перавал, праз які трэба было вяртацца, аднойчы засыпала снегам, і ён тры месяцы харчаваўся арэхамі, якіх натрос небарака, што прама перад ім зваліўся ў бездань. Пасля, праз год, на тым жа перавале на былога паслушніка напаў тыгр. Змагаючыся, яны абое зваліліся ў горную раку. Непрытомнага Цэрэнхана, якога да страшных чорных пісягоў абабіла аб камяні шалёная плынь, вылавілі рыбакі перад самым вадаспадам. Селішча іхняе было ўжо кітайскім, і калі забойца-паслушнік пакладзены быў ля храма, у сне яму з'явіўся сам Буда і прадрок, што вызваленне можна атрымаць толькі праз пятнаццаць гадоў служэння Тром Уладарам***, у самым старажытным храме. Чатырнаццаць гадоў капаў пячору і ўзносіў малітвы Галдан, а на пятнаццаты паслалі яго ў суседняе селішча лячыць хворага, дзе і захапілі ўсё насельніцтва качэўнікі-манголы, бо храм той быў на самай мяжы з іхнімі землямі.

— Значыць, я павінен быў адпакутаваць яшчэ, — гаварыў тыбецец. — Калі ступіў на Шлях, Неба спытае з цябе болей, чым з простага чалавека.

— Але чаму пакаранне атрымала я? — аднойчы вырвалася горкае недаўменнае пытанне ў Жывены.

— Ты, жрыца Ашвінаў, задаеш такое пытанне? Ты, якая ведае, як і калі пытацца ў багоў — «Чаму?»

І яна не пыталася аб гэтым. Затое стала прагна накідвацца на яго з іншым. І першае, што цікавіла і ўсіх: як ён вызначыў, што гаспадыні не жыць? Яна выглядае цяпер лепей, у яе нічога не баліць.

— Я рэзаў пук сухой травы, калі па мяне прыйшлі. Еўдакія бачыла маці ў чырвоным, танцавала з ёю. А гэта — першыя прыкметы таго, што чалавек ва ўладзе Гаспадара Смерці. Аднак

---

* Так называюць Візантыю тыбетцы.

** Быць на Шляху — ісці да духоўнай дасканаласці.

*** У старажытным Кітаі існаваў культ Трох Уладароў: Неба (Цяньхуан), Зямлі (Дзі-хуан) і Людзей (Жэнь-хуан). У медыцыне ж ёсць тры віды пульсу — Неба, Зямлі, Людзей.

бывае, што ратаваць не позна. Каб даведацца, ці так гэта, я і слухаў пульс мужа.

— У нас таксама прыкмячаюць, а жрацы добра ведаюць: калі ў сне чалавек тоне ў брудзе, уваходзіць у чэрава маці, падае ўніз, гэта прадракае благое. Але каб па пульсе адчуць нават час смерці?

— Ці чытаюць у вас «Бхагават-Гіту», гэты чароўны помнік мудрасці Індыі? Калі не, то паслухай:

Да нараджэння ўсе рэчы схаваныя
У Быцці, адзіным, вялікім,
Адкуль сыходзяць пры нараджэнні
І патанаюць пры Смерці ў ім.

— Нашы свяшчэнныя гімны гавораць пра тое ж! — узрадавалася дзяўчына.

— Многа таямніц у свеце, — працягваў Галдан Цэрэнхан. — І сярод іх — пульс Жыцця і пульс Смерці. У нованароджанага дзіцяці можна «даведацца», колькі яму наканавана жыць. Бывае, аднак, што людзі самі перапыняюць жыццё. Тады гэта парушае адвечны парадак Быцця, і таму той, хто накладае на сябе рукі, творыць зло супраць усяго Сусвету. А ў пульсе Жыцця таксама таямніцы: пульс Неба трэба слухаць на скроні, пульс Чалавека — на запясці, а пульс Зямлі, звязаны з падземнымі Боствамі, — на ступні.

— О, я стану маліцца за жыццё Еўдакіі! Пакуль яна будзе жывая, ты будзеш з намі і зможаш мяне хаця трохі навучыць старажытнай мудрасці! — горача загаварыла Жывена.

— Мабыць, яна і сапраўды дажыве да жніва, а там і да новай сяўбы, — упершыню шырока ўсміхнуўся Галдан Цэрэнхан, і шырокі, непрыгожы і нават страшнаваты твар яго як адкрыўся сваёй патаемнай сутнасцю, стаўшы на імгненне прыўкрасным.

Сапраўды, у цёплы, ясны дзень новага, 1261 года* ўзрадаваны коміт вырашыў павезці жонку ў загарадны маёнтак. Яе суправаджалі лекар і Жывена, а таксама каля дзясятка слуг.

Выпаленая бязлітасным сонцам да цвёрдасці каменю рудая зямля адпачывала пасля сваёй летняй працы, калі ў яе чэраве набіралі моц духмяныя расліны і чэпкія карані аліваў, прагна п'ючы назапашаную вільгаць. Яна чакала дажджоў — гэтага

* У Візантыі год пачынаўся 1 верасня.

спаравання з Небам, калі грыміць і гайдаецца неабдымнае іхняе ложа і кавалкамі касмічнай коўдры рвуцца аблокі. Аднак бялёса-сіняе покрыва над далячынямі было зажурана-спакойным, не калыхаўся калматы быльнёг ля дарогі, прарэзанай коламі фурманак, што везлі і везлі з палёў у маёнтак амфары з пшаніцай, алеем, гідрыі з пітной вадой, пелікі з мёдам, сушаныя фінікі і вінаград, сыры, загорнутыя ў тканае ва ўласных Нікіфаравых майстэрнях палатно, і многае іншае. Еўдакія ехала на адкрытай калясніцы, але калі хацела лепей агледзець поле, рабы неслі яе на насілках. Жывена трымала скрыню з рознымі сасудамі — лекітамі, амфарыскамі, дзе было нагатаванае асвяжальнае пітво для гаспадыні, адвары з зёлак і ўсё, што магло спатрэбіцца ёй, пасцельнічы вёз усходні палас і шматлікія дыванкі на выпадак, калі хворая захоча пасядзець на зямлі. У Фацімы ж пры боку стаяў куфэрачак з духмянымі мазямі — калі гаспадыня натрудзіць ногі, лоўкія рукі арабкі тут жа дапамогуць ім. Ехаў і наглядчык комітавай стайні Салім. Са здзіўленнем убачыла Жывена, як змяніўся араб пры гаспадары: сыпаў прымаўкамі, жартаваў, смяшыў Еўдакію. Так, ён знарок жахаўся, калі аказваўся каля Галдана, на што гаспадыня заўсміхалася:

— Не бойся, ён не з царства Аіда. Наадварот, краіна яго высока ў гарах, так што да неба ён бліжэй, чым ты.

— Дазвольце не пагадзіцца, высакародная камітэса. Адзін з нашых паэтаў так пра яго сказаў:

Ён аблiччам як Малiк*, што да жахаў прывык,
Бо пякельнага полымя ён вартаўнiк.
Чорны волас ён у сiвой барадзе,
Птушка Рух**, чые крылы намоклi ў вадзе!
Ён чадрою няшчасця ахутаны спрэс,
У шчаслiвы наш дом быццам Iблiс*** улез,
Скрозь людзей пазiрае, у позiрку лёд,
I на нешта чаруе ўсю ноч напралёт!

— Не паклёпнічай! — абарваў Нікіфар. — У маім доме не чаруюць! Хіба моляцца — але я і табе не забараняю маліцца твайму Алаху, хаця ўсе ведаюць, што ёсць толькі адзін сапраўдны Бог — наш, візантыйскі, праваслаўны…

---

* Старажытнаарабскае боства.

** Чароўная птушка, накшталт Гамаюн-птушкі.

*** Чорт (араб.).

Салім адразу ж перамяніў гаворку.

— Я хацеў падражніць яго, каб ён хоць трохі расказаў нам, як трапіў сюды. Усё мы ведаем адзін пра аднаго, апроч вось яе, — ён паказаў на Жывену, — і лекара. А яны трымаюцца разам і абое паводзяць сябе не як простыя слугі, а як высоканароджаныя.

— Гэта мая справа! — зноў абарваў яго Нікіфар. — Не ўсе такія нізкія рабы, як ты. Яна — іншае!

Сказаў і тут жа як спахапіўся. А тым часам Еўдакія загадала зноў спыніцца і, сышоўшы з калясніцы, стаяла, падстаўляючы цёпламу яшчэ сонцу зжаўцелы твар. У ваўняным плашчы, накінутым на ліловую туніку, у шапачцы з залатымі падвескамі на скронях, здавалася яна падлеткам. Злева ад дарогі пачынаўся платанавы гай, справа, за паваротkай, скрозь купку зялёнага падлеска з лаўравішні, самшыту, рададэндрану і іншых дрэваў бачны быў натоўп, які рухаўся да калясніцы. Аказалася, коміт спыніўся, не даехаўшы паўмілі да поля, дзе ў гонар прыезду гаспадароў збіраліся ўрачыста сеяць пшаніцу.

— Хай ідуць усе сюды і сеюць яе тут! — камітэса паказала на бліжэйшае поле. Упраўляючы разгублена пераглянуўся і шэптам сказаў коміту, што тут учора закончылі сяўбу.

— Рабіце, што сказана, — коратка загадаў той, і тады да гаспадароў подбегам заспяшаліся сейбіты, за імі святар у парчовай фелоні* з нашытым крыжам, следам за якім нёс чашу з вадой і крапілам з лісця вайі** стары дыякан, чый стыхар*** быў якраз таго ж ліловага шоўку, як і туніка камітэсы. Яна спачатку грозна ссунула бровы, але ўспомніла, што сама ж загадала паслаць у маёнтак служкам некалькі столак з сувоя, падаранага ёй Балдуінам Другім.

Неўзабаве пачаўся абрад сяўбы. Акропленая святою вадою зямля, ужо ўзараная, лёгка варочалася драўлянымі плугамі. Усе, хто стаяў каля гаспадароў, напружана сачылі за тым, каб у час сяўбы зерне не трапіла на бычыныя рогі — ураджай будзе вялікі, але зерне ўродзіцца нясмачным і непрыдатным для людзей. Адзін толькі Галдан няўважліва глядзеў удалячынь ды Жывена, убачыўшы высока над полем знаёмы трохкутнік журавоў, не зводзіла з іх вачэй. Куды яны ляцелі? У Егіпет? І адкуль? Можа,

---

* Рыза, шырокае і доўгае адзенне святара без рукавоў, з выразам для галавы.

** Пальма.

*** Доўгая кашуля з выразам па горлу і шырокімі рукавамі.

якраз з новагародскіх зямель, дзе ладзілі гнёзды на дубах і рабілі павольныя кругі над маленькім каменным храмам Ашвінаў, дзе цяпер, можа, стаіць на вежы Відэвут і просіць сонечных вясёлых багоў знайсці яе і прывесці назад, на радзіму. А магчыма, ён лічыць яе мёртваю? Ды не, сэрца і Ашвіны павінны сказаць яму праўду. Святазар, пэўна, ведае, дзе яна — да яго найчасцей прыходзяць багі і адкрываюць яму хаця столачку вялікай і страшнай заслоны, якою адгароджаныя яны ад зямных людзей.

— …Ты ж ведаеш, уладычыца, што грэчаская царква не бярэ грошай за шлюбы. Па старадаўняму звычаю грэкаў, яны плацяць за тое толькі пеўнем і боханам хлеба. А плаціць жа царкоўную дзесяціну лаціўнянам, паводле праваслаўнага царкоўнага права, мы адмаўляемся. За тое царква наша, як і іншыя, праследуецца. Пракляты Марасіні, патрыярх, хоча ўвогуле забараніць грэчаскія абрады, ён жа венецыянец, як ты ведаеш!

Жывена ўздыхнула. Гэта скардзіўся Еўдакіі хрысціянскі святар, прасіў дапамогі і грошай. Камітэса выслухала яго і паабяцала заступіцца, успомніўшы мудрасць папы Інакенція Трэцяга, які шукаў кампрамісаў з грэчаскім духавенствам. Коміт выглядаў задаволеным: можа, і сапраўды Еўдакія неўзабаве зможа падняцца і хадайнічаць за царкву? Лаціняне і цяпер, праз шэсцьдзясят гадоў пасля заваявання Царгорада, не спяшаліся аддаваць Рыму хаця б пятнаццатую частку даходаў, хаця, паводле дамоваў, мусілі б адпраўляць туды звычайную дзесяціну, якая, аднак, не была прынятая грэчаскім духавенствам да гэтага часу.

Еўдакія, выслухаўшы святара, нечакана сказала мужу:

— Я стамілася ад просьбаў. Хай яны пакінуць нас. А мы яшчэ пабудзем тут, ля гаю.

Але ў гэтую хвіліну да яе падышоў садоўнік і выцягнуў з-за пазухі прыгожа сплецены футляр. Адкрыўшы яго, ён дастаў гваздзік, на якім заіскрыліся кропелькі вады, якой яго апырскалі, і працягнуў камітэсе. Усе аслупянелі: гваздзік быў пурпурны. Першым апамятаўся коміт.

— Ты што, хочаш пасварыць мяне з імператарам, гнюсны раб?! — загрымеў ён, адштурхнуўшы садоўніка так, што той адляцеў прэч і, зачапіўшыся нагой за камяк зямлі, расцягнуўся ля самых ног Жывены. Круглы твар са светлай апушкай валасоў на падбародку збялеў, шэрыя вочы вырачыліся: садоўнік яўна чакаў іншага.

— Я… вывеў яго спецыяльна для камітэсы, — залепятаў ён. — Гэтыя кветкі… такія прыгожыя!

— Ён, мабыць, не ведае, што пурпуровыя* гваздзікі забаронена разводзіць у садах! — зашаптала Фаціма. Спалоханы наглядчык маёнтка пацвердзіў ейныя словы, распасцёршыся перад гаспадарамі:

— Гэты раб прывезены нядаўна, я не дагледзеў, што ён вырасціў пурпуровы гваздзік! — енчыў ён. — Я не вінаваты, не карай мяне!

— Я не вінаваты! — садоўнік, таксама смяротна спалоханы, загаварыў па-руску.

— Адкуль ты? — страпянулася Жывена.

— З Галіцка-Валынскай зямлі, з-пад Бярэсця.

Нешта магутна-светлае, лёгкае нібыта падхапіла дзяўчыну, і на імгненне прамільгнуў перад вачыма храм з тоўстых кубоў граніту, магутныя дубы, што атулялі яго шапаткімі шатамі, залацісты конь з саломы на ахвярным вогнішчы… Яна схілілася перад Еўдакіяй:

— Пашкадуй яго, камітэса. У яго рукі майстра — зірні, які футляр з лубу сплёў гэты чалавек! У яго душа паэта — ён лічыць цябе царыцай, бо столькі чуў пра тваю прыгажосць!

Усю сілу, якая некалі была ў ёй і цяпер вярнулася — ці надоўга? — уклала яна ў свае словы, і камітэса апусціла грозна ўзнятую руку. Коміт, які сачыў за жонкаю, таксама змякчыўся:

— Няхай жыве. Аднак табе, які не дагледзеў і не папярэдзіў таго, што адбылося, давядзецца адказваць.

Яны паехалі да маёнтка, але доўга ззаду яшчэ чуліся крыкі наглядчыка, якога бязлітасна секлі лазінамі. Еўдакія ж напружана глядзела наперад, твар яе быў замкнёным. Яна выпіла глыток фіялкавага віна, праліўшы трохі на сваю ліловую туніку, памуляла завялымі вуснамі вінаградзіну, але пасля выплюнула яе. Рука з цьмянымі, акуратна вычышчанымі рабыняй пазногцямі дрыжала, чырвоныя плямы праступалі на худых шчоках.

Калі яны прыехалі ў маёнтак, яна не пайшла ў дом. Загадала несці сябе да агромністай шэра-зялёнай алівы; там, сышоўшы з насілак, прытулілася да шурпатага ствала, дзе глыбока заплыла, але была яшчэ бачная першая літара ейнага імя.

— Помніш, Нікіфар, ты першы раз прыехаў са сваім бацькам сюды, каб паглядзець на мяне? І я зірнула. Ты мне спачатку не надта спадабаўся, але пасля… Калі ты мне кляўся ў каханні,

* Гэтае адценне лічылася царскім, ніхто на яго не меў права.

апякунка аліваў* падала знак, і я зразумела, што буду з табой да смерці.

— Нашто ты гаворыш пра смерць? — дакорліва прамовіў коміт. — Мяркую, мы будзем жыць доўга.

— Не, мая смерць блізкая. Тыбецкі лекар пытаўся, у якім адзенні прыходзіць у сны маці. А яе туніка якраз такога колеру, як гэты гваздзік, колеру застаялай крыві, якой так многа пусцілі мне манастырскія лекары. Таму хачу пастрыгчыся, перш чым Харон пусціць мяне ў сваю ладдзю. І яшчэ аб чым прашу цябе, Нікіфар…

Еўдакія зняла адзін за адным з пальцаў каштоўныя пярсцёнкі.

— Гэты, з антраксам**, аддай у Вялікі Храм Божай Мудрасці***, хай аправяць ім абраз святой Еўдакіі. Гэты са смарагдам — у царкву Пантакратара. А на гэты, з залатой філігранню, хай памоляцца за мяне жабракі каля Вялікай Гавані — калі я бывала там, мне заўсёды хацелася ехаць у невядомыя далёкія краіны…

— Усё, што скажаш, я зраблю, але… — пачаў быў коміт.

— Не суцяшай! — слаба абарвала яго жонка. — Яшчэ адно хачу папрасіць: пасля маёй смерці дай ёй вольную грамату.

Яна паказала на Жывену, якая трымала яе за левую руку.

— Але чаму — ёй? — коміт рэзка павярнуўся, вочы яго ўпіліся ў маладую дзяўчыну, якая ад нечаканасці адпусціла гаспадыню.

— Таму што… — Еўдакія пачала задыхацца, плямы на шчоках выступілі цёмна-чырвонымі ружамі. — Яна, рабыня, заступілася за іншага, хаця за гэта, пад гарачую руку, маглі загадаць асляпіць і яе. Значыць, чужое жыццё ёй… не абыякавае…

Але тут слугі па знаку коміта падхапілі яе, Галдан Цэрэнхан паспешліва дастаў з зялёнага яшмавага футарала доўгія іголкі з туга закручанымі ў спіраль канцамі і маланкава абтыкаў імі хворую. Седзячы на тоўстым усходнім дыване, яна паступова супакоілася, пачаў праступаць румянак на шчоках, дыханне параўнела. Жывена дапамагала ёй: абкладала падушкамі, абвявала веерам з вялікімі пушыстымі пёрамі. Але адначасова ліхаманкавая радасць білася ў ёй, і той прыліў моцы і лёгкасці, які вярнуўся і цяпер п’яніў хмелем надзеі, усё не пакідаў, наадварот, узмацняўся…

---

* Афіна.

** Рубін (старажытнарус.).

*** Так называлі храм св. Сафіі.

Вечарам, калі гаспадары вярнуліся назад, у Цар-горад, і Еўдакія заснула, Жывена, хвалюючыся, папрасіла лекара паслухаць ейны пульс.

— Я баюся, што памру ад радасці, — сказала яна. — Таму прашу цябе, скажы, колькі мне жыць, каб паклапаціцца пра Святазара.

Аднак Галдан Цэрэнхан адмовіўся.

— Чаму ж коміту ты сказаў, калі памрэ ягоная жонка, а мне не хочаш сказаць нічога! — пакрыўдзілася Жывена.

— Бо ў яе лёсе не зменіцца нічога, яе Кола вось-вось спыніцца.

— Спыніцца некалі і маё!

— Але калі — ты не павінна ведаць. Іначай суддзя памерлых Чойг'ел*, убачыўшы ў люстэрку Кармы, як я ўмешваюся ў тваё жыццё, пазбавіць мяне магчымасці хоць калі-небудзь нарадзіцца ў Сукхаваці — шчаслівай краіне, дзе няма ні дэманаў, ні асураў**, толькі багі і людзі.

— Дык ты не можаш мне сказаць нічога, ты, які стаў для мяне Настаўнікам?

— Магу сказаць адно: твой лёс напоўнены звонам і страсцю, і ты, адламаная галінка дрэва, павінна браць сілы ў яго. Будзе жыць Дрэва — будзеш жыць і ты.

…І зноў у Жывеніным сне варушыў незлічоным лісцем свяшчэнны Дуб, з дупла выглядала празрыстая-светлая, у вяночку з белых рамонкаў Ляля, а за ёю тоўпіліся русалкі, і тонкія галасы напаўнялі прастору музыкай. Над пяшчотна-сінімі палосамі квітнеючага лёну трапяталі жаўрукі, а вышэй над імі — бяздонна-велічнае неба такой асляпляльнай васільковай гушчыні, якую яна бачыла толькі на радзіме. Душа дзяўчыны кружылся над узгоркамі і далінамі, над чырвонымі мурамі навагародскіх вежаў, і ў сне такое замілаванне ахоплівала яе, што слёзы змочвалі жорсткую падушку, а вобраз радзімы і твары дарагіх яе сэрцу людзей стаялі перад вачыма і ўдзень. Ніколі не думалася, што такой нястрымнай, такою горка-безнадзейнаю мукаю будзе поўніцца сэрца. І аднойчы ў сне загучалі словы дзеда аб Навагародку, якія праходзілі раней паўз яе душу. І адкрылася ёй, што́ ёсць любоў да Радзімы.

---

* Персанаж тыбецкай міфалогіі.

** Адпавядаюць злым духам.

## КНІГА ДРУГАЯ

У самы канец месяца верасня, калі на Навагародчыне зацвітаюць ліловыя пругкія верасы і пад дубамі выходзяць на свет аксамітава-карычневыя баравікі, а ў Візантыі над ссохлай у камень зямлёй з дрэваў звісаюць яшчэ зялёныя цытрыны, у Саліма, вольнаадпушчаніка, што працаваў у гаспадарцы коміта Нікіфара, нарадзілася дзіця.

Яго сярэдняя жонка праз тое ледзь не развіталася з жыццём: яна ўжо бачыла Азраіла з мячом, якім той рыхтаваўся перарэзаць тонкую нітку яе жыцця. Але ўмелыя рукі тыбецкага лекара, якому дапамагала і Жывена, вынеслі яе з-пад страшнага крыла гэтага анёла смерці і разам з немаўлём вярнулі Саліму. І той, бязмерна ўдзячны абаім памагатым, наладзіў у іхні гонар свята, куды запрасіў і гаспадароў.

Нікіфар быў абурыўся, што раб хоча весяліцца ў час, калі ягонай гаспадыні робіцца ўсё горш. Але Еўдакія супакоіла яго:

— Чужая радасць можа даць трохі радасці і мне.

Коміт прысеў на ложак да жонкі, прыціснуў яе тонкія, амаль празрыстыя далоні да вачэй, каб схаваць слёзы. Ніколі раней так не казала Еўдакія, наадварот — капрызлівая, зацятая, не любіла яна чужой радасці. Часам і мучыла рабоў.

— Але ты можаш стаміцца. У мусульман заўсёды шмат тлуму, — паспрабаваў ён усё ж адгаварыць жонку. Ды тая настаяла на сваім.

Салім і ягоная сям’я пастараліся: дамок, дзе яны ўсе жылі, быў абвіты пляцёнкамі кветак, падлога памытая з пахкасцямі, а ў пярэднім пакоі гралі, надзімаючы шчокі, запрошаныя музыкі. У парадным пакоі, дзе ў пярэстым, пушыстым дыване як патаналі нізкія візантыйскія столікі, у самым куце, пад вялікаю іконай Маці Божай (прынесенай сюды дзеля гаспадароў), узвышаліся два разьбяныя крэслы, таксама абвітыя кветкамі. На сталах у каляровай шкляной вазе грудзіліся мігдалевыя зярняткі, салодкія кубічкі кунжуту, прадаўгаватыя арэхі, незнаёмыя Жывене і Галдану Цэрэнхану, якіх віталі не так гучна, як гаспадароў, але затое, мабыць, больш сардэчна.

Камітэса ледзь ускараскалася на крэсла. Яна была ў ліловай шаўковай сукенцы з залатымі кругамі па плячах, у шапачцы з касцянымі падвескамі. Нарумянены твар яе выглядаў амаль здаровым, але ссохлыя ў нітку вусны былі сцятыя, і яна, нават спрабуючы ўсміхнуцца, не магла расшчапіць сутаргава сціснутых тонкіх рук з бліскучымі залатымі пярсцёнкамі.

Муж час ад часу заспакаяльна схіляўся да яе, але ягоны твар быў трывожным. Ён любіў жыццё, любіў бляск двара і іпадром, дзе ягоныя коні, бывала, выйгравалі ў славутых скакуноў самога імператара. Любіў, калі на апошніх оргіях*, ужо на самым фінішы, дзе ў пыле не бачна было, чый конь наперадзе, у нецярпенні як кіпела ягоная кроў. А колькі асалоды бывала, калі на прыдворных пагулянках дзіэтарый**ківаў слузе, і той урачыста падносіў коміту віно ў залатым кубку. Шмат што шанаваў у гэтым жыцці знатны візантыец, не хацеў развітвацца з усім гэтым, стрыгчыся ў манахі. А такая пагроза была — імператар Балдуін час ад часу прыкідваўся, што надта шануе старадаўнія грэчаскія звычаі, асабліва калі гэта было яму зручна… Таму трывога, што не сціхаючы тачыла яго, клалася цёмнымі ценямі на твар, які цяпер выглядаў амаль такім жа бледным, як і ў ягонай жонкі.

— Час блізіцца. Нарэшце я сыду адсюль, — задуменна сказаў лекар.

Жывена ўстрапянулася.

— Гэта значыць, што яна… што яна…

— Так, памрэ.

— О Настаўнік, але ж я… Я тут рабыня, і мяне могуць прадаць яшчэ далей, у далёкі Егіпет, або разлучыць з сынам!

— Не думаю, — гэтак жа спакойна прамовіў лекар. — Здаецца мне, твой шлях будзе далей не рабскім.

— Чаму ты так думаеш? Ты гадаў? Я спрабавала пытацца ў Ашвінаў, але не магу зразумець іх мову. Мабыць, яны забыліся на мяне. А табе… Табе, мабыць, падуладныя многія духі.

— Не кажы мне пра духаў. Ты памыляешся.

Іх ціхую размову перапыніў Салім, які пстрыкнуў пальцамі і загадаў жанчынам уносіць стравы. Стоячы ля гаспадароў, ён гучна абвяшчаў назву кожнай:

— Гэта джаузаб, зроблены з самаркандскага рысу. Доўга шукаў я яго на тутэйшым базары! А вось сікбадж — мяса маладога барана, адваранае ў воцаце з шаўкавіцы. Фалузадж — салодкая страва, яна з мукі і мёду. А вось луб'я — гэтую фасолю добра гатуюць толькі мае жанчыны!

Тым часам музыка сцішылася, наперад выйшаў флейтыст у жоўтай кашулі, падпяразанай чырвоным поясам. Пад працяжную, са стогнам, мелодыю з-за заслоны выплыла танцоўшчыца.

---

* Грэчаская мера даўжыні ў 1,774 метра.

** Камергер, палацавы чыноўнік.

Хударлявая, гнуткая, як змяя, яна, віхляючы сцёгнамі, наблізілася да гасцей, рытмічна пстрыкаючы пальцамі. Бліскучы ліф з абаяру — персідскага шоўку — ледзь закрываў вялікія грудзі, шальвары з той жа тканіны пачыналіся ніжэй пупка. Моцна насурмлены твар з нізкім ілбом быў як выразаны з дрэва, чорныя валасы матляліся па аголенай спіне. Босыя ногі блішчэлі нафарбаванымі пазногцямі, далоні былі карычневыя ад хны.

Страсна ўсхліпваючы, флейта зніжала тон, а музыка паступова як бы ператваралася ў вуркатанне галубкі, што кліча па вясне сабе некага да пары. Танцоўшчыца то згіналася, то хісталася, паскараючы тэмп, жывот яе дробна дрыжаў, дрыжыкі разыходзіліся па целе, якое ўсё пералівалася вабнай, бессаромнай сілай. Ціха, але выразна вёў спакуслівы, бясконцы рытм барабан.

Мужчыны вакол прагна сачылі за танцоўшчыцай, твары іх заільсніліся, пачырванелі, некаторыя, самі таго не заўважаючы, прыстуквалі пальцамі ў такт музыцы.

Першы раз бачыла Жывена такую страсную пажадлівасць амаль аголенага жаночага цела, адчувала яго ўладную моц. Гэтае ўлонне нібы рыхтавалася засмактаць у сябе ўсё, што магло даць спатолю яго звярынай празе… Яна заплюшчыла вочы, спалоханая. Дык вось што прымушала дрыжаць галасы мужчын, якія абмацвалі вачыма яе цела. Вось чаму несліся за дзяўчатамі ў купальскую ноч хлопцы, ломячыся праз суччa, як маладыя ласі, б'ючыся за абранніцу ажно да смерці. І ў позірку Відэвута была яна, тая прага, схаваная за ласкавасцю, — гэтак агонь бушуе пад тарфянікам, але часам выбіваецца са страшнай глыбіні на паверхню танюткай стужкай сіняватага дыму!

Раптоўна нешта нібы штурхнула яе. Толькі на імгненне сустрэліся вочы дзяўчыны з вачыма Нікіфара, але нібы палыхнуў на яе той жа нястоены агонь пажадлівасці… Жывена імгненна напрунілася, як пры небяспецы. А ён адразу ж нахіліўся над жонкай, нешта зашаптаў, ды моцныя яго пальцы так сціснулі керамічны сподак, што ён глуха хрумснуў і ўпаў на падлогу. Ніхто не заўважыў здарэння, бо якраз у гэтую хвіліну з аглушальным стогнам абарвалася музыка, танцоўшчыца застыла, перарывіста дыхаючы. На жываце ў яе ільсніліся кропелькі поту, але насурмлены, з шырокімі чорнымі брывамі твар заставаўся спакойна-замкнёным, нібы душою жанчына была далёка ад навакольнага. Пасля яна слізганула за заслону, і тады мужчыны ў пакоі заварушыліся, загаманілі, а Еўдакія ўпершыню ўсміхнулася, на шчоках з'явіўся жывы румянак, вочы ж павільгатнелі.

«Ці былі ў яе ночы, накшталт нашай купальскай, калі ўсе сілы зямлі і прыроды нібы аб'ядноўваюцца, каб прымусіць чалавека страціць розум? Так, багі адбіраюць у людзей розум дзеля таго, каб тыя выканалі законы жыцця, і ўсе падуладныя тым законам. А яна? Ці трапятала ў абдымках? Ці так жа спакойна, як робіць усё, пабралася з комітам? — думала Жывена, назіраючы за сваёй гаспадыняй. — І чаму менавіта ад яе залежыць маё жыццё, мая свабода? Што звязвае нас?»

Яна баялася дадумваць да канца, успамінаючы вочы Нікіфара і той адзіны пагляд, над якім ён, мабыць, быў не ўладны, але які пратнуў яе шалёным мужчынскім жаданнем.

— Ведаеш, што я ўспамінаю? — загаварыў да яе Галдан Цэрэнхан.

— Што, Настаўнік?

— Старажытныя мудрацы казалі: «Дух адчувае пакуты жыцця і смерці датуль, пакуль не адмовіцца ад сувязі з прыродай. Падобна да таго, як танцоўшчыца, што паказала сябе сабранаму натоўпу гледачоў, заканчвае танец і сыходзіць, так і прырода, што творыць, адыходзіць пасля таго, як паказала сябе Духу ва ўсім бляску. Танцоўшчыца адыходзіць, таму што яе бачылі, а гледачы — таму, што яны нагледзеліся. Так разрываецца сувязь духу і прыроды, таму што яны валодаюць пэўнымі ведамі, і няма болей прычыны для іх сувязі і для тварэння, што ўзнікае ад гэтай сувязі».

Жывена доўга маўчала, раздумваючы над ягонымі словамі.

— Але скажы мне, Настаўнік, сам Дух адмаўляецца ад гэтай сувязі ці нешта прымушае яго рабіць гэта?

Галдан Цэрэнхан злавіў яе позірк, міжволі кінуты на Еўдакію.

— Якое ж ты дзіця яшчэ! — сказаў не то з дакорам, не то з сумам. — Я шмат казаў табе: усё, што павінна быць, збудзецца так ці іначай. А табе карціць дадому, табе хочацца свабоды, і ты міжволі чакаеш смерці гаспадыні.

— Я ведаю, — Жывена пакорліва схіліла галаву, — ты ўвесь час кажаш: «Назірай за сваім жыццём з мудрасцю і цікавасцю і вер, што ўсё будзе так, як будзе». Але, баюся, мне не стаць мудрай, бо для гэтага трэба ўзвысіцца над сваім жыццём. Яно б'е мяне!

Тым часам Салім схіліўся ў нізкім паклоне перад гаспадарамі.

— Я папрасіў маладога паэта Фоку, які служыць у залаташвейнай эргастырыі*, перакласці паэму аб каханні, якую

* Рамесныя майстэрні, яны ж і крамы.

толькі што напісаў славуты ў Румскім султанаце сельджукаў Джалаладдзін Румі. Прысвечаная яна Мяджнуну, які напоўніў усю пустыню песнямі аб каханай, з якой быў разлучаны. Уладар той зямлі ў рэшце рэшт загадаў прывесці Ляйлу да яго і быў здзіўлены, сказаўшы: «Ды любая нявольніца ў маім гарэме прыгажэйшая за цябе».

Вёрткі малады хлопец, якога Салім вывеў за руку, схіліўся перад комітам і яго жонкай і пачаў павольна чытаць на грэчаскай мове:

Спытаўся хан: «Дык ты і ёсць Ляйла,
Што хлопца да вар'яцтва давяла?
Але красы ў табе не бачу я:
Любая лепш нявольніца мая!»
Тады адказвала яму дзяўчына:
«Убач мяне ягонымі вачыма!
Як ён, п'яней ад дотыку рукі!
І летуценняў разгарні шаўкі,
Мо той, хто ад кахання звар'яцеў,
Спасцігнуў тое, што мудрэц хацеў
Пачуць ад свету, пыл абтросшы з кніг…
Душу кахання мой Мяджнун спасціг!
Ты паглядзі палёт арла удзень:
Высока ён, бяжыць унізе цень.
За ценем ты з пажадлівасцю скачаш,
Не сам прадмет — адлюстраванне бачыш.
І ў гэты цень пускаеш ты стралу.
Ды толькі што твой гнеў і злосць арлу?
І ў рэшце рэшт і сам спасцігнеш ты:
Жыццё прайшло, і твой калчан пусты…»*

Чытальнік замоўк, і ў пакоі запанавала цішыня. Усе глядзелі на Еўдакію. У яе дрыжалі вусны і вочы былі поўныя слёз. Яна абняла маладога чалавека.

— О пані! Гэта занадта вялікая ўзнагарода за мой сціплы дар, — засаромеўся той.

— Калі б я магла, я ўзнагародзіла б і таго, чые радкі, нават у перакладзе, прымусілі мяне плакаць, — адказала Еўдакія. — Дзе ён, гэты… гэты…

* Джалаладдзін Румі (пачэснае імя Маўлеві, 1207–1273) — персідскамоўны паэт, чые газелі і оды з'яўляюцца вяршыняй суфійскай містычнай паэзіі. (Тут і далей пераклад на беларускую мову мой. — *В. І.*)

— Джалаладдзін Румі, — падказаў Салім. — Нядаўна нам стала вядома, што Рум, родны горад паэта, ушчэнт спалілі стэпавыя качэўнікі. Манголы пагналі ў палон многіх румійцаў. Можа, Румі недзе сядзіць над сухім кавалкам хлеба, а можа, не мае і яго, хаця радкі з яго паэмы спяваюць у караван-сараях і ля стэпавых калодзежаў, а цяпер слухалі і мы, недастойныя сыны Алаха…

Калі скончылася свята і гаспадары шчодра адарылі маленькага сына Саліма і парадзіху, Галдан Цэрэнхан надзеў на шыю немаўляці зашмальцаваны скураны мяшэчак з маленькай драўлянай багіняй. На момант вынятая з мяшэчка, яна загадкава бліснула на прысутных вачыма, зробленымі з празрыстых дыямантаў.

— У час сваіх медытацый я дзень за днём наслойваў на гэты талісман свае пажаданні, — сказаў ён. — Думаю, што яны хаця трохі аберагуць твайго сына ад чорных сілаў Цемры.

— Ты ўжо разам з золатавалосай славянкай вырataваў мне сына, — схіліўся перад ім Салім. — Я на ўсё жыццё твой і яе даўжнік!

— Мы ўсе даўжнікі адзін перад адным, — азваўся лекар. — І ты рабі добрае, не чакаючы аддзякі, каб не перарываўся ланцужок добрых спраў.

* * *

Калі яны выходзілі з доміка Саліма, было позна. Надвор’е перамянілася: дзьмуў апаркцій, халодны паўночны вецер, і нізка гнуліся да зямлі алівы, мігдалавыя дрэвы і магноліі. Рэзка перамяняліся цені-аблокі на поўні, нібыта ганчакі кідаліся на звера і адскоквалі назад, ад чаго мошчаная каменем дарожка то цьмянела, то бліскала жоўтым прывідным святлом.

— Пастарайся быць асабліва клапатлівай з гаспадыняй, — сказаў тыбецкі лекар. — Трэба, каб адышла яна са спакойнай, светлай душой.

— Ты ўвесь час гаворыш, што ў тваіх незвычайных ведах няма нічога ад чарадзейства, — хутка загаварыла Жывена. — Але ж і ў нашым храме, дзе сабрана шмат ад даўняй мудрасці, не ведаюць і нават не чулі нічога падобнага — за некалькі месяцаў вызначыць час смерці! Мабыць, ты нешта хаваеш ад мяне. Які дух табе служыць?

— І ўсё ж я паўтару табе яшчэ раз: толькі мудрасць змагла так глыбока авалодаць таямніцамі жыцця і смерці, і ў гэтым няма

нічога ад цёмнага і злога. Нашы лекары першы раз узыходзяць на прыступкі ведаў з шасці гадоў, навука цягнецца гадоў трыццаць. І толькі праз гэты час навучаюцца тыбецкія мудрацы адрозніваць пульс Жыцця і пульс Смерці. Хочаш, я прачытаю табе Дадатковую Тантру з нашай Кнігі Кніг — «Чжуд-Шы»? Яе стварылі старажытныя мудрацы, перад якімі я — пясчынка.

І ён, не чакаючы адказу, стаў павольна чытаць:

Калі пульс Душы знаходзіцца на месцы —
значыць, на месцы душа,
Іначай жыццё становіцца ненадзейным.
Калі пульс Душы знік, душа пайшла наверх — гэта смерць,
Хаця яшчэ можна вярнуць яе абрадам ашукання смерці.
Калі ў мужчыны пульс Душы на правай руцэ скруціцца
І спыніцца — памрэ бацька альбо брат.
На абедзвюх руках — памрэ сам ад мяча.
Калі спыненне разавае — будуць згубы і плёткі.
Калі ў жанчыны скруціцца і спыніцца пульс Душы
На правай руцэ — памрэ нехта з родзічаў мужа.
Спыніцца на левай — памрэ муж альбо сын.
Калі пульс Душы мяняе месца — гэта з-за дэманаў.
Калі пульс Душы на працягу ста ўдараў быў роўным —
Чалавек дажыве да ста гадоў.
Калі на працягу пяцідзесяці — дажыве да пяцідзесяці.
Кожны ўдар тут роўны году жыцця.
Лекар, які ведае пульсы, усё роўна як размаўляе з імі,
Ён даведаецца аб усім, нічога не пераблытае…

Жывена ў захапленні слухала.

— Як шкада мне, што ты сыходзіш, падражніўшы мудрасцю, якой мне ніколі не авалодаць! — прашаптала яна.

— У цябе іншая мудрасць, свая, — адказаў ён. — Кожны народ вучыцца ў прыроды, якая яго акружае. Можа, мы, тыбетцы, ведаем болей за іншых таму, што на сваіх высачэзных гарах знаходзімся бліжэй да Неба?

Яны не паспелі яшчэ разысціся па сваіх пакоях, як да іх падбег папія — распарадчык комітавага двара.

— Пан кліча вас. Абаіх! І хутка!

— Я забягу да сына, — памкнулася да дзвярэй Жывена.

— Я загадаю слугам прыгледзець за ім, — таропка сказаў папія. — А ты спяшайся, бо калі праз хвіліну вас не будзе каля

пані — плёткі паходзяць па маёй спіне гэтак жа, як пасля і па тваёй!

Еўдакія задыхалася. Яна трымала за руку мужа, і твар яе здаваўся асабліва жоўтым і страшным на бялюткай вышыванай падушцы. Галдан, ледзь ступіўшы на парог, стаў даставаць з палісандравага пенала доўгія металічныя іголкі з філігранна закручанымі канцамі, і Жывена паспела толькі здзівіцца, адкуль узяўся ў яго той нязменны пенал, бо, здавалася, пад накручанай па візантыйскім звычаі тканінай-столай на Цэрэнхане не было нічога. А пасля яе як завіхурыла ў звыклым коле: парыла зёлкі, паіла хворую, абмывала ёй грудзі і ногі. Пасля іголак жанчыне стала лепей, адпусціла задушша, дыханне паспакайнела. Млявую яе руку лекар амаль не выпускаў са сваёй вялікай, каравай пясці, лоб яго хмурыўся.

— Колькі разоў ты вяртаў мяне з таго свету! — ціха прашаптала камітэса.

Жывена ж з болем падумала пра хлопчыка. Ці заснуў ён хаця? Ці, можа, глядзіць у цемру і чакае яе, каб прыціснуцца, абшчаперыць шыю худзенькімі ручкамі і запытацца сваё нязменнае:

— Любіш мяне?

Успомніўшы гэты ягоны звычай, дзяўчына зноў падзівілася таму, што гэтае малое, якое не можа помніць жах свайго нараджэння, так чэпка трымаецца за ейную любоў, якая толькі і можа выратаваць яго ў гэтым свеце.

Пакуль яна націрала Еўдакію пахкімі алеямі, падавала ёй пітво ў круглай сярэбранай чашы, думкі дзяўчыны, прынадзеныя магчымым выбаўленнем з рабства, ірвануліся, як вада пасля падняцця млынавай застаўкі, і ўсе яны былі аб ёй, радзіме, аб блізкіх.

Як жыве храм? І ці чакаюць яе там? Ці мроіць аб ёй той, хто туліўся ў складкі сукні, як спалоханы хлапчук, баючыся слова адмовы? Ці не забыўся ён на яе? Усплывалі радкі з паэмы, што чытаў сёння малады грэк. Не кожнаму даецца ў жыцці каханне, якое мацнейшае за смерць, за адлегласць, за ўсе перашкоды. Але кожная жанчына марыць аб ім, кожная хоча быць адзінай — на ўсе гады, якія адпусціў Лёс, на ўсе выпрабаванні, на шчасце і няшчасце… Ці далі ёй такое каханне вечна юныя, шчаслівыя багі Ашвіны? Яна думала пра Відэвута — але ў памяці ўставаў твар ягонага брата, падораная ім выява, падарожжа ў Нямеччыну, бясконцая дарога, якая і дасюль некуды яе вядзе і наўрад ці скора скончыцца… Яна была не ў ладзе сама з сабой, раздваенне

мучыла, і, прыціхлае на нейкі час, заглушанае рабствам, яно паднімалася зноў і зноў.

Калі Еўдакія, нарэшце, адпусціла яе, пакінуўшы каля сябе лекара, Жывена, дабраўшыся да ложка і прылашчыўшы соннага хлопчыка, які скруціўся ў камячок і ўсё ціснуўся да яе, паспрабавала заснуць. Сон як уцёк. У вачах цясніліся вобразы роднага краю, твары, падзеі, якія яна раней адганяла намаганнем волі, бо занадта ранілі яны душу, нагадваючы аб самым галоўным, страчаным, здавалася, назаўсёды — свабодзе.

Успомніла Міндоўга, даўні дзень хрышчэння яго, а пасля — прынясце каталіцтва, карону, што выблісквала на сонцы жоўтымі, сінімі, зялёнымі камянямі, дзеля якой ён адважыўся памяняць веру, чым кінуў выклік баярству горада. Яна, зусім дзіця, не надта разважала, што да чаго, прымала ўсё як ёсць. Цяпер усё бачылася іначай.

Апынуўшыся ў сталіцы тысячагадовай імперыі, яна адчула, што такое сапраўдная ўлада. Нікіфар, вяртаючыся з палаца, нібы прыносіў з сабою бляск двара, дзе кожны рух севастакратара адгукаецца ў такім мностве жыццяў, якія немагчыма злічыць, бо на Візантыю глядзяць і ад яе залежаць многія дзяржавы. Перад імператарам Балдуінам трапеча нават ганарысты Нікіфар, хаця і пасмейваецца часам з таго, што той не высакародны, не грэк. Імператар тут — Усявышні, які пераўзыходзіць усіх багоў, а ўлада, хаця і заплямленая крывёй, вабіць кожнага. І яе гаспадара, вядома…

Жывена нібыта зноў убачыла, як страсянуў яе там, у пакоях Саліма, сваім позіркам гэты хударлявы, высокі, з акуратна падстрыжанай сівой барадой чалавек. Яна добра адчула, што было ў яго шырока пастаўленых карычневых вачах, якія часта раўнадушна глядзелі як бы скрозь людзей. Ёй даводзілася неаднойчы бачыць той выраз, і заўсёды гэта пагражала бядой. Аднак і страсць коміта несла пагрозу, бяду для яе. Як абараняцца? Яна рабыня, зусім бяспраўная, нібыта гарох ля дарогі, і кожны імкнецца адарваць сабе нешта ад прыгажосці, ад святла, якім адарылі яе багі.

У трызненні нейкія чорныя цені схіляліся над ёю, яна плакала, адкідалася ад іх. На досвітку ж, ледзь прымружыла вочы, як нехта загрукаў у дзверы, і яна пабегла да гаспадыні, ледзь паспеўшы накінуць на плечы грубую ваўняную накрыўку-хустку.

Еўдакія памерла на руках у Галдана Цэрэнхана — спакойна і без пакут, у хвіліны, калі Смерць найчасцей забірае тых, каго прыгледзела: неўзабаве пасля крыку першага пеўня, калі на

Перуновы шлях* ноч накідвае покрыва туману, і толькі зорка кахання Чагір самотна гарыць над краем зямлі.

Жывена, убачыўшы мёртвую гаспадыню, ускрыкнула.

— Цішэй, дух яе спалохана блукае ў цемры паміж зданяў, — перасцярог Жывену лекар. — Ты павінна ведаць, што пры нябожчыках нельга плакаць і жахацца.

Аднак сам гаспадар, што прыбег да мёртвай жонкі, заплакаў, абшчаперыўшы яе тонкае, амаль бязважкае цела. Калі ж Жывена падышла да Галдана Цэрэнхана і шэптам запыталася ў яго, калі будуць абмываць нябожчыцу, гаспадар раптам падняў галаву і дзіка закрычаў:

— Тут распараджаюся я, а не нявольнікі!

— Па абяцанні гаспадыні яна атрымлівае вольную, — ціха прамовіў тыбецец.

— Не дачакаецца яна вольнай. Застанецца навекі тут, у Візантыі!— выкрыкнуў коміт.

У Жывены падкасіліся ногі, у галаве памуцілася. Пераход ад надзеі да роспачы быў ашаламляльным, і яна не вытрымала — слёзы пырснулі з вачэй. Урач, суцяшаючы і, відавочна, баючыся яшчэ горшых для яе наступстваў, абняў дзяўчыну за плечы. Але яна несціхана плакала, стоячы ў куце і гледзячы на нябожчыцу. Здавалася ёй, што імкліва нясе яе ў чорную бездань, адкуль не выбрацца ўжо ніколі. Плакала, не звяртаючы ўвагі на мітусню, што ўсчалася навокал. Тады Галдан Цэрэнхан уладна ўзяў яе за руку і павёў прэч. Яна ішла, спатыкаючыся і ўсхліпваючы. Ён пасадзіў яе на лаву, моўчкі сеў побач. Чакаў.

...Чарната, якая ахутала яе, паволі пачала праясняцца. Жывена падняла галаву, зірнула на тыбетца і адвярнулася, саромячыся. Ды ён не стаў нічога гаварыць, толькі любоўна паклаў сваю каравую руку на яе золатавалосую галаву. І тады зноў хлынулі слёзы, толькі гэта былі ўжо слёзы палёгкі і падзякі.

Ніколі пасля не забывалася Жывена на гэтую хвіліну, заўсёды, калі нехта прыходзіў да яе са сваёй бядой, успаміна́ла тую раніцу ў Візантыі, белую мармуровую дарожку, над якой кружыўся жоўта-празрысты ліст платана, і малінавую зару з-за вастраверхіх аліваў, асабліва ж момант, калі скамечаную душу яе, нібыта ліст пергаменту, расправіў сваім дотыкам чужаземны лекар.

Яна выцерла вочы, слаба ўсміхнулася Цэрэнхану і моўчкі пайшла да хлопчыка, каб пакарміць яго. Зноў цалюткі дзень прыйдзецца завіхацца, цяпер ужо ля мёртвай гаспадыні, каб і

* Так у славян называўся Млечны Шлях. Чагір — зорка Венера.

ў труне выглядала яна так, як належыць жонцы коміта, члена імператарскага сінкліта, які займаў там не апошняе месца*.

Хлопчык усё яшчэ спаў у сваёй улюбёнай позе — скруціўшыся скрутулькай. Не стала будзіць яго — папрасіць прыгледзець яго кагосьці з дзяцей Саліма, толькі паўглядалася ў ружовы са сну тварык, бялявыя валосікі над спацелым лобікам. І адчула, як вяртаюцца сілы, жаданне жыць і змагацца. З тым і пайшла ў новы, невядомы дзень, насустрач сабе, будучай, таксама невядомай, бо кожны дзень — не толькі згуба, але і набытак. Толькі вось ведаць бы, які́м будзе той набытак…

Еўдакію адпявалі ў Касмідыі, у царкве Бессярэбранікаў, пабудаванай аўгустам Міхаілам Чацвёртым больш чым два стагоддзі назад. Жывена атрымала ад аканома разам з кавалкам дарагой тканіны строгі загад быць у царкве і не магла запярэчыць, хаця ёй давялося амаль цэлую ноч сядзець над жалобным уборам, робячы вялікую чорную накрыўку з падоранага байбэрэка — кручанага шоўку. Такая шчодрасць з боку гаспадара была ўжо заўважаная слугамі, дзяўчыне было прыкра адчуваць іх зацікаўленыя позіркі. Таму яна пастаралася забіцца ў самы кут, што дало ёй магчымасць добра агледзець сапраўды велікапышнае ўбранства царквы, адной з многіх гэткіх жа славутых і багатых у Цар-горадзе. Нават ужо аслабленае блізкай непагаддзю сонца і цяпер, у канцы другога месяца новага года, шчодра лілося скрозь высокія вокны, ззяла на сценах залатая смальта мазаік, а каштоўныя камяні, якімі шчодра аздоблены мармуровыя сцены і падлога, іскрыліся тысячамі адценняў, ад чаго сама царква здавалася незямной. Надзіва гарманічная, яна, здавалася, была задуманая не звычайнымі людзьмі, а нейкімі вышэйшымі істотамі.

— Ці не такое ваша светлае жытло, сонечныя Ашвіны? — уражаная харастром, думала Жывена. Але калі вочы яе апусціліся, позірк упаў на саркафаг, што стаяў амаль побач. На цёмна-зялёнай бакавіне — мабыць, труна была з яшмавага каменю — можна было разгледзець надпіс. Яна з цяжкасцю складала літару да літары.

Дык, значыць, гэта ён, няшчасны ўладар Візантыі, які пакутаваў ад страшнай, невылечнай хваробы і памёр зусім маладым, Міхаіл Чацвёрты! Яна ўспомніла, як маладая грачанка

* У Візантыі існавала строгая іерархія чыноў і рангаў — усяго 15. Носьбіты першых 12 уваходзілі ў склад сінкліта.

чытала Еўдакіі «Хранаграфію Міхаіла Псела», дзе апавядалася пра многіх валадароў Візантыі, чый шлях да трона быў заліты крывёю ахвяр. А пасля самі яны рабіліся ахвярамі іншых, гэткіх жа прагных і бессаромных. Брат прыдворнага еўнуха, упадабаны шасцідзесяцігадовай імператрыцай Зояй, гэты чалавек, які ляжыць цяпер у кутку царквы, пераступаў клятвы, быў каханкам не каханай ім севасты, урэшце дапамог ёй выбавіцца ад мужа, Рамана Трэцяга. Як там было ў Псела? Здаецца, вось як: «Яны спачатку адурманілі імператара зёлкамі, а пасля падмешвалі яму ў ежу і чамярыцу». Пабыўшы ж, у сваю чаргу, на троне, смяротна хворы Міхаіл Чацвёрты спрабаваў вымаліць здароўе і будаваў гэтую царкву з шалёнай надзеяй на дараванне. Сюды прыйшоў напярэдадні смерці і, плачучы, стаяў на каленях перад гэтым вось алтаром, прасіў, каб пахавалі яго тут, у царкве. А Зоя, севаста, шасцідзесяцігадовая ўладарка Візантыі? Пасля гэтага хлопчыка-мужа ў яе быў яшчэ і Канстанцін Дзявяты Манамах. Яна таксама была няшчаснай, прагна хацела тую радасць, якую маюць самыя абяздоленыя, — дзіця. Ды ўсё роўна памерла бяздзетнай…

Думкі яе зноў перайшлі да бацькі, Міндоўга.

Колькі крыві праліў і ён па дарозе да Новагародскага трона! І хоць нашмат меншае ягонае княства, а непакорныя князі самі ўздымалі смуту, ці апраўдаецца ён перад багамі за тыя смерці? Ці ўладару, які збірае пад адну руку землі, каб стварыць магутную дзяржаву, даруецца тое, што недаравальнае для простых смяротных? Бо сабраныя ў адно людзі збіраюць у адно і слабыя парывы свайго духу, а менавіта з яго, духу, і ствараецца над той ці іншай краінай ахоўнае пакрыва. Над магутнай краінай яно таксама магутнае, вось толькі трэба, каб не азмрочваўся той покрыў злом і няпраўдаю. Можа, і даруюць багі Міндоўгу, а значыць, і ягоным дзецям, бо хто ж, як не дзеці, нясе на сабе і ў сабе, у сваёй крыві бацькаву віну ці бляск подзвігаў?

Чаму ўсё больш здаецца ёй, маленькай часцінцы свету, такога далёкага ад гэтай вялізнай, славалюбнай, пышнай Візантыі, што ў агромністым покрыве над гэтай «сталіцай сталіц» распаўзаюцца чорныя плямы тлену?

Вялікая царква не змагла змясціць усіх, хто прыйшоў паглядзець на нябожчыцу, а яшчэ болей, мабыць, на самога імператара Балдуіна Другога — разнесліся чуткі, што ён прыйдзе на адпяванне. Мноства народу чакала яго ля царквы, і тут, у храме, неўзабаве таксама стала цесна. Жывену як аднесла да самага алтара, і яна бачыла, як напружана трымаюць натоўп

раўдухі* — іх твары заставаліся спакойнымі, але пачырванелі ад натугі, а за іх плячамі, і нават звешваючыся з-за іх, стаялі знатныя візантыйцы — у шаўковых каптанах, вышытых выявамі залатых звяроў, а іхнія жанчыны ў бліскучых туніках, на якія з галоваў звешваліся жалобныя чорныя шалікі, пад якімі, аднак, блішчалі дыяманты. Без каштоўных камянёў у прапаломе — прычосцы для ўрачыстых выхадаў — не абыходзілася ні адна з жанчын, чые мужы мелі высокія рангі, толькі цяпер абавязковыя белыя вуалі яны замянілі на чорныя. Аднак перашэпты іхнія былі не аб смерці, а тычыліся таго, што хвалявала ўсіх: апошніх навін пры двары. Азіраючыся на суседзяў, ціха, намёкамі, шапталіся і аб тым, ці скончыцца нарэшце шасцідзесяцігадовая ўлада лацінян, якія захапілі Візантыю хітрасцю і сілай, прыкінуўшыся саюзнікамі. Цяпер уздымалася ваеннай сілай, узвышалася частка былой імперыі — Нікея, там гартаваў сілы мужны і ўдачлівы военачальнік Міхаіл Палеалог. Ён ужо амаль падпарадкаваў другую частку расколатай лацінянамі Візантыі — Эпірскае царства, і ўсё мацнейшымі рабіліся размовы аб тым, што немінуча пойдзе Палеалог на сталіцу, каб вярнуць Візантыі былую веліч і адзінства. Новы, 1262 год ад нараджэння Хрыстова абяцаў быць для гэтага спрыяльным, у некаторых цэрквах ужо адкрыта маліліся за будучую перамогу Палеалога, хаця гэта ўсё яшчэ было небяспечна. Грэчаскія ж святары, якія падтрымлівалі лацінян, з трывогай думалі аб будучым, гэтак жа, як і знатныя візантыйскія чыноўнікі, якія не пажадалі тайна дапамагчы войску Палеалога, а спадзяваліся на ваенную сілу лацінянаў і на падтрымку рымскага папы.

Раскол паміж патрыётамі, што не жадалі прызнаць франкскіх рыцараў за патомных пурпуародных, і тымі грэкамі, якія звязалі свой лёс з заваёўнікамі, жадаючы багацця і аўгусцейшай ласкі, павялічваўся з гадамі, асабліва апошнім часам, калі севаст Балдуін Другі стаў браць на высокія пасады патомных грэкаў і даў многія прывілеі праваслаўным святарам. Ягоны папярэднік, Балдуін Першы, гвалтоўна прызначыў патрыярхам свайго сябра, венецыянца Тамаза Марасіні, і гэта былі горкія часы для праваслаўных. Аднак цяпер многія роды парадніліся з заваёўнікамі праз шлюбы, і паступова прышлыя рыцары як бы растваральіся ў салодкім, ліслівым, велікапышным жыцці магутнай сталіцы рамеяў. Яны яшчэ нібыта строга прытрымліваліся сваіх

* Воіны, што выконвалі «паліцэйскія» функцыі ў палацы і ў час выездаў імператара.

франкскіх альбо нямецкіх парадкаў: так, зямля, ленны рыцарскі надзел пераходзілі па спадчынным праве толькі старэйшаму сыну, у той час як у знатных грэкаў — архантапулаў — зямля перадавалася пароўну дочкам і сынам. Яны лічылі сваім кроўным абавязкам абарону палаца і самыя важныя — паліцэйскія альбо ваенныя — функцыі, хадзілі маліцца ў каталіцкія храмы. Аднак для іхніх дзяцей часам больш звыклай рабілася царква, і шлюбы ладзіліся па ўсходнім і заходнім абрадах адначасна, калі прышлы браў мясцовую.

Непахісным заставаўся, аднак, звычай, што замацоўваўся стагоддзямі: велізарнай, застыглай, як смальта на славутых візантыйскіх мазаіках, была ўлада севаста — імператара. Нават такога, якім быў Балдуін Другі — пастаўлены на трон сваім цесцем, славутым воінам дэ Брыенем, неабчасаны заходні рыцар, што прывык сячы баявой сякерай з усяго размаху. Аднак жа трыццаць тры гады, праведзеныя на троне, — і якім троне! — зрабілі з яго іншага чалавека. Ды што там чалавека — паўбога, чые выявы на залатых манетах — намісмах — нібы памнажалі яго самога, прымушалі візантыйцаў, нават самых нізкародных, нават у тавернах ці публічных дамах, паніжаць голас, гаворачы пра імператара.

…Жывена хутчэй пачула, чым убачыла, момант ягонага з'яўлення. Тут, у царкве, людзі не падалі на калені, хоць нават нізкі паклон перад ім у палацы быў не для ўсіх даступнай прывілеяй, гэтак жа як і хваласпевы. Аднак усе схіліліся ў паклоне, а калі імператар пры ўваходзе ў царкву стаў на калені, тое ж зрабілі і астатнія. У той жа момант адначасна закурыліся кадзільніцы з духмяным ладанам, заспявалі на хорах пеўчыя, святар паднёс аўгусту чашу з вадой — Жывена заўважыла, як заззяў прамень сонца ў гэтай залатой чашы, калі імператар, па рымскім звычаі, абмыў у ёй пальцы.

Калі Балдуін Другі, цяжка ступаючы, пайшоў да труны, што стаяла на ўзвышшы, Жывена пачула, як шапталіся жанчыны аб тым, што ў маладосці ён быў закаханы ў прыгажуню Еўдакію. Ды ён, мабыць, і сам тады быў не з горшых. Нават цяпер, ужо сагнуты хваробамі і старасцю, ён быў высокі, нешта зухаватае было ў ягонай паставе, у рэдкіх кучаравых валасах, што выбіваліся з-пад кароны. Аднак твар быў апухлы, з мяшэчкамі пад вачыма.

Пастаяўшы колькі хвілін ля памерлай, севаст зняў з пальца пярсцёнак, паклаў на рукі нябожчыцы. Па царкве прашалясцеў уздых — гэта па даўніх, яшчэ язычніцкіх звычаях рабіць было

няможна, іначай нябожчыца хутка прыйдзе па ўладальніка пярсцёнка, аднак ніхто не сказаў ніводнага слова. Магчыма, там, у франкскіх краінах, была такая завядзёнка, да таго ж хто змог бы пярэчыць самому аўгусту?!

Працягнуўшы руку для пацалунка Нікіфару (і зноў па царкве пайшло перашэптванне, бо прыдворныя высока аценілі гэтую міласць), Балдуін пакінуў храм, і памінальная служба пачалася.

* * *

А назаўтра сабраўся ў дарогу Галдан Цэрэнхан. Коміт шчодра расплаціўся з ім: падарыў дзесяць залатых намісмаў, шаўковы ўсходні халат і саф'янавыя боты.

— Я адмоўлюся ад грошай, гаспадар, калі ты выканаеш абяцанне, дадзенае тваёю жонкай, — кланяючыся, паспрабаваў загаварыць аб Жывене лекар.

Нікіфар, які перад тым быў мяккім і сумным, выпрастаўся, вочы яго загарэліся.

— Мая рабыня не патрабуе тваіх клопатаў, лекар-чужаземец, — холадна адпрэчыў ён. — Ідзі, пакуль шлях яшчэ адкрыты для цябе!

— Ты гаворыш пра аблогу, якая вось-вось пачнецца? — зноўку пакланіўся яму Цэрэнхан.

Нікіфар апусціў вочы. Неспадзявана ён выказаў уголас тое, аб чым шапталіся паўсюдна, — чакаецца вайна. Ён амаль сілай увапхнуў у каравыя далоні лекара новенькія намісмы.

Пяць з іх Галдан аддаў Жывене, хаця яна супраціўлялася і не хацела браць.

— Мне даволі і паловы, каб дабрацца да радзімы, — нарэшце цвёрда паставіў на сваім лекар. Жывена глядзела на яго з любасцю.

— Што ты цяпер будзеш рабіць у сваёй снежнай краіне?

— Тое, што і тут, — дапамагаць людзям. Пакручастыя звівы кармы, не кожнаму дадзена асэнсаваць свае шляхі. Але я веру, што ў рэшце рэшт усе мы зможам зрабіць гэта. Іначай чалавецтву пагражаюць вялікія беды.

— Ты палохаеш мяне, Настаўнік!

Яго твар азарыўся радасцю.

— Можа, і сапраўды я, недастойны, нечаму змог цябе навучыць. Але і ты дапамагла мне ўбачыць свет па-новаму. Дык дзякуй табе за гэта. Я мог бы сказаць — сустрэнемся ў новых нараджэннях, але лепей пажадай, каб я ніколі больш не

прыходзіў на гэтую зямлю, каб вызваліўся ад пакутлівага кола нараджэнняў*.

— Я прымаю жыццё як шчасце, у тым розніца між намі. Таму пажадай мне зноў і зноў усё ж вяртацца сюды. Хаця б пялёсткамі ліліеі. Хаця б костачкай вось гэтай алівы. Хаця б… ну проста прыходзіць, і ўсё!

І зноў пасвятлеў, як пры словах дзіцяці, суровы і жорсткі, як адзінокая закарэлая сасна над безданню, падарожнік. А пасля павярнуўся і лёгка пакрочыў па мяккай пыльнай дарозе — невысокі, каржакаваты, у суконным балахоне і са скураной торбай за плячыма, дзе ляжалі саф'янавыя боты і шаўковы халат. Цяжкія ліловыя гронкі позняга вінаграду схіляліся над сцяжынай, якая вяла ад спакуслівай сталіцы сталіц у далёкую краіну, што называлі «Дахам свету»**.

Яна адчула вялікую тугу — ніколі, ніколі не пабачыць яна загадкавыя будыйскія храмы, дзе звіняць званочкі, адганяючы злых духаў, дзе на тоўстых касматых жывёлінах прабіраюцца скрозь аблокі над галавакружнымі безданямі падарожнікі і дзе шмат дзівосаў, якія застануцца невядомымі…

Калі гэтая бясконцая дарога нібы растварыла ў сабе Галдана Цэрэнхана, Жывена апусцілася на прыдарожны валун, і словы, якія яна так і не сказала гэтаму маўкліваму, вонкава няўклюднаму чалавеку, гэтаму мудраму лекару з Паднябесся, зашчымелі ў грудзях так раптоўна і балюча, што перахапіла дыханне. Няўжо праўда, што самая моцная, глыбокая роднасць бывае не па крыві? Дарагім стаў ёй не родны бацька, а Святазар. Блізкім стаў і гэты, раней зусім незнаёмы чалавек. І кволае немаўля, якое яна ўратавала ад смерці.

Доўга сядзела яна на валуне, але давялося ўстаць і ісці назад, у дом пад чырвоным чарапічным дахам, дзе чакала невядомае Заўтра. Было яно пакуль бязрадасным — так падказвала сэрца.

Так і сталася. Слізкай жабкай паскакалі дні, яе ні на хвіліну не пакідалі адну. Нават уначы. Калі Жывена аднойчы наважылася выйсці ў сад, нячутна ўзнікла ля яе постаць спафарыя — ахоўніка-мечаносца, што заўсёды суправаджаў Нікіфара. Спафарый ішоў за ёю не хаваючыся, адказваючы коратка на яе папрокі: «Так мне загадаў гаспадар». Ісці скардзіцца на яго Нікіфару Жывена не рашалася. Яна баялася размовы, якая магла ўзнікнуць паміж

* Філасофія будызму, заснаваная на тым, каб у гэтым жыцці пазбавіцца новага нараджэння як крыніцы пакут.

** Тыбет.

імі. Нясказанае слова як бы не існуе, і ёсць яшчэ магчымасць зрабіць выгляд, што і не здагадваўся на яго. А сказанае прымушае да дзеяння.

Час ад часу ёй прыносілі падарункі. Без слоў. Проста слуга клаў на ложак круглае бронзавае люстэрка. Альбо каралі з каштоўнага рыбінага зуба*. Альбо шкатулку для ўпрыгожанняў — сандалавае дрэва было аздоблена цудоўнай разьбой. Яна складвала падарункі на паліцу, каб было бачна, што яна імі не карыстаецца. Каб заняць час, ішла ў бібліятэку — адзін з продкаў Нікіфара купляў кнігі ў скрыпторыі, дзе іх перапісвалі для імператарскай бібліятэкі, таму ў скрынях і на паліцах ляжала лепшае, напісанае ў Візантыі. І заўсёды, нават калі не бачыла нікога, адчувала, што нехта крадзецца следам.

Аднойчы ў бібліятэку прыйшоў Нікіфар. За два тыдні, якія прайшлі пасля смерці жонкі, ён схуднеў, але гэта пасавала яму: вочы пабольшалі, прапала азызласць. Белая шарсцяная хламіда, перакінутая цераз плячо, звісала ззаду на спіне. Жывена ўскочыла, нізка пакланілася. Але ён жэстам спыніў яе:

— Ты тут не рабыня. Не кланяйся мне болей.

— Але тады хто я, гаспадар?

Каміт не адказаў. Ён падышоў да стоса кніг, якія ляжалі на палісандравай паліцы, выбраў адну. Прачытаў на памяць:

Як падобныя бездані мора і жыццяў: салёная горыч,
Цемра і морак; ціш у гавані толькі на міг.
Мора пазбегнеш, але кожнаму дэман адмерыць
Буры мірскія — яны жахаў прыносяць не менш.

— Хто гэта, ведаеш? — І, не чакаючы адказу, прачытаў імя, напісанае на вокладцы: — Кірыёт. Іаан Кірыёт. Калісьці ў школе мы цытавалі яго ледзь не на кожным уроку. А вось «Арганон» Арыстоцеля, Эўклідава «Геаметрыя». Вы там, у паўночнай краіне, чулі такія імёны?

— Пры нашых храмах таксама існуюць скрыпторыі, толькі называюцца яны іначай. Нашы летапісцы таксама перапісваюць усе падзеі, каб пакінуць нашчадкам. І ты забываешся, высакародны каміт, што ўжо тры стагоддзі ідзе па нашых землях хрысціянскае вучэнне, якое прыносілі і з Усходу, і з Захаду, — Жывена зноў пакланілася Нікіфару.

* Маржовая костка.

— Але ты не хрысціянка. Адкуль жа ты ведаеш грэчаскую мову і нават санскрыт?

— Дзед мой жыў тут, у Грэцыі. У нашым жа храме так доўга, што ўжо ніхто і не ведае, колькі, усё яшчэ жыве старадаўняя мудрасць арыяў. А яна, высакародны коміт, яшчэ старажытнейшая, чым нават славутая на ўвесь свет візантыйская…

— Не называй мяне «высакародным комітам»! — злосна сказаў Нікіфар.

— А як жа называць цябе, гаспадар?

Дзіўна: чым больш раздражнёным рабіўся Нікіфар, тым больш спакайнела Жывена. І ўсё ж смяротна небяспечным быў для яе гэты чалавек. У імперыі рамеяў жыццё любога, нават самага знатнага прыдворнага, магло раптоўна абарвацца па адным толькі слове імператара. Што казаць пра ніжэйшых альбо рабоў? Ды і самі цары тут часта бывалі ахвярамі. Яна ўспомніла радкі з «Хранаграфіі» Псела, дзе той апісваў апошнія гадзіны царавання прыёмнага сына імператрыцы Зоі Міхаіла Пятага, які замест удзячнасці саслаў сваю патронку на далёкі востраў і быў за гэта пакараны абуранымі гараджанамі: «Што ж да цара, то кат, гледзячы, як той баіцца і бясконца заклікае да літасці, звязаў яго як мага мацней і схапіў так шчыльна, каб не раскрэмзаць яму твар у час пакарання. Калі вырвалі вочы і агульная злосць і ўзбурэнне скончыліся, натоўп пакінуў яго ў спакоі».

І сёння гэта доўжыцца. Нямала сляпых ходзіць па вуліцах Цар-горада, і нікога гэта не дзівіць.

Дрыжыкі прайшлі па яе целе пры гэтых думках, але яна рашуча адагнала страх. Баязлівец прайграе, ёй прайграваць няможна.

— Я для цябе магу быць проста Нікіфарам, — панізіўшы голас і чамусьці азірнуўшыся, сказаў коміт.

— Я нічым не заслужыла такой літасці, — зноў схілілася перад ім дзяўчына.

— У нашых жанчын цёмныя валасы. А ў цябе… у цябе яны залатыя. Я ніколі не бачыў такога адцення. І ў цябе ёсць мудрасць. Скажы мне, якога ты роду? Я ведаю, ты таксама высакародная. Хто былі твае бацькі?

Спакуса расказаць пра Міндоўга на імгненне ахапіла яе, ды пасля прыйшло ацверазенне. Гэта яму важна, каб наложніца ў яго была знатная. А ёй… Ёй трэба хутчэй знікнуць адсюль, растварыцца ў бязмежжы дарог і знайсці тую, якая вядзе на радзіму. Яна ясна зірнула на коміта і ўсміхнулася:

— Я простая жрыца маленькага язычаскага храма, але тыя, каму мы пакланяемся, магутныя багі. Мабыць, яны падказалі

тваёй жонцы думку — падарыць мне свабоду, якую я спадзяюся атрымаць і з тваіх рук, высакародны Нікіфар, хай ахоўваюць цябе Ашвіны!

Ён зноў нічога не адказаў, толькі, гнеўна зірнуўшы на яе, стрымгалоў памкнуўся да выхаду.

Вечарам да яе прыйшла Фаціма. Таўстуха трымалася з Жывенай цяпер зусім іначай — перш чым абняць, нізка схілілася перад дзяўчынай, а малому Святазару прынесла дарагі падарунак: маленькія залаташвейныя пантофлікі. Сама прыгатавала каву і паставіла на столік міндалавыя зярняты, арахіс, фаянсавае блюда з хабісам — сумессю салодкага пячэння. Жывена заўважыла, што просты гліняны посуд, якім яна карысталася, ужо заменены іншым — узорыстыя керамічныя філіжанкі, мяркуючы па ўсім, былі нятаннымі.

Фаціма, нібы між іншым, зацікавілася падарункамі і стала хваліць кожны з іх.

— У нас, славян, ёсць звычай, непрыемны для ўсходніх людзей, — казаць тое, што думаеш, — перабіла яе Жывена. — Ты прыйшла сёння не як сяброўка. Ты прыйшла ўгаворваць мяне — на што? На тое, каб зрабіцца наложніцай гаспадара, бо яму наўрад ці дазволяць са мной ажаніцца?

— А раптам? — спрабавала абараняцца ашаломленая такім націскам жанчына.

— Ніякіх раптам! Наадварот — яго пастрыгуць у манахі хутчэй за іншых*. Да таго, зразумей, што я… я хачу толькі аднаго: каб ён выканаў абяцанне і адпусціў мяне. Я ведаю, што, калі тут адпускаюць на волю рабоў, даюць ім кавалак зямлі альбо грошы. Мне не трэба нічога, толькі пергамент аб волі, бо іначай ніводны карабель не возьме нас з сынам. На мне, як на скаціне, выпалена таўро коміта.

— Я не буду апускаць у калодзеж спрэчкі сваё вядро**, — сказала Фаціма. — Але падумай сама: дарога на радзіму небяспечная, а тут цябе чакае забяспечанасць і любоў знатнага! Калі ж ён астыне, ты да гэтага часу станеш заможнай і зможаш жыць без скрухі ў сталіцы сталіц, куды мараць трапіць і не такія, як

---

* У Візантыі неадабральна адносіліся да другога шлюбу, а асобам высокага рангу мог прыйсці загад імператара пастрыгчыся ў манахі. Праўда, у манастыр ісці было неабавязкова, аднак трэба было весці манаскі лад жыцця.

** Мудрагелісты ўсходні выраз, які азначае «не буду спрачацца».

ты, апранутая ў сукню легкадумства! І тады ты здолееш выбраць сабе любога з прыгажуноў, якімі багатая наша сталіца!

— Цудоўна ты гаворыш, але ў гэтай сталіцы сталіц няма адной рэчы, і ніхто не зможа мне яе дастаць!

— Якой жа? — са здзіўленнем сказала Фаціма. — Не веру, што ў Візантыі чаго-небудзь можа не быць.

— Ёсць у нас на Новагародчыне такая кветка — васілёк, валошка.

— Васілеўс? — недаўменна перапытала жанчына.

— Вунь як хораша ты сказала — васілеўс, цар. Для мяне яна сапраўды — царыца кветак. Хаця і намнога сціплейшая прыгажосцю, чым ваша славутая ружа. Аднак жа неба дало ёй свой колер, і я нідзе ў Візантыі, сярод усіх дзівосаў, не бачыла яго — ні на фрэсках, ні сярод кветак. А без яго мне тут заўсёды будзе самотна…

— Ты жартуеш, Жывена, — пакрыўдзілася Фаціма. — А я люблю цябе і жадаю табе шчасця. Пры чым тут кветка?

…Ад некалькіх глыткоў моцнай, як хмельны настой, кавы кружылася галава. Вось бы ісці зараз басаною паўз жытняе поле, дзе сярод залатых сцяблін смяюцца сінія васількі! Бязмежная даліна запоўненая галасамі русалак, яны пераклікаюцца з лесавіком, што хаваецца зараз, у спякотны дзень, пад карчом у прахалодзе зялёнага моху і ляніва адгукаецца на іх вясёлыя, званочкамі, галасы. Людзі ўсё болей баяцца іх, таму што ўсё болей трацяць сувязь з акаляючай прыродай. А гэтак проста — пачынаючы жаць, папрасіць прабачэння ў той, што расціла каласы, прасіла хмары напаіць іх, а сонца — прывеціць. У кожнай сцяжыны, кожнай даліны ёсць свой ахоўца, вось чаму лягчэй жывецца на роднай зямлі, дзе яшчэ твае дзяды і прадзеды ўмелі гаварыць з ляснымі і палявымі гаспадарамі і слухацца іх…

— Ты не адказваеш мне, — крыўдліва працягнула Фаціма. — Няўжо наша сяброўства скончылася? І ўсё ж я спадзяюся, што, калі ты перадумаеш, ты не забудзешся на нас, маленькіх людзей, якія нічым не могуць прыцягнуць увагу гаспадара…

Яна пайшла да сябе, а Жывена спусцілася па прыступках у сад, не звяртаючы ўвагі на слугу, які адразу ж патупаў за ёю.

Распачынаўся дробны дождж, нізкае неба, здавалася, лягло грудамі цёмных аблокаў на ўсё наваколле, толькі вастраверхія кіпарысы стаялі вартаўнікамі цішыні.

Адагнаўшы ўсе думкі, яна бязвольна стаяла пад дажджом, чакаючы, пакуль цела яе не стане лёгкім, а галава — зусім пустой, да ціхага звону, у якім раствараецца ўсё навакольнае.

— Што чакае мяне? — паслала яна покліч некуды ў далячынь, у звон, у пустату. І адказ прыйшоў: хваля дажджу пранеслася над садам, якаясьці птушка закрычала тонка і жалобна, нібы гняздо яе растрапала халодным ветрам.

Жывена моцна сціснула рукі. Гэта — да страты. Але што яна можа страціць? Сэрца затахкала, адразу адчулася, што дождж ператвараецца ў лівень, ён халодны і няўтульны, як халоднае і няўтульнае ўсё вакол. Але ззаду, за ёю, усё ж жытло. Там грэе прывабным цяплом жароўня з чырвоным вуголлем. Як жа ісці ў такую вось ноч па дарогах, з маленькім хлопчыкам?

Успомніўся любімы жарабок Рос. Горды і магутны, ён лёгка нёс яе па свеце, не абцяжараную яшчэ амаль нічым — ні памылкамі, ні страхам, ні прыніжанасцю. Не тое зараз. І на імгненне спакуса — застацца тут, не мяняць нічога, не рызыкаваць — ахапіла яе.

Чэрмнае, Рускае мора асабліва страшнае ў непагадзь. Кажуць, што якраз у такія месяцы разбіваецца аб скалы альбо тоне ў высокіх шалёных хвалях найбольшая колькасць хеландзій*. Славянскія стругі, шнекі, бусы і ўчаны трымаюцца на вадзе лепей, але на Дняпры ёсць страшныя камяні, дзе лодкі выцягваюць і валакуць па зямлі, і каля такіх валокаў падсцерагаюць рабаўнікі.

Ізноў палон?!

Яна ўскрыкнула «Не!», нібы кідаючы выклік начы, холаду, сваёй слабасці.

Дазорны сачыў за ёю. Ды няўжо нельга хаця б паспрабаваць? Няўжо заб'е яе Нікіфар, калі нават уцёкі будуць няўдалымі?

З гэтымі думкамі яна вярнулася ў гіменэй — пакоі для жанчын, дзе зноў, не дачакаўшыся яе, спаў маленькі Святазар.

А назаўтра Нікіфар, нібы здагадаўшыся, як нудзіцца яна без звыклай працы альбо якога занятку, папрасіў дзяўчыну з'ездзіць у прыгарадную майстэрню па вырабе шаўковых тканін, прыгледзець за якасцю тавару і адвезці дазвол на ягоны продаж. Дасюль гэтая праца была прывілеяй упраўляючага Крыспіна. Той таксама ехаў з Жывенай, але павінен быў падпарадкоўвацца ейным загадам.

Жывена згадзілася. Хацелася адчуць вецер, які б'е ў твар конніку, цела прасіла руху. Аднак яна здагадвалася, што Нікіфар хоча іншага — паказаць ёй асалоду ўлады і багацця.

Шаўковыя тканіны, якія каштавалі надзвычай дарага, давалі добры прыбытак, таму гандаль імі і вытворчасць знаходзіліся ў

* Цяжкія грузавыя судны.

манапольным праве дзяржавы. Майстэрню маглі трымаць толькі знатныя людзі, але і ім не дазвалялася вырабляць асабліва каштоўныя палотны. Раней за гэтым сачылі дзяржаўныя чыноўнікі. Цяпер жа, пры лацінянах, права на вываз і вытворчасць атрымалі венецыянцы, яны асабліва раўніва ставіліся да вырабаў мясцовых майстэрняў. Таму кожнаму патрыцыю даводзілася штогод аднаўляць дазвол на гандаль уласным таварам.

Разам з Жывенай ехалі аканом і яго памочнік — малады грэк Гермаген.

Стары Крыспін усміхаўся сабе ў бараду: Нікіфар наказаў яму як мага даўжэй, спакушаючы, паказваць дзяўчыне шаўкі і тонкія шарсцяныя тканіны, а таксама арафамы*, якія вырабляла суседняя майстэрня, што таксама давала коміту немалыя грошы. Цудоўна-жаданай для мужчыны робяць яны кожную жанчыну. І жыццё тады, сярод дарагіх арафамаў, багатых упрыгожанняў, экзатычна-чужаземных страў робіцца трохі больш выносным, не гнячы плечы цяжарам гадоў, а душу шкадаваннем, што з кожным днём ёй усё бліжэй да Аіда, краіны мёртвых, адкуль ніхто не вяртаецца…

Тонкі, спакуслівы пах ружавага і лавандавага алеяў адчулі падарожнікі яшчэ даволі далёка ад майстэрняў. Калі ж пад’ехалі бліжэй, іх сустрэў вольнаадпушчанік Прокл, загадзя папярэджаны пра гасцей. Лісліва ўсміхаючыся, ён паказаў Жывене ўвесь працэс выціскання алею з ружавых пялёсткаў і кветак лаванды, а таксама базіліку, бадзяну і іншых пахкіх зёлак.

— Можа, пані хоча выпрабаваць якасць нашага тавару? — запытаўся ён, і не паспела Жывена адмовіцца, як з-за спіны яго высунулася немаладая кабета ў белым палатняным адзенні, лоўкія рукі рабынь ухапілі Жывену і амаль уштурхнулі ў невялікі пакой, дзе на паліцах стаялі шкляныя араматніцы. Імгненна быў зняты з яе хітон, і спрытныя рукі рабынь сталі націраць цела дзяўчыны ружавым алеем, у той час як іншыя заняліся яе рукамі — стрыглі пазногці, націралі пальцы хной. Старэйшая з жанчын падступілася да госці з румянкамі і тонкімі пэндзлікамі, але тут Жывена рашуча запратэставала.

Калі яна зноў выйшла да ўпраўляючага і Прокла, тыя ў адзін голас вохнулі і лісліва сталі ўслаўляць яе прыгажосць.

— Досыць! — перапыніла іх Жывена. — Гаспадар загадаў нам паглядзець тканіны. Едзем туды!

---

* Пахкасці.

Яны згодна заківалі галовамі, гнучыся перад ёю, угодліва ўсміхаючыся.

У шаўкаткацкім цэху яе як ашаламілі вадаспады ўзорыстых шаўкоў. Зіхацелі ліловыя з залатым, сінія з жоўтым, зялёныя з серабрыстымі кругамі і ромбамі сувоі, што выходзілі з-пад хуткіх рук ткачых. У цэху, дзе маталі шаўковыя ніці з распараных у кіпні коканаў шаўкапрадаў, рабочыя стаялі ў аблоках пары і выцягвалі шаўкавінкі чырвона-сінімі, абваранымі рукамі. У другім памяшканні шаўкавінкі сплятаталі ў тоўстыя альбо тонкія ніці. Жывена ведала — цяжкая праца тут аплачвалася толькі скрылямі ляпёшак і вінаградам. Змучаныя рабыні аднойчы спрабавалі ўцячы, але спроба скончылася няўдачай, пасля амаль год змоўшчыц трымалі ў цяжкіх калодках на шыях. Некаторыя так і засталіся са скрыўленымі шыямі — дзве з іх працавалі непадалёк ад яе.

Ткачыхі ўсталі і нізка схіліліся перад гасцямі, аднак Жывена паспела перахапіць адзін жаночы позірк — ткачыха глядзела з нянавісцю і зайздрасцю. Стола* на ёй была з самай таннай, грубай бавоўны, працёртая да празрыстасці.

— Высакародны Нікіфар папрасіў, каб пані сама выбрала сабе тканіну на туніку, — прашамкаў бяззубы Прокл. А Крыспін дадаў:

— Не толькі на адну туніку. Колькі захоча, столькі хай і бярэ.

Жывена абвяла вачыма майстэрню, шаўковыя сувоі, палотны — гэтыя дзівосныя тварэнні чалавечых рук. Як бы пасавала ёй вось гэтае, сіне-залатое… Але не, не возьме яна зачэпку, на якую, нібы плотку, хоча злавіць яе гаспадар.

— Ты не жадаеш, Афінападобная? — здзівіўся Крыспін. Слуга ж Гермаген глядзеў на яе з захапленнем. Жывена адмоўна паківала галавой. Тады Прокл, адразу як прывяўшы, стаў доўга і нудотліва расказваць пра розныя правіннасці рабынь, якія пры ткацтве то пераблыталі ніты, то недаткалі пялёсткі ўзораў. Крыспін перабіў яго, аддаў пергамент — дазвол на продаж у краме пры Улахернскай царкве, недалёка ад палаца. Патлумачыў правілы прыёму, нанова ўстаноўленыя венецыянцамі.

— Праклятыя чужаземцы! — прабурчаў Прокл і тут жа, спахапіўшыся, прашамкаў: «Слава імператару!»

Калі яны вярталіся ў Царгорад, іх чакала неспадзяванка. На паварoце, дзе ля руін старога язычніцкага храма ўздымаліся магутныя платаны, напярэсцігі ім кінуліся два ўзброеныя коннікі.

* Кавалак тканіны, абматаны вакол цела.

— Хто вы? Што вам трэба? — грозна закрычаў Крыспін, але тут жа атрымаў удар, ад якога скаціўся ў канаву. Гермаген паспеў выхапіць меч і таму адбіў другога воіна, але адзін ён не мог абараніць дзяўчыну. Жорсткая рука схапіла за аброць яе каня, спрабуючы накінуць на ейную галаву сетку. Але той, хто нападаў, сустрэў нечаканае. Не выпускаючы лейцаў, адкінуўшыся, наезніца, імгненна вызваліўшы ногі і падцягнуўшы іх да грудзей, з усяе сілы ўдарыла ў грудзі насільніка. Удар быў моцны, воін пахіснуўся, і тады, пругка і лоўка выпраставўшыся, яна выбіла яго з сядла, так што ён цяжка рухнуў у пыл. Сагнуўшыся да самай зямлі, яна паспела схапіць жменю пылу і, размахнуўшыся, амаль уляпіла яго ў пысу каня, які нёс другога захопніка, што цяпер адчайна змагаўся з Гермагенам. Яна зрабіла тое з дзікім, падслуханым у манголаў віскатам, ад якога конь, ужо аслеплены, узвіўся ўверх і таксама скінуў свайго гаспадара.

Не, не забыла цела доўгія паездкі на конях там, у храме Ашвінаў, іх з Відэвутам юначыя забавы, калі пераганялі яны адно аднаго, і тыя практыкаванні, якія рабіў кожны са жрацоў, каб моцным было ягонае цела і дапамагала не страціць духу ў самых складаных сітуацыях. Коннікі, што напалі на іх, відавочна, не чакалі такога адпору. Аднак яны маглі акрыяць.

— За мной, хутчэй! — закрычала Жывена, і, прышпорыўшы свайго жарабка, паімчалася так, як скакала толькі на Навагародчыне — адчайна і бясстрашна, жмурачы вочы ад шалёнага ветру, і кроў, як некалі, забушавала ў ейных жылах…

Калі яны даляцелі да гарадской брамы, на ўсёй раўніне, як хапала агледзець у слабым свеце апошніх промняў, нікога не было. Нібы ўсё, што адбылося, толькі прымроілася ім. Аднак, калі яны разам з гарадской вартай і керкетонам-патрулём вярнуліся па Крыспіна, пабачылі — жыць яму засталося зусім мала: ён хрыпеў, і на вуснах з кожным уздыхам пузырылася ружовая пена.

Нікіфар назаўтра ж падаў скаргу эпарху горада. Той сам прыехаў у дом і ўчыніў допыт Гермагену і Жывене. Але не даўмеўся, што да чаго, і ўрэшце вырашыў, што была то спроба рабаўніцтва. Не ведаў эпарх, а Жывена не сказала яму, што, калі падаў незнаёмы коннік на дарогу, з вуснаў яго сарвалася пракляцце, і было яно на нямецкай мове. Таго не чуў Гермаген, але Жывена добра разабрала словы, і з таго часу нібы лядзяш лёг на душу. Райнер! Але адкуль мог ён узяцца тут, у сталіцы рамеяў? Праўда, два гады назад, перад тым як пад Пелагоніяй адбылася бітва паміж эпірскім кесарам Міхаілам Другім і сіламі Нікейскай імперыі, якія ўзначальваў Міхаіл Палеалог, саюзнік

Эпірскага царства сіцылійскі кароль Манфрэд запрасіў дапамогу ў Германіі, і адтуль былі прысланыя пяцьсот лепшых воінаў. Аднак гэта не дапамагло, бітва пры Пелагоніі была прайграная. Тых жа з нямецкіх рыцараў, якія засталіся жывымі, запрасіў да сябе на службу севаст Візантыі Балдуін Другі, даўшы ім нечуваныя прывілеі. Пра гэта тады шмат казалі ў горадзе. Няўжо сярод іх, ацалелых, быў і Райнер?

Але дзе і як высачыў ён яе? Успомнілася адпяванне Еўдакіі, трывожнае прадчуванне бяды. І яна з новай сілай адчула жаданне як мага хутчэй выбрацца з Візантыі. Але цяпер, пасля нападу, ёй будзе яшчэ цяжэй пазбавіцца пастаяннага нагляду. Ды і горад яна ведае не надта добра. Як прабірацца па начных вуліцах да Улахернскай гавані, адкуль ідуць на Херсанес, а потым на Кіеў караблі з таварамі?

— У мяне просьба да цябе, гаспадар, — звярнулася Жывена да коміта, падсцярогшы яго на двары, дзе ён аддаваў загады новаму ўпраўляючаму Кіруларыю.

— Я рады тваім просьбам, — схуднелы твар Нікіфара пасвятлеў.

— Я мала ведаю сталіцу сталіц і хацела б з твае ласкі трохі болей азнаёміцца з ёю.

Карычневыя, з залатымі драбінкамі вочы коміта звузіліся, нібы спрабуючы ўлавіць яе тайныя намеры, але пасля засвяціліся:

— Гэта добра, што ты хочаш спазнаць Цар-горад. Але хто раскажа табе пра яго?

— Я чытала розныя кнігі тваёй нябожчыцы-жонцы…

— Гэта зусім не тое. Гэта — мёртвыя веды. Не так проста спасцігнуць душу кожнага горада, а душу Візантыя* — асабліва…

Ён задумаўся.

— Вось што… Я сам пакажу табе Царгорад. Заўтра з раніцы. Прасі сваіх багоў расчысціць неба над сталіцай, каб яна паўстала ва ўсім бляску, як сапраўдная царыца.

Жывена мусіла згадзіцца. Але адчувала сябе ніякавата, калі назаўтра яе пасадзілі ў крытыя насілкі, якія чатыры дужыя рабы панеслі ўслед за насілкамі Нікіфара. Дзіўна, але накіраваўся коміт не да галоўнага храма сталіцы — сабора Святой Сафіі, а на поўнач, да вежы Анемы, што стаяла паміж Драўлянай і

---

* Візантыем называўся маленькі гарадок, на месцы якога пабудавалі Царгорад і які даў назву ўсёй краіне — Візантыя.

Калігарнійскай брамамі. Крутыя драўляныя прыступкі здаліся нават хуткай і лёгкай Жывене доўгімі, але затое калі яна ўслед за сваім гаспадаром паднялася на пляцоўку гэтай старажытнай вежы, то адчула, нібы яе ўзнялі ветразі: увесь горад раскінуўся перад імі — горад, абкружаны некалькімі морамі, з якіх тут было найбольш бачнае Мармуровае. Стаяла надзіва сонечная, цёплая пагодлівая раніца, лёгкая смуга ляжала над лазуравай гладдзю заліва, але скрозь яе загадкава прасвечвалі залатыя шлемы манастыроў, цэркваў, дахі Вялікага палаца з яго шматлікімі прыбудовамі. Ад Соценнай вежы Юстыніянавай сцяны да Галацкай вежы цягнуўся праз усю бухту Залатога Рога агромністы ланцуг, які абараняў яе ад варожага нападу. Белыя ветразі візантыйскіх суднаў — трыер, што стаялі ва Улахернскай гавані, нагадвалі марскіх птушак-чаек, гатовых вось-вось узляцець і закружыцца над морам.

Але галоўнае, што захапіла Жывену, — сцяна. Высокая, жаўтавата-белая, яна зігзагам ішла ад Чэрмнага да Мармуровага мора, захінаючы Канстанцінопаль з сушы. Па ёй ішлі дзве гарызантальныя чырвоныя стужкі — іх спецыяльна для ўпрыгожання выклалі будаўнікі, — і сцяна здавалася святочнай. Аздобленыя чырвонай цэглай былі і брамы, скрозь якія не перастаючы цягнулася туды-сюды жывая чалавечая маса. Вострыя вочы дзяўчыны разгледзелі фурманкі, коннікаў і нават асобных людзей, падобных да чорных вёрткіх мурашак.

— Наш горад пабудаваны па лепшых у свеце канонах, — з любасцю аглядаючы Канстанцінопаль, гаварыў докміт. — Імператары Зянон і Юстыніян асабліва клапаціліся аб тым. Ці ведаеш ты, напрыклад, што кожны дом павінен знаходзіцца ад другога на адлегласці дванаццаці стоп, каб не перашкаджаць іншым бачыць прыроду і мора? Асабліва мора, бо яно дабратворна ўплывае на душу чалавека. І ў планіроўцы горада павінна ўлічвацца месца для цэркваў.

Нікіфар паказаў ёй найбольш вядомыя храмы.

— Там, за старадаўнім палацам Канстанціна Багранароднага, аскіцірыі* дзевы Памакарысты і святога Іаана. А там, паміж імі, цэрквы Лаўрэнція, Феадосія і Георгія. А там, на захадзе, Перыўлепцкі Багародзічны манастыр, яго ўзводзіў севаст Раман Трэці** і даў імя, якое хутчэй падыходзіла б смяротнай жанчыне, бо слова «перыўлепт» значыць «найпрывабнейшая».

---

* Манастыры.

** Раман Аргір цараваў з 1028 па 1034 г.

— Мне незразумелае вось што, — павольна вымавіла Жывена, углядаючыся ў далячынь. — Вы пабудавалі столькі храмаў, каб маліцца Богу хрысціян і ягонай маці, але я бачу, як гандлююць тут, ашукваючы адзін аднаго, як многа несправядлівасці вакол, пажадлівасці і хцівасці.

— Аб чым ты гаворыш? — нахмурыўся Нікіфар.

— Аб тым, што манаства і аскеза ідуць у вас поруч з самымі нізкімі пачуццямі.

— У нас сапраўды шмат несправядлівасцяў, але гэта залежыць ад людзей, а не ад вучэння. Што ж, людзі недасканалыя, грэшныя. Але мы імкнемся зрабіць іх іншымі…

— Хто ж імкнецца? Я шмат раздумвала над вашай гісторыяй. І што ў ёй? Той, хто ўзняты на найвышэйшую прыступку жыцця і змог бы вучыць дабру і святлу, якраз і дае прыклады самай вялікай пачварнасці.

— Каго ты маеш на ўвазе?

— Ты расказваў мне пра Улахернскую царкву, — патлумачыла яна, убачыўшы, як азмрочыўся яго твар, бо Нікіфар яўна загневаўся. — Ваша славутая імператрыца Зоя ў гэтай царкве некалі аб’явіла сынам таго, хто пасля стаў яе ганіцелем і клятваадступнікам. Але пасля сама яна, не звяртаючы ўвагі на тое, што атруціла першага мужа, і пасля цяжкай смерці другога, зноў выйшла замуж, хаця ў вас нават другі шлюб амаль немагчымы. А трэці ўвогуле забаронены. І народ ваш, богабаязны, хрысціянскі народ, славіў яе да самай смерці, хаця нават трэці муж яе, Канстанцін Манамах, не любіў гэтую жанчыну, а любіў уладу, трон!

Нікіфар стаяў моўчкі, кусаючы вусны.

Ён добра зразумеў стоены намер Жывены звярнуцца да таго, што ставіў ён у сабе вышэй за многае іншае, — яго веры. Безабаронная, бяспраўная рабыня, яна хацела абудзіць у ім тое, што захіліла б яе… ад чаго? Ягонае ласкі? Ягоных дамаганняў? І гнеў ахапіў яго — вялікі гнеў на тое, што яна адважваецца супраціўляцца.

Ён глядзеў на дзяўчыну. Нахіліўшы галаву, тоненькая, як былінка, яна ўся трымцела перад ім, і ў фіялкавых вачах былі недзявочая праніклівасць і стоены боль. Ён раптам адчуў у ёй не тое, што нястрымна прыцягвала — прыгажуню-вядзьмарку, служку чужых, невядомых багоў, а спакутаваную душу, спалоханае птушаня, што адчайна абаранялася ад яго. І раптам пашкавадаваў яе — і гнеў заціх.

Загаварыў нязвыкла мякка для сябе:

— Не ўсе могуць дазволіць сабе тое, што дазваляюць богапамазаннікі. І калі ўжо ты ўспомніла пра Канстанціна Дзявятага, успомні, як любіў ён Склірэну! І няўжо каханне не можа апраўдаць чалавека перад Богам?

Жывена помніла тую гісторыю. Доўгімі пакутлівымі начамі, седзячы ля ног хворай гаспадыні, чытала яна аповеды Псела, яго развагі пра нораvы манархаў. Сапраўды, дзеля дзяўчыны, празванай так па прыналежнасці да найзнатнейшага роду Скліраў, трэці муж імператрыцы Зоі страчваў разважлівасць і рабіў шмат чаго несумяшчальнага з царскім тытулам. Яго спачатку асуджалі, а потым змірыліся з ягоным вялікім каханнем. Ён на магіле дзяўчыны плакаў так, што аб тым захавалі ўспамін лісты многіх замежных паслоў, якія паўсюдна разнеслі славу аб прыгажуні Склірэне, рана звялай на самым парозе трона. Помніцца, Жывену асабліва ўразілі словы насмешлівага Псела, які аб Склірэне азваўся нязвыкла мякка: «Што ж да яе нораву і розуму, то першы мог змякчыць і камень, а другі здольны быў спасцігнуць што заўгодна; не параўнальнай ні з кім была і ейная гаворка: вытанчаная, упрыгожаная кветкамі красамоўства, рытмізаваная, як у майстроў-аратараў; меданосныя словы самі сабой струменіліся з яе вуснаў і надавалі той, што гаварыла, невыказную абаяльнасць».

Сама не заўважыла, як прамовіла гэтыя словы ўголас. Падняла галаву — і ўбачыла вочы Нікіфара, затуманеныя журбой.

— Я мог бы сказаць гэта пра цябе, — раптам, як скочыўшы ў бездань, прамовіў коміт. — І хто на маім месцы сапраўды ўстояў бы?

І раптам як нешта перавярнулася ў ёй. Чалавек гэты ўбачыўся зусім інакшым, нібы спала з яго нейкае злое шалупінне.

Тады, як падштурхнутая нейкай сілай, яна расказала пра Райнера і пра тое, як апынулася ў Візантыі. І пра дзіця расказала, якое ўратавала ў самую хвіліну ягонага нараджэння. А пасля папрасіла з усёй адвагай, быццам кідалася ў плынную раку:

— Адпусці мяне на радзіму, там чакаюць мяне.

— Хто? Каханы?

— Не толькі ён. Мне ўсё чужое тут.

— А хто ён, той чалавек, які заслужыў тваё каханне?

— Нашто табе ведаць гэта?

— Раскажы.

Твар яго пачырванеў, кропелькі поту выступілі на ім.

— Гэта я табе не раскажу, гаспадар.

Жывена адчувала, як у ёй усё ўздымаецца ўнутры пратэстам. Яна зацялася:

— Можаш мяне забіць. Нізавошта!

Пакута і адначасна гнеў у ягоных вачах узмацняліся, нібы і яго штурхала нешта ўсярэдзіне, але ён супраціўляўся, сціскаў зубы, каб міжволі не вырвалася тое, чаго ён не хацеў дапускаць. Адно толькі сказаў нарэшце скрозь нежаданне гаварыць:

— Я абараню цябе ад германца. Не бойся: мой дом мае надзейную варту. І ў адказ на тваю просьбу я таксама прашу: застанься ў маім доме да вясны. Клянуся Казьмой і Даміянам, маімі святымі заступнікамі, што не буду цябе ні ў чым няволіць. Хацеў бы яшчэ толькі паказаць табе храм Невыказнай Боскай Мудрасці*, бо яшчэ з дзяцінства памятаю там кожны куток. Можа, ён супакоіць і цябе, і мяне, каб мы абое пасля не шкадавалі аб гэтай хвіліне…

Яны спусціліся ўніз, і рабы панеслі іх да храма святой Сафіі.

Падарожжа было доўгім, амаль праз увесь горад, і Нікіфар дзе-нідзе спыняў рабоў, сыходзіў з насілак і расказваў Жывене пра тую ці іншую славутасць горада.

Жывена пабачыла вузкія вуліцы з шасціпавярховымі дамамі, дзе верхнія драўляныя каморкі займалі беднякі; дамы цярпімасці, якіх тут было на ўсе магчымыя густы і кошты — для багатых і для маракоў, што з усяго свету прыбывалі сюды праз Басфор, Залаты Рог і Прапанціду; мармуровыя высачэзныя лазні са старажытнымі, яшчэ антычнымі багамі, што стаялі ля дзвярэй. Жабракі працягвалі да яе рукі, але баязліва, таму што за гэта маглі атрымаць моцны ўдар ад стражніка, і Жывена пакутавала, што нічога не можа даць няшчасным. З харчэўняў выплёскваліся песні, паўсюдна плыў густы пах хмельных напояў і сытнай ежы, час ад часу прыслужніцы выносілі смецце альбо памыі і вылівалі альбо выкідвалі іх проста ў канавы па баках вуліц. І тут жа, амаль побач, стаялі магутныя, гарманічныя, узнёслыя храмы, сцены якіх былі ўпрыгожаныя дарагой кафляй альбо фрэскамі, а дзверы выразаныя з каштоўных парод дрэў, якія каштавалі шалёныя грошы: эбену, сандалу, жалезнага кедру. Але найпрыгажэйшыя з усіх брамаў былі менавіта ў найславуцейшым саборы святой Сафіі, вядомым ва ўсім свеце, і Жывена ўспомніла, з якім па-

---

* Менавіта так у летапісах і размовах называлася царква святой Сафіі, паводле ўзору якой былі пабудаваны храмы ў Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку.

чуццём захаплення апавядаў пра яго ейны дзед Агапій, і зноў успамін аб радзіме вострым нажом паласнуў па душы…

Галоўныя царскія вароты былі адчыненыя, у храм сёння можна было трапіць кожнаму. Бачны здалёк, як велізарны карабель, што плыве ў аблоках, ён уражваў яшчэ болей зблізку.

Складзеная з тысячаў мазаічных плітак, над уваходам ззяла выява Хрыста. Яна была зробленая не проста майстрамі. Жывое, трапяткое яе ўздзеянне — нібы ўсё яшчэ, праз сем стагоддзяў пасля стварэння, у ёй вібрыравала нешта загадкавае, таемнае — імгненна адгукнулася ў Жывене, і яна, услед за Нікіфарам, сама не ўсведамляючы таго, апусцілася на калені.

А пасля яна разам з іншымі зайшла ў сярэдзіну. І нешта ў ёй ціха вохнула.

Нібыта само неба лягло на цёмна-зялёныя мармуровыя слупы і ўтварыла гэты вялізны купал. Нібы паветра згусцілася і, пранізанае незлічонай колькасцю залатых пылінак, стала сценамі.

Вышыня. Стоены гул, як на моры, якое ў самы ціхі дзень бесперастанку вібрыруе. Адусюль ідзе высокая, амаль адчувальная сіла.

Колькі загадак, чалавечых пачуццяў, колькі лёсаў уплялося ў выявы святых, фрэскі, узоры, якія сем стагоддзяў стваралі тут пакаленне за пакаленнем? І пакаленне за пакаленнем укленчвалі тут людзі, шукаючы разгадкі сваіх пачуццяў, але нямногім даваліся яны, большасць жа сыходзіла з гэтага свету, так і не зразумеўшы, дзеля чаго прыходзяць сюды, пакутуюць, радуюцца; і ўсе стогны іх, плач і надзеі наслойваліся на гэтых сценах. Можа, ад таго жывымі здаюцца святыя, што глядзяць на людзей унізе?

— Кажуць, што і сам вялікі патрыярх ужо не ведае таямніцы некаторых святых. Бачыш, у іх складзеныя пальцы? Яны паказваюць, як вылечваць некаторыя цяжкія хваробы*. Старажытныя людзі ведалі ўсё, — шапнуў Нікіфар.

Ён знакам паказаў Жывене, якая ўсё яшчэ стаяла, высока ўзняўшы галаву, што трэба прайсці да ўсходняга нефа.

Там, на адной з калон, быў намаляваны Хрыстос у залатым ззянні святла, якое сыходзіла з усяго ягонага цела. Больш яркія палосы лучыліся з галавы.

---

* Мудры, альбо пэўныя скрыжаванні пальцаў, як бы накіроўваюць плынь энергіі ў патрэбныя органы і тым лечаць. Выявы святых на сценах царквы сведчаць аб тым, што гэты спосаб лячэння быў вядомы ў старажытнай Візантыі.

— Гэтую фрэску заказалі для храма мае продкі, — сказаў Нікіфар. — Заўсёды, калі я прашу ў Бога што-небудзь, я прыкладаю руку да ног Хрыста і малю яго дапамагчы мне. Можа, і табе калі-небудзь ён пашле ўдачу.

Жывена прыклала руку да залатой паласы. Помніцца, яшчэ Святазар гаварыў аб тым, што ёсць святыя і мудрацы, якія бачаць святло, якое сыходзіць з рук і галавы чалавека, толькі, вядома, іх і параўнаць нельга з тым, якое сыходзіць з хрысціянскага Бога*, ад ягонай выявы. І гэтую фрэску намаляваў не просты рамеснік, а той, хто валодаў дарам нябёсаў, яго, гэты дар, і адчувае яна зараз. І ёй адкрывалася веліч краіны, куды невядома як зашпурнула яе, маленькую трэсачку — можа, дзеля таго, каб лепей зразумела свой далёкі свет, узважыла страшную прыцягальнасць улады, велічы — і свабоды.

Нікіфар, мабыць, адчуваў яе перажыванні. Калі яны выйшлі з храма Святой Сафіі, задуменна прамовіў:

— Мабыць, у нечым ты маеш рацыю. Мы, рамеі, так імкнемся нашыць на залатыя рызы нашай краіны як мага болей каштоўных камянёў, што, мабыць, Візантыя робіцца падобнай да састарэлай імператрыцы, якая любуецца сваёй былой прыгажосцю і не хоча заўважаць, што ў яе распухлі і скрывіліся ногі… Кожнай краіне патрэбныя крылы, а мы так абцяжарыліся, што не можам часам нават зварухнуцца… Але вер — заваяванне Канстанцінопаля лацінянамі сталася ветрам, які шмат чаго павымеў з пустых галоваў нашай знаці.

— Але ж ты служыш Балдуіну?

— Затое мой сын жыве ў Нікеі і ўзвышае яе, каб менавіта Нікея, гэтая свабодная частка Грэцыі, змагла выратаваць нас усіх…

Калі яны вярнуліся і рабы апусцілі насілкі ля ганка, коміт звярнуўся да Жывены:

— Я хацеў бы, каб ты сёння прыйшла на вячэру ў парадны пакой.

— Але я стамілася, высакародны Нікіфар…

— Не адмаўляйся! Спаўняецца сорак дзён з дня смерці Еўдакіі. Заўтра сюды прыйдуць многія знатныя людзі. А сёння будуць толькі некалькі маіх найбліжэйшых сяброў. Для цябе вельмі важна быць там…

* Аб здольнасці старажытных мастакоў бачыць біяполе чалавека піша Ш. Карагула (кн. «Прарыў да творчасці»).

Яна ўзняла на яго вочы, але нічога не сказала, толькі адчула, як ліхаманкава забілася сэрца.

— Не ссоўвай бровы, бо маршчынкі псуюць прыгажосць, — зусім як Святазар, нават з тымі ж бацькоўскімі інтанацыямі прамовіў гаспадар, і слугі непрыкметна пераглянуліся, бо ніколі не чулі яны ад суровага Нікіфара такой пяшчоты ў голасе.

— Я прыйду, — схілілася ў паклоне Жывена. Не хацелася ёй такой відавочнай пяшчоты, бачыла яна, як зайздросліва зabліш-чалі вочы ў новага кіроўцы двара, як неўпрыкмет ухмыльнулася маладзенькая рабыня-сірыйка, мазнуўшы па ёй поглядам. Адчула, як сціснуў руку сярэбраны бранзалет, які давялося надзець сёння па загадзе коміта.

Калі яна ў сціплай туніцы і з тым жа бранзалетам з’явілася ў парадным пакоі, Нікіфар непрыкметна для іншых зморшчыўся, але прыветна ўсміхнуўся, калі яна пацалавала яму руку.

«Дзіўныя стварэнні людзі, — думала дзяўчына, калі ён знаёміў яе з прысутнымі — багатым купцом Гермагенам («Яго дзед быў няшлюбным сынам майго прадзеда, і наш род заўсёды апякуецца іх родам», — шапнуў коміт), друнгарыем віглы* Васілём, а таксама заканазнаўцам Міхаілам. — Коміт абураецца, калі я звяртаюся да яго як рабыня, але з задавальненнем прымае рабскія знакі пашаны».

Мужчыны разглядалі яе не тоячыся. «Як разглядаюць яны рабынь на царгародскім рынку», — падумала Жывена, апускаючы вочы, каб яны не прачыталі ейных думак. Аднак твары іх, спачатку неадабральныя, паступова мяняліся. Першым загаварыў Гермаген:

— «Папракаць немагчыма»**, — працытаваў ён Гамера, і ўсе засмяяліся, палагоднелі, бо ацанілі яе прыгажосць і гэтак жа, як траянскія старцы, што, убачыўшы Алену, не сталі папракаць Парыса, яны глядзелі на яе са стоеным захапленнем. Аднак зноў пасур’ёзнелі, калі Нікіфар запрасіў усіх за стол, нагадаўшы, дзеля чаго яны тут сабраліся.

Слугі, ціха разыходзячыся па пакоі, запальвалі свечкі. Тыя пачыналі курыцца сіняватымі пахкімі дымкамі, асвятляючы шаўковыя завесы на сярэбраных прутах, старадаўнія, у залатых накладах абразы святых, стол, заслаиы белым абрусам з егіпецкімі шакалападобнымі багамі па ўзорыстай аблямоўцы.

---

* Чыноўнік з паліцэйскімі функцыямі, які загадваў аховай палаца.

** Радок з «Іліяды», дзе гаворыцца аб траянскіх старэйшынах, якія ўбачылі Алену.

Тут, на стале, было ўсё тое, што было і ў іншых багатых дамах Царгорада, куды прывозілі тавары з усяго свету: фінікі і інжыр, арэхі-лускаўкі і шафран, мноства невядомых Жывене пладоў на дарагіх шкляных місах. Па знаку Нікіфара слугі прынеслі кожнаму агромністае блюда з дарагой палівай, дзе ляжалі, як ён патлумачыў пасля, вараныя карані лотасу, прывезенага з Ніла. Увайшоў святар у залатой рызе і за ім служка з кадзілам. Усе ўсталі, пакуль святар чытаў памінальную малітву, успамінаючы нябожчыцу. Аднак, калі služкі Бога пакінулі пакой, на стол былі пастаўлены кратэры з віном, вазачкі з ільдом, падносы з чырвонымі варанымі крабамі, фаршыраваная рыба, і размова паступова ажывілася.

— Нядрэмны промысел Божы сапраўды ўздае кожнаму па заслугах, бо ён бесперастанку абыходзіць сусвет і строгім вокам сочыць за намі, — падтрымаў слова пастыра друнгарый Васіль. — Думаецца мне, што Еўдакія была бязгрэшнаю, бо, як вядома, устояла перад спакусай наблізіцца да імператара, калі ён адарыў яе сваёй царскай увагай.

— Прыгажосці можна дараваць многае, — падхапіў Гермаген. — Аднак божы суд чакае ўсіх, і калі гэты дар ужываць дзеля зла… Як Феафано…

Ён з трывогай паглядзеў на Жывену.

— Яна ведае нашу гісторыю, хаця па-сапраўднаму разумеюць яе хіба філосафы і гісторыкі, — азваўся Нікіфар.

— Так, гэта праўда, — з гонарам заківалі прысутныя. — Колькі народаў схілілі шыю перад Візантыяй, колькі іхняй крыві і талентаў улілося ў жылы рамейскай імперыі за тысячу гадоў!

— А грэкі першыя сярод слаўных людзей, што ўклалі таленты свае ў праслаўленне Візантыі, і нават у іхняй паўночнай халоднай краіне, — Нікіфар паказаў на Жывену, — ёсць і абразы, вывезеныя адсюль, і хрысціянскія цэрквы. Іхнія паломнікі часта прыязджаюць у нашы манастыры, забываючы сваіх дзікіх багоў.

— Славяне, аднак, моцна турбавалі магутную імперыю рамеяў*, — ціха азвалася Жывена.

— Яна мае рацыю, — падхапіў, смеючыся, Васіль. — Толькі Юстыніян перарваў стварэнне Склавініі і падпарадкаваў сабе Фракію. А яшчэ раней? Ці помніце, што адказваў аварам правадыр склавінаў Даўрыт? Нешта накшталт таго, што не нарадзіўся яшчэ на свеце чалавек, які падпарадкаваў бы сабе сілу нашу. «Не

* Славяне не раз турбавалі Візантыю, у тым ліку Алег разам з палачанамі патрабаваў і атрымліваў з яе даніну.

іншыя нашым, а мы чужым прывыклі валодаць». Быў час, калі Візантыя сапраўды баялася іх. Але яна ў рэшце рэшт зрабіла свае межы непрыступнымі.

Ён павярнуўся, шчоўкнуў пальцамі, паказваючы, каб раб наліў яму віна. Але Жывена ўсё ж дагаварыла тое, што паднялося ў яе душы:

— І не гневайся на мяне, высакародны Нікіфар, але ведалі нашы продкі і мудрасць Заратустры, і звычаі арыяў, што сягаюць у час, калі не было нават вашай праслаўленай Троі. Ды толькі амаль страцілі яны ўсё гэта падчас сваіх вандраванняў, бо на сённяшнюю сваю зямлю прыйшлі пазней, чым рамеі разам з вялікім Канстанцінам у Візантый. Ды і лёс у розных народаў свой. Адно скажу табе: няма народа, якім бы дзікім ён ні здаваўся, каго б не асвятлялі промні боскае мудрасці — большыя ці меншыя!

— Я яскрава бачу, што ў цябе, свой прыўкраснейшы сасуд, наш вялікі Бог уклаў яе дастаткова! — упаў у напружаную цішыню вясёлы голас друнгарыя, і ўсе зноў засмяяліся.

— Аднак твая рабыня, мой сябра, можа быць небяспечнай, калі аблыгае твой розум і сэрца, — павольна сказаў па-італьянску заканазнаўца Міхаіл. — Феафано тут успомнілі невыпадкова…

Усе замоўклі зноў. Гісторыю дачкі карчмара Анастасіі, якая зачаравала царскага сына Рамана, а пасля, увайшоўшы ў палац, паступова прыбрала ўладу да сваіх рук, ведалі ў Візантыі надзвычай добра. Мабыць, ні пра адну жанчыну на троне не спявалася столькі песень — благіх і захопленых, ні пра адну не стваралася столькі панегірыкаў і праклённых рэчытачываў, як пра яе, што змяніла нават сваё імя і стала Феафана, альбо, як часцей называлі яе, Феафано. Атруціўшы свёкра, імператара Канстанціна, а пасля двух мужоў — Рамана і Нікіфара, апошні з якіх кахаў яе безразважна і аддана, яна была пакараная па загадзе патрыярха, абуранага празмернымі злачынствамі гэтай выскачкі з плебеяў. Саслаў жа яе на глухі востраў Іаан Цымісхій, якога яна пакахала ўжо сама і дзеля якога атруціла другога мужа. І подласць каханка сталася ў вачах народа горшаю, чым злачынства дзеля кахання, — Феафано спачувалі, яе шкадавалі. Урэшце Феафано вярнулася з выгнання, вось толькі не змагла ўжо вярнуць сабе трон. Аднак пра яе засталіся балады, што спявалі ва ўсіх тавернах краіны. Пра Іаана ж Цымісхія засталося ў памяці іншае — ён знішчыў балгарскую патрыярхію, заявіўшы, што адзін павінен быць патрыярх у свеце — візантыйскі…

— Нядобра, што ты выводзіш яе са свайго дому амаль адкрыта, калі не прайшоў яшчэ год пасля смерці Еўдакіі, — таксама

па-італьянску сказаў Гермаген. — Шлюб з ёю для цябе немагчымы, яна не высакародная, дый сам ведаеш — вам, знатным, належыць пасля смерці жонкі пастрыгацца ў манахі.

— Я і прывёў яе сюды, каб параіцца з вамі, маімі бліжэйшымі сябрамі, — адказаў ім Нікіфар. — Грэшны я, парушыў абяцанне адпусціць на волю гэтую рабыню. Але хіба толькі мяне захоплівала прыгажосць? Я спадзяваўся, што вы падкажаце выйсце, а вы, бачу, толькі папракаеце мяне, хаця, як сказаў Гамер, «папракаць немагчыма». Прынамсі, я веру, што з-за яе не пачнецца паміж мною і кім-небудзь разлад.

…Бывае, што словы, сказаныя ў няўрочны час, нібы ажываюць і твораць сваю справу, вяртаючыся да ўладальніка. Не паспелі падаць чашы з арабскім шэрбетам — салодкімі скрылямі садавіны, палітымі замарожанымі ўзбітымі вяршкамі (іх увёў у побыт рамеяў турэцкі султан, што прыехаў да грэкаў пасля разрабавання Багдада манголамі ў 1258 годзе), — як убег кіроўца двара і прашаптаў, што ў дом прыехаў намеснік прэпазіта* Роберт і хоча бачыць коміта.

Устрывожаны Нікіфар падняўся і хутка пайшоў да выхаду, гадаючы, што здарылася ў стайні. Аднак яго чакала іншае: Роберт аб’явіў, што імператар гневаецца на Нікіфара і заўтра кліча яго да сябе.

— Але чаму? — ашаломлена дапытваўся гаспадар дома, у той час як слуга ўносіў у пакой дарагое блюда з залатой эмаллю, каб уручыць яго пасланніку з Вялікага Палаца.

Задаволены ганец размяк, палагаднеў і, схаваўшы блюда ў скураную сумку, што вісела на плячы, разгаварыўся:

— Тры разы пасылаў да цябе ліст этэрыярх**, каб ты патлумачыў, чаму не хочаш вярнуць рыцару Райнеру ягоную рабыню, але ты нават не адказаў яму. Скарга вось ужо два тыдні ляжыць у этэрыярха, і сёння на прыёме ў Палацы ён расказаў пра гэта аўгусту. І той, што зусім зразумела, ажно ўзгарэўся.

— Я не атрымліваў ад этэрыярха нічога і пра скаргу чую першы раз! — ашаломлена крыкнуў коміт.

— Аднак наш імператар — хай захоўвае яго вечна дзева Марыя! — якраз больш за ўсё і абураўся тваім маўчаннем. Згадзіся яшчэ, коміт: гэта дзіўна, што з дня смерці тваёй жонкі

* Пачэсны тытул прыдворнага, звычайна еўнуха, што праводзіў прыёмы ў Вялікім Палацы.

** Начальнік імператарскай гвардыі, у якой былі зазвычай чужаземцы.

не прайшло і сарака дзён, а ты ўжо з'яўляешся на людзях з рабыняй-наложніцай.

Агаломшаны коміт замоўк, а Роберт з задавальненнем, хаця і прыхаваным, гаварыў далей:

— Вы, грэкі, вядома, гарачыя людзі. Аднак раю табе падрыхтавацца да горшага: аўгуст патрабуе, каб ты прывёў з сабою і тваю наложніцу.

— Для чаго? — толькі і змог выгаварыць галоўны канюшы.

Франк Роберт, убачыўшы ўражанне, якое зрабілі ягоныя словы, застаўся ўдвая задаволеным: і падарункам, і тым, што канюшы, чые коні амаль заўсёды прыходзілі на іпадроме першымі пасля імператарскіх, гэтак спалохаўся. Колькі разоў спрабавалі і эпарх, і этэрыярх, аб'яднаўшыся разам, скінуць з пасады коміта, сагнаць з імператарскіх вачэй гэтага грэка, які ганарыцца тым, што ягоныя продкі вось ужо некалькі стагоддзяў былі блізка да трона! Аднак імператар, які на пасадах эпарха і этэрыярха змяніў нямала лацінянаў, упарта пакідаў месца галоўнага коміта за мужам прыўкраснай Еўдакіі і не памяняў сваіх адносін да яго нават тады, калі першая прыгажуня Царгорада ператварылася ў хваравітую, схуднелую немаладую кабету. Але пасля яе смерці ворагі коміта, мабыць, папрацавалі нямала: запрашэнне на заўтра магло абярнуцца і смерцю, і выгнаннем.

Але не за сябе спалохаўся Нікіфар. Горка пашкадаваў ён, што і сапраўды дазволіў сабе з'явіцца на людзях з маладой прыгажуняй. Але хто мог бачыць яго, хто данёс у Палац? Жывену чакала смерць, гэта несумненна. Злачынства над ёю зробяць, каб уджаліць яго ў самае сэрца, а пасля палюбавацца, як стане ён курчыцца…

Калі заглух у цемры тупат каня, на якім паімчаўся ў палац Роберт, ён хутка вярнуўся да сяброў.

— Што здарылася?

— На табе твару няма!

— Можа, аблога пачалася?

— Я хацеў сёння ў вашай прысутнасці даць ёй вольную, — расказаўшы, з чым прыехаў да яго лацінянін, растлумачыў коміт. — Але зараз трэба нешта іншае.

— Можа, ты паехаў бы да сына ў Нікею, а яе адправіў на Улахернскую прыстань? Там часта ідуць караблі ў Херсанес, — параіў Гермаген.

— Альбо схавайся разам з ёю ў каго-небудзь з нас, у прыгарадным маёнтку, — дадаў друнгарый. — Вось-вось пачнецца асада горада, і, думаю, знойдуцца патрыёты, якія адчыняць

браму Міхаілу Палеалогу. А паколькі твой сын добры воін, ён будзе тут і паручыцца за цябе.

— Думаю, што Балдуін не надта зачэпіць цябе, — павольна прамовіў Міхаіл. — Усё ж ты са знатнага роду, ён любіў тваю сям'ю. Але, — зноў ён ужыў італьянскую мову, — з гэтай нарвістай дзяўчынай табе давядзецца развітацца.

— Нізашто! — ускрыкнуў коміт.

— Сябра мой, ці мала яшчэ будзе ў тваім жыцці прыгожых наложніц, — па-філасофску спакойна зазначыў заканазнаўца. — Да таго ж можна і паспрачацца з этэрыярхам. Ты кажаш, што не атрымліваў ад яго лістоў. Ну і ён не зможа даказаць, што іх сюды сапраўды прывозілі, калі твае слугі гэта засведчаць. Падругое, ты купіў нявольніцу законна, на рынку, у прысутнасці сведак, не ведаючы, што яна належала камусьці. Вядома, не будзь гэты… як яго, Райнер адным з нямецкіх рыцараў, што дапамагалі Манфрэду, і не наблізь іх да сябе Балдуін, ніхто і не прыняў бы такую скаргу. Яна незаконная. Ён не меў права…

— Як быццам бы ты не ведаеш, што імператар — гэта табе і закон, і права, — з прыкрасцю абарваў яго Нікіфар. — Не, скакаць зайцам адсюль я не стану. Дзякуй за прапанову схавацца. Але я не маю права ставіць пад небяспеку вас, мае дарагія сябры.

Друнгарый ледзь улоўна ўздыхнуў з палёгкай, аднак паўтарыў прапанову.

— У мяне ёсць іншая думка, — раптам сказаў Міхаіл. — Несумненна, севаст альбо аслепіць, альбо пашле на смерць тваю прыгажуню, хаця б і дзеля памяці Еўдакіі. Але ты можаш яе ўдачарыць, і справа будзе выглядаць зусім іншаю.

— Удачарыць? — перапытаў Нікіфар.

— Ну так. Ты казаў, яна добра даглядала тваю жонку і тая дала абяцанне адпусціць яе. Аднак калі мы ўсе засведчым, што Еўдакія хацела яе яшчэ і ўдачарыць, гэта зменіць адносіны да цябе як да нягоднага, пажадлівага ўдаўца, які ўлягае за прыгажуняй.

— Але… Вы дзеля мяне гатовыя стаць ілжэсведкамі? Я ніколі не забудуся на тое, мае дарагія сябры! І… ці згодзіцца яна?

— Думаю, яна заплача ад радасці, — з'едліва сказаў Міхаіл. — Агавары толькі ў дакуменце, што́ ты аддаеш ёй, іначай я не змагу пасля абараняць тваю маёмасць.

— Але мне трэба быць у Троннай зале заўтра. Значыць, прыём адбудзецца з раніцы, да абеду ў Залатой палацы, куды запрошаны паслы з Ерусалімскага каралеўства.

— Дык пашлі ганца да царквы Касмідый, я думаю, айцец Іаан табе не адмовіць. На досвітку ён і правядзе абрад.

Усе пагляды звярнуліся да Жывены.

Яна бачыла, якім вярнуўся яе гаспадар, і зразумела, аб чым ішла гаворка. Адчула яна гэтак жа, што сябры раяць Нікіфару вызваліцца ад яе, аддаць на літасць старога, хворага імператара, які да таго ж заняты цяпер і клопатамі аб утрыманні ўлады. Але рэдка сыходзіла літасць з Вялікага Палаца, яна ведала гэта. І таму ўстала і загаварыла да коміта:

— Магчыма, калі ты адправіш мяне за Понцкае мора, гнеў імператара заціхне.

— Ні ў чым нельга быць упэўненым. Але… мажа, варта будзе аб'явіць яе беглай, і тады толькі ты паўстанеш перад севастам, і гэта змякчыць ягоны гнеў, — раздумваў, згаджаючыся і адначасна разважаючы, Міхаіл.

Нікіфар стаяў спалатнелы. Нарэшце ён прашаптаў:

— Я пашлю зараз ганца ва Улахернскую гавань, і калі ідзе хоць які карабель на Херсанес — клянуся, што адпушчу цябе, славянка. Але і ты абяцай мне: калі лодзіі не будзе, згадзіся стаць маёй дачкой хаця б для таго, каб я мог заўтра спакойна зірнуць у вочы ворагам.

— Ты гэтым дапаможаш Нікіфару, а таксама, магчыма, выратуеш і сябе, — стаў угаворваць яе Васіль.

— Да таго ж яшчэ і невядома: а раптам заўтра на дасвецці ты будзеш сядзець на карме і глядзець, як знікае з тваіх вачэй такі ненавісны для ўсіх нявольнікаў Цар-горад, — мякка-ўкрадліва загаварыў Міхаіл.

Адчайнае жаданне выпрабаваць свой лёс, сваю ўдачу захапіла дзяўчыну. Здалося — стаіць на высокім будынку і вось-вось альбо ўпадзе, каб разбіцца да смерці, альбо… І колькі ж пачуццяў змяшчаецца падчас у адным-адзіным імгненні!

— Я згодная! — сказала яна рашуча.

— Мікіта! — закрычаў Нікіфар, і амаль у тое ж імгненне служка з'явіўся на парозе; выслухаўшы распараджэнне, увесь падабраўся, як ганчак, каб імчацца, куды скажа гаспадар, і знік.

Няўлоўная ноч глядзела скрозь вокны варожа і падазрона: жывы агонь свечак быў яе ворагам, бо адганяў прэч ад людзей у час, які належаў толькі ёй. Непагадзь, якая ўсчыналася, была, наадварот, памочніцай — людзі ўлягуцца ў свае норы, свае ложкі-труны і будуць цалкам належаць ёй, і толькі яна будзе рашаць, каму наслаць сон ці жахлівы кашмар. І, нягледзячы на свечкі, яна спрабавала падступіцца бліжэй, наваліцца цяжарам… Ды Нікіфар, нібы адчуўшы тое, зноў крыкнуў: «Музыку!», і

амаль тут жа ў пакой праслізнуў заспаны арфіст, які, беражліва паставіўшы арфу ля каленяў, стаў ціха перабіраць струны.

Але душа Жывены, як сойка, кружылася над служкам, які, адварочваючы галаву ад шалёнага ветру, што імчыцца па пустэльных вуліцах горада, ляцеў зараз на кані да Улахернскай гавані. Вось ён дабіраецца да прычалаў, дзе моцныя якары ледзь утрымліваюць на месцы цяжкія гружаныя лодзіі — кумварыі, цяжкія баявыя караблі — драмоны, усіі, памфілы. А больш лёгкія стругі і халендзіі калоцяцца на месцы, гатовыя ўзляцець разам з цёмнымі, халоднымі хвалямі, якія сёння нават тут, у гавані, нястрымна б'юцца аб бераг, а зусім недалёка, у моры, уздымаюцца ў цемры, сцяна за сцяной ідуць на горад і з жахлівым шумам разбіваюцца аб скалы. Жрыца амаль дакладна бачыла, як хлопец углядаецца ў стругі, але ніхто не чуе яго, і ён кіруе да высокай вежы, дзе гарыць агеньчык, пасля караскаецца па прыступках і заходзіць да гемілахіта — камандзіра атрада воінаў, якія дзяжураць тут удзень і ўначы. Шыракалобы, мажны, як бык, у жалезным панцыры на грудзях і кароткіх скураных штанах, прыкрытых, пакуль ён дрэмле, цёплай ваўнянай хламідай, гемілахіт слухае пасланніка коміта, пачціва прапануе яму сесці, але на пытанне, ці ідуць сёння караблі ў Херсанес, адмоўна ківае галавой. «О, не адмаўляй», — моліць яго Жывена, моліць адчайна, з усёй сілай надзеі. Але не — яе сіла тут ні пры чым, ён пацвярджае: заўтра ў мора не выйдзе ніводзін карабель, пра гэта казаў і галоўны наглядчык.

А гэта значыць, што яна застаецца тут, у гэтым доме, і не зможа збегчы, знікнуць адсюль!

— Ох! — вырвалася ў Жывены, яна схілілася над сталом, упала рукамі і галавой на вышыты залатымі грыфонамі абрус. Гэта не Ашвіны падалі ёй знак, гэта страшная багіня смерці Мара засланіла ёй вочы, асляпіла залатымі агеньчыкамі свечак і цяпер стаіць над ёю і зласліва смяецца…

— Што з табой? — Нікіфар падняў яе галаву, дзынькнула разгубленай нотай струна, Васіль падскочыў з кратэрам віна.

…Яна застанецца тут, у праклятым горадзе, дзе вырываюць распаленымі абцугамі вочы, а пасля сцелюцца на падлозе перад абразамі! І просяць даравання, і зноўку робяць тое самае! Птушкі-пачвары, вышытыя золатам, здалося, ажылі пад яе рукамі, пад локцямі, яны стараюцца задзяўбці яе, не даць вярнуцца назад, у свой храм, на сваю зямлю, дзе на Менцязі сцелюцца і абвіваюць яе ногі шаўковыя травы, дзе мякка спаць на верасах, дзе…

— Караблі не ідуць сёння ў Херсанес! — прастагнала дзяўчына.

— Адкуль яна ведае? — здзівіўся Васіль.

— Я ведаю гэта!

Візантыйцы пераглянуліся.

— Нікіфар, можа, мы робім нядобрую справу — калі яна чараўніца, то тады зразумела, што на нас найшло і чаму мы згадзіліся ілжэсведчыць, — выказаўся Міхаіл. Астатнія разгублена маўчалі. Але Нікіфар гнеўна глянуў на сяброў:

— У каго з нас у такую вось хвіліну не раскрываюцца вочы? — ён павысіў голас. — Ўратаваць нявінную істоту, урэшце, проста прыгажосць — хіба не абавязак кожнага эліна?

— Магчыма, ты маеш рацыю, — прамовіў нарэшце Васіль. Гермаген, хаця і няўпэўнена, згодна кіўнуў галавой.

— Ну, вось і добра, — з палёгкай уздыхнуў Нікіфар. Ён падышоў да дзяўчыны. — Выпі, — і ён амаль ткнуў ёй у вусны кратэр. Павярнуўся да сяброў, разгублена патлумачыў: — Яна не ў сабе, бо добра разумее, што яе можа чакаць заўтра.

І перайшоў на італьянскую мову:

— Я не хачу губляць яе! Не хачу! Што яшчэ можна зрабіць, каб не страціць золатавалосую славянку?

— Нічога, — змрочна адрэзаў Міхаіл. — Альбо яна — альбо выгнанне ці нават смерць.

— Тады спачатку я дам ёй вольную. А вы будзеце сведкамі.

У зачыненыя вокны білася непагадзь, дождж барабаніў па каляровым шкле, і свечкі мігцелі, ад чаго святыя на абразах глядзелі спачувальна і здаваліся жывымі. Пісец рыпеў пяром па пергаменце.

Пакідаючы за сабой ручаіны, шлёпаючы намакрэлымі сандалетамі, увайшоў Мікіта і расказаў, што ніводзін карабель не выйдзе заўтра ў Понцкае мора. Нікіфар сам нагбом выпіў віно, якое засталося ў чашы, загадаў слугам размясціць гасцей па пакоях.

— У першы час* вас разбудзяць, — сказаў ён. — Будзьце гатовыя. А я пашлю яшчэ ганца ў манастыр Касмідыя**.

— Прасі айца Іаана ад усіх нас. Мы ўсё ж разам хадзілі ў школу, і мой бацька дапамог яму атрымаць гэтае месца ў сталічным храме, — ужо на парозе нагадаў друнгарый віглы.

* У 7 гадзін раніцы.

** Усе справы сям'і павінна была засведчыць у Візантыі царква.

Усе разышліся. Але ў сем гадзін, хто на насілках, хто на кані — усе яны былі ля дзвярэй царквы Касмідыя. Да іх дадаліся яшчэ вольнаадпушчанік сям'і Скліраў Дыянісій, які меў багатую краму ў раёне Маландзійскай брамы, і яго жонка.

Дождж калаціўся ў паўночную сцяну храма, ранішняе святло неахвотна запаўзала ў высокія вокны; на пантофлях святара абсыхала чырвоная гліна. Скарамангій* Нікіфара — карычневы, з бліскучай сярэбранай каймою — вісеў на ягоных плячах як чужы.

— Пачнём, — распарадзіўся айцец Іаан.

Коміт з адчаем глядзеў на Жывену, было бачна, што ў ім адбывалася барацьба — вочы гарэлі, як у звера, у якога вырываюць здабычу. Яна ж вачэй не ўздымала, але твар быў бледны, як у нежывой.

— Пачынай! — штурхануў сябра пад локаць Міхаіл. Тады, як апамятаўшыся, той вывеў дзяўчыну да алтара і аб'явіў:

— Жонка мая хацела даць гэтай рабыні вольную. Я ж, улічваючы вялікую дапамогу дзяўчыны ў час хваробы жонкі і цяпер, хачу павялічыць літасць нашага дома і аб'яўляю яе сваёй дачкой, а таксама прашу благаславення царквы на гэтую добрую справу.

Голас яго перарываўся, нібыта душылі коміта парывы халоднага ветру.

— Калі ў прысутных ёсць пярэчанні, хай скажуць пра гэта зараз, — святар абвёў усіх вачыма, але ніхто не паварушыўся.

— Хачу, каб ты пакляўся святымі дарамі, што не меў з вольнаадпушчаніцай, будучай сваёй дачкой, ніякай грахоўнай справы, — загудзеў святар.

— Клянуся святымі дарамі.

— А па якой прычыне ты робіш яе прыёмнай дачкой?

— Я спавядаўся табе пра ўсё, святы айцец. Але няхай гэта застанецца закрытым для іншых, бо ніхто не ведае шляхі гасподнія, якімі прыходзяць да царквы грэшнікі, — Нікіфар, сам таго не заўважаючы, да болю сціснуў руку Жывены, на ілбе ў яго заблішчэлі кроплі поту.

Тады, кіўнуўшы галавой, зноў загудзеў на ўсю царкву святар:

— Я аб'яўляю вольнаадпушчаніцу Жывену прыёмнай дачкой Нікіфара Скліра, шчырага сына царквы і аднаго з нашых дабрачынцаў, і даю ёй новае імя — Ефрасіння, — святар працягнуў руку, куды служка ўклаў загадзя падрыхтаваны скрутак паперы. — І даю гэтае сведчанне ў тым, што было ўсё зроблена

* Адзенне накшталт каптана для выхадаў у свет.

згодна з законамі, зацверджанымі яшчэ пры Канстанціне Вялікім і яго маці Алене… Вы, прысутныя, падпішаце гэтае сведчанне. А ты, — звярнуўся ён да Жывены, — павінна не забывацца на сваіх новых родзічаў, памінаць іх у малітвах — камітэсу Еўдакію, твайго дзядзьку Алусіяна, род Скліраў…

Святар раздаў усім невялікія абразы, але Жывена ад хвалявання не разгледзела, што намалявана на іх, толькі загарнула ў шаўковую хустку, якая была ў яе на плячах.

Абрад скончыўся, але ўсе стаялі прыгнечаныя, пасля сталі паціху разыходзіцца.

Нікіфар пасадзіў Жывену ў свае насілкі.

— Ты цяпер мне дачка, дык прывыкай.

Некаторы час яны сядзелі моўчкі. Пасля дзяўчына ціха запыталася:

— У цябе быў брат, гаспадар?

— Не проста брат, а блізнюк, падобны да мяне як дзве кроплі вады.

— І што з ім сталася?

— Ён памёр ад ліхаманкі. Я таксама цяжка хварэў, аднак выжыў. Тады ж наш род уклаў у гэтую царкву вялікі дар за памінанне майго брата, бо Казьма і Даміян — таксама боскія браты-блізняты, як і мы з братам. Зрэшты, на іконцы, якую даў табе святар, блізняты надта падобныя на нас з Алусіем, яшчэ юных.

Хмурая непрыветная раніца, бляклае полымя свечак, пах сырасці — усё, што паглыбляла яе адчай, нібы адступілася. Выцвілы, як пасля засушлівага лета, ейны свет зноў напоўніўся фарбамі, заспяваў, набыў сваю пукатасць і выразнасць. Ашвіны не пакінулі яе, яны тут, і няхай носяць іншае імя, але гэта яны, яны! Дый яна сёння змяніла сваё ранейшае імя, схавала яго ў глыбіні душы, як хавалі некалі глыбока ў зямлю клады, заклінаючы іх духамі.

Яна разгарнула шаўковую хустку, угледзелася і ледзь не войкнула: золатавалосыя светлыя юнакі былі якраз такімі, якімі не раз з’яўляліся перад ёю падчас мараў, трызненняў у далёкім Навагародскім храме, толькі яны тут, на іконе, былі ў доўгіх сініх туніках, і іхнія рукі смірэнна ўздымаліся наверх, да неба. А на чырвоных, сініх, зялёных чатырохкутніках-клеймах вакол іх месціліся розныя звяры, аднак жа самымі вялікімі былі коні!

— У нашых продкаў яны былі Дыяскурамі, грэкі надта любілі ўздаваць ім хваласпевы, — крануў яе за плячо Нікіфар. — Ты, можа, і не заўважыла, але і ў нас у парадным пакоі ёсць стара-

даўні абраз Казьмы і Даміяна, толькі невялікі. Яго заказаў наш бацька, калі мы нарадзіліся.

Насілкі крануліся, але на імгненне расчыніліся дзверы царквы, і яна ўбачыла святара, які, укленчыўшы перад алтаром, маліўся. Яна адчула ягоную няўпэўненасць.

— Імператар можа пакараць яго?

— Калі разгневаецца. Але хто паспее яму данесці, што абрад ўдачарэння праведзены толькі сёння? Я прасіў айца Іаана паставіць на пергаменце мінулы месяц, і ён гэта зрабіў, каб уратаваць мяне.

Нікіфар гаварыў гэта, але ўпершыню пачула дзяўчына страх і ў ягоным голасе — вялікі страх перад бязмежнай уладай, якая магла ў адно імгненне спапяліць яго, як маланка.

Дождж заціх, але жоўтыя лісты платанаў прыліпалі да роўных каменных пліт найпрыгажэйшай вуліцы Канстанцінопаля Месы, якая вяла да Галоўнага Палаца. Яны падалі і падалі, усцілаючы торг паміж форумам Канстанціна, а таксама плошчу Таўра. Чорная хмара, здавалася, зачапілася сваім хітонам за крыж на велічным храме Сафіі, а заліў Басфора за ёю быў свінцова-шэрым і непрыветным.

Насілкі, на якіх неслі Нікіфара і Жывену ў Вялікі Палац, былі ўжо не летнія, з артагазавымі* занавескамі, а прызначаныя для зімовага ўжытку, і, рассоўваючы цяжкія завесы з нашытымі на іх гербамі роду Скліраў, Жывена старалася, каб халодны вецер не надта выстуджваў яе, бо была яна ў шаўковым адзенні, як таго патрабаваў прыдворны цырыманіял.

Па загадзе гаспадара на досвітку ў дом прыехала адна з далёкіх цётак Скліра, якая ў маладосці служыла ў Палацы апаясанай папіяй**, а пасля трапіла ў няміласць і цяпер дажывала век шчодрасцю Нікіфара. Цётка дапамагла ёй апрануцца. Шапатлівая, шэрая, як моль, Ірына ажывілася, успомніўшы былое, і папрасілася ў кладавыя, дзе ляжалі скруткі тканін, сувоі карункаў, стаялі каштоўныя, шытыя золатам пантофлі былых уладальніц старадаўняга маёнтка, віселі дзібаджы***, дзівіцісіі****, скарамангіі. Вохкаючы ад таго, што зусім няма часу, яна падабрала для Жывены рэдкай прыгажосці тканіну — якраз

* Род шоўку.

** Высокі прыдворны тытул.

*** Шаўковыя персідскія покрывы.

**** Парадная адзенне.

пад фіялкавыя вочы, знайшла не надта дарагія падвескі з дробнымі жамчужынамі, сама прымерала дзяўчыне сандалеты, выбрала самыя маленькія, з сярэбранымі клямрамі. Рабыні хутка падшылі дзяўчыне туніку, злёгку падвялі вочы і нацерлі яе цела пахкім алеем.

— Мы не будзем рабіць табе прапалому, усё ж гэта прычоска толькі для знатных жанчын, а ты, хаця толькі што стала знатнаю, у вачах імператара яшчэ нішто, — хутка завіхаючыся вакол Жывены, тлумачыла Ірына. — Мы надзенем табе на галаву сярэбраны абручык і распусцім валасы — яны самы лепшы твой убор. І трошачкі замажам цені пад вачамі, затое злёгку кранём чырвоным шчокі…

Дзяўчына не пазнала сябе, калі зірнула ў бронзавае люстэрка. Іранічна ўсміхнулася. Колькі значэння надаюць рамеі абрадам! Нельга ісці да імператара, калі на табе не будзе парфумы і пазногці не пакрытыя лакам. Але хіба справа ў гэтым? Яе моц не ў парфуме, і калі суджана перамагчы ў будучым паядынку, то толькі сілай духу. А ў яе сёння ёсць такая сіла, яна верыць, што не зможа імператар загадаць асляпіць ці пакараць яе смерцю. І таму, што не распусніцаю паўстане яна перад ім, а дачкой канюшага, і яшчэ таму, што падвойны знак падалі сёння Ашвіны. Менавіта ў царкве Казьмы і Даміяна яна і даведалася пра Нікіфара і Алусія, таксама блізнятаў. А сімвал гэты няпросты, ён значыць, што не ўсё, прызначанае ёй тут, у Візантыі, збыта і пражыта. Яшчэ ж нешта павінна тут адбыцца. Але толькі не смерць! Смерць яна адчула б. Вось толькі на які час затрымаюць тут абставіны?

І адразу падступіла пад сэрца нешта цяжка-злавеснае. Але, страсянуўшы галавой, скінула з сябе гэтае адчуванне Жывена. Не час, не месца. Усё роўна прыйдзе, што прызначана, і заспее яе там, дзе трэба…

— Ты запомніла ўсё, што сказала табе Ірына? — перапыніў яе думкі Нікіфар. Ён сядзеў засяроджаны, ліловы колер падкрэсліваў яго сівую бараду, жаўтлявы твар, апушчаныя плечы. Жывена кіўнула.

— Тады паглядзі наперад, толькі не надта высоўвайся. Вялікім Палацам у нас называюць некалькі будынкаў. Бачыш той, ніжэйшы? Ён называецца Дафна, яму восем стагоддзяў, і стаіць ён ля іпадрома і плошчы Аўгустыён — іх адсюль не бачна. А там, за ім, іншыя — Эрас, Містэрыён, Камілас, Мусікас. Імператар прымае нас у найпрыгажэйшым і самым любімым ім палацы Трыконху — бачыш, рабы павярнулі направа, да Змяінай калоны?

Калона з зялёнага мармуру, уся як звітая змяя і ад таго празваная Змяінай, здавалася гігантам, які таксама сцеражэ агромністы комплекс імператарскіх палацаў.

Трыконх нават у гэты непрыветны лістападаўскі дзень быў асляпляльна-прыгожым. Пазалочаны дах рэзка кантраставаў з цёмна-зялёным шэрагам міртавых кустоў, што ўздымаліся амаль да другога паверха. Адкрытая галерэя з калонамі была зроблена з ружовага мармуру, а трыбуны для маленькага іпадрома і басейн — з белага. Ля басейна сядзелі белыя мармуровыя львы, з пашчаў іх, нягледзячы на халодны дзень, струменілася вада. Познія, ужо прывялыя ружы ўсё яшчэ не былі зрэзаныя, яны ажыўлялі дарожкі, па якіх, сышоўшы з насілак, крочылі Нікіфар і Жывена — ніхто не мог, апроч імператарскіх родзічаў, пад'язджаць на конях альбо ехаць у насілках да самага ўвахода ў любы з імператарскіх палацаў.

Адчыніліся шырокія палісандравыя дзверы, іх абдаў пах ружавай вады і духмяных алеяў. Па белай мармуровай падлозе, дзе некалькімі пакаленнямі майстроў выкладзеныя былі мазаічныя пано з паўлінаў, ільвоў і грыфонаў, ступаць было цяжка: слізгацелі ногі ад нейкай спецыяльнай масцікі, якою націралі падлогу, каб не падрапалі яе наведвальнікі. Шырокая белая лесвіца вяла наверх. Там на сцяне была выкладзеная каляроваю смальтай галава анёла ў карычневых, жоўтых і чырвоных колерах. Коміт і дзяўчына хацелі падняцца наверх, але раўдухі-вартавыя трымалі сякеры скрыжаванымі, таму давялося чакаць унізе.

Неўзабаве да іх спусціўся сам паракіманен* Канстанцін. Круглы безбароды твар еўнуха быў заклапочаны.

— Яны тут зусім звар'яцелі, — сказаў ён. — Хочуць замяніць усіх грэкаў. А што разумеюць франкі? Сячы мячом, рагатаць і тупацець сваімі ботамі па свяшчэнных пакоях рамеяў. Ты ўсё-ткі ўзяў з сабой наложніцу? Лепей табе было б задушыць яе, можа, тады ты суняў бы гнеў імператара.

Калі ж Нікіфар расказаў яму пра ўдачарэнне, еўнух задумаўся, але пасля безнадзейна махнуў рукой:

— Ну, дык аддадуць яе гэтаму… рыцару. А можа, загадаюць пайсці ў манастыр. І гэта будзе лепшым выйсцем, павер мне, коміт, таму што Балдуін сёння з раніцы адправіў на смерць чатырох рамеяў, і не з горшых! Страх перад Міхаілам Палеалогам мучыць яго, страх страціць Царгорад і ўладу.

---

* Начальнік службы асабістых пакояў імператара.

Ён жэстам паказаў, каб яны ішлі за ім, і спешна павёў наверх, але павярнуў не ў Тронную залу, а направа. На здзіўленае пытанне, куды яны ідуць, еўнух змрочна азірнуўся:

— Ён захацеў прымаць сёння ў Палаце Юстыніяна, я ледзь паспеў прыгледзець, каб там усё было ў парадку. Я ж кажу — усё кумільгом!

Яны ішлі і ішлі — праз галерэі, дзе стаялі мармуровыя статуі язычніцкіх багоў, антычныя амфары — залатыя, срэбраныя, з дзівоснымі распіснымі ўзорамі. На сценах вісела дарагая зброя — кальчугі, мячы, дзіды, нават славянскія шаломы, і ўсюды — у шкляных альбо каменных куфрах з адкрытымі вечкамі — ганарліва ззялі крыжы, кароны, абручы з каштоўнымі камянямі, а ў палацы Дафна, у палаце, праз якую яны праходзілі, сцены аздабляла залататканае, пераліўна-шаўковае, парчовае, аксамітавае адзенне («былых імператараў і імператрыц», — шапнуў Нікіфар).

— Я вяду вас доўгім шляхам, — азваўся на гэтыя словы еўнух, — каб вы паглядзелі хаця б тысячную частку багаццяў Вялікага Палаца. Не кожнаму шчасціць гэта бачыць, і табе, таўраскіфка*, нечувана пашанцавала. За такое не шкада і заплаціць жыццём!

Нікіфар ласкава дакрануўся да Жывены, як бы суцяшаючы яе і стараючыся захіліць ад непрыязных слоў Канстанціна, але дзяўчына нават не заўважыла таго. Уся яна была як напятая струна, і адчайнае, нават нейкае гарэзлівае пачуццё не пакідала яе. Так было ў самыя нялёгкія моманты жыцця, калі само яно, жыццё, было птушкай, за якою, паклаўшы смяротную стралу на цеціву, назірае паляўнічы. У птушкі ёсць адно — неба, яго ахоўная бездань, і крылы, дзе прагай выратавацца трапеча кожнае пяро…

— Не палохайся, калі ўбачыш, як ля сцяны зарыкаюць ільвы, а на дрэвах засяваюць птушкі, — нібы адчуўшы яе стан, шэптам папярэдзіў коміт. — Яны — не жывыя, іх рухае вада. Колькі стагоддзяў таму іх зрабіў наш вучоны Леў Матэматык. А яшчэ вынайшаў ён светлавую сігналізацыю, каб паведамлялі службы, што робіцца ў імперыі.

І сапраўды — калі яны ступілі ў доўгую галерэю, раптам пырснулі ўверх бліскучыя струмені, і на залатых дрэвах заварушыліся, як жывыя, залатыя птушкі з сярэбранымі дзюбкамі. Пачулася музыка. І тут жа злева зарыкаў мармуровы леў, ад-

---

* Славян у Візантыі называлі таксама таўраскіфамі.

крываючы пашчу. Убачыўшы паракіманена, закаваныя ў жалеза воі расступіліся, адвёўшы дзіды, і коміт з дзяўчынай уступілі ў палату Юстыніяна. Сцены тут не былі абвешаныя каштоўнасцямі, у ёй было нават трохі пуста ў параўнанні з іншымі. Але высокая столь гэтай палаты была празрыстай, і адтуль лілося святло, падаючы на падлогу, на калоны, якія былі зроблены з зялёнага мармуру, спрэс зрэзанага найтанчэйшымі ўзорамі. Над калонамі свяціліся мазаікі — ранейшыя імператары, іх жонкі, дзеці ішлі, здавалася, бясконцым шэрагам, адрачоныя і адначасна ўрачыстыя. Дзесьці тут былі Канстанцін Пяты, празваны Кабылятнікам за сваю любоў да коней, які расправіўся са славянамі Македоніі з нязвыклай нават для гэтай жорсткай краіны лютасцю, недзе горда глядзіць на прысутных севаста Ірына, ягоная ўдава, якая асляпіла свайго сына Канстанціна Шостага, каб самаўладна сядзець на троне і рабіць тое, што захоча. І іншыя, памяць аб якіх застанецца вечна, бо пісалі яны яе па ўсім свеце — крывёю і ашуканствам, інтрыгамі і заваблівасцю сваёй пышнай краіны…

Яна ішла наперад, але вочы былі прыкутыя да мазаік, а калі апусціліся ўніз, дзяўчына здрыганулася: яе погляд сустрэўся з вачыма Райнера. Так, гэта ён быў тут, у плашчы з чырвоным крыжам. Высокі і вузкі, як меч, стаяў нямецкі рыцар пасярэдзіне купкі людзей.

Пакуль яна ішла, іх позіркі скрыжаваліся.

Мінулае прамільгнула перад ёю, нібы хтосьці паказваў малюнак за малюнкам — вось у дзень каранацыі яна ляціць на кані па шумлівым, вясёлым Навагародку, а гэты, тады яшчэ танклявы, спрытны юнак лупіць сваю кабылу бізуном і нешта крычыць, не памятаючы сябе, імкнучыся перагнаць ейнага скакуна…

А вось ён стаіць перад ёю ў храме і глядзіць позіркам умольным і ненавісным адначасна. А яна, уся захопленая сваім жыццём і лёсам, нібы здалёк пазірае, як, раструшчаны ягоным ботам, пырснуў асколкамі ва ўсе бакі чырвоны рубін.

О, каб прадбачыць будучае! Каб жа было дадзена бачыць, ад чаго прарасце насенне зла!

Чужымі і варожымі былі яго вочы, але нешта нібы маланкай мільганула ў іх, і яна адчула — ён жадае яе. Жадае гэтак жа шалёна і нястрымна, як і там, на радзіме. І гэта ўжо вышэйшае за яго і яе. Ён не аддасць яе нікому, а калі не ўдасца вырваць, лепей пашле на смерць.

Еўнух хуткім, завучаным шэптам растлумачыў ёй, хто сёння будзе прадстаўляць інтарэсы Райнера.

Усе яны — чырванашчокі, нізкі эпарх — прэфект горада; мажны, на галаву вышэйшы за іншых этэрыярх; вёрткі, рыжы, як ліс, лагафет дром, які адказваў не толькі за пошту* і знешнія сувязі, але і займаўся дзяржаўнай бяспекай, а таксама тры рыцары-чужаземцы — з непрыхаванай цікавасцю назіралі, як займалі ўказанае еўнухам месца іхнія адказчыкі. У палаце былі яшчэ прысутныя: каля памоста, пакрытага цёмна-барвовымі дыванамі, на якіх месціўся высокі сярэбраны трон з інкрустацыямі і пазалочанымі поручнямі ў выглядзе львіных лапаў, стаялі ў строга вызначаных месцах прыдворныя, згодна са сваімі пасадамі. Сярод іх былі і жанчыны: у высокіх, як вежы, прапаломах, абвітыя белымі вуалямі, у мантыях, некаторыя ў пурпуровых, што азначала прыналежнасць да імператарскай сям'і, і амаль у кожнай на грудзях ззялі перлы і рубіны, а ў валасах блішчэлі дыяманты.

Ціхі гул стаяў вакол; ён відавочна ўзмацніўся, калі ў палату зайшлі Нікіфар і Жывена, і не пераставаў вібрыраваць вакол іх, нібыта рой надакучлівых мух. Аднак гэта не перашкаджала ўсім пільна сачыць за аксамітавай чырвонай заслонай — з-за яе павінен быў з'явіцца імператар. Ужо дзіэтарыі распалілі кадзілы, і пахкі дым тонкімі струменьчыкамі прабіваўся з-за другой заслоны, злева ад трона, ужо апаясаная папія ўзялася за цяжкія колцы са слановай косці, каб прыўзняць заслону перад імператарам, аднак той не выходзіў.

Перавальваючыся, даклыпаў да памоста прэпазіт, паправіў складку на дыване, падняў руку, і ўсё сціхла. Загучала ціхая музыка за паўднёвай заслонай, зладжаны хор пачаў хваласпеў, аднак спевакоў не было бачна — яны не мелі права глядзець на імператара рамеяў. А ён ужо ішоў — у барвовым дзівіцысіі, з мантыяй, шытай золатам, што ляжала на мажных, пульхных плячах, у барвовых ботах, — і тыя, хто стаяў ля памоста, нізка схіліліся ў паклоне, а тыя, хто стаяў далей, упалі ніц і паднялі галовы толькі тады, калі імператар, цяжка ўздымаючыся па прыступках, падняўся да трона і ўсеўся ў крэсла.

Па знаку прэпазіта наблізіліся і ўсталі раздзеленыя на дзве купкі абвінаваўцы і адказчыкі. Змрочныя вочы імператара з чырвонымі пражылкамі спыніліся на Жывене, пасля на коміце, голас яго прагучаў раўнадушна, але з пагрозлівымі ноткамі:

— Чаму ты не аддаў рабыню яе гаспадару?

— Ён… ён не прасіў яе ў мяне! — разгубіўся коміт.

---

* У візантыйцаў пошта была важным дзяржаўным ведамствам.

— Прасіў! — азваўся этэрыярх. — Я сам двойчы пасылаў лісты коміту, але ён палічыў, што занадта знакаміты і радавіты!

Нібыта выбітая з шахматнай гульні фігура, Нікіфар пахіснуўся.

— Гавары! — ярасна крыкнула Жывена. Ніхто не пачуў голасу — яна падумала тое сама сабе, але гаспадар яе нібы ажыў.

— Я прывёў сюды сваю прыёмную дачку Ефрасінню, каб разам з ёю прасіць літасці ў найміласцівага з усіх імператараў Візантыі. Каб была жывая мая жонка Еўдакія, яна далучылася б да маёй просьбы, бо Ефрасіння, якая атрымала ад Бога дар лекавання, шмат аблегчыла яе невыносныя пакуты…

Голас Нікіфара дрыжаў, аднак гучаў на ўсю палату. Экзарх, выслухаўшы яго, выступіў наперад. Калі ён і разгубіўся ў першую хвіліну, то хутка ачомаўся.

— Гавары! — загадаў Балдуін Другі.

— Найсвятлейшы і ўселітасцівы аўгуст, думаю, што коміт пераступіў і боскія, і чалавечыя законы. Усім вядома, што славянка была яго наложніцай. Зрабіўшы яе прыёмнай дачкой, ён нанёс абразу і ўсім нам, і нябожчыцы, якая, мабыць, перад судом Божым сведчыць аб несправядлівасці, і болей таго — аб граху смяротным…

— Я пакляўся ў царкве перад абразом Божым, перад святымі пакутнікамі, што ні разу не дакранаўся да гэтай жанчыны з грэшнымі намерамі. А вось рыцар Райнер, які павінен дбаць аб Ордэне і чысціні цялеснай, выкраў яе ў час падарожжа і сапраўды хацеў зрабіць сваёй наложніцай, але яна ўцякла, бо Госпад не дапусціў такога… — парыраваў коміт.

У вачах імператара ўпершыню ўспыхнула цікавасць. Ён пераводзіў вочы з Нікіфара на Райнера, а пасля жэстам паказаў рыцару, што той можа гаварыць.

— Мы рабілі тую справу, дзеля якой ваявалі ў Святой Зямлі і на землях язычнікаў, — прыводзілі паганцаў да Бога. Так, я захапіў яе разам з іншымі, але толькі дзеля таго, каб самому ахрысціць, прымусіць адчуць існіннага Бога, бо толькі хрысціян нам не дазволена браць у палон.

Рыцар Райнер гаварыў упэўнена, цвёрда, і гул адабрэння пакаціўся па палаце. Адчуўшы падтрымку, ён працягваў:

— Я папрасіў не аддаць мне маю рабыню, не! Я выкупіў бы яе, але коміт мне адмовіў — дакладней, не адказаў на лісты. Мяркую, што маю на яе першапачатковае права. І мне здаецца, што коміт у маёй асобе пакрыўдзіў усіх рыцараў Хрыстовых.

— Мы аддаём за цябе, імператар, сваю кроў і жыцці, і верылі, што твае прыдворныя таксама, як і ты, цэняць гэта! — падтрымаў яго адзін з рыцараў. — Да таго ж… Не адказваючы на лісты этэрыярха, гэты чалавек, — ён пальцам паказаў на Нікіфара, — не раз пісаў свайму сыну ў Нікею, просячы, каб той падбухторваў Палеалога ісці на Царгорад, і абяцаў зрабіць так, каб у зручны час былі адкрытыя для нікейцаў брамы.

— Таму, о святлейшае сонца наша, — тут жа падтрымаў яго этэрыярх, — калі рабыня зрабілася прыёмнай дачкой коміта, хай разам з ім адказвае за ягоную здраду!

Нікіфар збялеў так, што здалося — у яго ўжо няма твару, а ёсць толькі нешта невыразна-адчайнае, адкуль данеслася, як стогн:

— Гэта няпраўда! Я пісаў сыну, але не заклікаў ісці на сталіцу!

— Тады хай пра гэта скажа сведка, — злавесна вымавіў этэрыярх.

Ён і яго рыцары, чужаземцы-лаціняне, ненавідзелі грэкаў і лічылі, што тут, у распешчанай Візантыі, губляецца тое, чым яны ганарыліся заўсёды: дух ваяўнічасці, гатоўнасць аддаць сваё жыццё за права быць першым на турніры, у баі, у любой спрэчцы. Этэрыярх не браў у сваю варту, якая абараняла горад, ніводнага з візантыйцаў, нават калі такое жаданне выказваў сам Балдуін Другі. Адзіны ў гэтым горадзе, ён гаварыў з імператарам як воін з воінам, нагадваючы Балдуіну слаўныя рыцарскія часы паходаў у Святую Зямлю, у якіх прымалі ўдзел яшчэ яго бацька, дзед, шматлікія родзічы. Начальніка імператарскай гвардыі любіў наследнік імператара Філіп, і нават Беатрычэ, дачка герцага Карла Анжуйскага, у свае юныя гады захаплялася яго подзвігамі ў турнірах і славай першай шпагі дзяржавы.

Пра гэта ведаў Нікіфар, і страх памуціў яго галаву, падкраўся пад сэрца: сапраўды, ён некалькі разоў пасылаў з Салімам лісты да сына, дзе скардзіўся на імператара і спадзяваўся на канец панавання лацінян. Таму, убачыўшы, як уводзяць у палату ягонага слугу, ён адчуў, што зараз можа ўпасці — ногі яго дробна дрыжалі, дрыжаў ён сам.

Салім поўз да імператара, скуголячы і падвываючы хваласпевы. Прэпазіт ударам нагі прымусіў яго замаўчаць, бо слуга, сам таго не ведаючы, замахваўся на свяшчэнныя правілы — нават хваласпевы дазваляліся не кожнаму, тым болей слузе. Ледзь жывы ад жаху, мусульманін пацвердзіў, што вазіў лісты ў Нікею.

— Ён непісьменны! — не сцярпеў Нікіфар.

— Але я чуў, я чуў, як высакародны сын, прачытаўшы ліст, казаў, што страціг Аляксей*, военачальнік праклятых нікейцаў, якія хочуць адваяваць у цябе імперыю, будзе радавацца такой дапамозе! — галасіў Салім.

— Майго слугу падкупілі! — амаль заенчыў коміт.

Райнер злавесна ўсміхаўся, вочы яго звузіліся, як у звера, які амаль зацкаваў ахвяру.

Прэпазіт знакам паказаў Саліму вяртацца да дзвярэй, і той стаў адпаўзаць назад, не смеючы падняць галавы.

Цяжкае маўчанне павісла ў палацы.

Жывена глядзела на старога чалавека, які сядзеў на троне, і адчувала яго халоднасць і раўнадушша да ўсяго, што адбываецца. Ён нават трохі забаўляўся, як забаўляліся яго папярэднікі на іпадроме ці рымскія цэзары ў Калізеі, дзе звяры рвалі жывое чалавечае цела. Чужыя жыцці і смерці даўно страцілі для яго каштоўнасць, бо столькі пажадлівасці і хцівасці, жаданняў і нянавісці клубілася стагоддзі запар вакол гэтага трона, што чыстаму чалавеку можна было б задыхнуцца ў нябачных, але надта адчувальных для яго чорных злавесных хмарах…

Ён зноў павярнуў свой твар да дзяўчыны, цяжкі позірк упіўся ў яе.

— А што скажаш ты?

…За яго спіной, па абодва бакі ад трона, як прашалясцелі крылы… ці то парчовыя мантыі? І дзве постаці, якія нібы сышлі з іконы святых Казьмы і Даміяна, калыхліва ўсталі перад ёй, зіхоткія, светлыя, радасныя. А можа, гэта рассыпаліся па барвовай заслоне залатыя зайчыкі сонца, што прабілася скрозь тоўстыя пульхныя хмары?!

І сіла, якую яна несла ў сабе, нібы дарагое віно ў сасудзе, калыхнулася ў грудзях. З неадольнай жаночай вабнасцю ўсміхнулася жрыца Ашвінаў проста ў твар гэтаму адзінокаму мужчыне на троне, і адразу нешта ў ім таксама як калыхнулася, азвалася — не, не словам яе, а вабнасці і прыгажосці.

— У далёкім Новагародскім княстве жыве мой бацька, князь Міндоўг, якога адзінаццаць гадоў таму назад каранаваў як караля магістр Ордэна мечаносцаў Андрэй фон Стырлянд. Сам папа прыслаў у Новагародак спецыяльны ліст і карону. Пры тым быў і рыцар Райнер, якому бацька мой даручыў клапаціцца пра мяне. Але рыцар, які прыехаў дапамагаць хрысціць нашу зямлю, выкраў мяне, каб завезці ў свой замак — спытайце ў

* Адзін з палкаводцаў, што адбіралі ў 1261 г. Царгорад у лацінян.

яго, навошта? Я збегла ад яго, гэта праўда. Лёс закінуў мяне сюды, але высакародны коміт і яго жонка дапамагалі мне. Калі я расказала пра вераломства рыцара, твой канюшы зрабіў мяне сваёй прыёмнай дачкой — каб абараніць ад яго, бо ўжо нападаў ён на мяне — у прыцемках, зноў вераломна.

Яна гаварыла, перамешваючы праўду і няпраўду, нібы нехта маўляў ейным голасам, пераконваў праз яе гэтага чалавека, ад якога залежала, ці вернецца яна на радзіму.

— Дык няўжо ты, магутны імператар рамеяў, паверыш такому чалавеку?! — празвінелі на ўсю палату яе апошнія словы.

Усе погляды звярнуліся да Райнера. Ён хацеў загаварыць. Але ўсё трапяталі па абодва бакі ад трона два прыўкрасныя юнакі, і адчула Жывена, як сіла яе запячатвае вусны рыцара неадольнай пячаткай, і разгубленасць праступае на яго твары, бо не чакаў ён, не ведаў, што яна — дачка навагародскага караля. А цяпер не цяміў, што казаць.

— Гэта… гэта няпраўда! — перасохлымі вуснамі прашаптаў ён.

І разгубленасць рыцара была для ўсіх такой відавочнай, што сімпатыі прысутных адразу адвярнуліся ад яго. Нават этэрыярх маўчаў, мабыць, таксама агаломшаны пачутым.

— Гэта праўда? — у кожным гуку імператарскага голасу чуліся раскаты грому. — Ты ведаў пра тое, этэрыярх?

— Але чаму мы павінны верыць былой рабыні? — абурыўся той.

— Таму, што Бог даў ёй самае лепшае на гэтай зямлі — прыгажосць, і я разумею і коміта, і рыцара! — з нечаканым запалам усклікнуў Балдуін Другі.

Яго вочы ажывіліся, раўнадушны твар памаладзеў, і на імгненне Жывена ўбачыла ў ім рыцара, які з мячом у руках абараняў Цар-горад ад усіх нападаў на працягу многіх гадоў, які любіў Беатрычэ і іншых жанчын, чые пасівелыя кудзеры гладзілі слаўнейшыя прыгажуні імперыі і кляліся яму ў каханні, а ён не толькі гарцаваў з мячом, але і спяваў ім песні, і нават, шапталіся, складаў вершы ў гонар іх красы.

— Дачка караля, хрышчанага Рымам, не можа быць палонніцай ніякага рыцара! — усклікнуў грэк-прэпазіт. — Адпусці яе, найсвяцейшы і найлітасцівейшы севаст!

Жывена не адводзіла вачэй ад імператара.

— Адпусці і майго прыёмнага бацьку! — яна ўсміхалася, як тварыла абрад, як чаравала, ужо дзёрзкая і адначасна пакорлі-

вая. — Данос на яго быў няправедным, гэта ўсё здарылася з-за мяне, і ты правільна ўсё разгадаў, вялікі імператар рамеяў!

І ён упершыню ўсміхнуўся — усмешкай мужчыны, які ўсё разумее, але не можа супраціўляцца вялікай магутнасці Афрадыты. І сказаў падабрэлым голасам:

— Пакінем усё, як яно ёсць.

І запытаўся яшчэ:

— А табе падабаецца мая сталіца, дачка далёкага караля?

— Я не бачыла нічога больш прыгожага, — адказала, усё гледзячы яму ў вочы, Жывена. І дадала цішэй: — Але веліч асляпляе мяне, вялікі імператар.

— Гэта значыць, ты хочаш вярнуцца?

— Хачу! — сказала яна страсна.

— Я падумаю пра гэта, — сказаў Балдуін працяжна і паглядзеў на прэпазіта. Той адразу ж пстрыкнуў пальцамі, з-за заслоны выбег прыдворны з залатым падносам, на якім ляжалі падарункі — для кожнага прыёму іх выбіраў сам еўнух-прэпазіт разам з протавестыярыем — галоўным цырымоніймайстрам двара. Імператар кінуў на паднос погляд, паказаў на вялікі залаты крыж з эмалевымі насечкамі, дзе была эмалевая выява Балдуіна, які прымае з рук самога Хрыста імператарскую карону. Прэпазіт падаў яму крыж, імператар зноў усміхнуўся:

— Падыдзі сюды!

Па шэрагах прыдворных пранёсся шэлест: Балдуін Другі, падаўшыся наперад, сам надзеў ланцужок з крыжам на шыю дзяўчыне.

— Ты прайграў! — шапнуў Райнеру этэрыярх.

— Грэк абскакаў рыцара! — змрочна прашыпеў адзін з Райнеравых сяброў, рука яго лягла туды, дзе павінен быў быць меч, які адабралі пры ўваходзе.

Райнер стаяў нерухома, толькі вочы яго гарэлі зялёным шалам, як у ваўка, які вось-вось гатовы быў схапіць здабычу, але змушаны глядзець, як яе ўхапіў мацнейшы.

Жывена яшчэ не паспела адступіць назад, як трон імператара лёгка калыхнуўся, папоўз уверх, і ў той жа момант паміж ім і прысутнымі лягла пурпуровая заслона — аўдыенцыя закончылася.

Калі яна ўслед за Нікіфарам выходзіла з палаты, прыдворныя абступілі іх, гучна ўхвалялі падарунак, прагна разглядалі залатыя эмалі, лісліва ўсміхаліся дзяўчыне, лавілі яе погляд. На Райнера не глядзелі. Ён разам з таварышамі і этэрыярхам, які быў падобны да ператворанай у камень маўклівай глыбы,

хутка крочылі прэч. Толькі раз Райнер азірнуўся, погляд яго зноў палыхнуў зялёным.

Мазаічныя паўліны, абведзеныя чорным мармурам, пушылі свае дзівосныя хвасты-вееры пад нагамі. Еўнух вёў коміта і Жывену іншымі пераходамі.

— Я дам табе палацавую варту, — сказаў ён коміту. — Імператар вырашыў справядліва, але рыцары могуць не пагадзіцца з гэтым. У сённяшнім бедламе ніхто не знойдзе вінаватых…

— Я да раніцы перагортваў з сябрамі «Васілікі», «Прахірон», «Эпанагогу»*, але ўсе законы выветрыла з палаты адна жаночая ўсмешка! І каторы раз яна аказваецца мацнейшаю за ўсё!

Коміт Нікіфар сядзеў насупраць Жывены, на яго твар вярнулася жыццё, толькі вочы ён увесь час адводзіў убок. Мабыць, мучыўся сваім колішнім страхам.

Рабы неслі насілкі, раўдухі гарцавалі на конях абапал іх. Жывена сядзела, усёй спіной абапіраючыся на падушкі. Узбуджэнне пакінула яе, а ўзамен навалілася стома. Хацелася праваліцца ў сон, каб ніхто не чапаў. Але коміт усё гаварыў і гаварыў, і трэба было яго слухаць.

— Успамін пра Феафано лунаў наўкол цябе. Думаецца, некалі напішуць песню і пра сённяшні дзень… Але хто тут я?

Прастора вакол іх была насычаная ценямі мінулага гэтай краіны, яны жылі тут, не жадаючы сыходзіць у падземнае царства, яны, здавалася, абступілі іх, зазіралі ім у вочы. Але ёй няма да іх справы. Няма…

— Нават Цымісхій, які адправіў яе ў выгнанне, не мог забыцца на гэтую прыгажуню. Бачыш — тут, у святой Сафіі, каля якой мы зараз едзем, адмольваў ён сваё адступніцтва, але, кажуць, і пасля смерці цень яго прыходзіў на яе магілу!

Ён яшчэ нешта тлумачыў, але Жывена бачыла, што і ён змяніўся — не гаспадар гаварыў з рабыняю, не закаханы. Так трымаюць сябе прыдворныя. Так яны глядзелі на яе, так зазіралі ў вочы. І тады яна спакойна і ўладна загадала:

— Я стамілася. Дай мне адпачыць.

Затрапятала ад ветру ваўняная завеса. Зноў пачынаўся дождж. Мабыць, наступіў час абеду ў Залатой палацe — Магнаўры. Імператар, магчыма, вельмі хутка забудзецца на яе — кожны дзень нясе яму новыя пацехі і клопаты, — але гадзіна, праведзеная ў Вялікім Палацы, ужо мяняла жыццё Жывены: Нікіфар пакорліва змоўк, а калі яны выходзілі з насілак, апярэджваючы слуг, падаў

* Зборы прававых нормаў Візантыі.

руку, каб зручна было выходзіць. Аднак нястрымныя дрыжыкі недзе ўсярэдзіне не перапыняліся, і бесперастанку клацалі ягоныя зубы, якія ён сутаргава сціскаў…

Назаўтра на дасвецці Жывену разбудзілі. Перад дзвярыма тросся пасцельнічы Феафілакт.

— Наш гаспадар… ён… памірае!

Дзяўчына не пазнала коміта: правая палова яго твару была перакошаная, ён глядзеў адным вокам, а другое было заплюшчана.

— Што з ім? — бесперапынку пытаўся Феафілакт. Збегліся слугі. Усчаўся вялікі плач.

— Ціха! — прыкрыкнула Жывена. Яны адразу спалохана змоўклі.

Яна бачыла, што з Нікіфарам — учарашняе жахлівае напружанне разбіла яго паралюшам.

— Трэба паслаць па ўрача ў манастыр Пантакратара!

— Слухаю, — пачціва схіліўся перад ёю Феафілакт, пабег выконваць распараджэнне.

Яна кінулася варыць зелле, якое разаграе кроў, пасля сама расцірала хвораму ногі, схаладнелыя рукі. Хацела паклікаць на дапамогу Фаціму, нават загадала яе знайсці, але Нікіфар замыкаў, жаласна заміргаў вокам, і, успомніўшы пра Саліма, яна толькі папрасіла служку дазнацца, дзе ён і што з ім. Вярнуўшыся, хлопец пераказаў, што яшчэ ўначы ўся сям'я мусульманіна знікла, як перуном іх спаліла, — мабыць, баяліся помсты.

Жывене шкада было Фаціму, да якой за гэты час яна прывыкла, прызвычаілася, якая столькі расказвала пра Візантыю, але холад прабіраў да касцей, калі думалася, што магло быць з імі пасля Салімавых слоў…

Чатыры наступныя дні Жывена не адыходзіла ад хворага, і разам з ёю цяпер быў Святазар. Хлопчык ціха сядзеў у куце, перабіраў бірулькі, глядзеў, як завіхаецца каля хворага ўрач.

Малады, але вядомы ў горадзе грэк Георгій спачатку высакамерна выслухаў, што рабіла Жывена да ягонага прыходу, але пасля прызнаў, што тое самае рабіў бы і ён. Праўда, пітво, зваранае з зёлак, ён доўга нюхаў, распытваў, з чаго яно прыгатавана. Ды, убачыўшы, што пасля прыёму хвораму відавочна лепшае, даверыўся нечаканай памочніцы.

— Хаця дачцы коміта і не варта рабіць такую прапанову, — сказаў ён на трэці дзень, — але я з ахвотай узяў бы цябе, Ефра-

сіння, у наш манастыр, а там усё ж лепшыя ўрачы і сёстры ў Візантыі. Ад тваіх рук ідзе тое дабрадатнае цяпло, якое часам дапамагае лепей за лекі…

Аднак здольнасць валодаць сваім целам да коміта ўсё ж не вярталася. Ды Георгій супакойваў дзяўчыну, што пры належным доглядзе Нікіфар, нават калі і не здолее гарцаваць на кані альбо ўзбірацца на вежу, хадзіць усё ж зможа, хаця і павольна.

Пад вечар пятага дня стома так навалілася на Жывену, што яна, забраўшы хлопчыка з сабою, пайшла спаць, пасадзіўшы каля гаспадара манашку з манастыра Пантакратара і напаіўшы Нікіфара гаючым адварам зёлак.

А ўначы каля брамы Пігі залязгала зброя, завіравала сеча. З гавані Феадосія, найбліжэйшай да гэтай брамы, пачалі страляць грэчаскім агнём два галеоны, да іх далучыліся драмоны, што стаялі ў гавані Юліяна. Пасля дазналіся, што гэта атрад Аляксея Страцігапула разам з полаўцамі прайшоў у горад праз адчыненую браму — пастараліся патрыёты.

Зашугалі полымем дамы, дзе жылі лаціняне, палыхлівае вогнішча слупамі ўзнялося ў розных кварталах горада, незлічонымі іскрамі ападаючы на людзей, што кінуліся па вуліцах, каб разам з нікейскім войскам раз’ятрана абрынуцца на абрыдлых чужынцаў.

Жывена загадала ўпраўляючаму сабраць усіх рабоў, слуг, вольнаадпушчанікаў і ўзброіць іх супраць тых, хто, карыстаючыся патарочай, заахвоціцца лезці па ласкавы хлеб*, а сама подбегам кінулася да гаспадара.

Каля яго было пуста. Мабыць, манашка збегла, пачуўшы асаду, таму што разам з ёю знікла і сярэбраная шкатулка, дзе ляжалі маленькія вагі, на якіх адмервалі шчопці лекаў. Нікіфар ляжаў непрытомны, і, абмацаўшы яго галаву, яна адчула, што патыліца яго была цвёрдакаменнай. У памяці ўсплылі словы з павучанняў Цэрэнхана: «Пры нерухомасці патыліцы, страце гаворкі прыпальвай валасы на вялікіх пальцах ног»**. Яна прынесла палыновыя палачкі, што пакінуў тыбецец, падпаліла іх. Церпкі пах паплыў да іконы Спаса ў куце, да свечак, якія запалілі ля ложка, бо зноў у акно глядзеў непрыветны хмуры дзень. Сіняватыя шнурочкі дыму віліся ля шкляных сасудаў з мініяцюрамі, распісанымі залатымі фарбамі, ля бронзавых по-

---

* Выраз, які азначае «на дармаўшчыну».

** Дакладны рэцэпт з «Чжуд-Шы», тыбецкай кнігі лекавання.

ручняў ложа; на жоўтую скуру кашчавых ног гаспадара ападаў зеленаваты попел.

Прыпальванне падзейнічала. Нікіфар расплюшчыў вочы і, ледзь варочаючы языком, загаварыў:

— Тваё адпушчэнне… — там. І царкоўны запіс, — паказаў вачамі на абраз, які вісеў на сцяне. — Адсунь.

За абразам аказалася ніша, там у скарбонцы з палісандравага дрэва ляжаў скрутак з патрэбнымі запісамі. Царкоўная пячатка, подпісы сведкаў. Там жа, унізе, дзяўчына прачытала сказ, па якім ёй дарылася памесце за горадам. Нікіфар сачыў за яе тварам.

— Мо-жаш е-хаць, — напружыўся ён, каб вымавіць тое, што не ляжала да душы. — Па-кінь мяне. Я табе ўжо не-па-трэбны…

— Нікейцы бяруць горад. Магчыма, твой сын вось-вось з'явіцца тут, і тады ты ўстанеш. Радасныя весткі лепей за любыя лекі, — загаварыла яна з ім, нібы з капрызлівым дзіцём.

— З'яздж-ж-жай!

— Ты ж не пазбавіш мяне радасці пазнаёміцца з братам? — зноў з усмешкай пакпіла яна.

— Упар-тая!

Ён адкінуў галаву, але на спакутаваным, страшным твары мільганула радасць.

Тады Жывена ціха выйшла, прыціскаючы да грудзей пергамент. Ён быў для яе цяпер даражэйшы за ўсё, што было ў гэтым доме, таму, перш чым зноў ісці да выхаду, яна беражна паклала ў палатняны мяшэчак каштоўны скрутак, і, павагаўшыся, прымацавала той мяшэчак на пояс, надзеты проста на цела.

Цяпер заставалася адно — выжыць у асадзе.

Урач Георгій не прыехаў. Але наўрад ці змог бы ён дапамагчы: пасля кароткага паляпшэння Нікіфару зноў зрабілася надта блага. Вусны яго пачарнелі.

— Я павязу яго ў бальніцу, — вырашыла Жывена.

— Але паўсюль ідуць баі. Я праехаў да рога вуліц Памакарысты і Трох Караблёў: лаціняне бягуць у гавані, да караблёў, але некаторых забіваюць на вуліцах і тут жа ляжаць трупы! — запярэчыў Гермаген.

— І ўсё ж… Упрагайце коней у вазок. Ён можа памерці.

Яна ўзяла з сабой Гермагена, узброенага мячом і дроцікамі, а таксама яшчэ двух маладых слуг. Ім пашанцавала: замятня перамясцілася ад форума Таўра, ля якога стаяў дом Нікіфара, да царквы святога Акакія, і паўз акведук* Валента так-сяк яны

* Водаправод. У Візантыі ён насіў імя імператара Валента.

дабраліся да манастыра. Там было неспакойна: прыносілі раненых нікейцаў і царгародцаў, таму давялося чакаць. Калі ўрач Георгій нарэшце выйшаў да іх, то, бегла агледзеўшы Нікіфара, загадаў пусціць яму кроў і пакласці ў бакавую палату, далей ад жахлівага відовішча ран, нанесеных грэчаскім агнём, ад крыкаў і стогнаў паміраючых.

Цямнела, калі яны вярталіся дадому. Горад быў ужо захоплены нікейцамі, куродым ад спаленых дамоў слаўся па вуліцах. Не зважаючы на трупы, пераможцы паўсюдна гралі на флейтах, білі ў барабаны, пілі віно; блудніцы ў абдымку з пераможцамі кіраваліся ў таверны. На плошчы перад палацам Вукалеона воіны насілі на прыстань груды трафеяў: вялікія сярэбраныя вазы і сасуды, скруткі шоўку і парчы, бронзавыя курыльніцы. Гучна апавядалі, як джгалі да караблёў напаўадзетыя лаціняне, іх жонкі і дзеці і як спяшаўся туды ж Балдуін са сваёй світай, падганяючы каня, губляючы знакі імператарскай улады. Сярод жа простага люду хто хваліў, хто ганіў пераможцаў, якія не надта ўлягалі за чужынцамі, даючы ім адплыць, а то дзе-нідзе загадвалі тушыць пажары, бо агонь мог перакінуцца на кварталы, заселеныя толькі царгародцамі.

Калі Жывена разам са слугамі пад’ехала да дома, завярнуўшы за старую разлапістую смакоўніцу, усе аслупянелі: другога, драўлянага паверха не было, адно курыліся бэлькі на каменных плячах першага. Дагарала, патрэскваючы, тоўстая дубовая брама, ля якой пакінулі яны ўпраўляючага і рабоў. Калі зайшлі ўсярэдзіну, пабачылі некалькі мёртвых целаў.

Жывена кінулася ў свой пакой.

Туніка нібы загарэлася на ейных плячах: Святазара там не было, а яе адзенне — хітон, белая вуаль, што вісела ў куце, сандалеты — усё было пасечана на шматкі. Як вокам кінуць, усё было параскідана, аблуплена да жывога. І — ніводнае душы наўкол. Аднак неўзабаве вылез з кустоўя раб-балгарын, сам не ў сабе ад страху.

— Каб я ўдоўж лаўкі выпрастаўся, — пакляўся ён, — як кажу няпраўду. І я біўся з немцамі, ды пасля ўцёк, бо іхняя сіла. Тыя кулём ляглі, — паказаў ён на вароты, — але не здолелі іх стрымаць.

— Якія немцы? — запыталася Жывена, сама не свая ад гора. — Ты што, з Лядашчыкам спазнаўся?*

---

* У сэнсе — здурнеў.

— Ты пра каго гаворыш, хлопец? — запытаўся і Гермаген. — Хто тут быў — нікейцы альбо латругі-царгародцы? Кажы праўду, іначай я цябе на горкі апельсін сатру! Дух з цябе вон, пара слупам!

— Знодай мяне з зямлёю, але гэта былі немцы, я дык іх ведаю, — кляўся балгарын. — Галоўны з іх усё гаспадыню шукаў, — ён паказаў на Жывену. — А пасля, як не знайшоў, загадаў вольнаадпушчаніцы Ніко ўзяць дзіця і следам за імі ісці. А астатнія грэблі ўсё, што можна, асабліва ў пакоі нябожчыцы. І надта спяшаліся, бо, як ускочылі на коней, дык так джыгнулі, як моцы стала.

— Гаворыць, як макам сыпле! — злосна сказаў Гермаген. — Каб ты на вадзе спёкся, як ты бярог гаспадарскае дабро. А найперш дзіця. Можа, забіць цябе, палахліўца?

— У чым ён вінны? — Жывена адчувала: вялікі жаль затоплівае яе, як паводка, так што няможна ўдыхнуць паветра. І няма сіл і жадання выплыць з віру, што засмоктвае глыбей і глыбей.

Яна пайшла да сябе ў пакой, лягла галавой на стол. Была ўся як у агні.

Ціха пастукалі ў дзверы. Зайшла рабыня-егіпцянка.

— І ты засталася жывою? — узняла Жывена ацяжэлую галаву. — Дзе схавалася?

— Мяне таксама ўзялі, але пасля галоўны іхні перадаў мне словы, каб я іх вам сказала. Тры разы прымусіў паўтарыць, а што яны значаць, не ведаю.

— Якія словы?

— Цяпер першым прыйшоў мой конь.

— Яшчэ раз паўтары, чуеш!

Рабыня паўтарыла, а пасля, апраўдваючыся, дадала:

— Як мяне адпусцілі, так дзеркача дала, што ўпала і руку ледзь не зламала.

— Ідзі!

Егіпцянка выйшла.

Столь над галавой прагнулася, усё болей цягнула дымам — горкім, злавесным. Трэба было ісці з гэтага пакоя, тут было ўжо небяспечна.

Млява яна ўстала, пайшла па доме, шукаючы прыстанішча. Дзверы ў пакой, дзе памірала Еўдакія, былі сарваныя з петляў, там таксама ўсё было перавернута і апаганена. Але, узняўшы погляд на кут, Жывена спынілася, уражаная: ярка ззяла ў цёмным ужо, чадным пакоі ікона, дзе жанчына прыціскала да сябе дзіця, і вочы яе былі шчымліва-безабароннымі, нібы яна загадзя ведала

ўсё, што адбудзецца і з ёю, і з дзіцем, але цярпліва падрыхтавалася несці пакуту праз жыццё і не пярэчыць наканаванаму… І так было падобна тое, аб чым расказаў у гэтай іконе жывапісец, і тое, што адбывалася цяпер з Жывенай, што яна застагнала, углядаючыся ў глыбокія, як само быццё, вочы гэтай Маці.

А колькі іх па ўсім свеце, мацярок, чые дзеці выкрадзеныя, забітыя, знявечаныя, запалоненыя?! І колькі гора ў ім, гэтым свеце?

Аднак ікона ззяла, святло яе напаўняла душу надзеяй, саргавала і нібыта сведчыла, што чорнае, страшнае і злавеснае прыйшло сюды не назаўсёды. Сын гэтай Маці, як ведала Жывена, уваскрос, ён прынёс надзею іншым.

Таму не варта адчайвацца і ёй. Можа, ад гэтага нетутэйшага святла ў яе закружылася галава і ўзнікла відовішча: адшуканы ёю маленькі Святазар абдымае за шыю, і не толькі ён, але і іншыя, невядомыя ёй дзеці, цёплыя, светлыя, як само жыццё.

А пасля ззянне ў пакоі як зменшылася, ці то бэлькі ўсё тлелі і чад ад іх запаўняў пакой, ці вечар наклаў цёмны свой покрыў на дом.

Аднак больш моцнай, нібыта абмытай крынічнай вадой, адчула сябе Жывена і, адшукаўшы не надта разбураны пакой, стала абдумваць, што рабіць далей.

Дзе шукаць маленькага Святазара? Вядома, там, куды пабеглі разам з імператарам яго слугі і воіны. Ліхаманкавая думка ўпілася ў яе душу: а што, калі Райнер не трапіў на карабель, які адплыў у Рым альбо Венецыю? Што, калі недзе тут, блізка, хаваюцца яны альбо сядзяць у гарадской вязніцы, трапіўшы ў палон? Чаму яна стогне тут, нібыта апоеная дурнап’янам? І грошы, лежачы, іржавеюць!

Ускочыла на каня, крыкнуўшы аканому, каб скакаў следам, вылецела за вароты. Гавань Вукалеона блізка, з яе і трэба пачынаць пошукі!

Усю ноч, як трымаючы слязу ў сэрцы, гойсала яна з гавані ў гавань, пыталася пра чатырох рыцараў і рабыню з дзіцем. Але ніхто не ведаў і не бачыў нічога, нібыта растварыліся яны ў Прапантыдзе, як соль, альбо нырнулі туды, як драпежныя рыбіны, несучы сваю здабычу ў пашчах.

Тады вярнулася ў разбураны дом. І, упаўшы на ложак, як дала нырца ў сон-трызненне, адкуль вярнулася, толькі калі над кіпарысамі лёг попельна-ружовы вечар, ад чаго яны зноў да болю ў душы нагадалі рыцараў, што помсліва ўзнялі мячы. Успомніла пра Нікіфара.

Вось і прыйшоў час, калі яна магла б за колькі хвілін даскакаць да Улахернскай гавані, знайсці карабель да Херсанеса, а там… замятай, вецер, усе сляды! Усё цяпер можна — забраць хаця і з разрабаванага, але, нягледзячы на тое, багатага дома каштоўнасці, што дапамогуць ёй дабрацца да радзімы, каб не вольнаадпушчаніцай-жабрачкай плыць на тым караблі, а знатнай царгародскай дамай. Хто яе будзе шукаць? Смяротна хворы Нікіфар? Сын яго, якога чамусьці не відно? Радня, якая хаваецца недзе па сваіх дамах, бо хаця нікейцы тыя ж грэкі, але п'янаму і ўзбуджанаму вайной салдату ў першыя гадзіны захопу аддаецца на наталенне душы любы горад?!

Расло, падступала пад сэрца помслівае, зларадная пачуццё.

І калі цёмнай гэтай хваляй захліснула яе ажно з галавой, раптам засмяялася Жывена — проста ў вочы злым духам, што нагналі на яе тую нячыстую спакусу. І, схапіўшы вазу з алеем, якім націрала пры якой хваробе дзіця, — шпурнула ў кут, у самыя лядашчыя іх ухмылкі, і адразу ператварыліся яны ў вечаровыя цені, што слізгацелі па сценах.

Зноў ускочыўшы на жарабка, паляцела яна да хворага коміта.

Аканом дапамог ёй знайсці дом заканазнаўцы Міхаіла, і той узяў на сябе многія клопаты. Уражаны тым, што Жывена не ўцякла, пакінуўшы дом і Нікіфара, ён памякчэў, палагоднеў да яе, а даведаўшыся пра выкраданне дзіцяці, паабяцаў знайсці сляды нямецкіх рыцараў.

У горадзе рыхтаваліся вялікія ўрачыстасці з нагоды вызвалення сталіцы. Галоўныя вуліцы былі ўжо ачышчаныя і прыўкрашаныя, але сляды баёў былі відны і на пашчэрбленых сценах, і на абпаленых камянях брукаванак. Месцы на балконах дамоў, каля якіх пойдзе новы імператар, былі імгненна раскупленыя па вялікай цане. Аднак у заканазнаўцы Міхаіла аказаліся сябры, якія ў свой час уцяклі ў Нікею, і яму не пагражала царская няміласць. Ён і дапамог дзяўчыне ўбачыць урачысты ўезд у Цар-горад Міхаіла Палеалога.

Залатая брама, праз якую павінен быў увайсці ў сталіцу пераможца лацінянаў, была ўся абкручаная гірляндамі мірта і лаўра, упрыгожаная каляровымі харугвамі з двухгаловым арлом — родавым гербам Палеалогаў. З усіх вокнаў, што выходзілі да Залатой брамы, выглядалі людзі, махалі кветкамі, выкрыквалі хваласпевы. Пад лёгкім ветрам калыхаліся шаўковыя выявы святых, чые цэрквы былі ў горадзе.

Калі правіцель Нікеі, а цяпер ужо і ўсёй адноўленай Візантыйскай імперыі, паўстаў у варотах, зверху на яго абрынулася такое мноства ружавых пялёсткаў, што здавалася, яны засыплюць пераможцу і яго военачальнікаў. Тысячы галубоў закружыліся над горадам, над асляпляльна-лазуровым морам, аглушальныя крыкі скалыхнулі паветра.

Стоячы на балконе багатага дома знаёмых Міхаіла, Жывена разам з іншымі імкнулася разгледзець таго, хто праз шэсцьдзясят гадоў вярнуў рамеям іх славутую дзяржаву, прагнаўшы крыжакоў. Кожны грэк у горадзе з абурэннем расказваў пра тое, як былыя саюзнікі шэсцьдзясят гадоў таму захапілі Царгорад, падчас аднаго з паходаў за Святую Зямлю паспрачаўшыся з імператарам Візантыі.

У дні асады на плошчах і ля вялікіх цэркваў — напрыклад, ля святой Сафіі — гучна аб'яўлялі Палеалога клятваадступнікам і хціўцам. Сапраўды, вялікі канстаўл*, які спачатку камандаваў пры нікейскім імператары Фёдары Другім Ласкарысе лацінскімі наёмнікамі, пасля ягонай смерці прысягнуў малалетняму сыну Ласкарыса Іаану, але тым часам шляхі да нікейскага трона пракладваў сабе: падкупляў і змяшчаў епіскапаў, ашукваў патрыярха Нікеі і, што самае жахлівае, асляпіў самога падлетка-імператара. У рэшце рэшт ён-такі ўспоўз на нікейскі трон і стаў правіць гэтай часткай Візантыі. Цяпер жа, пасля ўдалай асады і выгнання лацінян, старажытны трон наноў аб'яднанай імперыі заняць мог толькі ён. І хаця каранаванне яшчэ не адбылося, аднак у скрыпторыях, перапісваючы кнігі, ужо малявалі ў загалоўках ініцыялы Палеалога, а паміж старонкамі дзе-нідзе з'явіліся і яго партрэты. Славуты ж паэт Георгій Акрапаліт, вучань Нікіфара Улеміда, былога настаўніка Ласкарыса і ягонага сына, ужо напісаў вялікі хваласпеў у гонар пераможцы, яго цытавалі паўсюдна. Чакалі і самога Улеміда. Адзін з найразумнейшых людзей імперыі, славуты філосаф павінен быў ужо прыехаць у Царгорад разам з усёй арыстакратыяй Нікеі, якая прагла заняць пры двары самыя важныя пасады, выцесніўшы і выгнаўшы тых, хто служыў пры Балдуіне.

Жывена ведала пра тое. Гермаген, Васіль і родзічы многіх знатных сем'яў трапятліва чакалі, як вырашацца іхнія лёсы. У апошні час яны моцна дапамагалі нікейцам, але не спадзявалі-

* Канстэбль.

ся захаваць свае пасады. Не быць бы аслепленымі і выгнанымі ў далёкія паўночныя краіны, дзе няма славутых школ і бібліятэк Візантыі, — вось усё, чаго яны маглі чакаць.

Таму зараз, цеснячыся на балконах дамоў, яны праводзілі мажную, высокую постаць новага аўгуста заклапочанымі позіркамі. А ён ішоў пешкі да самага Студыйскага манастыра, услед за вялізнай іконай Божай Маці, якую на чале з патрыярхам Нікеі неслі святары і епіскапы, ішоў праз крыкі і славасловы, паўз вырачаныя позіркі і ачмурэлыя ад радасці твары. І тысячы, тысячы напружаных глотак выкрыквалі хвалу і вітанні так, нібы бачылі на свае вочы жывога бога:

— Слава Міхаілу Палеалогу!

А двухгаловыя драпежныя птушкі на ягоным родавым гербе, здавалася Жывене, паварочвалі ва ўсе бакі свае галовы, нібы шукаючы тых, хто не крычаў альбо чыя шчырасць была не такой шалёна-беззапаветнай…

У той жа вечар у спалены дом Нікіфара прымчаўся Міхаіл.

— Былы паракімамен сказаў мне, што бачыў рыцара Райнера. Той прабіўся на карабель, які ішоў у Рым. Самога еўнуха, які расказаў мне гэта, на карабель не ўзялі.

— А чаму ў Рым? Здаецца, з Венецыі ідзе болей караблёў у розныя канцы свету. І там жа найбольш ахоўваецца дарога ў нямецкія землі? — здзівілася Жывена.

— Не ведаю. Магчыма, іншага карабля ўжо не было. Паракімамен таксама хацеў у Венецыю. Я так і падазраваў, што ён, мабыць, частку сваіх багаццяў перадае праз венецыянцаў у тамтэйшыя банкі, каб забяспечыць сабе, на выпадак паражэння Балдуіна, бязбеднае жыццё на чужыне. Каго-каго, а яго могуць тут дастаць, бо ён слаўся перад лацінянамі як ліс. І вось жа — адпіхнулі, выкінулі з карабля!

Міхаіл зласліва ўсміхаўся, аднак цень трывогі ляжаў і на ягоным твары.

— Што рабіць мне? — запыталася Жывена.

— Калі хочаш, Ефрасіння, дагнаць свайго сына альбо штокольвечы дазнацца пра яго, табе трэба плыць у Генную.

— У Генную? Але даўно ўжо на Італію плывуць адсюль праз Венецыю!

— Ты забылася — прыйшлі нікейцы, а яны варагавалі з Венецыяй. Але і ў Венецыю караблі ходзяць, толькі кожнага, хто меў дачыненне да ранейшай улады, моцна правяраюць! З генуэзцамі ж мы цяпер становімся зноў саюзнікамі. І кожны цяпер можа

плыць туды свабодна. Зрабі заёмнае пісьмо на маёмасць, адпісаную табе Нікіфарам, і атрымаеш грошы там, у Генуі. Іначай цябе могуць абрабаваць — калі не на самім караблі, дык пасля, калі прыбудзеш туды.

— Але я не магу пакінуць Нікіфара ў такім стане! — запярэчыла Жывена.

Міхаіл паглядзеў на яе вельмі ўважліва.

— Ты прынесла няшчасце майму сябру, Ефрасіння, — мовіў ён пасля нядоўгага маўчання. — Не пярэч! Ад'язджай хутчэй, пакуль ён хворы. Мы самі паклапоцімся пра яго.

Яна і не пярэчыла. У кожнага свая праўда. Дзе хвоя ні стаіць, а ўсё свайму бору шуміць, казалі на Навагародчыне. Што ж ёй цяпер — крычаць крычма немаладому чалавеку, які ўпору ёй у бацькі, што Нікіфару трэба было адразу ж выправіць яе прэч, калі на тое былі знакі багоў?

— Адпусці яго. Яго сэрца адпусці, — патлумачыў Міхаіл.

— Але як?

— Ты ведаеш як. Ты можаш! Табе дапамагае Афрадыта. Дзівішся, што я, які веруе ў адзінага Бога, успамінаю пра яе? Але яны, нашы старажытныя багі, яшчэ не пакінулі Грэцыю. І мы недзе глыбока ў душах сваіх не адцураліся ад іх. Прасі і ты за яго.

— Але я не ведаю вашай Афрадыты!

— Затое яна ведае цябе. Ды і ты… Хіба няма сярод вашых багоў той, якая валодае наймагутнейшым у свеце — прыгажосцю? Перад якой час ад часу схіляюцца нават самыя моцныя?

— У нас? Ёсць. У славян — дрыгавічоў і крывічоў — Лада і яе дзеці Лель і Палель. У балтаў — багіня Аўшра. У нашым храме пакланяліся ім абедзвюм, і яны зліваліся ў адно…

— Багі, мабыць аднолькавыя, толькі іншыя ў іх імёны, на кожнай зямлі гавораць яны рознымі галасамі. Дык памаліся за Нікіфара, улюбёнка Афрадыты, і з'язджай адсюль!

— Ты што, так ненавідзіш мяне, сябра коміта?

Ён засмяяўся з горыччу.

— Так, ненавіджу. З першай хвіліны, як убачыў. Ты адгадала правільна.

— Але чаму?

— Таму што… Калісьці Афрадыта добра пасмяялася з мяне. Але што я магу зрабіць гэтай легкадумнай і магутнай багіні? Я думаў, што адрынуў яе навекі, а яна ўсё нагадвае пра сябе, і нікуды ад яе не дзенешся…

— Тады ты мог бы адпомсціць. Праз мяне — ёй.

— Помсціць? О не! Лепей памагчы ейнай улюбёнцы, тады з Пены Народжаная*, мажа, нарэшце адступіцца, перастане мучыць мяне ўспамінамі і дасць займацца законамі, юрысдыкцыяй і ўсякімі іншымі рэчамі, якія так паважаюцца ў нас у Візантыі. Так што я лепей завяду цябе ў наш Генуэзскі квартал, там ёсць купец Марка, ён зробіць усё, што трэба…

Калі ж Жывена прыйшла развітацца з Нікіфарам, усё сталася іначай.

* * *

— Ты не з’е-ха-ла ад м-мяне!

Нікіфар вымаўляў гэта доўга, ледзь варушачы знямелым языком, і гарачы жаль ахінуў дзяўчыну.

— Думай пра сябе, высакародны Нікіфар. Табе трэба папраўляцца.

— Т-ты… думаеш, я… вы… вылезу?

— Ты ўжо можаш гаварыць. А ўчора толькі ківаў галавой. Тут добрыя ўрачы. І маё зелле памагае, Георгій хваліць яго.

Схуднелы на дошку, ляжаў коміт на спіне. Далоні яго, падобныя да крабаў, бяссільна поўзалі па коўдры.

— Яшчэ адну… просьбу…

Не адразу зразумела Жывена, чаго ён хацеў. Аднак коміт быў настойлівы. Аказалася, прасіў ён аднесці ў царкву Антыфанітаў ікону імператрыцы Зоі. Завяшчала тое Еўдакія, але ён пашкадаваў аддаваць такую каштоўнасць, і за тое карае яго Багародзіца. Яшчэ пытаўся Нікіфар, ці няма звестак пра ягонага сына. Давялося паабяцаць:

— Не дабяру ладу, чаму яго няма тут. Але паспрабую даведацца.

Гледзячы на старога хворага чалавека, Жывена адчувала, нібы яе прывязалі адначасна да двух канатаў і цягнуць у розныя бакі. Недзе плыве, штодзень кароцячы адлегласць да Рыма, карабель, на якім вязуць Святазара. Магчыма, адтуль паімчаць яго ў далёкі замак. І дзе шукаць сляды? І як адабраць назад? Рыцары патрэбныя паўсюдна — паўсюдна ідуць войны, цары і каралі прагна глядзяць на суседнія землі. І сын, Святазар — а Жывена і сапраўды палюбіла вясёлае, ласкавае дзіця, прывязалася да яго ўсім сэрцам — будзе выхаваны як рыцар, што лёгка гуляе з чалавечымі жыццямі і заўсёды гатовы праліць чужую кроў.

---

* Так называлі ў Грэцыі Афрадыту.

Не паспела дзяўчына загаварыць пра сваё, як яе выклікаў Георгій. Урач быў хмурны — раненых было шмат, урачы працавалі ўдзень і ўначы.

— Ты можаш забраць коміта, — агаломшыў ён Жывену. — Яго стан палепшыўся, але цяпер патрэбны месяцы і нават гады, каб ён трохі ачомаўся. Але можа вось так жыць яшчэ колькі гадоў. Дык нашто яму ляжаць тут, сярод енкаў і крыку? Як бы мы ні зачынялі дзверы, нават манастырскія сцены не стрымліваюць усё гэтае мора пакут, якое мы, урачы, нібы вычэрпваем лыжкамі.

— Але дом амаль спалены, бэлькі нават у лепшых пакоях прагнуліся. Што, калі ён убачыць гэта і знерухомее яшчэ болей?

— Унясіце яго дадому ўначы. Я магу даць яму адвару з опіем, і ён прачнецца ў ложку. Няўжо ў вас не знойдзецца хоць аднаго пакоя, каб спакойна пакласці на ложак хворага і даглядаць яго як належыць?

І Жывена адчула — без яе дапамогі Нікіфару не выжыць. Але ёй трэба ехаць! Плыць на караблі, лічачы хвіліны! Конь Райнера сапраўды на гэты раз прыйшоў першым. Ён, мужчына, узяў верх, і цана таму дзіця, якое пакутуе сярод чужых людзей. Старалася не ўспамінаць малога — кожная думка апякала, як варам. Дбала цяпер пра Нікіфара.

…На другі ж дзень яго перавезлі дадому, па магчымасці прывёўшы спалены дом у адносны парадак. Тым часам Жывена паехала да Міхаіла — можа, ён падбадзёрыць хворага сябра. Да таго ж абяцаў пасадзейнічаць у будучым падарожжы.

Але Міхаіл ужо не змог ёй дапамагчы: па загадзе новага імператара ён, нягледзячы на хадайніцтвы, адпраўляўся ў ссылку разам з сям’ёй. І ўсё ж ён паспеў перадаць заёмны ліст, па якім яна магла атрымаць у Рыме дваццаць залатых намісмаў — суму, дастатковую для таго, каб дабрацца да Новагародчыны, і паслаў ганца ў Нікею, каб даведацца, што сталася з сынам Нікіфара.

Калі ж яна прыехала да былога друнгарыя віглы, Васіль нават не захацеў яе прыняць. Слуга перадаў, што гаспадар хворы, рыхтуецца да прыняцця манаскага сану і ўвогуле хоча адысці ад свету, кіруючыся промыслам Божым. Купец Гермаген, як яна даведалася, збег разам з лацінянамі.

З цяжкасцю, з намаганнямі брала Жывена ў свае рукі лейцы, якімі ўпраўляўся дом.

Яна заставалася адна з Нікіфарам, як прышытая да яго нябачнай, але надта адчувальнай ніткай. Рабы разбегліся, а вольнаадпушчанікам трэба было плаціць за ўсё, асабліва ж за тое, каб прывесці ў парадак сядзібу. Таму ўвесь нагляд за хворым давялося ўзяць на сябе. Прыглядаючыся да былога імператарскага

канюшага, яна ўсё часцей успамінала дзяўчыну ў Навагародскім храме, чые рукі і ногі віселі гэтак жа, як і ў грэка, і якая стала на ўласныя ногі пасля ейнага лекавання.

Але ж тады сама яна была іншай, дух яе быў высокім. Цяпер, параўноўваючы сябе з той, колішняй, яна здавалася сама сабе скаламучанай сажалкай, адкуль ужо не напіцца гаючай вады. Трывогі і сумненні, жыццё тут, у гэтым распешчаным горадзе, — вось што брудам асела на душы. Абрады ў храме ачышчалі жрацоў ад штодзённага пылу жыцця, але вось ужо трэці год, як носіць яе па свеце, і ўсё, што яна можа, — спяваць гімны раніцай і праводзіць сонечную калясніцу дня малітвай увечары, і то не заўсёды. Дык ці зможа яна нават замахнуцца на тое, што і тады, у храме, было нялёгкім? І ці не пашкодзіць хвораму? Нездарма сказана: «Лепш верабей у руцэ, чым жораў пад небам». Пагоршае Нікіфару альбо памрэ ён — век сабе не даруе.

А калі палепшае?

Кожны дзень сутыкаючыся з яго жаласным, згаслым пазіркам, расціраючы худыя маслакаватыя ногі, камечачы сваімі моцнымі гнуткімі пальцамі вялую жаўтлявую скуру, Жывена згадвала словы Галдана Цэрэнхана аб тым, што коміт, у адрозненне ад жонкі, будзе жыць доўга. Той успамін надаваў імпэту. Карцела праверыць свае сілы. І яна, нарэшце, рашылася, выбрала Час.

У храме было проста — ля алтара выбітыя ўсе праявы свяціла, і кожны дзень звяздар абвяшчае якасці будучага дня, выглядае зоркі. Ёй жа зараз быў патрэбны дваццаць першы дзень Месяца, калі ветах вось-вось знікне з неба, той дзень, чый сімвал Калясніца і Конь. Гэта — яе час, час лячэння і сяброўства, ахвярнасці і нябеснага агню, які пераплаўляе ўсё нізкае ў чалавеку. Аднак не хапала ведання — у якім жа знаку стане ў той дзень Месяц? А калі ў чорным, небяспечным для Нікіфара? І яна, седзячы ў садзе, малявала на пяску знак за знакам, успамінаючы дні і месяцы. Усё сыходзілася. Справа была цяпер у ёй — ці хопіць моцы.

Тыдзень яна ела толькі па гронцы вінаграду і піла крынічную ваду. Адганяла думкі пра хлопчыка: жаль адбірае сілы, сумненні і туга падточваюць надзею. Кожную ноч аглядала Месяц — нельга памыліцца ні на дзень, іначай замест лячэння можна прынесці бяду.

Напярэдадні яна прыгатавала асабліва моцны настой кары вяза*, а таксама накарміла хворага печанымі каранямі лопуху,

* Бенедыкт Крысп, урач VIII ст., пісаў пра адвар вяза ў вершах: «Калі сцягно чалавека крокі свае ж парушае, / З дрэва вяза вучыся кару дабываць асцярожна».

які ўмацоўвае сілы. Помніцца, урач Георгій здзівіў яе тым, што назваў зеленавата-шэрыя чэпкія шарыкі дзядоўніка «лапай»* — так, па-грэчаску, называў гэтае зелле яе дзед Агапій.

Здавалася, усё гатовае да лячэння. Але патрэбен быў знак. Штосьці, што прадракае поспех, — воранавы грай на досвітку, курлыканне журавоў ці звон кропель у вадзяным гадзінніку. А яшчэ лепей — радасны дзіцячы смех за акном, белая лілея, што расцвіла ў сажалцы ля сядзібы, ружовы сонечны прамень на світальным небе, які ўпадзе на твар хворага, пакуль ён спіць…

Ды знак аказаўся іншым.

Уначы Жывену разбудзіў пасыльны з Нікеі. Упраўляючы з дому Скліраў пісаў пра тое, што малады пан быў хворы, таму і не пайшоў з войскам на Царгорад, але перадаў ліст бацьку. Магчыма, воіна таго паранілі альбо забілі, таму і не ведаюць нічога ў Царгорадзе пра ўсе падзеі. Разам з гэтымі звесткамі быў і пергамент ад сына, запячатаны і абвязаны каляровай нітай.

І тады яна не стала будзіць Нікіфара, а ўзяла ліст з сабою, калі пайшла ў ягоны пакой.

Канюшы прачнуўся ад таго, што слугі ставілі па загадзе Жывены ва ўсіх кутках пакоя духмяныя свечкі — воск у іх быў змяшаны з алеямі ядлоўцу і хвоі.

— Што гэта ты, хаваць мяне ўздумала? — слаба пажартаваў ён. — Я яшчэ жывы. І што гэта ў цябе?

— Гэта ліст ад твайго сына. Тут нейкія важныя весткі. Вельмі важныя.

— Што з ім? Чаго ты маўчыш?

Яго погляд стаў амаль дзікім.

— Мой сын… Давай жа ліст! Хутчэй.

Тады яна загадала з усёй сілай, на якую была здольная:

— Сам устань і вазьмі яго з маіх рук.

— Ты… ты жартуеш ці здзекуешся? — паспрабаваў закрычаць коміт, але толькі няўцямнае шыпенне вырвалася з ягоных вуснаў.

Дзяўчына глядзела на яго і скрозь яго.

Сем абалонак у чалавека, і ў Нікіфара ў адной з іх бачылася цёмная пляма, праз якую прагна смакталі зіхоткае цяпло чорныя слугі Лядашчыка. І яна ахінула сваім цяплом, сваёй гарачынёй тую бяздонную адтуліну і ўсё гэтае перапакутаванае цела. Яна шаптала старую замову, адганяючы прагных нячысцікаў, аддаючы ўсю сябе гэтаму змаганню; адчувала, як белы яе хітон

* Лапа (грэч.) — чапляцца; адсюль слова «лопух».

драпаюць раз’юшаныя кіпцюры, каб разарваць яго і ўпіцца ў яе безабароннае цяпер цела… Яны кінуліся на яе — цэлая зграя сабралася вакол, аднак Нікіфар не бачыў гэтага. Ён глядзеў у вочы жрыцы, у пашыраныя зрэнкі, што нібы цягнулі яго да сябе, вусны ж яе загадна вымавілі:

— Ідзі! Хутчэй!

Тады ён узняўся на ложку, і, як зачараваны, не міргаючы, спусціў уніз адну нагу, другую…

Кіпцюры ўжо рвалі яе скуру, тонкае, як іголка, джала ўпілося ў бок. І тады яна зноў узмалілася, толькі цяпер да тых, каго прасіла цэлую ноч не пакідаць яе сёння ні на хвіліну, — да Ашвінаў.

І расхінулася само сабой акно, парыўным ранішнім ветрам уварвалася ў пакой жменя залатога лісця, ударылася аб мазаічную падлогу, асыпала і Нікіфара, і Жывену.

Пырснулі ва ўсе бакі аскабалкі чорнай амфары, што стаяла ля парога недалёка ад Жывены, калыхнулася цяжкая завеса за яе спіной, адзін жа з аскабалкаў на ляту чыркнуў па яе плячы так, што праступіла кроў.

Нікіфар ішоў да яе, працягнуўшы рукі. Сказаў выразна, не заікаючыся:

— Давай ліст!

Яна аддала ліст і адчула, што сама правальваецца ў шэры калыхлівы туман.

Калі на крык коміта ўбеглі слугі, яны ўбачылі, што гаспадар у белай доўгай кашулі хістаецца ля парога, а ля ног яго ляжыць Жывена ў белай туніцы, па якой распаўзаецца крывавая пляма. Яны жахнуліся, але схапілі дзяўчыну і панеслі на лаву, што стаяла ля акна. Ды яна тут жа расплюшчыла вочы, загаварыла на незнаёмай мове. І тады ўпершыню пабачылі слугі, як гаспадар іх плача…

Перад ад’ездам Жывены ў Рым Нікіфар папрасіў яе разам з ім аднесці ікону імператрыцы Зоі ў царкву, дзе была пахаваная гэтая колішняя ўладарка Візантыі.

— Я прашу цябе падтрымаць мяне, бо яшчэ занадта слабы. Апроч таго, хачу, каб ты паглядзела на развітанне на гэтую цудоўную царкву. Можа, калісьці падкажаш вашаму майстру, калі надумаеш нешта будаваць…

Калі яны прайшлі пад арку старадаўняга храма, дзе горда ўзносіліся ў вышыню алебастравыя калоны і святло падала на падлогу каляровымі плямамі ўзораў скрозь вокны, зробленыя некалі лепшымі майстрамі-шкларобамі, іх сустрэў епіскап Кіруларый.

— У добры час ты завітаў да нас, Нікіфар.

Працягваючы руку для пацалунка схіленаму ў паклоне канюшаму, ён падзяліўся радасцю:

— Мы чакаем не толькі цябе. Зараз сюды прыедзе сам Нікіфар Улемід, твой цёзка.

— Улемід!

Нікіфар шмат чуў пра тація* Улеміда, які ў маладосці вучыўся ў славутага «іпата філосафаў»** Дзмітрыя Карыка, а пасля, як казалі некаторыя лісліўцы, нават пераўзышоў яго. Як і ў Старажытным Рыме, у Візантыі высока цанілі красамоўства і прыгожае пісьменства, а Улемід быў, казалі, Сірэнай мужчынскага роду, і ў словах яго адчувалася невымоўная музыка. Апроч таго, быў ён адным з самых адукаваных людзей свайго часу, заснаваў праслаўленую школу ў Імафійскім манастыры ў Нікеі.

Пакуль святар царквы асвячаў ікону нанава, у дзверы паважна ўвайшоў невысокі, з чыстым смуглявым тварам немалады чалавек. Хуткі позірк ягоных вачэй спыніўся на незнаёмых людзях, але, калі епіскап ціха сказаў яму, хто тут і што адбываецца, Улемід далучыўся да невялічкай купкі людзей, што ўкленчыла перад алтаром. Пасля абраду ён загаварыў з комітам:

— Я ведаў пра гэты абраз, але лічыў, што сляды яго згубіліся. Раскажы, як трапіў ён да цябе?

Выслухаўшы аповед пра з’яўленне іконы ў доме Скліраў і пра апошнюю волю жонкі, Улемід загаварыў пра промысел Божы, які кожны раз уражвае па-новаму.

…Сапраўды, ніколі яшчэ не сустракала маладая жрыца Ашвінаў такога валодання Словам. Яна слухала, як гаварыў ён пра эпоху Зоі і пра мудрасць наканавання, якое не дало гэтай іконе быць украдзенай у час вялікага разгрому Канстанцінопаля лацінянамі ў 1204 годзе. Шкадаваў, што столькі часу прайшло ў гісторыі Візантыі, калі яе мастацтва было як прыціснутае, і каб не Нікея, мала чаго сапраўды грэчаскага захавалася б па сёння. І Склір, слухаючы яго, як забыўся на ўсё, што казалі пра гэтага прыдворнага філосафа — што ён надта хоча быць пры моцных свету, што чуйны да ўвагі высаканароджаных і захаплення натоўпу, што і ён славіў Палеалога, нягледзячы на тое, што аўгусцейшы вучань Улеміда, Іаан, быў асляплены канстэўлам…

Што ж да Жывены, то ў тыя хвіліны спасцігла яна, чаму стагоддзе за стагоддзем імкнуліся ў Візантыю ўсе, хто сапраўды

---

* Настаўнік імператарскіх дзяцей.

** Першы з філосафаў.

шукаў Мудрасць, якая тут увасобілася ў вобразе Сафіі, і чаму менавіта ёй, Сафіі, «чыстаму люстру Божаму, мастачцы, якая па законах боскага рамяства будуе свет» (так працытаваў чыесьці словы Улемід), прысвечаны галоўны храм гэтай краіны… Іншым адкрыўся ёй Царгорад, нібы апошнім промнем сонца ўпаў на той парог, за якім яна ўжо стаяла, каб зноў пасунуцца ў таямнічае і неагляднае падарожжа.

* * *

З гэтым адчуваннем жалю і захаплення ад'язджала Жывена з Царгорада.

Не з Улахернскай гавані, а з супрацьлеглай, з гавані Юстыніяна, адплывала яна туды, куды ніколі не імкнулася, не думала нават, што раздарожжа накіруе яе ў горад, чые карані на шмат стагодзяў старажытнейшыя, чым нават у славутага Цар-горада. Рым таксама быў царскім горадам, і хоць маладая яго саперніца — сталіца рамеяў — нейкі час пераўзыходзіла яго сваім бляскам, аднак цяпер папа імкнуўся надаць свайму гораду былую веліч і пяршынства. І апошнія шэсцьдзясят гадоў гэта яму ўдавалася. Але што будзе цяпер? Як паставіцца Рым да вяртання грэкамі свайго галоўнага горада?

І ўсё ж не гэтыя, а куды больш простыя думкі давалі ёй клопату, прымушалі тужліва глядзець на горад, які некалі здаваўся ненавісным, дзе яна ўпершыню ішла як абяздоленая рабыня, сціскаючы ў абдымках худое хваравітае цельца дзіцяці, і які пакідала як высакародная. Хутчэй «высакародны», таму што Нікіфар, пабойваючыся марскога разбою і бяспраўя, параіў ёй апрануцца юнаком.

Сам ён не паехаў праводзіць сваю прыёмную дачку. Было відно, як яму цяжка на душы. Аднак жа, калі абняў яе і пацалаваў у лоб, дзяўчына адчула — гэта быў ужо бацькоўскі пацалунак, сардэчны і добры. Хвароба як выпаліла ў ім юр, блізкасць смерці прымусіла задумацца над многім.

— Наўрад ці мы ўбачымся, Жывена-Ефрасіння (упершыню ён вымавіў яе язычніцкае імя). Але ведай: у Царгорадзе пра цябе будуць успамінаць і маліцца, каб твой шлях быў шчаслівым…

І Жывена, думаючы пра яго адзіноту, шкадавала яго, нібыта сапраўды гэта быў бацька. Што ж — сапраўдны бацька не даў ёй ні цяпла, ні клопату. А гэты выправіў яе ў далёкі свет з благаславеннем і шчодрасцю, каб у пошуках дзіцяці не адчувала яна жаху бедстваў. Ад бяды кіем не абаронішся. Нават за звесткі часам

трэба плаціць — і заёмны ліст, дадзены Жывене пры дапамозе Міхаіла, Нікіфар дапоўніў сваёй просьбай да сябра Гільельма Гверчы, галавы Генуэзскай калоніі ў Візантыі, дапамагчы ягонай дачцэ дабрацца да Рыма, а пры патрэбе заплаціць за яе.

Што яна магла знайсці ў Рыме? Сляды Райнера? Куды вядуць яны? Магчыма, ён паслаў дзіця пад аховай у свой замак у глыбіні Германіі, а сам адправіўся да таго, каму спатрэбяцца воіны, хто аплаціць ягоны меч. І ад думкі пра тое, што зробяць з яе хлопчыка, было невыказна горка Жывене. А можа, карабель не дойдзе да берагоў? Ёй і самой страшна глядзець на хвалі, якія пакуль раўнамерна ўзнікаюць з глыбінь мора і настойліва-ўладна б'юцца аб карабель, але ў кожную хвіліну могуць ператварыцца ў агромністыя валы і разбіць кволае тварэнне чалавечых рук так, як мацак трушчыць у далонях грэцкі арэх. І разам з тым нешта завабліва-чароўнае было ў моры, у колерах яго і адценнях, якія мяняліся ледзь не штохвіліны, у пеністых грабеньчыках хваляў, якія здаваліся жывымі.

Ніхто, можа нават і Нікіфар, не пазнаў бы яе адразу ў юнаку, што днямі стаяў на палубе трыеры: берэт з пяром, насунуты на лоб, каптан з высокім белым каўняром хавалі твар і постаць. Маглі б выдаць толькі рукі, але капітану было вядома, што з дому Скліраў едзе памочнік лекара, і на тое былі паказаныя адпаведныя паперы; у лекараў жа, як вядома, рукі павінны быць асабліва далікатнымі.

На трыеры было шмат народу. Генуя і Візантыю лучыў буйны гандаль, і хоць пры Балдуіне Другім большую вагу ў горадзе Канстанціна мелі венецыянцы, ад чаго стагналі царгародскія купцы, аднак і генуэзцы стараліся не адставаць. Цяпер, пасля падзення лацінскага ўплыву, сем'і многіх купцоў выязджалі з горада, каб перажыць няпэўны час у родных мясцінах. Сярод іх яўна зацікавілася Жывенай сям'я нямецкага майстра, які ездзіў у Царгорад вучыцца славутаму майстэрству візантыйскай эмалі, а таксама ліцця з бронзы. Сухі, падобны да цвыркуна, але вельмі марудлівы і паважны, майстар Вульфіл пачціва суправаджаў сваю жонку. Як з гонарам расказваў ён усім і кожнаму, ягоная Ізабэла была «высакародная дама, што з-за беднасці змушаная была абраць у мужы найбольш дастойнага з усяго цэха рамеснікаў-майстроў залатых спраў». Мажная Ізабэла амаль ні з кім не размаўляла. Надменна пазірала яна, як яе муж, чые рукі і сапраўды аказаліся залатымі, шукае сабе занятак. То ён са скуры, што сапсавалася з прычыны кепскага выдзелу і якую збіраўся выкінуць купец-уладар, нарэзаў тонкія раменьчыкі, сплёў іх і

зрабіў для жонкі зручнае сядзенне, то адрамантаваў мараходны прыбор, па якім вымяраўся шлях, а то змайстраваў мараку, які, засмольваючы дзірку, патрапіў за борт і ледзь не загінуў ад акулы, драўляную нагу замест адкушанай.

Ізабэла прыглядалася да Жывены ўсё з большай падазронасцю. І аднойчы капітан заклапочана прызнаўся:

— Я ведаю, што ты з дома Скліраў. Але чуў, як жонка майстра казала, што, як толькі трыера зойдзе на востраў Сіцылію, яна перадасць тамтэйшым уладам, што ты — шпіён; там могуць варожа аднесціся да таго, хто служыць Палеалогу, бо Гагенштаўфены, якія валодаюць вострavам, і так ужо амаль не дазваляюць караблям з Візантыі запасацца ў сваім порце вадой і прыпасамі.

А пасля, бесцырымонна агледзеўшы яе, дадаў:

— Яна ўбіла сабе ў галаву, што ты — жанчына. Мая справа папярэдзіць, бо не хачу пасля непрыемнасцяў…

Ягоныя словы надта прыдаліся, бо дапамаглі дзяўчыне перасцерагчыся. Падумаўшы, яна вырашыла «прызнацца» Ізабэле, што шукае нямецкага рыцара, у якога закахалася. Прыдумка давала ёй магчымасць і самой нешта вызнаць у ганарлівай дамы — магчыма, цікаўная кабета нешта чула пра сваіх суайчыннікаў. І сапраўды, пачуўшы, што здагадкі яе пацвердзіліся, і атрымаўшы тлумачэнне, чаму дзяўчына пераапранулася (маўляў, ёй трэба хавацца ад бацькоў, якія могуць выслаць пагоню), высакародная дама перамянілася. Вырасшы сярод уздыханняў аб рыцарах і прыўкрасных дамах, наслухаўшыся мінезінгераў, яна проста трызніла ўсялякімі прыгодамі. Захапіўшыся пачутым, яна затрашчала, як сарока, не перастаючы:

— Гэта мой Вульфіл дзень і ноч думае пра ўсялякія сумныя рэчы — як лепей упрыгожыць кірху, колькі эмалі пойдзе на кожнае акно і ці будзе ён дастойны свайго імя — бачыш, фройляйн, яго назвалі ў гонар першага гоцкага епіскапа. А па-мойму, няма нічога больш вартага за каханне! О! Каханне! Хочаш, я праспяваю табе нашы песні?

Калі Ізабэла пачынала галасіць пра дам, якія дзень і ноч глядзяць з вежаў, чакаючы каханых, Жывена ледзь магла ўтрымацца ад смеху — мажная дама нагадвала ёй рухавую бочачку. Аднак тая саслужыла ёй пасля падарожжа добрую службу.

Калі трыера прыстала ў Генуэзскай гавані, высветлілася, што новы папа Урбан Шосты патрабаваў ад Генуі, каб яна парвала адносіны з Міхаілам Палеалогам. Паколькі генуэзцы, зацікаўленыя ў гандлі і прыбытках ад Царгорада, адмовіліся, папа выдаў

інтэрдыкт* на ўсё насельніцтва рэспублікі і адлучыў ад царквы ўрад горада. Венецыя тым часам, падпарадкоўваючыся гнеўным загадам намесніка Бога на зямлі, паслала свой флот супраць і Генуі, і Візантыі. Аднак немцам падарожжа ў Рым было не забаронена. Таму Ізабэла, якая, чакаючы зняцця інтэрдыкту, каб паехаць да сябе ў Вестфалію, часова жыла ў нямецкім квартале сярод землякоў, змагла дамовіцца з капітанам, каб ён узяў на свой карабель да Рыма яе «юнага родзіча». Больш таго: яна дала Жывене адрас сваіх сапраўдных родзічаў, якія жылі ў Рыме непадалёку ад Квірынальскага ўзгорка, і ліст да іх.

Так у красавіку 1262 года дзяўчына апынулася ў Рыме.

* * *

Ліст высакароднай дамы зрабіў сваю справу: Жывену вельмі ветліва сустрэлі ў невысокай сядзібе, што патанала ў зяляніне міртаў, апельсінавых і лімонных дрэваў, якія ўжо цвілі бела-ружовым пяшчотным цветам. А праз два дні пасля ейнага прыезду паведамілі, што сярод знаёмых ёсць дзяўчына, якая даглядае хворых у манастыры святой дзевы Марыі, і там, здаецца, ляжыць нехта з нямецкіх рыцараў, што ваявалі разам з Манфрэдам, а пасля служылі пры двары звергнутага Балдуіна Другога і яго сына Філіпа.

Дзяўчына, сінявокая пухленькая Элізабэт, згадзілася правесці юнака ў манастырскую бальніцу. Манахіні віталі ўсіх, хто прыходзіў суцешыць хворых, прынесці ім ахвяраванні альбо і дапамагчы пры доглядзе.

На плошчы, куды яны, пераходзячы доўгімі вуліцамі, нарэшце трапілі, Жывена ўбачыла велізарную бронзавую постаць ваўчыцы. Пад ёю цягнуліся да саскоў двое хлопчыкаў.

— Што гэта? — паказала яна ўсхвалявана.

— Гэта блізняты Ромул і Рэм, — спакойна растлумачыла Элізабэт.

— Блізняты?

Жывена ледзь не подбегам кінулася да помніка. Уверсе бронза пазелянела, але лапы ваўчыцы і яе саскі блішчэлі — мабыць, рымляне часта дакраналіся да іх.

— Кажуць, дотык да хлопчыкаў прыносіць шчасце, — пацвердзіла яе здагадку спадарожніца. І яна расказала Жывене гісторыю ўзнікнення Рыма, вядомую кожнаму тут: жорсткі

* Папская грамата з гнеўным асуджэннем.

Амулій, дзядзька гэтых блізнят, яшчэ да іхняга нараджэння сілком пасвяціў сваю сястру ў вясталкі, бо жрыцы багіні Весты не маглі мець ні дзяцей, ні нават блізкасці з мужчынам. А пасля, калі прыгажуня-вясталка нарадзіла блізнят і дзядзька, баючыся за сваю ўладу, выкінуў іх у раку Тыбр, бог Марс, чыімі дзецьмі яны былі, не даў загінуць хлопчыкам: выкінутых ракой на бераг, іх выкарміла ваўчыца, а выхаваў пастух. А пасля, узросшы, яны заснавалі тут горад, слава пра які разнеслася па ўсім свеце.

— Рыму дзве тысячы гадоў, — расказвала Элізабэт, калі яны зноў крануліся ў дарогу, а Жывена паклала перад ваўчыцай, каля блізнятаў, круглыя пахкія апельсіны. — Але тут шануюць памяць пра мінулае. Кожны табе пакажа і арку Ціта, пастаўленую ў гонар перамогі над іўдзеямі, і калону Траяна. І нават помняць, як яшчэ ў 476 годзе Адаакр, перамогшы імператараў Арэста і Ромула Аўгуста, адаслаў знакі імператарскай улады ў ваш Канстанцінопаль…

— М о й Канстанцінопаль! — Жывена хацела запярэчыць, але запнулася. І адчула, што нават у думках не хоча адракацца ад горада, дзе столькі пражыла…

Яна і цяпер ішла, стрымліваючы ўнутраныя дрыжыкі. Магчыма, даведаецца ў гэтага хворага, дзе Райнер, што з дзіцем. Але як гаварыць з ім, што прыдумляць?

— Ён цяжка хворы? — запыталася яна ў Элізабэт.

— Хто? А, рыцар? — тая, захопленая аповедам, спачатку не зразумела, пра што пытанне. — Цяжка. Ён недзе падхапіў малярыю, а яна невылечная*.

— Няўжо? Ці можа ён хоць гаварыць?

— Можа, але зрэдзь. Ён увесь час трызніць.

Маладое гарачае сонца залівала палату, але і расчыненыя вокны не маглі выгнаць з тоўстых каменных сцен застарэлага паху болю, лекавых адвараў, смуроднага чалавечага цела. Манахіні ў чорным, але з белымі ўборамі-караблікамі на галовах, з белымі каўнярамі, сноўдалі паміж хворымі, схіляючыся над імі, суцяшалі, а некаторых кармілі. Элізабэт адразу ж пайшла ўглыб палаты звыклай хадою сядзелкі-даглядчыцы. Жывена спынілася на парозе, агледзела палату. Дзе ляжыць той рыцар?

Позірк, якім яна сачыла за сядзелкай, раптоўна знерухомеў: на далёкім ложку ля сцяны ляжаў Райнер. Ён тут! Востры яе зрок адразу адзначыў, што яго заплюшчаныя вочы абведзеныя цёмнымі кругамі, грудзі ўздымаюцца цяжка і пакутліва, рукі звесіліся з

* Малярыя і ў нашым стагоддзі лічыцца цяжкай хваробай.

ложка. Элізабэт, паказаўшы на яго, памахала рукой: «Ідзі!», але Жывена, нібыта ўбачыўшы прывід, павольна адступіла назад.

Калідор быў пабелены вапнай; яна стаяла, упёршыся ў сцяну рукой, каб супынілася шалёнае сэрцабіццё. Пасля, ачомаўшыся, убачыла побач са сваёй рукой надрапаную некім на белай сцяне змяю з высунутым джалам. Адсунуўшы пальцы, падумала, што змяя нечаканасці, якая ўкусіла яе толькі што, куды люцейшая. І разам з тым тут жа прыйшла палёгка: значыць, і дзіця недзе тут!

Як разагнаўшыся на доўгі шлях і пошукі, цяпер, раптоўна спыненая, яна адчувала, што ёй не хапае паветра.

— Што здарылася? — запыталася, вярнуўшыся, Элізабэт.

— Гэта ён… Той, хто мне патрэбны…

— О Езус! — дзяўчына перахрысцілася. — Сам Бог вёў цябе сюды!

— Дзе ён?

— Хто?

— Мой хлопчык, мой Святазар!

Сама таго не заўважаючы, яна трэсла Элізабэт. І тая прыкрыкнула:

— Пачакай, мы пойдзем да матухны Тарэсы. Яна кіруе гэтай палатай, яна ўсё ведае.

Жывена ляцела па зялёнай траве, ды ногі яе раптоўна саслабелі: Святазар гуляў у садзе каля далёкай сцяны манастыра. Ён не адразу пазнаў яе. Але, прыгледзеўшыся, пацягнуўся худымі ручкамі і чыста, выразна прамовіў:

— Матуля, я чакаў цябе!

— Дачка мая, мне даверылі гэтае дзіця, каб я клапацілася пра яго, а не аддавала камусьці, — прыветна, але цвёрда заявіла маці-настаяцельніца. — Магчыма, усё, што вы расказваеце, — праўда. Але ў хворага рыцара была, мабыць, таксама свая праўда.

— Сын прызнаў мяне. Хіба гэта не довад на тое, што я павінна забраць яго з разбойных, хцівых рук?!

— Рыцар смяротна хворы, дачка мая. І ніхто не даў нам права заганяць яго на Страшны Суд кіем. Наадварот — мы робім усё, каб яго выратаваць. Вялікая ласка Божая: часам у гэты свет вяртаюцца нават тыя, каго ўжо клалі ў магілу. А хваляванне можа пашкодзіць.

— Вы як быццам не разумееце мяне, маці-настаяцельніца: каб не гэты чалавек, я проста пагасцявала б у сваёй родзічкі, да якой ехала, і вярнулася б назад. Не стала б і рабыняй, а заставалася… Паверце, мой лёс на радзіме быў шчаслівы!

— Кожны чалавек — толькі зброя ў руках Божых. Усё ў табе і тваім лёсе. І не вінаваць нікога і нічога…

Жывена затуліла твар рукамі і нейкі час сядзела так, баючыся паказаць свой твар гэтай немаладой манахіні з цёмнымі прамяністымі вачамі і парэзаным маршчынкамі, але ўсё яшчэ прыўкрасным абліччам. Пасля яна адняла далоні ад вачэй і ўсміхнулася:

— Дзякуй, што нагадалі мне пра гэты асноўны закон жыцця. Ці дазволіце мне пабыць тут, у манастыры, і дапамагчы вам даглядаць хворых? Іншых, не яго…

Маці-настаяцельніца пранікліва глядзела на яе. Жывена вытрымала позірк.

— Заставайся, я веру табе. І веру, што Бог ісцінны падасць нам знак, як зрабіць найлепш у гэтай нечаканай, няпростай справе. Ты і мяне зразумей, дачка мая: мяне прасілі дапамагчы рыцару, і я не магу ад гэтага адступіцца…

* * *

— Я сказала яму, што ты тут. Ідзі, ён хоча цябе бачыць! — так сустрэла яе на трэці дзень Элізабэт.

Жывена разгубілася. Яна шмат думала пра Райнера, але ісці да яго не збіралася. Нават паўмёртвы, ён нібы трымаў яе нябачнай пятлёй. Яна не ўладная была над сваім і сынавым лёсам. Нельга было і думаць выкрасці адсюль Святазара — высокія манастырскія сцены, шмат вачэй навокал. Нават рабыняў, якія даглядалі яго ў Царгорадзе, сюды не пусцілі. Дзе яны? Магчыма, ужо прададзеныя, едуць некуды ў Егіпет альбо Сіцылію. Ды і яе становішча надта хісткае: інтэрдыкт, накладзены на тых, хто дапамагае Візантыі, можа закрануць і яе. А што, калі нехта з яго сяброў-рыцараў захоча адпомсціць ёй — за тое, што абвінаваціла іхняга воіна ў адступніцтве ад асноўных законаў Ордэна? За тое, што пасмела з'явіцца сюды, у Рым, і самім з'яўленнем таксама як закрычала аб тым, чаго не можа, не павінен рабіць рыцар.

Нават стоячы ля брамы смерці, ён можа ўджаліць яе, як джаляць павукі, якіх паўсюдна празвалі «чорнай смерцю».

Элізабэт глядзела на яе і чакала.

— Навошта ты сказала, што я тут?

— А раптам гэта дапаможа яму?

— Выжыць? І забіць мяне? І зноў адабраць Святазара? — горка засмяялася дзяўчына.

— Не думаю… Тое, што я бачу, сведчыць: ён ужо іншы. На парозе смерці ўсе мяняюцца. Апроч таго… Гэта ўсё ён рабіў

з-за кахання. Толькі з-за яго! Ці ён можа супраціўляцца Афрадыце-Венеры?!

— Здаецца, Элізабэт, ты каталічка?

Сястра-манахіня збянтэжылася.

— Ты маеш рацыю… Але што зробіш — язычніцкія ідалы маюць над намі такую непераадольную ўладу! Не кажы пра мае словы маці-настаяцельніцы, згода?

Цені, лёгкія і трапяткія, уперамешку з сонечнымі бліскаўкамі слізгацелі па палаце, па крыжы над лавай, па жоўтым твары хворага — цені ад лістоты, што буяла пад магутным сонцам. Жывена ўбачыла на завостраным, адрачоным твары рыцара новы выраз: ён глядзеў на яе і адначасна скрозь яе. І словы, што падобна ціхай вадзе прасочваліся з вуснаў Райнера, былі нязвыклыя як для яе, так, відавочна, і для яго:

— Каханне да цябе з гадамі ператварылася ў цемру і зацьміла мне вочы…

…І як адляцела ўсё, што стаяла паміж імі — здрадніцтва, хцівасць, помста, смяротная крыўда… Яна ўбачыла нібы на яве: ён ужо на тым, далёкім-далёкім беразе, і ў вачах яго тое ж неспасцігальнае для жывых знаццё.

— Каб усё пачаць спачатку… Было б іначай..

Голас яго быў падобны да шэпту лістоў, якія, ападаючы, зноў вяртаюцца туды, дзе яшчэ не нарадзіўся Час.

— Я воін… Я не шкадаваў жыцця ніколі… Але чаму… чаму нават цяпер, у трызненнях, я не бачыў тыя бітвы, дзе перамагаў? Я бачыў цябе, на кані, наперадзе сябе… там, у Навагародку, і твае залатыя валасы, і чырвоны рубін у тваіх пальцах… яны свяціліся…

Яна маўчала, гледзячы, як, час ад часу ўспыхваючы, сіліцца ягоная душа пераадолець смяротныя путы, што звязалі цела. Ён усё яшчэ рваўся назад, але нехта адтуль, з-за Вялікай ракі, куды адплываюць мёртвыя, клікаў яго ўладна і непераадольна, і ў тыя моманты згасалі вочы, і большымі рабіліся перапынкі паміж словамі.

— Я прасіў Бога… але ён не адгукаўся, і тады я звярнуўся да Одзіна і Локі, каб яны адшукалі цябе. Я прасіў гаспадыню царства мёртвых Хель*, каб яна адкрыла, ці не там ты. І, як бачыш… як бачыш, я знайшоў цябе. І знайшоў сына…

Тады, на апошнім уздыме сіл, ён і задаў пытанне, якога яна чакала і баялася:

---

* Вобразы скандынаўска-германскай міфалогіі.

— Скажы мне, перад тваімі і маімі багамі — гэта *мой* сын?

Шалясценне апалага лісця ўзмацнілася. Ды гэта ж крылы багіні Мары, той, якую Райнер называе Хель. Смяротным холадам павявае ў палаце, Райнер чакае адказу, і на памярцвелым яго твары жывуць толькі вочы… Ён хутка даведаецца пра ўсё — там, адкуль няма вяртання. Але хай ідзе па дарозе, куды яго клічуць, з лёгкай душой…

— Гэта твой сын.

Ён адкінуўся з палёгкай, і вочы яго апошні раз засвяціліся.

— Дзякуй табе. Дзякуй, залатая жрыца невядомых багоў. Ты даравала мне… Даравала!

Галава яго скацілася набок, жоўтыя павекі закрылі позірк — як застаўкі зачыняюць вокны. Упала, разбілася шклянка ля ложка, нібы яе зачапіла нябачнае крыло.

* * *

— Рыцар спавядаўся айцу Тамашу, і той перадаў для цябе вось гэта, — маці-настаяцельніца ўручыла Жывене пергамент. Дадала, памаўчаўшы:

— Мы аддаём табе дзіця. Але табе няма патрэбы зараз кіравацца з ім у доўгі і небяспечны шлях на радзіму. Праз два месяцы тут павінен быць кароль Міндоўг з тваёй Новагародчыны. Вяртацца з ім будзе спакайней.

— Вы… адкуль вам гэта вядома?

— Нам шмат што тут, у Рыме, вядома, — усміхнулася маці-настаяцельніца. — Мы паклапоцімся і пра цябе, і пра дзіця. А ты пажыві тут, у Вечным горадзе, каб самой пераканацца, дзе жыве ісцінны Бог.

Так Жывена даведалася, што, нягледзячы на страшэнную бітву пад возерам Дурбе ў 1260 годзе, дзе армія язычнікаў і праваслаўных хрысціян, якімі кіраваў Міндоўг, разбіла крыжакоў, усё ж Міндоўг змушаны быў зноў пакланіцца папе і дзеля ягонай дапамогі ехаў сюды, у Рым, каб пакаяцца. Як казалі ў манастыры — каб зноў вярнуцца да сапраўднай царквы, якой ён быў здрадзіў.

У яе цяпер было шмат часу, і, узяўшы з сабою Элізабэт, разам са Святазарам яна знаёмілася з вечным горадам.

Маладое лета бушавала ў садах Рыма, абвівала гнуткімі парасткамі яго старажытныя беламармуровыя калоны, аплятала кветкамі апельсінаў і гранатаў порцікі дамоў, якія тут называліся віламі, шчамілася травой скрозь шчарбатыя цагліны мастоў. Уза-

браўшыся на Капіталійскі ўзгорак, можна было ў ранішняй смузе ўбачыць ледзь не ўвесь горад — здавалася, ён лёгка гайдаецца ў хвалях часу, і стагоддзі робяць цяжкі мармур празрыста-лёгкім і нерэальным. Нешта прасвечвала праз яго — спрасаваныя гады ці чалавечыя лёсы, а можа, гэта проста магутнае сонца старалася яго расплавіць? Яно як імкнулася паглынуць у сваім ззянні і цырк Фламінія каля велічнага Капіталійскага ўзгорка, і форум Траяна, і шчарбаты мост Элія. Блізка ля гэтага моста месціўся Ватыкан, дзяржава ў дзяржаве, больш магутная, чымся ўся астатняя Італія. Сюды прыедзе кароль Новагародскі, і гэта дасць яго і Жывенінай зямлі спакой.

Яна часта затрымлівалася тут і, узіраючыся ў сцэны, на якіх шчыравалі муралеі, задумвалася над тым, што дасць гэтая дзяржава для Новагародка. Зноў падтрымае яго рыцарамі Ордэна, якія звысака глядзяць на новаспечанага караля балтарусаў, гатовыя ў любы момант пакінуць яго і зноў выступіць супраць? Дый, зрэшты, ён такі ж самы — парваў з Ордэнам і вярнуўся да язычніцтва, на радасць воінам і сваякам з Куроніі, Земігаліі, Жамойціі, — так, сваякам, бо доўгія гады былі звязаныя яны сваяцтвам і сумеснымі шлюбамі. Але чаму ж не застаўся ў веры бацькоў і дзядоў? Чаму зноў адступіўся ад яе?

І яна, здаецца, знаходзіла адказ тут, на вышынях, дзе засноўваўся вечны горад, тут, ля храма Юпітэра Капіталійскага — разбуранага, знявечанага часам некалі магутнага прыстанішча Бога, якога пакінулі ягоныя жрацы і на чый прытулак забыліся новыя пакаленні.

Ішоў час, і на зямлю прыходзіла іншая вера, іншая надзея. Яна вяла за сабой народы.

Яе бацька ішоў па гэтым шляху, ды ён азіраўся назад, бо любоў да спадчыны дзядоў не згасла ў ім, дашчэнту выпаленая новым. Але розум гнаў наперад, бо толькі з новай верай можна было з’яднаць у адно дзяржаву, якую ён ствараў.

Але дзе застануцца старыя багі? Дзе падзенуцца вера і любоў, якія аддаваліся ім?

І яна ішла да ваўчыцы, што застыгла ў бронзе над немаўлятамі-блізнятамі. Яны застануцца вечна. Спарышы, Юмісы, Ашвіны, яны будуць прыходзіць і прыходзіць у свет, што б там ні было.

…І Брутэн з Відэвутам будуць прыходзіць…

Яна думала пра абодвух, і нешта цёплае пераплягалася ў душы, незразумела-шчымлівае, роднае. Успаміналася, як, малую, аднойчы пакрыўдзіў яе Відэвут, яна пабегла прэч па сцежцы

і, зайшоўшы ў лес, адшукала там баравікі. А ён таксама пабег следам, каб папрасіць прабачэння і, дагнаўшы яе, так захапіўся аксамітава-жоўтымі, барвова-карычневымі мацачкамі-грыбамі, што, сапучы, збіраў разам з ёю іх датуль, пакуль, сутыкнуўшыся рукамі на самым высокім і прыгожым, яны абое не рассмяяліся, глянуўшы адно на аднаго. Той смех, шчаслівы і ад таго, што памірыліся, і ад таго, што так светла і хораша было на сэрцы, запомніўся навечна. Відэвут хутчэй быў братам, гэта добра адчуў Вакула-звяздар.

Але і той узнёсла-радасны, малады, трохі дураслівы напал, які ахапіў яе ў Нямеччыне, таксама ўспамінаўся зараз з паблажлівай усмешкай. Брутэна захілілі, вобраз яго зрабілі цьмяным і далёкім усе тыя выпрабаванні, якія выпалі на долю, — што ж, значыць, не яе гэта лёс. Але нешта гаварыла, што сустрэча тая яшчэ адгукнецца, яшчэ нагадае пра сябе…

Бронзавыя саскі ваўчыцы цяплелі ад дотыку ейных рук. І там ціха спявала яна старажытныя словы гімнаў, а маленькі Святазар паўтараў іх — адно за адным…

Апошнім часам у вандроўках па Рыме яе суправаджаў айцец Тамаш. Вясёлы і гаваркі, ён шмат расказваў пра гісторыю Вечнага горада, браў на рукі Святазара і паказваў яму Рым зверху:

— Тут, а не ў Ерусаліме, па-сапраўднаму нараджалася хрысціянства, адсюль пайшло яно па свеце, змагаючыся з язычніцтвам. Бо менавіта ў Рыме язычніцкая распуста пераўзышла ўсе магчымыя межы сораму і прыстойнасці.

Ён шмат расказваў пра Бога, што прыйшоў на зямлю ў вобразе чалавека ў далёкім Назарэце, тлумачыў, чаму быў ён распяты на крыжы. Ад яго даведалася Жывена пра раскол хрысціянскай царквы ў 1054 годзе, пра тое, як малады Канстанцінопаль адваёўваў у нямоглага тады Рыма пяршынства. І ёй усё болей і болей падабаўся гэты святар, які, як і іншыя служкі хрысціянскага Бога, не мог завесці сям'ю, дзяцей, а павінен быў аддаць сябе толькі служэнню. Ён цікавіўся яе храмам, і Жывена таксама расказвала яму пра абрады, дзівячыся, што многія з іх нагадваюць хрысціянскія. Аднак яна ў многім і не згаджалася з ягонымі доказамі, асабліва ж паўставала супраць плоцкай нявіннасці мужчыны-святара:

— Толькі нямногія могуць адольваць спакусы плоці, вы ж патрабуеце таго ад соцень і тысяч мужчын у самым росквіце. Значыць, тым страшнейшым можа быць грэх, у які яны ўпадуць.

Ён стараўся яе пераканаць — спакойна, ветліва. І Жывена яшчэ раз пераконвалася, якая гэта страшная зброя — чалавечае

слова, якое ўсё можа вывернуць, сказіць, перайначыць. Але яна не здавалася:

— Мы ніколі не ішлі супраць плыні жыцця, і нашы жрацы, пасля некалькіх гадоў службы, маглі ствараць сям'ю, — даводзіла яна. — Дый, урэшце, у візантыйскім, усходнім хрысціянстве таксама не патрабуюць такіх ахвяраў. Там, у Новагародку, нашы баяры ў асноўным грэчаскай веры, але многія з іх не забываюць і сваіх багоў.

— А як прынялі яны тое, што твой бацька хрысціўся па рымскім абрадзе? — знянацку запытаўся айцец Тамаш, як бы прапусціўшы гэтае «сваіх».

Жывена здрыганулася.

— Каго ты называеш маім бацькам? — углядаючыся ў рухавага, па-маладому ўсмешлівага святара, запыталася яна.

— А хіба кароль Міндоўг не твой бацька? — пытаннем на пытанне адказаў ён. — У Залатым Палацы ты назвала сябе дачкой новагародскага караля.

Жывена маўчала. Потым яна ўзяла за руку Святазара і пайшла наперад па камяністай дарозе, адглянцаванай за многія гады нагамі бясконцых паломнікаў.

— Ты таму і суправаджаеш мяне, святы айцец? — запыталася яна.

— Хаця твой бацька і не спадзяецца тут сустрэцца з табой, усё ж ён даведаецца пра цябе. Хаця ён валодае не надта вялікай краінай, у Рыма няма большых ці меншых сыноў. Усіх мы любім, усіх прымаем як братоў у Хрысце, — сур'ёзна адказаў Тамаш. — Але чаму гэта цябе крыўдзіць, золатавалосая дачка караля балтарусаў?

— Я не дачка караля, шаноўны святар. Шкада, але я толькі ўнучка яго прыдворнага. А назвалася ягонай дачкой, каб выратаваць і сябе, і чалавека, які зрабіў мяне знатнай царгародскай дамай.

— Але ты чакаеш Міндоўга тут, у Рыме?

— Я спадзяюся, што кароль не адмовіць унучцы яго былога радцы — узяць з сабой на радзіму. І толькі.

Святар Тамаш доўга глядзеў на яе. У яго поглядзе з'явілася ўсмешка:

— Ты ўсё роўна мне падабаешся, Жывена-Ефрасіння. Святы Дух несумненна падарыў табе сваю іскрынку, а гэта — вялікі дар.

Яны зноў пайшлі па дарозе каля старога храма багіні Весты, і Жывена зноў здзівілася таму, наколькі падобныя абрады ў

розных, але, аказваецца, надта падобных багінь. У свяцілішчах Зніча таксама гарэў незгасальны агонь, і жрыцы павінны былі быць цнатліўкамі. Калі ж згасаў той агонь, віноўных чакала смерць…

— Дык ты адмаўляешся ад таго, каб цябе прымалі тут як дачку караля? — зноў перапытаў яе Тамаш, калі яны развітваліся. — Падумай добра. Мне здаецца, што ты сказала няпраўду не там, у Залатым Палацы, а тут, сёння.

І ён пранікліва ўгледзеўся дзяўчыне ў вочы. Але яна цвёрда зірнула на яго:

— Якая б ні была мая праўда, я сказала табе тое, што хацела сказаць. І досыць пра гэта!

* * *

— Юр цябе разбяры! — Міндоўг стукнуў кулаком у далонь левай рукі. — Ты што, з таго свету ці з гэтага?!

Ваявода Астафій Канстанцінавіч, які, седзячы ў кутку, гучна чытаў «Псалтыр», упусціў кнігу на калені і ўтаропіўся ў Жывену.

— Унучка баярына Агапія?!

Баяры і слугі Міндоўга таксама на ўсе вочы глядзелі на маладую жанчыну ў белай доўгай сукні, якая, трымаючы за руку маленькага хлопчыка, увайшла ў вялікі пакой ватыканскай гасцініцы і схілілася перад князем, цалуючы ягоную руку.

— Гэта я, вялікі князь і кароль, я, унучка Агапія і твая падданая… А гэта мой сын Святазар.

Міндоўг пільна ўзіраўся ў яе, і яна, нібы адказваючы на ягонае нямое запытанне, яшчэ раз паўтарыла:

— Як унучка твайго былога радцы, прыпадаю да тваіх ног з просьбай узяць мяне з сынам пад сваю абарону і дазволіць разам з тваімі баярамі і пасольствам вярнуцца на родную зямлю.

— Адкуль ты? Што з табой адбылося? І якія шляхі прывялі цябе сюды, у Вечны горад?!

Рука ў Міндоўга была гарачай, пакручастыя вены на ёй здаваліся амаль чорнымі. Твар князя схуднеў, пышная грыва на галаве пабялела, але ўчэпіста-ўладнымі заставаліся зеленаватыя вочы пад кусцістымі бровамі.

— Я раскажу ўсё, вялікі князь і кароль. Але і ты скажы мне — што з маёй цёткай Апфіяй?

…Цэлы вечар, як казку, слухалі баяры аповед Жывены. Аднаго не сказала яна — што назвалася дачкой Міндоўга. І, мабыць,

пра тое не сказалі і папскія слугі, якія сустрэлі пасольства ў Рыме. Іх ужо не цікавіла простая падданая новагародскага караля, што шукала ў яго прытулку.

Міндоўг пакінуў яе ў ватыканскай гасцініцы, і гэта нікога не дзівіла: многія з тых, хто прыехаў у Рым, памяталі Агапія, ведалі яны і ягоную любую ўнучку. А праз тры дні паклікаў яе да сябе разам са Святазарам. На гэты раз у пакоі нікога не было, і Жывена, чакаючы, пакуль прыйдзе князь, змагла ацаніць залаціста-пунсовыя роспісы на сценах, крэслы венецыянскай работы — з разьбянымі ручкамі з чорнага пазалочанага дрэва, са спінкамі ў выглядзе кветак лілеі, а таксама бледна-ружовыя дываны, якімі была заслана падлога.

Міндоўг зайшоў у пакой заклапочаны, нервова пацепваючы плячыма. Сеў, моўчкі разглядаючы дзяўчыну. І запытаўся няласкава:

— Як думаеш жыць, калі вернемся?

— Як павядзе Лёс.

— Лёс! Яго куюць моцныя, а слабыя скрыгочуць зубамі, спрабуючы ўкусіць кавалак ад чужога банкуха.

Памаўчаў.

— Ты сама расказала, як ратавала Святазара. Тады паклікала сэрца, але цяпер… нашто табе чужое дзіця? Я загадаю, і яго адвязуць у Прагу. Там знойдуцца сваякі, і яно застанецца тым, кім нарадзілася — купецкім сынам.

— Чым жа маё дзіця перашкаджае новагародскаму каралю?

Зеленаватыя вочы Міндоўга прымружыліся, рот расцягнуўся ў знаёмай усмешцы — моцныя белыя зубы, гатовыя клацнуць на неслухмянага.

— Сярод вяльможаў, з якімі мяне тут знаёмілі, ёсць малады граф з Венецыі — Марка Франкецi. Яго род багаты, славуты і прыняты ў Ватыкане.

— І што ж?

— Я мог бы быць добрым сватам. Думаю, што і граф, убачыўшы цябе, не застаўся б раўнадушным. А мне не шкодзіла б мець тут, у сэрцы Захаду, зяця, які дапамог бы Новагародскай зямлі ў цяжкую хвіліну.

— Ты хочаш прызнаць мяне сваёй дачкой?

— Чаму б і не? Хіба гэта не гонар для цябе?

Святазар, нібы разумеючы цяжар, што наваліўся на сэрца ягонай прыёмнай маці, падбег да яе, уткнуўся ў калені, засакатаў на сваёй, яшчэ незразумелай мове, як бы суцяшаючы.

Міндоўг чакаў адказу, усмешка яго была прыязна-хітраватай, але ў вачах не было цяпла. Убачыўшы, што яна збіраецца з думкамі, загаварыў зноў, як бы заклікаючы яе да сумесных разваг:

— Я сяджу тут ужо два тыдні — наўмысна трымаюць тут святыя айцы, каб чытаў пацеры і каяўся. Мне ўжо здрадзілі саюзнікі, з якімі хадзіў пад возера Дурбе. А табе… табе не варта вяртацца ў Новагародак. Княгіня Марта як бы прaзнала нешта, яна двойчы пыталася пра цябе, а гэта дрэнны знак. Убачыўшы цябе жывою, яна не супакоіцца. Яе… нашым дзецям патрэбнае ўсё княства. Усё! Нават Войшалк стаіць у яе… у нас на дарозе. Яму хочацца быць вялікім князем, які аб’яднае вакол Новагародка Літву, Жамойць, Куронію, Нальшчаны, Дзяволтву — усіх, каго прыціснуў сваім мячом я, а не Войшалк!

Ён зноў глянуў на яе амаль умольна:

— А ты станеш венецыянскай графіняй.Ператворышся ў дыямант, які быў простым алмазам. Я ж хачу дабра табе, бо не чужая ты мне, і лёс твой мяне хвалюе. Тут добра. Нам не параўнацца пакуль з гэтымі землямі, дзе столькі стагоддзяў набіралася багаццяў з усяго свету. Ну, што ты маўчыш?

«Якія бедныя словы, — думала яна. — Як доўга і, відаць, беспаспяхова тлумачыць, чаму не хачу заставацца тут, у Рыме, як не жадала застацца і ў Царгорадзе».

— А ты, вялікі князь… ты застаўся б тут навечна?

Ён як спатыкнуўся.

— Я? Але мы гаворым пра цябе.

— А ты адкажы спачатку на маё пытанне. Далі б табе тут графства, альбо вось я прапанавала б застацца тут, са мной, з маім магутным мужам. І табе па-ранейшаму кланялася б варта, перад табой схіляліся лісліўцы і спявалі песні гусляры…

— Я — воін! І прывык адчуваць свой меч у ножнах, слухаць, як ён спявае ў бітве! А пасля дзяліць палон, і кідаць Агню ахвяры!

— А я, твая дачка, прывыкла ляцець на кані праз даліну і прашываць яе бегам, як іголка з рыбінай косткі прашывае палатно! І плыць уначы ў свяшчэнным возеры і размаўляць з русалкамі! Іх тут няма, бацька, тут чужыя багі, і я не разумею іхнюю мову!

Як клінкі, скрыжаваліся іхнія позіркі — зазвінела цішыня, рыпнула адламаная Міндоўгам ручка крэсла. Ён зірнуў на львіную галаву ў сваёй руцэ і раптам зарагатаў:

— Ат, Юр цябе разбяры! Упартая! Як цяпер перад папам апраўдвацца будзем за ягонага звера?

Яна таксама ўсміхнулася, але не расцяла далоні, якімі моцна абхапіла ручкі свайго крэсла.

— Ну, аціхні. Не хочаш — не буду прымушаць. Ты і так у мяне разумніца… Правільна адказала тут, хто ты і што ты. Я сам ва ўсім разбяруся. Гэтыя задачкі, што нам з табой жыццё дало, складанейшыя за іншыя, але ж у варцобы Жыцця гуляюць і не такія, як я…

Змерыў позіркам ейную постаць.

— Каб не ведаў, што ты мая дачка, то яшчэ і сам бы мог… заглядзецца. Гожая ты ў мяне, надта гожая…

Яшчэ памаўчаў, б'ючы кулаком у далонь левай рукі.

— А як не захацела быць венецыянкай, то будзе гэтак: выйдзеш з гэтага пакоя і забудзешся, аб чым мы тут меркавалі. І хто ты, забудзешся таксама. Згода?

Як пераламалася ільдзінка ў ягоным голасе. Жывена ўстала, прама зірнула ў ягоныя вочы:

— Кажуць, гэта ў чалавечых звычаях — любіць сваіх дзяцей. Але мне гэтага не далося; не ведаю, як любіць маці. І як бацька — таксама. Праўда, дзед любіў мяне — ён і быў мне бацькам. Так што, вялікі князь, няма на што мне забывацца…

Тады, шпурнуўшы львіную лапу ў халоднае зеўра кафельнай печы з вялікай пашчай ільва наверсе, адпрэчыў навагародскі князь:

— Для тых, каго ўздымаюць багі над іншымі, другія законы. А ты разважаеш як простая кабета. Я хацеў падняць цябе — ты ж саслізгваеш уніз, дзе, як чарвякі, снуюць многія. Ды яшчэ і хочаш вярнуцца туды, дзе я ніколі — чуеш, ніколі! — не скажу пра цябе праўду, бо многія разяўляюць рот на маё княства. Лепей было б цябе тут непрыкметна атруціць — каб ніколі не ўстала ты на маёй дарозе, варагуючы са мной ці з сынамі. А тое, што я адпускаю цябе з дабром — гэта і ёсць мая бацькоўская любоў, бо сэрца ў мяне не чорнае, як гавораць ворагі. Слабое ў мяне сэрца, бо люблю кабет, віно, вясёлыя бяседы!

І зноў усміхаліся, блішчэлі сталёвым водбліскам яго вочы… Моўчкі схілілася Жывена ў паклоне, выйшла разам са Святазарам і асцярожна прычыніла дзверы.

А кароль Міндоўг доўга глядзеў на дзверы, і твар яго быў пахмурны і тужлівы…

Жывене не давялося пабываць на прыёме, наладжаным папам у гонар караля Міндоўга. Але адзін з легатаў, які суправаджаў пасольства навагародцаў, не застаўся раўнадушным да прыгожай

жанчыны і правёў яе па пакоях Ватыкана, па галерэях, порціках і дварах, схаваных ад натоўпу.

Праз многія гады, успамінаючы тыя дні, Жывена бачыла перад сабою высокія столі, спрэс, з пакоя ў пакой, распісаныя жывымі і як бы светланоснымі фарбамі, залатыя мазаікі, беламармуровыя постаці, якія, здавалася, сыдуць з п'едэсталаў і загавораць, драўляныя скульптуры святых, распісаныя чароўнымі пэндзлямі вялікіх майстроў, крышталёвыя люстры, што рассыпалі зіхоткае святло на агромністыя залы, каштоўныя камяні такіх памераў, якіх яна і ўявіць сабе не магла, — яны аздаблялі німбы вакол святых, іскрыліся на калонах, свяціліся ў разьбяных гнёздах алтароў.

Бязмерным, неспасціжным для звычайнага ўспрыняцця было гэтае багацце — як саміх скарбаў, так і чалавечага таленту і натхнення, укладзеных у Ватыкан. Але ад гэтага не перастала быць мілейшай радзіма, дзе мастаку часта не было дзе і на чым развінуць свой дар, бо бясконца ваявалі паміж сабой землі, і князі іх цікавалі адзін за адным, каб захапіць паболей. А калі не самі, дык суседзі. І так са стагоддзя ў стагоддзе. Калі ж спыніцца гэтая патароча?

Можа, лёс будзе ліставацівы да Новагародка, і ўздымецца ён вышэй за іншых, як ужо ўзняўся над навакольнымі землямі, так што пацяклі ў яго скарбы і грошы — а без грошай што можа зрабіць дойлід і муралей, чаканшчык ці ліцейшчык?

Перад ад'ездам яшчэ раз пайшла Жывена ў Генуэзскі квартал у Вечным горадзе і атрымала мяшэчак залатых талераў — манет, якія нядаўна пачалі выпрабляць у Рыме. Дапамог яшчэ адзін ліст, які Нікіфар даў ёй, хаця і не верыў, што яна свабодна дабярэцца да Рыма.

Перад самым ад'ездам Міндоўг, якому папа абяцаў чарговую дапамогу, даў развітальную вячэру. Дзеля гэтага з'ехаў ён з ватыканскай гасцініцы і на дзве ночы наняў харчэўню каля Квірынальскага ўзгорка.

Усю дарогу пасля бурчэў Астафій Канстанцінавіч, нагадваючы пра марна растрачаныя залатавікі, але Міндоўг задаволена жмурыўся, калі з горыччу пералічваў ваявода падарункі «дзвюм шэльмам, грахоўным дочкам Евы», якія ўлагоджвалі высакароднага чужаземца з вялікай карысцю для сябе і прыемнасцю для яго.

— Два тыдні чытаць пацеры і пасціцца — ды ад гэтага можна душу аддаць Лядашчыку! — весела адказваў вялікі князь на папрокі, аднак касавурыўся на дачку трохі вінавата. Зрэшты,

яна трымалася за спінамі вяльможаў, нізка кланялася вялікаму князю, і ў канцы падарожжа тыя, хто чуў нейкія цьмяныя гаворкі і перагаворы, супакоіліся: унучка баярына была такою, якою і павінна быць сціплая падданая караля. Аднак жа, як даведалася Жывена, Міндоўг кіраваўся не ў Навагародак, а ў сваё радавое гняздо — у Руту. Там збіраўся ён наладзіць ваенныя гульні, каб паказалі рыцары, якіх меўся зноў запрасіць да сябе, сваё ўменьства і гарт. Жывену ў Руту ён не запрашаў. Дый, зрэшты, яна ірвалася перадусім у Навагародак, любы горад, які сніўся ёй на далёкіх дарогах як выратаванне і надзея…

Доўгім і цяжкім было падарожжа, але ў рэшце рэшт скончылася і яно. Пятлялі туды-сюды дарогі, але нястомна круціліся колы фурманак і вазкоў. Па начах, калі, ратуючыся ад смяротна гарачага ў паўднёвых краінах сонца, падарожнікі ехалі ўсё далей на поўнач, туды, дзе ззяла Кол-зорка, да якой прывязанае ўсё неба, Жывена ляжала на фурманцы, назіраючы за безданню, што з краю ў край раскідвалася над ёю, над дарогай, над усім, што ляжала і спала да ранішняй зары. Дзяўчына адчувала, як пульсуе гэтая неспасціжная для людзей прорва — і ў сабе, у сваёй крыві са здзіўленнем адкрывала той жа агульны рытм, які найболей зладжаным быў у такія хвіліны, калі душа яе рвалася насустрач сусвету і яго таямніцам. А днём усё знікала, яна, як і іншыя, была ад'яднаная ад гэтага ледзь улоўнага, але ж такога знаёмага роўнага тахкання — здавался, гэта б'ецца недзе велізарнае сэрца свету, даючы жыццё ўсяму, ад кволай зёлкі да магутных жывёлін.

А ці не тыя ж, што і на зямлі, жывёлы былі там, высока, адкуль безліччу мігатлівых то залацістых, то блакітных, то чырвоных кропак глядзелі на яе сузор'і? Найбольш любымі былі яны, Ашвіны, альбо Спарышы — балты называлі іх Юмісамі, рымляне — Геміні, славяне — Лелем і Палелем… Але разам з імі шукала Жывена і Малога Каня — яшчэ і так называлі Ашвінаў у яе на радзіме. Салім жа некалі апавядаў пра яго як пра Аль Кітах аль Фарах, а ў Візантыі пра яго расказвалі прыгожую легенду аб тым, як аднойчы спрачаліся Пасейдон і Афіна, хто з іх дасць будучаму гораду больш карысці. Мужчына сваім магутным кіем выбіў са скалы баявога каня, а багіня жалезнай дзідай — аліўкавае дрэва. Горад назвалі ў яе гонар, а каня ўзялі на неба.

Так, людзі, раздзеленыя вялізнымі адлегласцямі, чамусьці адчувалі зоркі амаль аднолькава, складалі паданні, падобныя між сабой. Чаму?

Але хіба мала паданняў аб зорах у яе на радзіме? Хіба не расказваў іх малой дзяўчынцы, калі яна ціха сядзела ў ягонай святліцы, звяздар Вакула?

Як прымуць яе ў храме? Яна вяртаецца іншаю — але свяцілішча нязменна грэе сэрца, хочацца зноў увайсці ў Менцязь і, злавіўшы ягоны рытм, растварыцца ў ім.

Лежачы спачатку пад цёплым, а пасля ўсё болей схаладнелым небам, яна шукала пад раніцу самую яркую зорку — Мілавіцу і думала аб братах-блізнятах Відэвуце і Брутэне. Дзіўна — яны зліліся для яе ў адно, і, успамінаючы аднаго, яна нязменна ўспамінала і другога, але ўвесь час стаяла між ёю і імі нейкая сцяна, незразумелая для яе.

Неспасціжнымі бываюць загадкі чалавечага сэрца, і не падпарадкоўваецца яно ні загадам, ні ўгаворам. А калі не можаш палагодзіць розум і сэрца ў сабе, то як жа можна хацець гэтага ад іншых?

Успамінала Нікіфара — ці супакоілася ягонае сэрца, альбо глыдае яго чорная туга, што не знаходзіць сабе спатолі, пакуль не знішчыць самога чалавека? Каханне можа быць дарам, але і насланнём таксама — тады трэба не даваць мораку браць над сабой верх. Умеў здымаць той морак толькі стары Святазар, бо вялікую сілу трэба мець для таго. І не толькі сілу, але і мудрасць. А яна таксама прыходзіць не сама па сабе, а праз вялікія выпрабаванні.

А каму даюцца такія выпрабаванні, той — улюбёнак багоў…

Вілася-круцілася дарога, пракідвалася то камяністай, сціраючы падковы коней, то мяккай і тлустай, дзе падчас дажджоў грузлі калёсы, то забівала рот горкім пылам, то лагодзіла ногі мяккай ведзьмінай траўкай*.

Чужыя краіны з іх мовай і звычаямі, з незнаёмымі людзьмі і небяспечнымі кручамі праязджала пасольства, працінаючы іх, як іголка — суравое палатно. Вечарамі, калі не паспявалі даехаць да люднага паселішча, месціліся часта на паляне ў прылеску, абставіўшыся вазамі, як абаронай, і выстаўляючы варту.

Аднойчы, прымасціўшыся разам з сынам ля агромністага вогнішча і слухаючы аповеды Міндоўга і баяр пра бітвы і сечы, пачула Жывена аб прусе, які прыехаў у Новагародак да брата, але падчас аблогі горада крыжакамі апынуўся на полі бітвы і злажыў сваю галаву. Нават і песня была ўжо складзеная пра яго. Як там яго клікалі? Імя ніхто не помніў.

* Траву мурог лічылі чарадзейнай.

Нешта ўкалола жрыцу, і, калі ўсе пачалі разбрыдацца па лежышчах, яна падышла да ваяводы.

— Так, я памятаю гэтага пруса, — ажывіўся той. — Ён біўся як шалёны, нібыта сам Пярун… о, шчур на яго! — Ілля-прарок! — кіраваў яго рукой. Немцаў ён сек на капусту, і дзіўна — крычаў сам прытым па-нямецку.

— Немцы ж нібыта былі нашы саюзнікі?

— Ты шмат чаго не ведаеш, дзяўчына: пасля таго, як родзічы ўгаварылі вялікага князя зноў вярнуцца ў паганства і ён павёў іх на крыжакаў пад возера Дурбе, тыя як азвярэлі. Ды і тое — не чакалі яны ад яго такога павароту, не гатовыя былі да бітвы.

— А як загінуў… як загінуў той прус, і ці не Брутэнам яго звалі?

— Ты… ведала яго?!

— Можа, гэта і не ён… — прамармытала Жывена, але нешта ўпэўнена і цвёрда сказала ёй, што то сапраўды быў Брутэн.

Спаў лагер, тупалі вакол вазоў бяссонныя вартавыя. Жывена, накінуўшы на плечы ваўняную накрыўку, сядзела, прыхінуўшыся спіной да дуба. Нядобры чорны дзень, у які яна атрымала вестку, нібы прарочыў нешта яшчэ больш цяжкае, нават трагічнае. Значыць, Брутэна больш няма. У Новагародак прывяла яго дарога, тут яна для яго і скончылася. Яе словы прывялі, яна вінная ў смерці таленавітага мастака. Так, багі далі яму талент, і шкада, што выява яе згарэла ў агні. Яна думала, суцяшала сябе: нельга вінавaціцца — усе мы толькі пасланцы Лёсу, яна выканала тое, што ўжо ляжала рубцом, блізнай на тканіне Брутэнавага жыцця, расказаўшы яму пра брата і маці. Страта за стратай — вось што такое жыццё. І якім болем абарочваецца яно…

Але ў яе застаўся Відэвут. Ён чакае яе. Чакае Святазар, якому наканавана пражыць да 108 гадоў — часу дасканалай мудрасці. Ён заслужыў на тое. У яе ёсць маленькі Святазар — прадаўжальнік іхняе справы.

І яна слухала зямлю і неба, а на захадзе ўсё гарэла чырвоная паласа. Сімвал гэтага дня — чырвонае на чорным, попел, пакаянне, ачышчэнне. Яна схадзіла да воза, узяла тонкую вяроўку, завязала на ёй вузлом звесткі пра смерць Брутэна, пра свой смутак*. Можа, падрасце Святазар і зможа прачытаць гэтае патаемнае пісьмо, якое ведаюць нямногія. Што яшчэ яна зможа пакінуць яму? Перадасць любоў да роднае зямлі. Яе мудрасць,

* Пра вяроўчатае пісьмо ў старажытных славян сведчаць многія крыніцы.

што, як казюрка ў бурштыне, адціснулася ў песнях і паданнях, у абрадах дабрыні і святла. І яе страсную, жывую памяць аб памерлых — дзядах, што не павінны пакідаць свой народ, а падтрымліваць яго творчыя і духоўныя сілы.

Яна падкінула сучча ў згаслае ўжо вогнішча і, звяртаючыся да душы Брутэна, што залатой іскрынкай плавала недзе ў сусвеце, сказала ёй словы любові і пашаны. Калі не ўзгадваць памерлых, не гаварыць з імі, астынуць іх душы да сваіх нашчадкаў, і гора той зямлі, гора таму народу!

Брутэн абараняў родны для яе край, тут яго душа адляцела ад цела — значыць, яна і будзе сюды вяртацца. Таму колькі будзе жыць, будзе яго памінаць яна, новагародчанка.

І толькі пасля абраду, калі ружовымі пальчыкамі дакранулася Зараніца да чорнага сувою ўсходу, спаў цяжар з Жывены, і яна заснула. А раніцай зноў загайдаліся вазы па каляінах, зноў паклікала дарога — бясконцая, яна ўзнікала на небасхіле і прападала за ім жа.

Усё болей слоў шчабятаў малы Святазар, усё болей упэўнена тупаў па зямлі. І калі, нарэшце, перастрэла іх першае селішча Новагародскай зямлі, радасна і выразна вымавіў ён:

— Радзіма!

Радзіма…

Жывена ўпала на калені, уткнула твар у траву, якая расла паабапал дарогі. Няўжо ўсе выпрабаванні засталіся ззаду, няўжо вяртаецца яна ў сваё жыццё і на свой шлях?

Але першая ж вестка, якую атрымала ў Новагародку, сталася для яе моцным ударам — свяцілішча Ашвінаў было разбуранае. У той кароткі час, калі новагародскае баярства, незадаволенае няўдачамі Міндоўга ў вайне з Данілам Галіцкім, абрала на пасад Войшалка, той і здзейсніў тое, аб чым марыў, мабыць, яшчэ з часоў забойства Елісея. Ён наслаў войска на некаторыя язычніцкія свяцілішчы, чые жрацы былі найбольш цесна звязаныя з былой уладай і яўна асуджалі маладога княжыча за яго нянавісць да дзедавых звычаяў і старых багоў.

— Разбурыў свяцілішча? Цалкам? Сам Войшалк ці толькі войска? — не верачы вушам, перапытвала Жывена ў Яўлампіі.

І тая, ачомаўшыся ад узрушэння, якое адчула пры нечаканым з’яўленні даўно зніклай дзяўчыны, адказвала ўсё больш дзёрзка:

— І не толькі разбурыў, але і ўзяў там вялікія багацці ў княскую казну. Нямала там і нашага… Твой дзед любіў дарыць,

празмерна любіў, не думаючы ні пра жонку, ні пра дачку… Нібыта гэтая была яму горшаю за тую…

— Як — была?!

Дзве горкія весткі, адна за адной! Апфія памерла пры родах, і дзіця, якое яны з мужам так чакалі, было ўжо нежывое…

Тут Яўлампія горка заплакала, і Жывена абняла яе, можа, упершыню адчуўшы ў гэтай капрызлівай, крыклівай, непрыязнай да яе жанчыне душу, што цяпер пакутавала і бездапаможна шукала спатолі.

Назаўтра ж раніцай дзяўчына паехала да свяцілішча Ашвінаў.

Перад павароткай, за якою звычайна прыезджым адкрываўся храм, Жывена спыніла фурмана, выйшла. Бярозы ў залатых корзнах, яліны ў доўгіх цёмна-зялёных плашчах былі падобныя да купкі баяр, што сабраліся на раду. Вераснёўскае сонца моцна нагрэла аплецены верасам узгорак, на які прысела жрыца.

Сабе самой не хацела яна прызнацца, што баіцца зірнуць на месца, дзе павінен быў стаяць дом Ашвінаў. Для таго, мабыць, і пакінула ў доме Яўлампіі маленькага Святазара, каб не бачыў ён ейнай роспачы, каб не запомніў рэзруху і скрышаных разбуральнай сілай свяшчэнных камянёў.

— Пачакай тут, — загадала яна фурману, а сама прымусіла сябе падняцца і пайсці насустрач бядзе і адчаю.

Колькі разоў за сваё не такое доўгае жыццё вярталася яна гэтаю дарогай з Навагародка — то ў ясныя зімовыя дні, калі асляпляльна-святочна іскрыўся некрануты агромністы прастор палёў; то вясновым вечарам, калі пяшчотна-зялёным пушыліся бярозы, то ў такія, як сёння, мякка-задумлівыя вераснёўскія раніцы. І заўсёды радавалася, што зараз, за павароткай, пакажацца храм — блішчастыя ягоныя сцены нібы прамяніліся цяплом і радасцю. А яшчэ — велічу і недасяжнасцю, нібы асвячалі яго тыя імгненні, калі сюды сыходзілі багі.

… Яна павольна ішла, не зводзячы вачэй з велізарнай груды камянёў, над якімі кружыла зграя чорнага варання. Што яшчэ маглі выглядаць гэтыя злавесныя вестуны бяды тут, дзе згасла жыццё? Вочы яе не адрываліся ад валуноў, што некалі — зусім нядаўна! — былі сценамі, яна адгадвала, ад якой, усходняй ці заходняй, сцяны быў нібы адарваны, адшпурнуты той ці іншы камень. А пасля, калі на імгненне адвяла вочы ад храма, ускрыкнула, нібы яе знянацку выцялі па галаве.

Менцязі не было. Там, дзе зіхотка пераліваласяя сярэбранай кальчугай жывое цела возера, зменліва-чароўнае і заўсёды

дарагое, чорнай каламутнай тванню бугрылася балота, што ўжо там-сям пачало зарастаць асакой. Не верачы самой сабе, Жывена подбегам пусцілася да берага, нахілілася, зачэрпнула рукою твані, нібы і сапраўды больш давярала руцэ, чым вачам. Але не — жыжа пацякла па пальцах, моцна запахла нагрэтай гніллю. Здалося, недзе зарагатаў Балацянік…

Вараннё ўсё кружылася над храмам. Яна пайшла туды. Тарчма стаяць валуны, пасечаныя свяшчэнныя дубы атупела глядзяць уверх, як невідушчыя. Гаргатанне птушак узмацнілася, яны нібы гналі яе адсюль. За маленькім храмам бачныя былі абгарэлыя шкілеты жрацовых дамкоў. Не, не туды прыцягваецца гэтая злавесная гаманкая чарада. Тады куды? Няўжо сярод нагрувашчаных, трэснутых валуноў маленькага храма нехта ёсць? Можа, які нябога запоўз туды схавацца ад непагадзі і не можа выбрацца? А можа, там ляжыць нейчае цела, і вараннё, спужанае ейным прыходам, ужо дабралася да яго?

Яна сагнулася, амаль паўзком прабралася ў храм. Там, у пярэднім пакоі, ужо можна было выпрастацца. Праменні сонца дабраліся да сцяны, на якой Жывена і з заплюшчанымі вачыма магла па памяці паказаць кожны звіў адзежыны на высечаных з каменя Ашвінах. Яны стаялі тут і цяпер, і яна апусцілася на халодную, адпаліраваную стагоддзямі падлогу, зашаптала словы старажытнага гімна.

Ціхі стогн данёсся з глыбінь храма, і дзяўчына ўскочыла, памкнулася ўглыб.

Там было цёмна, пахла нежылой вільгаццю. Але там быў нехта — толькі ўзрушанасцю жрыцы і можна было растлумачыць тое, што яна не адчула гэтага адразу, як толькі ўвайшла ў разбураны храм.

— Хто тут? — запыталася яна ціха.

Хто б тут ні быў, ён паміраў. Невыразны шэпт зрываўся з вуснаў, цела, намацанае ёю ў цемры, было халодным і як бы ўжо нежывым. Але яно было лёгкае, такое лёгкае, што Жывена, як здагадаўшыся, ледзь не закрычала:

— Настаўнік, гэта ты?!

Так, гэта быў Святазар. Жаўтлявы твар яго быў перакошаны невыказнай пакутай, пакуль яна расцірала ягоныя рукі і ногі, спрабуючы затрымаць кволую іскрынку жыцця ў старым зношаным целе. Але, мабыць, не час быў яшчэ Святазару адплываць у Краіну Мёртвых — ён заварушыўся, расплюшчыў мутныя вочы і сеў. Павольна агледзеўся навокал і раптам усміхнуўся слабой, але такой любай для дзяўчыны ўсмешкай:

— Калі мне аднойчы прымроілася ў сне гэтая вось раніца, калі я ляжу амаль мёртвы, а ты схіляешся нада мною, я падумаў, што сны пачынаюць мяне падманваць. Але не — хаця грахі нашы чорнай хмарай паднімаюцца да багоў, усё ж яны літасцівыя да мяне, Боскія Блізняты. Дазволілі мне яшчэ раз убачыць цябе, любая мая дзяўчынка… Але не, ты ўжо зусім дарослая, ты бачыла землі і шляхі, якіх не давялося ўбачыць мне.

— Чаму ты тут у адзіноце? А дзе ўсе? І як усё было? — запыталася Жывена.

Святазар расказаў ёй, як, сеўшы на новагародскім стале, Войшалк паслаў ганца па Жывену. Аднак калі стала вядома, што жрыца з'ехала невядома куды, ён запатрабаваў ад Святазара знайсці яе і даў тэрмін — паўгода. А праз паўгода паслаў вояў, і яны за тры дні знішчылі тое, што стваралася стагоддзямі.

— Не вінаваць сябе! — абарваў яе стары жрэц, убачыўшы, як змяніўся твар у яго ўлюбёнкі. — Ён добра ведае, што гэта я прыходзіў да твайго дзеда і разам з ім дабіўся даравання храму, чые прыхаджане забілі яго любімага настаўніка Елісея.

Ён павольна, задыхаючыся, распавёў Жывене пра даўнюю тую гісторыю і яшчэ раз пацвердзіў:

— Тваё знікненне было толькі зачэпкай для расправы. Іншыя свяцілішчы ён знішчаў знянацку, ні ў кога не пытаючыся. Супакойся, дзіця.

— Але што сталася з Менцяззю?

— Калі палілі багоў і раскладвалі вогнішчы пад свяшчэннымі камянямі і сценамі храма, каб пасля паліваць іх халоднай вадой, у адну ноч прапала возера. Дый тое сказаць, цэлае войска новагародскае тапталася тут, ачапіўшы храм. Галасілі людзі, спрабавалі камянямі закідаць гвалтаўнікоў. Але пасля таго, як забілі шасцярых, адхлынуў натоўп. Ды і як можа просты чалавек змагацца з уладай?

Жывена адчула — Святазар нечага не дагаворвае. У словах ягоных было яшчэ нешта патаемнае, што тычылася яе, Жывены. І яна запыталася, злавіўшы яго погляд і стараючыся не ўпусціць яго:

— Дзе Відэвут?

Святазар усё ж адвёў позірк.

— Сам я ведаю, што няшчасці даюцца нам як выпрабаванні. Але табе, мая дзяўчынка, яны даюцца занадта часта…

— Ён памёр?!

— Не, ён жывы. Але пасля разбурэння храма Войшалк забраў яго ў войска. Там, падчас нападу татар на Новагародак, атрымаў

ён раненне. Страла ўпілася яму ў чрэслы, і аднялiся ў хлопца ногі і правая палова цела. Я спрабаваў яго вылечыць, але змог толькі прыпыніць разбурэнне цела. Цяжка гэта было. Душа ягоная як звяла пасля твайго знікнення. А калі плача душа, не можа чалавек ні сам лячыць, ні слухацца лекара.

— А дзе астатнія?

— Звяздар Вакула пайшоў у Храм Конскай Стаянкі. Ён хаця і не такі вялікі, як наш, але Войшалк да яго наўрад ці хутка дабярэцца. Істр стаў служыць пры двары каралевы Марты, гадае ёй па зорках і на вадзе, але патаемна. Усё ж яна мае пры двары рыцараў з Нямеччыны, яны не пацерпяць, каб каралеўская сям'я адкрыта спачувала нам, язычнікам. Істр спявае ёй балады, чытае кнігі. Цяпер жа, на шчасце, зноў на троне Міндоўг. Яшчэ перад тым, як вярнуўся ён з Рыма, прыйшлі ў Новагародак нямецкія рэйтары, і каралева прыняла іх прыязна, а Войшалк вярнуўся ў свой манастыр у Лаўрышаве.

— Яшчэ не прайшло і тыдня пасля вяртання Міндоўга, а ты ўсё ведаеш, Настаўнік. Як жа ты апынуўся тут адзін, без дапамогі?

— Багі далі мне знак, што тут чакае мяне радасць. І я пайшоў. Праўда, калі губляў прытомнасць, яшчэ паспеў падумаць, што, мабыць, зноў памыліўся я, зноў няправільна зразумеў іх знакі. Ажно не — прыехала ты, і, магчыма, дазволіць табе Міндоўг аднавіць наш храм.

Жывена спахмурнела. Коратка паведаміла яна Святазару аб размове ў Рыме.

— Міндоўг мне нічым і ніколі больш не дапаможа, — дадала ў канцы.

— Ніколі не кажы: «ніколі», — прашаптаў ён. — Жыццё людское настолькі зменлівае і непрадказальнае, што ўчарашні вораг можа стаць сябрам, і наадварот.

— Але куды падзецца нам, Настаўнік? — запыталася Жывена. — Фурман чакае мяне, і я прапаную ехаць абаім у Новагародак. — Якое-ніякое, але жытло там ёсць. Усё ж жонка дзедава не адмовілася ўзяць да сябе падчас маёй паездкі Святазара…

Яна запнулася.

— Так, я назвала свайго хлопчыка тваім імем, — пацвердзіла яна нявыказанае пытанне ў ягоных вачах. — І ты пабачыш: ён нават знешне падобны да цябе.

— Але там, дзе знайшлося месца аднаму Святазару, магчыма, не хопіць другому, — ціха прашаптаў стары жрэц.

Аднак ён з радасцю паклыпаў да фурманкі, і Жывена яшчэ раз пабачыла, што робіць з душою, а пасля і з нямоглым целам светлая вестка — Святазар трымаўся на нагах, толькі не мог сам ускараскацца на воз.

Яўлампія прыняла нечаканага госця не надта ахвотна, але ўсё ж неяк пагадзілася з яго прысутнасцю. Цяпер, калі Міндоўг зноўку сеў на новагародскі стол, нібы акрыялі язычніцкія храмы. Стары храм Перуна, што месціўся пад замкам, праводзіў набажэнствы амаль кожны дзень, і зноў пацяклі ў яго таемныя сховішчы многія багацці, бо новагародскія купцы і нават баяры, стараючыся задобрыць караля, пасылалі туды сваіх слуг з дарамі. Бывала, што пад ноч і самі хадзілі туды, на што святары ўсіх храмаў — каталіцкіх і праваслаўных, што звычайна сапернічалі паміж сабой, аб'ядноўваліся ў страсных казанях супраць упартага, невыкараняльнага язычніцтва.

Міндоўг звычайна слухаў іх паблажліва, бывала, што і ўшчуваў каго з баяр. Аднак не было ў яго той сапраўднай гарачай непрыязнасці да старых багоў, якая ажно кіпела ў Войшалку. Таму і іншаземныя паслы не надта дакаралі караля за тое, ды ўсё ж у сваіх данясеннях усяляк падкрэслівалі, што хаця папа двойчы дараваў гэтаму неўтаймоўнаму каралю ягонае адступніцтва, невядома, ці не паспрабуе ён зноў ашукваць Рым. Верыць гэтаму каралю нельга… Невядома, куды панясе Міндоўга яго незыходная любоў да язычніцкіх багоў і ўсё яшчэ цесная сувязь з родзічамі — паганскімі князямі, з якімі ён то варагаваў, то, запрашаючы іх у Новагародак, прымаў як іншаземных уладароў — з пашанай і вялікім гонарам.

У той жа вечар, адшукаўшы хату на самай ускраіне Новагародка, дзе жылі Відэвут і ягоная маці, стукалася Жывена ў старэнькія дзверы, абабітыя звярынай скурай.

…Лучына ў простым жалезным заціску… Драўлянае ложа ля сцяны, ля якога стаіць жанчына з пітвом. Сівыя валасы выбіваюцца з-пад лямцавай шапачкі, твар з цёмнымі кругамі вакол вачэй. І ён — Відэвут…

Высокі лоб стаў, здаецца, яшчэ большым, вузкія вочы робяцца агромністымі, калі ён пазнае дзяўчыну, бяскроўныя вусны не могуць вымавіць ніводнага слова, бо сцінае іх горкая, невыносная думка. І ён падае назад, на футра, і спрабуе адвярнуцца да сцяны, але цела не слухаецца яго — гэтае гнуткае, імклівае, паслухмянае цела не падуладнае яму, усё яшчэ такому маладому і, здавалася

б, поўнаму сіл! А маці глядзіць чамусьці варожа, і словы ейныя поўныя горычы, якою, мабыць, поўняцца грудзі сына:

— Каб не ты… Мой сын быў бы з іншаю. Але Войшалк адпомсціў Відэвуту за тое, што ён пасмеў у цябе закахацца.

— Адкуль ён даведаўся?

— Гэты княжыч ведае ўсё. Паганае семя!

…Вось яно, родавае пакаранне, калі адказваеш не за сябе… Дарагі, блізкі, як брат, Відэвут ляжыць скарчанелай ад пакут гурбай і не хоча, баіцца зірнуць на яе! Не, ён хацеў бы, але ратуе яе ад шкадавання, ад некалі амаль выхапленага ейнага абяцання, ён мяжою абводзіць сваё скалечанае жыццё, не пускаючы ў яго нікога, а найперш — яе.

Яна спатыкнулася на тым, што вырвалася супраць волі — «Брат…» Чаму нешта ў ёй не сказала — «любы»? Чаму — «брат?»

— Гэта не так, маці.

— Я не маці табе. Ты скруціла галаву майму сыну. З-за цябе бурыў храм Войшалк. Адзінае, што ты зрабіла добрага, — знайшла майго Брутэна там, у Нямеччыне. Але ўсё роўна твая чорная сіла знішчыла і яго. Ён памёр, памёр, а гэты — гэты скалечаны!

— Маці, замаўчы! — закрычаў Відэвут.

Але яна не слухала яго. Мармытала, як ахопленая шаленствам, нібы на яе ўссеўся Лядашчык:

— Брутэн памёр добра — знішчаючы тэўтонаў. Я памятаю — яны звалілі Патолса, Патрымпса і Пяркунса. Усіх багоў звалілі яны і, знёсшы ў кучу, падпалілі. І рагаталі, гледзячы на полымя. Мы, мабыць, мала маліліся сваім багам. Мы не абаранілі іх, а яны — нас.

Жанчына расчырванелася, упалыя шчокі яе палалі, вусны ліхаманкава прагаворвалі словы, як выплёўвалі іх.

Жывена разумела — яе трэба сцішыць. Разгайданая гневам душа можа сарвацца, як дзверы зрывае з петляў моцная навальніца.

Яна загаварыла, спрабуючы ўгаварыць старую, пераламаць той выбух, які наспяваў.

Але ейныя словы патаналі ў бураломным, нястрымным гневе.

— Лепей бы Відэвут таксама памёр!

— Хіба не радасць, што ён жывы?! Хіба жыццё — не найвялікшы дар?

Не, позна, позна! Якія звужаныя, нібы ў рысі, гатовай да скачка, гэтыя старэчыя вочы, такія ясныя і такія бязлітасныя!

— Ты думаеш, што гэты дар мне патрэбны? Мне, маці, якая пабачыла свайго згубленага сына, каб назаўтра страціць яго зноў?!

— Застаўся Відэвут.

— Для мяне ён ужо не апора. Хто падтрымае мяне?

— Я падтрымаю. Я змагу.

— Ты славянка. І хаця мы прыйшлі да вас па помач, мяне тут напаткала тое ж няшчасце, што і на радзіме. Дык дзе мне хавацца ад бедаў? І не хачу, не хачу я, каб ты, славянка, даўшы мне столькі гора, цяпер дапамагала мне.

— Свет дзеліцца не на немцаў, прусаў альбо славян, а на тых, хто служыць Святлу альбо Цемры. Не давай сваёй душы быць схопленай ў цянёты Зла…

— Я буду цяпер пытацца ў сваіх багоў і не слухаць цябе, якая прыносіць няшчасці…

Цемра павялічылася ў хаце, задушліва заклубілася вакол іх, гаркотай мазнуўшы па вуснах.

Відэвут маўчаў, хаваў вочы. Жывена з болем бачыла, што ясны і чысты іхні бляск затуманены няшчасцем. Дух яго пацьмянеў, як апаў. І нядольны ён быў цяпер на тое, каб узняцца.

Колькі разоў марыла яна аб гэтай сустрэчы, але ніколі не ўяўляла яе такой…

— Я прайшла столькі дарог, нібыта паўстала з дна марскога… Але ж ты ніколі не бачыла мора, маці. Можа, тады зразумела б, што чалавечае жыццё — гэта ўсяго толькі маленькая трэска, і ўсе мы памром…

Гайдалася ў беднай хаце хісткае святло, пераломваліся на сцяне цені. Як топячыся ў палонцы, хапала дзяўчына хрумсткія ільдзіны-краёчкі, а пальцы саслізгвалі, і яна зноў акуналася ў халоднае зеўра непаразумення. Было адчуванне, што яна ніколі не выберацца на паверхню. О, якія бездапаможныя словы! Нібы на каменне падаюць яны!

Толькі позна ўночы, як бы пераламаўшы супраціўленне Відэвута і ягонай маці, здолела Жывена адчуць сябе па-ранейшаму жаданай і дарагой. Але наадрэз адмовіўся Відэвут ад таго, што прапанавала Жывена. А прапанавала яна — сябе. Каб стаць жонкай Відэвуту. Тою, хто не пакіне яго ніколі.

— Ты не можаш, такая прыгожая, такая… — ён задыхнуўся хваляваннем, і вочы яго ўжо з непрыхаванай любасцю не адрываліся ад яе, — ты не павінна ахвяраваць сабою. Які ўжо я муж! Я нават і не мужчына… І душа мая невылечна хворая. Наш храм

зруйнаваны, маё жыццё скончана, я, можа, даўно забіў бы сябе, каб не яна, — ён паказаў вачыма на маці.

— А я? — з дакорам запыталася Жывена.

— Я страціў надзею ўбачыць цябе. Я чакаў год, і хаця сэрца маё спачатку і падказвала, што ты жывая, але потым я чамусьці страціў тое адчуванне, дазволіў адчаю авалодаць сабою, і багі перасталі адказваць мне і нават, як я разумею, зусім адвярнуліся і ад нас, ад нашага храма. І не дзіўна — Істр усё шукаў багацця, я быў ахутаны адчаем, Вакула стаў пасля твайго ад’езду піць болей чым звычайна. Што мог зрабіць адзін Святазар?

— Я ўсё роўна застануся тут побач з табою, — упарта цвердзіла сваё Жывена.

Але зноў крыкнула, не ўтрымаўшыся, старая жанчына:

— Ты ва ўсім вінаватая, ты!

— Няма вінаватых, маці, у тым, што робіць з намі лёс, — ціха адзначыў Відэвут, трымаючы руку Жывены. — Хацелася па-іншаму, але ўсё роўна маю радасць пабачыць яе… Мы зажывём па-новаму.

Але наладзіць новае жыццё Жывене аказалася не так проста. Хаця яна перавезла Відэвута і яго маці ў новы дом, дзе пра іх сталі клапаціцца двое слуг, спакою там не было. Найперш перашкаджала нянавісць, якую старая жанчына адчувала да маладой гаспадыні. І хаця старанна хавала яе, уверыўшыся, што сыну сапраўды робіцца лепей, былой жрыцы, уваходзячы ў дом, цяжка было нават уздымацца па прыступках сенцаў — яна амаль фізічна адчувала хвалі гневу і ўзбурэння, асабліва цяжкія яшчэ і таму, што ім не супраціўляўся Відэвут.

Усцешаны напачатку вяртаннем Жывены, ён, аднак, не мог зміріцца з прысутнасцю маленькага Святазара, з тым, як той, абшчаперыўшы шыю сваёй прыёмнай маці, клікаў яе «матуляй», лашчыўся, як бы тым заяўляючы свае правы на яе. Прыгнятала яго ўласнае бяссілле. Спаралізаванае цела не слухалася, ён часта не мог данесці да рота кавалак хлеба і, падаючы ў бяссіллі на падушку, даваў волю слязам. А часам Жывена адчувала, што яна, са сваім здаровым, гнуткім, лёгкім целам, выклікае ў ім нешта цёмна-глыбіннае, нядобрае, задыхлівае…

Стары ж Святазар, пабыўшы крыху ў гэтым доме, папрасіўся назад да Яўлампіі. Там было блізка да капішча Перуна, ад дома ж Відэвута трэба было ісці каля вярсты, а купіць каня ён не хацеў — зберагаў кожны шэлег дзеля аднаўлення храма. Супраціўляўся ён і тады, калі Жывена купляла дом для сябе і

Відэвута, але яна апраўдалася тым, што паабяцала прадаць яго, як толькі будзе адноўлены храм.

Яна прадала замкаваму ювеліру крыж, падараваны імператарам Балдуінам, і таму мела грошы, каб дапамагаць яшчэ і Святазару-старэйшаму. Ён прымаў дапамогу, але гэта чамусьці аддаліла іх адно ад аднаго. Ён усё часцей адказваў на яе пытанні з горкай, раней не ўласцівай яму інтанацыяй.

— Настаўнік, што мне рабіць з Відэвутам, якія словы знаходзіць для яго? — аднойчы ў бяссіллі паскардзілася яна старому жрацу. І той, падумаўшы, непрыязна адзначыў:

— Калі Дух падае з вышыні ў жраца, гэта яшчэ гарчэй, чым у простага чалавека. І зацьменне тое бывае звычайна большым, бунтоўным, нецярпімым.

Аднойчы, амяцежаная* клопатамі, дзяўчына спяшалася дадому пасля таго, як пабывала ў некалькіх баяр, у якіх прасіла грошы на аднаўленне свяцілішча Ашвінаў. Баяры глядзелі на яе з цікавасцю — па ўсім горадзе разнесліся чуткі аб тым, праз якія прыгоды вярнулася на радзіму гэтая прыўкрасная ўнучка імянітага баярына, той-сёй нават шаптаўся, што сам Міндоўг зацікавіўся быў маладой жанчынай… Аднак грошы давалі не ўсе — нялёгка гандлёваму чалавеку развітацца нават з шэлегам, ён лепей купіць на яго тавару ды пагоніць са стругам на Візантыю ці Нямеччыну альбо складзе ў гаршчэчак ды закапае ў патаемным месцы — на «чорны дзень». Былі і такія, што ўшчувалі дзяўчыну — чаму застаецца яна язычніцай, пабываўшы ў Рыме і Канстанцінопалі? А два з іх — тоўсты, як калода, Грынь і хударлявы яхідны Мікола — намякнулі, што, мабыць, і сама яна мае дастаткова залатых манет, бо, кажуць, нейкі імяніты чалавек Царграда надта прылягаў за ёю…

У той дзень яна ішла, зажураная, сцішаная, як пасля цяжкай працы, думаючы і пра зласлівыя ўсмешкі, і пра адчайныя вочы Відэвута, так што не бачыла нікога і нічога вакол. Таму каля самай павароткі на вуліцу, дзе стаяў дом, ледзь не сутыкнулася з магутным, на галаву вышэйшым за яе юнаком, які ішоў хуткім, нячутным крокам паляўнічага. Сінія вочы незнаёмца ўспыхнулі, калі ўбачыў ён Жывену. Хлопец нізка пакланіўся, яна ледзь адказала, паглыбленая ў свае думкі. Толькі потым, калі, падымаючы доўгую сукню, каб не матлялася тая па вільготных, абшарэлых дажджом прыступках, падумала, што твар яго нагадвае нешта даўно знаёмае.

* Затурбаваная.

З таго часу яна неаднойчы сустракала юнака. Аказалася, жыў ён па суседстве. Яму належаў стары, магутны, з агромністых бярвёнаў, з высокімі вокнамі дом. Такі больш пасаваў бы да цэнтра пасаду, але месціўся ён амаль на канцы Новагародка. Жывена даведалася, што пабудаваны быў дом у колішнім лесе, далей ад горада і цікаўных вачэй чорнай чадзі, недарэмна: бацька юнака быў прыхільнікам Перуна, ён трымаў у доме мноства язычніцкіх багоў і не хацеў мяняць іх на выявы новых хрысціянскіх святых. Але на грудзях ягонага сына матляўся вялікі сярэбраны крыж.

Часам па вуліцы бегала невялічкая, гадоў шасці, бялявая дзяўчынка ў беленькай сукні. Зграбная, лоўкая, нечым нагадвала яна саму Жывену, толькі колер вачэй быў у яе шэрага, як асенняе неба, глыбокага колеру. Гэта была сястра маладога хлопца, што так прыветна ўсміхаўся Жывене. Жрыца адкрыта любавалася дзяўчынкай, і тая, сарамліва ўсміхаючыся, віталася і прабягала міма. Але аднойчы згледзела маладая жанчына, што дзяўчынка таемна цікуе за ёй, выглядаючы з-за шула.

— Каб не быў ён хрысціянінам, узяў бы я дзяўчынку да нас, — аднойчы сказаў Святазар. — Добрая была б з яе багіня прыгажосці, Зараніца, Аўшра… Дзіўна, але ў нашым краі столькі прыгажунь, што здаецца мне — недарэмна абралі тут Ашвіны мясціны, куды можна прыляцець з далёкіх краёў, пацешыцца вечнай жаночай красою ды прывабнасцю…

Не дзіўна было Жывене слухаць тыя словы ад прыгорбленага старога, які ссох у шчэпку і ледзь хадзіў. Душа не старэе, толькі чалавечае цела падуладнае часу.

Тую зіму праседзеў стары жрэц у дальнім пакоі Яўлампіі не дарэмна. Шукаў ён пэўнага падыходу да Міндоўга, для чаго блізка сышоўся са жрацамі Перуновага храма, які месціўся ўнізе пад замкам, а таксама са жрацамі Мокашавага свяцілішча, што было за тры вярсты ад горада. Усе ў Новагародку ведалі, што ўпотай нярэдка падымаліся яны наверх, у замак, які з кожным днём шырыўся і рос, і варажылі каралю, стараючыся хаця на імгненне зазірнуць у будучае. Але прызнаўся неяк Святазару стары Гойша, што нядобрыя знакі падаюць усе гаданні — па дыме і вадзе, па печані ахвярнага дзіка і па змеях. Часта ў сваіх свяцілішчах чытаюць жрацы заклінанні, каб абышла бяда караля. Ведаюць — не будзе літасці ім ад хрысціяніна Войшалка. Самому ж Міндоўгу пра злавесныя прароцтвы нічога не кажуць, суцяшаючы яго і прыносячы розныя зёлкі, каб моцным паранейшаму пачуваў ён сябе. Тыя зёлкі сапраўды дапамагаюць як каралю, так і каралеве, якая апошнім часам стала моцна хварэць.

Аднак жа не дапамаглі — неяк даведаўся Святазар, а праз тыдзень і ўвесь горад, што пры смерці каралева Марта. І не могуць даць таму рады ні свае, ні чужаземныя лекары. Над хвораю чаравалі жрацы, а калі не дапамагло, паклікалі хрысціянскіх святароў. Але было ўжо запозна: праз дзесяць дзён адляцела ў Ірый* жонка Міндоўга, якую ў княстве хацця і не любілі, але паважалі і пабойваліся, бо часцяком саступаў ёй сам магутны кароль.

Яўлампія гаравала ці не болей за ўсіх — вялікую сілу забрала яна пры каралеве, сталася патрэбнаю, як робяцца незаўважнымі, але зручнымі старыя, добра стаптаныя пантофлі, якія не ціснуць нагу. Сваё гора баярыня выказвала па-свойму — на хаўтурах з'ела ледзь не палову дзіка, пасля доўга адыходзіла, кленучы лекараў і цярпліва пераносячы гаршкі, якія клалі на ейны тоўсты жывот.

Яна ж і расказала Жывене пра выпадак на памінках, які ўразіў усіх. Падняўшы мо пятую чару за нябожчыцу жонку, сціснуў Міндоўг руку ейнай сястры Яксы і, падняўшы ўгару, закрычаў, што пакідае тую пры двары, каб дапамагла яна пераносіць удаўцу тужлівыя хвіліны… Зашапталіся па ўсіх кутках замкавай залы, зашалясцела, панеслася тая вестка праз слуг у хаты горада, адтуль прасачылася ў іншыя гарады княства.

Усе чакалі, як перажыве тое Даўмонт, муж Яксы.

Але што мог зрабіць ён, удзельны князь Нальшчанаў, які атрымаў сваё княства з рук Міндоўга, калі той, дараваўшы Таўцівілу захоп Полацка, а Траняце і Даўмонту — дапамогу мяцежнаму пляменніку, падзяліў паміж імі Жамойць, Полацк і Нальшчаны? Ісці вайной на караля, які дзёрзка адрынуў усе чалавечыя і боскія законы і авалодаў чужой жонкай? Ягонае войска было заслабое, а каб сабраць супраць Міндоўга ўсіх ворагаў натурыстага і распешчанага ўладай князя, патрэбныя былі не толькі вялікія грошы, але і дыпламатыя, Даўмонт жа ўмеў толькі шчыраваць мячом ці баявой сякерай.

Затаіўся, захлынуўшыся вялікай, страшнай злосцю, Даўмонт, а пасля дайшлі чуткі да Навагародка, што, баючыся Міндоўга і таго, што той апярэдзіць яго ў забойстве, некуды знік муж Яксы, збег са свайго стольнага горада. Помніў ён, што зрабіў у свой час Міндоўг з Вішымунтам, былым мужам Марты.

Тады апошні раз бачылася Жывена з уладаром Навагародскай зямлі. Прыйшла да яго нязваная, ледзь не сілком прымусіўшы

* Рай.

Яўлампію дапрасіцца сустрэчы. Міндоўг сустрэў яе непрыветна. Адчужанасць была ў ягоным хмурным позірку. Моўчкі глядзеў, як схілілася яна ў нізкім паклоне.

— У мяне хутка ваенная рада, — папярэдзіў гучна. — Дык кажы хутчэй, што табе трэба, унучка Агапія?

Яна, бадай упершыню за ўвесь час, зірнула на яго ўмольна і прашаптала:

— Адпраў адсюль сястру каралевы, і як хутчэй.

Тады стукнуў па стале Міндоўг з такой сілай, што ажно ўгнулася пад ягоным кулаком дубовая дошка:

— Юр цябе разбяры, ты што, вялікаму князю хочаш загадваць?

Ды дзяўчына не спалохалася, смела ўзняла галаву:

— Калі загінеш ты, могуць загінуць і храмы язычніцкія. А значыць, і мая гэта справа. Жрацы Перуновыя не ўсё табе гавораць. Усе гаданні гавораць аб жахлівым, што чакае цябе і ўсю тваю сям'ю. Змяя, якую прынеслі да ахвярнага слупа, здранцвела і ляжыць, як драўляная. А на тваім медальёне — знаку вярхоўнай улады — адпаяўся меч у конніка, залатых спраў майстру ўжо зроблены заказ выправіць тое, але ледзь узяўся чалавек за справу, як цяжка захварэў і вярнуў медальён. Хочаш упэўніцца, загадай, каб прынеслі яго з тваёй казны.

Міндоўг як працяў яе позіркам. Крыкнуў на ўсю вежу:

— Гэй, варта!

Затупацелі боты, загрукаталі дзіды. Уварвалася варта.

Ён не спускаў з яе вачэй. Але яна глядзела на яго без страху. Тады загадаў ён прынесці свой вярхоўны знак. Калі ж убачыў, што на выяве конніка з узнятым мячом сапраўды адламаўся кавалак залатой напайкі, раптоўна палагоднеў. Сеў, задумаўся. Пасля сказаў упарта, але нешта жалобнае прагучала ў голасе:

— Калі не магу ўзяць жаданае, які я вялікі князь?

Памаўчаў, працяжна загаварыў, як узважваючы нешта:

— Даўно яна мяне запалоніла. Яшчэ з каранацыі. Ішоў тады міма яе, і ўся радасць ад той каранацыі прапала. Бо вось і каралём стаў — а не магу ўзяць гэтую жанчыну! Марта побач ішла, дык нібыта нешта адчула, як пракалола мяне позіркам. Яшчэ тады хацеў захапіць Яксу, але ж атруцілі б яе тут, чарадзействам бы звялі са свету.

— А цяпер таго не баішся, кароль?

— Цяпер не баюся, бо жыццё ўніз коціцца, і калі не цяпер, дык ніколі.

Насмешліва-змучана зірнуў на дачку:

— І не хачу нічыіх парад, нават тваіх, мудрая дзяўчына. Хай табе дадуць багі такія хвіліны, якія я маю з Яксай! Зразумела?

Жывена выйшла ад яго засмучаная. Паспела заўважыць, як адскочыў ад дзвярэй нехта — мабыць, нейчы віж. Што ж, некалі вось так віжавала пад дзвярыма Міндоўга цётка Апфія, што памерла так раптоўна і такою маладою.

І нібыта вярнуўся час. А можа, ледзь адчувальны водар чагосьці знаёмага нагадаў ёй дзяцінства. Здаецца, то быў пах палыновай вады, якой мылі падлогу ў замку па першым часе Міндоўгавага жыцця на новагародскім стале. Па-свойму пахлі і свежыя дубовыя дошкі, якія тут клалі, калі пабудавалі гэтую вежу. Цяпер дошкі пацямнелі, заільсніліся, а тады… Успомнілася, як па гэтым жа калідоры тупала ўслед за хутканогай Апфіяй, а тая залівалася смехам, бесперапынку сакочучы, поўная маладой, дзёрзкай сілы. Як даўно тое было!

Войшалк быў тады таксама малады, неўтаймаваны, шалёны. Кажуць, ён цяпер зусім іншы — гадзінамі моліцца, як просты інак, а пасля да паўночы перапісвае кнігі. Нібыта не сочыць за дзяржаўнымі справамі, цалкам заняты царкоўнымі… Але Жывена памятала ліхаманкавы бляск вачэй, калі гаварыў пра новагародскі стол, і не верыла таму спакою. Доўга, о як доўга чакаў Войшалк свае пары. Дачакаўся быў, але зноў перахітрыў яго бацька. Як рыцары на паядынку, сыходзіліся яны не раз і, як аглушыўшы адзін аднаго альбо і балюча ўдарыўшы, зноў разыходзіліся.

«Але, — думала Жывена, асцярожна ступаючы па вузкіх прыступках крутых замкавых лесвіц, дзе высока ўверсе трапяталі па сценах убітыя ў жалезныя зажымы смалякі, ужо з цяжкасцю знаходзячы дарогу да заходняй вежы з гэтага велічэзнага замка, — ідзе час, і, можа, прыйдзе Войшалкавы».

Яна раздумвала над тым, як непрыкметна перацяклі адзін у адзін месяцы, гады. Падрос старэйшы, Рукля, і таксама прымерваўся да вялікага новагародскага стала. Са з'яўленнем Яксы зноў зашалясцелі па баярскіх ды пасольскіх дварах спрэчкі — а што, калі зацяжарыць ад Міндоўга сястра Марты? І ці дасць папа дазвол на шлюб з жанчынай, якая аказалася такой жаданай для караля? А без шлюбу ўсе, каго яна народзіць, будуць лічыцца крапіўнікамі, байстрыкамі. Аднак старыя людзі казалі, што і незаконныя дзеці не раз усчыналі смуту ў княствах, таму не чакалі нічога добрага ад захаплення вялікага князя, як па-ранейшаму называлі яго праваслаўныя…

Амяцежаныя тымі думкамі былі новагародцы. Аб усім гэтым ішлі адсюль, з княжага, альбо, як казалі каталікі, каралеўскага двара ўсе звесткі да насцярожана-чуйнага княжыча-манаха, але тых, хто перадаваў іх, не маглі злавіць каралеўскія віжы, хаця моцна стараўся палацін — галоўная асоба ў палацы і намеснік князя ў судзе. Ён нават загадаў сцяць горлам* аднаго са слуг, праўда, абвінаваціў яго ў тым, што нібыта ўкраў той у Яксы сярэбраную бяліленку — сасуд для бяліл.

З тым доўгім роздумам ішла дзяўчына па калідорах, па галерэі, дзе стаялі вої ў жалезных даспехах і кальчугах, якія праводзілі яе насцярожанымі позіркамі, а каля брамы аддала скураны шмат з выявай конніка, па якім варта вызначала, колькі людзей увайшло ў замак і колькі выйшла з яго. Успомнілася зноў дзяцінства — тады яна была тут не чужой, тады, падбягаючы разам з юнай сваёй цёткай да драўлянай брамы, сустракала ласкавыя позіркі маладых вояў, якія жартавалі з Апфіяй. Ды і брама была тады драўлянаю, а вежы толькі пачыналі будавацца, і вялікі князь жыў у крыле, якое дабудоўвалася проста на вачах. Так, замак за гэтыя гады стаў ужо суровым, непрыветным, непадступным, але гараджане ганарыліся ім, і месца на пасадзе ля замка стала каштаваць невымерна дорага, бо кожны імяніты баярын прагнуў быць бліжэй да ўлады, да велічы і славы.

Яна доўга стаяла, ледзь адышоўшы ад брамы, і глядзела на замкавыя цвержы**. Няўдалая размова з Міндоўгам толькі абвастрыла цяжар на душы.

Будучае існуе, яно зазірае нам у вочы, а мы бяссільна адводзім позіркі, каб не бачыць яго — мы, малыя дзеці ў вялізным свеце, якія спалохана туляцца да сценкі свайго гняздзечка…

Асенні вецер закружыў над ёю, сыпануў счарнелае лісце пад ногі, дажджавымі кроплямі, як венікам, ударыў па твары. Замак, такі любімы з дзяцінства, зараз зачыняўся для яе, і на весну яна назаўжды — так, ужо назаўжды — з'едзе з Новагародка — горада, выпакутаванага ў марах там, на далёкіх дарогах.

Доўга, як везучы па замеценых дарогах цяжкія сані, не праходзіла ў тым годзе зіма.

Новагародак віраваў чуткамі — Даўмонт збег у Пскоў, не вытрымаўшы ганьбы і баючыся Міндоўга. Таўцівіл і Транята пасылалі паслоў — не тое каб ушчуваць новагародскага князя,

* Забіць.

** Вартавыя вежы.

але папярэдзіць аб небяспецы. Не лічылася ў язычнікаў ганьбай выкрасці чужую жонку — наадварот, захапляліся б жамойцкі і літоўскі князь смеласцю магутнага караля, калі б не ягонае вяртанне да хрысціянства. Хрышчоны ж Полацк ставіўся да паездкі ў Рым таксама непрыязна, да таго ж захопніцтва чужой жонкі выглядала там іначай, чымся на новаахрышчаных землях. Адным словам, усюды былі непярэліўкі. Але Міндоўг рабіў выгляд, што не зразумеў папярэджання, і паступова ўсе замоўклі. Спадзяваўся гаспадар Новагародскай зямлі, што, як бывала не раз, вынесе яго лёс і што ўлада прымусіць сагнуцца нязгодных. Ды і людзі, як яно павялося здаўна, сёння забываюцца на тое, што хвалявала іх учора…

Істр, які быў спеваком пры двары, не страціў гэтай пасады і пры Яксе. Наадварот — яна гарнулася да яго болей, чым да хрышчаных баяр, якія часам не маглі схаваць ад яе сваёй варожасці. Сама ахрышчаная ў сталым узросце, гэтая былая нальшчанская княгіня зрабіла адступніка-жраца сваім пастаянным прадказальнікам, і хаця Істр, ратуючыся ад магчымага гневу, не казаў ёй злавесных прыкмет, яна як здагадвалася пра іх і часам трывожна пыталася, чаму згасла свечка пры ахвярапрынашэннях ці чаму хмурны ў яго твар, калі глядзіць на пячонку ахвярнага ягняці.

Нягледзячы на тое, што Істр наадрэз адмовіўся вяртацца ў язычніцкі храм, ён паабяцаў Жывене і Святазару дабіцца дазволу на ягонае аднаўленне.

— Я пакаштаваў салодкага жыцця і ўлады, калі простая чадзь схіляецца перад табою і цалуе край адзення, — сказаў ён Жывене, не тоячы задавальнення ад залататканага карзна і шаўковай кашулі, у якія быў апрануты. — Мне тут надзвычай добра. Я не хачу пасціцца тыднямі, каб пасля пачуць нешта няпэўнае і часта незразумелае. А будучае мяне не цікавіць — абы пражыць дзень, напоўнены жаночымі ўцехамі і ласкай уладаркі!

— Самая вялікая ўлада — улада духу, — ціха нагадала яму Жывена.

Але Істр не пагадзіўся:

— Ты чыстая і прыгожая, але схіляешся перада мною, спеваком пры каралеве. Ты моцна нечым прагневала Міндоўга, ён не хоча бачыць цябе тут, таму я паспрабую праз каралеву ўгаварыць яго. Храм ваш будзе адноўлены, але ж ты сама бачыш — хрысціянства пашыраецца.

Відэвут ссыхаў, яго ўсяго як сцягвала на адзін бок, і ўсё цяжэй было Жывене вытрымліваць ягоны то ўмольны, то зму-

чана-раўнадушны погляд. Неадольная сіла цягнула яго з гэтага светлага, прывабнага, але абыякавага да чалавека і яго жаданняў свету. Аднойчы, гледзячы, як гуляе, седзячы ля ягонага ложка, маленькі Святазар, сказаў жорстка:

— У яго ж ёсць родныя ў Чэхіі. Ці маеш ты права забраць дзіця ад іх?

Жывена і сама неаднойчы думала пра тое. У гэтага дзіцяці ёсць дзед, які павінен даведацца праўду аб тым, што здарылася з яго сынам і нявесткай. У яго ёсць радзіма — свая, адзіная на зямлі. Так, лёс яго пераламаўся, аднак, хаця хлопчык і не здагадваецца аб тым, яна, Жывена, тое в е д а е… Думка пра тое, каб развітацца са Святазарам, была нясцерпнаю, хлапчаня даўно стала часцінкай яе самой. Але ж ён ёй не належыць, яна проста стала выратавальніцаю, якую ў страшную часіну паслаў яму лёс.

— Чэхі гандлююць у нас, ты можаш паслаць праз іх вестку ў Прагу, — нібы чытаючы яе думкі, дадаў Відэвут.

Сапраўды, праз гандляроў можна было перадаць у Пражскі купецкі саюз звесткі пра Гайну і Душана. Трагічныя тыя весткі, але часам патрэбная пэўнасць, каб не сачыліся крывёю, усё спадзеючыся на лепшае, бацькоўскае ці мацярынскае сэрцы, а маліліся за памерлых і тым дапамагалі беспрытульным душам непахаваных знайсці дарогу ў Ірый.

І ўсё ж яна марудзіла, нібы чакала нейкага знаку.

І ён прыйшоў.

Аднойчы, ідучы паўз кірмашовы рад, пачула Жывена чэшскую гаворку. Пад плеценай паветкаю стаялі дзівосныя кубкі са шкла, сонца зіхотка грала на іхніх гранях. Два купцы, чакаючы пакупніка, гулялі ў бірычча, бразгалі біркі — гульнёвыя костачкі.

— Вы адкуль? — запыталася яна, любуючыся залатымі пялёсткамі на дзяржальне крышталёвага кубка.

— З Прагі.

— З Прагі? — устрапянулася дзяўчына. Яна загаварыла з імі і назвала імёны Гайны і ейнага бацькі Вондржыха, а таксама Душана, але купцы не чулі такіх імёнаў.

— Шмат у нас гандлёвага люду, усіх не ўспомніш, — задумліва пстрыкнуў біркай па кубку, аблюбаваным Жывенай, малады памагаты.

Танюткі звон, як быццам жаўрук спрабаваў сваё горла перад тым, як заліцца на ўсю паднябесную, быў шчымлівага, чыстага тону. А ёй чамусьці ўспомніўся іншы гук — свіст стралы, якая ляцела ў маладога хлопца (помніцца, яго звалі Заяц), які спрабаваў вызваліць яе і сябе ад насільнікаў.

«Дзіўна, што мне ўспомнілася тое імгненне. Чаму ў вачах паўстала страла? Страла — гэта ж сімвал дарогі», — падумалася ёй. І ў той жа момант Жывена ўбачыла, як павольна закружылася над ёю белае з чорнымі пералівамі пёрка — мабыць, яго скінула, пралятаючы над новагародскай плошчай, нейкая птушка. Лёгкая паветраная плынь прынесла яго сюды, пад паветку, мякка паклала ля ног жрыцы.

І пяро таксама — да шляху!

Купцы, мабыць, так і не зразумелі, чаму пакупніца застыла, гледзячы ўніз. Чакала яна знаку дарогі для сына, але марыла, каб не з'яўляўся той знак ніколі…

Некалькі імгненняў яна вагалася. Што ж, трэба слухацца багоў.

— Ці не возьмецеся аддаць у купецкі саюз мой ліст? Я добра заплачу вам, — папрасіла яна чэхаў, паабяцаўшы, што знойдзе ім тут добрых пакупнікоў, магчыма, нават з каралеўскага замка. Пачуўшы пра тое, абодва купцы неяк сумеліся, у іхніх галасах загучалі пачцівыя ноткі. Жывена назвала дом Яўлампіі, і яны паабяцалі, што абавязкова зойдуць па ліст і перададуць яго ў Празе тым, каму належыць, каб там адшукалі сляды купца. І сапраўды прыходзілі некалькі разоў і ў рэшце рэшт выгадна збылі свой далікатны тавар, а ў пакоях Яксы і прыдворных баярынь пасталі на сталах зіхоткія чэшскія кубкі і шкляніцы.

Адправіўшы ліст, Жывена адчула, нібы перайшла нейкую мяжу, нешта як адарвала ад сябе — але і набыла.

У Новагародку ўсё гучней пачалі гаварыць пра новы паход на Лівонію. Нібыта полацкі князь Таўцівіл задумаў вярнуць былую крэпасць палачан — Герцыке. Яго падтрымаў брат Транята. Міндоўг жа муляўся — з аднаго боку, заседзеўся ён у замку, войска новагародскае прагла вольнага ветру паходаў, радасці здабычы і гарачага мяча. Але ж дамовы з каталіцкімі ўладарамі, крыжакамі, гнеў папы моцна астуджвалі жаданне быць заадно са сваякамі ў паходзе. Ваенны напад — гэта дні ў сядле, гразкія дарогі, на якіх лёгка заблудзіцца; там бывае ўсё: нечаканы ўдар у спіну, багністае балота, адкуль ніхто не выберацца… Гэта не тое што мірныя дні, калі ўладары адседжваюцца ў сваіх замках альбо абнесеных моцнай агароджай дзяцінцах, адкуль іх не выманіць… Дробных княстваў зашмат тут, і, хаця значна пашырыліся ўладанні Новагародка і стаў ён магутнейшым за іншыя княствы, усё ж ёсць яшчэ магчымасці для збірання земляў пад ягоную, Міндоўгаву, руку… Нальшчаны, Жамойць, Дзяволтва,

дый Полацк — усе яны хаця і падпарадкоўваюцца ўжо ў многім Навагародку, але пакуль, як ваўкі ля гуртоўні, пільна сочаць адзін за адным. Гора слабейшаму!

І кароль то загараўся, перастаўляючы, як у варцобах, фігуркі туды-сюды, то астываў і днямі гойсаў па ваколіцах, палюючы на зуброў і кабаноў.

Непралазныя, магутныя лясы амаль ушчыльную падступалі да Новагародка. Забраўшыся на цвержу, любіў уладар княства доўга аглядаць агромністую прастору, што гублялася ў лілова-лазуровай смузе, зліваючыся з небам.

Гэтая вежа — таўшчынёй у тры метры, складзеная з бутавага каменю і бітай цэглы, замацаванай рошчынай, ужо атрымала ў народзе назву Шчытоўкі. Яна і сапраўды выглядала на шчыт, які захіляў грудзі Новагародка — звужаная зверху, нібыта сягала ў вышыню, лунала над наваколлем. Нізкімі і малымі перад ёю, ужо і цяпер маўкліва-непрыступнай, злавеснай, выглядалі масіўныя дубовыя сцены вакол замчышча. Але драўляныя збудаванні — гэта пакуль. Пасля, можа ўжо і ягонымі сынамі, дабудуецца тое, што задумаў ён, Міндоўг — яшчэ тры вежы: адна ва ўсходнім кутку, другая, з брамай, насупраць Шчытоўкі, а трэцяя — насупраць рамеснага пасада. Мудрэц-муралей гаворыць, што трэба было б пабудаваць яшчэ адну вежу — там, на ўсходнім схіле, дзе струменяцца крыніцы, каб пры асадзе не змаглі ворагі пазбавіць замак вады. Магчыма, так і станецца. А сцены абавязкова стануць мураванымі, хаця б дзеля гэтага і прыйшлося звесці сюды, у стольны горад, усё каменне з княства. Але хапае таго камення, магутныя валуны, як застыглыя волаты, часта сустракаюцца нават пры дарогах. Паданні кажуць пра вялетаў-волатаў, што жылі тут нашмат раней за сённяшніх жыхароў княства і ўмелі многае, што дасюль неспасцігальна для слабога чалавечага розуму. Думаў вялікі князь пра тых, што будуць тут хадзіць і смяяцца праз многія вякі пасля яго. Ці ўспомняць хаця словам? Можа, забудуць яго, але ж тое, што будуецца зараз, застанецца для нашчадкаў, і не можа быць, каб прапала ўсё, што з такімі неймавернымі высілкамі творыцца сёння…

Гудзеў у байніцах вецер, пругка тоўхаючыся ў грудзі, калі Міндоўг выглядаў з вузкага акна і ўзіраўся ў мураваныя дамы пасада, саламяныя стрэхі селішчаў вакол стольнага горада. Кожная хата — дым, і кожны дым прыносіць штогод у княжую казну сярэбраныя грыўны, куны і мысі — вавёрак па-літоўску. А на іх можна заказваць зброю, поўніць княжую — ён паправіў сам сябе ў думках на «каралеўскую» — казну. У Новагародка

ўжо шмат багаццяў. Болей, чым было, калі ён упершыню прыйшоў сюды са сваімі выгнаннікамі-баярамі, нават не прыйшоў, а прыбег, каб уратавацца ад родзічаў-ваўкоў. Што ж — ён аказаўся найлюцейшым, многія гады то варагаваў з імі, то затойваўся, то рабіўся саюзнікам. І здавалася, не будзе яму зносу — так лёгка неслі па далёкіх і блізкіх дарогах ногі, так моцна трымалі меч, дзіду ці кінжал рукі. А вось жанчыны… Заўсёды любіў іх, але не надта пускаў у сваё мужчынскае жыццё. Кахаў, але пасля, адарыўшы, забываўся на многіх і многіх. Як забыўся на маці сваёй дачкі… Затое цяпер, пад старасць, як прыліп да маладой яшчэ, салодкай, як позняя сакавітая груша, Яксы. І сам не чакаў ад сябе такой пажадлівасці, таму, стоячы ў ранішнія гадзіны ля байніц, пытаўся сам у сябе, ці не старэе ён сапраўды, ці не час аддаваць княства сынам. І рашуча адказваў сам сабе: «Не!»

Часта, на адзіноце, як узнесены на галавакружную вышыню над наваколлем, уяўляў Міндоўг і сваю непрызнаную дачку. Параўноўваў з ёю сыноў. Бадай што толькі Войшалка можна параўнаць з ёю па ўпартасці і сіле духу. Двое ж малодшых, дзеці Марты, былі абодва нейкімі вялымі, распешчанымі. Абодва любілі раскошу і ўжо касавурыліся адзін на аднаго, прадчуваючы непазбежнае саперніцтва. Малодшы, Рэпенья, быў дужа зацятым, не саступаў брату ні ў чым, і калі той настойваў на сваім, бег скардзіцца да бацькі, як спачатку бегаў да маці. Міндоўг шкадаваў, што не змог пераламаць дачку, прымусіць яе згадзіцца на шлюб, які б спатрэбіўся яму ў вечнай, нястомнай барацьбе за ўладу. Яна магла б быць яму памочніцай, ды па сваёй ахвоце выбрала іншае. І гэта трывожыла караля. Не мог ён паверыць, што можна адрынуць уладу, таму і не давяраў да канца Жывене. Недзе заставалася макавінка перасцярогі.

Улада! Якое ж гэта бурліва-радаснае, гарачае пачуццё, калі нізка схіляюцца перад табою сотні і тысячы людзей і ў вачах іх рабская пакора і захапленне кожным словам уладара. Гнаны і слабы, ты нікому не патрэбны, твае слова тоне ў варожым маўчанні навакольных, але варта толькі ўзысці на прыступкі трона, як цябе нібы ахутвае залатое воблака, усё цудоўна мяняецца. Людзей, якія апантана служаць любой уладзе, абы толькі быць пры ёй, больш чым трэба, яны штурхаюць адзін аднаго і лісліва лезуць і лезуць пад твой позірк…

Міндоўг добра ведаў ім цану, бо ўслед за ўладай найбольш любіў раз’ятраны шал бітвы, новыя дарогі і барацьбу, любіў рызыкаваць і выйграваць, а яны, гэтыя слізні, паўзлі толькі да трона, толькі да яго… Але з гадамі бясстрашны воін у ім

прытаміўся, затое падняў галаву стомлены і спешчаны ўладаю стары, і князь супраціўляўся таму, што было для яго новым. Можа, прыгожая жанчына, новая княгіня, і не давала старасці ўзяць над ім верх, і так хацелася ўсё яшчэ, нягледзячы ні на што, адчуваць сябе ранейшым Міндоўгам, юрлівым і моцным.

Ён акружыў былую сваячку, а цяпер каханку і новую гаспадыню, асаблівай увагай. І тымі жанчынамі, якія гатовыя былі служыць новай уладарцы з той жа бязмежнай адданасцю, што і ранейшай.

Яўлампія цяпер амаль не выходзіла з пакояў Яксы і надта прыдалася ў першыя цяжкія дні, калі тая адчувала сябе палонніцай і рвалася назад. Дзе што ўзялося — днямі, захлынаючыся ад жадання дагадзіць, расказвала старая модніца пра гісторыю Навагародка і радаслоўныя былых князёў. Гэта супакойвала княгіню — хапала ў тых аповедах і вераломства, і падману, і хцівасці, і грэх яе — што не забіла сябе пры няславе, аддалася сваяку на сорам усяму свету — рабіўся не такім страшным. Яўлампія, між іншым, шмат расказвала пра сябе і сям’ю. Міндоўг, які бавіў амаль усе вечары пры новай кабеце, быццам бы няўважліва слухаў сакатанне жанчыны ў хвіліны, калі тая заплятала косы ягонай абранніцы альбо прыносіла той цёплае карзно на плечы (у замкавых пакоях дзьмула, хаця зімою дзень і ноч гарэла паленне ў вялізных камінах). На самай жа справе кароль чуйна адзначаў усё, што Яўлампія гаварыла пра Жывену. Так ён пачуў пра тое, што дзяўчына ўзялася даглядаць спаралізаванага Відэвута, і зноў падзівіўся неразважліваму велікадушшу дачкі — гэта пры тым розуме, які далі ёй багі!

Багоў Міндоўг баяўся і адначасна адчуваў сябе іхнім родзічам. Нездарма ж было ў іхнім родзе прароцтва пра ўлюбёнца лёсу, якому дадзена будзе ўзляцець высока і на вякі. Новы хрысціянскі бог, да якога князь далучаўся двойчы — праз усходняе і заходняе хрысціянства — быў у многім яму незразумелым. Ніколі, ніколі не даў бы пакорліва сябе ўкрыжаваць сам Міндоўг! Але так патрэбна было для княжавання, для ўлады — і ён хрысціўся і захапляўся веліччу, якую даў заходнім краінам магутны бог хрысціян. Што ж, калі ён больш моцны, чым старыя, мілыя яму язычніцкія багі? Ён суцяшаў сябе тым, што данінай ім засталася ягоная кроў, ягоная дачка. А пра яе таксама шмат гаварыла гэтая сакатуха, гэтая няродная, някроўная сваячка Жывены.

— Яна стала іншаю пасля Візантыі і, хаця магла б ужо з’ехаць на сваё паганскае свяцілішча, усё яшчэ сядзіць тут, у горадзе, — расказвала Яўлампія.

У ейным голасе лавіў Міндоўг непрыязныя ноткі — старой ліслівіцы яўна хацелася, каб унучка ейнага мужа была як найдалей ад яе дома і самога стольнага горада. Кароль чакаў, калі баярыня асмеліцца на просьбу, якая так і пякла ёй язык. Чакаў і пасмейваўся сам сабе, бо даўно меў рашэнне. Прасілі аб тым жрацы Перуновыя, прасіў стары Святазар, які аднойчы ўжо прыходзіў да яго…

І калі Яўлампія аднойчы загаварыла-заспявала, што, можа, у адноўленым храме паправіцца абраннік Жывены, але для гэтага патрэбны дазвол караля на аднаўленне храма Ашвінаў, Міндоўг зрабіў выгляд, што ўзважвае «за» і «супраць».

У пакоі, дзе яшчэ сырыя ад рошчыны сцены былі завешаныя тканымі посцілкамі і прывезенымі з іншых краін тканымі карцінамі, запанавала цішыня. Трашчалі смалякі ў сценах, у печы палалі дубовыя круглякі, кідаючы чырвоныя каснікі на твары прысутных тут людзей. Міндоўг глядзеў на сваю прыдворную.

Цяжка дыхаючы, уздрыгваючы пульхнымі грудзямі, якія выпіралі з-пад гарсэта вялымі паўшар'ямі, яна пакорліва чакала. Якса млява карміла старога кудлатага ганчака, глядзела на абаіх. Цёмныя вочы яе былі абыякавымі, яна нібыта глядзела скрозь, у нейкую далячынь. Здалёку данесліся крыкі — гэта княжычы, гуляючы ў двары ў рыцараў, бразнулі аб брук дзідамі.

— Няхай аднаўляюць храм, — выгаварыў нарэшце кароль. — Толькі дзеля цябе дару язычнікам такое права…

Са стоенай насмешкай пазіраў, як забегалі вочы ў Яўлампіі, як стала яна ліхаманкава прыкідваць, што дасць ёй нечаканая міласць караля. Калі стане вядома, што па ейнай просьбе дазволіў кароль аднаўляць капішча, ці не затузаюць-задзяўбуць яе святары, якім яна шчодра ахвяруе на царкву? З іншага боку, павага да яе павялічыцца, і можа, нарэшце насмеліцца прапанаваць ёй шлюб малады бязродны намеснік палаціна Даніла? Дасюль, здаецца, пазіраў Даніла на дачку ейнага даўняга ўлюбёнца Карыята, але ў таго шмат дачок, і пасаг за імі невялікі. Даніла пакуль вагаецца: розніца ў гадах вялікая, але міласць караля можа пераважыць сумненні…

А яшчэ — навекі зачыніць яна свой дом для гэтай папрашайкі, бо тады за ўсё дабро, якое засталося пасля мужа, будзе адказваць новы чалавек. Яму прасцей адмовіць чужой. Для яе ж, Яўлампіі, Жывена не зусім чужая, расла на вачах, да таго ж урадзілася прыгажуняй і кожны раз, прыходзячы ў дом, выклікае зайздрасць…

І, сцяміўшы тое, Яўлампія схілілася перад Міндоўгам у нізкім, шчырым паклоне. Вечарам, пераказаўшы радасную вестку старому Святазару, з задавальненнем назірала яна, як дзякаваў ёй гэты ссохлы, амаль бязважкі жрэц, якога яна чамусьці вельмі баялася. Ён, магчыма, адчуў і ейнае таемнае жаданне пазбавіцца ад яго самога, але не паказаў таго гаспадыні, і яна назаўтра расказвала ўсім у замку, якую міласць аказаў ёй Міндоўг… Ад той весткі ўсцешыўся і Істр, бо і яму моцна карцела хутчэй выбавіцца ад Святазара, сама прысутнасць якога нібы дакарала былога жраца.

Адразу пасля таго, як быў дадзены дазвол на аднаўленне свяцілішча, Жывена, Святазар і Відэвут, які ўсю дарогу праляжаў у фурманцы, адправіліся ў дарогу.

Панылая, пустэльная даліна з адзінокім узгоркам, на якім грувасціліся гіганцкія камяні, разлеглася перад імі. Нехта — ці не людзі, што жылі навокал? — ссек свяшчэнныя дубы далёка ад самога свяцілішча, а месца ля храма ператварыў у пашу. Былая Менцязь яшчэ болей зарасла чаротам і трыснягом, ссохлыя, падобныя да заржавелых шабляў расліны шапацелі суха і непрыветна, і ўжо скамянелымі адбіткамі глыбіліся на патрэсканай, чорнай, камкаватай зямлі заечыя і воўчыя сляды.

— Настаўнік, я, мабыць, ніколі не прывыкну да таго, як хутка сцірае зямля чалавечы след на ёй, як радасна забываецца на нас, — загаварыла Жывена. — Колькі сіл спатрэбіцца, каб аднавіць усё, як было!

Святазар маўчаў, гледзячы на зжаўцелую за зіму траву, на непрыветную, яшчэ не абсохлую дарогу, на шэрае неба, якое, здавалася, ляжала на ўзгорку і закрывала далягляд.

— Трэба пайсці да людзей, — сказаў ён нарэшце.

Селішча хавалася ў лесе, вярсты за тры ад былога свяцілішча. Ля хат, таксама шэра-непрыветных у гэты сакавіцкі дзень, завіхаліся людзі — ладзілі драўляныя плугі, грузілі на калёсы гной, секлі дровы. У Жывены адлягло ад сэрца, як убачыла вільчакі хат — усюды былі яны з конскімі галовамі, несмяротным знакам Ашвінаў.

Іх пазналі не адразу. А калі пазналі, акружылі пругкім усхваляваным колам, загаманілі адначасна пакрыўджана і з моцнай надзеяй, што ўсё адновіцца: сваты і ахвярапрынашэнні, лячэнне і спадзяванне на дапамогу.

З размоў выявілася, што хрысціянскага святара, прысланага з Новагародка, яны прагналі, і болей да іх ніхто не прыходзіў.

Жыццё ж без дапамогі багоў робіцца ўсё болей невыносным, таму што няма каму паскардзіцца на шалёныя падаткі-аблогі, на хваробы і няўдачы.

Падчас тых размоў прабіўся да жрацоў суровы чорнабароды мацак у расхрыстанай кашулі пад дзіравым суконным плашчом. І на грудзях яго блішчэў чырвона-жоўтай меддзю крыж. Вакол яго паступова нарастала, як набрыньвала, злавесная цішыня. Раптам, пасярэдзіне размовы, яна ўзарвалася. Хтосьці выкрыкнуў з нянавісцю:

— Бі хрысціяніна!

І галасы падхапілі:

— Знішчым здрадніка!

— Багі гневаюцца на нас з-за яго!

Невядома адкуль у руках злавесна бліснулі сякеры. Відэвут, седзячы непадалёку, таксама заторгаўся, твар яго скрывіўся пакутай і непрыязнасцю. Ён прагаварыў нягучна, але выразна:

— Ён чужы нам. Хай памірае.

Але тут голасна крыкнула Жывена:

— Прэч! Назад!

Голас яе ўпаў у вірлівую нянавісць, як струмень вады ў распаленыя свінцом ячэйкі, прыгатаваныя ювелірам для плаўкі. Ажно нібы зашыпела ў паветры і нават падалося, што над натоўпам падняліся клубы дыму.

— Ён мае права на свой уласны выбар, — ужо нягучна сказала яна. Абвяла ўсіх позіркам. — Няхай рашае сам, якім багам пакланяцца.

На яе глядзелі здзіўлена. Здавён з усіх грахоў самым страшным, недаравальным было вось гэтае — здрада сваім багам. Адступніку не было літасці. І калі ў селішчах і гарадскіх пасадах звычайным быў пераход у хрысціянства, то тут, на беразе Менцэзі, гэта было ўпершыню. Але чалавек не застрашыўся, ён, здавалася, нават прагнуў пакутніцкай смерці. Заступніцтва Жывены яго не ўзрадавала. Ён зірнуў на яе пагардліва і плюнуў пад ногі, кінуўшы выразнае і цяжкае, як камень з-за пазухі:

— І ты будзеш гарэць у агні вечным, ідалапаклонніца!

Абураны натоўп зноў зароў. Святазар вагаўся. Жывена адна стаяла перад раз’ятранымі людзьмі, і здавалася, што вось-вось абрынуцца яны і на яе. Сутарга прайшла па старэчым твары. Падняўшы руку, ён зашапацеў ледзь чутна, але людзі тут жа змоўклі — не адно тутэйшае пакаленне вырасла пры ім, так што самыя старыя дзяды памяталі яго маладым.

— Іншыя цяпер часы, і не след нам гнявіць Навагародак. Мы і так ледзь упрасілі караля дазволіць нам аднаўляць храм. І па дапамогу прыйшлі да вас, паклоннікі Ашвінаў, — ці зможам мы зрабіць гэта разам з вамі? Трэба ўзяцца за працу неадкладна.

Маўчанне запанавала вакол. Выразна бачыла дзяўчына ў вачах навакольных нямое пытанне, якое нясмела выказала старая, закарэлая ад цяжкай працы кабета:

— Хутка сеяць…

— Калі не пачнём зараз, заўтра можам спазніцца! — затаргаўся Відэвут.

— Храм не адновіцца! — паспешліва загаварылі жрацы разам. Але натоўп маўчаў.

Нарэшце, разважліва, як раздумваючы, прамовіў грабар Алекса:

— Кажуць, пачнецца новы паход. А тады нават і за грошы злыдуха толькі і дастанеш. Не ўжо — тое, што паклаў у клець, тое і пракорміць. Прыйдзецца чакаць да восені…

— Восенню могуць быць іншыя варункі — Міндоўг пойдзе ў паход, на стол сядзе Войшалк. Трэба зараз жа, сёння пачынаць! — настойліва звярнуўся да ўсіх Святазар. Але людзі хілілі галовы, і толькі тры маладыя, моцныя мужчыны згадзіліся ісці заўтра ў лес — валіць дрэвы.

Жрацы вярталіся ў Навагародак прыгнечанымі, у Відэвута разбалелася спіна, ён глуха стагнаў нават пасля таго, як Святазар даў яму колькі драбінак заспакаяльнага опію. Дарога назад здалася асабліва траскай, а наваколле — непрыветным і нават варожым.

— А мы ж яшчэ нават хітраца* не падабралі, які б хаця малюнак храма зрабіў і разлікі ўчыніў!— усклікнуў Святазар.

Яны пераглянуліся. Сапраўды, толькі цяпер нібы адплюшчыліся вочы: хаця кожны мог намаляваць храм, але ж давядзецца яшчэ вылічваць прапорцыі, кіраваць работамі, наладжваць падвоз лесу і цэглы. А дзе ўзяць дубовае бярвенне? Міндоўг нядаўна загадаў лічыць дубы свяшчэннымі, і за кожнае ссечанае дрэва накладаўся вялікі штраф. Значыць, трэба было, апроч ягонага слова, запасацца пергаментам-дазволам на будаўніцтва…

Звыклыя да наладжанага, уладкаванага жыцця, жрацы-мужчыны пачувалі сябе бездапаможнымі. Тое, што жыхары Менцязі

* Так называўся ў старажытнасці архітэктар.

адмовілі ў сваёй дапамозе — хаця б нават на нядоўгі час сяўбы і ўборкі збожжа, — ашаламіла.

— Простая чадзь як была подлаю, так і застанецца назаўсёды. Колькі мы іх ратавалі, колькі начэй без сну было, калі наладжвалі маленні, і за каго — за іх жа! — ужо каля самага горада з натугай прастагнаў Відэвут. Але Святазар ціха запярэчыў:

— Дзіця маё, народ думае, як выжыць. Проста выжыць. Не кожнаму даюць багі магчымасць узняцца над жывёльнай патрэбай цела, а тыя, хто в е д а е, павінны запасціся цярпеннем і літасцю. Нашы выпрабаванні толькі пачынаюцца…

А Жывене ён сказаў, калі яны засталіся сам-насам:

— Бачу, хрысціянская Візантыя пакінула ў табе след. Ці не так?

— А хіба і сапраўды не павінен чалавек сам выбіраць, што трэба ягонай душы?

— Толькі тады, калі дух яго абудзіцца. А іначай ён можа натварыць вялікай бяды.

— Я ніколі не вазьмуся, Настаўнік, судзіць іншага і апраўдваць ягоную смерць.

— Значыць, дзіця маё, ты не зможаш быць сапраўдным пастырам — пастухом для авечак. Пастыр павінен быць жорсткім. Кажу табе — у чалавеку столькі цёмнага, што яго трэба трымаць у абцугах!

Настаўнік і яго былая вучаніца доўга гаварылі паміж сабой, і ўпершыню не было ў іх звыклай згоды і разумення, так што ў рэшце рэшт яны ўпершыню разышліся моцна незадаволеныя адно адным.

На развітанне зноў папярэдзіў стары жрэц:

— Нас усіх чакаюць вялікія беды і горыч, і трэба гартаваць свае сілы.

Як у ваду глядзеў Святазар. Але для Жывены год 1264 быў, бадай, ледзь не такім жа горкім, як і падчас ейнага палону, нібы поўнай жменяй зноў сыпануў ёй у прыпол са свайго клада вогненнавокі, барадаты Дзедка. Ды толькі не золатам ці срэбрам, а нягодамі. Дочкі ягоныя — аднавокія малюткі, што прыкідваюцца вандроўнымі агеньчыкамі, каб збіць з тропу прахожых, — здаецца, акружылі маладую жрыцу, скакалі вакол яе, дражнячыся і падлабуньваючыся.

У месяц багіні Маі з Прагі прыехалі двое — стары сагнуты хваробай гандляр Вондржых і малады Яр, дзед і дзядзька маленькага Святазара. Не ведалі чэхі, як і чым аддзячыць Жывене,

паднеслі ёй багатыя падарункі. Бясконца распытвалі прыезджыя пра дні, праведзеныя дзяўчынаю разам з Гайнай і Душанам, асабліва ж пра татарскі напад. І без гэтага пакутным стаўся б для жрыцы іхні прыезд, але цяпер, хвіліна за хвілінай аднаўляючы ў памяці тое страшнае ранне, калі апошнім намаганнем сіл і волі выцягнула яна з вогненнага калідора маленькі камячок жыцця, яна ледзь знаходзіла ў сабе сілы для раўнавагі. Але — так хочуць багі, яна не мае права не слухаць іх, не падпарадкоўвацца Наканаванню…

Нібы рвалася напалам сэрца, калі бялявы, празрыста-светлы, як пранізаны сонцам і радасцю хлопчык зірнуў на яе яснымі шэрымі вочкамі і запытаўся з адчаем:

— Дык ты мне не мама?!

— Я заўсёды буду тваёй маці, сынок. Запомні мае словы, ты зразумееш іх пазней — роднасць па духу бывае яшчэ больш моцнай, чым па крыві.

— А што такое — дух?

— Калі ты, ратуючыся, будзеш думаць не толькі пра сябе… Калі ты падзелішся апошнім кавалкам хлеба з галодным… І шмат што яшчэ… Я спадзяюся, што мы ўбачымся. Я веру, што Новагародак стане табе такім жа родным, як і ты стаў мне…

Чэхі спяшаліся ехаць, але ўсё ж пабылі некалькі дзён, каб хлопчык змог прывыкнуць да іх. Шмат расказвалі яму аб Празе, аб велічэзным замку-горадзе на гары, што цягнулася ўвысь над Влтавай, аб магутных вежах вакол Вышаграда, аб каралі Вацлаве Першым, які зрабіў Прагу магутнай і прыгожай.

— А я раскажу там пра нашага караля Міндоўга і пра наш замак на гары, — спяшаўся пахваліцца перад сваімі новымі родзічамі хлопчык, і ён то радаваўся падарожжу, то смуткаваў ад таго, што Жывена застаецца тут і не едзе з ім у цудоўны горад Прагу.

На развітанне Вондржых нізка схіліўся перад дзяўчынай:

— І ты родная нам, — слёзы напоўнілі яго вочы. — І ўвогуле — кожны народ, як краска, што цвіце на сваім уласным лузе, але ўсе народы — гэта букет у руцэ Пана Бога, нашага Творцы…

Паехалі чэхі, і засталася ў душы рана, якая торгалася і смылела, асабліва па начах. Успамінала Жывена слёзы названага сына, і рыданні, і цёплыя ручкі вакол шыі, што ніяк не хацелі расшчапіцца, і пыл, які падняўся за фурманкай, што адвозіла хлопчыка, — той пыл быў горкі, уедлівы, ад яго слязіліся вочы і пасля доўга ніяк не маглі ўдыхнуць напоўніцу вечаровае паветра грудзі…

Клопаты аб будучым свяцілішчы займалі ўвесь час. Жывене ўдалося дазнацца, што багацці з храма Ашвінаў былі забраныя ў велікакняскую казну. Карцела дазнацца, што сталася з рукапісамі, якія былі схаваныя ў куфрах, акутых меддзю, і якія ў свяцілішчы кожныя паўгода павінна была правяраць Сава, — тая клала ў пакой, дзе стаялі куфры, спецыяльныя зёлкі, каб не заводзілася плесня. Але падземныя сховішчы замка былі занадта блізка да крыніц, якія шчодра бруіліся па ўсходнім схіле гары. Ці не сапсуюцца неацэнныя скарбы са свяшчэннымі тэкстамі без належнага нагляду?

Аднойчы, добра заплаціўшы галоўнаму захавальніку скарбаў Барталамею, які, рызыкуючы жыццём, выкраў ключ у соннага палаціна, яна спусцілася ў замкавае падзямелле і ў скарбніцы знайшла знаёмыя з дзяцінства рэчы. Так, яны ляжалі тут — сярэбраныя брацiны для пітва, залатыя грыўны — кожная вагой каля 186 грамаў, двуручныя амфары-карчагі, якія былі і мерай ахвярапрынашэнняў, змеевікі, чары, а таксама крыштальныя шарыпацікі. Былі тут таксама і дзве пазалочаныя палкі, іх дробныя дзяленні называлі пальцамі альбо пазногцямі. А яшчэ ляжалі чужыя для храма рэчы, амаль закрываючы тыя, дарагія ёй прадметы, — шлемы візантыйскай работы, мячы, сякеры з інкруставанымі дзяржальнамі.

— А дзе ж кнігі і летапісы? — запыталася яна з заміраннем сэрца. — Дзе свяшчэннае вяроўчатае пісьмо?

Але захавальнік не ведаў таго. Ён згадзіўся дапамагчы Жывене яшчэ і таму, што помніў — прадзед яго быў памагатым Перуновага капішча, і што там, унізе, амаль на адным узроўні з замкавымі падзямеллямі, ляжаць маленькія берасцяныя каробкі — попел ад касцей ягоных продкаў. Але калі дзяўчына задоўга, на ягоную думку, затрымалася ля груды храмавага багацця, ён нецярпліва патрабаваў:

— Калі хочаш яшчэ нешта пaглядзець — даплаці.

Яна дала яму яшчэ манету, і ён змоўк, чакаў, пакуль яна пройдзецца па ўсім сховішчы, шукаючы кнігі. Іх не было, але, прыстасаваўшыся да цемры, якая пагражала згасіць кволае святло смаляка, дзяўчына знайшла нарэшце вузкі сярэбраны гляк з вузялковым пісьмом. Выцягнуўшы тонкую вяроўку і звыкла абмацаўшы яе, яна зразумела, што большая частка вяроўкі згніла тут, у сырым падзямеллі, бо гляк не быў шчыльна закупораны, як рабілі тое ў капішчы.

Ключнік пільна сачыў за ейнымі рукамі.

— Дазволь, я вазьму адсюль гэтую вяроўку, — звярнулася да яго Жывена. — Ты бачыш, серабро я пакідаю. А калі ты знойдзеш яшчэ і пергамены, ты не пашкадуеш, што дазволіў мне сюды зазірнуць. Я шчодра даплачу табе, — дадала яна хутка.

Але ключнік адмоўна трос галавой.

— Вяроўка згніла, вось паспрабуй! — пераконвала яго Жывена. Але Барталамей упёрся і гнуў сваё:

— Адкуль я ведаю, што калі дакрануся, то не ператваруся ў што-небудзь? — пужліва казаў ён. — Вы, воблакапрагоннікі, чарадзеі, усё можаце. Шкадую, што пайшоў з табою. А калі яшчэ дазнаюцца, што адсюль нешта вынеслі?!

— Яна згніе, і ніхто ні пра што не дазнаецца! — нарэшце пераканала яго жрыца. Пераканала не толькі словам — палахліва, але прагавіта схаваў той у свой капшук яшчэ колькі манет.

Адыходзячы, Жывена азірнулася і ўбачыла, як здзекліва-радасна зіркае на яе з груды залатых і сярэбраных рэчаў чырванавокі Дзедка, які паспеў тут, бачна па ўсім, пасяліцца і нават абжыцца. Ведала Жывена, што прагна смокча, як расу, усё, што наслаілася на каштоўнасцях, — нянавісць, хцівасць, пажадлівасць — гэты захавальнік кладаў, што селіцца ён там, дзе іх найболей. Невыказна шкада ёй было чыстых некалі рэчаў, якія служылі святыням, а цяпер будуць пераплаўленыя ў манеты альбо брускі.

Яна дакорліва паківала Дзедку галавой. Убачыўшы тое, спалохана перахрысціўся Барталамей. Нешта яна там заўважыла — але не дай Божа і Пярун убачыць гэта яму, простаму чалавеку! Страшныя падземныя духі, а калі ўсядуцца на шыю — так і загіне чалавек, і ніхто яму не дапаможа!

Жывена прынесла выратаваны ёю жмут вяроўчын у дом, але не дужа ўзрадаваўся яму Відэвут.

Забыўся ён на многае, а аднаўляць у памяці не хацеў. А можа, ужо і не мог.

Маці брала над ім верх, і ён усё болей паддаваўся ўспамінам дзяцінства. Замест звыклых вечаровых гімнаў Ашвінам мармытаў ён заклінанні да барздукоў, прускіх гномаў, каб хутчэй узялі яны да сябе ягоных ворагаў. А маці ўспаміналa, што прускія жрацы — неруці і вандлулуці, тулісоны і лагашоны, думонес і жвейгджурунес — куды мацнейшыя, чымся гэтыя, славянскія… Марыла яна вярнуцца ў родныя мясціны — хаця б дзеля таго, каб там памерці.

— Ля нашага дома часта хадзіў Пушайцiс, — расказвала яна, седзячы ля Відэвута. — Малады, вясёлы… Бывала, папрашу яго,

каб жыта кусцілася, пушылася, як ягоная барада — бялявая, у завіточках, — ён заўсёды паслухае. І вас з Брутэнам не раз вываздзіў з лясных сцежак на тую, што вядзе дадому.

Калі ж Жывена спрабавала падсаджвацца да іх, каб паслухаць матчыны аповеды, тая замаўкала, касавурылася на яе, а пасля выходзіла з пакоя.

Дзяўчына адчувала адзіноту — не такую, як там, у Візантыі, але таксама цяжкую, як гнёт, які цяпер заўсёды быў на ёй і ад якога не ўдавалася выбавіцца.

Часцей і часцей прыходзіла да яе адчуванне, што храм каля Менцязі не ўздымецца больш ніколі. Нешта парушылася там, быццам бы парвалася нябачная сувязь паміж зямлёй і думкамі тых, хто ўзносіў там малітвы да багоў. І Ашвіны ўсё часцей уяўляліся ёй іншымі, чым раней, — залатыя німбы былі вакол іхніх галоваў, пунсовы і сіні плашчы нібы адцянялі цёмныя валасы. Аднойчы здагадалася і сама схаладнела ад той думкі дзяўчына — усё болей ператвараліся для яе Ашвіны ў святых, якіх бачыла яна ў візантыйскім храме Казьмы і Даміяна. І ўсё часцей усплываў у вачах адрачоны твар Багародзіцы на іконе, што некалі належала імператрыцы Зоі. Тады ж расказвала гаспадыня, што ўсёмагутная севаста Зоя магла ўгадваць па бляску на гэтым абразе, ці ўдадуцца ёй тыя ці іншыя справы. І Жывена памятала — нібы ўспыхнуў, а пасля згас залаты пакрыў на плячах цудоўнай жанчыны, калі яна ў адчаі запыталася, ці знойдзе свайго хлопчыка. І што ж? Святазара забралі ў яе, двойчы забралі, і другі раз ужо назаўсёды.

Яна цяпер часта згадвала Візантыю. Дзяржава гэтая была сцэментаваная на агульным духоўным грунце. Старыя багі, што засталіся ў звычках і памяці грэкаў, больш не ўплывалі на агульны ход рэчаў, але ў свой час жорсткім, на крыві, быў той пераход з аднаго пласта пазнання на другі. Тое ж цяпер будзе праходзіць і Новагародак. Але яна — дзе застанецца яна сама? На якім беразе?

Ішоў другі час, другая эпоха. Бацька, Міндоўг, спрабаваў прайсці свой шлях, балансуючы, як глумцы-акторы, на вяроўцы, напятай высока над галовамі. Кожны ягоны крок бачны здаля, яго сустракаюць то праклёнамі, то славасловамі, а то і тым і гэтым адначасна. Але разам з ім сёння робяць свой выбар тысячы людзей, свядома ці несвядома. І яе маленькае жыццё нібыта пакладзена на вялізныя вагі, і яна гайдаецца на іх разам з усімі.

Разам са Святазарам прыкідваючы свае і храмавыя набыткі і каштоўнасці, каб пачаць аднаўленне свяцілішча, яна не раз

задавалася пытаннем, ці не было разбурэнне свяцілішча тым самым знакам, які даваўся жрацам старых багоў. Дзялілася тым са Святазарам, але той нават самыя пытанні ўспрыняў хваравіта, як магчымую здраду, і яна больш не гаварыла з ім аб тым, што набалела. Ляжала дарога перад ёю, раздвойваючыся, і жыццё нястрымна несла на раздарожжа, дзе трэба выбіраць, куды пайсці…

Некалькі разоў парывалася зноў трапіць да Міндоўга, каб упрасіць яго вярнуць скарбы свяцілішча. Хаця б дазволілі пашукаць скруткі пергаментаў, свяшчэнныя кнігі! Дзе яны, што з імі сталася? Але кароль не прымаў яе. Яўлампія адмовілася дапамагаць — баялася гневу ўладара.

— Ён і так цяпер абдзірае ўсіх падаткамі, бо рыхтуецца да новага паходу, — патлумачыла яна Жывене. — Лепей і не прасі!

— Можа, звярнуцца да Яксы? — раздумвала ўголас жрыца.

— І не думай! Я аднойчы ёй сказала пра цябе, а яна вызверылася: «Зноў хочаце каралю соль на ягоныя раны сыпаць, прыгажуню да яго весці? І так ён пасля сустрэчы з ёю сам быў не свой». І аб чым толькі вы гаварылі той раз з каралём?

— Аб тым, каб ён адправіў Яксу далей ад Новагародка.

— Што? Ты насмелілася даваць парады Міндоўгу?! Вось жа на маю шыю ліха ўсселася — унучкай Агапія апекавацца, а мне і самой зубамі трымацца трэба ў гэтым жыцці! — бедавала Яўлампія.

З тае пары ўсе размовы пра багацці былога свяцілішча нібы заглухлі.

Тым часам на княства насоўвалася пагроза.

На самым пачатку верасня Міндоўг разам з адборнай дружынай і сынамі паехаў у родавую крэпасць, нібыта на паляванне. Аднак хадзілі чуткі, што там, у пушчы, непрыкметна збірае ён войска, каб ісці паходам разам са сваякамі на Ордэн. Мабыць, дзеля таго каб перасекчы тыя збродні, узяў з сабой вялікі князь Яксу і абодвух сыноў.

А 13 верасня прыляцела ў стольны горад чорная вестка — Даўмонт і Транята засеклі Міндоўга і яго сыноў Руклю і Рэпенью.

Пакуль везлі ў сталіцу цела вялікага князя і караля, хадуном хадзіў Новагародак; ва ўсіх цэрквах і касцёле служылі паніхіды, а ў вялікім храме Перуна пад замкам не перапыняліся ні ўдзень, ні ўначы ахвярапрынашэнні духам, якія панясуць тую грэшную душу ў Ірый. Казалі жрацы, што падаў у той дзень Лазнік нядо-

бры знак Міндоўгу, які хаця і пакінуў яму, як тое належала, венік, ваду ў кадушцы і мыльны корань, аднак не паслухаўся крыку чорнага пеўня, які тройчы кукарэкаў, як ішоў кароль у лазню. Шапталіся таксама, што валялася Якса ў нагах Даўмонта, прасіла пашкадаваць яе, таму што бязвіннай ахвярай пажадлівасці ўладара была яна. Аднак той, адвярнуўшыся, усё роўна ударыў яе мячом, хаця вочы ў яго пасля таго былі залітыя слязьмі і нічога не разумеў ён з таго, што казаў яму Транята. А Траняту называлі самым крыважэрным — з асалодай і нянавісцю сек ён отракаў нявінных, мабыць, ачышчаючы дарогу да новагародскага трона сваім нашчадкам…

Хавалі Міндоўга з вялікай паспешлівасцю, аднак язычніцкімі жрацамі было пакладзена яму ў далёкую дарогу ўсё, што належала ўладару. Там былі рысіныя і мядзведжыя кіпцюры, каб мог ён ускараскацца на шкляную гару Меру, дзе будзе вяршыцца Страшны Суд; любімы конь, пысу якому намазалі мёдам; дарагі посуд і шмат што іншае, патрэбнае для таго, каб не адчуваў сябе валадар абдзеленым. Іначай прыйдзе ён да жывых патрабаваць свайго.

Не паклалі толькі, як рабілі тое заўсёды, калі хавалі князёў, забітых рабоў. Хрысціянінам усё ж быў ён, і таму пралілі яму ў магілу свежую кроў голуба, і то неўпрыкмет для прысутных. Жывена, якая стаяла непадалёк ад магілы Міндоўга, змагла тое ўбачыць.

Дазволілі ёй наблізіцца да мёртвага караля толькі таму, што побач з ім клалі ў магілу не толькі дзяцей ягоных, не толькі Яксу, але і засечаных падчас страшнага нападу слуг, сярод якіх была таксама Яўлампія.

Не магла няўрымслівая кабета не паехаць разам са сваёй гаспадыняй, і смяротнай вяроўкай звязаў іх Лёс.

Хмурны быў той вераснёўскі дзень, слязілася неба, тузалася па ветры лісце дрэў, яшчэ зялёнае і моцнае, але з жоўтымі плямамі. І хаця ведала жрыца, што няма смерці, але душа яе ныла і ныла, і яна не магла з сабой справіцца.

Ды няўжо сапраўды ёсць у крыві нешта таямнічае, тое, што лучыць жыцці і ў гэтым, і ў будучым свеце? Няўжо душа яе гаруе па страчаным бацьку, які ніколі не быў, ні на адну хвіліну, душэўна блізкім і пра якога згадвала толькі ў роздумах пра будучы храм? А можа, гэтак шкада ёй легкадумную, але ўсё ж нязлую Яўлампію, апошнюю нітачку, што лучыла яе з незабыўным дзедам, якога любіла ўсёй душой?

Не магла сама сабе адказаць Жывена, што гэтак галасіла ў ёй, рабіла нямілым свет. Няўжо вечна наканавана людзям забіваць адно аднаго, гвалтоўна адпраўляць з гэтага светлага кола, што называецца жыццём? У свяцілішчы шмат казалі пра тое, што душа чалавека, які памёр гвалтоўна, доўга не знаходзіць супакою, дарога яго там, у Ірыі, азмрочана жахам і нянавісцю. Галдан Цэрэнхан таксама апавядаў пра тое, што мусяць тыбетцы тры дні і тры ночы чытаць над мёртвым целам свяшчэнныя тэксты, дапамагаючы душы знаходзіць правільную дарогу ў царстве памерлых. А лепей за ўсё дапамагаць чалавеку ў тую хвіліну, калі залатая нітка яго душы пераразаецца няўмольнымі судзяніцамі, трыма багінямі лёсу, але для таго павінен ён быць сярод мілых яму людзей, у спакоі і цішыні.

Міндоўгу і яго сынам наканавана было іншае — страшная, чорная прорва…

Калі засыпаныя былі ўжо ўсе нябожчыкі і высокі курган узняўся над наваколлем, калі людзі паціху пачалі разыходзіцца, дзяўчына доўга стаяла ля кургана і глядзела на высокі дубовы крыж, што пастаўлены быў наверсе… І душа яе раптоўна рванулася да яго, магутнага воя, які нёс на сваіх плячах галавакружны груз усяго княства… да бацькі, што лёг тут, ужо навечна, разам з каханай жанчынай і дзецьмі.

Вось ляжыць ён тут, блізка ля пабудаванага ім магутнага замка, побач з самым славутым капішчам Перуна — і дзе яго веліч, куды падзеліся сіла і страх, які адчувалі навакольныя? Прахам быў, і ў зямлю ператворыцца, і курган, толькі што насыпаны над ім стараннымі слугамі і воінамі, якіх вадзіў у баявыя паходы, хутка зарасце травой. А хто цяпер прыйдзе на навагародскі стол?

І адразу ўспомніўся Войшалк… Дзе зараз Войшалк, чаму не прыехаў ён на пахаванне бацькі? Можа, што здарылася з ім самім? А яна чакала яго. Хацела запытацца пра кнігі і рукапісы. Без іх цяжка, амаль немагчыма будзе аднавіць многія свяшчэнныя абрады. Тое, што ведае Святазар, яны мусяць нанова запісваць, але чалавечая памяць недасканалая. Звяздар Вакула рабіў свае разлікі, увесь час зазіраючы ў запісы папярэднікаў. Няўжо ўсё гэта загінула назаўсёды?!

Святазар параіў ёй на нейкі час з'ехаць з Навагародка.

— Але куды, Настаўнік?

— У храм, які, як мне помніцца, называлі Ашвахатхі, а цяпер проста Конскім.

— Гэта той, дзе некалі прыносілі ў ахвяру Ашвінам коней?

— У той. Цяпер там ахвяруюць багам саламяных скакуноў…

Яна стала горача даказваць, што гэта не да пары. Ды і хто можа тут ёй паграsevereжаць? Але Святазар загадаў, і яна падпарадкавалася, пакінуўшы дом і Відэвута, які сустрэў вестку аб ейным ад’ездзе амаль раўнадушна.

У краі сапраўды пачыналася вялікая смута. Войшалк, спачатку ўцёкшы ад Даўмонта і Траняты, пасля сабраў войска і пайшоў на забойцаў. Новагародак заціх, затаіўся. З’ехалі ў свае родавыя селішчы найбольш звязаныя з каралеўскім дваром прыдворныя баяры. Заціхла гаканне сякер на новых вежах другой цвержы, што імкліва расла ў апошнія гады, робячы замак Міндоўга гэткім жа велічным, як і ўмацаванні і замкі іншых каралёў Еўропы.

Аднак амаль не перапыняўся гандаль. Ехалі і ехалі ў стольны горад фурманкі і абозы, плылі па Нёмане стругі і лодзіі, перагружаліся ў Гародні і Валкавыйску. Аднак болей, чым калі, былі насцярожаныя купцы, гатовыя былі яны па першым знаку трывогі хавацца, як смаўжы, у бяспечныя мясціны.

Жывена пераехала ў свяцілішча, што месцілася ў пракаветнай пушчы, так далёка ад вялікіх і малых дарог, што толькі мясцовыя людзі ведалі, як знайсці яго.

Перад падарожжам, вагаючыся, паклала ў скураную торбу загорнуты ў чысты палатняны ручнік абраз, вывезены ёю з Візантыі. А перад тым доўга ўзіралася ў яго. Двое святых — Казьма і Даміян. Ёсць і яшчэ ў хрысціян двое, знітаваныя ў адно — Флор і Лаўр, ахоўнікі коней. Ім пачалі пакланяцца на Новагародчыне зусім нядаўна. Ідзе, ідзе новае ў княства — з Візантыі, з Рыма, з многіх усходніх краін. І, можа, ёсць у тым свая праўда?

Звяздар Вакула, ужо сагнуты ў крук, сустрэў яе са старэчай расчуленасцю і нават праслязіўся. Павёў у сваю святліцу, паказаў два скруткі пергаментаў, якія змог ўратаваць падчас разгрому свяцілішча пад Менцяззю, а таксама сваю назіральную трубу з павелічальным шклом, праз якую ўзіраўся ў зоркі.

— Шмат чаму вучу я тутэйшых жрацоў, ды ўжо ніколі не змагу аднавіць таго, што знішчана, — сказаў ён з горыччу. — Але змірыўся з тым, бо трэба неяк жыць.

— Я памятаю, як спраўдзілася тое, што ты прадказаў мне ў свяцілішчы, — нагадала Жывена. — Аднак мы ўсё роўна засталіся разам з Відэвутам, хаця і здарылася з ім няшчасце.

— Хочаш, я паспрабую вызнаць, што кажуць нябесныя свяцілы пра яго і твой далейшы лёс? — прапанаваў Вакула.

— Не хачу, — адмовілася дзяўчына. — Я думаю, смяротнаму чалавеку не варта зазіраць у будучае, яго справа — жыць у ладзе са сваім сумленнем. А ўсё, што наканавана, прымаць са спакоем.

— Ты стала іншаю, — уздыхнуў Вакула. — Але не мяняецца твая прыгажосць. Твая маці была такой жа прыўкраснаю, вось толькі пажыла яна мала, бо, мабыць, выканала сваё прызначэнне. А ў цябе, Жывена, хаця і адмаўляешся ты ад мовы зорак, жыццё доўгае, а нашчадкам тваім наканавана шмат чаго зрабіць для роднай зямлі…

— Значыць, у мяне будуць дзеці? — імгненна запыталася Жывена, і яны разам з Вакулам засмяяліся. «Твая праўда, нічым не выкарчуецца ў чалавеку гэтая прага зазіраць у будучае!»

Аднак моцна пасля таго задумалася яна. І сапраўды — з першых жа тыдняў тут, у свяцілішчы, стала зразумелым, што многае ўжо страчана ёю на далёкіх шляхах і што нездарма мудрацы старажытнасці ўцякалі ад людзей.

Светлымі да празрыстасці былі вочы мясцовых жрацоў, і хаця мудрыя былі яны, аднак дзецьмі выглядалі ў розных жыццёвых абставінах. Але і яна, якую вучыла і моцна ўжо біла жыццё, адышла ад строгай аскетычнасці, у якой жылі тут служкі Ашвінаў, а таму перасталі адкрывацца ёй галасы і знакі, якія чуюць і бачаць дасведчаныя: крык савы ў пранізлівай цемры ночы, шоргат і шлях ліста, які адлятае ад роднага дрэва; трапятлівасць ценю, што імчыць па зямлі ўслед за маладзіком… Усё, што яна перажыла, лягло на яе нябачнымі пластамі, таксама бы ценямі, яна адчувала, што ахутаная гэтым покрывам з ценяў… І яна апантана старалася адарваць ад сябе той ліпучы покрыў, а ён усё не адставаў…

А пакуль былая жрыца змагалася сама з сабой у цішыні і адрачонасці ад зямнога, у сталіцу Новагародскай зямлі прыйшоў жамойцкі князь і стаў чыніць суд і расправы над тымі прыхільнікамі Міндоўга, якія не паспелі схавацца альбо спадзяваліся на літасць Траняты. З тых чутак, якія далятаалі да храма, можна было адчуць напал барацьбы паміж сваякамі — Транята запрасіў свайго саюзніка Таўцівіла Полацкага «дзяліць зямлю і набытак Міндоўгаў»*. Ды не дзяльбу, а забойства задумаў ён, гэтак жа, як тое задумаў і Таўцівіл. Сутыкнуліся, як крэмень і крэсіва, сваякі — і быў забіты Таўцівіл разам са сваімі баярамі. Цэлым застаўся толькі нейкі полацкі баярын Пракопій, які выдаў намеры свайго князя Траняце. Казалі, што шмат золата атрымаў

* Дакладны выраз з летапісу.

Пракопій, услаўляў яго і абдымаў, як лепшага сябра, Транята, але патаемна загадаў забіць на зваротным шляху і забраць у здрадніка юдава золата…

Слухаючы ўсё гэта, не магла Жывена спакойна і бесклапотна жыць у храме. Чужым ён рабіўся ёй, да таго ж стаў назаляць ёй сваім каханнем мясцовы тысяцкі Рацібор. І яна вырашыла патаемна вярнуцца ў Навагародак.

У халодны лістападаўскі дзень, калі шэрань кладзецца на прыжухлую траву ўзорыстымі карункамі, а скалелыя птушкі працяжна крычаць над апусцелымі палямі, паехала Жывена са свяцілішча. А калі ўначы месцілася яна ў знаёмага гаспадара, які пазнаў яе адразу і з радасцю даў месца ў хаце, шапнуў ён, што недалёка ад селішча стаіць са сваім атрадам Войшалк.

— Я чула, ён у Ляшчынскім манастыры, пад Пінскам? — здзівілася дзяўчына.

— Ён ужо другі раз прыязджае сюды, баярыня, — назваў яе даўно забытым словам гаспадар. — Мой сын пайшоў у ягонае войска. Войшалк добра плаціць, апроч таго, не хочам мы мець за князя жамойта.

Селішча было ў дзвюх гадзінах язды, і хаця фурман бурчаў, што ён надта стомлены, загадала яму Жывена збірацца ў дарогу.

— А таці, а рабаўнікі розныя? — стагнаў вазніца. — Я не абараню цябе, я нямоглы і немалады, каб у першыя пеўні з хаты выбірацца. Вунь вада ў студзянцы замерзла, а конь па замерзлай дарозе падковы саб'е…

Але Жывена адчула, што няпроста прыйшла да яе вестка і, значыць, патрэбна ёй убачыць княжыча. «Ды не, — паправіла яна сама сябе, — князя. Так, законнага спадкаемцу Міндоўга, які да таго ж не склаў рукі і не затачыўся ў келлі».

Яе спачатку не хацелі пускаць у селішча, але імя дзеда Агапія расчыніла браму. І зноў яна з пяшчотай успомніла яго, нястомнага дарадцу княжага двара, паважанага ў сталіцы чалавека. Мусіць, вартай кіраваў нехта з тых, хто помніў дзеда і верыў, што і ўнучка ягоная верная Навагародку.

Войшалк сустрэў яе з радасцю, якой яна ад яго не чакала. Але і яна не думала ўбачыць яго такім — хмурны, няўпэўнены ў сабе і ад таго гарачы юнак некуды нібы знік. Суровы, з раннімі зморшчынамі вакол рота, але са спакойным, смелым поглядам мужчына стаяў перад ёй, і яна адчула ў ім сілу. Тую, якая была ў Міндоўга. Тую, якая была і ў ёй.

Ён загадаў прынесці гарачага грушавага ўзвару, нагрэць камень і пакласці ёй у ногі, каб не ахаладзела яна з дарогі. І гэта

таксама быў новы Войшалк — той, ранейшы, нават не падумаў бы пра тое, як ехала яна праз халодную ледзяную прастору, праз маўкліва-пагрозлівую пушчу, каб толькі ўбачыць яго. І ранейшага жорсткага недаверу ў яго вачах таксама не было, а былі ў іх стоеная пяшчота і цеплыня. І яна, якая рыхтавала словы папроку за зруйнаванае свяцілішча і прагла дабіцца вяртання храмавых скарбаў, не ведала, як распачаць тую нялёгкую гаворку.

— Не ведаю, чаму Божы гнеў так абрынуўся на наш род. Здаецца, бацька наш, нягледзячы ні на што, быў хрышчаны, — сказаў ён, успамінаючы пра Міндоўга. — А што было з табой?

Калі яна коратка распавяла пра свой шлях у Візантыю і вяртанне назад, ён узрадаваўся.

— Прымай усё, што пашле Госпад. Я ж, схіляючыся перад яго воляй, прашу аднаго: не даць распасціся Княству. Калі разарвуць яго на часткі Транята, Даўмонт ці булевіцкія князі — паўстане, мабыць, бацька з магілы і спапяліць мяне маланкай!

Не радасць ад таго, што змеценыя з яго дарогі браты-супернікі, што ўладалюбны бацька знайшоў нарэшце вечны спачын, не злосць на абставіны гучалі ў ягоным голасе, а боль. І, адчувалася, гэты боль віраваў у грудзях княжыча, нягледзячы на вонкавы спакой.

— На нас канчаецца дынастыя, якая пачалася так удала! — сказаў ён. — І я часта думаю: каму працягваць аб'ядноўваць вакол Навагародка землі? Толькі мне, пакуль будуць сілы. І я буду рабіць тое! Люблю гэты край, хачу, каб быў ён не горшым, чым іншыя дзяржавы.

Памаўчаў, дадаў з горыччу:

— Але плён будуць спажываць іншыя.

Яна падумала пра тое, што ўжо час выбіраць свой далейшы лёс. Ці застанецца яна цнатлівай і будзе вучыць будучых жрацоў, ці, калі акрыяе Відэвут, выканае дадзены яму зарок. Можа, боскія блізняты дадуць ёй сына замест маленькага Святазара, але ніколі, ніколі не даведаецца дзіця пра тое, чыя кроў цячэ ў ягоных жылах…

А Войшалк як прачытаў думкі сястры:

— Позна, цяпер ужо і сапраўды позна для цябе ўсё гэта, наша, княжацкае. Ды і не жаночая гэта справа — улада, барацьба, інтрыгі. Занадта ты чыстая для таго, сястра…

І тут жа запытаўся хутка:

— Ты хрышчаная?

А калі яна адмоўна пахітала галавой, дадаў задуменна-сцвярджальна:

— Ну вось бачыш…

Тады яна і загаварыла пра разбураныя свяцілішчы Ашвінаў, пра рукапісы, што збіраліся стагоддзямі. Пра тое, што падсечаныя карані не толькі язычніцтву ў краі, але і таму, што назбіралі продкі…

Война слухаў уважліва, але хутка перабіў гнеўныя словы:

— Ты бачыла Візантыю. Шэсць стагоддзяў зрабілі яе ўладаркай паўсвету. А ці магчымым гэта было б, калі б там пакінулі язычніцтва?

— Але цяпер яна нібыта бясплодна выкіпае ў сабе, у сваіх уласных межах*. Я адчувала гэта. Нешта губляецца і ў Візантыі. Пайшоўшы па яе шляху, ці не страцім і мы тое, што назапасілі продкі?

— Язычніцтва — гэта не запас. Гэта — адсталасць і памылка народнага шляху.

— Ты хочаш цалкам узяць усё ад візантыйскай традыцыі?

— А чаму б і не? І што перад гэтым кнігі з мудрасцю краін, якія згубіліся ў гісторыі? Значыць, іхняя мудрасць была несапраўднаю, значыць, нам трэба шукаць іншае, лепшае. Ашвіны, Пярун, Вялес і Мокаш, Лада і Жыжаль, гарцукі і Дзедка, Лазнік — колькі іх там? А ў жамойтаў іншыя, а ў яцвягаў — таксама свае. На гэтым не пабудуеш адзіную дзяржаву. Усё што хочаш, але не гэта. Язычніцтву я не дам спатолі.

Яна зразумела, што аспрэчыць сказанае ім не ўдасца.

— Аддай хаця кнігі!

— Я спаліў іх. І за кожную спаленую чарнакніжыцу даў зарок перадаць манастырам у Лаўрышаве і Навагародку перапісанае або аплачанае мной Евангелле.

Яна не хацела паказваць князю сваёй роспачы, але, мабыць, твар яе пабялеў, таму што ён загадаў прынесці вады і паспрабаваў суцешыць.

— Я не сказаў табе — купцы з Візантыі прывезлі ў замак фурманку, нагружаную багатымі падарункамі. Нейкі Нікіфар з Канстанцінопаля перадаў гэта табе. Калі я ад'язджаў з замка, загадаў гэта схаваць у надзейным месцы, каб ты магла карыстацца падарункамі і жыць не горш за багатых баяраў.

— Нікіфар?! Мой прыёмны бацька?!

Яна ўся засвяцілася. Радасць неадольна паднялася ў ёй. Перад вачыма паўсталі цёмна-зялёныя мармуровыя слупы ў Сафійскім

* «Бясплодна выкіпае ў сабе» — так характарызаваў Візантыю Д. Андрэеў у кнізе «Ружа свету».

храме, залатыя дахі вялізных палацаў над асляпляльна-сінімі водамі Басфора, і ўспамін, калі яна стаяла побач з Нікіфарам на вежы, адкуль бачыўся вялікі, багаты горад паміж мораў… Няўжо гэта адбывалася з ёю?

Жыццё і праўда здаецца сном, і нездарма мудрасць арыяў гаворыць: трэба жыць у хвіліне, што цячэ праз жыццё тут і зараз. Над мінулым і будучым няма ў нас улады. Але клапаціцца пра будучае трэба зараз.

— Я аддам усе падарункі перапісчыкам, якія змогуць услед за старым Святазарам запісаць тое, што ведае ён.

— Тады я не вярну табе іх. Перад Спасам пакляўся я выкараняць язычніцтва ў нашым краі, колькі змагу.

— Тады я змушаная буду ілгаць табе, князь. Забудзь мае словы. Я надзену на сябе багатыя карункі і бранзалеты і буду выглядаць не горш за баярынь, якія поўзаюць ля твайго трона…

— Трона пакуль няма. Няма нікога вакол, хто быў бы блізкі маёй душы. І я змушаны забыцца на маленькую дзяўчынку, якая некалі ля царквы ашчаперыла шыю ручкамі, а пасля ператварылася ў ворага, якога я пакляўся знішчыць. Але я спадзяюся, што ты прыйдзеш у хрысціянства, і таму адпускаю цябе з мірам і з Богам.

Яна ўзняла галаву, і яны доўга моўчкі глядзелі адно аднаму ў вочы.

Чырвонае карзно-плашч, пераломленае складкамі, здавалася на Войшалку чорным манаскім уборам, глыбокія цені ляжалі пад вачамі — цяпер тужлівымі, пакутнымі, але адначасна і прыязнымі да яе. А ёй здавалася, што паміж імі віруе-пеніцца шалёная горная рэчка, у якую не ўвайсці, якую не пераадолець ужо ніколі. Яшчэ адна, канчатковая, страта!

Меч Войшалка ляжаў на жоўтым выскабленым стале, а побач з ім адліваў серабром вялікі крыж. Цеплілася ў куце бліскучая медная лампада перад абразом Спаса, і гэтак жа тужліва-адрачона глядзеў на людзей бог хрысціян, па твары якога калыхаліся туды-сюды цені ад агеньчыка, які матляўся і неспакойна ўздрыгваў — на двары ўсчыналася завіруха. Зюзя, бог маразоў, злосна раз за разам сыпаў жменямі замерзлага снегу ў зацягненае бычыным пухіром акно, нібы сейбіт на полі.

У тое імгненне ўсё яе дзяцінства — радаснае і светлае — пранеслася перад вачыма, а найбольш тыя імгненні, дзе малады княжыч Войшалк, адзінокі і хваравіта-прыгнечаны, сустракаў яе ў драўляным замку, браў на рукі, высока ўздымаў у неба і рабіўся іншым — бесклапотным, адкрытым. А каралева Марта

глядзела на іх зверху сваімі блакітнымі, з сярэбраным адлівам вачамі, і холад быў у іх… Навагародак быў ёй чужы — але для Жывены і Войшалка бязмерна родны. І так будзе да скону, як бы ні разводзіла іх жыццё…

Войшалк не стаў утрымліваць сястру, калі яна, нягледзячы на непагадзь, сабралася назад. Спяшаўся і ён, клікалі яго неабходнасць і трывога.

А яна, ужо на дасвецці вярнуўшыся ў свяцілішча, заспяшалася ў Новагародак, быццам чакала яе там нешта пільнае, неадкладнае. Пасля зразумела — клікалі судзяніцы, багіні лёсу, бо не ўсё яшчэ было зжыта і перапалена Жывенай — залатой жрыцай Ашвінаў…

Але па першым часе нічога не адбывалася. Вось толькі зусім ужо нядобрымі, халоднымі сталі позіркі некалі так закаханага ў яе Відэвута, іншым зрабіла яго хвароба. Разам з маці нібы пераплаўляліся яны ў нешта адно, і хваравіты бляск вачэй старой жанчыны ўсё ўзмацняўся.

Святазар стаў хварэць, мабыць, і ягоны моцны дух паступова абцяжарваўся ў віры людскіх клопатаў, пажадлівасці і дробязнасці. Таму і не стала спавядацца перад ім пра сустрэчу з Войшалкам Жывена. Ён жа быў заняты толькі адным — аднаўленнем свяцілішча, і ні на што іншае ў яго ўжо не ставала сіл.

У той вечар, вяртаючыся ад Святазара, яна пачувала сябе надта стомленай. Рана лягла спаць, зайшоўшы па звычцы да Відэвута. Але ў ягонай лажніцы слуг не аказалася, ён коратка патлумачыў, што адпусціў іх з рання. Размаўляць яму відавочна не хацелася, і яна хутка выйшла, паспеўшы, аднак, заўважыць стоеную ўрачыстасць і нейкі зласлівы цень у зрэнках. І хаця карцела супыніцца, дапытацца, што з ім — адклала гэта на заўтра.

А ноччу прачнулася ад дыму і, амаль задыхнуўшыся, угледзела ў цемры пад дзвярыма чырвоныя каснікі агню. Калі ж кінулася да дзвярэй, адчула, што звонку трымаюць іх моцныя засаўкі. Ударылася ўсім целам ў тоўстыя смолкія дошкі, але толькі глуха загулі яны, і ў вачах чырвоныя іскры рассыпаліся.

Бездапаможна агледзелася. Яе зачынілі тут, знарок пакінулі паміраць у гарачым зыркім мроіве, як у апраметнай! Крыкнула колькі разоў, ды голас згубіўся, заглух, яна закашлялася, падбегла да акна, але драўляныя засаўкі трымаліся таксама смяротнамоцна.

— Дапамажыце!

Не, гэта крычала ўжо не яна — нешта, што не магло зміріцца са смерцю, і на гэты, не пазнавальны ёю самою крык азваўся

нейчы — таксама ўжо як бы і не чалавечы. Адкуль прынёсся ён — хіба са святліцы, дзе ляжаў Відэвут?

— Табе, Патолс, гэтая ахвяра! Ты будзеш задаволены!

Патолс… Бог апраметнай у прусаў. Дык вось што задумала маці-вар'ятка. Яна ж, мабыць, угаварыла і Відэвута памерці, стаць ахвяраю багам. І ён, змучаны хваробаю і безнадзейнасцю, згадзіўся…

Тады яна зразумела, што ўсё скончана. Упала на калені, распушчаныя косы заслалі падлогу, ужо гарачую, і ў апошнім намаганні сустрэць смерць дастойна, так, як заўсёды вучыў яе Святазар, прашаптала, перамагаючы безразважна-чорны жах цела перад нябытам, развітальны радок з вечаровага гімна Ашвінам. Яны ўзніклі перад ёю і цяпер, як жывыя, якімі здаліся тады, у далёкім мроіве візантыйскага храма.

Слова не памірае, але не памірае і душа. Залатая іскрынка, яна выпырхне з цела і паімчыцца туды, да свайго Творцы, каб зліцца з ім у зіхоткім, асляпляльным ззянні.

Толькі трэба быць спакойнай і верыць у гэта.

Але як жа трымціць і курчыцца ў пякельным страху цела, якое жыве сваім жыццём і не хоча знікаць! І яна заплюшчыла вочы, з апошніх сіл стрымліваючы свой жах, сваё маладое жаданне жыць, нарадзіць дзіця, кахаць, і ў гэтым адчайным намаганні захлынулася даўкім, як камяк поўсці, дымам…

Кружылася неба. Яно пачынала кружыцца адразу, як толькі расплюшчвала вочы, і было дзіўна, што зоркі тут, у выраі, такія шалёна-нястрымныя. Над ёю нагінаўся адзін з Ашвінаў — сінія, як асенняя вада, вочы глядзелі трывожна, і яна прасіла:

— Трымай мяне!

Спрабавала ўхапіцца за яго, але нешта больш магутнае, чым яе і ягоныя намаганні, вырывала з рук крысо адзежыны, і зноў шалёна, да непрытомнасці, шпурляла ў бездань…

Але неяк яна ачуняла і зразумела, што ляжыць у небагатай святліцы на шырокай лаве, засланай мядзведжымі шкурамі. Ля паліцы ціха корпаецца са шклянкамі немаладая жанчына ў доўгай сукні і чорнай, з кутасамі, камізэльцы. Прыгледзеўшыся, пазнала яе — служанка суседзяў, часта сустракала яе на вуліцы то з кошыкам, то з берасцянкай. Напружыла памяць — і, успомніўшы, усклікнула. Ад таго, што зразумела, — гэта дом суседа Жадана.

— Ачомалася! — радасна ўсклікнула жанчына. — Ляжы, не рухайся, а то скура твая яшчэ толькі пачала зажываць!

Тады і адчула Жывена боль — такі жахліва-пранізлівы, такі раптоўны, як быццам ён толькі і чакаў, каб наваліцца і скруціць яе. Жанчына хуценька напаіла, прыўзняўшы галаву, адварам, у якім дзяўчына пазнала смак маку, і боль паступова, неахвотна пачаў аддаляцца.

Праз некалькі дзён даведалася яна, што ў тую ноч сусед Жадан спачатку кінуўся ратаваць ад агню не свой дом, а суседні. І нават не дом — уварваўшыся ўсярэдзіну, паўсюдна шукаў там Жывену. І вынес яе, ужо непрытомную. Толькі адышоўся на колькі крокаў ад ганка, як грымнуліся ўніз вогненна-зыркія, у дыме і полымі, кроквы, абарваўшы крыкі ці то Відэвута, ці то ягонай маці. Пачуўшы тое, здрыганулася дзяўчына — зразумела яна, што ў апошнюю хвіліну адрынуў былы каханы матчыну злую волю, захацеў жыць, хай сабе і калекам. Але было позна… Мураванку Жадана ратавала ўжо ўся вуліца, і ў рэшце рэшт удалося збіць ненажэрнага чырвонага пеўня, што ўжо дзёўб дах: задыхнуўся ён ад вады, што лілі на яго ледзь не цэлую ноч.

— А дзе твой гаспадар? — запыталася яна ў служанкі Вярбы.

— На паляванні. Збіраўся пазней, але ж давялося трохі ўсё зыначыць.

Жывена зразумела — гэта з-за яе. Хацеў, каб яна асвойталася ў ягоным доме.

За дзвярыма чуваць было нейкае драпанне. Праз адчыненыя дзверы ўбачыла яна сястру Жадана, якая сядзела на жоўтай падлозе і, высунуўшы ад стараннасці язык, нешта драпала на дошчачцы.

— Наша гаспадынька стараецца, у школку ходзіць, — злавіла яе позірк служанка.

Жывена ўспомніла, як некалі сама гэтак жа крэмзала цвёрдым жалезным свярдзёлкам па бяросце, а Святазар, яшчэ не такі згорблены і станчэлы, папраўляў ейную руку. Запыталася пра яго.

— Ён часта прыходзіць. Гэта ад яго напой. Упершыню бачу, каб так суцішаў боль, — патлумачыла Вярба, зноў даючы Жывене заспакаяльнага пітва. А пасля, калі яна абмазала спаленую на спіне і плячах скуру дзяўчыны мёдам і абкруціла белым прахалодным палатном, сказала, што гаспадар павінен прыйсці з пушчы толькі праз дзве сядміцы.

— А пакуль ты ў мяне будзеш гаспадыняй, так што загадвай, мая галубка, — дадала жанчына, і ў выцвілых вачах яе мільгануў гарэзлівы агеньчык.

Шмат пра што хацела ў яе запытацца Жывена, асабліва ж пра тое, чаму прынеслі яе ў гэты дом, ды запнулася. Успомніла пазі-

ркі Жадана, нясмелую ўсмешку на вуснах, якая так не пасавала да яго смелай, гордай постаці. Як увачавідкі ўбачыла паклоны, якімі вітаў пры сустрэчах, і румянак на шчоках, раптоўны і неадольны, якога відавочна саромеўся, — успомніла і падзівілася сама са сваёй безуважнасці і пэўнай слепаты.

— Ты не думай, галубка, што ён бедны і з простай чадзі. Не, ягоны дзед увесь гандаль навагародскі ў руках трымаў. Але аднойчы ўклаў усё багацце ў мяккую рухлядзь і хацеў, прадаўшы, мець добры прыбытак, ды абрабавалі на дняпроўскіх парогах-камянях ягоныя стругі. Дзед з гора і памёр, а за ім і бацька з маткай трапілі ў засаду, што таці падчас завалокаў* паміж князямі ўсчынялі. Добра, што хаця дом Жадану і яго сястры застаўся… — апавядала служанка.

Начамі, калі незлічонай колькасцю жоўтых харугваў трапятала за вокнамі лістота, яна думала пра сваё жыццё і пра свет, у які прыйшла, каб нешта перамяніць у ім, перамяніўшыся сама.

Для чагосьці выратавалася яна і на гэты раз, абмінула яе няшчасце, абпаліўшы і цела, і душу.

На наступны дзень яна ўпершыню змагла падняцца з ложка — кволая, як толькі што народжанае цяля, на дрыготкіх нагах, адчуваючы млосць пад грудзьмі. Жоўтая падлога, па якой яна ішла, пахла сасною, і прыйшло нясцерпнае, як смага, жаданне — у пушчу, далей ад людзей. Да руін свяцілішча, да лясоў, дзе, непакорныя, стаяць стагадовыя дубы. Там ёй было добра, там яе несла над зямлёй, як лёгкае белае пёрка…

Але ўвечары прыехаў гаспадар. Спачатку пачаўся гармідар на двары, і яна выглянула туды скрозь чыста памытае шкло: ля фурманкі, дзе ляжалі важкія, агромністыя тушы дзікоў, вішчала ад захаплення дзяўчынка, а сам Жадан стаяў ля коней, распрагаючы іх. Яна міжволі залюбавалася коньмі — адзін з іх, высокі, з тонкімі сухімі нагамі, нагадаў Роса, і нешта нахлынула на яе з тых часоў, калі яна ляцела на ім па дарогах, смелая і юная.

І, уся захопленая тым духам лёгкасці і святла, яна злавіла позірк Жадана.

Можа, ад таго, што яна жыла ў яго доме і шмат думала пра тыя хвіліны, калі ён выносіў яе з агню, можа, ад таго, што душа яе зараз была безабароннай ад наляцелых успамінаў, дзяўчына адчула штуршок у сэрца. Погляд маладога паляўнічага неспадзявана пранізаў яе танюткай сярэбранай іголкай…

---

* Сваркі.

Яна зачыніла акно, чамусьці спалохаўшыся. Гэтак яшчэ ніколі не бывала з ёю. Уладарыла заўсёды яна, адгукаючыся альбо на цёпла-дзіцячы парыў Відэвута, альбо на юнача-гарачае захапленне Брутэна. Нават Райнер… душа яе адгукнулася на ягоны крык аб дараванні, ягоны безнадзейны ўжо парыў. Але толькі душа…

Гэтае імгненне, калі яны з Жаданам глядзелі адно аднаму ў вочы, адразу зблізіла іх, нават як бы звязала нябачным, але моцным сілом. І калі яна, спалоханая і аглушаная адначасна, лягла на ложак, каб аддыхацца, бо моцна закружылася галава, — ціхім, пераможным смехам нешта як рассыпалася ў пакоі, і яна зразумела, што грацыёзна-танклявая, легкадумная, але адначасна неадольна-магутная багіня кахання Ляля насцігла яе, захапіла разам са сваім насмешлівым памагатым Любчыкам.

Няўжо сапраўды неадольна-магутная?!

Вечарам, калі гаспадар запрасіў яе праз Вярбу выйсці да святочнага стала на вячэру, яна спачатку хацела адмовіцца. Але, падумаўшы крыху, сабралася, папярэдзіўшы, што не есць ні дзічыны, ні яек — зародкаў жыцця. Аказалася, што для яе прыгатаваныя асобныя стравы — каша з ячменю, жур, вараная рэпа. І гэта таксама кранула — ён ведаў ці здагадваўся пра тое, што даспадобы ягонай госці, а што не!

Калі яна выйшла да стала, засцеленага бялюткім абрусам і застаўленага любімымі новагародцамі стравамі, Жадан пачціва схіліўся перад ёю, спакойна-стрымана выслухаў ейную ўдзячнасць за выратаванне. Але ў абаіх румянкам гарэлі шчокі, і ў рухах, у паставах быў той ліхаманкавы агонь, якім мецiць багіня Ляля сваіх ахвяр і які бывае для іх то нечуванай асалодай, то пракляццем.

Упершыню гарэла ў ім Жывена, упершыню не магла яна як след сабрацца з думкамі, адказвала як праз тонкую паласу туману.

Малая за сталом глядзела на яе яснымі, цікаўнымі вочкамі, і яна ўспомніла пра маленькага Святазара, якога выратавала некалі ў агні і які цяпер падрастае ў далёкай Чэхіі, недзе ля Прагі. Ён абдымаў яе тонкімі ручкамі, абвіваўся вакол, але, хаця душа яе і была аддадзеная дзіцяці, усё ж ніколі не рабіліся цяжкімі грудзі, не адольвала нейкая першабытная, амаль жывёльная прага цешыцца маленькім дзіцячым цельцам, цалаваць яго, злёгку пакусваючы, як робяць гэта звяры, грэючыся пад кароткім тут, на поўначы, цяплом. А зараз… Яна амаль не глядзела на Жадана, але нібыта бачыла яго моцныя рукі, шырокія далоні, і такое ж

першабытнае, нястрымна-гарачае пачуццё да яго п’янкою хваляй шугала ў цела… Дык вось чым ахмельваецца бессмяротная душа, спускаючыся пад цяжарам мінулых жыццяў у зямны, невыносна пакутны і адначасна такі спакуслівы свет! Яна забываецца на высокі нябесны кліч і кожны раз нанова пачынае сваё кола… Але не, не паддасца яна, Жывена, на гэтую пастку, на гэтую хмельную, дурную радасць!

Назаўтра, падзякаваўшы яшчэ раз Жадану, яна з’ехала з ягонага дома. А забіраючы з сабой старога Святазара, каб разам з ім дабірацца да былой Менцязі, даведалася, што на новагародскі стол зноў сеў Войшалк. Ён трыумфальна ехаў да стольнага горада, у замку ліхаманкава ўздымалі белыя з шырокай чырвонай паласой пасярэдзіне харугвы, вывешвалі Міндоўгавы выявы — конніка з узнятым мячом, а таксама агромністыя палотны з лікамі Спаса і Маткі Боскай.

Яна не стала чакаць урачыстага ўезду вялікага князя ў свой стольны горад. Так, Войшалкавым пачуваў сябе Новагародак, Войшалк быў яго родавым, уроджаным князем, які жалезнай рукой штурхаў у княства Дзяволтву і Дайнову, Жмудзь і Аўкштоты, працягваючы справу Міндоўга.

— Мы едзем да свяцілішча, — рашуча сказала яна Святазару.

Ён згадзіўся адразу. Толькі запытаўся ціха:

— Мы не адужаем зноў падняць свяцілішча.

— Але школку мы зможам там весці. А яшчэ — запісваць усё, што ведаем, каб не прапала мудрасць вякоў разам з нашымі кволымі жыццямі.

Святазар зірнуў на яе з удзячнасцю. Ён усё болей слухаўся Жывену, нібы, перадаўшы дзяўчыне многае з таго, што ведаў сам, як бы пераліўся ў яе. Цяпер жа, калі яна цудам засталася жывая, баяўся разлучацца са сваёй вучаніцай хаця б на дзень. Гэта напаўняла яе ўдзячнасцю, але і трывогай — падазравала, што стары жрэц баіцца заставацца ў гэтым амаль не пазнавальным і нязвыклым для яго свеце адзін.

Свет вакол сапраўды мяняўся. Людзі адвыклі ад іх і ўжо глядзелі не адкрыта і радасна, а са стоеным страхам — баяліся княжай улады, якая паўсюдна змагалася з язычнікамі. Аднак пасылалі дзетак вучыцца грамаце да Святазара і Жывены, якія пасяліліся ў аднаго з гаспадароў, у той час як на месцы былой святліцы Галоўнага Жраца ўзводзіліся новыя палаты.

Позняй восенню, калі па сценах убогіх хатак хвасталі ледзяныя дажджы, перасяліліся нарэшце стары жрэц і ягоная вучаніца

ў палаты. А з імі — трое дзяцей з селішча, якія засталіся без бацькоў, а таксама дзве адзінокія жанчыны. Разам сустрэлі і зіму.

Яна была завейнаю, і над былой Менцяззю днямі скуголілі вятры і па начах вылі ваўкі.

Пацягнуліся дні, поўныя клопатаў.

Дзяцей вучылі грамаце абое — і Жывена, і Святазар. І за тое мясцовыя жыхары прыносілі ім хлеб і гародніну. А яшчэ — паступова, патроху, звярталіся да іх па парады і па дапамогу.

— Як думаеш — ці зможам мы аднавіць свяцілішча? — настойліва дапытваўся ў яе стары жрэц.

Жывена адмоўчвалася. Яна нястомна запаўняла старонку за старонкай, апісваючы спосабы лячэння. Пісала не на санскрыце — свяшчэннай мове жрацоў, а на мове стараславянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Баялася, што не паспеюць яны перадаць свае веды дзецям, не паспеюць навучыць іх усяму, што трэба для служак Ашвінаў. Галоўнае — каб дзеці навучыліся адрозніваць пасылы светлых ці цёмных сілаў, каб дапамагалі яны пераадольваць у сабе і ў навакольным зло і хцівасць. Для гэтага кожную раніцу яны ўставалі зацемна. Калі надта віхурыла і завіруха галасіла і білася аб сцены, заставаліся ў хаце і, павярнуўшыся тварам на ўсход, разам славілі Зару-Зараніцу, ні знаку якой не было відно ў цёмным шалёным мроіве начы. Але яны ведалі, што яна спяшаецца сюды, на зямлю, вось толькі сіл цяпер, у сцюдзёны час, у яе замала, і трэба дапамагчы святлу прабіцца да людзей. Голас Святазара быў заслабы, а дзеці толькі вучыліся спяваць, і тады голас Жывены як накрываў сабой іхнія гукі, і ёй здавалася, што яна адна толькі і засталася ў гэтым паўночным краі, каб клікаць цяпло. Тады ўставала ў вачах Візантыя, і яна, забываючыся на ўсё, пачынала новы гімн Зары, а дзеці, не ведаючы яго, адно разгублена глядзелі на яе, і стары Святазар тузаў за крысо калматага авечага карзна.

Пад самую вясну, калі пад пульхным снегам зазвінелі ручаі і ад ранішніх дажджоў пацямнелі новыя сцены, Жадан прывёз у свяцілішча сваю сястру.

— Я хачу, каб Уна вучылася тут.

Дзяўчынка з захапленнем глядзела на Жывену сваімі шэрымі, чыстымі вачыма.

— Яна хоча быць падобнай да цябе, — патлумачыў Жадан.

Трымаўся ён спакойна, годна, але гарэў на шчоках яго больш яркі, як звычайна, румянак.

— Уна — гэта на старадаўняй мове значыць «юная», — разглядаючы дзяўчынку, задумаўся Святазар. — Яно сведчыць пра высокі лёс, які яе чакае.

— Хіба імя можа прадракаць лёс? — здзівіўся Жадан. — Бацькі ж даюць яго, як ім захочацца!

— Гэта не яны выбіраюць, а Лёс. Таму па імю таксама можна адгадваць наканаванасць, — растлумачыў стары жрэц. — А яшчэ — па знаках на руках і нагах…

— Няўжо вы і гэта можаце спазнаць?!

Ён глядзеў з захапленнем. Дастаў падарунак — тонка вырабленыя цялячыя скуркі, прыдатныя для пісьма. Гэта быў сапраўды дарагі і жаданы падарунак, бо запас пергаментаў, купленых у Навагародку, ужо заканчваўся.

— Хацеў бы я застацца тут, з вамі, — нехаця развітваючыся, прагаварыў Жадан.

— Заставайся, — узняў на яго выцвілыя вочы Святазар.

— Але я просты паляўнічы.

— Ты не быў раней паляўнічым, і ты ведаеш грамату.

— Няўжо багі адкрылі вам і гэта?

— Не, — спакойна адказаў Святазар. — Я ведаў яшчэ твайго дзеда, пазнаў цябе адразу. Ён у ранняй маладосці быў сябрам ейнага дзеда Агапія, — ён паказаў на Жывену. — І нездарма дарогі прывялі цябе сюды, да нас. Да яе…

Зіму яны перазімавалі, і да Жывены пакрысе пачала вяртацца спакойная, чыстая сіла. Яна адчувала яе, калі шторанак выходзіла з драўлянай, цёплай хаты і па расчышчанай ужо дарожцы ішла да каменнай сцяны, на якую падаў першы кволы праменьчык сонца, каб там, дачакаўшыся Святазара, які з крэхтам ледзь не слаўся па сцежцы, дапаўзаючы да сцяны, тварыла звыклае свяшчэннадзейства.

Ды думкі яе раздвойваліся. Не ўсё магла яна цяпер даверыць старому настаўніку.

Ёй цяжка, амаль немагчыма было б расказваць пра той момант, калі перад іконай Божай маці, у самы горкі час, калі ў невядомай далечы знікла захопленае Райнерам дзіця, на яе сышло, як дзівоснае святло, адчуванне, што яна знойдзе маленькага Святазара. І пра тыя імгненні, калі стаяла перад Балдуінам і два юнакі з крыламі за спіной нібы прыўзнялі яе над халоднай мазаічнай падлогай і запячаталі вусны ворагам.

Ішло і да яе новае, ішло неадольна, і трэба было альбо станавіцца на яго шляху, ажно да самай пагібелі, альбо прымаць яго як непазбежнасць і, адасобіўшыся, спакойна і неадольна

тварыць сваю паўсядзённую работу, бо каму, як не багам, ведаць, чым усё абернецца праз гады і нават стагоддзі? Сказаў жа некалі стары Святазар, калі стаялі яны ўпершыню каля разбуранага свяцілішча:

— Калі я адправіў тваю маці да Міндоўга, спакусіўшыся зямнымі меркаваннямі, я зрабіў тым першы крок да пагібелі нашага храма. Нарадзілася ты, а праз цябе прыйшоў сюды і княжыч Войшалк…

А што з таго, што робяць яны сёння, застанецца, пусціць карані, а што вырве бязлітасны вецер часу?

А тым часам, пакуль яна тварыла маленні і лячыла хворых, цела яе памятала ліхаманкавы агонь, што паліў яго пры набліжэнні Жадана, і вусны яе палымнелі на бледным твары, скусаныя падчас начных роздумаў. Займалася з Унаю зацята, нібы старалася перадаць усё, што ведала сама, кемлівай і стараннай дзяўчынцы.

Аднойчы Святазар нагадаў:

— Хутка прыйдзе час, калі табе давядзецца выбіраць — заставацца навечна ў храме альбо пры ім.

Жывена ведала гэта — калісьці памерлая ўжо Сава, што засталася служыць у свяцілішчы, выбрала зарок вечнага дзявоцтва. Але для жрыцы Ашвінаў не менш важным было і іншае — праз цялеснае яднанне з мужчынам прыцягнуць у свет для нараджэння чыстую, светлую душу, дзіця, якое ўзбагаціць людства, узвысіць яго, інача чорная сіла зла забрудзіць, залье ўсё навокал. Жрацы храма вучылі маладых, што агонь, ад якога палымнеюць яны, трэба адухаўляць святлом кахання, тады робіцца ён моцным і асвятляе іхні далейшы шлях. А Жывена ведала і іншую, найвышэйшую ўласцівасць любоўнага агню: калі зліваюцца ў адно дасканалыя, мудрыя каханыя, сіла яго такая, што можа нават вышпурнуць іх з гэтага свету ў залатое ззянне Сусвету, у вечна-таямнічую асалоду самога Быцця*. Але гэта бывала раней, калі людзі не былі так абцяжараныя чарнатою, калі веды іх, што ішлі ад Тварца праз мудрых настаўнікаў-рышы, былі высокімі і амаль роўнымі боствам.

Такога ёй не зведаць. Здавалася некалі — такім дасканалым каханым можа стаць для яе Відэвут. Але чаму тады, у той светлы час, багі не далі ёй сілы кахання, якое можа рабіць цуд? Не, не

---

* Гэта сцвярджае «Тантра» — вучэнне аб тым, што праз плоцкае каханне спазнаюцца сакрэты быцця.

палымнела яна, не згарала пры адной думцы пра дотык ягонай рукі. І з Брутэнам не было гэтак, як цяпер.

А Святазар усё прыглядаўся да яе, нібы хацеў пра нешта запытацца, але вычэкваў. Маўчала і яна, толькі больш заўзята займалася справамі.

Перад самым святам багіні Маі, калі юнай, радаснай лістотай пакрываюцца вольхі і бярэзнік, а на ўзгорках ліловымі пырскамі раскідае вясна сон-траву, Жывена, якая лягла спаць рана, стомленая дарогай з далёкага селішча, прачнулася і села на сваім шырокім ложы. У пакоі, які вокнамі выходзіў на лес, было светла, як днём.

Штосьці клікала яе — можа, крыніца, якая бруілася непадалёку, вызвоньваючы сваю радасць руху і жыцця? Можа, маладая шчэць травы, што зараз, у гэтую ноч, неадольна прабівалася ўверх, зацягваючы зялёнай сваёй сілай выгаралыя лапеніцы навакольнай даліны?

Яна ўстала. Ціха, каб не патрывожыць Святазара і прыслужніц, выйшла на драўляны ганак і спынілася, углядаючыся ў ноч.

Месяц, што наліўся сакавітай жаўцізной амаль да поўні, вісеў над раўнінай, дзе некалі была Менцязь і дзе нават узімку булькаталі таліцы і дыміліся вакол іх калюжыны.

Цяпер над гэтай клачкаватай, няроўнай прасторай вісеў туман. Але не цяжкі, белы, як дым над лешняй, што хавае пад сабой усё навокал. Жывена нават затрымала дыханне — ніколі не бачыла яна гэткага лёгкага, наскрозь пранізанага месяцавым святлом і ад таго нейкага святочна-іскрыстага покрыва, што не ахутвала зямлю, а нібы пералівалася, зіхцела, дражнілася безліччу светлых іскрынак. Праз яго бачыліся яліны, што нерухомымі волатамі стаялі на тым, былым беразе возера, купіны, што тамсям вытыркаліся з зямлі, і калі яна павярнулася, каб паглядзець на руіны свяцілішча, яно, удзень перакрыўленае і знявечанае, цяпер велічна цямнела на фоне лесу. Жывене нават здалося на імгненне, што не было ні разбурэння, ні пажару, а яе ніколі не выхоплівала адсюль і не шпурляла па далёкіх, чужых дарогах. Што зараз Юрна абкрые плечы цёплым і мяккім лісіным карзном, павядзе ў святліцу, угаворваючы паспаць.

Няма, няма ні Юрны, ні Відэвута з Брутэнам, ні Савы… На ейных плячах цяпер усё тут — і гэтае разбуранае свяцілішча, і стары Святазар, і маладыя, зусім яшчэ цёмныя дзяўчаткі, і зямяне, якія пілуюць дубы для новага храма, але патрабуюць за гэта, каб яна выпрасіла для іх у багоў шчасця і багацця…

Дзіўна, але лёгкі гэты туман не хаваў і неба — яно раскінулася ва ўсёй сваёй магутнай неабдымнасці, буйныя і дробныя зоркі таксама нібы вібрыравалі, перадаючы ёй сваё трымценне-чаканне, і Шлях, нібы ручнік, быў перакінуты цераз плячо Начы-свацці.

Амаль нячутна, з нейкім мышыным піскам, расчыніліся дзверы, Святазар, босы, стаў каля яе. І ў тое ж імгненне пачулася выразнае цоканне конскіх падковаў па мяккай лясной дарозе. Конь не спяшаўся. Вось ён зусім спыніўся, і насцярожаны слых жрацоў улавіў, як коннік саскочыў на дарогу, а пасля пакрочыў побач з канём.

— Гэта да цябе, — зусім спакойна прашаптаў Святазар, і, калі яна, зразумеўшы патаемны сэнс ягоных слоў, ухапілася за руку старога свайго настаўніка, ён мякка, спакойна выслабаніў руку.

— Прыслухайся да свайго сэрца. У кожнага часу свой голас, умей жа выслухаць яго…

Ён нячутна адступіў. Піскнулі дзверы, яна засталася на ганку адна, а праз сярэбраны вэлюм ночы усё бліжэй і бліжэй чуліся крокі. Яна так выразна, нібы ўжо ўбачыла яго, ведала, што гэта едзе сюды Жадан. І ўсё гэта разам — зіхоткі, жывы месяц, грозная, чорная вышыня неба з яго светлякамі-зоркамі, уся гэтая сярэбраная даліна з разбураным свяцілішчам, нястрымны агонь, што разліваўся па жылах, — сабралася ў адно і напоўніла ніколі яшчэ не перажываным, невымерным захапленнем і шчасцем.

І яна адчула, што ўсё тое, што перажыта і, магчыма, яшчэ прыйдзе ў яе жыццё, ужо акупленае гэтай хвілінай.

# АЛЬГЕРДАВА ДЗІДА
## *Раман*

### ГОД 1313. ЛОЗКА

Маланка разадрала цёмна-шэрае, набрынялае вадой палатно нябёсаў, гахнула ў недалёкую сасну, і тая імгненна запалала белавата-сінім, страшным полымем.

— Княжыч, хутчэй! — закрычаў лоўчы Драмак, спрабуючы спыніць каня, які ляцеў наперад, прадчуваючы схованку ад дажджу і шалёнага ветру, што тут, на ўскрайку лесу, ажно збіваў з капытоў нават цяжкіх, звыклых да ўсяго княскіх коней. Але Альгерд ужо даганяў яго — тонкі, наструнены небяспекай і насцярожана-захоплены буйным разгулам навальніцы, ён гнаў свайго каня, не зважаючы на тое, што торба з падстрэленай ліссцай мякка калаціла па скураным поршні левай нагі, а калчан з лукам — па правай. Лівень ужо прамачыў наскрозь яго каптан, дабраўся да белай палатнянай кашулі, пад якой па худых ягоных ключыцах целяпаўся драўляны, абабіты серабром крыж, што перад смерцю надзела на любага сына княгіня Вольга, цурком ліўся па сцёгнах.

— У селішча! — спрабаваў крыкнуць лоўчы, але вецер ударыў яго ў грудзі так шалёна, што ён захлынуўся і, закашляўшыся, сагнуўшыся, толькі тузануў свайго каня за лейцы ўправа, каб ён павярнуў да нізенькіх хатак, што збіліся паміж двух вялікіх узгоркаў недалёка ад лесу.

Дарога, рабрыста-цвёрдая ад засохлай чырванаватай гліны, па якой яны толькі што праехалі, цяпер, за некалькі імгненняў запоўненая да каляін мутнай, з жоўта-белымі грабеньчыкамі вадой, распаўзалася, як цеста, пырскала брудам і гатовая была, як багна, засмактаць чатырох коннікаў, што выехалі на паляванне з недалёкага адсюль Новагародка раніцай, а цяпер не маглі вярнуцца дадому. Яны з цяжкасцю, выбіраючы тупкія травяністыя, з

моцным карнявішчам кавалкі дарогі, па якіх можна было так-сяк перасоўвацца, дабраліся нарэшце да селішча, якое напачатку здавалася зусім блізкім. Лівень стаяў сцяной, схаваўшы і лес, з якога яны толькі выбраліся, і аколіцу, і нават само селішча, дзе хаты з вокнамі, зацягненымі бычынымі пухірамі, выглядалі, як сляпыя старцы-валачобнікі, што, трымаючыся адзін за аднаго, выйшлі на вуліцу.

— Адчыняй! — закрычалі коннікі ў адзін голас, паспешліва злазячы з коней і прасоўваючыся скрозь вузкую разьбяную браму агароджы, якая акружала вёску.

— Адчыняй, ваўкалак! — загрымеў Драмак, калоцячы па клямцы крайняе хаты, якая выглядала большаю і зграбнейшаю за іншыя. Дзверы былі замкнёныя, і гэта здзіўляла — звычайна, нават калі няма гаспадароў, хату не зачыняюць, хіба ад злое сілы вешаюць над дзвярыма абярогі: падкову, вянок часнаку ці пук святаянніку.

Княскія слугі спяшаліся, узносячы ціхія малітвы Перуну. А то яшчэ прастудзіцца, падхопіць якую Трасцу малады Альгерд, сын вялікага Гедзіміна, які разам з бацькам і братамі прыехаў у Новагародак. Княская сям’я не была ў ім ўжо сем гадоў, з таго часу, як у вялікую княгіню Вольгу ўчамерылася Паляндра, яцвяжская багіня смерці. Кажуць, сталася тое пасля таго, як княгіня ўдарыла яцвяжанку Кудрысу, што служыла ў яе пакаёўкай і захавальніцай куфраў, а тая была родзічкай яцвяжскага вярхоўнага вешчуна… Страшны ў гневе Гедзімін — торкне свой указальнік-палец у вінаватага, скажа слова — і валакуць небараку на стайню, пад лазіны альбо і на смяротнае пакаранне.

Але дзверы не адчыняліся, а выбіць іх не ўдалося — моцныя, як у крэпасці, былі яны з тоўстых дошак, з разьбянымі знакамі багоў. Трэба было б ехаць далей, але наступная хата была зусім лядашчай — маленькая, скошаная набок. Ды тут заўпарціўся і Альгерд:

— Чаму хата замкнёная? Хто тут жыве?

Можна было і не пытацца — дзядзька Нячай ужо шапнуў загад слузе Лотышу, і той валок з суседняе хаты спалоханага зямяніна ў каравай кашулі да каленяў, падпаясанай вяроўкай, у драных портках.

— Хто тут жыве і чаму яго няма ў хаце? — грозна запытаўся Драмак, стараючыся, каб па ягонай галаве не цурчэла дажджавая вада. — Мо злыдзень які?

— Вазьмі мяне Кадук, калі я абылгу суседа! — зачасціў той. — Жыве тут каваль Вольжыч, дабрадзейны слуга баярына

Рацібора, а той верна служыць князю Гедзіміну, хай берагуць яго Род і парадзіхі!

— Ды дзе ён зараз? Бачыш, якія ў яго госці? Сам малады княжыч Альгерд завітаў, а гаспадара як касны* высмакталі!

Смерд затросся, нібыта яго схапіла за каршэнь сама Трасяніца:

— Дык жа ён у кузні ў сваёй… Вунь там! — ён паказаў за хаты, але, хаця дождж трохі сціх, усё ж нічога нельга было разгледзець у навакольнай каламуці. — Ён жа з яе не вылазіць.

— Прывесці сюды! Зараз жа! — ткнуў яго кнутом Драмак, але Альгерд спыніў лоўчага:

— Самі падыдзем. Ніколі не бачыў кузні.

— Княжыч, ды мы ж тут загрузнем! — спрабаваў угаварыць яго Нячай, але Альгерд, нягледзячы на ўгаворы і на тое, што каптан яго набрыняў, русыя валасы прыліплі да лба, а поршні чмякалі пры кожным кроку, пашыбаваў за хату. Адразу за вуглом яны ўбачылі акуратна выбрукаваную дарожку. Адчулі пах дыму — але не таго, лёгкага, з прысмакам бярозы, які ідзе з лазні, а цяжкога, з копаццю, з гарам, ад якога ў непрывычнага чалавека цямнее ўваччу. Наблізіўшыся да вялікага будана, сплеценага з лазін, якія там-сям пусцілі пругкія зялёныя парасткі, пабачылі, што з усіх адтулін кузні ідзе дым, а з дзвярэй вылятаюць вогненныя пырскі. Але княжыч упэўнена, як чалавек, які ўсюды пачувае сябе як у сваёй хаце, увайшоў у будан, а следам і ўсе трое служкаў.

Мужчына — невысокі, але жылісты, падобны на сукаваты, моцны дубок, што вырас на ўзлеску, стаяў да іх бокам, раздзімаў горан. Ён быў без кашулі, у шэрых, дзе-нідзе прапаленых портках, смуглявае яго цела ільснілася потам, цёмна-шэрыя валасы віліся колцамі. Дзяўчынка гадоў чатырнаццаці, у зрэбнай кашулі, трымала ў адной руцэ малаток, у другой абцугі, у якіх быў заціснуты чырвоны распалены брусок з абрысамі дзіды. На ейнай галаве блішчэў жалезны абручык, тварык, перапэцканы сажай, быў засяроджаны і нахмураны. Яна прымервалася ўдарыць па вогненным бруску, але, убачыўшы нечаканых гасцей, здзіўлена апусціла абцугі. Каваль імгненна пакінуў горан, рэзка павярнуўся да людзей, што прыйшлі ў яго кузню, нібыта гатовы быў да абароны. Ён быў прыгожы — роўны нос, прадаўгаваты разумны

---

* Пра іх, як пра істот, што гуртом нападаюць на ахвяру і смокчуць з яе кроў, піша Нікіфароўскі. Піск іх чуцён толькі чалавеку, які мае «чацвярговую соль».

твар, на якім дапытліва свяціліся рэдкай акрасы фіялкавыя вочы з затоенай хітрынкай і цвёрдасцю ў глыбіні бліскучых зрэнкаў. Твар гэты жыў сам па сабе, нібыта галава кніжніка, што цэлыя ночы праводзіць над старонкамі рукапісаў, была насаджаная на цела воя.

— На калені, смерд! — загудзеў Драмак. — Перад табой сам княжыч Альгерд! І мы, ягоныя слугі, — дадаў ён цішэй, але з невымернай ганарлівасцю, паклаўшы руку на похвы з мячом, нібыта перад ім быў атрад вояў, а не звычайны вясковы каваль са сваёй дачкой.

Тое, што дзяўчынка была дачкой каваля, не выклікала сумненняў — тыя ж фіялкавыя вочы, той жа прадаўгаваты твар. Ды прыгажуняй яна не выглядала — нос быў кірпаты, вусны занадта пульхныя, а тонкая постаць падлетка яшчэ не надта выструнілася, нібыта яна толькі выпаўзала з шэрага кокана мятлушкі, крылцы якой, гатовыя заззяць вабна-пераліўным бляскам, пакуль яшчэ неабсохлыя, скручаныя ў патлатае ахвосце.

Але смерд толькі нізка схіліўся перад падлеткам, ад чаго доўгія яго кудзеры закрылі твар, а на правым плячы абазначыўся след ад блізны — звілісты шырокі рубец губляўся пад лапаткай.

— Рады вітаць цябе, княжыч, — сказаў ён ласкава, але спакойна. — Ты таго не памятаеш, але трымаў я цябе перад сабой на кані, калі імчаўся прэч ад крыжакоў.

— Ты? — разгублена перапытаў Альгерд. — Але я не памятаю цябе!

Бізун, якім Драмак хацеў агрэць няслушніка, застыў у паветры — варта не верыла сваім вушам. А каваль працягваў — гэтак жа спакойна, прыязна, нібыта гутарыў не з патомным княжычам, а з суседам:

— Калі хочаш, раскажу. Але спачатку хадзем у хату, бо на табе ўжо каптан ажно дыміцца…

Сапраўды — падышоўшы блізка да агню, Альгерд не заўважыў, што адзенне на ім закурэла.

— Я хацеў пабачыць, як робяць мячы, — сказаў ён нібы апраўдваючыся. — Таму і ўлез да цябе няпрошаны.

— Княжы сын усюды жаданы госць. Але спачатку абсохні, а пасля ўсё табе пакажу. Хадзем! Лозка, ану хутчэй!

Дзяўчынка кінулася да выхаду — мільганулі чорныя ад сажы пяты, матлянулася каса.

Калі паляўнічыя зноў падышлі да хаты, там, праз шырока расчыненыя дзверы, убачыўся стол на покуці — на жоўтай яго

паверхні стаялі гладышы, драўляныя тарэлы з печывам, а каля печы лётала Лозка.

— Падай княжычу гарачага адвару ды мёду туды налі! — загадаў ёй бацька. — А вы ідзіце ў хату, я сам завяду коней у хлеў, — каваль спрытна ўзяўся за аброць аднаго з коней, павёў яго за сабой. Астатнія, адчуўшы хуткае прыстанішча ад непагадзі, пакорліва пайшлі за ім, нібы кураняты за квактухай.

— Што робіцца з коньмі, ахавай нас Род і парадзіхі! — шапнуў Лотыш. — Ён чараўнік, няйначай!

— Кавалі знаюцца з Дамавікамі, тыя ім — лепшыя памочнікі, — непрыкметна для сябе паніжаючы голас, прагудзеў лоўчы.

Дзядзька ж Нячай, нічога не сказаўшы, пайшоў у хату першым і, садзячы за стол свайго выхаванца, якога хутка пераапрануў у сухую кашулю і порткі каваля, чэпкім позіркам абмацваў усё навокал: і чыста выскрабеную падлогу, і печ з чырвонай стужкай вакол коміна, і бажніцу, адкуль то грозна, то абыякава зіркалі старыя багі, сярод якіх ён са здзіўленнем прыкмеціў і драўляны складзень з Багародзіцай, Ісусам і святым Міколам. Княжыч жа са здзіўленнем глядзеў на дзяўчынку, якая паспела пераапрануцца ў святочную, з вышыўкай кашулю, адмыць твар ад сажы і цяпер, ад хвалявання расчырванеўшыся, ставіла на стол едзіва — яе рухі былі такія спрытныя і хуткія, што здавалася, нібыта нехта — ці не той жа спрыяльны да каваля Дамавік? — носіць маладую гаспадыню па хаце. Слугі ў княскіх пакоях у параўнанні з ёю падаліся цяпер марудлівымі, як асеннія мухі.

Яшчэ падлетак, што толькі выштукоўваўся ў мужчыну, шаснаццацігадовы Альгерд, аднак, быў не па гадах мудры і назіральны. Можа, дапамог яму ў тым лацінянін Францыск, які вучыў хлопца мовам лацінскай і грэчаскай, а таксама дзядзька ягоны Нячай — мудры паляўнічы і стралок. Але найперш вучыўся ён у бацькі, Гедзіміна, што браў сыноў з сабой у баявыя паходы, хаця былі тыя зусім дзецьмі, каб на свае вочы бачылі яны, як задуманае ў ціхай зале замка ваеннае змагарства здзяйсняецца на раўніне, каля ракі ці лесу, прыносячы княству ваенную славу, а часам і ганьбу. Страляць з лука ці кідаць дзіду вучыўся хлопчык яшчэ з тых часоў, калі толькі змог трымаць у руцэ зброю — спярша дзіцячую, амаль цацачную, пасля ўсё цяжэйшую.

Першы дотык да зброі запомніў ён на ўсё жыццё. Дзядзька Нячай вывеў яго на сцяну замка, дзе чакаў іх стары жрэц Галігін, і ўклаў у тонкія пальчыкі княжыча лук, паказаўшы, як прыціскаць луку да грудзей і як класці на цеціву стралу. Ад нядаўна ссечанай ляшчыны, сагнутай у дугу, пахла соладка і свежа, вала-

сяная цеціва тоненька трымцела, адгукаючыся на веснавы вецер, што роўна і неадольна дзьмуў у спіну, а страла заканчвалася птушыным — як ён дазнаўся пазней, сарочым — пяром, чорны пушысты падбой на ёй няспынна трапятаў, і ў ім таксама нешта адгукнулася і на гэты красавіцкі, з першым зялёным пухам на дубах дзень, на жоўтыя коцікі вербаў пад каменнай сцяной, дзе дзумкалі пчолы, і на дзіўныя словы замовы, што чытаў вялікі жрэц, сівая барада якога таксама целяпалася па ветры, а жвавыя пранізлівыя вочы праядалі наскрозь. Дрыжыкі прайшлі тады па ягонай спіне, ён хацеў заплакаць, але дзядзька зірнуў на яго з усмешкай, якая падбадзёрвала, дапамог нацягнуць цеціву, і яны разам пусцілі стралу. Яна, падхопленая ветрам, паляцела роўна, проста ў сіняе неба, і там раптоўна знікла, нібы растварылася ў ласкавых сонечных промнях. А стары жрэц таксама палагоднеў, паклаў яму руку на галаву і прадказаў, што будзе ён вялікім воем…

…Тое трапяткое пачуццё, з якім ён сачыў за стралой, а таксама таемнасць грозных, незвычайных слоў засталіся ў яго душы, і цяпер яны разам усплылі і прымусілі нешта ў ёй зварухнуцца. Усё ў гэтай хаце раптам падалося яму незвычайным: магутныя бярвёны сцяны з пучкамі зеленаватага моху, комін, за якім, здавалася, цікавалі за ім вочы Дамавіка, жоўты мёд, у якім застылі мутныя лускавінкі воску і ад якога ішоў пах лета і спякоты, і шустрая, як вавёрка, дзяўчынка, што рабіла недзявочую працу — кавала дзіды. Ён узіраўся ў яе — звычайны тварык, з шырокімі русымі брывамі, з дробнымі, як у мышкі, белымі зубамі. Вось толькі колты на ёй адмысловыя — з тонкай філігранню, яны целяпаюцца ў вушах, аднак кідаюць на гэты звычайны твар нейкі патаемны водбліск... Яна злавіла ягоны позірк, шырока ўсміхнулася — як абдало княжыча гарачай хваляй, і папярхнуўся ён гарачым грушавым адварам, моцна закашляўся.

— Дык просты каваль, а як баярын жыве — мяса ўлетку мае, і на медавуху не бедны! — едка заўважыў Драмак, прагна аглядаючы стол, на якім у тарэлах ляжала каўбаса з белымі крапінкамі сала, варанае мяса, салёныя грузды і дробна парэзаная рэдзька.

Лоўчы, не чакаючы гаспадара, пацягнуўся да стала, але княжыч адмоўна пахітаў галавой:

— Пачакаем гаспадара. Як яго? Вольжыч? З чаго імя такое?

— Тата мой у гонар вялікай княгіні Вольгі быў хрышчаны, — падала голас дзяўчынка.

— Маёй маці?

— Так, княжыч. А тату не чакайце, выпіце хутчэй медавухі, а то прычэпіцца да вас Трасца альбо Паветрыкі*.

Альгерд, памарудзіўшы, узяўся есці, за ім прагна за-чвякаў Драмак. Лотыш і Нячай перакулілі драўляныя чары-брэцьяніцы амаль адначасна і дружна захрабусцелі рэдзькай.

Вярнуўся каваль. Ён узяўся быў дапамагаць дачцэ, але Нячай паказаў яму на месца побач з сабой. Драмак жа, угрызаючыся ў барвова-карычневую, сухаватую каўбасу, зняважліва зіркнуў быў на смерда, але тут жа спахапіўся, угнуў галаву ў плечы — разумны не па гадах княжыч угледзіць нешта непаважнае да ягонага жадання — бяда!

— Дык раскажы, як сталася, што ты, каваль, выязджаў на ратнае поле? — нарэшце запытаўся княжыч. — І чаму апынуўся блізка ля князя?

Каваль стаў расказваць. І з кожным ягоным словам на тва-ры прысутных выяўлялася ўсё болей цікаўнасці, а пагардлівая ўхмылка на вуснах Драмака змянілася на разгубленую.

— Мой бацька — баярын Рацібор, — казаў каваль. — А маці — простая жанчына, са смердаў. Але жрэц ніколі не абводзіў іх вакол свяшчэннага дуба — сталася тое на Купальскую ноч, і ў нашым селішчы мне, малому, толькі ўзрадаваліся: болей людзей — болей вояў. А я рос моцным. Маці мая пару разоў хадзіла да Рацібора, ён загадаў паставіць ёй добрую хату і даў жменю літоўскіх дзінараў**. На тыя грошы яна аддала мяне ў вучобу да каваля, дзе я і навучыўся каваць мячы і дзіды.

— А імя тваё чаму Вольжыч? — настойліва запытаўся Аль-герд.

— А Рацібор неяк прыязджаў у селішча, дык загадаў мяне, дваццацігадовага, ахрысціць і, калі ў княстве Пагоню аб'яваць, узяць мяне ў войска. Якраз тады твой бацька ажаніўся з княгіняй Вольгай, дык мяне і назвалі — Вольжыч. Я прывык, ды і людзі нашы таксама. Раней жа мяне клікалі Таўкачом, бо надта тоўкся я ў матчыным жываце. І калі пайшло наша войска на крыжакоў, бацька мой, як навагародскі баярын, мусіў увесь час каля князя Давыда аціраццa, а той жа — зяць самога Гедзіміна.

---

* Па А. Багдановічу, яны носяцца ў паветры і таксама разам накідваюцца на ахвяру.

** «Рубель літоўскі чыстага серабра», альбо адна капа, змяшчаў 60 пражскіх грошаў. Літоўскія дэнарыі (тут дзінары) маленькія, грам вагой манеткі, дзе на некаторых стаяла «Печат».

— Дык чаму тады Рацібор, раз прызнаў цябе, не пакінуў у войску?

— Ён-то пакідаў, але я не схацеў. Люблю свой дом, сваю кузню.

— Ты што, добраахвотна застаўся смердам?! — не паверыў сваім вушам Нячай.

— Рацібор загадаў выдаць мне ахоўную грамату, каб у яго ўладаннях не чынілі мне ніякага ўціску, і не чапае мяне ніхто — ні цівун, ні княжы зборшчык. Нават пазалетась, калі была галадуха і вялікі князь Віцень хадзіў на Прусы*, каб хлеб здабыць — і тады не чапалі. Я сам усё, што меў, людцам аддаў. Але багі мне таксама даюць — застаўся голы, як стары венік, усё ж за два гады зноў падняўся…

Ён расказваў пра сечу з крыжакамі ў Жамойці, калі тыя былі зусім адолелі ліцвінаў і дзе малады тады яшчэ князь Гедзімін сам падхапіў харугву, пра Рацібора, які адным ударам адсек галаву слаўнаму на ўвесь Ордэн рыцару Хэльмуту…

Княжыч слухаў, але позірк яго раз за разам вяртаўся да Лозкі.

Перапэцканая сажай дзяўчынка, азораная таямнічым водбліскам агніска, што абцугамі трымала распаленую, чырвоную, з чорна-шызым кантам дзіду, з першага позірку закранула ў душы нешта патаемнае, даўняе — і страх перад вешчуном, які знаўся з чужымі, страшнымі альбо прыветнымі істотамі, недасяжнымі для іншых, і захапленне ад прасторы, у якой знікала страла, і яшчэ многае, аб чым ён і сам не ведаў. Нават цяпер, разгледзеўшы яе як след, ён не мог пазбавіцца пачуцця ейнай таямнічасці — колты ў вушах і абручык на галаве надавалі бляску яе вачам — фіялкавыя, як у бацькі, яны прыцягвалі да сябе юнака, і ён не зважаў на танклявую, трохі яшчэ нязграбную постаць і чорныя пяткі, якія так і мільгалі па хаце. Ён амаль не слухаў, калі каваль стаў апавядаць пра тое, што спачатку меў дзвюх жонак, ды пасля хрышчэння другую аддалі зямяніну Вавілу. А як заўдавеў, больш нікога не захацеў — тая, ведзяніца** Казелька, так і засталася самай любай…

Але паляўнічым гэта было ўжо нецікава, і Нячай дакрануўся да Альгердавага пляча:

— Час нам ехаць, княжыч. Сагрэўся ты, ды і мы трохі падсохлі. У замку, нябось, затрывожыліся.

---

* Знішчыўшы прусаў, немцы пакінулі назву краіны Прусіі, таму просты люд па-ранейшаму азначаў Прусію як «Прусы».

** Першая, законная, жонка ў язычнікаў.

Але Альгерду не хацелася паднімацца, ускокваць на каня і, вязнучы ў чырвонай, тлустай гліне, адна за адной мераць такія цяжкія цяпер вёрсты да Навагародка. Прыемна-радаснай усхваляванасцю білася ў ягонай душы лёгкая, подбегам, паходка Лозкі, яе хуткі, трошкі спадылба позірк, шырокія русыя бровы, а таямніча-чырвонае вогнішча ў кузні, што знізу падсвечвала яе тварык і пра якое ён узгадваў раз-пораз, надавала ўсяму, што было з ёю і ў ёй, нейкую глыбінную, грозную сілу, і, змешваючыся, трывожыла яго і неадольна прыцягвала…

Гедзімін любіў сына, але танклявы, русавалосы і задумлівы хлопчык часам бянтэжыў нават яго сваімі недзіцячымі пытаннямі і цікаўнасцю да тых праяў жыцця, якія намеснік Віценя, а з нядаўняе пары і вялікі князь, абмінаў, як камяні на шляху, не задумваючыся. Які той Ірый, куды пасля смерці пойдзе чалавек, для чаго ён прыходзіць на зямлю і нашто варагуе адзін з адным: дробны — за дзялянку ці хату, вялікі — за княства ці паўсвету — усе гэтыя сынавы пытанні Гедзімін раздражнёна перакідваў жрацу Галігіну, але было відно, што княжыча тыя адказы не задавальняюць. «Чамучкам» празвалі Альгерда пры двары, таму, падрастаючы, ён задаваў пытанняў усё меней і ўсё больш старанна скакаў на кані, ссякаючы на ляту лазіну, ці тузаў лук, стараючыся, каб стрэлы ляцелі ў сярэдзіну намаляванага вапнай кола.

Зараз, у свае гады, ён умеў тое, што павінен умець вопытны вой, які палову жыцця праводзіць у паходзе, — крэмнем імгненна высечы агонь, запаліць пад дажджом вогнішча, сустрэцца з ворагам і ўдарыць першым. А яшчэ шмат разоў бачыў ён, як загрудкі бяруцца між сабой паны-рада, шукаючы лепшае рашэнне для будучага бою, як перакідваюць на стале ці на мапе каменьчыкі, што азначаюць ратнікаў ці конных, і як, раптоўна перамяшаўшы чорныя ці шэрыя галышы, па-іншаму раскладвае Гедзімін тое каменне. Вучыўся таму княжыч, і ўжо колькі разоў выказваў і сваё меркаванне, куды паставіць лучнікаў, а дзе схаваць конныя атрады, што ў патрэбны час вылецяць з засады і ў абцугі возьмуць ворага.

Ад добра напаленай печы ішоў лёгкі, цёплы, нейкі ўтульны дух, зёлкі, што віселі па сценах, прымешвалі да яго свой тонкі водар, а грозныя і няўмольныя вочы багоў, што раней зіркалі зверху, з бажніцы, цяпер палагоднелі, глядзелі спагадна і прыязна.Усміхаўся трошкі велікаваты, з выразнымі вішнёвымі вуснамі рот Лозкі.

— Ты, Лотыш, едзь дадому, а мы ўтраіх тут застаемся, — раптоўна распарадзіўся Альгерд.

— Княжыч…— перасцерагальна загудзеў быў лоўчы, але Альгерд спакойна ды ўладна зірнуў на яго:

— Заўтра раніцай і будзем дабірацца. Можаце тут сушыцца, а я пайду з кавалём у кузню. Сказаў жа — ніколі не бачыў, як робяць дзіды! Так і перадай бацьку: пераначую ў каваля! — зноў уладна загадаў ён Лотышу.

Нячай і Драмак пераглянуліся, шырокі, як у качкі, нос лоўчага заторгаўся, нібы яго душыла задуха. Нячай жа ўхвальна ўхмыльнуўся.

— А калі вялікі князь дасць нам тарбачоў за тваё свавольства?

— Не дасць. Ён мне колькі казаў, каб часцей у збройную хадзіў і вучыўся, якія дзіды ды баданы чужынцы робяць.

— Ну што ж, княжыч, твая воля. Толькі не кажы пасля князю, што я цябе не папярэджваў, — прагудзеў Драмак. — Можа, разам з табой пайсці ў кузню?

— Ды ўжо займайся коньмі ды сушыся. А то і праўда Ліхаманка ўзбярэцца на плечы ды замучыць, — перабіў яго Нячай. Яму відавочна падабалася, што ягоны выхаванец бярэцца на дарослага, што ў яго голасе гучаць загадныя ноткі.

— Пакажаш мне, як робяцца дзіды? — звярнуўся Альгерд да Вольжыча, і той радасна затрос галавой:

— Ды ўжо ж, княжыч, усё пакажу, што ўмею.

— А ўвечары ён нам і казку раскажа, — зноў падала голас Лозка.

— Сціхні! — пагразіў ёй Вольжыч, і яна тут жа змоўкла, зноў пабегла да печы завіхацца.

— Ды без яе я не змагу, таму што дзьмухаць у мяхі трэба некаму, а ў яе яшчэ грудзі слабыя, — патлумачыў ён княжычу, і той, згаджаючыся, кіўнуў галавой.

Калі каваль і малады княжыч выходзілі з жытла, неба на ўсходзе трохі раз’яснілася, дождж суцішыўся, але за кузняй, як і раней, грувасцілася чорна-шэрая, грозная хмара, і па-ранейшаму зацягнены былі заслонай непагадзі хаты селішча.

Лозка, якая паспела надзець старую кашулю, дагнала іх каля будана, лёгка слізганула следам, хутка распаліла вуголле, ужо задымленае і згаслае, падала княжычу зрэбны мех з дзіркамі замест рукавоў, шырокі скураны пас, а таксама палатняную повязь, каб не захілялі твар валасы.

— Дык што табе каваць? Баявую сякеру з наканечнікам, нож ці дзіду?

— Тое, што яна пачала рабіць. Хай пры мне даробіць.

— Дык дзіду?

— Дзіду.

— Ну што ж, бярыся, дачка.

— Вой, тата!

— Што «вой» ды «вох»! Давай, а то княжыч угневаецца!

Дзяўчынка нехаця падышла да кавадла, а Вольжыч усеўся на зямлю каля двух вялікіх скураных мяхоў з драўлянай адтулінай-свістулькай на канцы аднаго з іх.

— Я пабуду ў падручных, а пасля і сам папрацую, — растлумачыў ён.

Дыханне мяхоў, шумнае, глыбокае, хутка раздзімала агніска, а Лозка схапіла абцугамі чорна-шэры кавалак астылага жалеза і кінула яго на вуголле.

— Крыца, якая тут недалёка, пад Іржавым балотам, занадта мяккая, я прывожу частку з-за рэчкі, — патлумачыў каваль, адарваўшыся ад адтуліны, якую заціснуў пальцамі.

— А тая крышыцца, дык тата свой сплаў робіць, — трошкі спадылба зірнуўшы на княжыча, уставіла сваё Лозка.

— Сціхні ты! — зноў азваўся бацька. І паскардзіўся княжычу: — Расце без маці, без сястры, дык і да мужчын у гаворку лезе, ты, княжыч, не зважай на тое. Мой памочнік захварэў, а яна ўзрадавалася і ўжо з кузні не вылазіць. Здольная — як за што возьмецца, не адступіцца, пакуль да ладу не давядзе. Першыя сваты ўжо прыязджалі.

— Ой, тата! — Лозка адвярнула твар, засаромелася. Альгерд раптоўна адчуў, што да спіны ў яго агідна пры-ліпае кавалёва кашуля — ад дажджу не ўбярог мех, накінуты на галаву.

— Усё ж у яе баярская кроў, а ты дзеўчыну да такой чорнай справы прыставіў, — не ўтрымаўся ён ад папроку. — Сватоў гэта не адпрэчвае?

— Ды не. Я ж чалавек грашавіты, а яна як замуж пойдзе, дык адмые пяты ад сажы. Можа, і баярыняй стане, калі Род і парадзіхі паспрыяюць.

— Тата! — з адчаем крыкнула Лозка, адскочыўшы ў кут будана і засланяючы твар прапаленым рукавом кашулі.

— Каб застаўся воем, дык і да баяр бліжэй бы стаяў, — разважліва сказаў Альгерд, па-ранейшаму адчуваючы спіной, што ад расчыненых дзвярэй цягне халоднай вільгаццю.

— Бачыш, княжыч, ёсць у мяне адна загана — люблю я медавухі паспытаць. А ў паходзе таго вою не дазволена. Дык, калі душу няма чым парадаваць, нашто лезці вышэй?

Выразныя вочы каваля зноў зірнулі на дачку з любасцю і нейкай вінаватасцю, але ён тут жа спахапіўся:

— Хадзі сюды, Спешка-Спарышка ты мая, не злуйся. І мне не языком мянціць, а рабіць трэба. А то крыца застыне.

Ён з апантанасцю схапіўся за мяхі, і праз некалькі хвілін дзяўчынка па ягоным знаку выхапіла з барвова-сіняватага вуголля ярка-чырвоны кавалак металу, кінула яго на кавадла. Запахла гарам, а яшчэ ядлоўцам, якім, мабыць, падпальвалі агніска. Пасля, перакінуўшы абцугі ў левую руку, Лозка ўзяла малаток і звонка, як гуляючы, пачала біць па вязкай распаленай загатоўцы. Бацька пільна сачыў за кожным ейным рухам, але маўчаў. Маўчаў і Альгерд, хаця кожны ўдар, якім Лозка плюшчыла гарачае жалеза, адгукаўся ў ім, як рэха. І рэха, што ляцела адсюль, таксама вярталася ў кузню — трохі запозненыя, ужо не звонкія, а глухія ўдары нібы штурхаліся ў сцены будана звонку.

Дзяўчынка, спачатку ўся наструненая, збянтэжаная, цяпер нібы забылася на ўсё — яна ўтаропілася ў сваю работу і, ссунуўшы шырокія бровы, роўна дыхаючы, гакала малатком па кавадле. Пасля ўзяла іншы, меншы малаточак і стала абіваць краёчкі пацьмянелага ўжо трохкутніка.

— Стыне жалеза, дай падагрэем, — загадаў Вольжыч і зноў узяўся за мяхі — раздзімаючыся і ападаючы, яны гналі паветра на вуголле, па якім папоўз шэры попел, і зыркае, гарачае, вясёлае полымя зноў узвілося ўвысь, водбліскамі кладучыся на шырокія русыя бровы і чысты лоб Лозкі, абвязаны ручнічком, на яе прапаленую кашулю і рукі, што чэпка трымалі малаток і абцугі.

— Адпачні! — не вытрымаў Альгерд. Ён бачыў, што на скронях Лозкі па ручнічку папаўзлі вільготныя плямы, дыханне пачасцілася. Але яна глянула на яго як бы здаля:

— Не, княжыч, раз тата загадаў, то будзе табе дзіда.

…Узорысты, як ліст алешыны, плаўна пераходзячы з акруглага ў тонкае вастрыё, чырвоны наканечнік дзіды ляжаў перад княжычам.

— Ну як, княжыч? Як мая Спешка-Спарышка робіць?

— Прыгожая дзіда. Толькі ж яе ў бітве трэба праверыць.

— А цяпер і я паспрабую, толькі ці зможаш ты, княжыч, у мяхі дзьмуць? — загаварыў Вольжыч.

— Я паклічу, тата, ягоных слуг, — азвалася Лозка.

— Ды яму самому … колькі табе, княжыч?

— Ужо хутка сямнаццаць, — Альгерд пачырванеў.

— Сямнаццаць? Трохі ты танклявы, але ж, нябось, у сечы ўжо быў?

— Быў, летась у Прусіі.

— Дык паспрабуй, княжа, нашага хлеба. Работа кавальская для княжыча не ганебная, нас, кавалёў, Пярун любіць і спрыяе ў рабоце. Але, можа, і сапраўды слуг паклікаць? Ану, дачка, кінь яшчэ паленцаў!

Альгерд не адказаў, моўчкі пайшоў да мяхоў, сеў на зямлю, асцярожна прымерваючыся да адтуліны. Дзьмухнуў што было сіл.

Мяхі азваліся ціхім гудам, паветраная хваля прайшлася міма вогнішча.

— Дай яшчэ пакажу, княжыч.

Але хлопец упарта прымерыўся і дзьмухнуў яшчэ. На гэты раз вуголле ўскалыхнулася, слабы сіні агеньчык успыхнуў пад паленцамі.

— Ну дык пачнём? — прапанаваў каваль, пайшоў да кавадла, дастаўшы з мяха новую жалезную ляпёху — шэрую, з абпаленымі краямі. Лозка адышлася ў кут, села на нізкую лаву, развязваючы ручнічок на галаве.

…Княжычу не хапала дыхання, так што ў нейкі момант ён амаль задыхнуўся. Але ўпарта, да цемнаты ў вачах, працягваў дзьмуць у драўляную трубку, і нарэшце каваль, крыкнуўшы яму «Досыць!», але не перапыняючы дробны, часты грукат малаточка, стаў завяршаць сваю работу. Рухі ягоныя былі дакладна вывераныя, і радасна было глядзець на тое, як весела, нават зухавата пазвоньвае ён малаточкам, як пяшчотна, ледзь улоўна чаруе над жалезам.

Ягоная дзіда была трохкутнай — рэзкая, вастрэйшая, чым у дачкі, яна здзіўляла вока ўмельствам, з якім роўна, як намаляваныя, былі адточаны краёчкі, а ўнутры трохкутніка са здзіўленнем убачыў княжыч першую літару свайго імені і не мог стрымаць вокліча захаплення.

Каваль шырока ўсміхнуўся і схіліўся ў паклоне:

— Мы з дачкой просім цябе прыняць у падарунак абедзве дзіды.

— Я заплачу, — пачаў быў Альгерд, але каваль адмоўна пахітаў галавой:

— Прашу цябе, княжыч!

— Добра. Але я таксама аддзячу табе.

— Ты ўжо аддзячыў. Усё жыццё буду памятаць, як мы разам рабілі дзіду.

— Хай паляжыць да заўтра, — распарадзіўся княжыч.

— Дзіду спярша трэба асвяціць! — азвалася Лозка. Яна стаяла побач, і, хаця княжыч стараўся не паварочвацца да яе, яму хацелася глядзець на вабную ўсмешку, на вялікаваты рот з

вішнёвымі вуснамі і касу, якую дзяўчынка церабіла ў пальцах, нібы шматок кудзелі, узіраючыся ў дзіду, выкаваную бацькам.

Каваль прамаўчаў, толькі запытальна падняў вочы на княжыча. Той згодна кіўнуў — вярхоўны жрэц заўсёды тварыў абрады над новай зброяй, якая паступала ў княскую скарбніцу. Але Лозка зноў умяшалася:

— Недалёка адсюль свяцілішча Асвінаў*. Усе кажуць, што траўніца Жывена, бабка баярына Рацібора, якая жыве там, мацнейшая за вашага прыдворнага вешчуна.

— Сціхні ты! — цыкнуў на яе каваль, але тым не менш падхапіў даччыны словы: — Калі ўжо дарыць табе дзіды, княжыч, то дазволь нам самім і асвяціць іх.

— Ды гэтая... як яе?

— Жывена!

— Яна, выходзіць, і ваша крэўная? Калі баярын — ейны ўнук? Але як гэта — служкі багоў не могуць заводзіць сем'і! — Альгерд пераводзіў позірк з Лозкі на каваля.

Той хвіліну памаўчаў, загаварыў, як бы ўзважваючы кожнае слова:

— У гэтым свяцілішчы жрыцы, калі адбылі сваё, пасля паўналецця могуць кахаць, бо каханне, а пасля дзеці, якія нарадзіліся ад шчаслівай узаемнасці, — радасць. Там ад жыцця не адракаюцца, тым болей назаўсёды, бо светлыя браты-лекары Асвіны таго не дапускаюць.

— Дык і раскажаш мне пра гэтае свяцілішча. Шмат пра што я ведаю, а вось пра іх не чуў.

— Калісьці свяцілішча было разбуранае, яго і сёння не аднавілі, — зноў загаварыла Лозка. — А зялейніца Жывена там жрыцай была, і казалі старыя людзі, якія яе маладой помняць, што прыгажэйшай за яе не было ва ўсім нашым краі…

Калі яны другі раз выходзілі з кузні, дзень хіліўся да вечара. Дождж аціх, скрозь цёмныя яшчэ хмары на захадзе праступіла сонца, і ўсё навокал — прысадзістыя цёмна-карычневыя сосны над узлобкам направа, густа-кусцістыя зялёныя вольхі ззаду за кузняй, ля вялікай калюжыны, тупкая сцежка наперадзе, выкладзеная галышамі, — усё ззяла, іскрылася, нібы прырода, абноўленая бурай, радавалася сваёй моцы і стойкасці. Летняе паветра, шматкроць перамешанае вогненнымі калатоўкамі мала-

* Гаворачы тут «Асвіны» (гл. раман «Залатая жрыца Ашвінаў»), я хачу падкрэсліць трансфармацыю гэтага імені, якое засталося ў нашай міфалогіі як «Асвіны».

нак, цяпер было празрыстае і патыхала свежасцю, як чыстая бялізна, калі з марозу ўносяць яе ў хату. З яблынь, якімі абсаджаная была сцежка, узляталі гарыхвосткі, трасучы ярка-рудымі хвастамі, аранжавымі грудзямі прабівалі паветра заранкі, кругамі лёталі пеначкі-жаўтаброўкі — і ўсё гэта шчабятала, свістала, ціўкала на розныя галасы. Княжычу здалося, што ніколі яшчэ не бачыў ён такога хараства, не адчуваў, як душа яго ўзносіцца высока, услед за вунь той шэрай пішчухай ці жоўтай аўсянкай, што імгненна набіраюць вышыню і з размаху знікаюць у прасторы, напоўненай пахамі, галасамі і свежым цяплом.

Лоўчы Драмак і дзядзька княжыча Нячай, ужо трохі абсохлыя, у адных кашулях і портках, без скураных сваіх каптаноў, чакалі іх ля хаты. Было бачна — яны, як ганчакі, не спускалі вачэй з кузні, гатовыя ўскочыць туды ў любую хвіліну.

— То, можа, мы ўсё ж паедзем дадому? — асцярожна закінуў сваё Нячай.

Ён бачыў, што княжычу не надта хочацца вяртацца ў Навагародскі замак, але трывожыўся, што Гедзімін сурова спытае з іх, чаму яны дазволілі Альгерду начаваць у хаце каваля. Праўда, каваль той быў не просты, а сын Рацібора, тым болей што баярын Рацібор займаў у войску не апошняе месца — ён быў сотнікам, меў ад Віценя падзякі, і Нячай не раз сустракаўся з ім падчас баёў, калі і вялікі князь, і ягоны намеснік, і войскі ўсіх земляў, што ўваходзілі ў склад Вялікага Княства, рухаліся на ворага. Але ці праўда ўсё расказанае кавалём? Нячай не прывык давяраць размовам, таму ён паслаў лоўчага шукаць старасту селішча, і толькі калі той пацвердзіў, што ў каваля сапраўды ёсць ахоўны пергамент, трохі супакоіўся. І ўсё ж — блізіцца вечар, хутка пачнуць валадарыць начніцы* і мешы**, прахі*** ды паўночнікі****, а нячыстая сіла, кажуць, асабліва любіць кавалёў. Што, калі Вольжыч водзіцца з ёю? Супраць злыдняў не дапамагае меч ці дзіда, яшчэ ператворыць іх каваль у ваўкала-

* Жанчына, якая праз сваё шальмоўства не мела дзіцяці альбо праклятая людзьмі.

** Нячысты дух, з'яўляецца перад людзьмі ў выглядзе касматай жывёлы чорнага колеру.

*** Нячысцікі-пачаткоўцы, яны служаць у іншых чарцей на пабягушках.

**** Найбольш актыўна перашкаджаюць людзям з 11 гадзін вечара і да 3 ночы, крычучы дзікімі галасамі і рагочучы.

каў. Але — зноў супакойваў сябе Нячай — нашто яму тое? Ды і крыжык носяць на грудзях і ён, і дачка…

Аднак Альгерд упёрся на сваім. Мыючы рукі вадой з мыльным коранем (Лозка імгненна прынесла ручнік з вышытай Жытняй Бабай), ён упарта адмовіўся ад прапановы:

— Чаго нам так спяшацца? Яшчэ і паслухаем кавалёвы казкі!

— Казкі! — стараючыся схаваць пагардлівасць, гудзеў Драмак, ідучы ўслед за юнаком у хату. — Ты ж воін, слаўны мой княжыч, а не дзіця, якое цешыцца ўсялякай небыллю.

— Мой бацька і дасюль любіць слухаць тыя небыліцы, як ты ведаеш! — адпрэчыў Альгерд. — Чаму ж мне бу-дзе тое за сорам?

Драмак сціх. Сапраўды, нават сюды, у Новагародак, узяты стары Зюзя, які баяў казкі яшчэ маломy Гедзіміну. І па сёння слухае княская сям'я тыя казкі-небыліцы, калі зімовымі доўгімі вечарамі збіраецца разам у Гедзімінавай спальні-лажніцы. Ляжыць князь на сваім шырокім ложы, заплюшчыўшы вочы, а вакол яго — княжаняты і князёўны: хто ў нагах скруціцца скрутулькай, хто пад бок туліцца, большыя ж на лавах сядзяць, а то і на падлозе, на мядзведжых шкурах. А Зюзя, амаль сляпы, маленькі, крываногі, у падпаясанай тканым поясам вышыванцы, у нязменных дзеравяшках на жоўтых, ссохлых нагах, вядзе-водзіць адно за адным паданні пра трохгаловага Цмока і калінавы масток, пра Попельніка і Вернідуба, пра каралеўну ў залатой лодцы. За акном гудзе-круціць завіруха, прыдворныя паселі пры дзвярах, і, бывае, нехта з іх засне дый храпане так, што ажно здрыганецца дзядок Зюзя на самым цікавым месцы, усе разрагочуцца, а князь толькі махне рукой, не адплюшчваючы вачэй, і болей не дапусцяць санліўца ў княжую лажніцу. Так, яшчэ гадоў колькі таму, адлучылі ад казак і лоўчага Драмака, і злаваўся ён за тое невымерна, бо не казкі любіў, а хвіліны, калі князь раптоўна ўставаў з ложа і, пакідаючы дзяцей і княгіню, клікаў стольніка ці чашніка за сабой у стольніцу, дзе загадваў накрыць стол. Салодкія былі тыя брэцьяніцы з медавухай, бо ў такія хвіліны шмат жартаваў Гедзімін, забываўся на параненае плячо і хваробы, што з кожным годам навальваліся на яго ўсё мацней…

Узгадаўшы ўсё тое, Драмак моўчкі ўлез у хату, дзе ўзяўся карміць паляўнічых сокалаў, кідаючы ім кавалкі ўпаляванага зайца. Астатняе аддаў ён Лозцы, якая разам з бацькам тут жа ўзялася распальваць агніска, каб на ім смажыць маладога дзіка. Не груцай жа карміць княжыча і ягоных слуг!

Тыя, трохі адпачыўшы, сабраліся ля вогнішча пад вечар, калі Зара-Зараніца закрыла сваім чырвоным падолам сонца і падсохлую траву змачыла раса.

З-за пляцёнкі-агароджы цікавалі за імі ледзь не ўсе жыхары селішча, і дзядзька Нячай не стаў праганяць людзей — хай паглядзяць на маладога княжыча, пачуюць ягоны голас. Нават запрасіў да вогнішча, але ніхто не насмеліўся падысці. Пагалоска аб тым, што Альгерд начаваў у хаце каваля, пойдзе па Новагародскай зямлі, і, можа, нехта з гэтых смердаў, калі прыйдзецца абараняць Новагародак ад ворагаў, захіліць яго ад смертаноснай дзіды. А ваяваць давядзецца нямала, і бывае, што войска ў далёкім паходзе, а тут ломяцца то крыжакі, то галічане. Тады бяруць баявыя сякеры кавалі і аратыя, падлеткі і юнакі.

Так суцяшаў сябе Нячай, абгрызаючы сцягно маладога дзіка і азіраючы яшчэ вільготную дарогу да недалёкага лесу, лугавіну, што пачыналася за агароджай і дыхала густым водарам настоеных на навальнічнай вадзе траў. Стоячы на ганку, мог ён бачыць першыя агеньчыкі ў хатах, зрубленых з магутных ялін і ўпрыгожаных разьбянымі выявамі старых багоў на слупах каля ганкаў, маладзіц у доўгіх кашулях і з наміткамі на галовах, дзяўчат у вяночках альбо з абручыкамі на русых, чарнявых і рудых валасах, што тоўпіліся за агароджай, цікуючы за кожным іхнім рухам. І такія гожыя, шчырыя і цікаўныя былі тыя твары, што нават пыхлівы Драмак ажывіўся, расчырванеўся і голасна гудзеў, непрыкметна косячы вокам на агароджу, аб бітвах, дзе ён сек крыжакоў і ляхаў, аб скакунах, якія падалі пад ім, калі ён нястомна гнаў для князя Віценя ваўкоў ці ласёў. Альгерд слухаў аповеды, але вочы яго касілі ў той бок, дзе, усеўшыся на ганку, чысціла рэдзьку і наразала яе на жоўта-белыя, амаль празрыстыя скрылі Лозка, схаваўшы свае, відаць, ужо адмытыя ад сажы пяты ў лапці, аборы якіх зграбна перакрыжоўваліся на высокім пад'ёме нагі. Кашуля, паверх якой быў надзеты вышыты кабат, хавала ейныя маславатыя калені, але на шыйцы, што выглядала з кашулі, вісеў медны крыжык, патанаючы ў выемцы між грудзямі — маленькія, з кулачок, яны вытыркаліся, калі яна разгіналася, каб дастаць з лазовага каша круглую, прысыпаную сухім пяском з падполу рэдзьку. І гэта чамусьці выклікала ў ім шчымлівае, да слёз, замілаванне: хацелася ўзяць з ейных спрытных рук жоўты круглячок і самому нетаропка, з адцяжкай, адкрыжоўваць вострым нажом кожны скрылёк, каб яна забірала іх з ягоных рук. Яму ажно заказытала ў сярэдзіне далані — там,

куды яна магла знянацку торкнуць сваю маленькую і тонкую, як у вавёркі, лапку.

Тым часам цемра павольна, але настойліва запаўняла прастору — паўзучы спачатку ад кузні і гурту алешніку, яна па-гаспадарску месцілася паміж хатай і адрынай па завуголлях, потым дабралася да агароджы, схаваўшы пасялян, затым прымасцілася на ганку, і толькі чырвоныя каснікі кастрышча падалі водсветам то на твар Лозкі, то на яе плячо, абцягненае тонкім палатном кашулі, то на філіграннай работы колт у вуху, дзе спіраллю было абазначана, што належыць яна да крывічоў. Вярхоўны жрэц вучыў Альгерда, як і іншых дзяцей вялікага князя, па вышыўцы на поясе ці кашулі, па тканых узорах на посцілках ці па выяве медальёнаў пазнаваць, адкуль, з якога племені паходзіць чалавек, што ён шануе і каму з багоў найперш пакланяецца. У хаце каваля з першага позірку пабачыў ён на ручніку пад бажніцай Грамавіка — на чырвоным бялеюць шырока расстаўленыя рукі-ногі і сівая галава, а ўверсе чорныя вуглаватыя зубцы. Драмак жа, мабыць, угледзеў у тым узоры толькі палосы і кружочкі — то белыя, то чорныя, то чырвоныя, як не прачытаў ён і на тканай посцілцы выяву Святога жыццядайнага Дрэва, а таксама Радаўніцы са свечкамі. Выходзіць, што род гэты і сапраўды не просты — хтосьці ткаў на ручніках і посцілках не звычайныя ўзоры-абярогі, як ткуць іх простыя зямяне, а асаблівыя. Вось і на Лозчынай кашулі, нібы на ручніку, старадаўняя чарадзейная просьба аб дапамозе — на ёй месяц і агонь, сонца і зорачкі. А ўсё складаецца ў сказ: «Пярун, ратуй нас ад зла!»

Ён прамовіў тое ўслых. І каваль, што стаяў недалёка, ціха азваўся, амаль нячутны ў ажыўленым гудзенні Драмака:

— Ты чытаеш узоры, княжыч? Праўду гавораць, што ты самы мудры з усіх сыноў Гедзімінавых.

— Ды не, слаўны Вольжыч, — збянтэжыўся Альгерд. — Тое самае ведаюць і Манівід, і, вядома, Кейстут.

— Бачыў я Кейстута, — задуменна прамовіў Вольжыч. — Слаўны воін, толькі моцна пакрыўдзіў ён старых багоў. Адгукнецца яму тое нядобрым.

Альгерд ведаў, пра што гаворыць Вольжыч: ягоны любімы брат толькі што выкраў са старога свяцілішча прыгажуню-жрыцу Біруту. Кажуць, яна надта падобная да іхняй старэйшай сястры Біруты, што цяпер за кашталянам гарадзенскім Давыдам, патомным князем наль-шчанскім і пскоўскім. Біруту любілі і цяпер любяць таксама ўсе ў сям’і, ды гэта не апраўдвае Кейстута. Аднак ён, Альгерд, шануе Кейстута, таму ніяк не азваўся княжыч

на тыя словы, толькі міжвольна павярнуў галаву да Лозкі. А яна ўжо несла да іх драўляны кругляк тарэлы са скрылёчкамі рэдзькі, і Драмак, не перарываючы свой несканчоны аповед, жменяй загроб тыя скрылі і кінуў у зарослы чорнай барадой рот. Нячай заўважыў незадаволенасць на твары свайго выхаванца і грубавата перапыніў Драмака, які, з храбусценнем праглынуўшы ежу, хацеў быў зноў пачынаць свае аповеды:

— Хай лепей нам Вольжыч нешта цікавае раскажа, цябе мы з княжычам і ў Новагародку наслухаемся!

— А што можа сказаць каваль? Пра нейкія чарадзействы! — пачаў быў Драмак, але ўжо каторы раз асекся, мабыць, лаючы сябе за свой язык, які мянташыў раней, чым тое збіраўся рабіць сам гаспадар. — Канешне, калі княжыч хоча паслухаць, то… — зусім ціха прагудзеў ён і нізка схіліўся перад Альгердам.

— То лепей пойдзем у хату, а то заядуць камары, тут жа побач балотца, — прымірэнча мовіў Вольжыч, асцярожна беручы пад локаць Драмака. — Пойдзем, гаспадзіне, а то ўжо і раса выпала, і нячыстая сіла на паляванне выйшла…

Сапраўды — у счарнелым, як вадкасць з шарыкаў алешыны, небе ўжо вісеў празрысты, як маладзы наліўны яблычак, месяц. Звінелі камары, прагна збіраючы даніну са свежай крыві прыезджых, запахла тванню і раскай, недзе зарагатаў першы Лясун і скуголлем азваліся Начніцы. Са шкадаваннем сачылі пасяляне, як знікаюць у цёплым чэраве хаты постаці лоўчага, княжага дзядзькі і самога княжыча. Назаўтра ж будзе абгаворана кожная спражка на іхніх паясах і плашчах, кожная складка адзежын, і яшчэ на доўгі час хопіць размоваў, і здагадак, і самых неверагодных выказванняў людцаў, якім няма большае асалоды, чым часаць языкі пра вялікіх гэтага свету.

Але найбольш шкадавалі б яны пра тое, што не былі ў хаце, калі б маглі дазнацца, як да самага першага ранішняга крыку пеўня баяў каваль пра дзеі чорных вядзьмарак і пра тых з нетутэйшага свету, каго даводзілася бачыць ягонаму дзеду, бацьку альбо і яму самому.

— Калі адразу пасля Вадохрышча ўзгуляецца завіруха, то ведаеш, што гэта чорт жэніцца з нейкай ведзьмай. Жывуць яны на самай высокай гары ў той мясцовасці, і чарцяка той бывае добрым мужам — носіць сваёй чарцісе ласунак — воўчыя ягады, блёкат, напярсцянку. А перад Купалам дорыць ёй папарàць-кветку.

— А чаго ж тады людцы бягуць у лес шукаць тую папарàць-кветку, калі чорт яе ўжо сарваў? — папытаўся ў час аповеду Драмак.

— А ён на зямлі, на тым месцы, дзе кветку сарваў, след свае рукі — сіні агеньчык — пакідае. Гэтак дзякуе матухне-зямлі за кветку. Вось па тым сінім агеньчыку і пазнаюць, дзе скарб у зямлі закапаны.

— Чаго больш за ўсё баяцца чэрці? Грому. Бо толькі гром іх і можа забіць. Калі, бывае, навальніца застане каго з іх знянацку, то яны ў рыб перакідваюцца і ў вадзе хаваюцца. Усе нашы добра ведаюць — не прывядзі Род і парадзіхі з'есці рыбіну, якую ў час навальніцы злавіў, ды яшчэ калі ў яе чырвоныя вочы. Во адзін бядак-прымак знячэўку, таго не ведаючы, так зрабіў. І вось што з таго выйшла…

Калі ж заспяваў першы певень, будзячы зорку Дзянніцу, паваліліся ўсе спаць на саламяныя сеннікі, а княжыч — на пярыну, бо ў чыстай, для гасцей святліцы стаяў ложак, засланы святочным, з найтанчэйшымі вышыванкамі покрывам.

Салодка спалася на той пярыне княжычу, так салодка, што прачнуўся толькі тады, калі высокае ўжо сонца да-кранулася да ягонай шчакі гарачай даланёй і заіржаў конь пад самымі вокнамі, а дзядзька Нячай ціха паставіў каля ложка адчышчаныя ад чырвонай гліны поршні.

Снедалі хутка, спяшаючыся. Аднак Драмак паспеў прагудзець, з імпэтам налягаючы на жоўты, тлусты, з прысмакам кмену сыр:

— Ніколі не еў такога. Ці то лугі ў вас гэткія, ці то замовы нейкія ведаеце, га?

— Гэта ў яе рукі матчыны, і па-ейнаму, па ейных запаветах усё робіць, — кавалёў твар засвяціўся, ён з любасцю пaглядзеў на дачку, якая спрытна падавала і падавала на стол, мільгаючы то ў дзвярах, то ля печы.

Альгерд жа стараўся не глядзець на яе, каб выпадкова не зазірнуў яму ў вочы ці Драмак, ці, найгорш, Нячай, — баяўся іхніх слоў, якія маглі б абразіць дзяўчынку, а ў ім — пакамечыць нешта пяшчотнае, светлае, як крылцы матылька.

Два навершы дзідаў ляжалі на лаве, адліваючы шызым бліскучым холадам. Востры ліст з тонкім канцом і трохвугольны з літарай «А» пасярэдзіне.

— Не бяры, княжыч, іх, — загаварыў каваль. — Мы з'ездзім да бабкі Жывены, яна загаворыць іх, тады адвязём табе ў Навагародак.

— Лепей аддай іх святару, княжыч! — загудзеў Драмак. — Якая там бабка, невядома, яшчэ нашкодзіць!

— Бабка Жывена не нашкодзіць. Ды яна і не бабка. Яна… яна…

Лозка шукала словы, але не знайшла патрэбных і толькі махнула рукой.

— Ды я сам паеду з вамі да гэтае бабкі, — загаварыў нарэшце княжыч.

Дзядзька Нячай заклапочана зірнуў на яго, паціснуў плячыма:

— Як хочаш.

— Ну і добра! — засмяяўся каваль. — Табе няблага будзе і самому паглядзець на храм. Але ж і стары ён — з пракаветных часоў!

На тым і вырашылі — праз дзесяць дзён, на маладзік, паехаць у храм Асвінаў, што за пятнаццаць вёрст ад тутэйшага селішча, і хай над імі прашэпча старажытныя замовы старая жрыца, чыё імя княжыч чуў упершыню, каб сустракацца з ім яшчэ доўгія гады свайго таксама доўгага, слаўнага жыцця…

Доўгія цені падалі на невялікі двор замка, увесь вытаптаны коньмі да чысціні рысталішча, але бот Гедзіміна, які стаяў ля вузкага акенца вежы, якраз прымяў кусток ведзьмінай траўкі, што нейкім цудам захаваўся тут. І Альгерд чуў пах раздушанага сцябла — а можа, гэта душыў яго строгі позірк бацькі:

— Тая дзяўчына… кавалёва дочка, што, ладная надта?

— Вялікі князь, табе нагаварыў абы-чаго лоўчы.

Каб жа чырвань не пырскала на шчокі, а вочы глядзелі прама і спакойна! Позірк бацькі пранізлівы, як у самога Перуна. Як цяжка схаваць ад яго сапраўдныя пачуцці!

— Тады чаго так пнешся туды зноў?

Гедзімін звыкла схапіўся за правае плячо, размінаючы яго. У вачах — суровасць і старанна схаваны боль. Правы мезенец тырчыць, як абрубак.

— Таму што хачу, каб мая дзіда была самай… самай удалай. А гэтыя навершы — абодва — рабілі на маіх вачах, і яны для мяне ўжо — свае.

Здаецца, князь паверыў. Зрабіў крок насустрач, і прымяты куст ведзьмінай траўкі, вызвалены з-пад ягонага саф'янавага бота, хаця і раструшчаны, усё ж падняў угору такія-сякія пругкія сцябліны, каб жыць далей.

— Можаш казаць мне «бацька».

— Дзякуй, бацька.

— Глядзі толькі — каб ніякіх мне тут, у Навагародку, любошчаў. Мы пакуль тут чужыя. Хаця я і хрышчаны, мяне ўсё

роўна аўкштотам клічуць. Нават да Віценя пры-глядаліся меней, чым да мяне. Я надта чакаў гэтага вя-лікага стала, каб мае дзеці адразу ж, не паспеўшы атабарыцца, хапалі за падалы мясцовых дзявок. Нячай казаў мне — яна Раціборавай крыві? Тху ты, нячыстая сіла!

— Табе не будзе ад мяне клопату, вялікі князь… бацька…

Гедзімін усміхнуўся, пасвятлеў тварам, вочы палагоднелі:

— Ты малайчына. Разумны ў мяне. Не тое што іншыя! Ну, ідзі!

Альгерд пайшоў да брамы, адчуваючы, што ногі ў яго, нягледзячы на тое, што гарачай смугой засцеленая даліна, ледзяныя. І адкуль бацька ўсё ведае, хаця, здаецца, і не сочыць асабліва за сынамі, дае ім волю? Але ж мог і забараніць паездку да… да каваля! Ён прагаварыў гэта сам сабе так хуценька, што тут жа і рассмяяўся — дзе там да каваля! Да яе, гэтай шыракабровай, няскладнай дзяўчынкі з загадкавымі фіялкавымі вачыма! Бацька азначыў яе месца ў свеце гэтак рэзка, што ў ім, Альгердзе, нешта сцялася ад нязгоды, ад смутку. Але ж — нічога ў ім не змянілася, яму хочацца ўбачыць яе — і ўсё. Што тут благога?!

І ён дачакаўся маладзіка, стрымана стукаючыся ледзь не штовечар да вярхоўнага жраца і слухаючы яго цьмяныя, незразумелыя, але апантаныя размовы пра зоркі і іх шляхі.

— Хочаш, спытаюся ў зорак, што цябе чакае? — прапанаваў вярхоўны жрэц.

— Навошта? Мне трэба толькі адно — чаму на маладзік замовы мацнейшыя? Растлумач мне гэта!

— Але каб зразумець мой адказ, княжыч, трэба многае ведаць.

— Ты ж так доўга вучыў мяне…

— Толькі краёчку Вялікіх Ведаў.

— Тады дай мне яшчэ шчопцю…

Вялікі жрэц разумеў, што княжыч зачапіўся — таксама яшчэ краёчкам свайго пурпуровага суконнага карзна — за вялікую загадку быцця, што кроў у ім, падпарадкоўваючыся нязменным законам, пачала бурліць ад чакання і надзеі, цьмяных і яшчэ не акрэсленых. І ён гаварыў не толькі пра зоркі — ён казаў аб багах Лелю і Любчыку, а таксама Лялі, што мацнейшыя нават за самога Перуна. А калі Альгерд ішоў да сябе, яго спыняў святар князя Яраслаў і шаптаў, ідучы па доўгім цёмным калідоры, што хрысціянін адрозніваецца ад язычніка перш за ўсё па ягоных адносінах да жанчыны.

— Не хапаць яе, нібыта дзікі звер, і цягнуць у гушчар, каб там, захлынуўшыся асалодай, пасля забыцца на тую дзяўчыну і, спазнаўшы слодыч, шукаць яшчэ і яшчэ. Не! Толькі замацаваўшы свой саюз на нябёсах, мець права на нашчадкаў, бо, зачатыя ў граху, яны адпакутуюць па віне бацькоў яшчэ ў гэтым жыцці!

Часамі Альгерд ледзь стрымліваўся ад таго, каб тут жа не ўзляцець на скакуна і не паімчацца ў запаветнае селішча. Але ведаў — княжычу нельга паддавацца пачуццям, яму ў будучым належыць рупіцца за іншых, адказваць за іх. А значыць, умець чакаць. Аб тым гаварыў яму і бацька. Праўда, ведаў княжыч, што, калі вялікі гнеў авалодваў Гедзімінам, забываўся той на мудрыя выслоўі, бываў жорсткім і нястрымным. Таму і баяўся, каб не загневаўся бацька на каваля і яго дачку — маўляў, спакушаюць княжыча, спадзяюцца зачапіць яго сэрца! Таму і стараўся, каб не выдалі яго ні вочы, ні твар, каб супакоіўся бацька і не загадаў цікаваць за ім якому віжу.

Як ні цягнуліся дні, але ішлі яны ўсё ж да самага запаветнага.

На досвітку данесліся коні ў селішча, а там, дапоўнены кавалём і ягонай дачкой, паскакаў невялікі атрад коннікаў да пракаветнага храма Асвінаў, дзе чакала іх старая жрыца і куды загадзя былі прывезеныя запаветныя дзіды.

На паваротцы каля дзвюх таўшчэзных бяроз спыніў коней Вольжыч.

— Далей трэба пешшу. Не варта таптаць зямлю, рабіць ёй балюча.

Драмак нешта загудзеў сабе пад вусы, але спатыкнуўся аб цяжкі позірк княжыча, замоўк. Дзядзька ж Нячай спакойна аддаў павады слузе Лотышу, узяў толькі з вышытай торбы, прымацаванай да сядла, меншую торбачку з манетамі. А княжыч адразу ж паімкнуўся наперад за Лозкай, якая паляцела за бярозы так радасна і лёгка, нібыта на спатканне да любай і дарагой істоты.

Храм быў відзён адразу за паваротам — вялізная чорная крушня камянёў, неяк нібыта бесталкова наса-джаных адзін на адзін. Альгерд ажно спыніўся.

— Гэта — свяцілішча?!

— Яно было некалі падпалена, яшчэ пры Войшалку, і камяні як сталі тарчма, так іх і не ўдалося назад паставіць. Але сіла ў храма засталася, — адразу, нібыта чакала гэтага пытання, заспяшалася Лозка.

— Глядзі, княжыч — адно слова валадара, і што могуць зрабіць з храмам людзі! — гукнуў ззаду і каваль Вольжыч. — Не кажы такога слова не падумаўшы!

— А ты не вучы княжыча, халоп! — адразу ж пакрыўджана загудзеў Драмак, і ягоны нос заторгаўся, як дзюба ў качкі.

— Сціхні! — абсек яго Нячай, і лоўчы зноў змоўк, толькі незадаволены твар яго прыкметна торгаўся. Сачыў ён за кожным крокам княжыча і каваля, каб пры патрэбе перадаць усё вялікаму князю, і Альгерд непрыязна заўважаў тое. Аднак ён крочыў, нібыта не звяртаючы ўвагі ні на кога, засяроджаны на тым, што ўбачыць ён у старажытным храме.

Чыстая, пасыпаная пяском дарожка вяла да брамы. Бярозы, роўна пасаджаныя па яе баках, не маглі захіліць ад дапытлівага вока княжыча панылай, з няроўнымі дрыгвяністымі купінамі нізіны.

— Прабабка мая кажа, што тут некалі было чысцюткае возера. І нібыта называлі яго Менцяззю, — прагаварыў каваль. Пясок пад ягонымі поршнямі амаль не скрыпеў — як і ў Драмака, і па гэтай прыкмеце можна было пазнаць у іх вопытных паляўнічых, якія прывыклі нячутна ісці па лесе, каб не напалохаць звера.

Альгерд жа, як ні стараўся, не мог пазбавіцца гучнага шоргату пад нагамі, які, здавалася, пераварочваў цішыню вакол, — цішыню нейкую асаблівую, чуйную, нібы сама яна слухала прышлых і цікавала за імі.

Храм быў абгароджаны, але брама расчыненая, і ніводнае душы не было наўкол. Толькі вялікі металічны Пярун моўчкі пазіраў на даліну — яго вочы былі скіраваныя па-над галовамі наведвальнікаў ды цёмна, страшна глядзела вырачанымі вачыма Мара, багіня смерці. Постаці іншых багоў бачыліся ззаду, за храмам, дзе стаяў меншы храм у выглядзе каменнага трохкутніка і дзе толькі пільнае вока магло заўважыць выразаныя там дзверы.

— Усе служкі ў храме, княжыч, — папярэдзіў Вольжыч. Але тут жа яны ўбачылі, як з драўлянай хаты ля храма таропка выйшаў жрэц у белай доўгай кашулі і з пуком чырвоных кветак у руцэ. Ён пляснуў у далоні, і адразу ж з дзвярэй храма выйшлі яшчэ жрацы — у кожнага ў руках быў вянок, і яны паспяшаліся наперад, каб схіліцца перад кожным госцем, надзець на яго вянок і завесці ў прасторны пакой перад галоўным свяцілішчам, дзе сядзеў на драўляным разьбяным крэсле галоўны жрэц.

Ён — не стары яшчэ, брыты* мужчына ў кашулі, аблямаванай залатымі палосамі, з залатым медальёнам-змеевікам на шырокіх грудзях, таксама пачціва схіліўся перад княжычам, а на галовы астатніх гасцей толькі ўсклаў свае шырокія далоні і

* Брытымі былі язычнікі, хрысціяне ж павінны былі насіць бараду.

злёгку націснуў. Драмак здзіўлена вырачыў вочы — яго галава, што гула, нібыта дзежка, якую распірала рошчына, адразу ж праяснілася, вочы ясна зірнулі на свет.

Княжычу таксама давялося здзівіцца, калі ім падалі ў жалезных, тонка каваных чашах-брэцьяніцах светлую жаўтаватую вадкасць з рэзкім пахам грыбоў. Ён грэбліва дакрануўся вуснамі да пітва — змалку не любіў грыбоў, але жрэц ласкава кіўнуў галавой, падбадзёрваючы, — і Альгерд адчуў, як перастала ныць костка на паясніцы, што выцяў ён тры тыдні назад, гакнуўшыся на ўсім скаку з каня, і суцішыўся гэты боль імгненна. Заблішчэлі вочы і ў Нячая. Адна толькі Лозка не дакранулася да пітва — яна, як маладое нецярплівае шчаня, прыскоквала на крэсле і ўсё глядзела на вялікія бронзавыя дзверы з вялікімі колцамі, яшчэ зачыненыя, адкуль плыў незнаёмы, але прыемны дым, блакітнымі пісягамі расплываючыся наверсе, пад столлю, дзе праглядаліся на паўсцёртых фрэсках выразныя, праніклівыя вочы Вялеса, Сварога, Рода.

— Абрад будзе тварыцца заўтра, на дасвецці, — папярэдзіў іх вялікі жрэц. — Сёння вам належыць ачысціцца, падумаць над сваім жыццём, над тым, чаго вы хацелі б прасіць у багоў.

— Прыгожай жонкі, каб не грызла штодзень, як пацучыха, — шырока ўсміхаючыся, заявіў раптам Драмак.

— Высокай хаты са святліцай, дзе былі б кнігі і дзе мог бы я схавацца ад уладароў, іхніх прыдзірак і іхняе ласкі, — прагаварыў, як у сне, Нячай.

— Шмат медавухі, і каб не паўзлі ў сны забітыя мною людзі, — прашаптаў Вольжыч.

Альгерд глядзеў на іх шырока расплюшчанымі вачамі і раптам адчуў, як міжволі заварушыўся ягоны ўласны язык:

— Каб я мог застацца з ёю толькі ўдваіх…

Толькі Лозка не сказала нічога, адно глядзела на дзверы, і Альгерд не паспеў патануць у пякучай хвалі сораму ад таго, што вымавіў самае запаветнае.

Расчыніліся дзверы, і яны ўбачылі вялікую паўцёмную залу, адкуль нібы выплыла постаць прыгожага русавалосага хлопца ў белым і паказала, каб яны ўвайшлі.

Нізкі гук меднага біла прымусіў іх уздрыгнуць, а вецер, што цёплай духмянай хваляй штурхануў у плечы, высока ўзняў празрыстыя заслоны ў глыбіні залы. І яны ўбачылі дзве медныя постаці прыўкрасных юнакоў у вянках, з вачыма — сінімі каменьчыкамі — і з усмешкамі на чырванавата-жоўтых, вельмі выразных тварах, па якіх прабягалі дробныя дрыжыкі-цені, робячы іх жывымі.

— Пакладзі руку, княжыч, вось сюды, — ціха сказаў русавалосы юнак-жрэц, беручы Альгерда за руку. Ён сціснуў яе і лёгка прыцягнуў да статуі аднаго з багоў, што трымаў рукі перад сабой далонямі ўверх. Альгерд, які міжвольна чакаў халоднага дотыку, падзівіўся — бог быў цёплы і нібыта жывы. Прынамсі, рука княжыча, здавалася, адчувала, як штурхаецца руда — кроў аднаго з Асвінаў: спакойна, упэўнена, лёгка. І яму раптам таксама стала невыказна спакойна і лёгка, і ягоная ўсхваляваная кроў таксама нібыта запаволіла свой бег, увайшоўшы ў рытм чужы і больш магутны, больш уладны… Карціны ўласнага жыцця, уласнай будучыні пабеглі перад ім, нібыта выразаныя старажытнымі рунамі на дубовым камлі. Ён зразумеў, што будзе жыць доўга, не згіне ў хуткаплынным часе нікім не заўважанай пясчынкай, і застыў, захлынуўся ў гэтым несказана шчаслівым імгненні…

Калі яны ішлі з храма, усе маўчалі — мусіць, кожны перажыў нешта сваё, толькі аднаму яму бачнае і зразумелае. Іх павялі міма маленькага храма-трохкутніка, у доўгую, як стадола, хату, дзе ў чыстай, прыгожай святліцы на стале, накрытыя ручніком з двума вышытымі на ім юнакамі і дзяўчынай паміж імі, ляжалі хлеб, мёд і сыр. Госці моўчкі ўселіся за стол.

Зарыпелі дзверы ў дальнім кутку святліцы. Увайшла жанчына.

Яна нават не ўвайшла, а ўзнікла ў цёмным праёме, нібы ў жаночы абрыс вокамгненна згусцілася само паветра, наскрозь пранізанае сонцам і цяплом летняга дня.

Між тым яна была старой — настолькі, што праз белую доўгую кашулю, абвешаную мноствам сярэбраных, медных і жалезных ланцужкоў з брынклівымі бомамі, здавалася, прасвечвалася яе плоць, станчэлая, як кляновы ліст, а доўгія сівыя валасы, што ляжалі на плячах, падаваліся белымі крыламі, што струменліва ахіналі яе да самых каленяў. Маленькі, з кулачок, твар здаўся не чалавечым, а дзіўным, нейкім нават страказіным — можа, ад таго, што на ім, жоўтым і ссохлым, гарэлі адны толькі вочы. Нязвыклым было іхняе адценне, але яно адразу выдала яе роднасць з Лозкай — фіялкавы, з нейкай цёмнай глыбінёй колер быў той жа, што і ў дачкі каваля. Сустрэўшыся з імі поглядам, першы, як бы падняты нейкай сілай, устаў Нячай, за ім ускочыў, як апечаны, Лотыш. Драмак, не могучы адразу выцягнуць цяжкія, неслухмяныя ногі, узгорбіўся над сталом нязграбнай глыбінай. Вольжыч жа і Лозка паспяшаліся да жанчыны, упалі перад ёй на калені, а яна, ласкава пагладзіўшы абодвух па галовах, лёгкім узмахам рукі як бы ўзняла іх і паказала, каб яны селі за стол, да якога яна

падышла якраз з таго боку, дзе, з цяжкасцю, але ўтрымаўшыся на месцы, сядзеў і спакойна глядзеў на яе Альгерд. Яна зазірнула яму ў вочы — шэрыя з зеленаватым адценнем, яны глядзелі на яе з цікаўнасцю, але без страху. Іх погляды скрыжаваліся, але толькі на адно імгненне. Ён усё ж адвёў вочы, адвярнуўся, але яна асцярожна, з ціхай пяшчотай, павярнула галаву княжыча да сябе. Дзіўна — не тленам пахла ад яе, але настоем руты і яшчэ нечым духмяным, нібыта… нібыта ад зуброўкі. Яна раптоўна падалася Альгерду вузкім, серабрыстым сцяблом той амаль казачнай, рэдкай травы, якая вылечвае нават магутных зуброў, што шукаюць яе па пушчы, як ратаванне.

— Тураня не баіцца аленя. А ты тур, мой хлопчык, ты валадар.

Голас быў нечакана глыбокі, як у моцнай, маладой яшчэ жанчыны. І гарэла на сівой галаве чырвоная стужка з шоўку.

— Валадар мой бацька, вялікі князь Гедзімін. А я толькі адзін з яго сыноў.

Яна ціхенька засмяялася, і бомы забрынькалі на яе кашулі. Ён убачыў сярод іх дзівосны залаты медальён з выявай мужчыны ў кароне.

— Але які сын! Я рада, што ты прыйшоў у наш храм, княжыч.

Яна пасунула да сябе хлеб, прачытала кароткую малітву. Шапаценнем гучалі яе словы, не ўсе з іх былі зразумелыя. Але павявала ад іх не грознай сілай, якую адчуваў княжыч пры замовах вялікага жраца, а лёгкай і радаснай дабрынёй, ад якой нібы ўзмацнялася цела. Можа, ад таго і хлеб, і сыр еліся з такім смакам, якога не адчуваў княжыч у палацы, дзе чаравалі над княскаю ежай лепшыя кухары вялікай зямлі. Старая ж жанчына толькі дакранулася да хлеба і паклала ў рот хіба некалькі крошак. Пасля лёгка ўстала і, пакланіўшыся ўсім, пайшла да дзвярэй. І зноў адбылося тое ж самае — у цёмным праёме яна нібыта адразу растварылася, знікнуўшы гэтак жа раптоўна, як і з'явілася. А іх развялі па святліцах, дзе стаялі жоўтыя драўляныя ложы, пакрытыя коўдрамі з лёгкага пуху, дзе, мабыць, чараваў сам Бай — толькі лёг малады княжыч пад коўдру, як адразу нібы праваліўся ў мяккую, цёплую дрымоту, а пасля і ў сон, які быў таксама лёгкім і радасным.

Ноччу Альгерд раптоўна прачнуўся, як ад штуршка.

Празрыстая кісяя на акне не магла схаваць жоўты пазногаць месяца, нібы чыясьці вялікая рука там, за цёмна-сінім полагам неба, трымала ўвесь гэты свет. Так трымае торбачку, дзе мітусіцца жменька дробненькіх мурашоў, сам чалавек. Ложа пад

юнаком стала цвёрдым, як бы выштурхоўваючы яго, гонячы некуды. Ён падняўся, пайшоў у калідор, дзе цёмныя імклівыя цені бесперастанку слізгацелі па светлай бурштынавай падлозе, ярка асвет-ленай маладзіком, і дзе было самотна і пустэльна. Ноч клікала яго да сябе, таму ён, як быў — басанож, у белых палатняных портках і расхрыстанай кашулі, — патупаў на высокі прасторны ганак і спыніўся на прахалодных тоўстых падвалінах паміж разьбяных слупоў з выявамі багоў. Яны цікавалі за ім — бліснулі ў месяцовым святле вочы не то Лялі, не то Мокашы, пракаціўся па вярша-лінах соснаў вецер, фыркнуў вожык у траве і, зачмыхаўшы, пабег далей. Вузлы сасновага карэння, што вытыркалася каля самага ганка, напружыліся, як жылы воя, і сэрца хлопца вухнула, сыпанула іскрамі, як кавалак распаленай крыцы пад кавадлам: ззаду пачуўся шэпт, і шэпт той належаў Лозцы:

— Гэта ты, княжыч?

— Не, гэта Дзедка*, — хацелася яму сказаць насмешліва, але язык не падпарадкоўваўся розуму, і ён, імкліва павярнуўшыся, толькі кіўнуў галавой.

Яна стаяла, стрункая, нібы выразаная з мяккай ліпы юная Мокаш — цёмныя валасы па плячах, скуласты твар, а галоўнае — непахісная рашучасць нешта тварыць і абараняць, якою дыхала ўся ейная постаць.

— Я думала, цябе пабудзілі Начніцы.

— Яны не зачэпяць мяне.

Вусны яе падціснуліся:

— Таму што ты княжыч?

— Таму што нас абараняе твая прабабка. Ці не так?

Яна расслабілася, засмяялася, імкліва скокнула да слупоў, села на краёчку ганка, звесіўшы ногі ўніз. Ён падышоў, асцярожна прысеў побач. Сэрца яго шалёна калацілася. Яе тонкая рука, падобная да лапкі звярка, учэпіста трымала край ганка, нібы дзяўчынка гатовая была імгненна саскочыць і бегчы некуды наперарэз небяспецы. І гэта дадавала яму невыказнай любасці да яе.

— Тваё сэрца… Я чую яго, княжыч.

— Праўда?

Ён пасунуўся бліжэй, але яна трохі адсела, як спалоханая птушка. Пасля збянтэжана і як бы апраўдваючыся загаварыла:

— Не бойся. У гэтым свяцілішчы цябе любяць.

— Чаму? Таму што я княжыч?

* Персанаж беларускай міфалогіі.

— Таму што нас абараняе мая прабабка.

— Яна і праўда вялікая жрыца. Дзядзька Нячай дасюль уставаў толькі перад вялікім князем. А тут… Якая ў яе сіла!

— Гэта не сіла, а любоў. Яна любіць усё — траву і вецер, усход і кожнага чалавека, які прыйшоў на зямлю. Так яна гаворыць.

— Нават злодзея? Гіля? Забойцу?

— Яна кажа, што ў чалавеку закладзена ўсё тое, што ёсць ва ўсім свеце. І трэба ўмець выклікаць у кожным не цёмнае, а светлае. Тады цемра адступае. І зло будзе пераможана.

— Чаму ж жрацы Асвінаў не адхілілі зла ад сябе? Вунь як разбурана свяцілішча — яго сапраўды немагчыма аднавіць. І, відаць, нельга тут праводзіць усе, якія трэба, старажытныя абрады.

— Мабыць, так. Але яна кажа, што зло бывае такое магутнае, што яго можна адхіліць толькі такой жа магутнай чысцінёй. На жаль, гэта не заўсёды магчыма. Жрацы таксама людзі. І ёй давялося зведаць многа зла. Таму яна тут не вялікая жрыца, а толькі памочніца. Яна прыходзіць, калі ёсць у ёй патрэба.

— Значыць, гэта з-за цябе з бацькам яна прыйшла, а не дзеля мяне?

— Ты спадабаўся ёй, ты ж сам гэта заўважыў.

— Спадабаўся, таму што я княжыч?

Ён сказаў гэта і змоўк. Здагадаўся, што і яна заўважыла тое: не страху навакольных хацелася яму, а іхняе павагі і шчырасці. Але бацька ўвесь час паўтараў, што іх не любяць тут, на новым стале, бо прыглядаюцца гордыя навагародцы, параўноўваюць новага князя з тымі, хто быў тут раней, — Міндоўг і Войшалк, Віцень і Трайдзень. І хаця Гедзіміна нездарма называюць вялікім воем, усё ж кожны яго сын і дачка навідавоку, усё, што будзе сказана і зроблена імі, сапраўды не раз яшчэ адгукнецца пасля…

Лозка адчула, што ён не проста так задаў ёй гэтае пытанне. І з жаночай перасцярогай, якая ўжо магутна прачыналася ў падлетку-дзяўчынцы, адказала ціха:

— Яна не зважае, хто перад ёй: чалавек на троне ці просты смерд. Яна кажа, што вартае толькі тое золата, што ў душы. І ты праўда спадабаўся, таму што ты… ты іншы. Не падобны да…

Яна змоўкла, шукала словы. І ён амаль груба падштурхнуў:

— Да майго бацькі? Ці да Віценя?

— Проста...

Яна як кінулася ў ваду:

— Да сына вялікага князя. Да ўладара, які можа забіць кожнага, каго захоча. Ты не хочаш забіваць. Гэта ж адразу бачна.

І не дала яму запярэчыць:

— Ты таксама добры вой. Гэта ўсе кажуць. Але ты і праўда іншы.

Яму было лягчэй быць з ёю грубай. І таму ён, не даючы сабе разняволіцца, схапіў яе за руку — худую, тонкую, падобную да заечае лапкі, якую бачыў перад сабой усе гэтыя доўгія-доўгія дні і ночы там, у Новагародку. Схапіў — і як апёкся, застыў, схіліўшыся як ад невыноснага болю, — такім вострым было пачуццё здзейсненага жадання. Тады спалохалася яна:

— Што з табой, княжыч!

Ён маўчаў, схіліўшыся над яе рукой. Здавалася, магутныя сілы круцяць яго, шпурляюць у бездань, і толькі гэты цёплы, мяккі, такі жаданы дотык ратуе ад небыцця. Тады, нечакана для сябе, хлопец заплакаў.

І яна, ахопленая вялікім шкадаваннем, нібы зразумела ўсё і, пасунуўшыся амаль да ягоных каленяў, абняла яго — як дарослая, як маці. Ён уткнуўся ў яе грудзі, у Жытнюю Бабу, вышытую там, адчуўшы тварам кожны шывок на палатне, і адчуў сябе маленькім хлопчыкам, які аднойчы спалохаўся маланкі і прыбег да нянькі, а тая падхапіла княжыча на рукі і гэтак жа пяшчотна абняла, прытуліла да сябе.

Імгненне доўжылася бясконца, так што гучны крык пеўня, што абвяшчаў усход першай ранішняй зоркі, як штурхануў абаіх адно да аднаго. У прывідным святле блізкага дня ён убачыў, аднак, што яе вочы, цяпер бяздонна-цёмныя, ззяюць святлом і шчасцем. Тады ён, сам не зводзячы з яе вачэй і нібы патанаючы ў іх, наблізіўся да яе твару і здзівіўся, што вусны Лозкі не гарачыя, а, наадварот, прахалодныя, як бывае прахалоднай крынічная вада ў гарачы дзень, калі п’еш яе пад алешынай, у кустоўі…

Зноў прабегся вецер па вяршалінах соснаў, у калідоры пачуўся лёгкі тупат, і дзяўчынка, сапраўды нібы спалоханая птушка, зляцела з ганка, імкліва шуснула ў вільготную цемру лесу. На ганак, пацягваючыся, выйшаў дзядзька Нячай.

— Не дагледзеў я, як ты выйшаў, княжыч. Дрэнны я слуга — заснуў, як той дзік.

— Я ўжо не дзіця, — з прыкрасцю адрэзаў Альгерд. — Ідзі дасынай.

— Сам бачу, што не дзіця, — Нячай падабраў нешта са слупа, працягнуў Альгерду. — Мабыць, вавёрка табе прынесла. На.

Стужка з касы Лозкі, пунсовая ад чырвонай паласы на ўсходзе, слізганула па руцэ Альгерда, запаліла яго шчокі тым жа зіхоткім румянкам. Ён моўчкі сціснуў яе ў кулаку і амаль пабег у святліцу. Ды, упаўшы зноў у ложак, моцна заплюшчваючы

вочы, усё ўзгадваў тое, што адбылося, нібы кропля за кропляй смакаваў доўгія і адначасна бліскавічныя імгненні свайго першага пацалунку.

І ўсё ж яго амаль адразу ж паднялі. Нізкі, працяжны гук паволі паплыў над храмам, над святліцай, і дзядзька Нячай, увайшоўшы, падаў княжычу конаўку з вадой, поршні, а таксама шаўковую верхнюю кашулю і аксамітавыя порты.

— Клічуць у свяцілішча, — коратка сказаў ён, прыбіраючы конаўку пасля таго, як Альгерд абмыў твар і шыю. Дзядзька ж абгарнуў босыя ногі княжыча палатнянымі анучамі, нацягнуў на іх поршні, шчыльна перавязаў тонкімі скуранымі раменьчыкамі, у той час як ягоны выхаванец касцяным грабеньчыкам прычэсваў русыя кудзеры, спяшаючыся скончыць штодзённы, абрыдлы рытуал.

На гэты раз іх павялі ў храм-трохкутнік. Дзіва — яго ўсходняя сцяна знікла, увесь ён быў адкрыты сонцу, якое вось-вось павінна было ўстаць над лесам. І за самай рысай сцяны, якой не было, на чорным валуне ляжалі два бліскучыя навершы для дзідаў.

— Зброя не можа знаходзіцца ў храме, — шапнула Лозка, якая нячутна ўзнікла за шырокімі плячамі бацькі, што стаяў, засяроджана гледзячы перад сабой, трохі далей ад княжыча і ягоных слуг. Драмак, набычыўшыся, таксама ўвесь як бы засяродзіўся на сабе, сваіх думках, толькі Нячай зырка, сцярожка, як лясны звер, непрыкметна агля-даў усё навокал.

Зноў загуло біла. І ў тую ж хвіліну наперадзе іх, там, дзе павінна была быць сцяна, пагойдваючыся, апусцілася зверху пліта, на якой стаяла старая жрыца ў тонкай белай сукні з медным абручыкам на доўгіх сівых валасах. І не паспелі госці здзівіцца, як сонца пырснула промнямі, яны зазіхацелі на медным абручыку, на прымацаваным да яго медальёне і, пераламаўшыся, упалі ўніз, проста на бліскучыя навершы. Тады жрацы, што стаялі ў храме, пачалі ўрачысты напеў, у якім не было ніводнага знаёмага слова, і разам з тым кожнаму здалося, нібыта ён недзе некалі чуў гэтыя словы. У іх галасы ўплёўся звонкі, на-дзіва малады голас старой жанчыны, якая паўтарала напеў, звернуты да Асвінаў. А праз хвіліну, калі сонечнае святло стала хутка перасоўвацца па ейнай постаці ўніз, з бакавых пазоў папаўзлі да сярэдзіны цяжкія пліты з невядомага чорнага каменю, утвараючы такую ж сцяну, як і дзве астатнія. Пліта імкліва паднялася, і старая жрыца знікла недзе наверсе гэтаксама таямніча, як і ўзнікла. А ля ўвахода высокіх гасцей ужо чакалі два русавалосыя юнакі ў шаўковым чырвоным адзенні, падпяразаным вышытымі пасамі. На ручніках, што яны трымалі перад сабой, ляжалі два навершы.

— Ты павінен выбраць толькі адно з іх. Другое будзе ляжаць у нашай скарбніцы як твой дар, — сказаў старэйшы.

Альгерд працягнуў руку. Ён не вагаўся. Наверша, зробленае Лозкай, павінна быць з ім. І толькі з ім. Ён узяў халодны бліскучы ліст, перадаў Нячаю, і той разам з ручнікам схаваў яго ў торбе.

Каваль з прытоенай радасцю паглядзеў на дачку:

— Затое маё будзе ў жрацоў.

Яна не адказала. Глядзела на княжыча, і фіялкавыя яе вочы свяціліся так, што адзін з юнакоў глянуў на яе больш уважліва, чым раней, і не пераставаў сачыць за дзяўчынай, ажно пакуль не перадаў іх старэйшаму, які і павёў гасцей у ранейшую хату-лажніцу, дзе накрыты стол на гэты раз быў і багаты, і шчодры.

Але старая жрыца прыйшла да іх толькі перад самым ад'ездам. Яна працягнула княжычу пояс-абярог. Па ўсёй карычневай яго скуры былі выціснутыя таямнічыя знакі і літары. Альгерд толькі паспеў разгледзець знаёмыя яму выявы сонца і месяца, як яна аперазала яго і зашпіліла пояс спераду. Тонкая і вузкая, яна і сапраўды нагадвала яму сцябло зубрынае травы, і пахла ад яе тым жа водарам. Бязважкія рукі яе трохі дрыжалі, але на жоўтым і сухім твары ззялі маладым святлом фіялкавыя вочы, і зноў цёпла і лёгка стала княжычу.

— Я прыеду сюды зноў, — шапнуў ён старой жанчыне. Але яна, гледзячы яму ў зрэнкі, адмоўна пахітала галавой і чамусьці спачувальна правяла даланёй па ягонай шчацэ. Так, яна пазірала на яго са спачуваннем, а на юную сваю праўнучку не глядзела зусім, але адчуў княжыч не сэрцам, а ўсёй сваёй істотай, што шкадаванне і нейкая шчымлівасць накіраваныя і на Лозку. І гэта, ужо калі далёка ззаду засталіся і храм, і селішча, спачатку мучыла яго, прымушала шукаць прычыны трывогі і самотнасці жрыцы Асвінаў. Аднак радасць ад начы, калі яны з Лозкай сядзелі плячом да пляча, ад першага светлага іх пацалунку перамагла ўсе трывогі, і ён ужо думаў пра наступныя сустрэчы, шукаў прычыны, каб пабачыцца з дачкой каваля Вольжыча.

Ды праз тыдзень пасля таго, як прыехалі яны з храма і Альгерд зноў збіраўся ў знаёмае і дарагое ўжо селішча, прыйшла чорная вестка — крыжакі напалі на княства і вялікі князь аб'явіў Пагоню.

І ўвесь свет нібы закруціўся вакол гэтага — войска вялікага магістра Карла Трырскага ідзе на Коўна, Гедзімін шле ваяводу Гаштольда на дапамогу жамойтам, князь Полюш, што вядзе войска на Навагародак разам з двума сваімі памочнікамі Драйкам ды Свідрылам, аб'яўляецца князем Навагародскім, і магістр

абяцае ўсім, хто падтрымае ягоных стаўленікаў, сваю любоў і сяброўства. І ў Альгерда, як і ў іншых сыноў, шчыміць сэрца, калі ён чуе ў ліповай зале вежы Шчытоўкі ў замку горкія словы бацькі, вялікага князя Гедзіміна:

— Дзеці мае, я гадаваў вас не для таго, каб вы дымам пайшлі на ахвярніках Полюша альбо галовы вашыя віселі на сценах замка Людовіка Брандэнбургскага*. Мне сябе не шкада — шкада вас, бо вы — яблыневы цвет саду, які я даглядаў усё жыццё, песціў яго і ахінаў у замаразкі…

Ажно не верыў сваім вушам Альгерд, ды і Кейстут таксама глядзеў на бацьку, як на дзіва, ажно раскрыў рот, калі слухаў, і выгляд у яго быў такі, што Альгерд не вытрымаў, ціха сунуў мезенец у рот брату, і той схамянуўся, а Манівід зыркнуў на іх, як на блазнаў, і падцяў вусны Нарымунт. Пасля той нарады ў замку вялікі князь разаслаў сыноў па ўсіх землях, каб яны самі назіралі за падрыхтоўкай да паходу, бо баяўся Гедзімін здрады і не хацеў даверыцца намеснікам, што, нячыстая на іх сіла, маглі прысягнуць і Полюшу, якога падтрымлівае сам імператар. Альгерду выпала ехаць у Крэва, і ён разам з дзядзькам Нячаем і Драмаком ездзіў па селішчах і глядзеў, колькі баявых сякер, дзідаў ды мячоў маецца ў войску, ці ёсць у крэўлян ручніцы, а віж Камар дзень і ноч шмыгаў паміж людцамі, піў з імі ў піўных каморах і вынюхваў, ці не спее дзе здрада.

Лозка снілася начамі — фіялкавыя вочы пад шырокімі брывамі набліжаліся да яго твару, салодкія вусны дакраналіся да вуснаў — ён ускокваў, пасля зноў кідаўся на ложак, часам трызніў, так што дзядзька Нячай загадзя ставіў конаўку з вадой ля ложа маладога княжыча. Праўда, часам даводзілася спаць і ў зямлянках, асабліва па тых селішчах, якія два-тры гады таму былі спаленыя крыжакамі і яшчэ не адбудаваліся. Спаць наверсе пабойваліся — хто ведае, што можа прыйсці з цемры: варожая страла, гадзюка, кінутая на скуру, альбо і Ліхаманка з Трасяніцай, бо вакол балоты. А ў іх нечысці, як на баляванні ў замку…

Калі ж вярнуліся яны зноў у Новагародак, даведаліся — ваяводу Гаштольда паланілі разам з тымі воямі, што засталіся жывымі, замак у Коўне спалілі разам з жыхарамі.

— У паход!

Гэтымі словамі вялікага князя поўніўся Новагародак. У горадзе не было дзе пераначаваць таму, хто не быў воем: усе каморы перапоўненыя, усе рамеснікі, апроч хіба ювеліраў, не

* Сын імператара.

разгінаюцца ад цяжкае працы — шыюцца поршні і боты, сёдлы і вупраж, вухкаюць у кузнях кавадлы, і выкочваюцца адтуль то колы для фурманак, то круглыя тарчы для самых багатых. Тым, хто бяднейшы, дастаюцца пляцёнкі, абцягненыя скурай, і плыве па ўсім горадзе пах кісляціны і смуроду. Мокнуць у чанах скуры, з якіх гарбары робяць шчыты, — а яшчэ смаляна пахнуць дошкі, з якіх бондары майструюць бочкі для правіянту.

Апошні вечар перад паходам уся княская сям'я правяла, разам са знатнымі баярамі і панамі-радай, у царкве святых Барыса і Глеба. Маленькая драўляная замкавая цэркаўка святой Багародзіцы не магла змясціць усіх. Таму вырашана было маліцца за перамогу там, дзе некалі хрысцілі Міндоўга і Войшалка, куды ўпершыню прыехалі жамойты і аўкштоты як васалы.

Вапняковыя туфавыя сцены з кавалкамі каляровай плінфы былі ярка асветленыя мноствам васковых свечак, строгія твары святых глядзелі адрачона, неяк адчужана. Халоднай была маёлікавая падлога, уся ў прыхаматлівых узорах, складзеная з прамавугольных і трохкутных паліваных плітак. І шчымліва-балюча адчуў Альгерд, што тут, у Навагародку, сапраўды нялёгка бацьку, таму што вострыя позіркі навагародцаў, як толькі зайшлі ў царкву княскія сыны і дочкі, нібы шыламі пракалолі іх — ці здольнае племя Гедзімінавае абараніць Княства? Адчуў хлопец — усім сэрцам і душой — і вялікі, невыносны цяжар улады. Памыляцца бацька і ягоныя ваяводы, ляжа ў нейкай даліне ці на полі не толькі ён адзін: крывёю захлынуцца і гэтыя людзі. Не толькі іх загорне багіня смерці Марэна сваімі чорнымі крыламі: крыжакі, уварваўшыся ў горад, пасякуць іхніх дзяцей і жонак, бацькоў і сваякоў…

Уначы ж княская сям'я пайшла і на капішча Перуна, што месцілася ўнізе, пад замкам, на беразе рэчкі, і там жрацы ў вострых каўпаках, з медальёнамі-змеевікамі на шыях таксама маліліся за перамогу, толькі замест свечак ярка асвятляла свяцілішча ахвярнае вогнішча ды замест харугваў з выявамі святых віселі харугвы з родавым гербам Гедзіміна: узнятыя ўверх калоны-слупы.

Перад самым ад'ездам злавіў Альгерд употай ад ня-дрэмнага дзядзькі Нячая віжа Камара, які заставаўся ў замку, і папрасіў яго патаемна аддаць дачцы каваля Вольжыча ў селішчы Буданы маленькі скрутак. Там быў вялікі сярэбраны медальён з Гедзімінавым гербам і імем Альгерда ўнізе. Яго некалі падарылі малому княжычу ў Коўне.

— А што сказаць ёй? Самой той дзеўцы Лозцы? — маленькія цікаўныя вочкі Камара свідравалі княжыча. Ды Альгерд, хаця

і палыхнуў румянкам, адказаў спакойна, уладна гледзячы на віжа, так што той у рэшце рэшт са-гнуўся ў ліслівым паклоне:

— Нічога. Яна ўсё ведае сама.

Наверша, выкаванае Лозкай, было насаджана на ясеневае дрэўка, і гэтую дзіду везлі ў асабістай фурманцы княжыча разам з баявой сякерай і мячом, а таксама ягонымі рэчамі — карзном, кашулямі і ботамі. Былі і два асобныя пакункі — адзін з усім, што надзяваецца на чалавека пры пахаванні, — смертнае, і другі — для балявання пасля магчымай і жаданай перамогі. На прывалах Альгерда нястрымна цягнула да свае павозкі, ён строга загадваў Нячаю, каб не згубілася яна сярод сотняў такіх жа фурманак, у якіх везлі зброю, пітво і ежу. Нячаю гэта не падабалася, але ён мусіў слухацца строгага загаду, і таму княжыч мог час ад часу браць у рукі запаветную дзіду і, дакранаючыся да жалезнага бліскучага наверша, падобнага да вострага ліста арэшыны, нібыта адчуваць Лозку — яе гнуткую постаць, імклівыя рухі, светлыя вочы з загадкавымі цёмнымі крапінкамі, як у сапраўднай фіялкі-браткаў. Наверша чамусьці было цёплым — нават у халодныя вечары. А можа, тое толькі здавалася княжычу?

Войска Гедзіміна на Коўна не пайшло, яно спынілася недалёка ад захопленай крыжакамі крэпасці, у селішчы, што схавалася ў глухой пушчы. Тут чакаў Гедзімін падыходу асноўных сваіх атрадаў, галоўнае ж — полацкіх вояў і свайго зяця, кашталяна гарадзенскага Давыда.

Альгерд любіў Давыда. Магутны, высачэзны, як асілак-дуб, ён уваходзіў у тронную залю замка, і яна нібы ніжэла, ператваралася з пыхлівай і важнай ва ўтульную і ласкавую, дзе можна было слухаць, як спакойна даводзіць у рэшце рэшт сваё гэты праслаўлены вой, надоўга спыняючыся пальцам на якой-небудзь кропцы скураной мапы, дзе бурштынавымі каменьчыкамі азначаныя былі крэпасці і гарады не толькі Княства, але і суседзяў — ліваў, зямгалаў, ляхаў і, вядома, немцаў. А яшчэ — маскавітаў, цверычан, уладзімірцаў. А далей — Кіева, Падляшша, Падоліі… Вядома было, што Гедзімін атрымаў ад Давыда пергамент, дзе кашталян прапаноўваў вялікаму князю на гэты раз не ваяваць Коўна, а пастарацца злавіць крыжацкае войска ў той момант, калі яно, захопленае сваімі перамогамі, хаця на момант страціць пільнасць. Ведаў Альгерд таксама, што некалькі патаемных віжоў ёсць сярод рыцараў, яны адразу ж данясуць, куды, якімі шляхамі пасунуцца назад немцы. Апроч таго, жамойты, якіх паваявалі ордэнцы, таксама тайна слалі князю лісты, просячы дапамогі.

Бываючы на ваенных нарадах, слухаў малады княжыч усё, што там казалася, вучыўся гаварыць важка і даходліва. Княжае слова — апрацаваны ўмелымі майстрамі бурштын, яно павінна мець цану, і немалую. Калі ж, бывала, паслухаўшы ўсіх, пытаўся Гедзімін — бадай што дзеля прыліку, — што думае Альгерд, чырванеў хлопец, але спрабаваў сказаць і нешта сваё, вынашанае. Дзеля таго, праслухаўшы, як і куды збіраюцца перад боем атрады, пасля доўга сядзеў ён у сваім пакоі альбо, як у гэтым паходзе, у хаце зямяніна, спрабуючы знайсці лепшае рашэнне, абдумваючы ўсё, што можа адбыцца ў баі. Вось і цяпер — разам з бацькавымі воямі ішоў атрад татараў. Харобрыя яны воі, але не надта баяцца Гедзіміна, могуць зрабіць і па-свойму, захапіўшыся шалам бою і смерці. Нездарма вялікі князь патаемна загадаў Манівіду сачыць увесь час за дзікімі тымі наёмнікамі і, як не туды панясуцца яны, страляць адразу ў хана Кіпчакбея…

Нядоўга стаялі ў лясным селішчы атрады Гедзіміна, але той час цягнуўся для Альгерда як доўгі і нудотны, нават блізкая, можа, і смяротная небяспека крыху страціла сваю ўзбуджальнасць. Праўда, кожны дзень да знямогі ганялі яго дзядзька Нячай і Драмак, то б’ючыся з княжычам на мячах, то патрабуючы, каб з першага ўдару рассякаў ён тоўстую лазіну, пралятаючы міма на кані, то раз за разам высмейваючы няўклюднасць, з якой ён вызваляўся ад імклівага татарскага аркана, кінутага смуглявым, з вы-скаленымі белымі зубамі татарынам Сегедэем. Ваенны лагер жыў сваім жыццём: на ўскраіне селішча палілі вогнішчы, на іх смажылі для вояў зайцоў, дзікоў і аленяў, упаляваных у пушчы, раніцамі пахла квашанай капустай і рэдзькай — з абозаў да сталоў, пастаўленых пад вялізнымі, разгалістымі ялінамі, цягнулі бочкі, гарнцы і бодні, пад дубам у сярэдзіне селішча, на якім ніжнія галіны былі амаль усе абвязаныя каляровымі стужкамі і анучкамі, прамаўляў свае трэбы жрэц Перуна, а ля дубовага крыжа, абвязанага ручнікамі, штораніцы чытаў малітвы праваслаўны святар у жоўтай бліскучай рызе, накрываў галовы грэшнікаў цёмнай хусткай, рыхтуючы іхнія душы да вечнага, не гэтага хуткаплыннага жыцця. Праўда, мяркуючы па ахвоце і нават заўзятасці, з якой чысцілі і штодзень спрабавалі на тым жа няшчасным лазняку сваю зброю воі, яны туды не надта імкнуліся раней прызначанага ім доляю часу. Але якой будзе яна, тая доля?

Ды нарэшце прыйшла часіна, калі ўсё гэтае варухлівае, як агромністы мурашнік, войска, з абозамі і коньмі, з вартавымі і

збройнікамі, кухарамі і рымарамі, швачкамі і далакопамі, харугвамі і абразамі, рушыла далей, туды, да шляхоў, па якіх меліся вяртацца назад крыжакі-пераможцы.

Жыцень ужо даўно сабраў у свае пуні сёлетні ўраджай, і цяпер па селішчах малацілі жыта ў снапах, ссякалі на гародах хрумсткія качаны, выбіралі познюю рэпу. Апошнімі трапяткімі клінамі прабівалі шэрыя аблокі чорныя дразды і каменкі, а на ацвярдзелых ад ранняе прахалоды ўзгорках зеленавата-шэрымі кругамі тоўпіліся зялёнкі, познія, ужо амаль зімовыя грыбы.

Ніхто, апроч сыноў Гедзімінавых ды ваяводы, не ведаў дарог, па якіх пойдуць сёння. Вартавыя, што ехалі далёка наперадзе, вяртаючыся, расказвалі аб воях з воўчымі мордамі на галовах, у звярыных шкурах, больш падобных да лесавікоў, чым да людзей, што цікавалі здаля і тут жа знікалі, як толькі хто паварочваў каня, каб дагнаць іх і распытаць. Таму вялікі князь пасылаў разведчыкаў адразу па некалькіх накірунках, і не пераставалі ўвесь дзень, і на прывалах, і да коннага, пад’язджаць ганцы, дакладаць аб усім, што бачылі.

Яны і распавялі, што заўтра рыцары павінны быць ля Жэймаў. Адтуль яны паварочваюць на захад, іх давядзецца даганяць.

Невялікае селішча Жэймы было добра знаёмае княскай сям’і — сюды часцяком ездзілі на паляванне старэйшыя княжычы ў часы, калі Гедзімін быў намеснікам вялікага князя. Таму месца гэтае магло быць найлепшым для бою — даліну ля рэчкі, павароты капрызнай гэтай рачулкі і паляны за недалёкім возерам немцам не было ўжо часу вывучаць як след, як бывае тады, калі бой рыхтуецца загадзя. Нават калі вялікі маршал Генрых фон Процкі даведаецца, што войска Вялікага Княства спынілася тут і рыхтуе засаду, наўрад ці ён зможа цалкам разгадаць, якой можа быць тут пастка для рыцараў.

А яна можа быць пастаўленая так, што на іхнія шэрагі сокаламі ўпадуць нябачныя дасюль атрады ліцвінаў, прадзяўбуць сталёвую абарону. Трэба толькі не ўпусціць ніводнае магчымасці раскінуць сілы так, каб прадухіліць перамогу крыжакоў…

Усю ноч у паходным будане Гедзіміна сядзелі намеснік ваяводы Гаштольда, старэйшыя сыны князя — Манівід з Нарымунтам, а таксама кашталян Давыд і некаторыя з паноў-рады. На валовінай скуры, чыста, да белі, выскрабенай, вугалем маляваў Гедзімін аколіцы Жэймаў, тлумачыў свой план. Альгерд спачатку сядзеў побач з імі, але сон моцна атлуміў яму галаву, і князь адправіў малодшага сына спаць. Задача Альгерда — трымацца

князя, ягонай харугвы, абараняючы бацьку, а калі ўпадзе каторы з ганцоў, а другога не будзе побач, імчацца з распараджэннем да тых, каму належыць выконваць загады вялікага князя.

Альгерд выйшаў з будана, дзе мітусліва, успыхваючы ці гаснучы ад ледзянога асенняга ветру, трашчалі смалякі, асвятляючы медныя, з трыкветамі спражкі скураных пасаў і кідаючы рваныя чорныя цені на ўтаптаную, з улежанымі на ёй пахкімі хваёвымі галінамі падлогу.

Высокае, з цьмамі цем зорак неба стаяла над лагерам. Здавалася, нібыта гэта сярэбраны пыл, гатовы апусціцца на зямлю, затрымаўся наверсе, каб напоўніць смуткам людскія вочы, паднятыя да неспасцігальнай таямнічай вышыні, дзе жылі багі і хаваўся Ірый, куды апалым лісцем нясуцца душы пасля смерці. Ля аднаго з кастрышчаў, запаленых вакол лагера, чакаў княжыча дзядзька Нячай, задумліва паварочваючы галаву да другога вогнішча, далекавата ад княжага будана, адкуль чулася песня:

Грача воран, грача, цераз бор летучы,
Плача хлопец, плача, у паход ідучы…

Княжыча пацягнула да песні, да смутку, які чуўся ў ціхім спеве, ён пакрочыў у прыцемак, у якім вогненны трохкутнік кастрышча здаваўся касніком багіні Мокашы, што трапечацца, выбіваючыся з-пад зямлі. Немалады ўжо вой, у скураным зашмальцаваным каптане, у лісіным каўпаку, жылістай рукой падкладаў у касцёр каструбаватае сырое паленне, не перастаючы напяваць:

Гой ты, воран чорны,
Ці відзеў ты вала?
Я валоў не відзеў,
Відзеў тваю маці,
Яна па двару ходзіць,
Белы рукі ломіць…

Убачыўшы княжыча і ягонага дзядзьку, ён сціх, пакланіўся, абціраючы руку аб чорныя, з касматае поўсці порты. Маленькія вочкі на шырокім усмешлівым твары ўзрадавана бліснулі, ласкава спыніліся на высокай цыбатай постаці Альгерда.

— Спявай далей, як цябе?

— Ален, а па-хрысціянску — Аляксей.

— Спявай. Голас у цябе надта чысты, як… як крынічны.

— Дык што табе заспяваць, княжыч Альгерд? Гэтая песня сумная. Вешчы Воран* тут толькі костачкі прынясе, але ні жывой, ні мёртвай вады ў яго не дапросішся… Ён жа ўсё ведае, а знаццё толькі сэрца абкаменьвае. Глядзіць ён на нас усіх і бачыць: во гэты, які думае, як запалоніць якую прыгажуню, заўтра крывёй-рудой сплыве. А ўлетку трава праз ягоныя костачкі прарасце…

— Ты што, баішся заўтрашняе бітвы?

Вой задумаўся, падціснуў вусны, прыжмурыўся, сабраўшы зморшчыны ля вачэй, нібы і сапраўды ўглядаўся ў будучае:

— Не. Не баюся, княжыч Альгерд. Сваю смерць я адчуў бы. Але шмат народу ўсё роўна загіне. Вось я тут і думаю — эх, злавіць бы таго Ворана, забраць у яго жывую ваду. Колькі б кабетак мужоў ці матак сваіх сыноў назад дачакаліся б!

— А цябе хто дзе чакае?

Ласкавыя вочкі Аленя-Аляксея затуманіліся:

— Мае дзеткі і жонка вымерлі. Чорная Панна іх разам забрала яшчэ дзесяць гадоў таму, калі ў селішча наша зазірнула. Я з таго часу колькі яе шукаў, каб за касу ўхапіць ды валоссе павырваць, — не даецца!

— Дык ты так і застаўся ў войску?

— Застаўся. У кашталяна Давыда. І з вайны на вайну хаджу. А яны ўсё не канчаюцца. Ну, думаю, ужо апошняя! Не, зноў то крыжакі, то ляхі, то галічане. А то яцвязі ўздымуцца.

На скураным каптане, калі ўпалі на яго вогненна-зыркія водбліскі, убачыў Альгерд выцiснуты на грудзях знак: крыж, канцы якога павернуты пасалонь, па сонцы. Нейкая таямніца ўсё ж была ў гэтым ціхмяным, простым, як каравая калода, чалавеку з круглым тварам і задзёртым носам славяніна.

— Адкуль у цябе крыж з загнутымі канцамі?

— Мой дзед быў жрацом Ворана.

— А ты не стаў жрацом?

— Я зрабіўся быў бондарам. Люблю дрэва — яно жоўтае, жывое, гаваркое — і зараз. Але… Я ж цяперака пасля бітвы хаджу і вочы мёртвым закрываю. Усім — сваім і чужым. Каб яны на той свет ішлі і нічога з гэтага свету туды забраць не хацелі. Іначай — бяда будзе. Калі столькі забітых у вачах сваіх нешта з гэтага свету вынесуць — што астатнім застанецца?

---

* Некаторыя беларускія даследчыкі атаясамліваюць вешчага Ворана ў славянскім фальклоры з індыйскім богам, ахоўнікам сусветнага закону і валадаром вод Варунай.

— Ён, відаць, шаленец, вар'ят… — прашаптаў на вуха Альгерду Нячай, недаверліва касавурачыся на Аленя. Ды той пачуў. Круглы ягоны твар не азмрочыўся, а вочкі дружалюбна зірнулі на дзядзьку княжыча:

— Ці ж ты адзін гэта гаворыш! Але ці ведаеш ты ўсё пра свет, у якім жывеш?

— Ніхто не ведае, — адказаў за дзядзьку Альгерд. — І ты таксама.

— І я. Але каму я перашкаджаю, калі раблю сваю справу? Ці не бярэ і цябе жах, княжыч, калі бачыш, як глядзіць на цябе нябожчык, калі яму не заплюшчылі вочы? І чаму так крача воран, лятаючы над сечай?

— Праўду кажаш — бярэ. Але ці ведаеш ты сам, чаму так крача вараннё над полем, дзе ляжаць мёртвыя?

— Не ведаю, і дзед мне таго, паміраючы, не сказаў. Адно толькі папрасіў — каб мёртвым дапамагаў на той свет спакойна пераходзіць, дзе магу. Я быў забыўся на тое, аднак, калі асірацеў, сям'ю страціў, адразу ўспомніў. Як накаркаў мне тое сам дзядуля…

І ён, падкідаючы ў кастрышча новыя палены, заспяваў, як бы паказваючы, што заняты справай больш важкай і значнай, чым пустыя размовы:

Рабі сена, як зязюлька кукуе,
Тады кароўка есць і смакуе,
А наробіш, як варона крача,
А тады кароўка есць і плача…

— Колькі ж у кожным чалавеку дзівосаў! Жрэц казаў мне, што ўвесь свет можа змясціцца ў чалавечай душы, — задумліва прамовіў Альгерд, калі яны вярталіся ў паходны будан, дзе спалі ўсе чацвёра сыноў Гедзіміна. — І епіскап тое ж казаў: царства Божае ўнутры нас. А мы забіваем адзін аднаго, бо зямлю падзяліць не можам…

З гэтай думкай ён і прачнуўся назаўтра, калі з поўначы, з лагчыны, папоўз горкі, з сотняў вогнішчаў дым — знак таго, што варожае войска зусім блізка. Ганцы, пасланыя Гедзімінам, каб узгадніць з вялікім маршалам Генрыхам фон Процкі пачатак бою, ужо вярнуліся. Крыжакі патрабавалі, каб бітва пачалася на дзве гадзіны пазней, як прапаноўваў тое вялікі князь. У канцы пергаменту стаяла зняважлівае: «А калі ты, язычнік, на тое не пагодзішся, то рабі па-свойму, усё роўна гарэць табе да скону ў вогненным пекле, а трапіш ты ў яго сёння».

Да прызначанага часу войскі занялі свае зыходныя пазіцыі, тым болей, што дзень спрыяў таму: як бывае рэдка ў гэты час, не імжыла, не туманілася дажджом неба — наадварот, прымерзлая за ноч зямля, здавалася, адгукалася звонам на пошчак капытоў, рэдкія хмурыны велічна плылі па сінім, недасяжна высокім небе, і нават амаль аблыселыя бярозы на фоне цёмна-зялёных ялін глядзеліся велічнымі і спакойнымі.

…Сонца стаяла высока, і Альгерд з жалем падумаў, што калі б ён быў хаця якой маленькай птушкай-варакушкай, то абляцеў бы ўвесь крыжацкі стан і расказаў бы бацьку, дзе і як ставяць яны загоны. У войску ж ліцвінаў на першыя загоны паставілі татараў*, а далей, па абодва бакі ад даліны, па якой могуць пагнаць татараў рыцары, стаялі з packoннымі атрадамі Манівід і кашталян гарадзенскі Давыд, а наводдаль ад іх — вої з ручніцамі. У лесе ж, куды ўпіралася ўся гэтая вялізная, колькі разоў перасечаная рачулкай даліна, на выспе, ад якой да ўскрайку даліны была высечаная за ноч шырокая прасека, месціўся сам Гедзімін. Калі выстаяць татарскія загоны, ён паспее да таго часу, пакуль стомяцца яны адбівацца ад крыжакоў. Калі ж не — немцаў напачатку перахопяць сын і зяць. Двое астатніх сыноў былі пры ім, і наструнены Альгерд нервова здрыгануўся, калі пачуў першы працяжны, у сотні дзікіх глотак, татарскі крык «Ул-ла-а-а!», ад якога нават тут, на адлегласці, калыхнуліся белыя з чырвонымі паласамі і гербам «Калюмна» харугвы.

Гедзімін схапіўся за трубку, якая скарачала адлегласць — яе падараваў яму рыжскі арцыбіскуп, — і не адрываўся ад яе колькі імгненняў.

— Тху ты, нячыстая сіла! Пайшло! — сказаў ён працяжна, апускаючы трубку. Правае яго плячо тарганулася, левая рука намацала меч у похвах, быццам правяраючы, ці той на месцы.

Пахла смалой ад ссечаных соснаў, якія раскіданыя былі ў бакі ад прасекі; на асінках, навaленых у кучы, жаласліва трапяталі рэдкія азызлыя жоўта-шэрыя лісточкі, і, мімаходзь слізгануўшы поглядам убок, заўважыў Альгерд, як кінулася ад покліча вояў некуды рудая, вёрткая лісіца, уся асветленая сонцам, — жывы

* Паводле артыкула Н. Галімавай «Татары ў Заходняй Беларусі», сват Данілы Раманавіча, князя Галіцка-Валынскай зямлі, хан Цегак (у арт. — Тегак), уцякаючы ад татара-манголаў, прывёў з сабою на Берасцейскую зямлю падначаленых яму полаўцаў, якія тут рассяліліся. Берасцейская зямля далучылася да ВКЛ у 1319 г., і таму зразумела, адкуль яны з'явіліся ў атрадзе Гедзіміна.

камячок жыцця, які адзіны тут зараз мог уратавацца ўцёкамі. Людзей жа трымала разам нейкая вялікая, пагрозлівая сіла, ад яе было не выкруціцца, не слізгануць некуды ў цёмны, непрыветны, але такі ўратавальны бор…

А далей ён ужо не думаў ні аб чым, апрача бою. Крыжакі першымі пайшлі ў бой — іхнюю грозную, здавалася, неадольную варухлівую бліскуча-шэрую сцяну бачыў ён, калі бацька на хвіліну даў яму зірнуць скрозь павелічальнае шкельца. Крыжакі, у жалезных шышаках, у гулкіх пласцінкавых даспехах, падобныя да жахлівых мерцвякоў-наўя, тупалі пад зладжаныя ўдары барабанаў, а за кожным іх радам стралялі з доўгіх ручніц стралкі, якіх даспехі рыцараў хавалі ад стрэл, што несліся на іх ад татарскіх загонаў, як хмары саранчы. А пасля ён толькі чуў, як жахлівы, дзікі віскат татар, з якім яны раз за разам асыпалі крыжакоў стрэламі, задыхнуўся, станчэў, і Гедзімін крыкнуў ганцам:

— Зараз пойдзе конніца, хай яе прапусцяць толькі напалову!

Ганцы ўжо ляцелі — па двое ў кожны бок, каб, калі ўпадзе адзін, другі мог данесці загад вялікага князя. І тады закрычаў Карыят, які быў побач:

— Татары ўцякаюць!

— Конніца пайшла!

Альгерд напружыў зрок — цёмнае месіва разбітых татарскіх загонаў у канцы даліны кацілася сюды, да іх, як клубок, яго даганялі коннікі — здаля былі бачныя чырвоныя і чорныя крыжы на харугвах наперадзе, а таксама знак вялікага маршала. Вось клубок распаўся, яго як па-глынула варожае войска, што таксама кацілася да іх, да пагорка, дзе веялі харугвы вялікага князя. Адсюль, зверху, здавалася, што гэта доўгі, пыльны, смярдзючы цмок, то распаўзаючыся брухам па пагорках, то вузеючы ў лагчынах, мкнецца да іх, каб дыхнуць агнём і спапяліць дашчэнту.

Аднак, калі коннікі дасягнулі сярэдзіны даліны, перарэзанай вузкай бліскучай стужкай рачулкі, заспявала труба, і справа і злева, рассякаючы іх шэрагі на дзве амаль аднолькавыя часткі, затупацелі па цвёрдай ля лесу зямлі атрады Давыда і Манівіда. Яны сышліся пасярэдзіне, і адрэзаная, як у цмока, пярэдняя частка атрада апынулася перад прасекай. З бакоў жа па рыцарах паляцелі з лесу смяротныя кулі з ручніц — там хаваліся стралкі. Коннікі замітусіліся. Харугва Генрыха фон Працкі, што апынулася паміж Гедзімінам і яго сынамі, пахілілася. Вогненныя ўспышкі з лесу пачасціліся — адрэзаныя ад асноўнага атрада немцы згрувасціліся пасярэдзіне даліны, гатовыя абрынуцца на сыноў Гедзіміна, што малацілі другую частку рыцараў ззаду.

Тады па знаку Гедзіміна ўдарылі ў вялікі бубен, і гул пакаціўся па ваколіцах.

— За мной! — такім гучным голасам, нібы ў яго ўсяліўся дзясятак чэрававяшчальнікаў, закрычаў вялікі князь і рынуўся наперад. За ім — увесь атрад.

Вялікі маршал здолеў павярнуць сваё войска насустрач новай небяспецы. Па ягоным сігнале з асноўнай па-зіцыі рыцараў на поле, дзе кіпела сеча, паспяшаўся запасны атрад. Аднак Гедзімін пастараўся скарыстаць хвіліны няўпэўненасці крыжакоў напоўніцу.

Са звонам, з іскрамі, з шалёным выццём жамойтаў, некалькі тысяч якіх былі сярод крыжацкага войска, і дзікімі крыкамі саміх крыжакоў, з імгнення пашчэрбленымі мячамі і паляцелымі на размалочаны капытамі дол коннікамі, якіх тут жа растапталі на крывавае месіва, сутыкнуліся дзве сілы. Нячая, які захіліў свайго выхаванца, секанулі мячом па галаве — цвёрдая сталь вытрымала, а ён затое ўдарыў непрыяцеля так, што той не ўтрымаўся на кані. А пасля яны білі і калолі новых і новых рыцараў, якія, здавалася, выраставалі з зямлі, і княжыч адно стараўся трымацца бліжэй да бацькі, у той час як і Драмак, і Нячай, адбіваючыся ад ворагаў, глядзелі за ім самім.

Час замарудзіўся — тыя дзве гадзіны, пакуль, стараючыся схіліць вагі Лёсу на сваю карысць, валтузіліся, калолі і секлі, храпучы і забіваючы адзін аднаго, ліцвінскія і нямецкія воі, здаліся маладому княжычу бясконцымі. У тую хвіліну, калі яго абяссіленая рука павісла, бы кавалак адрэзанай вяроўкі, ён убачыў, як неўпрыкмет, за спінамі збраяносцаў маршала, падбіраецца да вялікага князя Ге-дзіміна рыцар у пашчэрбленых даспехах — лязо шырокага і драпежнага, як шчупак, нажа бліснула на сонцы, узнеслася, цэлячыся ў вока, не абароненае ні кальчугай, ні шаломам...

Княжыч не памятаў, як рука яго, толькі што слабая, налілася сілай, і дзіда, якую ён ледзь трымаў, сталася лёгкаю, як пёрка. Рыцар не паспеў кінуць нож — проста ў ягонае ўласнае, пільна прыжмуранае для кідка вока ўпіўся падобны да алешыны металічны лісток наверша.

На ўсё жыццё запомніў юнак твар ворага — даўганосы, шырокі, як гляк, з белымі брывамі і блакітнымі вачыма, адно з якіх раптам пырснула чырвоным і белым, у той час як цела немца няўмольна паварочвалася ўслед жаўтаватаму дрэўку самой дзіды, як бы накручваючыся на яе, і ўрэшце ўпала ўніз, пад капыты цяжказадаму гнядому брабанту вялікага маршала, які біўся на-

перадзе сваіх рыцараў з нечалавечай сілай і нястомнасцю. У той жа час і ягоныя ўласныя грудзі нібы апякло — страла ўдарыла ў іх з такой сілай, што ледзь не збіла юнака з каня, але ён змог утрымацца, ухапіўшы таго за пругкую карычневую грыву. І зноў завіравала вакол сеча. Колькі ні імкнуўся княжыч дабрацца да немца, якога ён як насадзіў на сваю дзіду, таго не выпадала. Біліся і справа, і злева, ён выхапіў свой меч і таксама то з ярасцю, то з нянавісцю, то з адчаем змагаўся супраць злавеснае чорнае навалы, што наляцела на ягоную зямлю і хацела адабраць у яго жыццё, якое толькі пачыналася…

Запасны атрад немцаў не даляцеў да сечы — жамойты, якія былі сярод наступаючых, кінуліся на сваіх былых саюзнікаў, падпарадкоўваючыся загадзя абгаворанаму сігналу — гуку валынкі, на якой сыграў сам вялікі жрэц свяцілішча Рагуціса, які таемна ехаў за войскам крыжакоў, што разрабавалі Жамойць.

І гэта было пачаткам перамогі — той перамогі, якая прыйшла толькі вечарам, калі знясіленыя рыцары беглі з даліны хто як мог, а ліцвіны, палачане, віцьбічы дабівалі іх, тапілі ў рачулцы і ў балоце, жамойты ж цкавалі сабакамі і, выдзіраючы палонных з даспехаў, як мяса з-пад панцыра ракаў, абчышчалі іх да галізны, пакідаючы трупы ляжаць дзе папала.

Альгерд, пачуўшы крыкі і радаснае гудзенне валынак, змог толькі дабрацца да кучы галля на прасецы і, зваліўшыся на яе, заснуць мёртвым сном, у той час як Нячай ахоўваў ягоны сон, а пасечаны на капусту Драмак ляжаў пад грудай наваленых на ім крыжакоў, і душа яго, як і тысячы іншых, тужліва кружляла над далінай і прасіла аб пахаванні, дзе шлях да Ірыю ачысцяць малітвы і галашэнні, дзе добрае слова аб нябожчыку будзе пёркам для ягонай ацяжэлай ад грахоў душы. Але снілася княжычу не бітва, не стогны паміраючых, у якіх вырывала душу са знямоглага цела страхоткая Марэна. Мроілася яму басаногая Лозка, што ляцела ў кузню, мільгаючы чорнымі ад сажы пятамі і апякаючы на ляту белазубай усмешкай. Вочы яе — фіялкавыя, з цёмнымі кропачкамі ў глыбіні, набліжаліся да ягонага твару, і ў той момант, калі ён амаль захлынуўся шчаслівым прадчуваннем ейнага дотыку, нешта як штурхнула яго, і ён ускочыў, не разумеючы са сну, чаму над ягонай галавой свецяць зоркі.

— Прачнуўся, княжыч? Тады хадзем вячэраць.

— А дзе Драмак? — азіраючыся па баках, усё яшчэ няўцямна глядзеў на далёкія буданы, кастрышчы і агромністае цёмнае поле перад сабой Альгерд.

— Няма яго нідзе. Мусібыць, лунуў, як і Заяц, Мантвіла, Ясень і… колькі іх, не пералічыш! — махнуў рукой Нячай. — Заўтра глядзець будзем. Сёння толькі варта засталася дазорыць.

— Ну што — поўная наша перамога? — ужо шчасліва ўзгадаў княжыч.

— Але ж і нашых колькі лунула! — зноў са скрухай паўтарыў Нячай, і гэта трохі раззлавала Альгерда — якая ж перамога абыходзіцца без ахвяр?

Яны паволі пайшлі да буданоў. Там не было пуста — лекары і жрацы, вяшчунні і ведуны перавязвалі параненых, клалі на чырвоныя, уздутыя, страхотлівыя блізны то мазь з дзёгцю бярозы, то сырое цеста, то павуцінне альбо мох, шаптухі пырскалі вадой, касталомы ўпраўлялі вывіхнутыя рукі ці ногі. Чуліся енкі і галашэнні, сярдзітыя вокрыкі аховы, трызненні і малітвы.

Далей, ля буданоў князя, паноў-рады і вышэйшых служкаў, было цішэй, там, за другім колам варты, слугі насілі да накрытага ўжо едзішча вялікія тарэлы з ежай. На яловых і хваёвых галінах, накрытых шкурамі звяроў, сядзелі вакол каляровага дывана, устаўленага тарэламі, усе тыя, хто здабыў сённяшнюю перамогу, усё атачэнне вялікага князя.

— Тху ты, нячыстая сіла! Ледзь не праспаў першую нашу радасць! — сустрэў яго знешне кплівай заўвагай Гедзімін, але Альгерд бачыў: бацька ажно свеціцца радасцю, вузкаватыя вочы яго ззяюць, разгладзіліся нават цяжкаватыя мяшкі пад вачамі, хаця скрозь белую палатняную повязь на галаве прасачыліся рудыя плямы крыві.

— Даруйце, сам не ведаю, чаму так сталася, — сарамліва схіліўся княжыч, чырвань плямамі пайшла па шыі, пад светлымі валасамі ўспацела галава.

— Брэцьяніцу яму! — грымнуў Гедзімін. — Кажуць, ты мне жыццё ўратаваў, а я і не бачыў. Праклятыя фон Процкі мядзведзем насеў, думаў, усё, капцы і мне, і войску. Аднак жа не — за нас багі, і век будуць гэтыя сабакі памятаць Жэймы!

Альгерд схітрыў — зрабіў выгляд, што выпіў брэцьяніцу да донца. Не любіў ён хмельнай весялосці, калі развязваюцца языкі і шмат выліваецца з людцаў таго, аб чым яны шкадуюць нараніцу. Грызла яго адно — ці зной-дзецца ў рэшце рэшт ягоная дзіда — дзіда, якою ён адхіліў страшны смяротны ўдар, нацэлены на вялікага князя?

І ён пайшоў яе шукаць — на самай той ранняй барвовай шчыліне, якую прыадчыняе ў сваёй нябеснай хаце Зара-Зараніца, сонцава жонка, калі прачынаецца і пачынае новы дзень. Яшчэ

даліна была цёмнаю, і толькі на прылобку ўзвышша гарэлі золатам вяршаліны ялін, калі Альгерд узбурыў свайго дзядзьку і яны пайшлі на месца ўчарашняе сечы.

Ціха там было, толькі блукалі, становячыся на калені і зазіраючы ў твары мерцвякоў, жанчыны-жамойткі, якія, відаць, ішлі за нямецкім войскам, што забрала з сабой іхніх сыноў і мужоў. Але непадалёку ад таго месца, дзе, як меркаваў Альгерд, ён спыніў немца з нажом, таксама на каленях стаяў перад грудаю целаў учарашні спявак Алень. Ён расцягваў счэпленыя, з вывернутымі пашчэнкамі, са счарнелымі, ірванымі ранамі на галовах трупы і клаў іх радком на схаладзелай, ужо трохі прымарожанай зямлі. Здубянелыя целы не згіналіся, страшна вырачаныя вочы былі расплюшчаныя, і іх, не баючыся і не агортваючы рук анучамі, даланёй закрываў унук жраца Ворана.

— Дай, княжыч, я сам пашукаю, — прапанаваў Нячай. Але Альгерд, пераадольваючы ўзбурэнне ўсярэдзіне, не згадзіўся, ішоў, углядаючыся ў твары, у якіх заставалася ўжо мала чалавечага, бо скажалі іх то нянавісць, то пакута.

Дзіду ён пазнаў адно па колеры, бурштынава-карычневым, з пражылкамі. Гэтае гладкае, адпаліраванае да бляску дрэўка тырчала з-пад раздушанага, амаль расплюшчанага панцыра, які быў на рыцары, што ўткнуўся тварам у зямлю ў апошніх сутаргах жывой, не жадаючай паміраць плоці. Альгерд, перавярнуўшы цела і пабачыўшы ашчэраны жоўтымі, у чорных плямах зубамі, шырока адчынены рот, адчуў, што яго выварочвае, і, адвярнуўшыся, у сутаргах вывернуў з сябе тое, што з'еў яшчэ ўчора. А калі выпастаўся, пабачыў: Нячай, абхапіўшы магутнымі пальцамі дзіду, з натугай выцягнуў яе з цела, а пасля выцер аб белы, заляпаны крывёй і зямлёй плашч немца, дзе нашыты быў чырвоны крыж.

— Што паробіш, княжыч, яны ж першыя пачалі, — чамусьці вінавата прамовіў ён. — Першыя! Але ж і атрымаў Ордэн! Каб жа на тым і спыніўся, пракляты!

Але Альгерд ужо не слухаў — ён схапіў дзіду, адчуў, як лёгка, нібы радуючыся свайму вяртанню, лягла яна ў руку. Сонца тым часам паднялося, і на зямлю, дзе яны стаялі, на наверша ўпаў першы прамень, ад чаго металічны лісток з вострым канцом успыхнуў, нібы залаты. Дзядзька Нячай хацеў яшчэ нешта вымавіць, ды спыніўся. Ягоны выхаванец падаўся яму незнаёмым: танклявы, высокі юнак, увесь абліты чырвона-жоўтым ззяннем, з дзідай у руцэ, з тварам, высока ўзнятым да ўзлобка, дзе стаяў велікакняскі будан, нібы сышоў са старажытных абразоў, што

віселі ў хрысціянскіх храмах. І ён міжволі дакрануўся да грудзей, дзе вісеў разам з абярогам і крыж, можа, упершыню ўсёй сваёй істотай упэўніўшыся ў тым, што ўсё ж сыходзіць часам на чалавека нетутэйшая, невядомая сіла, якую па-рознаму называюць жрацы і святары…

Ды, стоячы на полі сечы, аруплёны пошукам дзіды, і падумаць не мог княжыч аб тым, што чакае яго па вяртанні.

Калі ён, нашмат абагнаўшы Нячая і Лотыша, вынесся з лесу ў даліну, дзе мясцілася дарагое яму селішча, аслупянеў: толькі абгарэлыя коміны па-сірочы тырчалі там-сям ды з таго боку даліны надрыўна выў воўк.

Як даведаўся пасля княжыч, было яно падчас апошняга паходу спаленае крыжакамі, як і іншыя селішчы і мястэчкі, а людзі альбо перабітыя, альбо пагнаныя ў палон.

Доўга не мог з тым змірыцца Альгерд, што, магчыма, недзе дзірваном прарастаюць тонкія костачкі Лозкі, яе белазубая ўсмешка і шырокія бровы, што паплыла душа яе дымам у незваротны Ірый і не ўсміхнецца яна сваімі фіялкавымі вачыма, ад якіх шчымліва-светла робіцца на сэрцы. І дзе каваль Вольжыч? Можа, куе недзе ў далёкіх землях даспехі рыцарам — жалезныя пласціны, змацаваныя раменьчыкамі альбо колцамі, і на кожнае наслойвае нянавісць і боль, каб лопнуў пасярод сечы раменьчык і магла страла ўпіцца ў хрыплівае, шырокае горла немца? А можа, і ён прарастае недзе травой, не скарыўшыся, не даўшы накінуць на сябе вяроўку, каб нехта з іх, жалезных, падобных да наўя, не мог павалачы, як скаціну, за сабою?

І адразу ж, як толькі ён, амаль аслеплы ад гора і ярасці, тыцнуўся ў абгарэлы, з чорнымі рэбрамі-кроквамі будан, дзе была кузня, працяў успамін аб тым, з якім шкадаваннем глядзела на яго і Лозку старая жрыца пад Новагародкам. Яна ведала, што так будзе! Дык, можа, яна ведае і што сталася з ейнай праўнучкай?!

Аднак, вярнуўшыся ў Новагародак, ён не паехаў да яе, як хацеў таго раней. Няхай застаецца надзея на тое, што Лозка засталася жыць, што яна ўцячэ, вернецца з палону…

Залатых спраў майстар Арцюх па заказу княжыча адліў сярэбраную, у ногаць велічынёй, стрункую постаць дзяўчыны і прымацаваў яе да канца дзіды. Невядома адкуль даведаліся пра тое новагародцы, і паплыла па Княстве пагалоска, што валодае княжыч Альгерд чарадзейнай дзідай. Расказвалі, што па начах дзяўчына ажывае і расказвае княжычу будучае. Што, калі немец падбіраўся да вялікага князя Гедзіміна, дзіда сама вырвалася з рук сына і ўпілася проста ў вока ворагу.

— Ты баіш гэтыя казкі людзям? — аднойчы запытаўся Альгерд у свайго дзядзькі Нячая. Але той кляўся і бажыўся, што нічога нікому не казаў. Аднак у княскай збройніцы дзіду беражліва паклалі асобна ад іншае зброі — да новых паходаў, да новае Пагоні*. Да пры-значанага лёсам часу, у які пакуль не зазіраў ніхто, — як стане княжыч валадаром крэўскім і віцебскім і прыедзе жыць у старажытны горад Віцьбеск над Дзвіной — даўнім Рубонам.

## ГОД 1341. ЯК ТАЦЬ УНАЧЫ…

Над Віцьбескам кружыла вараннё.

Яно галасіла так адчайна, шалясцела так нізка і туж-ліва, што князь Альгерд, які ехаў у крытым узорыстым вазку, унураны ў свае думкі, падняў галаву і ўгледзеўся ў шэрае, закаламучанае непагаддзю неба. Але тут жа адвярнуўся і шчыльней захутаўся ў пушысты, падбіты лісінымі шкурамі плашч-карзно, — падумаў аб тым, як цяжка воям, што састарэлі ў бітвах, цяпер брысці па дарогах услед за фурманкамі, за маладымі жвавымі хлопцамі, якія кугікалі ў пялёнках, калі бацька ягоны, князь Гедзімін, уздымаў на дзіды ганарыстых крыжакоў, а ягоныя вoі, тады маладыя і такія ж ганарыстыя, крычалі ў шалёным запале бітвы: «Пагоня!»

Ён сам толькі цяпер стаў адчуваць цяжар гадоў, калі разам з бацькам днямі скакаў па дарогах Княства альбо брукаванках нямецкіх гарадоў, спаўна адплочваючы крыжакам за ўсё, што тварылі яны на славянскіх землях, імкнучыся анямечыць іх, як зрабіў тое з землямі люцічаў колькі стагоддзяў назад Альбрэхт Мядзведзь. Яшчэ дасюль у Брандэнбургскай зямлі ёсць хаты, дзе над гонтай узвышаюцца драўляныя разьбяныя конікі альбо прамільгне на вышыўцы мясцовых дзяўчат славянская Мокаш — Жытняя Баба. Але жыхары гавораць па-нямецку, і ён, які гаворыць на гэтай мове гэтак жа свабодна, не раз чуў пра-клёны войску Княства ад людзей, чые прозвішчы былі тыя ж самыя, што і ў прышлых воінаў.

Толькі што скончылася рада, дзе віцьбічы рашалі, чым лепей умацоўваць абарончыя валы — адно дубовымі бярвёнамі ці двайной агароджай, насыпаючы паміж сценамі зямлю. Гарадскі радца дакладаў, што на смердаў накла-дзена новае дзякло — на

* Аб’явіць Пагоню — значыла прызначыць выступленне войска ўслед за ворагам, каб забраць у яго здабычу (палон).

меру жыта болей, чым летась, каб можна было хутчэй завяршыць заходнюю сцяну дзяцінца. Раіліся — ці не будзе замнога, ці не выбухнуць паўстаннем і не загалёкае на плошчы перад царквой Дабравешчання раз’ятранае віцьбескае веча? Даўно не збіралася яно, бо ён, Альгерд, стараўся ладзіць з радай, судзіць па справядлівасці і дабрыні. Помніў — не спадчынны ён віцьбескі князь, атрымаў княства праз жонку Марыю, і жывыя яшчэ тыя баяры, якія прыдзірліва аглядалі яго, маладзёна, калі дваццаць тры гады назад прыехаў ён на заручыны па маладую князёўну. Тады ён дужа прыйшоўся ім даспадобы — гаварыў з пасламі на пяці мовах, у рот не браў хмелю, толькі прыклаўся вуснамі да медавухі, калі паднесла яму Марыя заручальную чарку. Тады ён упершыню разгледзеў яе: яна падняла на яго свае шэрыя вочы з пушыстымі вейкамі, яны сустрэліся поглядамі, і ён з палёгкай, з заміраннем сэрца зразумеў, што, магчыма, будзе з ёю шчаслівы... Княскі сын выбірае не шчасце, а землі, магутных родзічаў, палітычнае становішча, хаця, як і ўсе, клянецца перад алтаром у вернасці і любові. Але ён атрымаў праз Марыю не толькі Віцьбескае княства, але і шчасце.

Цэлае жыццё пражытае з ёю. Помніцца вясёлая, над сіняй пятлістай рэчкай новая сталіца Вільня, маладое хмельнае пачуццё вышыні — такую радасць ад галава-кружнасці атрымаў ён толькі ў Новагародку, старажытнай сталіцы Княства. Пантофлікі маладой жонкі, змочаныя ў расе, луг, куды яна выбегла памыцца на Купаль-скую ноч... Шэрыя вочы з пушыстымі вейкамі, пад якімі незаўважна, год за годам, клаліся маршчынкі. Яна паступова, але настойліва закладвала ў сталіцы праваслаўныя храмы, ахвяравала для іх грошы, што выдаваў на іхняе ўтрыманне вялікі князь. Ніколі не любіла агрузняць шыю караламі — а жанчыны ж важдаюцца з каштоўнымі камянямі, нібыта дзеці з цацкамі-бірулькамі. Яна і дзяцей вучыць таму ж — дзеля народа жывуць князі, дзеля таго, каб даць людзям і хлеб і да хлеба. Адно толькі — заўсёды раўнуе яго да жанчын, не хоча падзяліцца ні з кім нават парушынкай той любові і павагі, якую атрымлівае ад яго вось ужо каторы год.

Погляд яго спыніўся на маладой месцічцы, якая, убачыўшы княскі выезд, пацягнулася вачыма і ўсёй сваёй маладой гнуткай постаццю да вазка, як да сонца. Намітка на галаве, суконны каптан з каўнерыкам, задзёрты нос, як у тутэйшых паннаў, — яна нібыта ўляцела ў ягоныя вочы і, раптоўна засаромеўшыся, бухнулася на калені проста ў стаптаную брудную каламуць. Не баярская дачка — тая б проста нізка пакланілася. А ці ад-

розніваюцца жанчыны адна ад адной, калі якая з іх баярская дачка ці простая панна? За час паходаў меў розных жанчын, але адрозніваліся яны адна ад адной, калі ўставалі раніцай з княскага ложа, хіба прыгажосцю ды ласкавасцю, і не пазнаць было, хто з якога роду. Але свет стаўся такім, што самае простае на зямлі — кахаць — ператварылася ў гандаль.

Вазок слізгаў далей, і вострые позірк князя заўважыў на кусце ля дарогі рабінніка — блакітна-шэрая, з белымі ў цёмных крапінах грудзямі, птушка гэтая застаецца ў Княстве на зіму толькі тады, калі ўраджай на рабіну, ад чаго і называецца яна так прыгожа. Так, пунсовыя гронкі на рабінах ля замка ўсё яшчэ не здзяўбаныя птушкамі, хаця паціху бярэцца на вясну, бо прайшлі Саракі.

Коні натужыліся — дарога пайшла ўгару, да Узгорскага замка, што магутна высіўся над наваколлем, і ўвесь — у надбудовах святліц, у вузкіх — баявых — аканіцах, з конскімі галовамі на вільчаках спераду і ззаду доўгага трохпавярховага палаца — быў падобны да бурага мядзведзя, што сцярожка расцягнуўся на выспе, натапырыўшы вушы, падняўшы хвост і ашчэрыўшы іклы. Альгерд успомніў, што гадоў з пяць ужо не хадзіў на мядзведзяў — часта, на перамену надвор'я, балела параненая рука, нешта туманіла вочы — мабыць, ад мноства пісанняў, якія ён чытаў у маладосці і якія ляжаць у куфрах Віцьбескага замка, але найболей у Крэве. Цяпер у скрыпторый, альбо пісьмянніцу, дзе стары Нячай сцеражэ дарагія скруткі-пісьмёны, ходзяць малодшыя дзеці, яны ж, бывае, і чытаюць па чарзе перад кафлянай печчу ў вялікай зале то «Трышчана і Ізоту», то «Александрыю», але няма яму часу сядзець з імі і ўспамінаць маладосць, калі і ягонае сэрца гарэла шкадаваннем да трывог закаханых альбо ад захаплення вялізным светам, дзе вылічаны шлях кожнае зоркі. Шмат трывог было ў ягоным жыцці, але найбольшая, бадай, чакае з хвіліны на хвіліну — каму пакінуў бацька, састарэлы Гедзімін, велікакняскі стол у Вільні?

Ведаў ужо аб ягонай смерці — прыйшлося вярнуцца з-пад Мажайска, дзе ваяваў з родзічам — маскоўскім Іванам, якога маскавіты нездарма празвалі Калітой, — той зацята спрабаваў сабраць усе рускія землі пад руку Масквы. Сын Івана, Сімяон, ажаніўся з Анастасіяй, сястрой. Але і швагер, помніцца, на вяселлі глядзеў ваўком, нехаця ўсміхаўся. Настасся ж — што з яе возьмеш, жанчына! — радавалася, што не засталася ў дзеўках. Ёй, магчыма, мроілася іншае — не суровая паўночная Масква, дзе лета бывае адну чвэртку года, а якое-небудзь валошскае альбо

ўгорскае княства, ды ўсё ж і гэта няблага. Думалі, выдаючы яе замуж за маскоўскага князя, што стануць з Масквой саюзнікамі, але так не сталася. Вось і на пахаванне Гедзіміна ніхто з Масквы не прыехаў. Ды, канешне, спазніўся і ён — бацьку хавалі без яго. Але ў грамаце аб смерці не было галоўнага — хто ж стане вялікім князем? Мабыць, пастаралася Еўна — няхай браты перасварацца, вырашаючы, а пасля яна загадае прачытаць духоўнае завяшчанне, якое, несумненна, ёсць, — і тады ўсе сціхнуць, бо паспеюць добра абліць адзін аднаго граззю. Альгерд паслаў двух ганцоў у Вільню, куды не хацеў ехаць, пакуль не збяруцца ўсе браты, але і ім, братам, напісаў, каб атрымаць ад іх адказ — каго выберуць яны? Таксама хітраваў — хацеў, каб яны выказаліся за яго, перш чым устане Еўна і прачытае завяшчанне. Ныла сэрца ў Альгерда — што, калі не ягонае імя будзе там?

Колькі разоў пасля бітваў, дзе змагаліся ўсе браты, загадваў вялікі князь піць за здароўе найперш яго, Альгерда. Бывала, што першую чару на баляваннях у гонар перамог уздымалі і за Манівіда, і за Нарымунта, і за Кейстута, але ўсё ж глядзелі і браты, і народ на Альгерда, аб ім гаварылі як аб спадкаемцу. Ды і ён, колькі разоў прымерваючыся да велікакняскага стала, бачыў, што якраз ягоныя парады найперш выслухоўвае бацька. Але… Ніцай лазой абвілася вакол старога князя маладая прыгажуня Еўна, трэцяя жонка, і сваімі дзецьмі ціха, але настойліва імкнулася яна абкружыць Гедзіміна. Яны ж, старэйшыя браты Манівід і Нарымунт, сам Альгерд і Кейстут, далёка — у Кернаве ды Слоніме, другі ў Пінску, Кейстут у Жамойці, ён, Альгерд, у Віцьбеску. Аднак за ім яшчэ і Крэва, так што княствы-ўдзелы, якімі ён валодае, падобны да абцугоў: імі можна абхапіць шыю таго, хто гвалтам сядзе на стол, што па праву належыць яму. Яму, а не Манівіду, бо хто ж болей ваяваў за Княства?!

Як заўсёды, гэтыя думкі азмрочылі яго высокі, лысаваты, ужо з прыкметна выразанымі маршчынамі лоб, так што, уязджаючы праз высокую дубовую браму, ён, высунуўшыся з-за павеці, голасна крыкнуў начальніку варты Вераб’ю:

— Дзіды чаму такія аблезлыя? Ці ты не княжы вартаўнік, а які гіцаль на дарозе?

— Дык снег штодзень, княжа, даруй…— нізка схіліўся перад вазком абамлелы ад Альгердавага гневу Верабей.

— Снег… А ты чысці навершы, дурань! Іначай…

Але голас яго данёсся ўжо здаля, бо фурман не спыняў коней — не пачуў голасу гаспадара. Аднак Верабей адразу ж раз’ятрана грымнуў варце, каб яны тут жа пачысцілі трохі зашмальцаваныя навершы на дзідах, іначай…

Альгерд ужо не чуў гэтага, ён, крэкчучы, вылез з вазка і паволі пакрочыў да дзвярэй, што вялі ў лажніцу. Аднак тут да яго падскочыў стольнік Алекса і паведаміў, што ў перадпакоях чакае ганец з Вільні.

— Даўно прыехаў? — стараючыся, каб голас яго прагучаў спакойна, запытаўся князь.

— Даўно, гадзіны са тры.

— А ты і не ведаў, дзе я, што так затрымаў ганца? — ужо злавесна прагаварыў князь. Стольнік затросся.

— Валадар, ганец зваліўся ля дзвярэй. На яго напалі таці, ён паранены…

— Грамату! — не даслухаўшы, Альгерд шырокімі крокамі за колькі імгненняў вымераў прастору да дзвярэй, што вялі ў парадную палову палаца.

Пергаментны скрутак, што прывёз у торбе ганец са сталіцы, ужо трымаў у руках, каб ніхто больш не дакрануўся да яго, падчашы Мікула, седзячы на куфры ў перадпакоі. Ён ускочыў, як толькі рыпнулі дзверы і паказаўся князь. Дрыготкімі пальцамі Альгерд сарваў чырвоную пячатку, шпурнуў аскабалкі на керамічныя пліткі, якімі была засцеленая падлога.

Так і ёсць — паміраючы, вялікі князь блаславіў на вялікае княжанне… тут Альгерд перачытаў двойчы, але імя адразу ж успыхнула перад ім вогненнымі літарамі, як у даўніне перад царом Балтазарам наканаванне лёсу… Яўнут!

Яўнут!

Малодшага сынка, смактунчыка, які быў, здаецца, толькі ў адным баі, ды і тое пад наглядам старэйшых! Які яшчэ ўсюды ездзіць з дзядзькам!

У Вільню!

Аднак, падумаўшы, астыў. Яшчэ нічога не страчана. Не прыйшлі яшчэ адказы, якіх ён чакае. Браты могуць і не згадзіцца з рашэннем бацькі — усё ж яны ўжо самі маюць дзяцей, такіх, як Яўнут. А Манівід зусім хворы, у яго распухаюць ногі, і ён ледзь сядзіць на кані. Аднак не ён першы падніме галас, не ён першы скажа аб сваёй нязго-дзе. Няхай пра гэта прамовіць…

Кейстут!

Наўрад ці рашыцца брат сам нацэліцца на велікакняскі стол. Усё ж сілы ў яго куды меней, чым у Альгерда. У свой час не паслухаўся бацькі, які адшукаў яму нявесту ў мазавецкім княскім доме, а са скандалам, з гвалтам вы-краў вайдэлотку, абразіўшы тым усю Жамойць. А што ўзяў за ёю? Каханне? Зняважлівую ўсмешку, якая была ўжо ўспаўзла на ягоныя вусны, ён рашуча

згасіў, нават сабе не жадаючы прызнацца, што задаволены тым. Іначай быў бы зараз Кейстут мацнейшым — мазавецкія князі бліжэй да папы, а Віцьбескае княства пакуль, на жаль, бліжэй толькі да сквапных маскоўцаў, якія маюць апетыты не горшыя, чым у Гедзімінавых сыноў. А намовіўшы на велікакняскі стол Альгерда, набудзе Кейстут моцнага абаронцу і сябра, а не саперніка.

Значыць, трэба дачакацца адказу на лісты, якія ён разаслаў братам.

І, утаймоўваючы сэрца, пайшоў Альгерд не ў лажніцу, як хацеў раней, а ў падзямелле, дзе захоўвалася зброя. Хіба можна цяпер уляжаць? А размаўляць з кімсьці аб прачытаным не хацеў. Не сыноў гэтая справа, а толькі ягоная. Вось тады, калі выспее рашэнне, ён і пагамоніць з імі аб велікакняскім стале і аб дзядзьках-саперніках.

Толькі спусціўшыся на колькі прыступак, ён успомніў, што не пераапрануўся і не зняў з сябе панагіі — каменнай візантыйскай іконкі з хрызапразу, якую падарыў некалі на вянчанні з Марыяй цесць. Пазней залатых спраў майстры ўставілі яе ў залатую аправу, упрыгожаную эмаллю, каванымі ўзорамі і каштоўнымі камянямі. Віцьбічы любілі, калі на ім была гэтая іконка, — тут, у горадзе, дзе амаль усе баяры былі хрысціянамі, ён, прышлы князь, які дасюль трымаў пры двары жрацоў, тым паказваў ім, што іх ён шануе болей, чым звычаі роднай зямлі і нават самога велікакняскага двара. Якраз таму Альгерд, едучы на раду альбо прымаючы замежных паслоў, заўсёды трымаў на грудзях гэты старажытны абраз з выразанымі на светла-зялёным камені Багародзіцай і Дзіцяткам. Ён намацаў цёплы камень, прашаптаў малітву да Айца нябеснага і, кульгаючы, стаў спускацца ў збройню.

У падзямеллі пахла вільгаццю, і падчашы, як і Верабей, апраўдваўся, казаў аб тым, што паляць тут печы штодзень, каб не заржавела зброя, аднак блізкасць Рубона… ён па-правіўся — Дзвіны моцна ўплывае на захаванне. Таму ледзь не штодзень спецыяльныя хлопцы выціраюць і дзіды, і навершы, і мячы, і сякеры. Ручніцы ж паклалі наверсе — ачысціць іх немагчыма, а яны дарагія, нібы зробленыя з самога золата.

У куфрах, што стаялі ўздоўж сцен, захоўвалася ўсё, што прывозілі з паходаў альбо атрымлівалі як дары князі віцьбескія — дарагія, з каштоўным каменнем шчыты, мячы з тонкай, гнуткай сталі, якія робяць толькі на Усходзе, кальчугі, панцыры, каваныя рыцарскія грудзіны і маскі на галаву з прарэзанымі шчылінамі для вачэй, стрэлы з апярэннем птушак, якія не водзяцца тут, у

Княстве. Брэцьяніцы ж для баляванняў, чашы з косці ці рогу, апраў-леныя ў золата, перлы, шапкі з апаяскай самацветамі — усё гэта хавалася ў іншай зале, але туды Альгерд не пайшоў, толькі загадаў скарбніку Цімафею прынесці яму ў лажніцу куфэрак з самымі каштоўнымі камянямі — дыямантамі, яхантамі, тавусінавым россыпам. Цімафей аддаў кароткі загад, і адзін са слуг кінуўся да дзвярэй.

— Маю кальчугу, — коратка кінуў князь, і Цімафей зноў кіўнуў памочніку, а той амаль адразу ж выцягнуў з самага вялікага куфра тонкую металічную кальчугу — звон яе колцаў аддаўся ў самых далёкіх кутках вялікае залы. Альгерд прыдзірліва агледзеў пераліўнае ўзорыстае цела кашулі, што заўсёды ляжала на ім так, што не адчуваў ён ні цяжару яе, ні памераў. Але з апошняга паходу прайшло ажно тры гады, ён сам адчуваў, што патаўсцеў, агруз, і цяпер чамусьці захацелася праверыць, а ці па-ранейшаму свабодным і прыдатным будзе на ім усё, што надзяваў, збіраючыся на бітвы.

Цімафей не чакаў новага загаду — пакуль князь, зняўшы карзно і шапку, соўгаў рукі ў шырокія адтуліны кароткіх рукавоў, памочнікі ўжо трымалі напагатове шлем з пушыстымі лебядзінымі пёрамі над забралам, круглы скураны шчыт з вялікім зялёным яхантам усярэдзіне — ён таямніча бліснуў у чырванаватым святле смалякоў, чырвоныя боты з сярэбранымі падкоўкамі і доўгі меч у чырвоных жа скураных похвах з нашытымі на ім узорамі-абярогамі. Але князь не ўзяў меч, з ягоных вузкіх вуснаў зляцела адно толькі слова:

— Дзіду!

Ды на гэты раз і Цімафей, і памочнікі не паспелі імгненна выканаць кароткі загад свайго ўладара — слуга корпаўся ў кутку, ліхаманкава тузаючы свой факел туды-сюды, нібы хацеў разгледзець на сцяне тое, чаго там не было.

— Дзіду, я сказаў! — ужо загневаўшыся, князь падняў галаву ад ботаў, у якія абуваў яго слуга, і глянуў на скарбніка. Але той, не дачакаўшыся новага азвання, сам кінуўся ў кут і схапіў слугу за плячо. Але той з адчаем выгукнуў:

— Няма яе!

— Як гэта — няма?

Цімафей выхапіў факел з рук памочніка і высока падняў яго, каб разгледзець усё, што вісела на сцяне, — дзіды розных формаў, ручніцы, мячы. Не верачы сваім вачам, скарбнік апусціў смаляк з зыркім полымем уніз, але і там не знайшоў таго, што шукаў. Ён упаў на калені і падняў збялелы твар да Альгерда:

— Вялікі гаспадар, мы не знаходзім твае дзіды!

— Як гэта — не знаходзіце?

Альгерд адхіліў ад сябе слугу, упіўся вачамі ў Цімафея. А той з адчаем загаварыў, умольна складаючы рукі:

— Мы пашукаем, вялікі гаспадар, можа, хтосьці па недаглядзе паклаў яе ў іншае месца… Мы зараз, зараз пашукаем…

— Шукайце.

Рукі ў слугі, які надзяваў бот на другую нагу князя, трэсліся. Дрыжаў, як пры моцнай сцюжы, і Цімафей, разам са слугамі перабіраючы кожную рэч, якая знаходзілася ў збройніцы. Але дарэмна — дзіды з сярэбранай выявай дзявочай постаці, любімай зброі гаспадара, не было нідзе. Твар Альгерда, з блакітнымі вачамі, з пасівелай русай барадой, што хавала шчокі, звычайна ветлы і ўладна-спакойны, рабіўся цяжкім, нібыта наліваўся ярасная сілай, якой баяліся ўсе, асабліва ворагі на полі бітвы.

— Заўтра з раніцы прынясеш яе ў замак. А не знойдзеш…

Ён не дагаварыў. Як быў, у кальчузе, загадаўшы несці за ім карзно і абутак, пайшоў наверх, чуючы за сабою змярцвелую цішыню збройніцы.

Аднак назаўтра скарбнік Цімафей усё ж прынёс запаветную дзіду. Як дазнаўся ён за адну ноч, што, раўнуючы мужа да невядомай дзяўчыны-чараўніцы, княгіня Марыя некалі патаемна загадала схаваць грозную зброю свайго мужа ў Ніжнім замку, сярод мячоў нават і не сыноў, а ўсяго толькі замкавай аховы? Але, перавярнуўшы ўсе вайсковыя скарбы, не спаўшы ніводнай хвіліны, змог Цімафей выканаць княжую волю.

Ды, агледзеўшы зброю, князь заўважыў, што на дзяржальні, якраз насупраць сярэбранае выявы дзяўчыны, прымацаваны да ясеневага дрэўка праваслаўны крыж, таксама з серабра.

— Хто ж тое сатварыў?

Усю віну ўзяў на сябе Цімафей, маўляў, не дагледзеў, а зрабіць тое мог любы з хрысціян, паноў-рады — але адразу здагадаўся Альгерд, што не скарбнік тут і не хтосьці з паноў-рады вінаватыя, і, прыпёршы слугу да сцяны, выпытаў усё. Выпетраны тым допытам дашчэнту, Цімафей выходзіў з княжае лажніцы і застрашаны, і захоплены адначасна — мудры, як змей, ягоны валадар! Такая слава аб ім ідзе недарэмна, кажуць, што і пад зямлёй бачыць ён, хаця, вядома, не можа параўнацца з вешчуном Усяславам Чарадзеем, колішнім уладаром гэтае зямлі. І, задаволены тым, што ўсё ж свой, тутэйшы князь больш мудры, чымся прымак Альгерд, які прыйшоў на гэтае княжанне па жонцы, доўга піў моцную медавуху Сосень, у хрысціянстве Цімафей, а

пасля бухнуўся на калені перад божышчам Вялесам і падзякаваў за шчаслівае выратаванне ад страшнага гневу валадара.

Альгерд жа загадаў павесіць дзіду на сцяне ля свайго ложа. На двух узорыстых загнутых кручках ляжала яна, і раніцай, калі ўзыходзіла сонца і падала першым промнем на сярэбраную дзявочую постаць каля дзяржальна, нешта зварушліва тоўкалася ў грудзі князя, і ён са здзіўленнем адчуваў, што дзень для яго рабіўся нібыта лягчэйшым — не так ныла плячо, не торгалася нешта ў вуху, аддаючыся ў скронь з пасівелымі і ўжо парадзелымі пасмамі русявых валасоў. Спраў было шмат — ваявода па загаду князя спадцішка, але надта паспешліва рыхтаваў войска для паходу на Вільню. Перавага ў сіле дапаможа ў справе дзяржаўнай. Слабага не прызнаюць ні браты, ні народ.

За два тыдні да Грамніц Альгерд атрымаў доўгачаканы ліст ад Кейстута. Брат пісаў, што ён гатовы ісці на Вільню, каб адабраць уладу ад недастойнага яе Яўнута, апавядаў пра колькасць вояў, якіх ён павядзе ў сталіцу. Але не было на пергаменце галоўнага — каму ж быць вялікім князем. Не напісаў пра тое Кейстут. І, заседзеўшыся ў тую ноч над лістом, стараючыся між радкоў адгадаць, што думае на самай справе брат — ці дапамагчы, ці заманіць у Вільню, каб лягчэй расправіцца з магчымым сапернікам, — не заўважыў князь, што звонку цікуе за ім чужое вока, зазірае ў шчыліну між цяжкімі заслонамі, чакаючы свайго часу.

Калі лёг спаць, прытомлены, заснуў амаль імгнення. Аднак нешта ў ім, чуйнае і сцярожкае, адразу ж абудзілася, калі коратка ценькнулі ля акна ахоўныя бронзавыя бразготкі, павешаныя вялікім жрацом Вялеса. Такія ж бразготкі былі і над ягоным ложам, але, ціха працягваючы руку да дзіды, што вісела над правым плячом, не за-крануў іх князь, і таму той, хто на дыбачках падышоў да ложа і коратка, але са страшнай сілай узмахнуў мячом над князем, не чакаў ніякага супраціўлення. Аднак, зверам ускочыўшы з ложа, паспеў Альгерд перахапіць дзіду абедзвюма рукамі і выставіць яе паперадзе сябе. Удар амаль рассек моцнае ясеневае дрэўка, аднак, перахапіўшы тую частку, на якой трымалася наверша, князь з усяе сілы ткнуў ім у ворага. Нягледзячы на цемру, ён трапіў проста ў горла нападальніку, і той, страшна захрыпеўшы, пачаў асядаць на падлогу.

На рык Альгерда амаль імгнення ў пакой уляцела варта са смалякамі і мячамі, па калідоры пратупацела падмога. Пакой напоўніўся воямі, звонку, з баявой пляцоўкі-забарала, што месцілася на гародні паблізу брамы, заспяваў горан, — вяшчун трывогі.

Князь, у расхрыстанай кашулі, з матузком, на якім матляліся вакол шыі кудмені — жоўтыя шкляныя пацеркі, — глядзеў сабе пад ногі. Няўдалы забойца — малады валасаты дзяцюк з шырокімі грудзьмі, каратканогі, са скажоным ад пякельнай пакуты тварам, курчыўся ў апошніх сутаргах, спрабуючы ўхапіць паветра, якое ўжо не прахо-дзіла ў яго перарэзанае навершам горла, што захлыналася ўласнай крывёй і гердала нешта невыразнае, не зразумелае нікому.

— Кім ты пасланы? — каторы раз пытаўся Альгерд, але дзяцюк нічога не казаў, адно кароткія ногі яго торгаліся і торгаліся, як бы шукаючы апору, але не знаходзілі яе, і вырачаныя лялы засцілала добра знаёмая князю смуга: так глядзяць тыя, хто бачыць перад сабою багіню смерці Мару і каму яна злавесна ўсміхаецца, ласкава агладжваючы нябогу перад тым, як апошні раз ахінуць яго сваім страшным чорным крылом.

— Абшукайце яго!

Варта кінулася тармасіць забойцу, але, апроч паса з магалейкай, дзе ляжалі крэмень і ножычак, якім дзяцюк, відавочна, выняў шкло з аконнае рамы, каб улезці ў лажніцу, у яго нічога не было. Па медальёне ж змеевіку на грудзях, які знайшлі пад каптанам, таксама нельга было вызначыць, хто і адкуль гэты гіцаль, што здолеў ашукаць варту і, нягледзячы на ахову, ускараскацца наверх, да пакояў князя. І воі, якія прыбеглі сюды, апускалі галовы ўсё ніжэй і ніжэй. А камандзір варты — статны, магутны пахолак у кальчузе, з баявым склюдам — сякерай, прымацаванай да тоўстага скуранога паса з бронзавымі пласцінкамі-акоўкамі, стаяў як закамянелы, толькі шырокія, цяпер амаль бяскроўныя вусны яго ўвесь час варушыліся, нібы ён, як і забойца, хацеў нешта вымавіць і не мог. У ягоных вачах мільгацелі падземныя вязніцы, дзе да магутных колцаў у сцяне прыкоўвалі вінаватых, якія ўсё астатняе жыццё атрымлівалі толькі хлеб ды ваду і прасілі смерці, ды не мелі нават яе. І прыгажуня-сінявочка Раска, з распушчанымі па ружова-малочных плячах бялявымі валасамі, мяккая і разамлела-цёплая пасля грэшнай ночы, цяпер аддалялася, аддалялася ад яго, усміхалася камусьці іншаму за ягонай спіной. Таму ён вырачыў вочы на Альгерда, але і скрозь яго, а князь, паволі наліваючыся пякельным, страшным гневам, таксама глядзеў на пахолка.

— Пра што ж ты думаў сёння на варце? — злавесна-ціха запытаўся ён. І пахолак, нібы высунуўшыся на імгненне з каменнай глыбы, у якую яго жывога ўжо нібы замуроўваў позірк князя, адказаў нечакана для сябе:

— Пра яе, Раску.

— Якую… Раску?!

— Віслену, нашу, віцьбескую.

— Чаго ж ты думаў пра яе, калі яна… віслена, гуляшчая? — усё гэтак жа злавесна-спакойна, нібы мяккай, нячутнай рыссю падбіраючыся да няшчаснага, казаў валадар. І галоўны вартаўнік, адчайна, нібы кідаючыся з высокага паверха ўніз, у цёмнабурлівую Дзвіну, выбухнуў:

— Кахаю яе, змяю, а яна замуж не хоча!

Вырачаныя вочы пахолка не мігалі, погляд быў шкляны і няўцямны. Князь глыбока ўздыхнуў, набіраючы паветра, каб аддаць смяротны загад і тым абарваць гэтае жыццё, таму што не пакараная віна цягне за сабой іншыя і іншых. Але погляд яго спыніўся на верхняй частцы дзіды, што валялася побач з забойцам, які заціх і болей не хрыпеў, вусенем скурчыўшыся ля ягоных босых ног. Гнеў яго сціх — сярэбраная постаць на дзяржальне нібыта прасіла аб нечым. Узамен навалілася цяжкая, як стапудовая, стома.

— Ідзіце, — коратка кінуў усім. У гэтую хвілю ў лажніцу ўбеглі сыны, усе пяцёра. Наперадзе — старэйшы, пятнаццацігадовы Андрэй, за ім — Уладзімір, Дзмітры, Канстанцін, Хведар. Танклявы, з доўгімі, да плеч, валасамі, як выліты ў бацьку, Андрэй кінуў позірк на забойцу, здрыгануўся, парывіста абняў князя:

— Дзякуй Госпаду, ты жывы, тата!

Уладзімір, моцны, каржакаваты падлетак, сарамліва трымаўся ззаду за братам, яго круглыя вочы прагна лавілі ўсё навокал — меч на падлозе, прачыненае акно, з якога свістаў вецер з Дзвіны і якое са скрыпам зачыняў стольнік Верабей, лужыну крыві пад няўдалым забойцам, якая чарнела на вачах. Малодшыя ж глядзелі на кроў з жахам, у Хведара дробна трэсліся рукі. Начальнік віжоў Няжыла ціхім пошаптам загадваў двум сваім слугам вынесці цела забітага ў лядоўню, каб тут жа пачаць свой вышук, адкуль узяўся і кім быў падасланы чалавек, які разварушыў увесь замак, як мурашнік. Сапраўды, у гэты позні час паўсюдна гарэлі вокны, да замка беглі разбуджаныя сігналам трывогі гараджане, скрозь браму праехалі першыя з паноў-рады, па якіх адразу ж паслаў ваявода.

Марыя ўвайшла з тварам, на якім не было ні крывінкі, аднак заўважыць тое мог толькі сам Альгерд. Дочкі, як паслухмяныя качкі, беглі за ёю, але яна не пусціла іх у лажніцу, пакінуўшы ў калідоры на нянек, спачатку зайшла сама. Шчокі яе палымнелі штучным румянкам, намітка акуратна абвівала пасівелыя вала-

сы, сукня на поўнай, трохі ўжо грузнай постаці была без ніводнае зморшчынкі. Толькі ў вачах бліскалі сполах і крыўда. Ён разумеў яе — не раз прасіла ўзмацніць варту, ды і не жадала класціся ў асобнай лажніцы, як рабіў тое апошнімі гадамі князь, спасылаючыся на тое, што не хоча будзіць яе начамі. Яна паспяшалася да Альгерда, абняла яго, але паспела ўсё ж шапнуць:

— Была б я тут…

Не дагаварыла. І так усё было зразумела — яна б дагледзела, пачула смяртэльны скрыгат ляза па аканіцы, калі б была побач з мужам. Той звычайна спіць моцным сном стамлёнага дашчэнту чалавека, яна ж, бывае, толькі за-плюшчыць вочы — і зноў чуйна слухае, як з шалясценнем дрэваў, скрыгатаннем лодзій на Дзвіне, галасамі вартавых плыве ноч над Віцьбескам, дарагім горадам, які яна прынесла ў пасаг свайму дужа разумнаму, але часам такому неабачліваму ў самых простых рэчах мужчыну…

Калі выйшлі вартавыя, Няжыла сам агледзеў акно і патлумачыў, што зашчэпы былі амаль перакушаныя абцугамі яшчэ днём, таму іх лёгка ўдалося зняць простым нажом. Але як магло адбыцца тое? Варта не сыходзіць з забаралаў, кожнага, хто падыходзіць ці пад’язджае да замка, можна лёгка ўбачыць з вышыні. Хутчэй за ўсё дзейнічаў нехта з тых, хто служыць у замку і чые дзеянні не выглядалі для варты дзіўнымі — можа, нехта са стольнікаў ці пакаёвых жанчын. Нікога не абмінуць увагай галоўны віж і ваявода, патаемна праверац і родзічаў: ці не ездзіць хто часцяком у ганзейскія гарады альбо туды, дзе жывуць браты князя, — Слонім, Кернаў, Навагародак, Луцк, у тую ж Вільню?

Альгерд не застаўся ў лажніцы. Загадаў сямейнікам ісці ў свае пакоі, а сам распарадзіўся пасляць яму ў бакавой, самай высокай у замку святліцы, якая выходзіла на Дзвіну і адкуль добра нават зараз, пасярод ночы, бачылася асветленая смалякамі царква Дабравешчання, купецкія падвор’і, прыстань, дзе ўлетку заўсёды гайдаліся стругі, вялікія камягі і даўблёнкі, што прыходзілі ў Віцьбеск з Рыгі, Любека, Кіева і везлі тавары як з усходніх — Візантыі, Венецыі і Сірыі, так і заходніх краін.

Княгіня праводзіла яго ў святліцу, загадаўшы нянькам прынесці пуховую пярыну і сама ўзбіўшы падушкі. Відаць, чакала, што ён пакіне яе тут.

Неахвотна выходзячы, з дакорам прамовіла:

— Не твая паганская дзеўка цябе выратавала, а крыж. Ты ж здагадаўся, што гэта я аб ім загадала?

— Няўжо ж не?

— Чаму ж ні слова не сказаў? А я чакала. Хітры ты, князь, ох які хітры! Ніколі не скажаш, што думаеш.

— Нашто гаварыць, Марыя? І я чакаў, пакуль ты першая раскажаш, як асмелілася насуперак маёй волі ісці.

Яна гнеўна выпрасталася, горача загаварыла. Румянак на шчоках пагусцеў, паступова заліваючы ўвесь твар.

— Тваё жыццё — гэта не толькі тваё, але і наша. Ці я не клялася перад святой Багародзіцай, што буду дзяліць з табой усё да самай смерці? Бачу, што ніяк не прыйдзеш ты да Хрыста, паважаеш усё сваё, паганскае, упадобіўшыся чэрні віцьбескай. За тое яна цябе і любіць. А я перад панамі-радай апраўдваюся, падарункамі іх задорваю, колькіх дзяцей хроснай маткай была, каб яны за цябе стаялі!

Ён падышоў, моўчкі абняў жонку і прытуліў да сябе. Ад яе пахла коленскай вадой, духмяным дымам ядлоўцу — відаць, перад сном грэлася ля кафлянай печы. З сумам падумаў, што, мабыць, і праўда аддаліў яе ад сябе, заняты справамі горада і княства, апошнім жа часам нібы адабраў ад ейных клопатаў і сыноў, рыхтуючы іх да вайсковай справы і палітыкі. Яна, якая старалася ісці з ім поруч, зараз адстала, замаркоцілася, і, падняўшы на ногі васьмярых дзяцей, страціла сваю маладую, лёгкую сілу, якую ён некалі так любіў.

Аднак і ў ім тае сілы рабілася ўсё меней. Яна, гледзячы на яго змучаны твар, пагладзіла рэдкія валасы над ілбом, уздыхнула і, пацалаваўшы яго ўжо спакойным, мацярынскім пацалункам, пайшла да сябе, у сваю напаленую лажніцу, дзе на сценах залаціліся абразы з лікамі мноства святых, якім яна малілася ўсім адразу — і за ўсіх. А Альгерд, застаўшыся адзін, падышоў да акна — яно таксама было шкляное, бо майстры з недалёкай адсюль гуты пераанялі візантыйскае ўмельства і ўжо варылі для замка хаця і не надта тонкае, але празрыстае, толькі з лёгкімі драбінкамі пяску шкло, і паглядзеў на наваколле.

Зорная ноч плыла над Віцьбескам, глуха шумелі сосны ўнізе, ля самай ракі, цяпер схаванай пад ільдом, цёмнай разломінай бачылася рэчышча ручая Дунай, які не замярзаў нават у самыя лютыя маразы. Крыжакі звычайна прыходзяць зімой, па рэках — можа, недзе зараз ваўкамі крадуцца яны, набліжаючыся да горада? І таму падаслалі забойцу, каб лягчэй было расправіцца з ім, які столькі гадоў сцяной стаяў супраць іхняе чорнае навалы разам з іншымі братамі. Гэта ўжо трэці раз спрабуюць яго зжыць са свету. Першы раз у Крэве, калі падчас піру падалі яму брэцьяніцу, дзе вострае ягонае вока заўважыла белую дылінку.

Ён не стаў піць, а ўзяў са стала кавалак зайчаціны і, паліў-шы пітвом, кінуў сабаку. Страшны віскат, з якім той пасля круціўся вакол сябе, ажно пакуль не выцягнуўся, спруцянеўшы на вачах, і дасюль стаіць у вушах. Другі раз у паходзе, калі, адстаўшы ад атрада бацькі, шукаў ён брод і заначаваў у полі. Тады, якраз як са шваграм, Давыдам, прыйшоў уначы адзін з атрадоўцаў, падкуплены немцамі, і спрабаваў зарэзаць яго кінжалам. Але Давыда ўдалося забіць, можа, таму, што надта гараваў той пасля смерці Біруты і сыноў, а яго, Альгерда, выратаваў Нячай — кумільгом кінуўся ён пад ногі наёмніку, і той пакаціўся, напароўшыся на ўласны кінжал і паспеўшы перад смерцю пакаяцца ў віне.

Хто ж так парупіўся пра яго на гэты раз? Зноў немцы? Маскоўскі Іван Каліта, якому не дае спакою ягонае сяброўства з цвярскім Міхаілам? А можа… можа, хто з братоў? Але хто? Найбольш выгадная ягоная смерць была б зараз тром — Манівіду, Кейстуту і Яўнуту. Усе яны імкнуцца да велікакняскага стальца, усе могуць трымаць краіну. Але… Манівід ніколі не рызыкне страціць тое, што мае зараз, — свае кернаўскія і слонімскія землі, на сталец можа ён спадзявацца толькі пры дапамозе Кейстута і яго, Альгерда. Кейстут? Ён узгадаў высокую, як у волата, постаць брата. Не, Кейстут не быў драпежнікам-зверам, ён, сын Віды, заўсёды ўражваў сваёй высакароднасцю і адкрытасцю. Безаглядна закахаўся ў вайдэлотку, а цяпер, калі няшчасце за няшчасцем сыплюцца на яго, — не скардзіцца, грэх перад багіняй аплачвае сам. Яўнут? Можа быць… Але не сам, не — гэты баязлівец ніколі не возьмецца за такую справу. Хутчэй за ўсё гэтак загадала Еўна. Без памяці любіць яна Яўнута, ды і доўгія гады ўладарства не прайшлі дарма: не хоча яна пакідаць Вільню і рабіцца дробнай кернаўскай альбо жамойцкай княгіняй пры сыне і нявестцы.

Моцныя дубовыя падваліны злёгку парыпвалі пад нагамі князя, нібы адчувалі магутны цяжар рашэння, што ляжаў на плячах Альгерда і які ён адчуваў зараз як ніколі востра: застацца князем віцьбескім і крэўскім, згадзіцца на тое, каб велікакняскі пасад заняў Яўнут? Альбо Кейстут? Альбо Манівід?

Ён зноў убачыў вялікую дубовую залу ў Віленскім замку, дзе стаяў сталец — крэсла з поручнямі ў выглядзе ільвіных лапаў, з перламутравымі ўзорамі на спінцы, з разьбянымі кветкамі па версе, куды ўмацаваныя сінія, жоўтыя, чырвоныя самацветы ў залатой філіграннай аправе. Бацька, Гедзімін, звычайна сядзеў, правай рукой з адтапыраным, нерухомым абрубкам-мезенцам учапіўшыся ў лапу льва. Сталец, альбо, як яго ўсё часцей назы-

валі, трон, за гады Ге-дзіміна стаў важыць непараўнаўча болей, чым за ўсе папярэднія княжанні, яго нябачнае ззянне клалася на землі, што раней належалі гордым і самаўпэўненым валадарам, якім давялося-такі схіліць свае галовы перад Вільняй. Нямала крыві за тое, каб гэтак сталася, праліў і ён, Альгерд. Паходы, смерць сяброў і паплечнікаў, жахлівыя папялішчы на месцы храмаў і селішчаў — вялікую, надта вялікую цану плаціў вялікі князь Гедзімін і сыны.

Толькі не Яўнут.

Але і Манівід выконваў толькі тое, што казаў яму бацька. Кейстут жа і сам многае мог падказаць вялікаму князю, ды толькі ягоная Жамойць надта слабая ў параўнанні з Полацкаю і Віцьбескаю землямі, якія падтрымаюць яго, Альгерда, валадара крэўскага. Хаця і саслабелая, Полаччына ўсё яшчэ найвялікшая і найслаўнейшая зямля, сапраўдная пярліна ў велікакняскай кароне, яна і зараз дае найболей падаткаў, бо мае самы значны ў княстве гандаль з ганзейскімі гарадамі. Калі ён змірыцца з роляй васала, то гэтага палачане і віцьбічы яму не даруюць.

Але — раптам вайна? Раптам ён не ўлічыў думак і рашэнняў іншых братоў, і яны, гаворачы адно, на справе падтрымаюць Еўну і Яўнута? Што тады чакае ягоных сыноў, дочак? З пераможанымі не важдаюцца, ведаюць, што сямейнікаў нельга пакідаць жывымі, бо вырастуць дзеці і жорстка адпомсцяць за смерць бацькоў, за страту земляў.

Так ён стаяў, вагаючыся, перадумваючы і пераглядаючы то адно, то другое рашэнне, а ноч паціху сплывала ў нябыт, пасвятлела на ўсходзе, зарыпеў снег пад нагамі жанчын, што спяшаліся да ракі, калышучы на каромыслах драўляныя цэбры. У царкве загарэўся слабы агеньчык, ён рухаўся, адзінока і мігатліва — мабыць, прыклыпаў першы служка альбо царкоўны вартаўнік абыходзіў храм, правяраючы, ці не залезлі куды таці.

Альгерду захацелася дакрануцца да каменнай, у чырвоных пасках плінфы сцяны, упасці на калені перад залатым іканастасам і папрасіць дапамогі і парады ў бога, якому маліліся яго маці і жонка, але які да гэтага часу здаваўся яму далёкім і як бы чужым. Колькі разоў у год бывае ён у храмах — і праваслаўных, і каталіцкіх! Ад часу, калі хрысцілі яго ў Навагародку, самым мілым быў для яго гэты — тут некалі вянчаўся ён з Марыяй, і радасна глядзеў на яго ейны бацька, князь Яраслаў, тады яшчэ малады, кучаравы, з зеленаватымі лускавінкамі хмелю на скроні, якія зачапіліся за валасы, калі ён пры ўваходзе ў царкву поўнымі прыгаршчамі сыпаў пахкім крошывам на дачку і зяця. Па ўсім

горадзе званілі званы, гудзелі білы, дудзелі валынкі і тонка, працяжна спявалі жалейкі вянчальную песню пра Ладу і Лада, пра Леля і Палеля. Яны выйшлі з царквы; ён — у лазуровым шаўковым каптане і шапцы, абітай собалем, яна — у чырвоным адамашкавым* летніку з брамамі аксамітнымі і намітцы, вышытай таксама чырвоным ядвабам, і народ упаў на калені, а яны разам ступілі на пушысты зялёны каберац**, пасцелены адразу за царкоўным парогам. І іх зноў пачалі абсыпаць хмелем, жытам, кветкамі, а скарбовец княжы ішоў за імі і сыпаў у натоўп грошы літоўскія — дэнарыі, пенязі і шэлегі.

Князь пляснуў у далоні, і адразу ж з-за дзвярэй вышмыгнуў падстольнічы. Глядзеў спалохана-насцярожана.

— Загадай, каб зараз жа прывезлі святара Васіля службу правіць.

Падстольнічы кіўнуў, чакаючы, ці не скажа чаго яшчэ яго пан, пасля борздзенька, перавальваючыся качкай, паклыгаў да дзвярэй — выконваць загад.

— Пакліч Андрэя, — дадаў Альгерд яму ў спіну.

Падстольнічы зноў кіўнуў, пакланіўшыся на хаду, і знік у прыцішаным начным калідоры, але князь ведаў — каля дзвярэй, слухаючы ягонае дыханне і кожны скрып пад нагамі, цікуе за ім збройнік-вартавы. Цяпер доўга будуць пільнаваць кожны ягоны крок — аж пакуль зноў, праз колькі гадоў, недагледзяць, супакоіўшыся. І ці застанецца ён такім жа, як цяпер — моцным, гатовым адбіць любы ўдар? Не — кожны павінен слухацца волі багоў, а яна ў тым, што ўсё на зямлі нараджаецца, набірае моц, каб расцвісці і пакінуць пасля сябе насенне, а пасля адысці, даць дарогу новаму, маладому… Час вучыць Андрэя мудрасці і ўменню валадарыць. І ён, дачакаўшыся, пакуль трохі яшчэ сонны княжыч зайшоў да яго ў святліцу, разам з ім спусціўся ўніз, пільна азіраючы дубовыя бярвёны, якімі ўмацаваны быў схіл да Дзвіны, прайшоў праз браму, па-абапал якой стаялі вартавыя, якія, пазнаўшы князя, высока ўзнялі дзіды, вітаючы яго. За князем і ягоным сынам ішлі чацвёра вояў, на тоўстых скураных іхніх пасах віселі цяжкія, ледзь не да зямлі, мячы.

У царкве, толькі што адзінока-самотнай і цёмнай, служкі адну за адной запальвалі перад іканастасам свечкі, ад чаго пісаныя золатам німбы ззялі як лампады, кідаючы жоўтыя водбліскі на мазаічную, у каляровых узорах, падлогу. Тоўсты, высачэзны

---

* З шоўку, які прывозілі з Дамаска.

** Невялікі дыванок.

дзяк нізка схіліўся перад высокімі гасцямі, і амаль адразу ж, не паспелі яны сесці на высокія крэслы пасярэдзіне царквы, з царскае брамы выйшаў святар Васіль. Альгерд заўважыў, што рыза на ім трымаецца крывавата, а валёнкі яшчэ мокрыя ад снегу — бачна, што святар надта спяшаўся.

Бразгаючы ладаніцай на доўгім ланцужку, служка акурыў іх духмяным ладанам, святар пачаў малебен за здароўе князя і ягонай сям'і. Словы яго не былі цалкам зразумелыя, але роўны, напеўны малітваслоў супакойваў. Ад твараў святых, што нібы калыхаліся ў няроўным, трапяткім святле свечак, таксама ішлі спакой і цішыня.

«А яны ж таксама некалі былі звычайнымі людзьмі, хваляваліся, хварэлі, магчыма, таксама ваявалі з ворагамі, як той жа Юры, што цяпер адмыкае нябесную браму залатымі ключамі», — прыйшла ў галаву думка.

— Тата, гэта ж Бог захацеў, каб ты стаў князем? — шэптам запытаўся Андрэй, які цярпліва сядзеў на крэсле ў сваім падбітым вавёркамі карзне, паклаўшы на калені малінавую аксамітавую шапку з тым жа рудым падбоем.

— І каб ты нарадзіўся княжычам, а можа, і вялікім гаспадаром Літвы, — гэткім жа шэптам адказаў Альгерд, у той час як святар Васіль неадабральна, не перапыняючы напеву, глянуў на іх, а наверсе, на хорах, тонкімі галасамі падхапілі напеў падаспелыя пеўчыя.

— Што ты просіш у Бога? — калі князь прыклаўся сухімі вуснамі да крыжа і стаў на каленях на рассцелены перад ім пушысты каберац, запытаўся святар.

— Папрасі, ойча святы, каб Бог дапамог мне ў маіх задумах.

— Але ў чым яны?

— Нашто табе ведаць, святы ойча! Калі Бог усё ведае, то ён разумее, пра што я.

Святар сумеўся, хаця ён добра ведаў і скрытнасць князя — не давярае нават яму, каму святой царквой забаронена выдаваць таямніцу споведзі! Ведаў і тое, што ўпершыню прыйшоў гаспадар Віцьбескай зямлі ў храм без усіх дзяцей і жонкі, а галоўнае — без паноў-рады і баяраў. Нешта ён задумаў! Але не хацелася дазнавацца пра тое. Жадалася толькі дапамагчы гэтай вялікай, але такой няпростай душы парахавацца з Богам, пагаварыць з ім. І, пачціва схіліўшы галаву, настаяцель храма абяцаў маліцца за тое, што хоча здзейсніць князь. Аднак, каб не саграшыць самому, прапанаваў Васіль пакінуць Альгерда і яго сына сам-насам тут, у святым месцы, каб ніхто, апроч Госпада, не змог падслухаць, аб чым яны будуць прасіць Усявышняга.

Зніклі ўсе, і зноў глыбокая цішыня запанавала ў царкве, толькі праз высокія вокны раз-пораз даносіліся галасы вагаўшчыкоў і складароў, што адкрывалі клеці і купецкія канторы, перагаворваючыся між сабой.

Глыбокія вочы Спаса з царскае брамы, які, здавалася, глядзеў у самую глыбіню князевай душы і ведаў без аніякіх тлумачэнняў і просьбаў, што ў ёй творыцца, бянтэжылі Альгерда. Са старымі багамі прасцей — яны свае, і, нават не адгукаючыся на просьбы, нават насылаючы на грэшнікаў маланкі і грамы, усё ж здаюцца бацькамі, перад якімі не сорамна ні за якую просьбу ці маленне. Зусім іншы гэты, хрысціянскі Бог. Тое, што ён сатварыў, дакладней, дазволіў сатварыць з сабой, перавышае чалавечае разуменне. Маючы сілу скрышыць усё варожае сабе і свайму вучэнню, ён, наадварот, даў сілу ім і сканаў у страшных пакутах. Хіба яны раскаяліся потым? Не, хаця пасля яго смерці, як расказваў яму епіскап, страшэнная навальніца абрынулася на горад Ерусалім, і здрыгануліся ад жаху ўсе навокал.

І нават калі Хрыстос устаў з мёртвых, адваліўшы вялізны камень з магілы, і тады не ўпалі перад ім ні намеснік рымскага цэзара, ні галоўны святар Ерусалімскае зямлі, а пастараліся забыцца на тое, чаго не маглі, ды і не хацелі зразумець…

Ён, Альгерд, спрабуе зразумець. Спрабуе, хаця ўсё ў ім супраціўляецца гэтаму, бо ён навучыўся разбірацца ва ўсім, што ёсць у гэтым свеце, але зусім не ведае і, прызнаўся ён сам сабе — баіцца свету іншага, адкуль прыходзіць наўе, вешчыя сны і прадбачанне таго, што адбудзецца, а таксама і многае іншае, што не пад сілу ягонаму розуму… Ды ён не хацеў бы даваць волі над сабой нікому — ні паганскім жрацам, ні хрысціянскім святарам, аднак князю, якога не падтрымліваюць вестуны і святары, не ўдасца валадарыць. Таму трэба стаяць на каленях і тут, у старым храме, таму што…

Ён не дадумаў да канца. Погляд Спаса з-пад залатога німба нібы раскрышыў у ягонай душы камень насцярогі, што заўсёды ляжаў на сэрцы. Раптам адчуў сябе малым — бацька, вялікі гаспадар Княства, уздымае яго за плечы, паказвае ў вузкім акне замка ў Навагародку зялёна-шэрую, з лапікамі азіміны вялізную даліну — злева там блакітная пляміна Валовага возера, справа густая, калыхлівая пушча, і гаворыць, што ўсё тут належыць ім, дзецям Гедзіміна. Абавязак іхні — берагчы княства ўсім разам, не сварыцца з-за зямлі, бо хопіць яе ўсім…

Але тады не было Яўнута, тады побач з Гедзімінам аберагала сваё гняздо і іх, дзяцей, княгіня Вольга, а Бірута, якая магла б

быць іхняй саперніцай, разам з князем Давыдам, ейным мужам, не хацела сваркі і была задаволеная тым, што ў яе ёсць Гародня, дзе любілі і бераглі тую некалі такую шчаслівую пару. Няма Біруты, як няма і князя Давыда, яны ляжаць каля Каложскай царквы, што ўсё болей нахіляецца да Нёмана…

Андрэй, што стаяў на каленях побач з ім, нецярпліва параварушыўся. Альгерд паспрабаваў устаць, хворая нага балюча заныла. Сын дапамог яму. Альгерд абапёрся на слабое яшчэ плячо падлетка, паглядзеў у сінія вочы, на твар з яркім румянкам і зрослымі чорнымі брывамі, уздыхнуў. Ці зможа ён абаперціся на Андрэя па-сапраўднаму, ці будзе ў хлопца мудрасць, без якой няма сапраўднага валадара? Гаспадар зямлі ліцвінаў Гедзімін меў такую мудрасць. Ён цярпліва вучыў сваіх сыноў усяму, што сам ведаў, і не шкадаваў грошай на самых лепшых настаўнікаў. Не шкадуе і ён, Альгерд. Але не надта цягнецца да вучэння Андрэй — бачыў аднойчы, як грэбліва раскідаў той васковыя дошчачкі, пісалы, як замаруджана, каб пазлаваць чарняца Вавілу, мачаў ён гусінае пяро ў чарніліцу і раптам пляснуў чарнілам на ягоныя рукі. Можа, гэта простыя хлапечыя штукарствы? А тое, што хлопец залішне ўзіраецца ў дзевак-чарнавак, якія мыюць падлогу ў княжых пакоях, заткнуўшы за паясы доўгія столкі спадніц, бліскаючы ружова-малочнымі лыткамі, — можа, гэта не перашкодзіць першынцу разважаць над тым, дзе і як сустрэць ворагаў?! Андрэй жа пад праніклівым позіркам бацькі сумеўся, румянак на свежых шчоках з першымі валасінамі над пульхнымі вуснамі стаў цямнейшы, але ён ні аб чым не запытаўся. Так і пайшлі з царквы — Альгерд, кульгаючы мацней, чым звычайна, Андрэй жа павольна, падтрымліваючы бацьку, — у замак, дзе засвяціліся ў ранішняй цемры, ужо не чорнай, а цёмна-сіняй, агеньчыкі свечак.

Княгіня Марыя, вядома, папракнула, чаму не пайшоў у замкавую царкву святога Міхала — а раптам забойцы не суцішыліся, раптам напалі б на гаспадара раніцай? Нехта ж абавязкова пільнаваў, чым скончыцца начны напад, нейкі таць, угледзеўшы ўначы, што не забілі Альгерда, пабег казаць пра гэта тым, хто даў забойцы нож і, можа, шчодра заплаціў яму. Але Альгерд слухаў тое няўважліва — царква Дабравешчання старая, намоленая, у ёй толькі і прасіць Бога аб літасці — калі, вядома, ён захоча слухаць…

Вечарам жа ў лажніцу да князя прыйшоў Цімафей і прынёс дзіду. Пасечанае ворагам дрэўка замянілі, і на ім, новым, зноў убачыў князь даўнюю сярэбраную постаць дзяўчыны і крыж, які загадала набіць на дрэўку княгіня Марыя.

— Горад гудзе, валадар, — назіраючы, як Альгерд вы-прабоўвае новае дрэўка — ці так, як ранейшае, зручна месціцца яно ў руцэ, ці не драпае далонь, — загаварыў Цімафей. — Жрацы Перуновыя трэбы спраўляюць, маўляў, старыя багі зберaглі нашага валадара, святары ж хрысціянскія кажуць, што тое сатварыў крыж на дзідзе. А як ты сам думаеш, княжа?

— А якая мне розніца, хто мяне абярог? — князь беражліва змясціў дзіду на ўзорыстых кручках, убітых у сцяну, адышоўся, залюбаваўся ёю. Адчышчанае пяском вастрыё, падобнае да ліста, блішчэла ў водсвеце свечак. На імгненне нібы павеяла пахам паслянавальнічнай свежасці, маладой травы, мільганула ў памяці дзяўчына, што кавала дзіду, узгадалася ранішняя Зараніца, што дакранулася першым промнем да жалезнага наверша там, у старадаўнім навагародскім свяцілішчы…

Ён ажно здзівіўся, што ўсё ў ім засталося, не размала-цілася кавадлам Часу — тое маладое хваляванне, светлая надзея на шчасце, шалёнае біццё сэрца, калі дакранаўся да далонькі, ад якой пахла рутай і нечым салодка-дзявочым, патаемным. І боль страты, што доўга не даваў дыхаць, аказваецца, жыве таксама…

Цімафей не мог зразумець, чаму твар у князя змяніўся, заззялі вочы, разгладзіліся зморшчыны на лбе. Ён толькі адчуў, што лішні тут, і асцярожна, спіной, пашыўся да дзвярэй, намацаў іх і ціха зачыніў за сабой. Альгерд жа яшчэ доўга стаяў ля дзіды, успамінаючы чырвоную гліну размяклай ад шалёнай вады дарогі, цёмную навальнічную хмару над кузняй і агніска, якое раздзімаў каваль, названы ў гонар маці — княгіні Вольгі. Было тое далёка, на другім канцы княства, але будучае сцерагло яго, Альгерда, сачыла за ім. Сачыў Віцьбеск, што стаў за гэтыя гады родным, і для яго, аказваецца, упрыгожваў свой Узгорскі замак будучы цесць, які таксама не ведаў, хто ж возьме за сябе ягоную Марыю. Няўжо будучае прадвызначана? І што стане з Віцьбескам праз гады? Хто будзе тут княжыць, хто будзе хадзіць па залах, дзе цяпер спіць, вырашае лёс людзей ён, князь Альгерд? І ці застанецца для нашчадкаў яго імя, ягоны дух, ягоныя думкі, якіх так шмат тут перадумана?

Віцьбескі ж люд, угледзеўшы ўначы, як свеціцца акно князевых пакояў, гадаў, што робіць князь. Не было ў горадзе нікога, хто б не ведаў, як, адчуўшы ворага, сама сабой ускінулася са сцяны чароўная князева дзіда і ўпілася акурат у горла наёмнага забойцы, якога падкупілі немцы. Шмат яшчэ часу чуліся на гандлёвых радах галасы, што паганых тых сабак трэба ўсіх перабіць, а войт яшчэ доўга агалошваў асобныя артыкулы старадаўняй граматы

аб умовах гандлю паміж палачанамі і Рыгай і аб павазе адзін да аднаго. Перапісаная на пергамент грамата тая вісела ў гандлёвай палаце, а таксама і ў царкве Дабравешчання і пачыналася так: «Князь Гердзень кланяецца ўсім тым, хто бачыць гэтую грамату. Тыя людзі, што жывуць сяння, а тым, хто прыйдзе пасля, будзе вядома, як мір тварылі прамежы майстроў і з ратманамі Рыжскімі і з палачанамі і відзьблянамі». І таму не зрабілася бунту супраць немцаў, тым болей, што, як уверыліся віцьбічы, пакуль ёсць у князя Альгерда ягоная дзіда, яна абароніць не толькі самога князя, але і горад, і ўсё княства Віцьбескае…

## ГОД 1345. ВІЛЬНЯ. ВЫГНАННЕ ЯЎНУТА

Снег сыпаў цэлы тыдзень, і таму ужо ў поўдзень у Дубовай зале Верхняга замка было змрочна, цені хаваліся па кутках, нібы там вартавалі прывіды альбо нячысцікі. Аднак, калі Альгерд і Кейстут увайшлі туды, ужо паўсюдна гарэлі свечкі, а тры з іх, у сярэбраных падсвечніках, адна за адной стаялі на белым абрусе святочнага стала, дзе на дарагіх цынавых тарэлах, добра знаёмых абодвум братам, ляжалі шчупакі ў шафранным соусе, фаршыраваныя кураняты з разынкамі, абкладзеныя рысам з венгерскім чырвоным перцам, вяндліна і кілбасы. Стары, яшчэ бацькоўскі стольнік Алекса нізка схіліўся перад князямі, узмахам рукі загадаў несці гарачыя флячкі*.

За стол не былі запрошаныя сёстры і княскія дзеці, толькі яны ўдвух меркавалі сёння вырашыць лёс Яўнута, які зараз сядзеў у падзямеллі, спалоханы і прыгнечаны тым, што захоп замкаў адбыўся лёгка, а яго не падтрымаў ніхто, нават замкавая варта.

Альгерд прыбыў у Вільню раніцай, але, каратка перагаварыўшы, браты вырашылі абмеркаваць усё ўвечары. Кейстут быў заняты тым, што замяняў замкавых вартаўнікоў сваімі воямі, а яшчэ тым, што доўга, ледзь не да абеду, гутарыў з Яўнутам.

Аднак віцьбескі князь дазнаўся, як быў захоплены Яўнут. Убачыўшы, што па драбінах паўзуць наверх воі Кейстута, а замкавая варта адбіваецца неахвотна, ледзь не для прыліку, ён схапіў кажушок і, накінуўшы яго на споднае, вылез праз акно і, спусціўшыся па вераўчанай лесвіцы, кінуўся наўцёкі, нават не падумаўшы, што можна ссадзіць кагосьці з каня і ратавацца

* Усе гэтыя стравы называюцца ў спісе страў каралеўскага двара пры Ягайлу.

коннаму. Дый любы вой у замку аддаў бы Яўнуту і боты, і порткі, і нават зброю, калі б ён не страціў галаву.

Ды і дзядзька Яўнута, які каравуліў выхаванца каля дзвярэй, быў проста агаломшаны, пабачыўшы, што княжыч, нават не паклікаўшы яго, кінуўся наўцёкі. І, злавіўшы зводнага брата ў лесе, дзе той, ссінелы і абмарожаны, брыў па дарозе, Кейстут быў настроены міралюбна.

— Ён гатовы схіліцца перад табой, — пачаў ён размову, калі яны, сатварыўшы кароткую малітву так, як вучыла іх некалі княгіня-маці, узнялі шкляныя венецыянскія келіхі за перамогу. — Гатовы прызнаць тваё валадарства, як прызнаў яго і я, і, думаю, прызнаюць усе іншыя браты.

— Ты думаеш, Карыят таксама пагодзіцца? — асцярожна запытаўся Альгерд, маленькімі глыткамі адпіваючы хмельны зеленаваты напой, прыгатаваны тут, у самой Вільні.

— Новагародак, вядома, у нас самы ганарысты, — спакойна працягваў Кейстут, паднімаючы на брата ўсмешлівыя сінія вочы, — але там, на жаль, усё ж далёка рака, а тут, у нас, Вілля — пад бокам. Бацька рашыў гэта назаўсёды, не трэба ні табе, ні мне зноў мяняць сталіцу.

Альгерд разумеў — Кейстут не адказаў на пытанне. Але разам з тым і абнадзеіў — не, ён не падтрымае Карыята, калі той захоча што-кольвечы памяняць.

Слугі прынеслі гарачыя клёцкі з мясам, і Альгерд успомніў, што яны з братам, калі былі малыя, заўсёды спрачаліся з-за таго, на чыёй тарэле большая і каму першаму пададуць страву. Былі заўсёды разам — разам і цяпер, у гэты складаны час. Калі з іх першым прыйшоў сюды, у стольны горад княства, Кейстут і ўзяў на сябе ўсё: і захоп Верхняга замка, дзе жыў Яўнут, і то грозныя, то шмат-абяцальныя перамовы з вартай, а пасля з маршалкам, ваяводам і панамі-радай, якія, кожны паасобку і не заўсёды з ахвотай, згадзіліся з тым, што нягожа аддаваць сталец Вялікага Княства Яўнуту. Да таго ж за месяц перад тым памерла княгіня Еўна, і Яўнут, які прывык заўсёды хавацца за спіной уладнай і валявой маці, быў зараз разгублены і бадай што безабаронны. Аднак многія са знакамітых асоб княства ўжо прыхапілі сабе месцейка каля стальца і прымерваліся да таго, каб цягнуць сюды блізкіх, стварацць вакол сябе ахоўны шчыт, які прыкрые ў выпадку няміласці валадара. Яны з Кейстутам парушалі гэтае павуцінне, і нялёгка было прымусіць многіх і многіх паверыць ім, братам. Абодва яны прычасціліся некалі да таго, што Вільня, а не Новагародак, не Трокі павінна ў рэшце рэшт стаць сталіцай вялізнай дзяржавы Гедзіміна.

Абодва шмат шчыравалі тут, асабліва Альгерд, будучы любімым сынам вялікага ўладара. Але перакувала начная зязюля, Еўна, і абодва, не бываўшы ў сталіцы па некалькі гадоў, адчувалі, што яна як бы аддалілася ад іх, зажыла нейкім сваім, патаемным жыццём, да якога яны, што вымяралі тут першыя вуліцы і разам з бацькам крэслілі месцы будучых палацаў, былі як бы цяпер і не належныя, а затое сваім стаўся хлопчык, які не ўклаў у гэты горад ані гарэлага шэлега, ані гарачага, шчырага пачуцця альбо хаця б часу свайго, якога, як адчувалі абодва браты, пачало бракаваць. Ён, Час, ляцеў па калдобінах жыцця вялізнай гарошынай, перавальваючыся на зашарэлых ад восеньскіх замаразкаў сцяжынах, альбо пылячы па мяккіх летніх шляхах, альбо торгаючыся ў брудзе, якім заплываюць размяклыя паслязімовыя дарогі, але ніколі не спыняючыся. Пасівелі скроні ў Кейстута, яго сінія вочы прыцішылі заўсёдны малады бляск, пачырванелі танюткімі пражылкамі вейкі, а вусны сціснуліся ў сухую, тонкую, амаль бяскроўную паласу. Валадар Трокаў, ён бліжэй з іх усіх стаяў да крыжакоў.

Крыжакі!

Запрошаныя некалі Конрадам Мазавецкім, каб дапамаглі справіцца з прусамі, драпежныя гэтыя ваўкі з цягам часу адарвалі ад яго ўладанняў самыя смачныя кавалкі і цяпер хочуць, каб ім належала і Княства.

Ды Альгерд не пачынаў аб ім размовы, ведаючы, што гарачы і заўсёды больш адкрыты Кейстут усё роўна першым пачне гаворку аб тым, што клапаціла іх болей за ўсё.

І сапраўды — калі яны разгрызлі апошніх смажаных куранят, пакідаючы на тарэлах купкі хрумсткіх костачак, Кейстут загаварыў, пранікліва гледзячы ў вочы брату:

— Кажы папраўдзе — што нам з ім рабіць?

— А чаго хочаш ты?

— Ты заўсёды адказваеш пытаннем на пытанне! — загарачыўся Кейстут. — Можаш калі-небудзь сказаць пэўна? Ці будзеш чакаць, пакуль я зноў не вазьму ўсё на сябе?!

Альгерд адчуў, што брат пакрыўдзіўся, і ён ласкава абняў яго за плечы.

— Давай пагаворым з ім самім. Тады будзе бачна.

— Што ён скажа! — трохі ахаладжана, але ўсё яшчэ з відавочнай крыўдай, так што чырвань на яго шчоках зраўнялася з колерам кармазынавага каптана і больш відавочнай стала сівізна на скронях, прамовіў трокскі князь.

— Нешта ж скажа.

Альгерд спадзяваўся на тое, што ён адчуе настрой Яўнута. Ці хавае ён нейкія хітрыкі за душой? Ці не кінецца шукаць падмогі ў Ордэна, Масквы альбо Арды? А можа, паедзе ў Полацк, там карані яго маці, там могуць прыйсці яму на помач. А гэта значыць — смута ў княстве, вялікая завалока, у якой прымуць удзел і іншыя браты...

Аднак калі яго пакінуць тут, у вязніцы, то гэта таксама выкліча розныя толкі. І на імгненне думка, што не трэба было пакідаць босага, абмерзлага Яўнута жывым, ды яшчэ і везці яго ў Вільню, завалодала Альгердам. Але ён не сказаў таго, толькі паўтарыў ціха, але настойліва:

— Давай пагаворым з ім.

— Ну што ж, — згадзіўся Кейстут і крыкнуў гучным сваім голасам слугам, якія, пакінуўшы іх, чакалі пад дзвярыма, каб прывялі Яўнута.

У маўчанні яны елі салодкі пірог са слівамі, калі зазвінелі ланцугі і ў залу ўвялі вязня.

Круглагаловы, з кучаравай шапкай светла-русых валасоў, з глыбока пасаджанымі шэрымі вачамі, вялікім прамым носам, гэты ўлюбёнак іхняга бацькі, зводны брат выглядаў цяпер несамавітым гандляром, што прапіўся і заначаваў у карчме — кажушок, надзеты на споднюю кашулю, пад якой віднеўся капшук з сярэбранымі насечкамі, прымацаваны да тоўстага скуранога паса, быў падраны на грудзях, з-пад халявы чорнага бота тырчала шэрая ануча, з дзіркі на калене выглядала чырвоная, прыпухлая скура. Ён спыніўся, аслеплены пасля цёмнага калідора яркім ззяннем свечак, трывожны выраз твару змяніўся ўпартым і злосным, калі Яўнут пабачыў братоў, што ся-дзелі за сталом — абодва няўлоўна падобныя адзін да аднаго, у каптанах з залатым і сярэбраным шытвом, са свежапаголенымі тварамі.

— Смачна есці! — здзекліва сказаў ён, стоячы ў дзвярах.

— Сядай з намі, — Альгерд спакойна паказаў на другі канец стала, і тут жа, невядома адкуль узяўшы яшчэ адну тарэлу з багатага замкавага начыння, стольнік паставіў яе на тое месца, куды ткнуў палец віцьбескага і крэўскага князя.

Яўнут замест адказу падняў рукі, скаваныя ланцугом. Гэтак жа спакойна Альгерд глянуў на вартавога — і ланцугі нібы самі сабой спалі з рук вязня, саслізнуўшы ў спрактыкаваныя, спрытныя рукі даглядчыка.

Яўнут сеў за стол, прагна агледзеў яго і таропка схапіў кавалак шчупака, што заставаўся на тарэлах. Стаў есці, запіваючы віном.

— Дзякуй, браточкі, а то ледзь голадам не замарылі, — сказаў ён злосна, але нешта дзіцяча-бездапаможнае было ў яго паставе, у тым, як прагна ён глытаў фаршыраваную рыбу, як сядзеў — на краёчку крэсла, і Альгерд з Кейстутам пераглянуліся, без слоў разумеючы адзін аднаго.

Яны парушалі волю бацькі, Гедзіміна, і было зразумела, што пішуць, можа нават у гэтую хвіліну, паслы ў Рыгу, у гоцкія гарады, да імператара і самога папы. Можа, ужо заўтра давядзецца неяк выкручвацца, тлумачыць, што гэтак хацеў не Гедзімін, а толькі ягоная жонка і што інтарэсы Княства патрабуюць мець на стальцы не бездапаможнага маладзёна, а вопытнага воя і ўладара…

Ды адступаць назад не даводзілася, трэба было ісці наперад, і гарачы Кейстут, з цяжкасцю дачакаўшыся, пакуль Яўнут так-сяк заморыць чарвяка, секануў з ходу:

— Пішы адрачэнне!

— Напішу, а вы мяне адразу…

Яўнут рубам далоні правёў па горле, і зноў страх мільгануў у ягоных круглых вачах. Ён зноў прамовіў са злосцю, але, як трэшчына ў дарагім шкляным келіху, трымцела ў ягоным голасе слёзнасць спешчанага дзіцяці, у якога ада-бралі цацку:

— Бацька мяне прызначыў на трон. Мяне, а не вас! А вы… крывапрысяжцы*, лупежцы**, збродні!

— Ты думаеш, мы не ведаем, якім акруценствам прымусіла твая маці ўнесці ў тастамент тваё імя? Вялікі маршалак пакляўся, што там стаяла іншае, а хворы бацька падпісаў пергамент, паспадзяваўшыся на княгіню і баяраў. Яна іх падкупіла, каб яны не «ўбачылі» тых яе выкрутасаў!

Кейстут грымнуў па стале кулаком. Але Альгерд перапыніў яго:

— Ты кажаш, мы збродні. Што ж, давай зробім па-рыцарску. У іх ёсць Божы суд. І мы з табой зараз таксама паспадзяемся на літасць Божую. Ты маладзейшы, вочы ў цябе яснейшыя за мае і вось ягоныя, — ён кіўнуў на Кейстута, — мабыць, мацнейшаю будзе і рука…

— Што ты хочаш рабіць? — закрычаў Яўнут, ускочыўшы. — Забіць мяне?

— Ты таксама можаш мяне забіць, — ціха адказаў Альгерд. — І тады не трэба будзе нікому нічога даказваць.

---

* Парушальнікі прысягі, ілжэсведкі.

** Рабаўнікі.

Ён ужо кіўнуў слузе, і той панёсся ў пакоі князя па зброю. І Кейстутавы слугі пабеглі, і падстольнічы — у падзямелле, каб прынесці ўсім траім іхнія вайсковыя прылады — баявую сякеру, дзіду, корд*.

— Прыбраць стол! — крыкнуў Кейстут, і слугі, замітусіўшыся, пачалі хапаць са стала ўсё, што там стаяла, а пасля адсунулі стол да сцяны, так што ў пакоі стала прасторна, і запалілі смалякі, што былі прымацаваныя да сцен. Сінім, зялёным, жоўтым загарэліся слюдзяныя каляровыя вокны залы, кідаючы вясёлыя водблiскі на падлогу, нібыта рыхтавалася тут выступленне глумцоў, а не рыцарскі паядынак.

— Каб быў тут вялікі маршалак, ваявода, а таксама мечнік! — Альгерд па-гаспадарску кідаў загады, адначасна вопытным вокам аглядаючы залу. — А таксама ня-сіце сюды адзенне для нашага брата Яўнута, не можа ж ён змагацца ў кажуху, як смерд!

Круглыя вочы Яўнута нібы схаваліся ў вачніцы, ён змярцвеў. Відавочна, думаў аб тым, што яго зараз заб'юць на вачах двара, і ніхто не асудзіць за тое ні Альгерда, ні Кейстута. Спадзявацца ж выйграць у іх ён не мог. Хаця… Усё ж ён ліхаманкава стаў падлічваць свае шанцы. Яны пілі віно, а ён… ён толькі запіў ім шчупака. Сапраўды, ён маладзейшы і, у рэшце рэшт, умее трымаць і корд, і сякеру. Асвятленне ў зале зманлівае, і можа выйграць той, у каго яснейшыя вочы. Ды і не будзе ён змагацца адразу з двума.

Але хто з іх будзе першы? З дзяцінства ён бачыў, як бараецца на рыцарскіх гульбішчах кожны з іх: Кейстут кідаўся ў бой адразу, стараўся праламаць абарону саперніка. Альгерд жа доўга адступаў, манеўраваў, адгадваючы чужую тактыку, а пасля ўсе сілы ўкладаў у той адзіны ўдар, пасля якога пераможцам заставаўся ён.

Наўрад ці браты змянілі свае прыёмы. А вось ён… Ён усё ж апошнія гады жыў без іхняга нагляду, таму, калі паспрабаваць усё, чаму вучылі яго майстры бою, што жывуць у замку, — былы палонны Рыхард, які добраахвотна застаўся тут, на службе вялікаму князю, вой Ляўшун, які навучыў яго выдатнаму ўдару левай рукой, то, можа, якраз ён і зможа выйграць турнір? Да таго ж Альгерд кульгае, правая ягоная нага, як вядома, можа падвярнуцца, бо яна хворая.

Яўнут ажывіўся, падняў галаву. Калі ён пераапранаўся, выгляд у яго быў іншы — не той, затурканы і прыгнечаны, з якім

---

* Кароткі меч.

ён увайшоў сюды, а рашучы і нават трохі зласлівы. Аднак… Тут ён успомніў усё, што некалі чуў пра Альгердаву дзіду. Гэта зноў прымусіла ягоныя вочы затуманіцца, аднак таксама ненадоўга. Ён, як малодшы рыцар, можа выбіраць зброю. І ён выбера корд. Кароткім тым мячом валодае няблага. Ні ў якім разе нельга даводзіць бой да моманту, калі можна памяняць зброю, бо тады віцьбескі і крэўскі князь возьме, вядома ж, сваю дзіду.

Ён узгадаў братаву дзіду якраз у той момант, калі яе, услед за шчытом, баявой сякерай і мячом Альгерда, уносілі ў залу. Тут сэрца яго сапраўды пужліва сціснулася. Старажытны, яўна чараўнічы знак — сярэбраная дзяўчына каля дзяржальна — быў яму добра знаёмы. Ведаў ён і пра тое, што княгіня Марыя загадала дадаць сюды і крыж. Але найстрашнейшымі для яго былі ўсе тыя паданні, якія звязваў народ з гэтай дзідай і якія расказваліся паўсюдна, як самая чыстая праўда, хаця, думалася Яўнуту, наўрад ці хоць частка з таго была праўдай. Прынамсі, так цвердзіла яму маці.

Успомніўшы яе, Яўнут адчуў слабасць і жаданне тут жа адмовіцца ад паядынку. Адзінокім адчуваў ён сябе ў замку, дзе нарадзіўся і вырас, дзе кожны слуга ведаў яго яшчэ з пялюшак. Што ж здарылася зараз? Чаму нават стары дзядзька Патрыкей глядзіць на яго са шкадаваннем і нават страхам? Таму што гэтыя… ён паглядзеў на братоў — мацнейшыя, таму што іх ведаюць як вояў, пра іх пяюць, складаюць казкі і паданні, а ён не быў яшчэ ні ў адной бітве — хіба што ляжаў у шатры падчас апошняга наступу на крыжакоў пасля іхняга набегу на Жмудзь, таму што якраз у час бою яго трэсла Агнявіца.

Бацька тады быў надта незадаволены, нават выгнаў з палаткі лекара і адмовіўся гаварыць з галоўным жрацом Перуна. Але хіба ён, Яўнут, быў вінаваты, што так склаліся абставіны?

У зале тым часам набралася людства, найбольш з тых баяр, каго прывялі з сабой браты, і мноства вачэй глядзела на Яўнута варожа. Аднак былі і тыя, хто спачуваў яму, гэта былі найбольш старыя з паноў-рады, каму ўжо не знойдзецца месца сярод маладых паплечнікаў новага князя — мечнік Гедзімінаў Леў і ягоны дарадца Нястан. Апошні шапнуў Яўнуту, каб ён пасунуў спражку на поясе направа — туды, дзе печань, тады не дастане яе ўдар корда. Спачувальна глядзеў на яго і сотнік Віт — яго фіялкавыя вочы амаль схаваліся ў зморшчынах, нібыта ён не хацеў і бачыць, як будуць біцца на мячах сыны Гедзіміна. Яўнут ведаў: з ранняга юнацтва Віт ледзь не маліўся на ягонага бацьку, быў з ім амаль ва ўсіх бітвах — спачатку ў дружыне славутага князя Давыда

Гарадзенскага, а пасля ягонай смерці змог заваяваць і сэрца вялікага князя. Вось чаму воля Гедзіміна для яго — свяшчэнная, хаця, як і ўсе ў княстве, ён захапляецца Альгердам і Вітаўтам болей, чым іншымі сынамі вялікага валадара Вільні, якую цяпер дзеляць, як панну на паядынку, і дастанецца яна — мацнейшаму.

Альгерд апаясваўся не спяшаючыся. Праверыў свой корд — папстрыкаў па лязе, прыклаў да шчакі, нібы астуджаючы чырвань. Набіраўся спакою. Ведаў — часта перамагае не той, хто мацнейшы, а той, хто ўмее ўгледзець слабое месца саперніка і адчуць тое адзінае імгненне, калі ўдар трапіць туды, куды трэба. Аднак ён не збіраўся забіваць Яўнута. Не! Гэта Яўнут можа ад страху ўдарыць яго знянацку смяротным ударам. Яму ж, старэйшаму, трэба проста выбіць меч з гэтай маладой рукі і прымусіць усіх прызнаць, што круглагаловы, кучаравы ўлюбёнак бацькі, мамчын сынок не варты такога слаўнага стальца, як віленскі.

Слугі Альгерда, гэтак жа як і слугі Яўнута, сталі ззаду сваіх гаспадароў, трымаючы іхнюю запасную зброю. Бывала, што пераможаны не хацеў прызнаваць паражэнне, асабліва калі ламаўся меч ці сякера, і адразу ж пачынаў змагацца нанова. Такое дазвалялася. Біцца маглі столькі, на колькі хапала і сіл, і ўзбраення.

Браты сталі насупраць адзін аднаго, а за шырокі стол, які стаяў ля акна, селі Кейстут, ваявода Гаштольд, памочнік вялікага князя Лесь і старэйшыя з паноў-рады. Суддзёй паядынку стаў ахоўнік рыжскага пасла Вітальд, вой умелы і знаёмы з правіламі рыцарскіх турніраў.

Вузкаплечы, невысокі Яўнут выглядаў падлеткам супраць высокага Альгерда з яго ўсё яшчэ зграбнай паставай воя. Аднак усе ведалі, што затое маладому князю можна будзе больш смела нападаць на свайго праціўніка, як бы танцуючы вакол яго. Тое ж прапанаваў рабіць яму і Рыхард — атакоўваць спераду і ззаду, мільгаць перад саракапяцігадовым князем, як маланка, не даючы яму апамятацца, аднак жа ні на хвілю не спускаць з яго погляду.

І бой пачаўся. Матляліся цяжкімі хвастамі агню і дыму смалякі па сценах, калі напружанае дыханне гледачоў вылівалася ў адным агульным выдыху палёгкі ад таго, што скрыжаваныя ў лютым удары мячы не наносілі шкоды ні аднаму з праціўнікаў. Нягледзячы на тое, што лязгат зброі міжволі будзіў у сэрцах прысутных успамін аб шаленстве сечы і дзікай ярасці нападу, агульны настрой не перайшоў яшчэ мяжы разважлівасці. Але паступова ўзбуджэнне нарастала. Ужо раздаліся крыкі: «Бі яго! Бі!» Ды ўсё ж ніводнага разу яшчэ не прагучала страшнае «Забі!».

Крычалі Альгерду. Ды ён не пераходзіў у напад, толькі сачыў, як круціцца вакол яго Яўнут. А той смялеў і як хмялеў ад бою, ад мяча, што пачынаў пячы яму пальцы, нібы і сапраўды распаляўся ад ярасці, якая ўсё болей ахоплівала маладога князя. Што ж — гэта яны, браты, нанеслі яму крыўду, яны прыйшлі сюды, нягледзячы на тастамент бацькі, і пагналі яго, як зайца, ганебна і непрыстойна. Яны пасадзілі ў вязніцу, на смех усяму княству. І міжволі помста засціла яму вочы, а сілы нібы прыбывалі.

— Асцярожна, князь! — даволі гучна прамовіў Рыхард, калі, адпачываючы, Яўнут на хвіліну абапёрся на яго. Але перасцярога не падзейнічала. Яўнуту ўжо здавалася, што, калі ягоны ўдар стане для Альгерда смяротным, усе вакол прызнаюць яго права на сталец, і Кейстут не асмеліцца ісці супраць.

І ён ударыў. Ударыў так, што, каб не адхіснуўся Альгерд на якія тры пальцы, ягоная рука наўрад ці ацалела б. Але корд прасвістаў міма і глыбока ўпіўся ў дубовую сцяну. Князь віцьбескі не выкарыстаў гэты момант. Ён, стоячы непадалёк, чакаў, пакуль Яўнут альбо выцягне меч з дошкі, альбо выбера іншую зброю, альбо прызнае сваё паражэнне. Аднак малады князь зрабіў нечаканае. Нагінаючыся нібыта па корд, ён, як воўк, сігануў да Альгерда і адной рукой тузануў таго за нагу так, што той з размаху грымнуўся аб падлогу. Другой жа рукой Яўнут спрытна перахапіў корд, які трымаў сапернік, і прыўзняў яго, каб новы ягоны ўдар быў такім, якога ён прагнуў.

І на гэты, здавалася б, канчатковы жэст зала адказала адным кароткім «Гах!», нібыта ўжо разам з Яўнутам уса-джвала смяротнае жалеззе ў сэрца Альгерда.

Ніхто не чакаў таго, што адбылося ў наступнае імгненне: коратка свіснула ў паветры дзіда, і прыўзнятая для ўдару рука Яўнута павісла, а сам ён скурчыўся ад болю і прысеў, спрабуючы вырваць жалезнае наверша. Некаторыя сцвярджалі, што дзіду кінуў слуга Альгерда Супрун, які трымаў яе. Але большасць, якая ў той жа вечар разнесла падрабязнасці бою па сталіцы, клялася — хто Хрыстом і Багародзіцай, а хто язычніцкімі багамі, што дзіда сама вырвалася з Супруновых рук і зрабіла тое, што было найлепшым. Калі б цэліў слуга, то ён бы забіў князя Яўнута і невядома, што было б пасля. А так, устаўшы з падлогі, князь Альгерд сказаў проста:

— Ну што, маладзён, пайшлі ўдзел табе падбіраць!

І слугі па ягоным знаку падхапілі-павялі Яўнута прэч, у той час як усё панства заварушылася-загаварыла і ўрэшце сышлося на тым, што, сапраўды, не Яўнуту быць на вялікім стальцы віленскім — не, толькі не яму…

Альгерд жа і Кейстут зноў загадалі накрыць сталы — і на гэты раз для ўсіх прысутных. Тады, падхапіўшыся з ложкаў, усе слугі ў Верхнім замку забегалі з падвалаў па каменных лесвіцах узад-уперад, цягнучы з камораў лашты піва і віна, рыбу, грыбы і мёд — усё, што напрывозілі ў замак цівуны, беручы даніну з мыты рачной і перавозаў, з млыноў і кунічнае*, а таксама з кожнага дыма ў селішчах і гарадах. А на кухні, перабіваючы полымя смалякоў, затрашчалі і запылалі зыркімі агнямі печы, дзе ў вялізныя катлы былі кінутыя тушы дзікоў, замарожаныя ў лядоўнях, і дзе кухары, круцячы галовамі, таропка мералі бязменамі унцыі мускусных арэхаў і шафрану, сушанага зяленіва і перцу, каб падрыхтаваць той нечаканы пір на славу.

Назаўтра аб'яўлялі трубачы і герольды, што князь Яўнут атрымлівае ўдзел у Заслаўі каля Менска, а Альгерд будзе княжыць разам з братам сваім Кейстутам, якому аддае пад поўную ўладу ўсю заходнюю частку Княства, сабе ж пакідае ўсходнюю.

Трокскае княства, Жмудзь, Падляшша, Палессе, Берасцейскія і Гарадзенскія землі, большую частку Лідскай і трохі Навагародскай земляў узяў сабе Кейстут. Альгерду ж дасталіся землі ад Вільні і ажно за Полацак, а яшчэ Мсціслаў, Магілёў, Быхаў, Чавусы, Капыль, Орша, Слуцак, Бранск, Ноўгарад-Северскі — усё, што на ўсход ад сталіцы.

Парашылі: Кейстуту ваяваць супраць Тэўтонскага ордэна, палякаў і венграў, калі зажадаюць яны ісці вайной, Альгерду ж трымаць рубяжы ад маскавітаў і татараў. Калі ж аб'яднаюцца ворагі Княства, тады і войскі братоў аб'ядноўваюцца, ды і ўвогуле пры любой патрэбе ідуць адзін да аднаго на дапамогу.

Запісвалі, сапучы, летапісцы, мачаючы гусіныя пёры ў кінавар і чарніла ад вольхавых арэшкаў і асцярожна падчышчаючы памылкі:

«І быці ім да жывата ў любві, у вялікай міласці».

## ГОД 1350. КЛЯТВА НА ДЗІДЗЕ

На прызбах, там, дзе сышоў снег, першае веснавое сонца ўжо высушыла зямлю, а каля Верхняга замка, пад тоўстай закарэлай бярозай, пасаджанай яшчэ пры Гедзіміне, завіхаўся вартавы Гіль. Тры гадзіны таму прабіўшы жалезным цвічком шэрую

---

* Від падатку.

парэпаную кару і падставіўшы пад бесперапынныя светлыя кропелькі берасцянку, ён спадзяваўся свежым сокам прамачыць перасохлае ад учарашняй медавухі горла. Учора разам са сватамі і іхняй раднёй тут, пад Вільняй, святкавалі яны надыход вясны і ўслаўлялі святую Аўдакею і юную Лялю. Зараз Гіль узгадваў, як хадзілі мясцовыя дзеўкі ў лес высякаць прыгожую елку, як пасля ўпрыгожвалі яе стужкамі і выпечанымі з цеста конікамі, а затым усім селішчам людзі пайшлі да ўзгорка Сонны Ручай, дзе, убіўшы елку ў мёрзлы яшчэ дол, вадзілі вакол яе карагоды і спявалі:

— Гэй, вясна!
Гэй, красна!
Што ты нам
Проці лета
Вынесла?
А я вынесла
Беленькага піровжка,
Чырвонага яечка
Недалечка…
Гэй, вясна!

Добра вадзілася ў тым карагодзе. Побач круцілася, прытупвала маладая Бяроза, дзеўка з тоўстай касой і пышнымі грудзямі, якія заваблiва трэсліся ў такт песні. Ейная рука, калі браліся ўсе ў кола, была гарачаю, ад цела ж несла бярозавым веццем, якім напярэдадні яна, мусіць, добра сцябалася ў лазні. І разгарачаны Гіль, скоса пазіраючы на жонку, якая таксама скакала і спявала ў агульным карагодзе, топчучы поршнямі ашмёткі старога, шэрага ўжо снегу, з усяе сілы цісну Бярозу за моцную, з цвёрдымі мазалямі руку і юрыўся, як малады бык.

Пасля ўсе бралі з елкі тыя капыткі і грызлі іх — цеста, трохі ўжо астылае і нават падмерзлае, было салодкім. А можа, так здавалася ад таго, што і Бяроза, пераступаючы дужымі нагамі ў тоўстых лапцях, з хрумстам адкусвала кавалкі ад вымайстраванага старымі жанчынамі-каравайніцамі печыва і зіркала на княжага вартавога, і вочы яе былі хітрыя і заваблівыя, ажно жонка пачала тузаць яго за крысо кажуха і падганяць — хутчэй да цёплае хаты.

А ўжо там усе хатнія і радня, разгарачаныя і раз’юраныя, прагавіта ўзяліся і за ячменную кашу, і за смажаную зайчаціну з рэдзькай, і за пражаны гарох. На стале было ўсяго — і рыбы, што нацягаў з палонкі напярэдадні свята малодшы брат жонкі

Язь, і каўбасаў, пханых пальцам, і вяндліны, што пахла ядлоўцам. Асабліва ж цешылі душу і цела медавуха і піва.

Піва — лёгкае, светлае, зеленаватае — рабіў сам сват Мікола з ячменнага соладу, і хмелю ў ім было роўна столькі, каб уволю насычаць ноздры пахам і захмельваць галаву. Помніцца, яшчэ восенню ў варыўні, дзе ён гатаваў тое піва, ягоная сястрыца спявала песні ў гонар Рагуціса і спаліла жменю хмелю, а пасля суседзі ўсе разам пілі першыя жбаны з яшчэ маладым, пеністым тым напоем.

Цяпер, увесну, піва трохі пацямнела, але затое пах хмелю ў ім устояўся, і смачна пахла восеньскім днём і пожняй. А яшчэ сенам. І Гілю, што праглынуў некалькі куфляў піва, хацелася зараз жа на сена, на гарышча, і калі ўжо не было побач Бярозы, то аж пякло зацягнуць туды хаця б жонку. Аднак трэба было сядзець за сталом. Сват жа падліваў медавухі, і, як спачатку ні адмаўляўся Гіль ад спакуслівай брэцьяніцы, скрушна гледзячы на яе і прыці-шана даказваючы, што заўтра яму на княжацкую службу, сват настойваў:

— Хаця ты і Гіль, ды не той*, і не след табе бярозавыя пупышкі грызці!

Свату Няхаю гэты жарт здаваўся надта ўдалым, ён залі-ваўся рогатам і ледзь не сілком соваў у рот і ад піва ўжо захмялеламу Гілю брэцьяніцу.

А сёння галава ў вартавога, здавалася, распухла так, што плечы не трымалі яе, і ён патаемна ад начальніка варты, схаваўшыся за бярозу, дрыготкімі рукамі спрабаваў зняць берасцянку. Вось чаму, калі па брукаванцы двара застукалі абцасы, ён не выскачыў адразу з-за бярозы, а вы-ставіў вока і агледзеўся.

Па гладка адшліфаваных камянях ішлі двое: мужчына за трыццаць і хлопчык гадоў дзесяці. Абодва апранутыя па-заходняму, хаця адзенне іхняе добра патрапалася — на аксамітавых портах зрэбныя латкі, магеркі з мехавымі апушкамі дзе-нідзе парваныя, боты таксама парэпаныя. Але абодва былі апаясаныя мясцовымі пасамі — звыкла віселі на іх капцюхі, сцягнутыя раменьчыкамі з нанізанымі на іх рознакаляровымі пацеркамі, а ў хлопчыка на шыі матляўся кудмень — засцерагальнік з бронзавых бразготак**. І яшчэ заўважыў вартавы, калі гэтыя двое прайшлі недалёка ад яго, — добры жалезны абцас на боце хлопчыка адстаў і целяпаўся на адным цвічку. «І як гэта іх прапусціла

---

* Гіль-птушка — снягір.

** Пра гэтыя дэталі мужчынскага ўбрання піша А. Кваткоўская ў альманаху «Крыўя» (1996. № 1).

варта ўнізе?» — здзівіўся вартавы. Са злосцю глытнуўшы з так і не знятай берасцянкі трохі гаючага трунку і рукавом выцершы рот, Гіль гучна крыкнуў у спіны нечаканым і нязвыклым тут, на княжым двары, людзям:

— Гэй вы, гіцлі! Куды разагналіся?

Мужчына і хлопчык спыніліся. Іхнія твары былі б зусім свойскія, такія, як у тутэйшых, каб не вымаўленне, што адразу выдавала чужаземцаў, — мясцовыя словы яны гаварылі з цяжкасцю, гартанна, асабліва «г», так што «хараша» гучала ў іхніх вуснах як «гораша».

— Мы ідзём да вялікага князя Альгерда, і табе не трэба было б называць нас нейкімі там «гіцлямі». Я не ведаю, што гэта, але па тым, як ты гаворыш, адчуваю, што гэта абраза.

Цвёрды выраз вуснаў мужчыны, яго халодныя вочы адразу як закрылі рот Гілю, аднак злосць, што бушавала ў ім, шукала выйсця, і ён, выбегшы, загарадзіў дарогу:

— Я не магу пусціць вас проста так у пакоі замка! Кажыце, хто вы і навошта прыйшлі сюды?

Хлопчык глядзеў на яго спакойнымі вачыма. Нешта незвычайнае было ў гэтых вачах. Што? Ён адказаў ломкім, высокім голасам:

— Мой дзядзька — вялікі майстар з Брандэнбурга Готфрыд. І ён хоча прапанаваць свае паслугі вялікаму князю.

— І што такое ён робіць?

Гілёў голас пацішэў. Ён апусціў меч.

— Ён робіць лепшыя ў свеце ўпрыгожанні. З золата, серабра. Для трона і для замкавых прыгажунь.

— І чаму ён выбраў нашага князя і Вільню?

— А ты, халоп, сумняваешся, што князь Альгерд — найлепшы ў свеце вялікі князь, да якога ідуць майстры з усяго свету?

Незнаёмец прытоена, весела, але і крыху зласліва ўсміхаўся. Гіль разгубіўся. У ягоным роце запякло зусім нясцерпна, а ў перасохлых вантробах нешта гучна забурчэла. Ён адчуў, што ўспацеў.

— Я павінен пайсці з вамі і далажыць начальніку, хто вы і навошта тут з'явіліся.

— Але спачатку выпі соку, таму што ты ўчора, відаць, занадта насвяткаваўся, — усё гэтак жа загадкава ўсміхаючыся, прамовіў майстар Готфрыд. — Да таго ж ты па-трашыў княжацкую бярозу, і калі твой камандзір тое ўбачыць…

Гіль здаўся. Ён прымусіў сябе ўсміхнуцца.

— Добра. Вы мне ўсё расказалі. Ідзіце, і не забудзьцеся сказаць, што я вас добра дапытаў.

Калі яны пайшлі да вялізных дубовых дзвярэй з каванымі ўзорыстымі палосамі жалеза на іх, Гіль узгадаў, што было дзіўнага ў вачах хлопчыка, — рэдкі, нейкі фіялкавы колер. Такі бывае ў братак, альбо, як іх называюць па-мясцоваму, трайцветаў, калі яны пасля доўгай зімы нарэшце вылазяць на схіле якога-небудзь ляснога ўзгорка.

Госці нядоўга сядзелі ў зале з тканымі шпалерамі, якія толькі ўваходзілі ў моду, дзе пад габеленавай пастушкай у доўгай сукні і белай намітцы, што трымала за шыю авечку, за высокім сталом памочнік стольніка запісваў тых, хто хацеў трапіць да вялікага князя, і прызначаў ім пасля дзень і гадзіну прыёму. Калі яны выйшлі, па двары ішоў сам Альгерд, і стража імгненна адціснула іх зноў да дзвярэй, а камандзір варты ледзь не запхнуў назад у залу. Вялікі князь праходзіў, паглыблены ў свае думкі, аднак падняў галаву, і позірк яго сустрэўся з вачыма хлопчыка. Штосьці ў дзіцячым твары — упарты падбародак, моцныя белыя зубы, асабліва ж вочы — спыніла яго. Дзесьці ён бачыў такі ж, незвычайны ў мясцовых людзей, колер — фіялкавы, і ўспамін той быў радасны і жалобны адначасна, таму што нешта як абарвалася і заныла ў грудзях... Але дзе?

— Вы адкуль?

Ён, мабыць, чакаў, што незнаёмы мужчына разам з хлопчыкам кінецца яму ў ногі, але той толькі нізка пакланіўся і з годнасцю прамовіў:

— Мы з Нямеччыны.

— А чаго прыйшлі да мяне?

— Жыць тут, у Вільні, калі дазволіш. І служыць табе, вялікі князь. Табе, а не германцам.

— А вы хіба не немцы?

— Не, мы абодва славяне. Ён крывіч, а я з дрыгавічоў.

— Як жа трапілі да немцаў?

Мужчына і хлопчык пераглянуліся.

— Па-рознаму, вялікі княжа. Мяне крыжакі забралі ў палон яшчэ дзесяцігадовым, а Кужаль, — ён паказаў на хлопчыка, — ён там нарадзіўся.

Альгерд яшчэ больш уважліва зірнуў на Кужаля. Штосьці прыцягвала яго ў худзенькім гэтым хлапчуку. Вочы з чорнымі пушыстымі, як у дзяўчынкі, вейкамі?

— А дзе яго бацькі?

— Вялікі князь, мы ўцякалі з палону разам з бацькам і Готфрыдам. Маці мая памерла, але бабуля жывая. Яна засталася там, таму што ісці ўжо не магла, у яе адняліся ногі. Але яна прасіла перадаць табе некалькі слоў. Яна сказала, ты іх зразумееш.

— Мне?! І якія ж гэта словы?

— «Дзіда». І яшчэ — «Свяцілішча Асвінаў».

…*Як* разадралася недзе там, у незваротнай далечы, цёмна-шэрая завеса навальніцы, пеканула ў зямлю стралой Перуна, запахла свежасцю маладога дня. І замільгалі даўнія, здавалася, зусім забытыя карціны — напаўразбураны храм пад Навагародкам, у трэшчынах чорных, нябачаных раней кубоў-камянёў упарта прабіваецца трава і нават тоненькія дубчыкі асінак, старая жанчына-вяшчунння з бяздонным поглядам фіялкавых вачэй, а побач — юнае, гнуткае цела дзяўчыны, яе праўнучкі.

— Як жа яе клікалі?

Дзіўна, але хлапчук правільна зразумеў словы князя, нечакана для яго самога прамоўленыя ўголас.

— Лозкай.

— Лозкай?!

— Яна заўсёды адгукалася толькі на гэтае імя, хаця яе спачатку спрабавалі зваць іначай, па-мясцоваму. Тата расказваў, што яе былі ўжо зусім засеклі лазінамі ў замку, але яна выжыла. І яго клікала толькі Купам. Казала, што так называўся ейны бацька, мой прадзед…

— А можа, яго звалі Вольжычам?

Альгерд не прамовіў таго ўголас. Спахапіўся, што не варта раскрываць больш таго, што павінны ведаць іншыя. Веданне — гэта таксама зброя, і невядома, дзе і калі яна прыдасца. Але веданне сапраўды бывае часта мацнейшым за сапраўдную зброю.

— А што ўмела рабіць твая бабуля… як яе там?

— Лозка, вялікі княжа.

Вартавыя нерухома стаялі наводдаль. Іхнія твары не выказвалі ніякага здзіўлення ад таго, што вялікі князь так доўга гаворыць з людзьмі, якія, мяркуючы па адзенні, не надта багатыя і не знатныя. І гаворыць не з майстрам, а з дзесяцігадовым хлапчуком. А той ажывіўся, загаварыў нястрымна, горача:

— Яна ўсё ўмее: шыць і гафтаваць, сеяць так, каб усё ўзышло трыкроць, асабліва ж дзівіла ўсіх, што яна добрая каваліха. Кавала заслоны на вокны самому геру Розенфельду, нашаму пану. Ды з кветкамі, з узорамі…

— Бог даў ёй вялікі дар, — дадаў Готфрыд, які дасюль моўчкі слухаў усю размову. — Я гэта сведчу. Я разбіраюся, дзе ўзор сапраўднага майстра, а дзе — толькі падмайстра, бо здаваў іспыты ўсяму цэху майстроў залатых спраў… Можа, вялікі князь хоча зірнуць на маю грамату?

Готфрыду, відаць, не цярпелася і самому выклікаць такую ж цікавасць да сябе, якую меў да ягонага юнага спадарожніка вялікі князь. Хаця майстар і зразумеў, што тут крыецца нейкая таямніца, усё ж яму было крыўднавата, што віленскі ўладар пакуль што ніяк не адрэагаваў на яго жаданне жыць тут, у ягоным горадзе. Тады Альгерд і са-праўды перайшоў на размову з майстрам, бо тое, што паведаміў яму хлапчук, яго незвычайна ўзрушыла.

«Калі тое, што калісьці гаварыла Лозка аб тым, што старая жрыца была няшлюбнай дачкой караля Міндоўга і ейнай бабкай, праўда, то выходзіць, што і ў гэтым хлапчуку цячэ ягоная кроў. Кроў караля! Разбаўленая смердамі, нязнатнымі, але ж — яго, вялікага збіральніка земляў Літвы і Новагародчыны! Але ці ведае пра тое гэты, як яго? Кужаль? Імя ў яго ад простага смерда! Ці здагадваецца, з якога дрэва ён — маленькая, кволая галінка? Але і з малога жолуда вырастае дуб. Што, калі ён альбо гэты — ён перавёў позірк на Готфрыда — таксама валодае знаццём? Што, калі гэтая кропля крыві калі-небудзь перапыніць шлях маім дзецям?»

Готфрыд быў задаволены той увагай, якую аказаў ім, простым падарожнікам, вялікі князь. І тым, што светлыя вочы Альгерда, здаецца, пранізваюць яго, як мячы, хаця і глядзяць прыязна. Значыць, князь і сапраўды збіраецца пакінуць іх тут. Іначай — раўнадушна адвярнуўся б і адмовіў альбо паслаў да кагосьці са сваіх слуг — можа, да чашніка ці мечніка.

— Не думай, вялікі князь, што я — віж, — спяшаўся ён, глытаючы склады ўсё ж нязвыклай для яго тутэйшай гаворкі. — Калі чалавеку дадзены ад багоў дар, яму не трэба іншай узнагароды. А мая радасць — у тым, каб твая каралева — я чуў, яе завуць Юліяна — каб яна і твае дочкі насілі ўпрыгожанні, дастойныя твайго імя. А слава аб табе ідзе па ўсіх землях, дзе мы праходзілі…

— А дзе падзеўся ягоны бацька? — перапыніў яго Альгерд, зноў паварочваючыся да Кужаля.

— Яго падстрэлілі ў Мазурах. Там ехалі крыжакі, а мы не паспелі схавацца. Страла дагнала яго каля самага лесу. А нас выратавалі багі — мы змаглі схавацца ў сасонніку.

— Але мы пахавалі бацьку. Пахавалі, калі назаўтра знайшлі адзін аднаго, а пасля і яго. Яго душа павінна трапіць у Ірый, яна не будзе блукаць, ператварыўшыся ў здань!

На вачах Кужаля выступілі слёзы.

— Ты ж не дзяўчына, каб плакаць, — строга сказаў Альгерд, і слёзы імгненна высахлі, толькі на чорных пушыстых вейках зіхацелі яшчэ празрыстыя кропелькі. Вялікі князь зноў зазірнуў

у вочы нечаканаму госцю — гэтай вестачцы ад той, каго даўно лічыў мёртвай, забітай. Яна, значыць, нарадзіла ў няволі сына. Ад каго? І як вырасціла яго ў любові да роднай зямлі так, што ён усё ж пусціўся наўцёкі разам з падрослым ейным унукам? Якія багі вялі іх скрозь Польшчу і паўз старожкія пасты крыжакоў?

— Вас хрысцілі? — запытаўся ён зноў.

— Так. Мы абодва хрышчаныя па заходнім абрадзе. Але маем свае абярогі…

Готфрыд расшпіліў кашулю, паказаў вытачаную з рогу выяву Дажбога. І ў Кужаля на шыі віселі ажно дзве выявы язычніцкіх багоў — Мокашы і Перуна. І гэта нечакана супакоіла Альгерда.

— Што ж — я прыму вас, — сказаў ён коратка. — Ідзіце да Ірвідуба, ён размесціць вас у майстэрнях Ніжняга замка.

Але толькі пакланіліся ў пояс падарожныя і сабраліся ісці, як скрозь ніжнюю браму на чыста выбрукаваны, пустынны двор замка пасыпаліся дзяўчаты ў вяночках і стужках на русых, чорных, рудых галоўках, у кажушках і суконных каптанах, у квяцістых андараках і тканых каляровых спадніцах. Наперадзе ж лёгка крочыла прыгажуня з румянкам на ўвесь смуглявы твар, з чорнымі іскрамётнымі вачамі і белазубай, таксама нейкай сонечнай усмешкай. Высокім звонкім голасам яна заспявала:

Дабраславі, маці,  
Вясну гукаць, у-у-у!

— У-у-у! — зладжаным хорам падхапілі дзяўчаты.

Вясну гукаць,  
Цёплага лета  
Дачакаць, -у-у-у!

Вартавыя сцярожка назіралі за дзеўкамі, але Альгерд махнуў рукой, і яны апусцілі дзіды. Твар князя, звычайна сур’ёзны і нават замкнёны, засвяціўся. Ён коратка шапнуў штосьці стольніку, той крутануўся, пабег у перадпакой.

Ой, вясна, вясна,  
Вясняначка.

— Вясняначка! — зноў загаласілі дзяўчаты радасна.

Дзе ж твая дачка  
Ды Юльяначка!

Маладая прыгажуня, чый вяночак з кветак быў «насаджаны» на вышыты абручык з выявай Лялі і зорачак, прытанцоўваючы, падышла да Альгерда і яго акружэння, нізка пакланілася. Выпрасталася і, нібы дражнячыся і паставай, і голасам, і ўсёй сваёй вабнасцю, зноў заспявала, ды так, што рэхам па ўсім двары і высока ў зашклёных вокнах замка адгукнулася:

Юльяначка?
Сядзіць у садочку, у-у!
Шые сарочку!
Сарочку
Свайму сыночку
Ягайлачку-у-у!

І амаль адразу ж зверху расчынілася акно, і ў бялюткай намітцы, што прыгожа абвівала галаву, у накінутым на плечы лёгкім футэрку паказалася сама вялікая кня-гіня Юльяна. Малады, з шырокімі чорнымі брывамі і таўставатым носам твар яе ўсміхаўся, на руках, захутаны таксама ў вавёрчына пушыстае футра, лыпаў вочкамі паўзунок. Юльяна нешта сказала няньцы, і тая сыпанула ўніз жменю пенязяў. Спявачкі не кінуліся іх падбіраць — спачатку пакланіліся княгіні, пасля адна з іх стала акуратна, адну за адной, складваць манеты ў капшучок, што вісеў на ейным пасе. Астатнія ж, гэтак жа весела прытупваючы, спявалі новыя песні, якіх, здавалася, у іх поўны мех, які, толькі патрасі, рассыпаецца мелодыяй, дзе новая лепшая за папярэднюю.

Тым часам з перадпакоя вынеслі вялікі медны таз, у якім грудай ляжала веснавое печыва: птушкі з вочкамі-разынкамі, салодкія пернікі ў выглядзе коней, а яшчэ празрыстыя смактунцы, якія рабілі толькі ў самых багатых дамах Вільні. Убачыўшы іх, дзяўчаты ажывіліся яшчэ болей. Хаця ў кожным доме ўжо з самае раніцы, ушаноў-ваючы Агонь і Ваду, кінулі ў печ нешта з печыва і пасмакталі ледзяшы, што не расталі яшчэ пад стрэхамі, усё ж княскія пачастункі былі іншыя — пяклі іх лепшыя ў краіне кухары, а смактунцы ўвогуле былі ласункам надзвычай дарагім і недаступным простым людзям. Таму дзяўчаты, не перастаючы спяваць, падставілі пад пачастункі складзеныя далоні, і княжы слуга ссыпаў кожнай жменю ледзянцоў і пернікаў. Калі ўвесь вялізны таз быў апарожнены, дзяўчаты ўзяліся за рукі і закружыліся ў карагодзе, выпісваючы прыгожыя «васьмёркі», а адна, самая смелая, крыкнула вялікаму князю, каб ён танцаваў з імі. У адказ ён, смеючыся, адмоўна пахітаў галавой, паказваючы на сваю хворую нагу.

Альгерд нібыта не адчуваў халадэчы, твар яго расчырванеўся, расхінулася футра, паказаўшы барвовы аксамітавы каптан, густа шыты залатымі ўзорамі. Ён як памаладзеў: засвяціліся шэра-блакітныя вочы, сухія вусны расціснуліся, і глыбокія зморшчыны вакол рота разгладзіліся...

Маленькі Ягайла — сын ад Юльяны, цвярской князёўны, нечакана для яго самога сапраўды нібы вярнуў яго ў маладыя гады. Нягледзячы на тое, што, як у люстэрку, паўтаралася становішча, утворанае ягоным бацькам, Гедзімінам, калі побач з дарослымі сынамі жылі дзеці-немаўляты ад апошняга шлюбу, і ўсё Княства перакідвала-гадала, каму ж з сыноў аддасць вялікі князь сталіцу, ён нібы не заўважаў таго. Радаваўся, калі гадунец вымаўляў першыя, яшчэ невыразныя словы, і нават маладая княгіня рабілася яму любай і жаданай.

А было ж: сваталі яе вільняне з цяжкае нагоды — шлюбам хацелі выкупіць заложнікаў — паслоў Княства, якіх утрымаў у Ардзе хан Джанібек. Не абы-хто паехаў туды, спадзеючыся перацягнуць моц Арды на свой бок, а новагародскі князь Міхал-Карыят Гедзімінавіч, ды князь Сымон Свіслацкі, ды князь Міхаіл і знатны баярын Айкша. І хаця маскоўскі вялікі князь Сімяон Горды, які не вылазіў з Сарая, сам нацкаваў хана на пасланцоў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, у яго ж і давялося прасіць для вялікага князя літоўскага рукі ягонай сваячкі. Праўда, разумеў Альгерд, што Джанібек не проста так падтрымаў Сімяона — той быў слабейшы, і трэба было ўраўнаважыць сілы гэтага ворага ліцвінаў, каб барукаліся яны паміж сабою, не маючы сіл змагацца з Ардой.

На той час не ўлічыў Альгерд, што ні Арда ўжо не магла без Масквы, ні Масква без Арды — ці ж не татары дапамагалі маскоўскім князям скарыць іншых, непаслухмяных рускіх князёў? Баючыся Княства, схіліў Джанібек на свой бок і польскага караля Казіміра, і той, хаця і сваяк, згадзіўся дапамагаць татарам, як супраць сваёй волі дапамагаў ім і Сімяон… Аднак, узвысіўшыся той пад-трымкай Джанібека, надта заганарыўся маскоўскі князь. Давялося не толькі Альгерду, але і брату Любарту надзець на сябе шлюбную аброць з маскавіцянкамі. Ён узяў пляменніцу Сімяона, і толькі тады згадзіўся Джанібек выпусціць родзічаў вялікага князя Альгерда, якіх той па-слаў у Залатую Арду, спадзеючыся перайграць Сімяона. Не выйшла. І гэтае, вялікае паражэнне было асабліва горкім ад таго, што на гэты раз узяла верх Масква над Вільняй. І хаця Юльяна не была зусім чужой, бо не раз ратаваўся тут, у Вільні, ад сваякоў-маскавітаў цвярскі князь, ейны бацька, усё ж вымушаны браць яе Альгерд.

Першыя месяцы, як ні хітрыў, як ні стараўся быць ветлівым і добрым да новай жонкі, усё ж скардзілася княгіня, казала, што холадна ёй у Вільні, сярод язычнікаў. Тут моцнай яшчэ была памяць пра княгіню Марыю Віцьбе-скую, якая дала Альгерду Віцьбескае княства і моцна дапамагала князю ва ўсіх ягоных справах. Казалі ўсе, што надта любіў ён Марыю. Юльяна напачатку не магла змірыцца з тым, што ў лажніцы, дзе яна цяпер жыве, жыла і першая вялікая княгіня, а перад тым — мачыха Альгерда, Еўна. Пах чужой парфумы працінаў лажніцу, хаця Юльяна загадала памяняць усё ў ёй — тканыя шпалеры, ложа, прасціны. Але нават кафляная ўзорыстая печ пахла кёльнскай вадой, якую прывозілі сюды нямецкія купцы і якую любіла першая жонка Альгерда, а вялікі крыж над узгалоўем ложа быў выразаны з чорнага каменю-агату і навечна ўмураваны ў сцяну. Спачатку яна скардзілася мужу і прасіла іншае лажніцы. Але ён коратка адказваў, што прывык хадзіць у гэты пакой. Аднак ейную святліцу дазволіў зрабіць у другім канцы калідора, там, дзе раней быў ягоны ўласны пакой, калі толькі быў пабудаваны замак і князь Гедзімін сяліў у ім сваіх сыноў.

Супраць многага напачатку бунтавала княгіня Юльяна. Але — змірылася. Назвала першынца мясцовым імем — Ягайла*. Даўнім было яно тут, і жрацы тлумачылі яго то як «жывы, палкі», то, найчасцей, як «усясветна слаўны». Казалі, што ідзе гэтае імя ад продкаў-арыяў, чые храмы-свяцілішчы захаваліся дасюль па ўсім Княстве.

Успомніўшы гэта, вялікі князь зноў з пяшчотай зірнуў на маленькага сына, і раптам новая думка асвяціла яго ўжо трохі выцвілыя блакітныя вочы.

— Хадзем, — кіўнуў ён Кужалю. — А ты, — позірк яго, хаця і прыязны, усё ж адразу аддаліў Готфрыда ад яго спадарожніка, — ты застанешся тут і зробіш, як мы дамаўляліся раней.

— Але мы, вялікі гаспадар, мы разам, — паспрабаваў нагадаць Готфрыд.

— Гэта — прайшло. Цяпер кожнага чакае свой лёс. У цябе — свой. У яго таксама свой.

Готфрыд не асмеліўся пярэчыць, толькі са здзіўленнем і трохі з зайздрасцю назіраў, як, падпарадкоўваючыся няўлоўнаму руху княскай рукі, таропка пайшоў, амаль подбегам заспяшаўся за яго

---

* П. Урбан падае гэтае імя ў двух варыянтах: ад грэч. Aga і кельцкага gajlo — светлы альбо ад Jaga — gailo, што паходзяць ад бога-творцы Крышны, які называўся таксама Jagan atha.

шырокімі крокамі хлопчык, якому відавочна пашчасціла, бо яго, як зразумелі тое і слугі, забі-ралі служыць у самім замку. Гэта было вялізнае, нечуванае шчасце для невядомага, бязроднага хлапчука, за якога ніхто не прасіў і якога ніхто тут не ведаў.

Таму Кужаль ішоў услед за вялікім князем, амаль нічога не бачачы перад сабой ад вялікага, сляпучага хвалявання. Яны ішлі пераходамі, два разы ўзняліся па вузкай лесвіцы з гладка счэсаных камянёў, што ўвінчвалася ў вялікія, з прыгожымі разьбянымі шафкамі і лавамі пакоі, з тканымі шпалерамі, якія лёгка калыхаліся па сценах, калі адчыняліся магутныя дубовыя дзверы. Хлопец нават не заўважыў бы таго, чым ганарыўся сам вялікі князь, — ваеннай залы, у якой па сценах вісела любімая зброя Альгерда — тры ручніцы, ягоныя мячы і шаблі, а таксама баявыя сякеры і дзіды. Амаль усе яны мелі дзяржальні, якія былі працамі вялікіх майстроў, што самацветамі, залатымі і сярэбранымі насечкамі ўпрыгожвалі зброю, з якою перад замежнымі пасламі альбо ў вялікіх паходах перад войскам выступаў гаспадар Княства.

Не заўважыў бы Кужаль нічога з тых ваенных прылад, але здарылася нечаканае — калі ішлі яны праз залу, упала са сцяны дзіда. Упала сама сабой, ніхто яе не чапаў. Але чамусьці, убачыўшы тое, ажно здрыгануўся вялікі князь. Ён нагнуўся, каб падняць дзіду, але Кужаль апярэдзіў яго, схапіў цяжкае дрэўца, беражліва працёр рукой наверша. Жалезнае, яно мела выгляд вузкага ліста алешыны, а каля дзяржальна сярэбранай насечкай блішчэла постаць дзяўчыны. Была яна зроблена з вялікім умельствам — дзяўчына, здавалася, ляцела, і па ветры ляцелі яе доўгія валасы. Тоненькая постаць, гнуткая і прыгожая, нібыта цягнула за сабой вастрыё, і Кужаль, здзіўлены, застыў, разглядаючы яе. Альгерд жа не зводзіў вачэй з хлопчыка.

Няўжо сіла, заключаная ў гэтай дзідзе, адчула сваё? Кроў адгукнулася крыві? І хаця нічога гэтага не ведае хлопчык, затое ведае ён, Альгерд. Ведае і помніць.

Помніць вясёлы перастук малаткоў, цёмнае неба, па якім ажно ў два рады працягнулася жывая, зіхоткая вясёлка. І цела сваё — маладое, поўнае сілы і гнуткасці, таксама помніць. І шчаснае адчуванне, што свет належыць яму, і ён — валадар свайго лёсу.

Міндоўгавага кораню была дзяўчына Лозка. Сямейная тая таямніца пераходзіла ў іх родзе ад аднаго да другога, стаўшы паданнем. Але ён, Альгерд, не можа забыцца на сілу, якая ішла ад старой жрыцы, і адчуванне, што яна не простага роду, што

на ёй пячатка багоў, добра помніцца. І гэта яны, багі, падалі яму знак, каб ён помніў іх, каб не забываўся, што ўсё на свеце дзеецца па іхняй волі, — прыслалі з Нямеччыны, якая была паглынула Лозку, гэтае дзіця. І яна, Лозка, азвалася ім, гэтым хлопчыкам, што любіць сваю зямлю і помніць аб ёй.

Што ж здарылася з ёю? Якім быў той, хто стаў — па ейнай волі ці не — абраннікам, ад каго нарадзіла яна сына і дачакалася там, на чужыне, унука? І ён, унук, што забраў ад яе толькі незвычайнага колеру вочы, а ва ўсім астатнім не падобны да яе нікольκі, вось зараз прыйшоў да яго, каб служыць, а можа, і дапамагаць…

— Хочаш жыць тут? — запытаўся ён у хлопчыка, што глядзеў на яго адкрытым, захопленым позіркам, працягваючы дзіду.

— Хачу! — як выдыхнуў той.

— Пайшлі!

Яны зноў пайшлі, ажно пакуль Альгерд не пастукаўся ў святліцу, дзе з нянькамі і малым княжычам усё яшчэ стаяла ля акна, слухаючы песні гукальніц Вясны-Лялі, маладая княгіня Юльяна. Яна павярнулася, запытальна гледзячы на мужа і на хлопчыка побач з ім.

…Калі б тут з’явіўся вяшчун Гедзіміна, звяздар Ляз-дзейка, ён імгненна пазнаў бы, чый нос, лоб, у асаблівасці ж белазубую ўсмешку амаль да драбочка падабраў хлопчык, і падзівіўся б, як можа праз стагоддзі перадавацца аблічча, якое ён неаднойчы бачыў у сваіх вешчых снах. «Выліты князь Міндоўг», — сказаў бы ён. Але не было тут звездара Ляздзейкі, і не захавалася партрэтаў вялікага князя, таму і пастараўся згасіць у сабе няяснае пачуццё трывогі і яшчэ нечага, чаму і сам не даў бы тлумачэння, князь Альгерд і, падышоўшы да жонкі, ласкава дакрануўся да яе пляча.

— Хацеў бы, каб вось ён, — ён другой рукой узяў за плечы Кужаля і падвёў бліжэй, — каб ён стаў дзядзькам для Ягайлы.

У Кужаля заняло дыханне.

Нянькі ціха войкнулі, але тут жа спалохана замоўклі. У княгіні высока прыўзняліся шырокія бровы, але яна не сказала таго, што ўзнялося ў ёй, — яна мецілa мецць каля свайго першынца родзіча з Цверы, пятнаццацігадовага Васіля. Вялікі гонар — быць дзядзькам пры княжычу, і гэтага гонару дабіваюцца ўсялякімі інтрыгамі, падарункамі і просьбамі. Чаму ж муж яе, асцярожны і абачлівы, раптоўна вырашыў даверыць гэтае месца нейкаму, як ёй паспелі ўжо шапнуць, прышламу, невядомаму хлапчуку?

Але яна не сказала нічога, толькі моўчкі схіліла галаву ў знак згоды. І Альгерд яшчэ ласкавей пагладзіў яе па плячы, а яна заружавелася, правільна зразумеўшы ягонае адабрэнне.

— Дык станеш служыць княжычу?

— Да скону!

Старэйшая нянька знакам паказала хлопцу, каб ён апусціўся на калені. І ён, бухнуўшыся перад князем і княгіняю, падняў да іх твар, на якім, здавалася, засталіся толькі вочы — фіялкавыя, з чорнымі макавінкамі, яны нібы асвятлялі ўвесь пакой. Радасць ірвалася з яго, як зыркае полымя. Ажно ўсміхнулася Юльяна, хаця твар яе да гэтай хвіліны быў азмрочаны, і раптам адчула, што душа яе пацягнулася да гэтага незнаёмага ёй хлопчыка. Яна працягнула яму цвёрдую, з кароткімі моцнымі пальцамі руку, што пахла малаком і мятай. Ён азірнуўся і, убачыўшы, як старшая нянька зноўку падае знак, нязграбна, відавочна, першы раз у жыцці, пацалаваў руку, тыцнуўшыся ў вялікі смарагд-жуковіну на пярсцёнку вялікай княгіні.

— Дык служы. Да самага скону, — кінуў коратка Альгерд, уладна, нібы паставіў таму на лоб незмывальную, вечную пячатку. — А пакуль што адпачывай. Вечарам станем слухаць твае прыгоды.

Увечары, калі старанна напаленыя кафляныя печы са-грэлі вялікую лажніцу перад пакоямі вялікага князя, туды сабраліся хатнія. Першаю — ужо не ў намітцы, а ў палатнянай шапачцы, аблямаванай карункамі, у зялёнай каляровай сукні і механай безрукаўцы, у атачэнні сваіх прыслужніц, якія неслі за ёю падушачку, маленькую лавачку для ног і берасцянку з луская̆камі, якія яна надта любіла, прыйшла княгіня Юльяна. Да яе, падскокваючы, нібы аднаногі бацян, неяк бокам падсеў стары Кміта, перапісчык і наглядчык княжацкага скрыпторыя, а каля ягоных ног, на нізкай лавачцы, прысуседзіўся малодшы перапісчык Янка, з васковымі дошчачкамі на каленях і вострымі жалезнымі пісаламі — можа, нешта незвычайнае раскажуць майстар Готфрыд і гэты хлопчык, што воляю вялікага князя стаў дзядзькам княжыча Ягайлы?

— Сёння я глядзеў — дахі віленскія ў снезе, значыць, снег будзе ў нізінах ажно да Юр’я, — праскрыпеў Кміта.

— Ат, нездарма ж кажуць — на Саракі пайшла зіма да ракі! — махнула шырокай даланёй старэйшая служка княгіні Вальжына, клапатліва раскладаючы карункавы падбой доўгай сукні сваёй гаспадыні. Вялікіх грошай каштуюць тыя карункі, а моцна мнуцца, чаго княгіня не любіць.

Упэўнена, як да сябе, прайшоў да высокага крэсла, пастаўленага каля князевага, сын Марыі Віцьбескай Канстанцін, змерыў пагардлівым позіркам Юльяну, загаварыў гучна да ўсіх, хто тачыўся ў лажніцу ўслед за ім:

— Чуў, што з Нюрнберга да нас вязуць новую зброю, якая страляе агромністымі кулямі. Як гэта бацька яе называў?

— Здаецца, бамбардаю*, гаспадзін, — угодліва прашапялявіў стары Кміта, азіраючыся на княжыча і пачціва ўстаючы перад ім.

— Усё ты ведаеш, стары воран, — незадаволена буркнуў Канстанцін. — Я ж не ў цябе пытаюся, я ў гэтых малойчыкаў. Чаму іх толькі вучылі ў тваім скрыпторыі?

— Я не настаўнік, я толькі перапісваю кнігі, а таксама запісваю слаўныя справы твайго бацькі, — прымірэнча мовіў Кміта.

— А мы, яго сыны, што, не ходзім у паходы?!

— І вашы справы апісваю, як магу, — смірэнна апраўдваўся перапісчык, але бляклыя цёмныя вочы яго былі апушчаныя, каб не ўбачыў княжыч Канстанцін у іх прытоенай насмешкі. Стары Кміта добра бачыў, што неразважлівасць Канстанціна і яго пыха дорага абыдуцца неабачліваму княжычу**. Неабачліваму — бо сціснулася ажно да белізны рука княгіні, і яна, знешне абыякава ўсміхаючыся, але чырванеючы скуламі, пачала, каб супакоіцца, услед за Вальжынай разгладжваць свае фальбоны.

Князь Альгерд увайшоў тады, калі майстра Готфрыда і Кужаля, што адзінока сядзелі насупраць князевага крэсла, як падсудныя, уважліва, ад макаўкі да пятак, разгле-дзелі ўсе прысутныя.

— Вялікі князь, у замках Нямеччыны гніюць у вязніцах многія людзі тваіх княстваў, — пачаў сваё апавяданне Готфрыд. — Яны крычаць і плачуць свае песні на тутэйшай мове, але іхнія дзеці, калі яны ёсць, ужо гавораць па-нямецку і прымаюць хрышчэнне па заходнім абрадзе. Аднак не ўсе. Ягоная бабка, — ён паказаў на Кужаля, — спачатку прымушала і яго, і мяне таксама не забывацца на роднае і не адказвала нам ніколі, калі мы звярталіся да яе па-нямецку. А пасля мы і самі зразумелі, што не варта рэзаць пупавіну, што трымае нас і нашых продкаў на гэтым і тым свеце.

— Ты лепей скажы, як жывуць немцы — што новага прыдумалі яны ва ўзбраенні? — пачуўся голас Канстанціна. — Во зараз, як яе? — бамбарду прыдумалі, якая можа з вежы ўсіх

* Бамбарда з’явілася ў канцы XIV ст.

** Сын Альгерда Канстанцін пазней разам са сваім стрыечным братам увайшоў у змову з Ордэнам супраць свайго бацькі.

абаронцаў выбіць. Немцы — не тое што мы. У іх галовы разумнейшыя…

Альгерд, які ўтульна ўсеўся ў крэсле, паставіўшы на зэдлік з парчовай падушкай хворую нагу, пранізліва глянуў на сына:

— Хай лепей пра свае ўцёкі раскажуць ды вось пра бабулю ягоную, — ён паказаў на Кужаля, — якая так унука выхавала. А што немцы? Білі мы іх неаднойчы і яшчэ біць будзем.

— Ордэн мацнее, бацька, — запярэчыў Канстанцін. — З ім сябраваць трэба.

— Хіба можна з ваўкамі сябраваць? — голасна адпрэчыў вялікі князь, і ўсе замоўклі. Нялёгка было ўсім, і добра даставалася Княству ад крыжакоў, якія, падтрыманыя папам і ўсім заходнім светам, мацнелі з кожным годам — ды што там годам — месяцам! Сапраўды, ваўчыныя іх звычкі, і — вялікі князь пранізліва глянуў на Готфрыда — яшчэ невядома, ці толькі любоў да роднай зямлі пацягнула гэтага малайца сюды, у Вільню. Можа, і ён — нямецкі віж, выхаваны ў іхнім духу і нянавісці да свайго?

Неаднойчы ў гісторыі бывала гэтак — чужыя народы бралі ў палон немаўлят і выхоўвалі іх так, каб горшых ворагаў, чым свае, крэўныя, для іх не было. І тыя, вырасшы, з асаблівай нянавісцю забівалі менавіта супляменнікаў, часам і не здагадваючыся, якая кроў цякла ў іхніх жылах. А калі і ведалі — то з большым імпэтам помсцілі за ўласную здраду, за ўласнае адступніцтва…

Горкія гэтыя думкі развеяў голас Готфрыда, які пачаў аповеды пра жыццё ў замку. Апісваў ён і рыцарскія гульні, і звады паміж вяльможамі, але найбольш гаварыў пра жанчын і тых, хто іх апявае, — мінезінгераў. Альгерд раней, у маладосці, асабліва калі жыў у Віцьбеску, любіў слухаць рыцарскія песні, якія прывозілі ў пергаментных скрутках купцы з Рыгі ці нямецкіх гарадоў альбо гралі аматары-майстры. Не раз і самі купцы, усцешаныя тым, што іх запрасілі ў княжы замак, а таксама тым, што князь ведаў іхнюю мову, гатовыя былі да глыбокай ночы расказваць пра паядынкі і песні, што складалі ў гонар жанчын іхнія рыцары. Аднак з цягам часу схаладнела ў вялікім князі тое захапленне. Занадта ўеліся ў пячонкі самі тыя рыцары… Ён гатовы быў перамяніць тэму размовы, але, убачыўшы, як разгарэліся вочы ў Юльяны, рашыў не пярэчыць Готфрыду.

—...Ульрых фон Ліхтэнштэйн закахаўся ў яе адразу, яшчэ хлопчыкам. Ён стаў служыць ёй пажам, піў ваду, якою яна мыла свае рукі. А паколькі ягоная заечая губа абражала ейныя вочы, ён папрасіў урача, каб той парэзаў яму рот і падшыў усё так, як мае быць. І другі слуга, які там быў, расказаў Прыўкраснай

Даме, што Ульрых нават не застагнаў, калі яму рэзалі па жывому… А калі праз два гады ён пашкодзіў сабе мезенец і таму не перамог саперніка, Дама не паверыла той прычыне. Тады ён адсек мезенец і прыслаў ёй… І служыў шмат гадоў, і зламаў у ейны гонар ажно трыста сем дзідаў, а пад старасць напісаў кнігу «Служэнне Даме»*…

Жанчыны слухалі Готфрыда не дыхаючы. Вальжына ажно прыадкрыла рот ад здзіўлення, канцы яе наміткі намоклі ад слёз, а Юльяна расчырванелася, і шырокія бровы яе сышліся ў адну паласу, ад чаго маладая жанчына стала падобнай да галавы багіні Мокашы — грознай і прыгожай адначасна.

«Марыя не стала б слухаць з такім замілаваннем, яна досыць нагледзелася на немцаў і на іхнія звычкі, — думаў Альгерд. — Аднак, не захапляючыся надта, слухаць бы стала. Не хапае нашым жанчынам рыцарскіх песень, затое мы любім іх усёй душой, і смешна было б даказваць сваё каханне тым, што адсякаеш сабе палец без болю… Гэтага болю ў нас і так хапае, няма года, каб не было нападу — з захаду ці з усходу, з поўдня ці поўначы. І што за зямля ў нас такая — як мёдам намазаная, ніяк не хочуць спыніцца тыя ж немцы, каб праглынуць, зрабіць сваім хаця б тое, што забралі ў прусаў і заходніх славян, ды і ў тых жа палякаў зямлі прыхапілі нямала…Трэба пісаць ліст Казіміру, можа, усё ж удасца паўздзейнічаць на гэтага нягодніка — вось табе і сваяк называецца!»

— Ты не слухаеш, мой добры пан? — Юльяна як ачомалася ад салодкіх слоў Готфрыда, звярнулася да мужа. — Відаць, стаміўся?

Альгерд кіўнуў галавой. Слухаючы Готфрыда, стараўся ён убіцца ў нутро гэтага чалавека, адчуць, чым ён жыве і дыхае. Але ці сапраўды шчырым быў гэты радзіміч, ці то ўмеў «закрывацца», але так і застаўся вялікі князь у сумненні — давяраць прышламу ці не? І на ўсялякі выпадак загадаў ваяводу прыставіць да майстра віжа — хай таемна паслухае, аб чым стане гаварыць з людзьмі гэты лоўкі, прыгожы малойчык, з кім стане сустракацца. А калі ён і сапраўды добры майстар — што ж, няхай працуе на карысць Княству, і няхай залатыя і сярэбраныя ўпрыгожанні на княгіні і ейных прыдворных дамах будуць яшчэ лепшымі, чым у нямецкіх жанчын…

---

* Аўстрыйскі паэт Ульрых фон Ліхтэнштэйн (каля 1200–1275), факты з біяграфіі якога прыводзяца тут, сапраўды напісаў кнігу «Служэнне Даме».

І ён, накульгваючы мацней, чым звычайна, пайшоў у сваю лажніцу, але дазволіў, каб астатнія слухалі майстра столькі, колькі ім хочацца. Канчаецца доўгая цяжкая зіма, і сёння, на Саракі, маладым хочацца нечага незвычайнага. А свае спевакі і чытальнікі трохі прыеліся, вунь з якой ахвотай запісвае нешта малады памочнік летапісца — магчыма, для таго, каб напісаць нешта не пра майстра Готфрыда, а пра вечнае на зямлі — каханне і радасць…

А праз год, зноў на Саракі, калі па хатах білі старыя гліняныя глечыкі, праганяючы Зіму, а ў селішчах тапталі снегавікоў, каб «зіма знікла на дзевяць месяцаў», на тым жа двары сабраліся паны-рада і вышэйшыя слугі княскага двара.

Яшчэ ляжаў снег па схілах гары, хаця праезджая дарога, што вяла ўверх да замка, вымашчаная гладка адшліфаванымі камянямі, была ўжо сухая, і на голым чырванаватым лазняку паўз яе пушыліся жоўценькія пухнатыя камячкі. Зацягненае белымі тоўстымі аблокамі неба дзе-нідзе ўсё ж прапускала сонца, і тады, нібы радуючыся кананню зімовай сцюжы і маразоў, сонца аблівала залацістым, ясным святлом і пабурэлыя за зіму саламяныя стрэхі на далёкіх віленскіх вуліцах, і ацёклыя за зіму жоўтымі і брунатнымі плямамі мураванкі, і тыя ж карычневыя, жоўтыя, шэрыя падбоі на зімовых корзнах віленскай знаці, а таксама белыя ваўняныя з упрыгожаннямі наміткі на галовах знатных жанчын, што тоўпіліся каля сцен замка.

Сярод іх і ростам, і чырвонай аксамітавай паласой на белай намітцы, асабліва ж узорыстымі, з самацветамі бранзалетамі выдзялялася княгіня Юльяна. Хаця постаць яе хавалася пад барвовым футрам, аднак па твары яе, дзе-нідзе як прыфарбаваным рудымі плямамі, па прыцішаных рухах было заўважна, што яна чакае новае дзіця. Яна з ветлівай усмешкай, але і з прытоеным смуткам глядзела на сына, якога акружалі ўжо не нянькі яе палавіны, а знатныя мужы Вільні — ваявода Гаштольд, мечнік Свідрыгайла, падчашы Пунігайла, сотнік Віт. Непадалёк ад яе стаяў, ужо ў чорным новым плашчы, залатых спраў майстар Готфрыд, пахвальна паднімаў уверх вялікі палец, калі княгіня пачынала гаварыць. Маленькага княжыча, які ўжо бойка тэпаў сваімі пухлымі ножкамі і ўвесь час парываўся вырваць сваю руку, трымаў Кужаль. Побач стаялі двое прыслужнікаў, беражліва ўздымалі славутую дзіду князя Альгерда. Менавіта яе хацеў вялікі князь сімвалічна ўкласці ў руку сыну, каб тым самым зацвердзіць яго гатоўнасць служыць Княству.

Яшчэ з часоў Міндоўга малых княжычаў са зброяй, пасаджаных на каня, абводзілі вакол свяшчэннага дуба ля капішча Перуна. Аднак цяпер, праз два стагоддзі, гэты абрад тварылі іначай, у прысутнасці не толькі жрацоў, але і святароў, і везлі дзіця вакол княжай харугвы, якую трымалі, стоячы пасярэдзіне двара, некалькі саноўных баяр.

Вецер варушыў бел-чырвона-белае палотнішча, на якім, нібы княжая карона, тапырыўся вострымі канцамі знак Гедзіміна, славутыя «Слупы». Ад імя княжыча клятву служыць Княству даваў яго дзядзька, яе ж прымалі баяры і зацныя — славутыя — мужы віленскай зямлі.

Вось і цяпер двухгадовага Ягайлу пасадзілі на белага каня і паволі павялі паўз сцены замка, а вялікі князь, прыняўшы з рук прыслужніка дзіду, паклаў руку свайго сына на чырванаватае гнуткае дрэўка. Кужалю ж давялося трымаць грозную зброю ззаду, і ён асцярожна ішоў за канём, стараючыся, каб дзіда не хісталася. Так і ішлі яны разам з вялікім князем, трымаючы дзіця і дзіду, а ўсе вакол напружана сачылі за кожным іхнім крокам. Каня вёў за сярэбраную аброць мечнік Свідрыгайла, ён таксама ступаў асцярожна. Спатыкнешся — нядобры знак, а нікому не хацелася азмрочваць вялікі абрад. Ніхто не ведае, які сын-княжыч стане валадарыць на велікакняскім стальцы, а дзеці растуць хутка.

Лёс кожнага з прысутных быў цесна звязаны з Альгердам, які, нягледзячы на хворую нагу, усё ж рашыўся, хаця і накульгваючы, ісці разам з канём, трымаць сваё дзіця. І гэта трывожыла ўсіх, хаця ніхто не паказваў таго перад іншымі. Занадта вялікая розніца паміж сынамі! Занадта відавочна, што ўжо цяпер Альгерд аддае перавагу малодшаму, а што ж будзе далей? Усе памяталі — толькі дзевяць гадоў таму сам Альгерд мячом зацвердзіў свае права на сталец, калі ягоны бацька Гедзімін аддаў трон малодшаму, любімаму, а не таму, хто таго сапраўды заслужваў, камусьці са старэйшых сыноў. Няўжо гісторыя нічому не вучыць?

У поўным маўчанні чуваць было толькі, як цокалі капыты па адшліфаваным бруку, як вецер свістаў праз вузкія адтуліны баявых вежаў і цяжка, з прысвістам, дыхаў Альгерд. Нават маленькі Ягайла прыціх, яго круглы тварык пасур’ёзнеў, ён спадылба глядзеў на людзей вакол сябе, на свайго дзядзьку Кужаля. Што ж да апошняга, то ён не адчуваў пад сабой ног. Яго не клапацілі тыя думкі, якія азмрочвалі твары навакольных, ён ішоў, нібыта знітаваны з чароўнай дзідай, пра якую столькі чуў і да якой цяпер дакранаўся так свабодна, нібыта яна належала

яму аднаму… Ён трымаўся за яе трохі ніжэй дзяржальна, там, дзе сярэбранымі цвічкамі была прыбітая да цвёрдага дрэўка бліршчастая, трохі пацямнелая па краях постаць дзяўчыны. Ад яе нібыта ішла нейкая сіла, яна прыўзнімала Кужаля.

Можа, калі-небудзь і ён стане такім вялікім воінам, як князь Альгерд, які, пакульгваючы, цяжка ідзе па другі бок каня? Колькі слаўных паходаў зрабіў князь і ягоныя сыны, асабліва Андрэй, што зараз жыве ў Полацку, хаця і правіць Псковам, а таксама Дзмітры! Слаўны князь і Кейстут, але ён стаў замкнёным, яго сінія вочы глядзяць заўсёды так пранізліва, нібы пратыкаюць наскрозь. Калі ён прыязджае ў Вільню, то звычайна ездзіць разам з вялікім князем на паляванні, а туды Кужаля не бяруць, ён увесь час знаходзіцца каля княжыча Ягайлы. Яго любіць княгіня Юльяна — яе вочы цікуюць за кожным рухам сына, а таксама за тым, ці добра сцеражэ і аберагае княжыча ён, Кужаль… І хлопец стараўся трымацца, як воін, якому даручана галоўнае ў баі — харугва. Ягонай харугвай быў цяпер княжыч Ягайла, яе ён нёс па прасохлым ад снегу двары Віленскага замка і ганарыўся тым.

Ён на ўсё жыццё запомніў і кароткія паўдзённыя цені ў кутах замка, і ружовыя, чырвоныя, зялёныя каснікі на галовах маладзіц — служанак Юльяны, і белыя караблікі намітак, якія крыламі-матылькамі трапяталі над ружовымі ці ўжо шэрымі ад старасці тварамі высакародных жанчын, а таксама той урачысты момант, калі харугвы схіліліся перад маленькім княжычам, а маршалак аперазаў яго пасам, дзе быў прымацаваны меч, што значыла — хлопчык стаў абаронцам радзімы і яе рыцарам.

Асабліва ж душу яго і праз гады грэла пачуццё, якое ён адчуў, калі трымаў дзіду. Вялікая і цяжкая яна была, але чамусьці здалася яму лёгкаю, нібыта і сапраўды была ў ёй заключаная чароўная сіла. Ён верыў — прыйдзе час, і ў найцяжэйшую хвіліну яна вырвецца з рук і пацэліць у самага страшнага ворага Княства… Нездарма расказвалі пра тое, што калісьці ў адным са старажытных храмаў пад Навагародкам асвяціла яе вялікая жрыца, таму ніхто ніколі не пераможа Альгерда і ягоных нашчадкаў, а Княству, дзе аб'ядналіся Полацак, Крэва, Вільня, Мсціслаў і многія іншыя гарады, суджана стаць вялікім і магутным.

Чуў ён таксама, што незвычайная тут зямля, — спявае рознымі галасамі, гаворыць з людзьмі, трэба толькі ўмець яе слухаць. Пра тое ж казала яму і бабуля Лозка, баючы казкі, якія ён помніць адну за другой так, як быццам бы, расказваючы, яна навек уціскала іх у ягоную галаву, — і пра Івана Падвея, і

пра Вячорку, Паўночніка і Заравога, а яшчэ — пра чарадзейныя яблыкі, якія дапамаглі адабраць у драпежнай каралеўны назад машну-трасейку, якая сама грошы насыпае, шапку-невідзімку і чароўны бізун.

Шкадаваў Кужаль — нікога не засталося ў яго тут з радні, бабуля расказвала, што ўсё селішча пагналі ў палон крыжакі, а перад тым запалілі хаты, і доўга яшчэ, азіраючыся, бачыла маладая тады Лозка пажарышча і плакала ўголас, як і іншыя жанчыны і дзеці. Марыў хлопец, што паедзе некалі на месца, дзе было селішча, знойдзе магілы продкаў ды паклоніцца ім — так, адпраўляючы яго ў дарогу, прасіла-маліла бабуля. Праўда, прасіла сына, Кужалевага бацьку, але, страціўшы яго на гэтым доўгім, страшным шляху, адчуў бягляк, што стаў дарослым. Да таго ж — яму, маламу і, як шмат разоў казалі нянькі Юльяны, бязроднаму, даверылі месца каля княжыча. Калі нават другое дзіця, якое чакаюць усе ў Княстве, будзе хлопчыкам, то першынец Юльяны цвярской — ён, Ягайла, а пры ім самы першы — Кужаль.

І ён маліў багоў, а таксама і адзінага хрысціянскага бога, каб быў дадзены яму добры, светлы шлях у будучае, і радаваўся жыццю. І часам хадзіў у ваенную залу гля-дзець на любімую князеву зброю, асабліва ж на дзіду, якую некалі трымала ў руках ягоная бабуля Лозка і зрабіла гэтае прыгожае наверша, а тая, якой ён ніколі не бачыў, — прабабка, шаптала над ім словы, якіх ужо ніхто не скажа яму, Кужалю. І ён адчуваў, што ўсё болей зрастаецца з чароўнай дзідай, нават часам размаўляе з ёю, а яна… яна таксама раскрывае перад ім нейкія таямніцы — аб продках яго, аб тых, хто жыў раней і чыя кроў бяжыць у ягоных жылах. Раней жа, калі не хадзіў да дзіды, ніколі не думаў пра іх, продкаў, не ўяўляў, якімі яны былі, на якія імёны адгукаліся…

І ніколі раней не адчуваў такой замілаванасці да зямлі, дзе не нарадзіўся, але якая сама спявала ў ім памяццю бабулі. Гэта было падобна да нейкага чарадзейства — душа як нарадзілася нанова на свет, у ёй аказалася тое, чаго ён і не ведаў. І яму хацелася крычаць на ўвесь свет, галёкаць, стаўшы ля акна самай высокай вежы на замку, што і так панаваў над усёй далінай, над ракой Вілляй, над далёкім лесам, праз які колькі гадоў таму ішлі яны з майстрам Готфрыдам, дабіраючыся ў загадкавую сталіцу Вялікага Княства Рускага і Літоўскага.

Светла было на душы ў Кужаля, бо раптам зразумеў ён, што да скону будзе жыць тут, будзе бараніць гэтую зямлю ад ворагаў, і іншай у яго ўжо не будзе ніколі…

## ГОД 1363. ПАХОД У «ПАЛІ ДЗІКІЯ»

Сонца штодзень паліла ўсё больш бязлітасна, зусім па-летняму, і князь Альгерд, калышучыся ў сядле, драмаў, сцярожка слухаючы стэп. Ведаў — атрад перадавой варты едзе наперадзе, а перад імі па гэтай дарозе прайшлі віжы, пакідаючы непрыкметныя для іншых знакі: адмыслова абламаную галіну карагача, драпіну на пакрышаным ад часу камені, вузел на вяроўцы, на якой боўтаецца драўлянае вядро, якім чэрпаюць горкую ад солі ваду з адзінокага калодзежа. Усё гэта сведчыць, што шлях свабодны альбо, наадварот, — блізка паселішча, адкуль данясуць татарам аб войску Вялікага Княства Літоўскага, што неадольна ідзе на Сарай. Зрэшты, Альгерд не сумняваўся, што вестка аб тым ужо дайшла да Залатой Арды: маскавіты трымаюцца золатаардынцаў, цікуюць адзін за адным, хто з іх найболей спадабаецца ханам ды мурзам, атрымае ярлык на княжанне.

Аднак жа цяпер Залатой Ардзе непярэліўкі — нібы сабакі над адзінай косткай, вось ужо чацвёрты год шалёна грызуцца за вярхоўны сталец Арды, што застаўся пасля смерці хана Бардзібека, яго спадчыннікі, гаспадары Перакопскай і Ямблукскай арды, а таксама намеснікі Крыма, асабліва ж сын Кутлук-Цімура, Кутлубай.

У Вільні, рыхтуючыся да гэтага паходу, бяссоннымі начамі, раскладаючы бурштыны, якія азначалі кожнага з магчымых праціўнікаў, загадваў Альгерд раз за разам расказваць то аднаго, то другога віжа пра звычкі і норавы кожнага з ханаў альбо ўланаў.

Зрэшты, Вільня заўсёды сачыла за Ардой. Яшчэ з 1349 года, калі пасольства Альгерда прыехала да хана Чанібека, каб паспрабаваць перахапіць ініцыятывы Масквы, мела Княства стасункі з ардынцамі. Тады, шмат гадоў назад, тыя паслы — а сярод іх быў брат Карыят, валадар навагародскі, а таксама князь свіслацкі Сімяон — прымусілі моцна турбавацца князя Сімяона Іванавіча, нягле-дзячы на тое, што быў ён злаславы і ўладны, за што і пра-звалі яго Гордым. Шмат падарункаў папрывозілі маскавіты ў Арду, каб не даць ханам пасябраваць з Вільняй і каб у рэшце рэшт Чанібек выдаў маскавітам і князёў, і баяр пасольства. Было тое пасольства нешчаслівым — давялося ісці на мір з Масквой, каб выручыць брата і баяр.

Тады ж і прапанавалі яму паслы маскоўскія шлюб з родзічкамі Сімяона. Было іх некалькі, таму што князі рускія амаль усе былі ў сваяцтве адзін з адным. Выбраў тую, з бацькам якой сябраваў з маладосці, калі той хаваўся ў Гедзімінавым двары ў

Вільні, — Улляну, або, як пазней назвалі яе ў Вільні, Юльяну — дачку Міхаіла цвярскога, пляменніцу Сімяона Гордага. Ейны брат, холмскі князь Усевалад Аляксандравіч, таксама звяртаўся па дапамогу да Вільні, нават зусім нядаўна, якіх пяць гадоў назад, і дапамогу тую атрымаў.

Тады, пятнаццаць гадоў назад, татары перахітрылі вільнян. Не, хутчэй перахітрылі маскавіты — нашапталі Чанібеку, што ён, Альгерд, хітрыць, хоча задушыць Маскву, каб потым знішчыць і Арду. Так, ён і раскідваў на гэткі капыл свае сеткі, ды толькі на той раз давялося есці рыбу не яму. Што ж, прайшло пятнаццаць гадоў. Магчыма, цяпер настаў яго час перагуляць і Арду, і Маскву.

Даведаўся ён і пра вялікую загадку старажытнага горада Сугдзеі ў Крыме, дзе, як расказвалі віжы, некалі месціўся славуты горад славянаў-улічаў — Сураж, па імю старажытнага бога Сур'і, бацькі Вялеса. Некалі прыходзіў сюды славянскі і арыйскі князь Яруна*, вучыў веры ва Усявышняга, альбо Вышня. Там і зараз жывуць славяне, яны гатовыя падтрымаць Альгерда, калі ён зойме горад, бо надта цяжкі гнёт венецыянцаў — гэтых марскіх рабаўнікоў. Але, разглядаючы на мапе валоданні Залатой Арды, гаспадар Княства сумняваўся ў тым, што ён дойдзе да Сугдзеі. І ўсё ж… Чаму не падаць надзею тым, хто хоча яе атрымаць?

Сухая, глiністая зямля сцірала капыты коней, нібы ўвесь час скакалі яны па каменні, таму на прывалах да самае раніцы вызвоньвалі кавадлы кавалёў, якія везлі з сабой усе прылады для паходных кузняў, нават дровы для распальвання агню. Бо дзе возьмеш іх у пустынным стэпе, дзе толькі перакочваюцца, як дзівосныя шары, калючыя клубкі высахлай ушчэнт травы** ды перасвістваюцца па начах нябачныя звяры і птушкі, палохаючы майстроў, якіх процьма ідзе разам з войскам, каб рамантаваць усялякае начынне — поршні і боты. Яны таксама хутка сціраюцца да дзірак, хаця змайстраваныя з самай моцнайваловінай

---

* Цікавы артыкул-гіпотэза А. Асава ў часопісе «Навука і рэлігія» (1999. № 10) аб тым, што Яруна ідэнтыфікуецца з Арджунай (герой «Махабхараты»), а гіпербарэі, ад якіх грэкі атрымалі многія свае веды, — са славянамі. Захоплены ў VII ст. н. э. грэкамі, гэты горад у XIV ст. быў заняты венецыянцамі і генуэзцамі, якія спрабавалі аднавіць старажытныя славянскія крэпасці, што былі канчаткова знішчаны туркамі ў 1475 г.

** Маецца на ўвазе перакаці-поле.

скуры і падбітыя жалезнымі падкоўкамі. А шчыты-тарчы, у якіх ад гарачыні трэскаецца лаза, з якой яны сплеценыя, і дубее скура? А кашулі вояў, што ад салёнага поту стаяць тарчма, абдзіраючы спіны, на мыццё якіх трэба вада, якую ў рэдкіх тых калодзежах вычэрпваюць да кроплі? А вяроўкі з конскага воласу, якімі акружаюць сябе воі на качэўях, каб не дабраліся да іх смяротна небяспечныя змеі? Не аднаго палачаніна, віленчука альбо крэўляніна ўжо давялося закапаць уздоўж дарог у пыльным курадыме і невядомасці.

Але ён, князь Альгерд, магутны гаспадар вялікай зямлі, мусіць быць не толькі абачліва-асцярожным, але і мужным. Воі павінны бачыць яго не сагнутым старцам, якога абцяжарваюць шчыт і кальчуга, а велічным правадыром, якога калі і не абмінаюць гарачыня і слабасць, то, прынамсі, не могуць адолець. Таму на прывалах, асабліва начных, шчыравалі над здранцвелым ад шматгадзіннай язды целам князя лекар Іаан і яго памочнікі Куп і Аўлас. Іаан падносіў настоі — горкія, з палыновым смакам, яны былі цёмна-зялёныя, нагадвалі багністую жыжу ля купін. Альгерд моршчыўся, але піў, пасля чаго Куп і Аўлас разміналі моцнымі дужымі рукамі ледзь не кожную костачку на кашчавых, сухіх нагах князя, дзе выступалі буйныя сінія жылы, што к вечару набрынівалі чорнай крывёй, якую ўжо з цяжкасцю штурхала па целе саслабелае сэрца. Але пасля маладых рук памочнікаў лекара гарачэй рабілася ў грудзях, кашаль, што раздзіраў грудзі, мякчэў і знікаў, і Альгерд засынаў моцным сном, нават скрозь сяннік адчуваючы цяпло гэтай чужой і непрыветнай да прышлых зямлі, якая ўвабрала ў сябе незлічоную колькасць людзей, што мурашамі мітусіліся на ёй з тых часоў, як увогуле з'явіліся яны па волі багоў тут, у гэтым свеце. А што, калі ён памрэ тут і яго таксама пакладуць у сухую чырвоную глебу, у якой чэпка трымаюцца за жыццё толькі нейкі серабрысты быльнёг і калючкі? І што чакае яго напера-дзе?

Але ніхто не ведаў пра гэтыя ягоныя думкі. Пляменнікі ж, сыны Карыята новагародскага Юры, Аляксандр ды Канстанцін, бачачы кожную раніцу, як бадзёра сядзіць на кані ў сваім паходным карзне дзядзька, як трывае доўгія пераходы, не пераставалі дзівіцца вялікай боскай ласцы да яго. Гэта ж трэба, у шэсцьдзясят шэсць гадоў рушыў у вялікі паход і вядзе за сабой гэтулькі народу, каб адваяваць Падольскую зямлю і тым аслабіць татараў, што прагна глядзяць на Вялікае Княства і робяць змовы з маскавітамі супраць яго.

Кейстута гэтым разам побач не было — крыжакі не давалі яму падняць галаву, асабліва ж дапякаў вялікі магістр Вінрых

фон Кніпродэ — той нястомна прыдумляў напад за нападам, штораз злейшы, небяспечнейшы. Рыцары не хацелі прызнаваць, што ў Літоўскім княстве многія землі былі ўжо хрысціянскімі, нездарма ж перапіска Гедзіміна з папам не давала вынікаў — яны нястомна пісалі ў Рым і ездзілі туды ледзь не як на свае рыцарскія забавы-турніры, бо былі каталікамі, і іхнія галасы былі пачутыя болей. О, як патрэбная была б зараз падтрымка альбо хаця б неўмяшальніцтва папы! Што ж, ён дакажа, што Літва і Русь склаліся ў дзяржаву, дзе большасць — хрысціяне.

Вось чаму, праходзячы праз Карсунь, ён забраў з сабою ікону, якую шанавалі як цудадзейную. Не раз паднімала яна на ногі людзей, якія ўжо рыхтаваліся да пераходу ў Ірый, карала крывапрысяжцаў і лупежнікаў. Тонкі, мудры твар Багародзіцы нагадаў Альгерду царкву Дабравешчання ў Віцьбеску, калі разам з падлеткам Андрэем стаяў ён на каленях, прымаючы вялікае рашэнне ісці на Вільню і на Яўнута, і ён неяк адразу адчуў, што менавіта гэты абраз уздыме дух войска, якое ішло ў дзікія стэпы з пэўнай насцярогай і нават страхам, — ніколі яшчэ воі Княства не заходзілі так далёка, у землі нязнаныя і страшныя, дзе па начах, як казалі, Дзій хапае сонных людзей і жывуць людзі з сабачымі галовамі.

Ззаду застаўся Кіеў, узяты войскам Вялікага Княства, дзе князем прызначыў Альгерд сына Уладзіміра. «Маці гарадоў» усё ж стала васалам Вільні, і праваслаўныя, што былі ў войску, маглі нацешыцца набажэнствамі ў старадаўніх цэрквах славутага горада, што ўцалелі або аднаві-ліся пасля страшнага разгрому Кіева татарамі сто дваццаць гадоў таму, пабачыць пячоры Лаўры і поруб, дзе некалі сядзеў палоннікам Усяслаў Чарадзей, славуты князь полацкі. Альгерд ведаў, што Усяслаў, абраны кіянамі на вялікі сталец, не захацеў Кіева і вярнуўся ў Полацк, але і Полацк цяпер — усяго толькі васал Вільні, і там валадарыць ягоны сын Андрэй. Вільня — вось якому гораду суджана пяршынстваваць! Але таго ж хоча і Масква, яна, гэтая новая сталіца рускіх земляў, імкнецца да валадарства. Аднак цяпер баяры маскоўскія купілі ярлык у аднаго з ханаў Арды — Мюрыда — на княжанне малалетняга Дзмітрыя Іванавіча, унука Каліты. Якім князем ён стане? Ці зможа гэтак жа, як ягоны дзед, узняць галаву і падпарадкаваць сабе іншых рускіх князёў?

Пакуль што Дзмітрый яму, Альгерду, не сапернік. Але ці змогуць жыць у міры дванаццаць ягоных сыноў, ці не распачнуць яны барацьбу за спадчыну бацькі і дзеда, Ге-дзіміна? І ён перабіраў у памяці сваіх дзяцей, уяўляючы іхнія твары, разглядаў

іх з увагай і халоднай дапытлівасцю. Хто зможа стаць вялікім князем, калі прыбярэ яго багіня Смерці? Камусьці з ягоных сыноў, магчыма, суджана стаць тварам у твар з маскоўскім Дзмітрыем, з самой Масквой. Каму? А можа, ягонае месца зойме нехта з пляменнікаў ці іхніх дзяцей? Шмат сярод Гедзімінавічаў харобрых, слаўных вояў, а ліхі ваяр не захоча падпарадкоў-вацца іншаму, пойдзе супраць волі бацькі. Так пайшоў ён сам… І што чакае яго ў гэтым вялікім, цяжкім паходзе, дзе сабраліся лепшыя сілы Вялікага Княства? Дзе толькі сыноў брата Карыята ажно чацвёра, і яны, новагародцы, добра памятаюць, што іхні горад быў першай сталіцай і яшчэ не губляюць надзеі, што ён зноў ператворыцца ў сталіцу.

Яны, як і сыны, ведалі даўняе паданне пра чарадзейную дзіду Альгерда, якая сама сабой вырываецца з рук і ляціць проста ў ворага. Яе везлі спецыяльныя ахоўнікі, сярод якіх пераўзыходзіў усіх ростам ды паставай сотнік Кужаль. Рудавалосы волат са скуластым славянскім тварам меў адметныя, не падобныя ні на чые іншыя вочы: фіялкава-сінія, нібыта браткі, што раскіданыя вясною па лузе. Фурманка, на якой ляжала зброя вялікага князя, ягоныя кальчугі, шаломы ды баявыя рукавіцы, ехала адразу за перадавым атрадам, і лацна* гарцавалі вакол коннікі, падабраныя нібы адзін да аднаго. І ўсё ж чамусьці найболей любіў Альгерд менавіта Кужаля. Яго клікаў ён час ад часу на вячэру ў паходны шацёр з ласіных шкур, што не прапускалі ані вады, ані пяску, і з задавальненнем глядзеў, як акуратна, так, што не падае на калені ні кроплі тлушчу, есць малады сотнік смажанае мяса, якое, залітае лоем, везлі ў бочках услед за войскам, як п’е квас з гляка — асцярожна, патроху. Князь, бывала, і кпіў з тае амаль дзявочае абачлівасці, аднак жарты яго былі добрыя, бацькоўскія. Заўважаючы тое, увесь княжы асяродак — стольнікі, ваявода, чашнік, мечнік, пісар — ставіліся да Кужаля з пачці-васцю. Аднак таго незалюбілі браты Карыятавічы, і не раз падразалі яны асілка вострымі, як лезіва, слоўцамі. Але той толькі доб-разычліва ўсміхаўся і не адказваў, што злавала княжычаў яшчэ болей. Ды Альгерд не зважаў на іхняе акруценства** і нагаворы на Кужаля, а аднойчы ў час абеду строга загадаў ім замоўкнуць, і яны змушаныя былі цярпець гэтага нязнатнага пахолка, што невядома адкуль узяўся ў Вільні і так хутка стаў блізкім да двара.

* Лёгка.

** Лютасць.

І цяпер, у паходзе, ён быў незаменны для князя — мог імгнення, ледзь не з аднае трэскі, распаліць кастрышча, нейкім незразумелым чынам адчуваў ваду, не раз падказваючы перадавым воям, што вярталіся з трывожнымі абвесткамі аб тым, што абмялеў прыдарожны калодзеж, дзе можна раскапаць пясок і знайсці непрыкметнае жарало даўняга струменьчыка. Аднойчы, калі князь, злезшы з каня, амаль зваліўся пад цень вузлаватага старога платана, менавіта Кужаль лоўкім ударам забіў змяю, што нечакана для ўсіх раз’юшана ўскінулася перад самым тварам Альгерда.

На радзіме ішоў месяц беразазол, калі пачынае рухацца сок ў бярозах, але сіняваты, падталы ўжо снег асабліва моцна яшчэ трымаецца ў лесе, пад густымі цёмнымі ялінамі. Тут жа, у стэпе, ледзь не на вачах ужо зацвілі то жоўтымі, то ружовымі ці ліловымі густымі гронкамі незнаёмыя дрэвы і кустоўе, і воі надзявалі кальчугі на голае цела, каб можна было трохі прадыхнуць, не баючыся, што знянацку падстрэліць злая татарская страла.

На чацвёрты дзень траўня перадавы атрад разведчыкаў прынёс вестку, што татары, сабраўшы войска, ідуць насустрач і, відаць, паспрабуюць перахапіць ліцвінаў, не дапускаючы іх да Крыма.

Расклаўшы мапу, яшчэ ў святле вечаровага сонца пачалі спрачацца вышэйшыя паны Княства, дзе можа адбыцца налога, а скончылі спрэчкі, калі ярка загарэлася Мілавіца і чорным аксамітавым покрывам лягла на палаткі ноч. Прыкідвалі, дзе перастрэнуць іх ворагі. Бачылі, што пазіцыі татараў выгаднейшыя — яны могуць чакаць там, дзе ім зручней. Войску ж Альгерда давядзецца ісці наперад, у пастку, і разгадваць усё, што задумаюць гэтыя акруценцы. Але Карыятавічы, што не раз сустракаліся ўжо з татарамі, ведалі многія іхнія хітрыкі, і ад таго, прыкінуўшы ўсё, што дакладалі разведчыкі і што казалі паны, вырашыў Альгерд, як ставіць свае атрады. Толькі месца было невядомае, але праз тры дні даклалі віжы, што татары спыніліся ля ракі Сінюхі, і там, ля прытока Паўднёвага Буга, хутчэй за ўсё, і перастрэнуць яны ліцвінаў. Прынеслі яны і кавалкі бяросты, на якіх надрапаныя былі звівы той ракі, берагі і топкія мясціны, узвышшы і купкі дрэваў.

У тую ноч Альгерд сядзеў над мапай адзін. Ён чакаў тае хвіліны, калі, адпусціўшы на волю думкі і не збіраючы іх, як птушак, што вольна кружацца ў прасторы, убіраючы ў сябе таямнічыя пакуль абрысы невядомай мясціны, якую рыскамі і лініямі абазначылі для яго віжы, ён адчуе, як паднімае яго

душу нейкая невядомая, але магутная сіла. Тады, адарваны ад паўсядзённасці, ад усяго зямнога, ён адчуе, як набракае, цяжэе адна з гэтых рысачак ці ліній — і менавіта туды пашле ён самы моцны атрад, тое месца прыкрые ён падвойной абаронай ці наступам. Так было неаднойчы — але не заўсёды. Бывала, што, прачакаўшы доўгія гадзіны, ён засынаў над мапай і прачынаўся спустошаны, разбіты, з горкім пачуццём адзіноты і пакінутасці. Бывала, тупы цяжар клаўся на галаву і як засцілаў наваколле. А двойчы агортвала яго роспач — і абодва разы ягонае войска бегла ад крыжакоў альбо, як снапы, клалася пад сякеры і мячы, альбо губляла сваю славу. Так было летась пад Коўнам, калі з горкай роспаччу назіралі яны з братам Кейстутам, як паліў ягоны сын Войдат-Канстанцін замак, каб не дастаўся ён немцам-пераможцам, як вялікі магістр Вінрых фон Кніпродэ і ягоныя камандзіры перад бажніцай, за дзень узведзенай на тых руінах, адзін за адным забівалі лепшых вояў Коўна, а прывязаны да дрэва княжыч мусіў быць за сведку гэтай страшнай паразы. Дзьмуў дымны вецер, чорна-сінія скруткі сажы распаўзаліся ў паветры, забівалі глоткі, рэзалі вочы. І не мог ён паслаць туды сваіх вояў, бо немцаў было нашмат болей, і не мог адысці, бо рэзала па жывым бяда з пляменнікам, якога абклалі ваўкарэзіны-рыцары. Кейстут — той счарнеў тварам, заўсёды пранізліва-сінія яго вочы сталі падобныя да сушаных сліў, страцілі заўсёдны бляск, ён адно глуха стагнаў, гледзячы з вышыні, што дзеецца ў асаджаным Коўне…

Узгадаўшы той жахлівы дзень, Альгерд адчуў, як ахапі-ла яго колішняя бездапаможная ярасць, і таму адкінуў успаміны. Дзеля таго напружыў усю сваю волю. А пасля як праваліўся ў паўсон, у здранцвенне.

Кужаль, які бяссонна дзяжурыў каля фурманкі, што ўсутыч стаяла ля княжага паходнага жытла, ускочыў, пачуўшы голас Альгерда. Той голас быў не падобны да ягонага, нібыта нехта наваліўся на князя і душыў яго. Разам з двума пахолкамі, што вартавалі сам шацёр, падбег хлопец да ўвахода, асцярожна зазірнуў усярэдзіну.

Высокі лоб князя быў заліты буйным потам, вочы, шырока расплюшчаныя, глядзелі няўцямна, нібы бачыў Альгерд перад сабой не тое, што яго абкружала, — ільсністую мядзведжую шкуру ў куце, бурую выскабліну-мездру па сценах шатра, што пругка выгнулася пад начным ветрам з поўдня, устрывожаныя твары вартаўнікоў, а нешта іншае, чаго не маглі ўгледзець навакольныя. Пасля ён глыбока ўздыхнуў, як апрытомнеў. Ужо

спакойна агледзеўся, і знаёмы ўсім, уладна-спакойны выраз ягонага твару суцішыў трывогу.

— Бачылася мне бітва, — сказаў ён. — І рэчка Сінюха. Там будуць нас чакаць татары…

Вірылася, пенілася на выгінах Сінюха, бегучы да Буга, а перад тым, як растварыцца ў ім, шырока разлілася па даліне ручаямі, утварыўшы рукаў, ашчацінены чаратамі, дзе прывольна жылося птушкам і мноству ўсялякай дробнай мошкі, што пад вечар бязлітасна джаліла, калола і смактала кроў вояў, якія вось ужо дзве ночы спалі тут, недалёка ад упадзіны, у той час як варта не змыкала вачэй ні на хвіліну, мяняючыся праз кожныя чатыры гадзіны.

Татары стаялі так блізка, што ўначы можна было разгледзець зарыва над іхнім станам. Адтуль вецер нёс казытлівы пах смажанага мяса і церпкі дух конскага поту, а таксама адчуванне грознай небяспекі, што ішла ад гэтых бязлітасных, загартаваных у бітвах, нястомных стэпавікоў.

Яны былі дзецьмі гэтых дзікіх непрыветных земляў, іхнія коні ўмелі знайсці сярод сухога быльля патрэбную сцяблінку, каб загаіць укус змяі альбо ядавітага павука, ім лёгка дыхалася ў гарачыню. Але свайго было ім мала, яны зладжанай, шалёнай зграяй насоўваліся на далёкі край ліцвінаў, на Княства, і таму трэба было зламаць хрыбет зверу-драпежніку, каб яго гарачае дыханне не прымушала дрыжаць па начах рамеснікаў і смердаў, жанчын і дзетак у гарадах, мястэчках і селішчах Вялікага Княства.

Зрэшты, гэта разумелі ўсе — і загартаваныя ў баях воі, і месцічы, якіх паслалі ў рушэнне* дымы і дробныя селішчы па закліку Альгерда. Грозная небяспека, якая раней была далёка і адчуванне якой за доўгія месяцы пераходу неяк прытупілася, цяпер паўстала перад імі блізка і надта адчувальна. Таму многія ў лагеры не спалі ў апошнюю ноч перад бітвай, і ля паходных алтароў святароў, ксян-дзоў і жрацоў тоўпіліся тыя, хто жадаў прычасціцца, па-прасіць даравання за ўчыненыя крыўды, каб пайсці ў іншы свет са спакойнай душой і трапіць на нябёсы, а не ў пекла ці небыццё.

У тую ноч вялікі жрэц Гінгівіл, які таксама ехаў з войскам, не спаў. Ён слухаў ноч і зямлю.

---

* Паспалітае рушэнне — земская абарона. Тэрмін гэты вядомы з XVI ст., таму я ўводжу тут толькі адно слова — рушэнне.

Доўгія гады далі ягонаму слыху асаблівую чуйнасць. Ён ведаў многае. Напрыклад, тое, па якіх няўлоўных для іншых прыкметах даведацца, які час ночы: першыя салаўіныя по-шчакі чуваць ужо на пачатку другой гадзіны. Перапёлкі прачынаюцца ў дзве. Аўсянкі і шпакі здымаюцца з гнёздаў недзе ў чатыры, і толькі ў шэсць — вераб'і.

Тут жа ён амаль не чуў знаёмых галасоў — птушкі былі іншыя, а можа, яны спявалі тут па-іншаму? Нават сонца было тут не такое — ён, хто мог у лічаныя хвіліны адчуць, ці ёсць пад імі вада, тут шукаў яе нашмат даўжэй, а ў поўдзень, калі спрабаваў нават на хвіліну настроіцца на ваду, адчуваў, як адразу ж калола ў скронях. І тут не было ні вольхі, ні клёна, ні бярозы, якія маглі б таксама падказаць яму, дзе падземная крыніца.

Але зямля заставалася той жа, нягледзячы на тое, што чужыя коні таптали яе і пакаленні чужых, невядомых жрацу Гінгівілу людзей ляглі ў яе. Вялікая, яна прымала ўсіх і растварала ўсё. Таму, адышоўшы ад лагера, жрэц стаў на калені і з усёй сілай сваёй істоты зашаптаў старадаўнюю малітву да Матухны Зямлі, просячы даць яму разуменне таго, аб чым яна будзе казаць сёння. Пасля, раскінуўшы рукі крыжам, лёг на мулкую, сухую, непрыветную гліну і, разадраўшы нейкай калючкай шчаку, прыціснуў вуха да глебы.

Доўга ён так ляжаў, у той час як прыстаўлены да яго стралок-ахоўнік таксама сцярожка слухаў, толькі не зямлю, а наваколле, баючыся, што вось-вось падкрадуцца татары і накінуць на іх абодвух тугія, сплеценыя з вярблю-джага воласа арканы і павалакуць кудысьці ў страшнае невядомае, на смерць і пакуты. Яшчэ трое служак стаялі непадалёк, а пасля селі на зямлю і таксама слухалі ноч. Нягледзячы на тое, што былі яны жрацамі, у кожнага на каленях ляжаў самастрэл, таму што бывае такі час, што няма калі багам цікавіцца справамі грэшных людзей, і трэба пра ўсё клапаціцца самому.

Зямля не хацела гаварыць — альбо жрэц не мог яе пачуць. Аднак у той момант, калі ён, здранцвелы і нерухомы, адчуў, што ім авалодвае адчай, пачулася лёгкае, амаль нячутнае шапаценне. Ён страсянуўся ад радасці, адчуўшы, што нарэшце трапіў у тое агульнае суладдзе-рытм, якім жыве ўсё існае на Зямлі. Шапаценне ўзмацнілася, і цяпер ужо яно панесла-закружыла, як абрынулася на чалавека, так што, паслухаўшы яшчэ, ён з цяжкасцю ўзняўся і, пахістваючыся, паволі пайшоў да вогнішча свайго шатра.

У тую ж ноч Альгерд сабраў усіх сотнікаў, ваяводу і паноў на вялікую раду.

Сярод вояў болей было язычнікаў, таму князь загадаў у час наступу граць па чарзе і валыншчыкам, і дударам, а праваслаўныя святары мусілі выконваць гімн, які ўжо некалькі гадоў спявалі ў праваслаўных храмах. Дзеля таго, каб іхнія галасы чула войска, распарадзіўся ваявода прыдаць да святароў два дзясяткі маладых вояў са звонкімі галасамі, якія, аднак, таксама пойдуць у бой, калі татары прарвуцца да самага ўзгорка, на якім размесціцца вялікі князь і паны-рада. Вялікі маршалак хацеў стаяць у цэнтры мяшка, куды спадзяваўся Альгерд загнаць ворага.

Гэты мяшок называлі паны-рада падковай. І — войска, падзеленае на шэсць гуфаў*, павінна было стаяць так, каб флангі далёка выдаваліся наперад, а асноўныя сілы месціліся ў цэнтры дугі.

— Дзяржальна і канец падковы — нашы, — ледзь не ў адзін голас сказалі браты Карыятавічы. І Альгерд зга-дзіўся з імі. Многа перацярпелі ад татараў навагародцы, дый княжычы, ягоныя пляменнікі, не раз даказвалі падчас бітваў, як, не зважаючы на небяспеку, умеюць яны абдурыць ворага ўяўнымі ўцёкамі, а пасля, павярнуўшыся, ударыць з нечаканай сілай і спрытам. Таму Хведар, новасвечаны князь гомельскі, павінен быў стаць на самым небяспечным, правым фланзе разам з братам Аляксандрам. На левым — Канстанцін і Юры.

Сын жа Андрэй, якому таксама нядаўна дадзены на княжанне быў Трубчэўск, стаў побач з маршалкам, у цэнтры. Тут будуць месціцца кушы**, якія закідаюць татараў каменнем і жалезнымі шрубкамі. Такія шрубкі прабіваюць таўсценную скуру татарскіх каптанаў, лёгка, як нож у масла, уваходзяць у галаву праз калматую шапку.

Як меркавалі браты Карыятавічы, татары паспрабуюць разбіць дзяржальна і пачатак «сярпа», каб пасля, абкружыўшы войска, напасці на яго ззаду. Таму атрады конніцы будуць хавацца за ўзгоркамі, каб па сігнале дуды па-скакаць на стэпавікоў, што разлічаць свой удар толькі на вояў, якія стаяць на флангах. Таму перад пачаткам бітвы коннікі-ліцвіны адыдуць так далёка, каб татарскія віжы не паспелі іх заўважыць. І два гэтыя атрады павінны ўзначаліць пінскі князь Патрыкій Нарымонтавіч і заслаўскі Міхаіл Яўнутавіч***, абодва выдатныя коннікі і харобрыя воі.

---

* Палкі.

** Машыны-самастрэлы.

*** Нарымонт і Яўнут — сыны Гедзіміна ад праваслаўнай княгіні Еўны, а паколькі мелі яны за жонак крывічанак, то ў любым выпадку

Асабліва ж турбавала Альгерда месца каля ручая, што ўпадаў у Сінюху. Нейкая хітрасць чакалася там — нездарма ў вешчым паўсне выразна ўбачыў ён, як набракла крывёй рысачка, праведзеная рукой віжа, і яна супадала з гуфам, які павінен узначаліць сын Уладзімір, князь кіеўскі. Тут будуць найбольшыя страты, здавалася яму, і таму, ня-гледзячы на пратэст Уладзіміра, далучыў ён да ягонага палка яшчэ свой уласны атрад ахоўнікаў.

— Бацька, калі бітва станецца не ў нашу карысць, татары могуць схапіць цябе, таму я не буду браць твой атрад, — угаворваў Уладзімір, хмурачы густыя, зусім як у дзеда Гедзіміна, бровы.

— Захаваць вялікага князя важней, чым выйграць бітву, — падтрымаў і другі сын, Андрэй. Пярэчылі і пляменнікі, аднак Альгерд стаяў на сваім.

— Мае дваццаць вояў выхапяць свайго гаспадара з пашчы Змея, а не тое што татараў, — Альгерд казаў спачатку жартаўліва, а калі ўбачыў, што тое ж кажуць і паны-рада, і ваявода, — узвысіў голас і тым як паставіў кропку:

— Так будзе, як скажу!

І ўсе заціхлі, толькі дакорліва паківаў галавой стары Гаштольд, былы ваявода, які напрасіўся ў паход, як казаў ён, каб апошні раз разгулявацца ў сечы. Але вялікі князь не зважыў і на яго, зрабіў па-свойму.

І так сталася, што татары, жадаючы прарвацца скрозь ліцвінаў, менавіта на Уладзіміра націснулі так, што ў крывавай сечы палягла большая частка ягонага гуфа, і каб не той Альгердаў ахоўны атрад, удалося б паганцам раза-рваць моцна спаяны ланцуг войска. І прарвацца ў тыл.

Тую сечу апелі ў баладах і казаннях, і толькі летапісцы запісалі ўсё проста і даходліва:

«А калі прыйшлі да Сіняй Вады, мінуўшы Кіеў і Чаркасы, указалася ім у полі вялікая арда з трыма царэвічамі на тры абозы раздзеленымі, гэта значыць Катлуба, Кіцібея-Бекера і Дзмітра-Салтана. Тое ўбачыўшы, Альгерд, паколькі да вайны гатовыя татары, раздзяліў войска сваё на шэсць гуфаў, закрыўленых з бакоў, і на чало рассадзіўшы, каб іх татары танцамі звыклымі абкружыць і стрэламі шкодзіць не маглі. А пасля з вялікай запальчывасцю татары град жалезны з лукаў на літву густа пусцілі, але ім стральбой не зашкодзілі, для параднага раздзялення і хуткага адступлення. Літва разам з руссю скочыла зараз з дзідамі

гэтыя пляменнікі Альгерда далёка не цалкам літоўцы, як гэта прынята сцвярджаць у гістарыяграфіі.

і шаблямі, сустрэўшыся, чало ім перарвалі і танцам перашкодзілі, другія разам з куш белтамі, а абазліўшыся, новагародцы з Карыятавічамі валілі іх з коней, напіраючы на іх з бакоў, татары ж ляталі не іначай як снапы, разбэрсаныя раптоўным ветрам, і не могучы больш Літвы вытрымаць, пачалі мяшацца і ўцякаць па шырокіх палях»*.

Аднак не ўпісалі летапісцы ў пергаменты таго, аб чым гаварылі і спявалі доўга пасля тае бітвы, у якой палеглі ўсе тры ардынскія ханы, а Сінюха, запруджаная целамі татараў, разлілася па даліне, затапіўшы норы змей і суслікаў, ад чаго клубкамі качаліся чорныя тыя атрутныя змейкі і скакалі рыжыя, падобныя да мышэй звяркі проста па тварах мерцвякоў. А спявалі і баялі аб тым, як у самы разгар бітвы, калі толькі тонкая сцяна ратнікаў у самым цэнтры аддзяляла раз’ятраных крымчакоў і хана Кутлубая ад стана Альгерда, раптам ускочыў вялікі князь з крэсла, на якім сядзеў і адпачываў пасля доўгага змагання. Толькі што сеў ён на крэсла, дзе цяжка дыхаў, учапіўшыся ў падлакотнікі, і не адрываў вачэй ад бітвы. Кужаль напаіў яго вадой, яшчэ з раніцы набранай з ракі. І як у ваду тую глядзеў — зараз сталася вада з Сінюхі непрыгоднай, столькі крыві нацякло ў яе…

Аддыхваўся вялікі князь, бо дзве гадзіны запар перад тым змагаўся на чале войска, ажно заламіла яму руку. Аднак хрыплы голас татарына-асілка са страшнай воўчай зяпай на галаве, што сядзеў на чорным, быццам з пекла, коніку, пачуў Альгерд. Зразумеў ён лаянку талмача Кутлубая, дзе бэсціў яго праз свайго слугу, што гаварыў па-ліцвінску, сын намесніка і называў баязліўцам.

— Сядзіш, сын сукі, хаваешся за спінамі вояў! Ты спарахнелы пень, які трэба вырваць арканам і аддаць Хан-Харангую!**

— Ты паганы пёс, які будзе скуголіць пад парогам хана!

Звычайна разважлівы і спакойны ў самыя гарачыя, невыносныя моманты жыцця, Альгерд на гэты раз не сцярпеў. Мабыць, занадта вялікім было напружанне бітвы, занадта многа залежала ад сённяшняга дня. Выйграюць татары — не паднімецца Вялікае Княства, абцугамі сціснуць яго з трох бакоў, і крыжакі, як вараннё, наляцяць на тое, што можа застацца пасля бітвы. Выйграюць яны тут — іх сілы ўмацуюць Падолле і Валынь, усе гэтыя агромністыя землі, дзе глеба, дай ёй толькі вады, родзіць, як магутная багіня плоднасці…

---

* ПСРЛ, т. 32, с. 43. — Пераклад мой.

** Хан-Харангуй — «гаспадар цемры», у міфалогіі манголаў грознае боства гневу.

— Дзіду! — крыкнуў ён. — Маю дзіду!

Тады падскочыў да яго Кужаль, падаў дзіду. Ярка бліснулі каля дзяржальна сярэбраная постаць дзяўчыны і крыж.

Дзіда была цёплай — а можа, так здалося вялікаму князю? Яна ляжала ў руцэ ёмка, але ўпершыню адчуў ён яе цяжар — пругкае дрэўка было доўгае, а металічнае наверша — вялікае.

— Каня!

— Вялікі князь! — перасцерагальна хрыпануў стары Гаштольд. — Супыніся!

Але Альгерд не слухаў.

— Харугва хай будзе тут, на месцы! — загадаў ён вартавому, што стаяў ля ўкапанай у зямлю харугвы Вялікага Княства — бел-чырвона-белага палотнішча з вершнікам, над якім каронай узвышаўся трызубец Гедзіміна.

Ён ускочыў на каня, нібыта яго ўзняла нейкая магутная сіла, і паскакаў да ратнікаў. Першы, імгненна зрэагаваўшы на княскі парыў, кінуўся за ім Кужаль, за ім — астатнія пахолкі, што акружалі князя на ягоным назіральным узгорку.

Разгарачаныя бітвай ратнікі не адразу заўважылі, што вялікі князь паміж імі. Але голасна ўскрыкнуў расчырванелы, з пырскамі чорнай крыві на твары, амаль затуленым шаломам, Уладзімір:

— З намі князь Альгерд!

І голасна, як труба, прагудзеў святар Георгій:

— З намі Багародзіца і князь Альгерд! Люба!

— Люба! — падхапілі пахолкі Альгерда, а за імі і воі, і па ўсім ланцугу людзей, што секлі татараў, нібы шаткуючы капусту, але і самі падалі пад стрэламі, як снапы, разнеслася:

— Слава Альгерду! Люба!

А ён, узняўшы дзіду, стаяў, застыўшы, не спускаючы погляду з хана Кутлубея — той, ашчэрыўшы зубы, вузкавокі, малады, у калматай шапцы, са скураным шчытом на грудзях, ганчаком ірваўся туды, дзе стаяў вялікі князь, і шырокі меч у яго руцэ, здавалася, сам прасіў крыві.

Яны сутыкнуліся, нібы крэмень ударыўся аб крэмень, і коні разнеслі іх, каб, павернутыя амаль адначасна, зноў паляцець насустрач адзін аднаму. І ўзняўся ў драпежным узмаху меч, і прыцэлілася дзіда. І яна паспела першай.

У вузкі прамежак паміж залатымі гузікамі каптана, расшпіленага падчас бітвы, у самую ямку пад горлам ударыла металічнае наверша, і вузкі ліст амаль цалкам упіўся ў храшчы. Адкінуўшыся назад, Кутлубей яшчэ спрабаваў узмахнуць мячом, але пальцы расціснуліся, падуладныя ўжо не яго волі, а іншай,

больш магутнай сіле, і меч, скрыгатнуўшы па металічнай аброці каня, слізгануў уніз, а за ім павольна, як даганяючы, паваліўся і сам хан.

А збоку на Альгерда ляцеў другі — такі ж, з закарэлым аскаленым тварам, шалёным вузкім разрэзам вачэй пад калматай шапкай, толькі шырэйшы ў плячах вершнік, ад якога дыхнула дымам і нясцерпна-вострым конскім потам. Ягоная крывая шабля гатовая была апусціцца на галаву князя, што глядзеў, як падрэзаным коласам, быццам пераломваючыся ў паясніцы, падае хан Крымскай арды. Але сокалам кінуўся наперарэз Кужаль — і адсечаная страшным ударам галава нападца скацілася да ног князевага скакуна. Той, загартаваны ў бітвах, не ўзняўся на дыбы, адно пераступіў так, каб страшны той шар, з якога ва ўсе бакі пырснула кроў, не запэцкаў ягоных атласістых, тонкіх ног, і толькі тады Альгерд, нібыта вычарпаўшы ўсе свае сілы, коратка, сутаргава ўздыхнуў і нагнуўся па меч ворага і сваю дзіду. Але воі ўжо працягвалі яму і тое, і другое, і ён узяў дзіду, аддаў Кужалю, а сам паехаў назад, у той час як Уладзімір і яго атрад з новай, амаль ужо нечалавечай сілай працягваў секчы татар, чый шалёны націск слабеў з кожнай хвілінай.

Як казалі ўсе, гэты момант стаў пераломным у бітве. З правага фланга ўжо кацілася радасная вестка, што ўладар Ямблукскай арды Дзмітр-Салтан таксама ляжыць мёртвы. Відаць, атрымаў тыя звесткі і перакопскі Кіцібей, бо па полі раптам пачуўся кароткі, аглушальны свіст, па якім татарскія лучнікі, якія яшчэ стаялі ў цэнтры поля, адразу апусцілі лукі і пачалі адыходзіць.

— Наперад, за імі! — крыкнуў Альгерд, і ягоны крык, тут жа падхоплены маладымі звонкімі галасамі вояў-песняроў, пракаціўся па даліне, адгукнуўся ў паплавах, і адтуль чорнай зграяй вылецелі — каторы раз за гэтыя напружаныя, цяжкія гадзіны бою — птушкі, што гняздзіліся ў цёплых, утульных зарасніках. А яшчэ вышэй, час ад часу закрываючы сонца, ужо з самай раніцы павольна і ўпэўнена кружылі над сечай вялікія, шыракакрылыя сцярвятнікі, і дзе-нідзе, не дачакаўшыся, пакуль усё скончыцца, яны апускаліся на параненых і мерцвякоў і дзяўблі іх.

Перамога!

Гэтае слова лунала паўсюдна, і воі Вялікага Княства, як ажыўшы, з новай сілай кінуліся на татараў, што пабеглі, кідаючы самастрэлы і шчыты, а кроў, што цякла з пакалечаных і забітых, цякла па зямлі і, збіраючыся ў густыя, страшныя лужыны, плыла па схілах у Сінюху, афарбоўваючы яе ў чырвона-буры колер. Невыносны пах нечыстотаў, растрыбушаных вантробаў і поту атруціў паветра і забіваў дыханне.

Людзі разумелі — сённяшняй перамогай Вялікае Княства Літоўскае і Рускае выйшла да Понцкага мора, злучаючы вялізныя прасторы паміж ім і Балтыкай. Трашчаў, ламаўся хрыбет магутнай Арды, якая паставіла на калені Русь і, як магутны драпежны звер, піла кроў спачатку з кіян, а цяпер з маскавітаў, пагражаючы і самому Княству. Сёння калі не ўсе, то многія яе заваёвы ператвараліся ў пыл. Альгерд рабіўся магутным уладаром краіны, роўнай якой было мала ў Еўропе, — землі яе займуць цяпер і прастору рэк Днястра і Паўднёвага Буга, дзе месцяцца Кіеўскае, Чарнігаўскае, Ноўгарад-Северскае княствы. Ім ніколі ўжо не будзе пагражаць татарскі аркан, і праца іх насельнікаў пойдзе на ўласныя патрэбы, а не будзе ўзбагачаць ненавісных мурзаў і ханаў, ацяжарваючы іхнія куфры і ўздымаючы на скораных землях усё новыя мячэці, якія, здаецца, пратыкаюць наскрозь само неба…

Кужаль дапамог князю сысці з каня, пасадзіў на крэсла, атуленае ад сонца шкурамі, пабег па конаўку вады. Альгерд жа закінуў галаву, дарэшты знясілены і хваляваннем, і ўласным ударам, і раптам адчуў, што яго не то кінула ў сон, не то вярнула ў незабыўны, глыбока ўтоены сэрцам час маладосці.

...Ён гнаў каня па лесе, у скураной торбе, прывязанай да сядла, ляжала наверша дзіды, падобнае да вузкага ліста, а душа яго спявала прадчуваннем шчасця і святла, і зялёнае ўзорыстае лісце было таксама ўсё пранізанае сонцам. А пасля насунулася зорнае неба, дзе ярка, нібы лампада ў храме, гарэла Мілавіца, далей ад яе мігцела Кол-зорка, да якой прывязаная ўся калясніца неба, і ён адчуваў, што яны ззяюць для яго — для яго і дзяўчынкі з фіялкавымі вачамі, чыя гнуткая, лёгкая постаць мільгала тудысюды, несучы яму на драўлянай тарэле скрылёчкі салодкай, як напоенай мёдам, рэпы. Жыццё было ўсё як напоенае мёдам, і ніколі, ніколі ён не быў шчаслівейшы — нават цяпер, атрымаўшы вялікую перамогу, аб якой, як ведаў ён без жрацоў і звездароў, будуць узгадваць і тады, калі без астатку растворацца ў зямлі і стануць зялёным мурагом косці нават яго праўнукаў…

## ГОД 1370. «ДА МАСКВЫ ПРЫСЛАНЮ СВАЮ ДЗІДУ…»

Вецер ірвануў з такой сілай, што з некаторых баяр, якія вялікім паўкругам стаялі ля царквы святой Багародзіцы, пазляталі высокія шапкі — аксамітавыя, шытыя дробнымі паўночнымі перлінамі, суконныя з гарнастаевай апухай, футравыя — з ліс ды баброў.

Вялікі князь Дзмітрый Іванавіч глядзеў нерухомым, нібыта раўнадушным позіркам на тых сваіх радцаў, якія мітусліва кінуліся лавіць дарагія свае ўборы па не прасохлай яшчэ ад леташняга снегу дарозе, па жухлай траве, з якой толькі праклёўваліся першыя зялёныя парасткі травы. І пад тым поглядам баяры, схамянуўшыся, паспешліва на-дзявалі шапкі на ўскудлачаныя галовы і вінавата застывалі ў агульнай кучы маскавітаў, якія назіралі за грознымі, страшнымі гасцямі з Вільні, якія ўчора нечакана паўсталі тут, аб'яўляючы вайну Маскве. Маскавіты добра ведалі прычыну — цвярскі князь Міхаіл, швагер вялікага князя Альгерда, два гады назад быў гвалтоўна схоплены імі і пасаджаны ў падземную турму Крэмніка, побач з новай царквой Успення Багамаці. Яны нездарма пачувалі сябе вінаватымі — і князь Дзмітрый, і мітрапаліт Аляксей, запрашаючы цвярскога князя да сябе, абяцалі Міхаілу ласку, а на самай справе задумалі паланіць яго, што і зрабілі, пасадзіўшы ў турму ўсіх баяр непакорлівага цверыча.

Выратаваў палонніка нечаканы прыезд трох ардынскіх царэвічаў. Залатая Арда давала Міхаілу ярлык на цвярское княжанне, а Дзмітрый баяўся гневу хана Мамая. Колькі высілкаў было зроблена, каб заваяваць ярлык на вялікае княжанне маскоўскае, колькі князёў рускіх поўзалі на каленях не толькі перад самім Мамаем, але і перад тоўстай, непрыступна-ганарлівай ханшай Тайдулой! Зусім нядаўна Мамай аддаў маскавітам ярлык і на княжанне ўладзі-мірскае — але таму, што Масква скарыстала ягоную барацьбу з ханам Мурутам-Чынгізідам і паабяцала аддаваць даніну менавіта гэтаму цемніку, а не яго ворагу*. Але ён усё ж адабраў у Міхаіла Гарадок разам з іншымі вёскамі, і таму зараз, стоячы перад ім, адчуваў вялікую трывогу.

Масква была безабароннай перад Альгердам. Перад тым, як падысці да стольнага горада Дзмітрыя Іванавіча, ён у жорсткай бітве забіў князя Сямёна Старадубскага, празванага Крапівой, а яшчэ — князя Канстанціна Юр'евіча з Абаленска, а на рацэ Троксне дашчэнту вынішчыў увесь маскоўскі вартаўнічы полк.

Усю ноч насіліся па Маскве ганцы, склікаючы баяр на вялікую раду ў Крэмнік. Новы, толькі што пабудаваны і асвечаны, гэты крэмль яшчэ пахнуў сырасцю белай вапны, з якой высякалі тоўстыя шэраватыя глыбы. І лавы, на якіх усю ноч засядалі бая-

---

* «…рускае серабро, цяпер ужо ў палавінным памеры, пай-шло на падтрымку Мамаевай Арды супраць Мурутавай» (Д. Балашоў. Вецер часу. Карэлія, Петразаводск, 1988).

ры, былі таксама яшчэ жаўтаватыя, пругкія, і, абапіраючыся на спінкі лаваў, абвешаныя тоўстымі валенымі — ардынскімі — кошмамі, адчувалі баяры скрозь поўсць тых посцілак смяротны холад страху. Таму рашалі нядоўга: задарыць грознага праціўніка вялікімі дарункамі, задобрыць яго, каб мог Альгерд з гонарам вярнуцца назад, узрадаваўшы сваіх вояў і родзічаў. Але Масква валакла цяжкі, усё болей надаедны цяжар даніны Ардзе. Колькі серабра было перавезена на вялікіх фурманках у стэпы, колькі пушніны, мёду, воску і тканага палатна! А бурштын, які абменьвалі ў суседзяў на той жа воск і футра, а жэмчуг, што выбіралі з паўночных рэчак пад Ноўгарадам, а каштоўныя камяні! А цяжкія, аздобленыя сярэбранымі медальёнамі і кручкамі паясы!

Але даводзілася выбіраць — жыццё ці тое, што набегамі ды намаганнямі дзядоў і бацькоў было сабранае ў куфрах маскоўскіх баяр. І, стогнучы, крэкчучы і праклінаючы і Міхаіла, і Альгерда з ягонымі сынамі і родзічамі, нарэшце дамовіліся маскавіты аб выкупе.

Альгерд і сапраўды быў задаволены. Ужо адпраўленыя былі ў Вільню фурманкі са здабычай ад спаленых вёсак. Золатаардынскія мячы, каваныя латы, чашы і вышытыя золатам княскія і баярскія каптаны — усё было акуратна ўпакаванае ў сундукі, і, магчыма, іх сустракаюць віцьбічы, для якіх ён загадаў пакінуць асобную частку здабычы. Віцьбеск быў заўсёды любым яго горадам. Тут прайшлі многія яго шчаслівыя гады, тут стаяць замак і пасад, якія ён умацоўваў калісьці з радасцю і стараннем.

Цяпер, стоячы тут, насупраць маскоўскага князя — такога ж высокага, як ён, толькі больш тонкага і зусім яшчэ юнага, гаспадар Літвы, Русі і Жамойці чакаў слоў пакоры і таго, чаго пажадаў ён апроч багатай даніны. І Дзмітрый выступіў наперад.

— Хачу, каб заціх ростырк* паміж намі. Каб жылі мы ў згодзе і ўдатны рыцар Альгерд меў з намі сяброўства. А таксама сыны яго і родзічы.

Ён пералічыў іх усіх — тых, хто, стоячы ля сваіх коней, уважліва слухаў кожнае слова і ўслухоўваўся ў кожны гук, кожную інтанацыю маскавіта: найперш адважнага Кейстута — сівы і магутны, стаяў ён, гледзячы з-пад калматых брывоў усё яшчэ сінімі, як восеньская азёрная вада, вачамі. За ім, у скураных латах і высокіх чырвоных ботах, стаяў сын Вітаўт. Андрэя Полацкага, старэйшага Альгердавага сына, амаль не было відаць за спіной малодшага, Ягайлы. Той, у падбітым мехам жупане з адамашка, стаяў злева ад Альгерда — чырванашчокі, з круглымі наіўна-

* Сварка.

хітраватымі вачамі пад рыжым лісіным каўпаком, паклаўшы руку на похвы, адкуль выглядала дзяржальна мяча з чорнымі эмалевымі насечкамі.

Міхаіл Цвярскі стаяў справа ад грознага, шырокага ў плячах, падобнага да спрытнага, хаця ўжо і састарэлага мядзведзя, вялікага літоўскага князя. Яго змучаны роздумамі і няшчасцямі твар, зямліста-шэры, зараз паружавеў ад задавальнення. Хаця справа канчалася не так, як ён хацеў — праглася найперш крыві Дзмітрыя, якога ён клікаў не іначай як клятваадступнікам, — усё ж частка бацькавай спадчыны яму аддавалася. А ўсё астатняе? Альгерд абяцаў, што з часам аддасца і гэта. Вялікі князь спяшаўся — ён ведаў, што Дзмітрый разаслаў граматы для збору войска, і разумеў, што можа ўпусціць час. Таму яны стаялі побач і слухалі, як, глытаючы словы, прамаўляў вялікі князь маскоўскі:

— А таму на сяброўства дару я табе, вялікі князь Альгерд, у знак таго, што мы абодва — адной нашай праваслаўнай веры*, вось гэтую нагрудную ікону…

Ён глянуў убок, і адразу мітрапаліт Аляксей працягнуў наперад і высока ўзняў вялікую, літую з золата ікону Георгія з пакручастымі ўзорамі. У скупых промнях слабога асенняга сонца бліснулі грані з сямю яхантамі ў тонка выробленых гняздзечках вакол постаці святога на кані, што дзідай пратыкаў змея.

— Не менш чым адзінаццаць коп добрых шырокіх грошай**, — шапнуў Кужалю мечнік Вавіла.

Гэтыя, з часоў бітвы на Сініх водах, лепшыя баявыя памочнікі Альгерда, стаялі ззаду, у купе вояў, што суправаджалі князёў.

— Колькі за яе ніваў, сенажацяў і гонаў бабровых купіш? — схіліўся да вуха сябра і Кужаль. Але дакорліва азірнуўся князь Андрэй — мажны, высокі, ужо таксама ссівелы, — і сябры змоўклі. А тым часам князь Альгерд прыняў ікону і перадаў яе — хто з цікавасцю, хто са здзіўленнем, а хто і з абурэннем адзначыў тое — Ягайлу.

Кужаль ледзь не падскочыў ад радасці: падарунак маскавітаў аддалі ягонаму выхаванцу! Князь жа Андрэй не змог схаваць густой чырвані, што плямамі расцякалася па ягоным твары. Харобры вой, ён часам пярэчыў бацьку, адстойваючы сваё, і тым карысталася княгіня Юльяна, паціху, як начная зязюля, кукуючы па начах на карысць свайго ўлюбёнца-сына.

---

* Альгерд, які насіў па хрышчэнні праваслаўнае імя Аляксандр, перад смерцю пастрыгся ў манахі пад імем Аляксей.

** Пра «добрыя шырокія грошы чэскай манеты» ўзгадвае купецкая грамата 1329 г.

— Дзіду! — коратка скамандаваў Альгерд, і ваявода хутка падаў яму загадзя вынятае са скуранога футарала любімае кап'ё.

Вялікі князь, нібы ўзважваючы зброю, колькі імгненняў патрымаў яе ў руцэ, а пасля, шырока пакрочыўшы да крамля, два разы крыж-накрыж драпнуў вострым навершам па белаваташэрым камені сцяны.

— Не хачу прыўлашчаці* сённяшні дзень толькі сабе, — сказаў ён. — Хай святкуюць яго ўсе родзічы мае — сыны, сваякі і вы, слаўныя вояі Вялікага Княства! А ты, князь маскоўскі, таксама помні — дзіду сваю прыхіліў я да сцяны твайго горада Масквы!

Але не паспеў ён прамовіць тыя словы, як з-за крамля, кінутая ўпэўненай рукой, праляцела ў паветры баявая сякера і ўпілася ў дзіду. Але не зламала яе — толькі Альгердава рука ад нечаканасці рэзка тарганулася ўніз. І адразу ж, спрытна, як дзік, скочыўшы наперад, захіліў сабою бацьку князь Андрэй.

— Хто пасмеў? — збялеўшы, выдыхнуў князь маскоўскі. Здавалася, зараз кінуцца адзін на аднаго людзі, што стаялі насупраць, і нікому не выйсці жывым з тае сечы. Усім целам здрыгануўся мітрапаліт Аляксей, так што ягоны парчовы мафорый страсянуўся таксама. Але воі, што кінуліся да сцяны і праз некалькі імгненняў вывалаклі адтуль юнака, які, кінуўшы сякеру, паспрабаваў збегчы, нібы знялі першы, шалёны зарад нянавісці і помсты. Усе сціхлі.

Хлопцу было гадоў шаснаццаць, ягоны ватол, відаць бацькаў, боўтаўся на ім бруднымі лахманамі. Светлыя вочы з-за белых пасмаў глядзелі варожа і зняважліва.

— Ты хто такі, невеглас? — па-хлапечы звонка крыкнуў Дзмітрый.

— Я? Я просты чалавек. А вось ты, хто ты? Прадаеш Маскву, княжа.

У Дзмітрыя пабялелі вочы. Ён павярнуўся, ціха, як быццам выпіхваючы з сябе кожнае слова, загадаў:

— Ссячы яму галаву!

— Чакай! — Альгерд падняў руку. — Надта прудкі твой прыгавор, князь маскоўскі. У нас бы яго судзілі паны-рада. Але ў вас свае законы. І мы не ўмешваемся ў іх. Хачу толькі сваім сынам паказаць, як не трэба цераз князя пераступаць. Ён лепей ведае, што і як. І дзеля таго, што ты гатовы караць непаслушэнца, прашу дараваць яму жыццё.

— Дзіўлюся твайму жаданню. Але…

---

* Прысвойваць.

— Выканай просьбу, — коратка сказаў мітрапаліт, і ў спакойным голасе яго было столькі сілы, што і госці, і свае, маскавіты, яшчэ раз адчулі, хто па-сапраўднаму трымае ў руцэ суровыя, цяжкія ніты маскоўскай палітыкі і ўплывае на маладога князя.

Нахмурыўся баярын Міхаіл Андрэевіч Брэнк — любімы настаўнік князя Дзмітрыя ў вайсковай справе, ён добра зразумеў сутнасць Альгердавай просьбы.

— Дарэмна. Крывёй дагаворы мацуюцца лацвей.

Альгерд пачуў гэтыя словы Кейстута, але не зрэагаваў на іх. І старэйшы, Андрэй, добра зразумеў, чаму ягоны бацька папрасіў аб літасці магчымаму забойцу.

«Мы паказалі ім, што мы не язычнікі, як яны тое гавораць, а тыя ж хрысціяне. Для простага люду гэты прыклад запомніцца болей, чымся тое, што мы пачысцілі іхніх баяр і маскоўскую казну. А нам яшчэ не раз сустракацца з маскавітамі», — скажа ўвечары Альгерд, калі на сустромне, на гары, названай з таго часу Паклоннай, сядуць вячэраць усе тыя, хто, нягледзячы на магчымую небяспеку, усё ж спусціўся да крамля, каб прысутнічаць пры сустрэ-чы двух вялікіх князёў.

— Дарую табе жыццё, смерд, — коратка сказаў Дзмітрый, але твар яго не абяцаў нічога добрага, і за хлопцам, якога штурхаючы ў спіну, павялі прэч, назіралі і другія, няўмольныя вочы. Занадта шмат сіл аддаў мітрапаліт на перамовы ў ардынскіх стэпах, на тое, каб ураўнаважыць хісткія, цьмяныя вагі гісторыі барацьбы князёў рускіх, каб зараз сарвалася ўсё гэта і нехта іншы пачынаў усё нанова.

Вочы яго добра разгледзелі і гнеў Альгердавага першынца, Андрэя, і хітры бляск у круглых вачах самага малодшага, улюбёнца Ягайлы, і незадаволенасць Кейстута. І мітрапаліт, які, зведаўшы інтрыгі стэпавікоў, сам стаўся нібыта часткай іхняе хітрае палітыкі, зрабіў усё магчымае, каб праз дзесяць гадоў, калі на Куліковым полі сустрэнуцца орды Мамая, раз'ятранага адмовай плаціць даніну ў ранейшых памерах, і войска рускіх князёў, адзін супраць аднаго паўсталі і сыны Альгерда. Ягайла — на баку Мамая (праўда, ён не давёў войска да прызначанага месца і тым садзейнічаў перамозе Дзмітрыя), Андрэй, празваны Полацкім, — на баку князя маскоўскага.

Ды не мог ніхто тады разгледзець будучае. Каму што наканаванае, ведае толькі адзін Бог. Андрэй Полацкі прасядзіць, палонены Ягайлам, сем гадоў у польскім замку Хенцін і загіне, ужо размяняўшы сёмы дзясятак, у трагічнай бітве на Ворскле.

Па загаду таго ж Ягайлы, які зараз мірна стаіць побач з дзядзькам, будзе задушаны ў Крэўскім замку волат Кейстут, а

ягоны сын Вітаўт збяжыць адтуль, пераапрануўшыся ў плашч жонкі, таксама чакаючы пагоні, пасланай за ім сынам Юльяны.

Але праз колькі дзясяткаў гадоў менавіта гэты круглавокі хлопчык з хітрым бляскам у наіўных вачах, якому бацька завяшчаў велікакняскі стол, ператворыцца з вялікага князя Ягайлы-Якава ў караля Польшчы Уладзіслава. Ён ніколі не забудзецца на тое, што быў малодшым сярод волатаў і, каб утрымацца на стальцы каралеўства, стане рабіць усё, што яму прадыктуюць тыя, хто купіў яго, правільна разлічыўшы слабыя і моцныя бакі гэтага хісткага, няўпэўненага ў сабе, але надта амбітнага сына Альгерда.

А пакуль усе яны, стоячы пад халодным асеннім ветрам няўтульнай Масквы, ля першых мураванак гэтага, яшчэ ляснога, з кучай драўляных церамоў горада, думалі кожны аб тым, каб жывымі вярнуцца — хто ў Віцьбеск, хто ў Навагародак, але найболей — у сваю Вільню. Вярнуцца з багатай здабычай, якою ўзнагародзяць сябе за дні і ночы ў сядле, ежу ля вогнішчаў, за ледзяную ваду, у якую правальваліся разам з коньмі, за цяжкую зямлю Масковіі, у якой пахаваныя воі, што загінулі ў бітвах.

Альгерд жа, узняўшы яшчэ раз дзіду над галавой, гучна сказаў усім ім, каго павёў у доўгі гэты паход, спадзеючыся на перамогу, але і гатовы скласці ў ім свае косці:

— Дзіда мая павінна ляжаць у Вільні. Толькі там, пры вялікім князі!

І ўсе схілілі галовы перад тым запаветам.

На тым і разышліся ў той дзень вялікія князі. Альгердаву дзіду паклаў у скураны футарал Кужаль.

…Яму ж давядзецца праз шмат гадоў везці яе ў Кракаў — туды ўзяў яе з сабой Ягайла, спадзеючыся, што ў небяспецы абароніць яна яго гэтак жа, як абараняла ягонага бацьку.

І там згубіцца ейны след — як і многае з таго, што страчана яшчэ нашымі продкамі і чаго не зберaглі ўжо і мы…

# АПОВЕСЦІ

## ЧОРНАЯ КНЯГІНЯ

Сёння, генвара дванаццатага дня, року тысяча пяцьсот восемдзесят восьмага, пачала я, раба божая Ева Ваяраўна Касцевічуўна, запіс гэты. Можа, змілуецца нада мною пан Езус, і змагу я расказаць пра жыццё сваё, пра справы, якім была сведкаю, і пра шляхі чалавечыя, нязнаныя ім самім, але наканаваныя воляю вышэйшаю, якая вядомаю становіцца толькі перад смерцю.

Старая я ўжо, сёлета пяць дзясяткаў споўнілася, і валасы мае сівыя, як шэрань, а твар зморшчаны, як праляжалы да вясны яблык. Але душа мая, хаця і змарнела ад розных нягод і выпрабаванняў, жывая, і хочацца мне запісаць усё — можа, хто прачытае і падумае: а жылі ж і да мяне людзі, і гаравалі, і спадзяваліся на лепшае, думалі пра Айчыну сваю і дбалі пра яе.

Кожны год нясе нам перамены. Вось і сёлета абраны на Каралеўства Польскае Жыгімонт Трэці, сын кроля Яна Шведскага, і ад арцыбіскупа гнежненскага ў Кракаве каранаваны. А мінулым годам памёр Стэфан Баторы, які кролеваў год дзесяць, месяцаў сем, а дзён дванаццаць, пры якім узяты назад быў Полацак і многа іншых гарадоў Княства Літоўскага. Перажыла я і кроля Сігізмунда Аўгуста, якога цяпер, у пазнейшыя часы, празвалі «Рамэа і Джуліяй стагоддзя». Яго каханнем была Барбара Радзівіл — няшчасная прыгажуня, якую, як кажуць, атруціла каралева Бона, а яе, у сваю чаргу, атруціў уласны доктар у княстве яе Бары, што ў Італіі — Влохіі.

Але пра каралёў ведаюць усе, крокі іхнія занатоўваюцца гісторыяй, а пра нас, людзей простых, можам расказаць толькі мы самі. Дык я і раскажу пра сябе і благое, і добрае, а хай той, хто будзе чытаць усё гэта, разбярэцца ў маім жыцці альбо асудзіць, як суджу цяпер сябе я сама. Раскажу пра чалавека, якога кахала так, як толькі можа кахаць жанчына, — імя яго засталося невя-

домым, хаця спраў зрабіў ён многа і навучыў мяне зямлю сваю любіць і ведаць, хто я такая і на якой зямлі жыву.

Раскажу яшчэ пра адну няшчасную жанчыну нашага крывавага і суровага стагоддзя, якую не засцераглі ад лёсу вялізныя багацці і знакамітасць. А можа, якраз яны перашкодзілі ёй быць шчаслівай? Хоць мы, жанчыны, болей за ўсё жадаем сабе шчаслівасці, і яна найперш — у дзецях і добрым мужу, у каханні адно да аднаго, у павазе ды шчырасці.

Але — пачну ўсё па парадку, пачну з бацькоў сваіх і сябе, адкуль я і які род мой. Не надта багаты, але ж — з нобіляў, са шляхты мы, Касцевічы, і бацька мой у маладосці быў «кавалерам» ажно пры самім Радзівілу князю Юрыю, гетману польным літоўскім. Развозіў ён лісты з Нясвіжа да мясцовай шляхты з запрашэннямі, стаяў «над рукой» у самой пані Радзівіловай. Праўда, не раз, кажуць, пасылаў гаспадар маршалку двара запячатаны «білет» з загадам даць колькі там бізуноў-корбачаў бацьку, бо той, сабою відны і галантны, бывала, псоціў-спакушаў прыслужніц дваровых. Адна з іх, цяжарная, панна Марта Кулік, кінулася пану Юрыю ў ногі. І ён, уважыўшы яе прыгажосць, прымусіў бацьку жаніцца, бо, сказаў, загадае даць столькі корбачаў, пасля якіх ніводзін мужчына не зможа болей называцца «кавалерам». Маці ж мая, будучы жанчынаю моцнай волі, дамаглася, каб нам далі ў арэнду фальварак, за які наша сям'я і плаціла чынш.

Помню нашу вялікую хату, дзе на відным месцы вісела шабля, падораная панам Юрыем, а таксама кунтуш* з ягонага пляча. Бацька не знасіў кунтуша, пакінуў яго як памяць пра былыя дні, калі не ведаў асаблівых клопатаў і калі нясвіжскія Цырцэі адорвалі яго сваёй нязменнай увагай. Помню партрэты нашых продкаў, на якія заўсёды садзіліся мухі, а мы з маці праціралі тыя парсуны белымі анучкамі, бо прыслугі было няшмат. Бацька не надта любіў гаспадарыць, болей паляваў з хлопамі і піў за здароўе паноў Радзівілаў. Але калі б ён не здаў паложанае дзякло** і грошы за арэнду, то быць бы яму бітым — няхай сабе, як шляхцічу, і на дыванку. Таму час ад часу ён стараўся — ездзіў па фальварку, глядзеў, як ганяюць сялян на паншчыну, лічыў за сваёй старэнькай канторкай даходы. Але, папрацаваўшы так тыдзень-два, не вытрымліваў — даставаў з падполу колькі бочак

* Кунтуш — каптан.

** Дзякло — падатак.

піва ці віна — і пачынаў блазнаваць. Мы, дзеці, любілі гэтыя яго дні, але маці проста вар'яцела. Ён не слухаўся нікога, і мы б, можа, сапраўды зусім разарыліся і пайшлі па свеце жабракамі, каб не матухна. Яна трымала гаспадарку ў руках, яна кіравала бацькам — праўда, непрыкметна, бо не дай бог каб заўважыў ён! Вэрхал паднімаўся ў хаце, ляцелі на падлогу начынне, гліняныя місы, гаршкі… Ды, праўду сказаць, адзінае, на што ніколі не паднімаў руку бацька, — гэта партрэты продкаў і шкляны посуд з залатымі ўзорамі, які даставаўся з сундукоў. Мы зрэдзь частавалі навакольных паноў, што наязджалі да нас і да якіх мы ездзілі самі. Помніцца, як маці мая высільвалася, каб мы паехалі ў госці не горшыя за іншых, як доўга яна стаяла над куфэркам, выбіраючы, дзе што адрэзаць, перакроіць, каб пашыць сукенку мне ці сястры альбо двум маім братам справіць новыя кашулі. Калі ж мне споўнілася дзесяць гадоў, яна наважылася перарабіць адзін з тых убораў, што насіла некалі ў замку Нясвіжскім, і тады я ўпершыню зафранціла ў камізэльцы фалендышовай* лазуровага колеру і ў лісіным каўпаку, пра які ведала, што за яго калісьці было аддадзена пяць коп літоўскіх грошай. А ў звычайныя дні хадзіла ў шарачковай сукні, у палатнянай камізэльцы і скураных пасталах-хадаках. Затое бацька, калі мы выходзілі ў людзі, быў апрануты ў кунтуш з нейкімі жоўтымі, вельмі дарагімі гузікамі і шаблю заўсёды браў з сабой. Помніцца — гузік аднойчы адарваўся і некуды запрапаў. Мы амаль два дні шукалі яго ў хаце і нават паднялі дошкі ў падлозе — там, закаціўшыся праз шчыліну, ён і ляжаў. Бацька мой быў чалавек з гонарам, але перад знатнымі гнуўся, як трыснёг пад ветрам. Дагаджаў ім чым мог і як мог.

Не раз сварыліся між сабою бацькі, хто ж вінаваты, што ў Нясвіжы іх болей знаць не жадаюць і не пускаюць нават на парог. Маці крычала, што такога гаспадара, які ледзь спраўляецца з чыншам, трэба распяць на нашым дубе, што рос пад самымі вокнамі. А бацька, кідаючы на падлогу місы і глякі, крычаў у адказ: калі б маці не ўступіла некалі ягоным залётам і адстаяла свой гонар, не давялося б яму жаніцца пад прымусам. «Гэта твая слабасць! — роў ён, і чарапкі валяліся вакол. — Ты разгневала пані Радзівіл сваёй распустай!»

Маці звычайна пачынала плакаць і клясці сваё жыццё, а бацька спускаўся ў падпол і суцяшаў гнеў пітвом. Мы ж, дзеці,

* Фалендыш — тонкае сукно.

у такія гадзіны хаваліся па кутах, баючыся, што бацькаў гнеў абрушыцца і на нас. Але, выпіўшы, ён рабіўся добрым, ласкавым. Вось у такую хвіліну, калі адна з нашых сучак ашчанілася, і выпрасіла я ў бацькі для сябе шчанюка, якога назвала Чмелікам.

Сабака быў надзвычай удалым: псар паказаў мне такія-сякія штукі, і я навучыла сабачку то паўзці, то скакаць праз галаву, то класціся і паміраць. Ці магла я думаць, што тым рыхтую сабе іншы, непадобны да звыклага жыцця, лёс?!

Мне помніцца дзень, калі ля нашай хаты спыніліся чатыры карэты, за якімі тоўпіліся коннікі. Пакаёўка ў доўгай пурпуровай спадніцы, у жоўтым каптане, падбітым тонкім футрам, прыбегла ў хату, патрабавала калодзежнай вады, бо «пані блага». Бацька вохнуў, маці кінулася разам з кухарам за вадою, а я выскачыла на ганак, каб падзівіцца на пані Беату Іллёву, якая ехала да пана Радзівіла ў госці. За мной выскачыў Чмелька.

Першы позірк, тым больш дзіцячы, бачыць многае! Я ўпершыню бачыла столькі прыгожых, у аксаміце, фалендышы і футрах паноў, упершыню бачыла і такую прыгажуню — нібы ажыў абраз Маці Боскай…

Пані Беата паўляжала ў карэце, адчыненай насцеж. Спачатку я ўбачыла толькі боцік, аблямаваны белым мехам. Нага была надзіва маленькая, сіняя сукня прыўзнялася, адкрываючы тонкую — я і не ведала, што могуць быць такія, — панчоху. Я ціха падышла бліжэй і між доўгімі веерамі, якімі абвявалі пані, пабачыла вялікія чорныя вочы, а пасля, калі пані ўстала, — усю яе, абгорнутую футрам, у белым, як снег, чэпчыку, з-пад якога выбіваліся залатыя — іначай не назавеш! — валасы.

— Kto to jest?* — запыталася яна.

Я нічога не зразумела, пакаёўка нервова перапытала маці, якая ўжо несла ў шкляным кубку чыстай вады, падтрымліваючы яго рукой з белым вышываным абрусам. Перапытала па-мясцоваму, але трохі дзіўнавата на наша вуха. Пасля я даведалася, што гэта была Марыся, гаварыла яна на падольскай гаворцы.

Пакуль пані піла ваду з нашага калодзежа, а каля яе па-ранейшаму мітусіліся то пакаёўка, то лекар, то нейкія дамы, ад якіх патыхала нечым пекным, каля мяне спынілася дзяўчынка. Была яна хутчэй што мая равесніца, але апранутая так, што я адразу ж утаропілася на яе кабацік, зашнураваны блакітнымі стужкамі, на круглы і пышны, як кветка, каўнерык вакол шыі. Але яна і

* Хто гэта? (Польск.)

не глядзела на мяне — глядзела на Чмеліка, які, узняўшы лапкі, стаяў ля карэты, нібы просячы нешта. Відаць, хітры мой пёсік пачуў нешта смачнае.

— Mamusju, chcę cukru! — яна працягнула белую далоньку, але пакаёўка замахала на яе рукой, паказваючы, што пані блага. Дзяўчынка адвярнулася, пайшла да другой карэты (боцікі ў яе былі акурат як у пані, толькі аблямоўка карычневая). Адтуль выскачылі дзве жанчыны, працягваючы дзяўчынцы кавалкі белага цукру.

Я пазайздросціла свайму Чмеліку, бо цукар у нас быў рэдкі ласунак. Ён з'еў яго, падабраўшы кавалачкі, рассыпаныя па зямлі. З'еўшы, зноў стаў на заднія лапы і заскакаў перад дзяўчынкай.

Тым часам пані выпіла ваду, і лакей стаў зачыняць дзверцы карэты.

— Панна Гальшка, сядайце! — паклікалі жанчыны, а адна з іх дадала:

— Змяркаецца, позна ўжо.

Але дзяўчынка не садзілася. Яна ўсё глядзела на майго Чмеліка. Адчуўшы нядобрае, я схапіла яго на рукі і хацела ўцячы. Але тут дзяўчынка капрызліва сказала, і я зразумела яе, хаця гаварыла яна таксама па-польску:

— Хачу гэтага сабачку!

Пані стомлена паглядзела ў акенца, нешта сказала пакаёўцы, і тая вылецела з дзвярэй, падскочыла да мяне, працягнула рукі да Чмеліка. З другой карэты хуценька прыклыгаў тоўсценькі чалавечак, ён расшпільваў скураны кісет — даставаў грошы.

Я заплакала, адскочыла ўбок:

— Не дам Чмеліка!

Бацька з перакрыўленым тварам кінуўся да мяне, я выслізнула з ягоных рук, кінулася прэч. Маці закрычала на высокай, адчайнай ноце:

— Еўка, каб на цябе Пярун! Ты што, забіць нас хочаш?!

Я спынілася, але плакала і крычала. Бацька схапіў Чмеліка, кінуўся да карэты, аддаў сабаку пакаёўцы. Але Чмелік, відаць, зразумеў, што яго хочуць забраць — ён вылузнуўся з рук пакаёўкі і кінуўся да мяне. Я зноў схапіла яго, прыціснула мордачку да грудзей і плакала.

Пані ў карэце зноў нешта сказала, твар яе грэбліва зморшчыўся, а дзяўчынка тупала ножкай і ўсё нешта казала… Тады пакаёўка запыталася ў бацькі, не, яна хутчэй загадала:

— Пані забірае ў цябе і дачку. Звярніся ў канцылярыю Радзівілаў.

Маці аслупянела, я адразу перастала плакаць. Наступіла хвілінная паўза, на бацькавым твары ўсё болей праступала радасць, матчын жа твар скамянеў.

— Ну? — падагнала іх пакаёўка. І, не чакаючы адказу, загадала кучару: — Падсадзі яе вунь туды! — рукой махнула на апошнюю карэту, дзе сядзелі кухар і прыбіральшчыцы посуду; на тварах іх была напісана цікаўнасць.

Высокі дужы мужчына лёгенька, як пёрка, падняў мяне і падсадзіў на прыступку карэты. Пані махнула хусцінкай, дзяўчынку — панну Гальшку — падсадзілі да маці, і ўвесь абоз заварушыўся, рыхтуючыся ехаць далей.

— Мамка! — адчайна закрычала я, кінулася да дзвярэй, але кухар перахапіў мяне, пасадзіў разам з жанчынамі, а Чмеліка згроб бацька, завагаўся — каму і куды аддаць яго? — але нейчыя рукі падхапілі майго Чмеліка, і карэты панеслі нас у невядомы свет, у новае жыццё, якое я не магла сабе тады нават уявіць…

* * *

Старыя ад часу і пагрызеныя мышамі паперы, што ляжалі на гарышчы хаты, якая цудам уцалела ад нямецкіх гармат, знайшоў маладзенькі пяхотны афіцэр. Афіцэра, гісторыка па прафесіі, мабілізавалі ў 1915 годзе, і цэлы тыдзень ён правёў у маёнтку, атуленым бэзам і язмінам, корпаўся ў паточаных шашалем шафах, дзе стаялі старадаўнія, у скураных і драўляных вокладках кнігі, і чхаў ад пылу, разбіраючы перавязаныя сатлелымі стужкамі запіскі, разглядаючы выцвілыя дагератыпы, адкуль раптам як выплывалі то чароўныя дзявочыя тварыкі, то абрысы вусатых мужчын. А пасля ўбачыў дробны, нервовы жаночы почырк, прачытаў першыя радкі — і захапіўся гісторыяй чужога жыцця. Ён чытаў пры святле лямпы, думаў, курыў, не ведаючы, што праз месяц і сам назаўсёды ляжа ў цёплую веснавую зямлю. Паперы ж, высланыя ім нявесце, ледзь не трапілі ў халодную грубку ў наступную вайну, але захаваліся і трапілі ў архіў.

…Кажуць, што чуйныя душы — ці то геннай памяццю продкаў, ці натхненнем, ці таямнічай здольнасцю пераадольваць звыклыя вымярэнні — вяртаюцца ў даўніну і, паміма ўласнага, пражываюць іншае, чужое жыццё, як сваё. Але, можа, тое жыццё таксама належала ім?

Дзяўчо, якое так нечакана падабралі паны па дарозе, доўга яшчэ служыла тэмай зайздросных размоў у невялікім сяльцы пад Нясвіжам, і нават у самім Нясвіжы, таму што пані Іллёва, якая ехала да пана Мікалая Радзівіла, каб параіцца з ім аб будучым сваёй адзінай дачкі Лізаветы, а заадно паглядзець рэзідэнцыю Радзівілаў, гэтага найбагацейшага ў Рэчы Паспалітай і Вялікім Княстве Літоўскім роду, па знатнасці амаль не ўступала каралевічу Жыгімонту Аўгусту. Усім было вядома, што была яна незаконнай дачкой старога караля, што сама каралева Бона любіла маладую прыгажуню і апекавалася над ёю. А каралева Бона была больш магутнай, чым яе сын. Маленькай дзяўчынцы, узятай у дом магутнай Беаты, належала цяпер быць у самым асяродку багацця і пышнасці найвялікшых вяльмож дзяржавы. Асуджалі нясвіжскія фундатары, прыдворныя Радзівілаў, пана Касцевіча, які проста так, як сабачку, аддаў дачку, але кожны з іх выдатна ведаў, што дайся такая магчымасць у рукі яму самому — не задумаўся б ні на хвіліну.

Між тым не толькі дзеля цікаўнасці ехала капрызлівая і спешчаная нявестка славутага Канстанціна з роду Астрожскіх у Нясвіж.

З таго часу як, не дачакаўшыся нараджэння адзінай дачкі, памёр сын Канстанціна Астрожскага — Ілля Астрожскі, — а яна засталася ўдавой, становішча яе было цяжкое. Не здатная да гаспадарлівасці, пані Беата даверылася сваёй радні па маці, і Касцялецкія, сквапна накінуўшыся на найбагацейшыя ў Вялікім Княстве Літоўскім землі і маёнткі, бессаромна абіралі іх. Удава, можа, і не надта б разабралася ў тым, спадзеючыся, што на яе век хопіць, але родзічы Астрожскіх, і найперш зводны брат Іллі, князь Канстанцін Васіль Астрожскі, не раз ужо звярталіся да караля са скаргай на ўдаву.

Была гэтая справа няпростай: магнаты Княства, абураныя няроўнасцю іх становішча ў параўнанні з польскімі панамі, — нягледзячы на прывілей 1447 года, што ўраўноўваў іх у правах, — пільна сачылі за ўсім, што тычыла іх інтарэсаў. Князь Васіль Астрожскі даводзіў да ведама караля, што адзіная пакуль спадчынніца славутага праваслаўнага роду выхоўваецца як каталічка, што гісторыя Княства падносіцца ёй скажона і што ўвогуле, нягледзячы на абяцаныя роўнасці, усё болей Княства падпадае пад уладу палякаў…

Кароль жа Жыгімонт Першы не хацеў надта ўказваць дачцэ і стараўся абмяжоўвацца толькі лістамі і ўшчуваннямі. І ўсё

ж нават лісты тыя крыўдзілі гордую пані, якая пачувала сябе няшчаснай і шукала дапамогі ў тых, хто не любіў караля, лічачы сябе вышэй за яго, — у Радзівілаў.

Маленькая Еўка ўпершыню была ў Нясвіжы, куды прыехала пані Беата. Упершыню яна трапіла ў багаты двор, у харомы, бачыла столькі народу.

Пакуль радзівілаўскія прыдворныя шапталіся, седзячы ў даволі цеснай яшчэ старой залі за багатымі сталамі і выкрыкваючы тосты ў гонар госці, а пані з зайздрасцю аглядалі нечуванай цаны перлы на высокай, асляпляльна белай шыі славутай прыгажуні Кароны, запаміналі, якія карункі аздабляюць чорную аксамітавую сукню госці і якой формы абцасы на яе пантофлях, маладая князёўна Гальшка ў суправаджэнні любімай нянькі Баркулабіхі, ці, як называлі яе прыдворныя Беаты, — панны Ганны, сабакі Чмеліка і дзяўчынкі Евы Касцевіч, гуляла па толькі што высаджаным парку. Некалькі вялізных, векапомных дубоў, што стаялі воддаль, не сталі высякаць, і яны высока ўздымалі магутныя вяршаліны, асветленыя ружовым, ужо сцішэлым к вечару сонцам.

— Ой, хто гэта? — пужліва раптам ускрыкнула Гальшка.

Панна Ганна, маладая яшчэ, вёрткая кабета гадоў пад сорак, зірнула ўверх і збялела: з галін бліжняга дуба тырчала наведзеная на іх страла. Нехта хаваўся за ствалом. Нянька скочыла да Гальшкі, закрыла яе ўсім целам і толькі адкрыла рот у спалоханым крыку, як зверху раздаўся смех, хлапчук гадоў дванаццаці высунуўся адтуль, адвёўшы руку з лукам далёка ад сябе:

— Ды я не ў вас цэліўся, а вунь у яго!

Чмелік брынкліва загаўкаў, нібы зразумеў, што гаворка ішла пра яго. Баркулабіха, якая спачатку, відаць, хацела паклікаць стражнікаў, загневана затрэсла кулакамі, затупала нагамі:

— Ах, лотр, паганец, уздумаў жартаваць! Ды ты ведаеш, хто гэта? Ды цябе вось тут разам з тваімі бацькамі трэба за горла сцяць*!

— Спачатку злавіце мяне! — дзёрзка адказаў той зверху, рыхтуючыся ўцячы.

— І зловім, хлоп няшчасны! — усё крычала Баркулабіха. — Дзіця спалохаў!

— Зусім не спалохаў! — раптам уступілася за хлапчука князёўна Гальшка. — Хачу паглядзець на тое, што ў ягоных руках!

---

* Сцяць за горла — пакараць смерцю.

— Гэта лук, — сказала Еўка.

— Вось і я хачу паглядзець — як з яго страляюць? — настойвала Гальшка.

— Мая кветачка, гэта не жаночая справа! — спрабавала ўгаворваць яе нянька, але, убачыўшы, што хлопчык ужо спусціўся на ніжні сук і гайдаецца на адной руцэ, спрабуючы скокнуць уніз, закрычала:

— Куды, хлоп? Ідзі сюды, бачыш, хочуць твой лук паглядзець?

— Я не хлоп, — з годнасцю сказаў хлапчук. — Калі папросіце — пакажу ёй, як страляюць.

— Яна папросіць, — сказала Гальшка. — Я так хачу!

Баркулабіха незадаволена буркнула сабе пад нос, а ўслых сказала:

— Табе прасіць не належыць. Толькі скажы слова — і стражнікі схопяць яго, і ён будзе выць, катаючыся ля тваіх ног.

Дзяўчынка Еўка са шкадаваннем глядзела на хлопчыка. Вусны яе нібыта самі варухнуліся, калі яна зашаптала:

— Ён харошы хлопец, вунь Чмелік замаўчаў. Пашкадуй яго, панна!

І Гальшка, якая на імгненне задумалася, засмяялася, бачачы, што Чмелік, падбегшы да хлопца, стаў вырабляць перад тым свае звыклыя каленцы і штукі.

Калі ж з таго лука, што трымала ў руках Гальшка і які даў хлопец (ён назваўся Марцінам і быў сынам аднаго з прыдворных шляхцічаў), падстрэлілі варону, захапленню Гальшкі не было канца. Яна нават хацела зняць са свайго мезенца залаты з чырвоным каменьчыкам пярсцёнак і падарыць Марціну, але тут нянька праявіла цвёрдасць і пагразілася сказаць маці.

А Еўка тым часам, спрытна памагаючы сабе рукамі і нагамі, узлезла на дуб і ўскараскалася высока. Заўважылі яе тады, калі, гледзячы на шырокія палі, што рассцілаліся ўдалечыні, на стары замак і новую браму з чырвонаю чарапіцай, яна закрычала, загалёкала на ўсю моц свайго дзіцячага захаплення. Прыбеглі стражнікі і малую князёўну адвялі ў замак. А Еўку чакаў і дачакаўся не толькі Чмелік, але і хлопец з лукам. Ён адразу ж папрасіў паказаць сабачыя штукі, каб навучыць таму бацькавых ганчакоў.

— Ведаеш, бацька ў мяне, калі п’яны, надта добры. Дае пенязі і аднойчы нават даў паўгрош. А за тыя штукі дасць яшчэ болей.

— А ты што, збіраешся купляць маёнтак? — насмешліва скрывілася Еўка.

— Не, я хачу вучыцца, — проста сказаў хлопец. — Але бацька нізавошта не пашле на вучобу. Ён ужо прыгледзеў мне багатую нявесту і круціцца там — з палявання ім розныя дарункі прывозіць… А я хачу ва ўніверсітэт, адтуль толькі што браты Пялесцічы прыехалі, і Войцік-старшы вучыцца ў Кракаве. А фундатарчык Хруцкі недзе ў Падуі, у Влохіі…

Праз колькі дзён карэта пакаціла далей, у Астрог, на Валынь, дзе быў радавы замак князёў Астрожскіх і дзе Еўцы належала жыць, прыслужваць маладой князёўне, урыўкамі вучыцца грамаце і, падпарадкоўваючыся капрызу Гальшкі, сядзець у пакоі разам з Чмелікам, пакуль будуць ісці заняткі. Еўка аказалася надзвычай здольнай, і пані Беата, звярнуўшы на тое ўвагу, загадала вучыць яе іншамоўным граматам, каб змагла яна чытаць князёўне не толькі пераклады, але і кнігі, што прывозілі купцы з-за мяжы. Тады ж неяк сказала пані, а Баркулабіха многа разоў гаварыла тое Еўцы, нібыта ўпіхвала ў галаву, што ніколі не дазволяць маладой Касцевічуўне выйсці замуж і мець сям'ю, бо хочуць, каб яна служыла ўсё жыццё толькі Гальшцы… З той умовай і быў адпраўлены ліст да бацькоў Еўкі. Ваяр Касцевіч даў сваю згоду, а таксама прыслаў Еўцы бацькоўскі наказ служыць аддана і верна магутнай гаспадыні. «Мецьмеш ежу і апратку, — пісаў ён, — і ніколі не будзеш думаць, чым карміць дзяцей і халопаў, так, як думаем мы з маці, — а ўсё праз яе няшчасную слабасць, яе каханне». Еўка прыняла гэты загад як бы праз сон, не надта задумваючыся, што ён мяняе ў жыцці. Праўда, запомніўся, а пасля многа разоў перадумваўся сказ у лісце: «Невымоўне плакала твая маці, а май малжонка Марта, ды вы, бабы, дурныя былі і будзеце заўсёды…»

Ішлі гады. Еўка рабілася дарослаю дзяўчынай, а Баркулабіха старэла і ўсё болей раздражнялася з-за любой драбязы. Жылі яны ў адным пакоі, абедзве лічыліся найбольш праблiжанымі асобамі пры маладой князёўне, але асноўныя капрызы і прыхамаці Гальшкі даставаліся Еўцы, а не Баркулабісе, якой Гальшка пабойвалася, і не камерыстцы Марыльцы, бацька якой, нямецкі лекар Гартман, увайшоў у вялікі давер да Беаты.

Часта наязджаў у Астрог і малады легкадумны князь Васіль Канстанцін. Прыязджаў з гуртам гэткіх жа гаманкіх, цікаўных і трохі развязных, як заўсёды ў доме, дзе няма гаспадара, рыцараў.

Пані Беата моршчылася, але мусіла прымаць сваяка і гасцей. Васіль Канстанцін гаспадарскім вокам аглядаў замак і браму, за сталом многа еў, сыпаў жартамі, а маладыя рыцары аглушальна рагаталі, не зводзячы вачэй з пані Гальшкі ды з князя.

— Гэта ўсё з-за цябе, мая кветачка! — з жартаўлівым дакорам казала Баркулабіха. — Кожны пнецца за жаніха. Яшчэ б — такое багацце! Людзі розум губляюць з-за золата гэтага, а тут яшчэ і прыгажуня ў прыдачу. Заскачаш, ого як заскачаш!

— Я сам выберу табе жаніха, пляменніца! — аднойчы, седзячы адзін з жанчынамі за сямейнай вячэрай, урачыста паабяцаў Васіль Канстанцін.

— Толькі ці будзе ён даспадобы тваёй матулі, — кпліва падхапіла Беата, — а значыць, і табе самой?..

— Як скажа матуля, так і будзе, — прашаптала Гальшка, апусціўшы вочы. Худзенькая, бледная, яна толькі выцягвалася з падлетка ў дзяўчыну, і дарагія ўборы, белая жамчужная сетка на русай галоўцы нібы падкрэслівалі яе кволасць.

Сярод маладых рыцараў найбольшую ўвагу князю Васілю Канстанціну аддаваў Змітрок Сангушка. Сам вядомага роду, ён, на думку Баркулабіхі, найбольш падыходзіў Гальшцы.

— Але пані марыць аб некім з Кароны! — неяк з гневам, не ўтрымаўшыся, сказала яна Еўцы. — Нашы русінскія землі хоча згамаваць і род Астрожскіх, слаўных рыцараў Белай Русі і Валыні, акаталічыць! Пойдзе Гальшка за каталіка з Польшчы — дзед у труне перавернецца!

Спрэчкі паміж сваякамі рабіліся ўсё болей адкрытымі, жорсткімі, і аднойчы Беата, ускочыўшы, паказала рукой на дзверы:

— Вон адсюль! Сама вырашу, каго ў зяці браць!

— Гэта тваё апошняе слова, пані? — пабялелы Васіль Канстанцін таксама падняўся. А калі яна яшчэ раз закрычала на яго, ён паволі пайшоў прэч, не азіраючыся. Пагроза была ва ўсёй яго постаці, у ягонай хадзе. У Еўкі чамусьці закалацілася сэрца.

Праз тыдзень, пад аховай рыцараў і войска, ён узламаў замкі на браме і, уварваўшыся ў замак, сілком абвянчаў пляменніцу са Змітраком Сангушкам, паклаўшы тым пачатак вялікай смуце ў абедзвюх дзяржавах.

Увечары маладыя выехалі з Астрога — далей ад раз’юшанай Беаты, ад паноў-рады, ад самога караля. Іскрыўся на сонцы снег, сінія цені ляжалі над агароджамі хат, сытыя коні лёгка неслі карэту па ўезджанай дарозе. Бомы былі закручаны пасмамі лёну — тыя, хто ехалі, не хацелі надта абзывацца. Але ўсё роўна

іх абоз выклікаў цікаўнасць. Коннікі ў каляровых кунтушах-каптанах, у калтрышовых — суконных — плашчах, з багатымі кордамі ля пояса, у добрых панцэрах, — а едуць хутка, нібыта збродні, і ззаду вoі з гакоўніцамі раз-пораз азіраюцца, нібыта за імі хто гоніцца.

Змітрок Сангушка ехаў побач з карэтай, зазіраў у акенца. Апранутая ў хлапечы ўбор, з косамі, схаванымі пад калматай шапкай з вавёрчыных шкурак, у цёмным плашчы, сядзела ў карэце Гальшка, падобная да танклявага, трохі спалоханага падлетка. Побач з ёю, раз-пораз накрываючы ёй ногі, ахінаючы іх мядзведжай запонай, круцілася і нешта мармытала сабе пад нос нянька Баркулабіха.

— Паны зацныя*, а лупежствам займаюцца, — можна было пачуць скрозь няўхільнае рыпенне снегу і тупат коней. — Замак аблеглі, дзеўчыну аблаклі, як хлопца, што дзеецца!

Еўка сядзела насупраць, і радаснае нецярпенне ў душы змешвалася з неспакоем. Яна не думала аб тым, чым жа гэта скончыцца, чула толькі маладую радасць жыцця, шчымлівасць, надзею, што нешта зменіцца ў суровым яе жыцці, падначаленым капрызлівай і злапомнай пані Беаце.

Малады князь радасна ўсміхаўся. Відаць, і яму перадалася светлая настраёвасць марознага дня, поўнага свежасці некранутага, — нягледзячы на тое, што ішоў канец просінца**, — снегу, маладое бушаванне крыві, даўно задуманая надзея атрымаць жаданую нявесту. Ён, нібыта забыўшыся на ўсё, гарцаваў перад вазком, усміхаўся маладой дзяўчыне, а яна, спачатку насупленая, спалоханая, нясмелая, паступова адтайвала. А можа, ёй перадаваўся настрой Еўкі, можа, у рэшце рэшт, таксама нечакана палягчэла ўдалечыні ад суровай маці? Як бы то ні было, але і на яе твары, ледзь бачная, запраменілася ўсмешка, і яна пачала часцей выглядаць з карэты, а пад канец дня, стаміўшыся, папрасілася з цеснага вазка і ішла спачатку ля карэты павольным крокам, а пасля, як бы раздражнёная Еўкай, пабегла за ёю, дурасліва спрабуючы схапіць снежку і няўмела кінуць услед.

Князь Змітрок падскочыў да яе, працягнуў руку:

— Сядзьце на каня, панна Гальшка, адсюль відней!

Яна імгненне глядзела на яго знізу ўверх, паволі пахітала галавой, нясмела развяла рукамі і раптам, нібы спалохаўшы-

* Зацны — паважаны (тут і далей старабеларускае, іншыя з указаннем мовы).

** Просінец — месяц люты.

ся, зноў юркнула ў карэту. Задыханая Еўка тады прыбегла, з размаху села насупраць, і яны абедзве раптам заліліся смехам. Толькі Баркулабіха, не зважаючы на сонца, на чырванагрудых снегіроў, на ўвесь настрой маладога нецярпення, які панаваў вакол, бурчала сабе пад нос безупынку:

— Дай Пане Божа, каб налога* гэтая дабром скончылася, каб дзіця маё не мела гора!

Пад вечар пад'ехалі да Німбурга ў Чэхіі.

Змяркалася, калі коні супыніліся каля карчмы Мысліка, самай багатай у горадзе. Маладыя шляхцічы Вялікага Княства Літоўскага, адпраўляючыся за мяжу, заўсёды спыняліся тут, і таму карчомшчык добра разумеў мову беларусінаў, умеў гатаваць любімыя тамтэйшымі людзьмі стравы і меў музыканта, які спяваў іхнія песні. Прыезд маладога магната з прыгажуняй жонкай, якая таксама належала да найслаўнейшых родаў Княства і была адной з самых багатых нявест у Рэчы Паспалітай, падняў на ногі ўвесь гарадок. Пакуль карчомшчык разам з жонкай і сямейнымі рыхтаваў пакоі, рэзаў куранят і смажыў дзічыну, каля варот сабралася багата народу, які хацеў убачыць маладых людзей.

Еўка разам з Баркулабіхай і Марылькай пераапранула Гальшку, тая адразу ж прылегла на разьбяным шырокім ложку, раскінуўшы рукі. Каганцы цьмяна гарэлі, смуродзіла гарай.

— Учадзець можна тут! — моршчыла нос Марылька.

Еўка памыла твар, прычасалася, пырснула на сябе вадой, абтрэсла з сукні конскую поўсць і спусцілася ўніз.

Каля стала, адведзенага для прыезджых, ужо мітусіліся слугі, накрываючы іх абрусамі, ставячы алавяныя талеры, відэльцы і кубкі. Тут жа з важным выглядам стаяў Пятрок — лоўчы князя Змітрака, сачыў адным вокам за тым, як непадалёк, у ачагу, скварчэлі патэльні са смажанінай, на ражнах тырчалі ўкормленыя тушкі качак, шчодра абсыпаныя перцам і сушанай зелянінай.

Хаця наўрад ці хто з прысутных задумваў супраць маладых нешта зламыснае, але ледзь не сорак гадоў панавання каралевы Боны зрабілі сваё: тыя, хто мог баяцца за сябе, у чужых мясцінах елі з перасцярогай. Вядома было, як пры двары пазбаўляліся ад непажаданых людзей, як атрута дапамагала там, дзе не дапамагала золата. Смерць магла прыйсці нечакана, нельга было ведаць загадзя, дзе шукаць перасцярогі. Сама каралева Барбара не пазбегла гневу Боны, і дарэмна шукалі Радзівілы, падкупляючы

---

* Налога — здарэнне.

людзей, нейкія доказы віны каралевы — усё было пад поўным покрывам таемнасці і вонкавай прыстойнасці.

Чужаземныя тыя звычаі прынесла ў Княства і Польшчу жанчына з роду Сфорцаў. Нечаканы ўдар мяча ў цемнаце, нож у спіну, атрута ў духмяных пальчатках ці сукнях, падораных пры ўсіх… Сам кароль Сігізмунд Аўгуст баяўся маці, асабліва пасля смерці другой жонкі. Ненавідзеў яе. А некалі, у ранняй маладосці, лічыў найразумнейшай і найпрыгажэйшай жанчынай на зямлі, клапатлівай маці, памяркоўнай гасударыняй. Праўда, прыхільнікі каралевы Боны шапталіся, што яшчэ з часоў Ягайлы і Ядвігі на стол у спецыяльным футарале ставіўся цмокавы язык супраць труцізны, але ўсе сыходзіліся ў адным — што ніколі боязь быць атручаным у застоллі не была такой моцнай, як у сёлетнія часы.

Пятрок з асаблівай радасцю прывітаў Еўку — яшчэ з даўніх наездаў князя ў замак прыглянулася яму ружавашчокая, з глыбокім поглядам цёмна-сініх вачэй і доўгай русявай касой дзяўчына. Еўка адказала на прывітанне стрымана. Падышла, паставіла на стол вялікую талерку з цукеркамі, якія ўзялі з сабой з замка. Астрожскі аптэкар Вол Фларыянчык гатаваў іх адменна: з цукру і цынамону, дадаючы райскіх зярнятак і індыйскага перцу, а зверху абгортваў пазалочанымі паперкамі. Еўка паставіла на стол і драўляны гарнец з павідлам — ад яго пранёсся вакол свежы пах імбіру. Цукеркі былі нябачаным ласункам і каштавалі надзвычай дорага.

Тым часам слугі ставілі на стол шкляныя келіхі і драўляныя бочачкі з прасяным півам, місы з рыбай і кашамі — прасянымі, ячменнымі, а таксама дарагі заморскі ласунак — рыс. Маладыя людзі засяроджана глядзелі, што і як з’яўлялася на стале.

Але калі Еўка дастала са скуранога футарала, што вісеў на руцэ, маленькі сярэбраны кубачак з лісцем і зморшчанымі, ссохлымі кветамі ды наклала каля адной з міс, Пятрок весела засмяяўся:

— Гэта ў цябе орлік паспаліты*? Весела, відаць, вам жывецца, калі так баіцеся атруціцца! З нашым князем будзе лепей!

— Кажуць, ён у вас вельмі вясёлы, — заўважыла Еўка. — Дзяўчат ды маладзіц любіць аж занадта.

---

* Цмокавы язык (linguae draconum), орлік паспаліты — расліна Ophiafossum wulgatum.

— А хто іх не любіць! — хітра глянуў Пятрок. — Прыгожая паненка адразу жыццё святлейшым робіць. Вось ты падышла — і нават агонь большым стаў, аж у каміне загудзела.

— Гэта ад таго, што я вядзьмарка, — сур’ёзна адказала Еўка. — Хочаш, я махну рукой — і пакажу табе нячысціка? Вунь ён — сядзіць на кафлях.

Пятрок спалохана переражагнаўся, потым дакорліва паківаў галавой:

— Так не жартуюць, паненка. Хаця кабеты, кажуць, і звязаны з нячыстай сілай, але хай лепей пра гэта не кажуць. Так яно спакайней.

— Спалохаўся! — Еўка ўсміхнулася куточкамі вуснаў, таксама перахрысцілася.

— Бачыш? Хрышчоная я і зла табе не прынясу, не бойся.

Пятрок, які адышоў ад сполаху, пажартаваў:

— Калі станеш маёй жонкай, яшчэ як прынясеш!

— О, не спадзявайся, пан лоўчы, я за такога калматага ніколі не пайду!

— А я схаджу ў пастрыгальную камору, заўтра з раніцы. Тады ваша мосць інача й на мяне гляне!

Еўка, сышоўшы ўніз пахмурнай і суровай, адчула радасць. Разгаварыў-такі яе гэты хлопец, вясёлы і бесклапотны. І яна, непрыкметна для сябе, загаманіла з ім, смеючыся ягоным жарцікам, і хаця і не думала адказваць на ягоныя залёты, размаўляла з ім прыязна, як са сваім. Не шмат пры двары пані Беаты было маладых людзей, а тыя, што прыязджалі на агледзіны, трымалі сябе з прыдворнымі жанчынамі часам нахабна, часам нясмела. Зацныя паны ўвогуле праходзілі міма, як бы і не бачылі яе. Толькі даведаўшыся, што маладая Гальшка мае асаблівую схільнасць да сваёй чытальніцы, спрабавалі дарыць падарункі. Але вочы іх святлелі толькі пры выглядзе дваровых паненак — легкадумныя тыя панны дзень і ноч гаварылі пра ўборы, пра выгодных жаніхоў і гатовыя былі на залёты і каханне ў любы момант. Еўка ж знешне магла здацца непрыгожай. Густыя бровы, калі дзяўчына хмурылася, надавалі ёй суровы і непрыступны выгляд, а бледны твар, калі была раздражнёнаю ці адчувала сябе няўтульна і адзінока, здавалася, блякнуў, як выцвітаў, вусны рабіліся сухімі, сціскаліся ў вузкую, рашучую палоску. Затое калі ёй было весела, калі душа яе раскрывалася для дабра і справядлівасці, асабліва калі яна смяялася — Еўка была надзвычай прывабнай.

Ад душы рассмяяўшыся нейкаму жарту Петрака, дзяўчына раптам заўважыла, што з кута, дзе за сталом сядзелі падарожныя, за ёю сочаць. Незнаёмы юнак у берэце, з вусамі і барадой клінком, у італьянскім адзенні з вялікім карункавым каўняром, сядзеў за сталом, глядзеў на іх. Вочы яго не адрываліся ад Еўкі і тады, калі, нахмурыўшыся, яна пайшла ўверх на прыступках. Не вытрымала, азірнулася. Злавіўшы ўпарты позірк, засаромелася, хуценька, падабраўшы сукню, патупала ў пакой да Гальшкі.

Тая ўсё ляжала, бяссільна раскінуўшы рукі. На бледным твары праступіў румянак.

— Яго мосць унізе? О, няма сіл падняцца!

— Вячэраць ужо збіраюцца, — ціхенька адказала Еўка, села ў куце, задумалася.

Пакуль Баркулабіха і Марылька апраналі Гальшку, а тая піла адвар зёлак, каб сабрацца з сіламі, Еўка маўчала. Яна ўяўляла сабе твар незнаёмца. Здавалася, што яна недзе бачыла яго. Але дзе? Еўка ўспамінала ўсіх, хто прыязджаў да іх у Астрог, а таксама падарожных, што зазіралі ў замак. Многія з іх апраналіся па-італьянску, былі аматары чэшскіх, нават турэцкіх убораў, многія насілі такія вось бародкі. Агонь каганцоў і каміна мог наблытаць рысы незнаёмца. Яна вырашыла непрыкметна разгледзець маладога падарожнага. Апрануты ён быў па-італьянску, але нешта — у паставе, у манерах — здавалася свойскім, дый чужаземцы спыняліся тут радзей, чым выхадцы з Рэчы Паспалітай. Можа, гэта быў нехта са студэнтаў, якіх многа выязджала ў Чэхію і Італію, у Кракаў ці Падую.

Унізе зайграла флейта, паволі і жалобна, пачуліся галасы, крокі. У дзверы пастукалі. Прыйшоў час вячэраць.

Жанчыны пайшлі ўніз. Першая ішла Баркулабіха. Крэкчучы і вохкаючы, спускалася яна па прыступках, выціраючы спацелы лоб насоўкай.

Але ўсе вочы былі накіраваны на Гальшку. Калі яна, у чырвонай фалендышовай сукні, абшытай серабрыстымі кантамі, з бялюткай празрыстай наміткай, якая нібы абвявала твар, у чырвоных чаравічках выступіла з-за нянькі, усе, хто сабраўся ўнізе, сустрэлі яе воклічамі захаплення і прывітаннямі. Чорныя вочы дзяўчыны здаваліся агромністымі, тонкія высокія бровы надавалі ёй трохі здзіўлены выгляд, а твар нібы свяціўся.

— Слічная маладзіца! — чуліся галасы ўнізе. — Хай Нябесная Панна ім паможа!

Малады князь падышоў да яе, падаў руку, павёў да стала. Вячэра пачалася. Еўка, нянька і Марылька елі за асобным сталом. Там жа сядзелі і воіны князя.

Еўка раз-пораз азіралася на незнаёмца. Ён таксама глядзеў на яе, часам усміхаўся.

Калі за сталом стала шумна і жанчыны падняліся, каб зноў ісці наверх, каля самых прыступак да Еўкі падышоў незнаёмец.

— Панна зусім не помніць Нясвіж і тое дрэва, дзе яна так лоўка гойдалася? — запытаўся ён.

Еўка некалькі імгненняў узіралася ў яго, пасля ўскрыкнула:

— Марцін? — І папpавілася: — Пан Марцін? Адкуль вы тут? І як… як вы пазналі мяне?

— Спачатку не пазнаў, — прызнаўся ён. — Але ж калі ўсе гавораць пра тое, як князь Сангушка прылашчыў маладую Гальшку, то няцяжка ўспомніць, як некалі я вучыў яе страляць з лука. А гледзячы на вашу мосць, можна было і ўспомніць, як мы з вамі лезлі на той дуб і не хацелі саступіць адно аднаму. Вы ўсё такая ж упартая?

— А вы ўсё такі ж смелы?

— Не, — прызнаўся Марцін, апускаючы вочы. — Цяпер мне і ў галаву не прыйдзе падыходзіць да вашай пані. Хаця я і з нобіляў, але занадта высока стаіць яе мосць. Праўда, я мог сказаць на гэта, што людзі роўныя, Бог стварае іх аднолькавымі, і толькі лёс распараджаецца, каб адзін быў у золаце і раскошы, а другі — ледзь валачыў ногі. Нашы паны не зважаюць на халопаў, лічаць іх за скаціну. Але час правучыць іх, час усё перайначыць…

Ён асекся, прымушана засмяяўся.

— Што я тлумлю вам галаву! Я рады, што ўбачыў вас, вы так пахарашэлі…

Еўка азірнулася навокал. У карчме было дымна ад каганцоў, разгарачаныя людзі нешта гаварылі, стукалі кулакамі па стале. Цяпер, калі ў зале не было маладой Гальшкі, там стала як свабадней.

— Што, калі мы з вамі пагуляем па двары? — прапанаваў Марцін. — Возьмем і вашу дзяўчыну, каб не было размоў.

Еўка няўпэўнена пацiснула плячыма, азірнулася.

— Не, мне належыць усыпіць панну, — прашаптала яна. — Яна любіць, каб я на ноч чытала што-небудзь.

— Вы ведаеце грамату? — здзівіўся Марцін.

— Я чытаю на лаціне, на мове беларусінскай і на польскай, апроч таго, на нямецкай, — з гонарам адказала Еўка. — Зараз мы чытаем «Аповесць аб Троі», а раней — «Александрыю».

Марцін паглядзеў на яе з захапленнем.

— Дык вы і сюды ўзялі кнігі? — здзівіўся ён.

— Канешне. Кожны вечар я чытаю паненцы. Ой, — спахапілася Еўка, — яна ж, мусіць, чакае мяне!

Але Марцін ветліва, ды настойліва дамагаўся, каб яна, пасля таго як засне гаспадыня, выйшла ў агульную залу. Ён прасіў расказаць хаця трохі, што дзеецца ў Княстве, гаварыў аб тым, што засумаваў па роднай зямлі. І Еўка згадзілася, паставіла, праўда, умову, каб Марылька неадменна была з імі.

На тым і пагадзіліся.

Баркулабіха, якая ўжо распранула Гальшку, сустрэла Еўку папрокамі:

— Што — пробу крычу — замуж хачу?

— Які там замуж, панна Ганна! — макам пыхнула Еўка. — Знаёмы сустрэўся. Мусіць, і панна помніць: у Нясвіжы, калі вы мяне толькі ўзялі ў двор, я палезла на дуб, ледзь не зляцела? А ён вас вучыў страляць…

— Помню! — засмяялася Гальшка, — Але быў хлоп, а тут слынны пан, вучоны.

Еўка пачала расказваць тое нямногае, аб чым перагаварыла за кароткія хвіліны. Села, разгарнула «Трою».

— Пачытай мне лепей вершы, на памяць, — раптам запатрабавала Гальшка. — Ну, тыя, влошскага паэта, пра Лауру…

— Табе б, мая кветачка, паспаць лепей. Куды і як заўтра паскачаце? Невядома, куды ён пацягне цябе, маладзенчык гэткі! — загаварыла Баркулабіха.

— Маўчы, ён муж мне цяпер! — строга сказала Гальшка.

Ёй відавочна не спалася. Абапёршыся худзенькімі рукамі на вялікую падушку, яна думала пра нешта, і то спалоханая, то злагаднелая усмешка блукала на вуснах маладой жанчыны.

— Хоць бы морам плыць, абы ў хаце не быць! — не супакойвалася Баркулабіха. А калі Еўка, прачытаўшы колькі вершаў, ціха паклала кніжку і, пашаптаўшыся з Марылькай, хацела выслізнуць з пакоя, яна зноў узбурылася:

— Глядзі мне! Відна па вочках, хто ходзіць па ночках. Не па сабе не сячы дрэва. А то будзе: «абвёў вакол елі, і чэрці ім пелі».

— Я ж не адна, а з Марылькай! — баранілася Еўка. — І ненадоўга — распытаць, як і што. Яе мосць мне дазволіць, так жа?

— Няхай! — слаба махнула рукой Гальшка. — Доўга толькі не будзь. І Баркулабіха няхай з вамі сыдзе, прыгледзіць. Стамілася я ад вас.

— От, не мела клопату, — сварылася, спускаючыся ўніз за дзяўчатамі, нянька. — Няхай будзе з грэчкі мак, калі баба хоча так!

Марцін чакаў, седзячы непадалёку ад лесвіцы. Устаў, пайшоў насустрач жанкам, пасадзіў ля стала. Папрасіў для дзяўчат па куфлю мядовай вады, а няньцы ўзяў журу — аўсянага кісялю.

У вялікай залі было шумна і тлумна. Іграла флейта, гаманілі і спрачаліся мужчыны, паклаўшы побач шапкі-магеркі, капелюшы, а хто сядзеў у берэце, як Марцін. Малады хлопец, амаль падлетак, падышоў да Марціна, пакланіўся жанчынам, нешта сказаў на вуха.

— А гэта таксама ліцвін, наш, лепельскі, Васіль Цяпінскі, — паказаў на яго Марцін. — Ездзіў у Оксфард, у тутэйшы ўніверсітэт. Не прынялі, хаця для нашых студэнтаў там адкрыты алюмнат*. Малы яшчэ. Падрасце, паедзе зноўку.

Еўка прысела, схіліўшы галаву. Юнак пачырванеў, сказаў басам:

— Нікуды я ўжо не паеду. І тут можна вывучыцца. А то ходзяць там, нібы аршын праглынулі… І яда як у мышэй… Не ўбачыш кавалак…

Кіўнуў галавой на развітанне, пайшоў. Марцін праводзіў хлопца позіркам, сказаў пачціва:

— Малады, а разважае як! Пра народ наш, пра лёс Княства. Гібее яно, паны-рада толькі пра маёмасць і ўласную славу дбаюць, не думаючы, што далей будзе. Але калі такія ў нас хлопцы растуць — мо не згінем!

— Яно-то праўда, што чалавек невучоны — як тапор нетачоны, — уздыхнула Баркулабіха. — Але калі ты нас сюды запрасіў, каб пра навуку разважаць, то гэта і сапраўды з ёю, — яна паказала на Еўку, — лепей будзе. Я адзін толькі Псалтыр ведаю — праўда, затое ад дошкі да дошкі.

— А скуль жа ў вас Псалтыр той? Ці не доктарам Скарынам друкаваны?

— Не ведаю, Псалтыр жа ад бацькі дастаўся, — прызналася Баркулабіха. — Бацька мой дужа грамаце быў навучаны і браты мае — усе ў доме. Мы ж са старадаўняй шляхты. І кніг у нас у доме было шмат, і дарагія яны, — што праўда, то праўда.

---

* Такія алюмнаты — накшталт інтэрнатаў — былі адкрыты ў Гэйдэльбергу, Кёнігсбергу, Берліне, Лейдэне, Оксфардзе.

— Цяпер, калі наш Скарына бітыя* кнігі пачаў выдаваць, яны намнога таннейшыя! — горача сказаў Марцін. — Я, калі ехаў праз Прагу, на яго магіле пабываў, і каралеўскі батанічны сад, дзе ён працаваў апошнім часам, наведаў. Ён жа ў брата пані Беаты служыў.

І ён пачаў расказваць пра Скарыну, пра друкарні і жыццё ў еўрапейскіх універсітэтах, асабліва ў Лейдэне, дзе пражыў колькі гадоў, дзякуючы стыпендыі Радзівілаў. Меўся вяртацца на радзіму і працаваць у Нясвіжы альбо Лоску, гаварыў пра антытрынітарыяў і кальвіністаў, пра падрабязнасці іх богаслужэнняў.

Гаварыў Марцін з захапленнем, маляўніча і жыва апісваючы розныя падзеі, часам гумарыстычныя. І трэба сказаць, што ўсе тры жанчыны, нават легкадумная Марылька, слухалі з цікавасцю. Еўка радавалася, што вочы хлопца найчасцей спыняліся на ёй, і, хаця апускала погляд, усё ж крадком цікавала за Марцінам. Як ён свабодна трымаецца, як паводзіць сябе — з годнасцю, але спакойна, як быццам не тры кплівыя і спешчаныя абыходжаннем са знатнымі і зацнымі людзьмі жанчыны перад ім, а субяседнікі. Еўка падумала пра тое, што Марцін па знешнасці не надта ўступае і самому Сангушку, і гэтая думка прымусіла ўсё ў ёй затрапятаць. І сапраўды, не толькі вялікія грошы робяць чалавекам, але і талент. Ды і князь болей любіць ловы, танцы і вясёлыя вячэры, чымся навуку. Толькі сёння раніцай ён здаваўся сапраўдным рыцарам, а цяпер нібы пацьмянеў! І яна ўсё не магла справіцца з гарачай хваляй шчасця, якая як залівала яе…

— А можа, пойдзем пагуляем па двары? — прапанавала яна, калі гаворка трохі змоўкла.

— Не, у мяне косці ныюць, — цяжка падымаючыся, сказала Баркулабіха. — А вам, паненкі, можна трохі і прагуляцца з такім зацным чалавекам. Толькі нядоўга! — літасціва дазволіла яна.

Яны выйшлі з карчмы, ціха пайшлі па вуліцы. Над вастраверхімі дамкамі паволі плыла журботная, празрыстая поўня, лёгкія цені скакалі наперадзе — там, дзе вуліца злівалася з цемрай. Прыветна чырванела ў хатах святло, у вокнах было шмат людзей, дзе-нідзе агеньчыкі свечак выхоплівалі з цемры постаці жанчын, што сядзелі разам і пралі альбо сукалі кудзелю.

— Зусім як у нас, — уздыхнула Марылька. — А мы ляцім некуды на злом галавы, замест таго каб быць дома!

Еўка ведала — да Марылькі надоечы сватаўся сын скарбніка, малады Яська, і лекар даў згоду. Але, нягледзячы на заручыны,

* Бітыя — друкаваныя.

Гальшка захацела, каб Марылька ехала — і застаўся самотным Яська, баючыся, што не дачакаецца цяпер з далёкіх краёў нарачонай… Сама Еўка паехала ахвотна: надта апрыкрала ёй капрызная, непастаянная ў пачуццях, жорсткая ў нялітасці пані Беата. І зараз, нягледзячы на няўпэўненасць і недавер да лёсу, яна адчувала незвычайную лёгкасць і замілаванне да ўсяго — да прыветных агеньчыкаў хат, да блакітнай лёгкасці снегу пад жаўтлявым святлом поўні, а галоўнае — радасць ад таго, што лёс так нечакана падарыў гэткую сустрэчу. Яна верыла, што сустрэліся яны недарэмна, і сэрца захлыналася ад светлай, якая бывае толькі ў маладосці, веры, што наперадзе чакае лепшае, што шчасце не абміне…

А знешне ўсё было спакойна, толькі ў Марціна чамусьці дрыжаў голас, калі, расказваючы пра свае падарожжы, глядзеў на Еўку, — а можа, гэта толькі здавалася?

Яны ішлі і ішлі, пакуль Марылька, спахапіўшыся, не прымусіла павярнуць назад.

Калі вярнуліся да пакояў, дзе спала Гальшка, Баркулабіха сустрэла іх сярдзітым шэптам:

— Во, калі добра, то хоча яшчэ лепш! Панна зазлавалася, што адпусціла вас, козы!

І не ўтрымалася, упікнула-такі Еўку:

— Ой, глядзі, дзеўчына! Лепш сваё лычка, як чужы раменьчык! Не забівай надта галавы, пашкадуй сваё сэрца! Замуж табе заказана!

Але Еўка не слухала буркатання старой. Хуценька скінуўшы заечае футэрка, цяжкую сукню, мышкай шмыгнула ў ложак. Але заснула не хутка: усё бачыўся ёй малады, адкрыты Марцінаў твар, яго русявыя валасы, тонкія абрысы твару. Рукі ў яго, праўда, трохі мужыцкія, вялікія, цяжкія, але затое пальцы тонкія, доўгія. Яна ўспомніла, як паслізнулася, а рука ягоная падтрымала яе — моцна, надзейна. Уся аблілася чырванню — і нечакана моцна заснула.

Раніцай паехалі далей. Яна ўжо не ўбачыла Марціна, і ўвесь настрой згаснуў. Няўжо ён праспаў іх выезд? Не так рана і выязджалі, чакалі, пакуль устане Гальшка. Той нездаровілася, яна кідалася на ложку, і лекар з мястэчка паіў яе нейкімі зёлкамі. Дзень пачынаўся хмурны, неба нізка навісла над зямлёю, церусіў дробны снег.

У дарозе Гальшцы зрабілася зусім блага, і вырашылі далёка не ехаць. Спыніліся непадалёку ад Німбурга, у Лысе. Карчомка была тут меншая, бяднейшая, але чысценькая і вясёлая.

Князёўна адмовілася есці разам з усімі, і ёй прыгатавалі асобна лёгкі курыны булён з калдунамі і поліўку. Малады загадаў шукаць музыкаў, спевакоў, і пад вечар, на італьянскі лад, пад вокнамі Гальшкі наладзілі канцэрт. Спевакі трымцелі ад холаду, бо мароз пад ноч узяўся не на жарты, але спяваць мусілі — ім было шчодра заплочана. Адзін з музыкаў зламаў флейту, чым прымусіў вяльмож надта смяяцца.

Гальшка прыўзнялася на ложку, слухаючы спевакоў, а пасля і зусім ачуняла, падышла да акна. На двары ярка гарэлі смольні, танцавалі ад холаду бедакі-музыканты, а малады князь, у расхінутай раскошнай, крытай аксамітам шубе, прытупваў і падпяваў музыкам, гледзячы на акно. Пры з'яўленні Гальшкі ўсе дружна закрычалі, вітаючы яе, а яна, трохі пастаяўшы, зноў пайшла да ложка. Затое жанчыны-прыслужніцы стоўпіліся, разглядаючы музыкаў.

— А ці не ўчарашні гэта кавалер? — раптам запыталася старая Баркулабіха, паказваючы на вароты.

Еўка глянула — і салодка паляцела некуды сэрца: Марцін валтузіўся з вялікай каванай клямкай, спрабуючы зашчапіць вароты на засаўку. Яна здзівілася, што першай пазнала яго Баркулабіха, мусіць, ад таго, што яна не надта прыслухоўвалася да спеваў, а сваімі па-маладому вострымі вачамі разглядала ўсё навокал, як старая, спрактыкаваная квактуха, што ўвесь час трымае сваіх куранят пад наглядам.

За плячыма Марціна быў вандзэлак, з яго нешта тырчком тырчала. Можа, там былі і кнігі — што ж яшчэ мог ён везці дадому? Вось хлопец павярнуўся, пільна паглядзеў на вокны, і яна падумала, што жанчын, асветленых свечкамі, добра відно на вуліцы, а вось Марціна можна было пазнаць толькі па постаці. Пасля ён прыспешыў ходу, каб непрыкметна абысці музыкантаў, але Сангушка заўважыў яго.

— Ага, наш учарашні вучоны! — усклікнуў ён. — Чарку яму — падарожную!

Імгненна на падносе, што з'явіўся так нечакана, нібыта яго дасталі з-пад крыса кунтуша, пастаўлена было колькі сярэбраных чарак. Было відно, як Марцін адмоўна пахітаў галавой. Але князь настойваў, і яго запрашэнне падхапіла ўся падвяселеная медавухай кампанія. Яны разам прымусілі Марціна выпіць чарку, пасля чаго ён пакланіўся князю і пайшоў у карчму. А гульбішча на вуліцы працягвалася яшчэ доўга, і двойчы Гальшцы даводзілася паднімацца з ложка і дзякаваць князю. Яна рабіла

гэта ўсё больш ахвотна, і на твары яе ўсё часцей расцвітала ўсмешка. Было відно, што яна памалу прывыкала да думкі, што сапраўды побач муж, хаця і сілком дадзены, і ён падабаецца ёй. І маладая прывыкала да свайго становішча.

А пазней, хаця і зноўку ў суправаджэнні Баркулабіхі і Марылькі, гуляла Еўка па вуліцах маленькага гарадка разам з Марцінам. Жанчын кранула, што, дзеля таго каб яшчэ раз пабыць з дзяўчынай, малады вучоны павярнуў назад і ўвесь дзень пехам ішоў да Лысы. Як і ў першы вечар, яны зайшлі далёка, ажно пакуль вясёлы гоман каля карчмы стаў ледзь чутны, і спахапіліся, калі ззаду забурчала Баркулабіха і стала скардзіцца на ногі:

— Старая я, паненкі мае, каб вось так па дарогах бегаць. А была ж я калісьці… Адна нага тут, другая там. Але й капейка сціраецца, не тое што чалавек…

Тады яны павярнулі назад. Поўня ярка і велічна свяцілася ў небе, і лёгкія, як пёркі, аблокі, мімаходзь захіляючы яе, давалі адчуванне трапяткой замілаванасці, як быццам і гэтая ноч разам з Еўкай святкавала росквіт, маладую напоўненасць жыцця і забыццё ўсяго цяжкага і гаротнага. Мароз палягчэў, вольна і лёгка дыхалася грудзям. Насустрач ім пранесліся коні, далёка па заціхлых палях разняслося бомканне званочкаў, пласт снегу сарваўся з дуба і абсыпаў іх пякучым, церушлівым сняжком…

— Вы пытаецеся, што я хачу рабіць? — запытаўся Марцін пасля нядоўгага маўчання. — Вы ж ведаеце, што папа рымскі некалі прыслаў князю Вітаўту карону. Але згамавалі яе панове паляцы*. Не хочацца ім, каб мы сталі незалежнымі. Мяркую папрацаваць на славу нашага Княства, каб не загінула яно, не знікла і не растварылася ў Кароне. Мова ў нас свая, і звычкі свае, і хочацца нам з Каронаю жыць у міры і дружбе, але не васаламі быць, а суседзямі… Так, як было да уніі Крэўскай…

— Не будзе гэтага ніколі! — аж падскочыла Марылька. — Краіну раздзіраюць надвое! Праўду кажуць, што ваша шляхта толькі разлад і смуту сее!

— Ціха, дзіця, супыніся! — перапыніла яе Баркулабіха, якая адразу змоўкла, калі загаварыў Марцін. — Не так гэта проста… Вось і мае бацькі ўзялі каталіцтва, адракліся ад продкаў, таму што не было ім ходу. А так стаў бацька замкавым ураднікам пры двары, а мяне каралева Бона пані Беаце перадала, калі замуж выдавала. І я не шкадую. Не любіла я, прызнацца, двор кара-

* Дакладны выраз з хронік XVI ст.

леўскі. Мяне яе мосць каралева мужычкай клікала, бо ростам я ўрадзілася надта высокай, а мовы каралеўскай ніяк не магла вывучыць, бо, хаця бацька і стаў пры двары ўраднікам, маці мая, з простых шляхцічаў, па-свойму гаварыла і басанож пры гародзе хадзіць любіла. А брат цяпер бурмістр места Віленскага.

Размова перайшла на каралеву Бону. Загаварылі аб тым, што стары Жыгімонт ва ўсім слухаецца яе, і ад таго пры двары вялікая звада: каралева надта крэўкая* дый сквапная. Пры народзе папракае яна мужа пасагам — пяццюдзесяццю тысячамі фларынаў, заплочанымі за яе. А горай за ўсё — нават палякаў называе яна дзікім, барбарынскім народам. Што ўжо казаць пра русінаў** і жмудзінаў***!

Але Марцін уступіўся за Бону:

— Затое яна немцаў не любіць і супраць была, калі немку — Элізабету ў жонкі Жыгімонту Аўгусту сваталі! Ведае многа чаго і ў Влохію пасылае юнакоў вучыцца. І Мікола Гусоўскі ёй сваю паэму прысвяціў!

Але Баркулабіха, відаць, шкадуючы, што разгаварылася, а можа, і проста стаміўшыся, упарта замаўчала. Еўка ж амаль і не прыслухоўвалася, аб чым яны гаварылі, — іншая, як бы незямная музыка была ў ёй, яна адчувала толькі, што ідзе побач з Марцінам, глядзіць на яго… І яшчэ дзівілася: два дні назад не ведала яго, не помніла аб хлопчыку з Нясвіжа, а сёння як быццам і жыць без яго не можа? Хіба такое можа быць? Адкуль усё бярэцца?!

Калі яны вярнуліся, музыкі ўжо скончылі спяваць, і на двары было вольна, толькі валяліся папяровыя стужкі, якімі былі ўпрыгожаны інструменты. Гальшка сустрэла іх з незадаволенасцю:

— Сказала вам, каб пагулялі нямнога, а вы і радыя…

Голас задрыжаў, Баркулабіха кінулася яе суцяшаць, а Еўка і Марылька, вінаватыя, пачалі прыбіраць ля ложка раскіданае адзенне.

Даведаліся, што князь прыходзіў пад дзверы, але не рашыўся ўвайсці, і гэта таксама расчуліла Гальшку. Яна ацаніла стрыманасць маладога Сангушкі, хваліла яго, дапытваючыся ў нянькі, ці падабаецца ён. Баркулабіха ківала галавою, толькі, калі маладая заснула, сама сабе прамармытала:

---

* Крэўкі — пахоплівы, гарачы.

** Русіны, або ліцвіны,— так называлі беларусаў.

*** Жмудзіны — так называлі літоўцаў, што жылі ў паўночна-заходняй частцы этнаграфічнай Літвы, у Жамойці.

— Адвага альбо мёд п’ецьць, альбо кайданы трэць. Ой, чую пагоню. Не згодзяцца паны, што нявеста не ім дасталася.

Еўка здрыганулася; нешта халоднае папаўзло па ёй, нібы адчуўшы цень бяды, што павісла над гэтым чысценькім, утульным пакоем з драўляным распяццем на пабеленай сцяне, над шырокім ложкам з пышнай пуховай коўдрай, над узорыстымі лавамі, на якіх яны рыхтаваліся спаць… І ноччу спалася ёй неспакойна, час ад часу спахоплівалася, уздрыгвала, гледзячы ў акно, дзе дрымотна свяціліся зоры. Баркулабіха, відаць, таксама не спала: яна падыходзіла да акна, шырокая, грузная, і ўсё ўглядалася ўдалячынь. Унізе, у канюшні, чмыхалі коні, рыпелі па двары чыесьці крокі, звякала жалеззе. Адна Гальшка хваравіта трызніла ў сне. Дый Марылька, прачнуўшыся ад крокаў Баркулабіхі, нешта сонна прамармытала і адразу ж заснула.

Але стома ўзяла сваё, і пад раніцу ў пакоі спалі моцным сном.

Прачнуліся яны ад крокаў, тупату і выстралаў. Гальшка села на ложку, твар яе заліла бледнасць.

— Яны забіваюць яго, — прагаварыла яна. — Гэта… гэта матуля паслала!

І ўпала на ложак без прытомнасці. Баркулабіха ў жаху кінулася да сваёй пястункі, а Еўка і Марылька, дрыжучы, сталі апранацца, нацягваючы на сябе непаслухмянае адзенне. Стрэлы ўзмацніліся, і праз нейкі час у дзверы модна пастукалі. Баркулабіха накінула на сябе суконны плашч, драўлянай шпількай зашпіліла валасы і пакрыла іх шалікам.

Важны пан у жоўтым кунтушы з чорнай шнуроўкай і залатымі гузікамі, у сабаліным каўпаку амаль уварваўся ў пакой, але, убачыўшы жанчын, адступіў назад.

— Што вам трэба, пан ваявода? — нядобра запыталася Баркулабіха, перапыняючы яго імклівы разбег.

— Гэты… гэты збродзень схоплены! Ёсць каралеўскі ўказ аб пазбаўленні яго жыцця! — голасна закрычаў ваявода Збароўскі, а за яго плячыма ўжо віднеліся ўзброеныя, разгарачаныя мужчыны.

— Ён — муж яе згодна з абрадамі рымскім і грэчаскім, — цвёрда адказала Баркулабіха. — І, пакуль жывы, калі жывы — не бэсціце яго! Пашкадуйце гэтае дзіця!

Яна паказала на Гальшку, якая ў гэты момант, як ніколі, была падобная да перапалоханай дзяўчынкі, пасля выправіла ваяводу за дзверы, хаця ён і пратэставаў. Але, як толькі Гальшку апранулі і яна села ў крэсла, Збароўскі ўварваўся ў пакой зноў.

— Паколькі справа гэта дзяржаўная, то маю да княжны…

— Княгіні, — папраўіла яго Баркулабіха.

— Князёўны! — з выклікам кінуў ваявода. — Князёўны, бо яна не зашлюбленая! Дык вось, маю да князёўны дзяржаўную справу! І няхай усе адсюль выйдуць!

— Я — не выйду, — спакойна сказала Баркулабіха. — Ты, твая мосць, замучыш мне дзяўчыну сваімі пытаннямі, а я цярпі!.. Я бачу, з табой гаварыць, як з вадою біцца, у цябе аж вочы гарацць, як у дзіка. Хочаш яе за свайго сына? Ды ён жа ў цябе бабнік і валацуга…

Збароўскі хацеў быў плюнуць у яе бок, але стрымаўся, згадзіўся:

— Заставайся, старая чапяла.

Еўка і Марылька пайшлі да выхаду, а ваявода, застаўшыся з Гальшкай, прыдаў свайму звераватаму твару выгляд салодкі і амаль прыстойны, хаця хцівасць так і плёскалася на ім. Ён глядзеў на маладую дзяўчыну так, як быццам хацеў з'есці, усю яе абмацаў вачамі, кожную складачку на яе сукні нібы прапёк поглядам, калі запытаўся:

— Хай панна скажа чэсна — ці была парушана?

Гальшка маўчала, глядзела ўніз. Шчокі яе яшчэ болей пабялелі. Баркулабіха падхапіла яе за локці ззаду:

— Адкажы яму, мая птушачка, адкажы, што з мужам была, як тое спрадвеку паложана…

— Ты ёй не падказвай! — зароў Збароўскі. — Я вось скажу пані Беаце, як ты яе дачку настройваеш супраць маці! Яна паклялася, што памрэ, але шлюбу гэтага не дапусціць!

Гальшка жыва абярнулася, вочы яе заблішчалі:

— Яна не змяніла свайго праклёну? Не? Гэта праўда?

— Не толькі не змяніла, але і нам сказала — хай нават і мая дачка застанецца мёртвай, але толькі не жонкай гэтага насільніка!

— А сама яму давала ліст з абяцаннем! — прагаварыла Баркулабіха. — Нядобра гэта! І хаця князь малады таксама нядобра паступіў, што ж цяпер зробіш? Пан Бог іх павянчаў!

— Кароль загадаў не лічыць гэта шлюбам! — з выклікам адказаў стары Збароўскі. — І яна можа выйсці замуж, як першы раз!

— Калі ёсць насенне, то што ж там за вяселле! — ціха, як бы сама сабе, прагаварыла Баркулабіха. — Ды не ад твайго кораня!

— Адкуль насенне? Колькі тут дзён прайшло! — пан ваявода трохі сумеўся. Але зноў перапытаў.

Гальшка ледзь улоўна кіўнула галавой, схілілася, як бы над ёю навіс цяжар.

Пан ваявода задумаўся. Прамармытаў:

— Дрэнь справа!

Так, задуменны, ён і сышоў уніз.

Тым часам Еўка і Марылька з жахам назіралі, як акрываўленага Сангушку, звязанага, амаль голага — адзенне вісела на ім лахманамі, — білі ля дзвярэй карчмы, дзе ўжо сабралася шмат цікаўных.

Сын Збароўскага — сапраўды рыжы, з блакітнымі вачамі і пышнай прычоскай, апавядаў голасна:

— Збродзень гэты замкі рушыў, дзяцей і жонак збіваў да смерці, ашуканствам адну з самых багатых нявест умыкнуў…

І, не вытрымаўшы, кінуўся да суперніка, закрычаў шалёна:

— Табе мала было простай шляхцянкі? Ты да княжны падбіраўся! Дзе грошы? Дзе грошы, адказвай!

Схапіўшы сярэбраную булаву, ударыў палоннага па галаве. Еўка і Марылька голасна закрычалі, закрыўшы твары далонямі. Людзі глуха заварушыліся, пачуліся галасы шкадавання. Да сына ваяводы падбег Пятрок, закрыў сабою князя. Не шкадуючы, той хлабыснуў Петрака па плячы, хлопец упаў.

Да маладога Збароўскага кінуўся Марцін, схапіў за руку.

— Што вы робіце, вы, хрысціянін! — узвысіў ён голас. — Калі яны вінныя, ёсць суд! Суд вырашыць!

Еўка шырока адкрыла вочы, сэрца шалёна забілася. Яна і не паспела заўважыць, адкуль тут з’явіўся Марцін. Убачыла толькі, як у маладога Збароўскага здзіўлена пашырыліся зрэнкі, пасля запалалі яшчэ большым шалам. Відаць, па адзенні зразумеў, што чалавек, які так нечакана спыніў яго, не адносіцца да багатай шляхты. А гэта ўжо было абразай.

— Ты… хто ты такі, каб спыняць мяне, Збароўскага! — закрычаў ён і рвануўся, клічучы на дапамогу сваіх збройнікаў. Але Марцін цвёрда трымаў яго за руку, вырываючы булаву.

Еўка, ускрыкнуўшы, кінулася наперад. Але спазнілася. Стары Збароўскі, які спускаўся ўніз з войтам Німбурга Кухтам, падскочыў да маладога вучонага, узмахнуўшы карабелькай*, што выхапіў з-за пояса. Кароткі ўзмах — і Марцін асунуўся ўніз, не паспеўшы дагаварыць. Еўка, падбегшы, бачыла, як цьмянелі ягоныя вочы, як згасаў у іх яркі зімовы дзень… Ды малады

* Карабеля — крывая шабля.

Збароўскі, у якога вызваліліся рукі, таксама не хацеў стрымлівацца — і булава яго гахнула па галаве Марціна.

Яна закрычала, не помнячы сябе і акружаючага. Але гэтак жа закрычала і маладая княжна Гальшка, якая, выйшаўшы, убачыла скрываўленага, паніклага галавою Сангушку.

Непрытомных, іх панеслі ў крытыя вазкі, падрыхтаваныя загадзя. Еўка, ачуняўшы, білася ў руках збройнікаў, крычала, але замкі былі моцнымі, а рукі, што трымалі іх, не ведалі жалю.

Трохі ачомаўшыся, яна ўжо амаль няўцямна глядзела, як мітусіліся пагоннікі, якіх не хацелі выпускаць войт і суддзя Німбурга, баючыся гневу эрцгерцага Максіміляна, намесніка караля ў Багеміі. Паддаўшыся ўгаворам вяльмож Кароны, яны дадумаліся, што жорсткасць у абыходжанні з маладым князем можа не спадабацца эрцгерцагу. Ваявода Збароўскі абяцаў ім дачакацца граматы ад эрцгерцага, але не стрымаў абяцання — пад вечар поезд крануўся ў бок Яраміра — апошняга пункта перад мяжой Каралеўства.

Вазкі ехалі хутка, было траска. Аднак Гальшка і Еўка сядзелі нерухома. Баркулабіха, якая ўвесь час, праклінаючы Збароўскіх, даглядала сваю пані, літасціва аднеслася да Еўкі — не патрабавала ад яе службы, ганяла па ўсім патрэбным адну Марыльку, Але Гальшка, якую ўвесь час паілі зёлкамі, глядзела на ўсё абыякава, толькі рукі ў яе дробна трэсліся. Час ад часу пад’язджалі то бацька, то сын Збароўскія, але Гальшка не глядзела на іх, не адказвала нічога, і яны, засмучаныя, ад’язджалі прэч.

Але ў Яраміры стары ваявода паспрабаваў пагаварыць з Гальшкай. Ён зноў падняўся да яе ў пакой і стаў скардзіцца на няўдзячнасць. Толькі дзеля яе рызыкнулі яны перасячы межы чужога каралеўства! Яны ўратавалі яе ад злога насільніка — і дзе ж удзячнасць?

— Вызваліце майго мужа з кайданоў, — ціха сказала маладая жанчына. — Супраць хрысціянскай літасці трымаць палоннага ў такім стане, не аказваючы яму дапамогі. Вінен ён толькі перада мною…

Збароўскі паглядзеў на яе шалёнымі вачамі, пастараўся стрымацца, толькі, выходзячы, моцна стукнуў дзвярыма, але, як спахапіўшыся, вярнуўся, закрыў іх цішэй. Злосць клекатала ў ім, і, выходзячы, нешта шапнуў сыну, а той, выклікаўшы вояў-татар, што былі ў іх атрадзе, паставіў іх каравуліць пуню, дзе закрыты быў, нягледзячы на мароз, малады Сангушка. Усім было зразумела, навошта гэта было зроблена.

Раніцай яго знайшлі мёртвым, з пераламаным хрыбтом. Але калі ярамірскія местачкоўцы прынеслі труну і войт сказаў пахаваць нябожчыка за кошт горада, ваявода Збароўскі загадаў выкінуць цела на стайню. Відаць, заступніцтва жанчын і тое, што князь выкарыстаў свае правы мужа, грызлі яго. Узяць нявесткай не цнатлівую дзяўчыну, а ўдаву, чый шлюб прагрымеў ужо на ўвесь край, было нават і для яго сквапнага сэрца справай нялёгкай. Калі ён глядзеў, як цела суперніка яго сына валаклі на стайню, да яго падышла Еўка. Страшнымі вачыма яна паглядзела ў шырокі, зарослы валасамі твар і нечакана для ўсіх прысутных плюнула ў яго. Ваявода хацеў кінуцца на яе, але адчайным намаганнем волі стрымаўся. Шыя яго і шчокі наліваліся дурной, пыхлівай, з сіняватым адценнем чырванню.

— Я табе, сука, прыпомню гэта! — прашыпеў ён скрозь зубы, павярнуўся, пайшоў да сваіх.

Баркулабіха хуценька зграбла Еўку, павяла яе наверх, шэпчучы на вуха:

— Супакойся. Нам і так дастанецца. Пані Беата не даруе нічога. Заўсёды ліхому лепш на свеце, чым добраму. Але ж і ў вераб'я ёсць сэрца, бедная мая дзевачка…

— Гэты ж… Збароўскі… не любіць яе, — усхліпнула Еўка. — А стары глядзіць на нашу панну з нянавісцю, але стараецца віцца вакол… Што ж гэта робіцца! За што яны… Марціна!

— Грошы, маё золатка, грошы. За іх удавіцца гатовыя. Дый у каламутнай вадзе добра рыбку лавіць. Глядзіш — і падхопяць Збароўскія нашу галубку. Яшчэ б — усе скарбы князёў Астрожскіх за ёю! І Змітрок-князь не проста так вакол яе скакаў… Вось і даскакаўся… Ой, гора, гора для ўсіх. А цябе як шкада. А хлопца… Багатыя б'юцца, а ў беднага чуб трашчыць!

Еўку не ўкалоў напамінак аб яе беднасці. Не думала яна цяпер і пра тое, што пані Беата адпомсціць ёй за ганьбу Збароўскага. Перад вачыма паўставаў жудасны малюнак, як акрываўленага, знявечанага чалавека валаклі на кучу гною… І бачыўся ёй мёртвы Марцін — разбітая ўдарам галава, кроў, што густа хлынула на яго твар, змяніўшы яго да непазнавальнасці… Хто пахавае яго? Хто запомніць яго магілу? І гэта яна, толькі яна вінна ў ягонай смерці. Не пайшоў бы за ёю — застаўся б жывым. Цяпер жа яна нібыта апынулася знянацку ў чорным, страшным склепе, і дзверы з рыпеннем цяжка зачыняліся за ёю…

Назаўтра ў Ярамір прыехалі паны Касцялецкія, радня Гальшкі, а з імі графы Андрэй і Лука Горкі. Высокі, цёмнавалосы, граф Лука доўга не адпускаў, цалуючы, худую, бледную руку Гальшкі.

— Дазвольце, панна Лізавета, выказаць вам глыбокае спачуванне, — казаў ён. — Больш не будзе з вамі нічога страшнага. І ваша матуля, найпяшчотнейшая з усіх маці, з нецярпеннем чакае вас…

Блішчалі залатыя гузікі на ягоным кунтушы, палаш пры баку, адлівалі цёмным бляскам ласіныя рукавіцы за поясам, стоена-радаснае святло было ў прыжмураных вачах. Ён і надалей старанна дагаджаў багатай наследніцы, першы кідаўся падсоўваць ёй пад локаць падушку, папраўляў шыты залатымі нітамі плашч. Але Гальшка была да ўсяго безуважлівая, а вочы ўвесь час нейкія прымружаныя.

Але паступова яна як бы адыходзіла.

Вечарам, застаўшыся адна з прыслужніцамі, загадала Еўцы чытаць. І тая, не пасмеўшы запярэчыць, скрозь смугу, засцілаўшую вочы, чытала вершы влошскага паэта:

Прашу цябе, Збавіцель,
Свой погляд літасцівы ўніз схілі.
І над свяшчэнным злітуйся ты краем,
Які ад смут згарае,
Ад жорсткасці згарае на зямлі.

Голас яе задрыжаў, але яна пераадолела сябе і працягвала:

Шукаеце апоры
У сэрцы продажным, але ці ёсць карысць
Ў каханні, што за грошы прадаецца?

Яна апусціла кнігу на калені і замоўкла.

— Ну што ж ты? Працягвай! — капрызна загадала Гальшка. — Я не засну. О, якія невыносныя гэтыя кавалеры! Князь Змітрок быў і прыгажэйшым, і спрытнейшым. Вось ён бы і кахаў так, як тут напісана!

— Не думай пра яго болей! — шапнула ёй Баркулабіха. — Уроненай слязы не паднімеш, прыйшло махам і пайшло прахам. Чытай! — прыкрыкнула на Еўку, нібы забыўшыся, што нядаўна спачувала ёй, — Бачыш, паненку гэта забаўляе!

Еўка хацела пачаць і не магла. Сутарга схапіла яе за горла, яна ўся сцялася і імкліва выбегла з пакоя, прабегла міма купкі вяльмож, што тоўпіліся ў зале, сышла ўніз.

Ля самага выхаду балявалі татары, якія напярэдадні вартавалі палоннага князя. Чырвоныя, вясёлыя, яны кідалі косці, галасна рагаталі. Горла яе да болю, да знямогі сціскала туга і адзінота.

— Дзе тут храм? — запыталася яна ў адной з прыслужніц.

— А табе якой веры — грэчаскай ці рымскай? — з цікаўнасцю аглядаючы дзяўчыну, запыталася тая.

— Грэчаскай. Мусіць, няма тут у вас праваслаўнага храма? — запыталася Еўка.

— Чаму ж не? У нас тут мяжа, людзі рознай веры. Ёсць і кальвіністы, і антытрынітарыі. Нават для жыдоў нейкі дом ёсць, — ахвотна тлумачыла жанчына. Яна ж і паказала Еўцы дарогу.

Невялікая драўляная царква была зачынена, і Еўка доўга стукалася ў дзверы, дзе жыў святчэннік, пакуль ёй не адчынілі. Уздыхаючы, да яе выйшаў напаўсонны святчэннік, выслухаўшы, павёў у храм, запаліў дзве невялічкія свечкі.

Прастора ўнутры храма здавалася вялізнай, яна толькі на імгненне задзівілася таму. Аплываючы, трашчалі свечкі. Пахла нечым духмяным і адначасна старызнай і закінутасцю, як пахне ад мноства з'едзеных часам пергаменаў. Вялікія вочы святых дакорліва глядзелі на Еўку. Яна расказала пра ўсе сваё кароткае жыццё. Запыталася тужліва:

— Чаму такая жорсткасць вакол і акруценства*? Чаму людзі не могуць жыць, не забіваючы адзін аднаго, не папіхаючы ў магілу?

Прамаўчаў стары святчэннік, толькі пагладзіў схіленую галаву дзяўчыны. Твар яго з незадаволенага стаў змучаным, пакорлівым. Пасля ціха прамовіў:

— Цярпі, дачка мая! Цярпі і маўчы!

Яна гнеўна ўзнялася, загаварыла хутка-хутка:

— Марцін заступіўся за чалавека. Толькі заступіўся! Чаму ім можна ўсё, чаму іх называюць добрымі хрысціянамі і ім належаць душы людскія? А яны не дбаюць пра людзей, яны іх «нямым быдлам» называюць. Нават ён, лепшы за іх, разумнейшы, быў для пана Збароўскага нібыта быдлам! Хто адкажа за яго, калі яны самога вяльможнага Сангушку збэсцілі? І нічога, нічога не будзе ім за тое!

— Дык што ты хочаш ад мяне? — стомлена сказаў святчэннік. — Я не пішу законы. Я толькі стараюся змякчыць душы чалавечыя, дапамагчы ім знайсці сябе ў любові і міласэрнасці. І табе скажу — не давай сэрцу скамянець, не давай яму хцівай помслівасці. Цярпі!

— Я хачу даць абет, — сказала Еўка. — Абет на тое, што буду помніць яго да смерці. Я хачу быць абручанай з ім, мёртвым.

---

* Акруценства — ашуканства.

— Ты яшчэ маладая. Табе трэба раджаць дзяцей, — ціха сказаў свяшчэннік.

— Я не хачу мець дзяцей, не хачу пушчаць іх у гэты свет, каб яны пакутавалі. Прымі ў мяне абяцанне, і няхай Божы гнеў спапяліць мяне дашчэнту, калі адступлюся ад свайго!

Пасля свяшчэннік пакінуў яе адну, і яна доўга малілася — адна ў старэнькім храме, дзе над купалам шамацеў снег, а ўнізе трашчалі, дагараючы, жоўценькія, празрыстыя, з ружовым адлівам свечкі. Спакой ахінаў яе, нібыта ахвяра была выкупленнем за Марціна, за ягоную смерць, за тое, што ён, які думаў пра лёс сваёй зямлі, загінуў так недарэчна і рана!

Калі раніцай яна стала прыбіраць пасцель, Баркулабіха ўсклікнула:

— У цябе што там?

А наблізіўшы руку да валасоў, намацала пасмы, нібы адбеленыя шчолакам, і зразумела, што з Еўкай, адхіснулася ад яе:

— Каб жыць — трэба ўмець забываць. А ты?!

— Гэта вы забывайце, — сказала Еўка глуха. — І пра мужоў забітых, і пра гвалт над душой. А мне тое — не дадзена…

— Што?! — ускочыла маладая гаспадыня. І задыхнулася.

За тое, што абразіла князёўну Гальшку, была Еўка зведзена ўніз і пакарана бізунамі. Праўда, білі яе нямоцна і не па голым целе. Еўка ведала, што не маюць права такога рабіць са шляхцічамі, а тым болей з жанчынай, але маўчала, толькі зубы сціскала, калі бізун даставаў мацней.

Калі яны вярнуліся ў двор пані Беаты, адхілілі Еўку ад асобы паненкі, і стала яна служыць пры панскай бібліятэцы, перапісваючы рахункі разам з пісарам Андрэем. Апраналася ў чорнае, была заўсёды пахмурнай і маўклівай, і ад таго чалядзінцы спачатку моцна над ёю зубаскалілі, але пасля перасталі. Паступова сталі нават паважаць. Аднекуль стала ім вядома пра патаемны абет. Са жвавай, вясёлай дзяўчыны Еўка нібы адразу ператварылася ў сталую кабету.

Наверх, у пакоі князёўны, яе доўга не выклікалі. Але аднойчы раніцай, калі яна, схіліўшыся над паперамі, перапісвала інвентарны ліст з маёмасці замка, зайшла Баркулабіха:

— Панна Гальшка злуецца на цябе, але ўсё-ткі ў яе добрае сэрца, і нядаўна яна пыталася, як табе тут працуецца.

— Нядрэнна, панна міласцівая, — ціха адказала Еўка, устаючы і прысядаючы перад нянькай. — Работы многа, а гэта значыць — меней мучыць Мара*.

* Мара — мроя.

— Глядзі, мая панна, каб яна мучыла цябе ўсё меней! — адказала Баркулабіха. — Жыць трэба не так, як хочацца, а як набяжыць. Завысока ты ставіш сябе, забурэння* сама прагнеш, а табе літасці і ласкі вяльможнай шукаць трэба было б…

Пісар Андрэй, калі выйшла Баркулабіха, злосна сказаў:

— Прадаў іх род за поліўку з сачыўкі старадаўнюю славу баяр праваслаўных на Літве. Нядаўна адзін з яе братоў казаў на радзе, што Карона нічога не паймела з уніі ў Крэве, а толькі ўцягнула палякаў да варожасці з Масквой. А яшчэ казаў, што Княства мела толькі абшары, дый тыя небяспечныя, ды паганскіх князёў! Як быццам не было ў Княстве ні культуры, ні кніг, ні мовы! Як быццам князі вялікія ў праваслаўе не пераходзілі і ад старадаўняй культуры нічога не бралі і не мелі! Самы страшны — перахрост!

Еўка слухала яго ўважліва. Раней бы пабаялася, вушы б заткнула — якое дачыненне да яе самой маюць далёкія тыя справы? Але пісар Андрэй, які правёў у замкавай бібліятэцы доўгія гады, карпатліва збіраў старыя граматы і прывілеі, а таксама старадаўнія рукапісы, якіх нямала сабралася ў Астрозе, многа ведаў пра даўніну і часам, адарваўшыся ад пергаменаў, гадзінамі апавядаў Еўцы пра даўнія бітвы з татарамі, пра Дзмітрыя Данскога, поруч з якім на Куліковым полі стаяў унук Гедыміна — Дзімітры Карыятавіч, Баброк Валынец, а разам з ім — дружыны братоў Ягайлы, Андрэя Полацкага і Дзімітрыя Карыбута. А ўнук Альгерда, Осцік, замяняў Дзімітрыя Данскога падчас асады Тахтамышам Масквы ў 1382 годзе… Андрэй быў гарачым прыхільнікам самастойнасці Княства, ненавідзеў паноў каронных, але перад Еўкай раскрыўся не адразу. Сівы, магутны, як зубр, з шыяй, якая нібыта ўрасла ў плечы, ён глядзеў спадылба і непрыветна, з незнаёмымі і непатрэбнымі яму людзьмі гаварыў мала і адрывіста. Пані Беата не раз збіралася яго выгнаць з замка, але нехаця выконвала абяцанне, дадзенае мужу, які, наадварот, надта любіў пана Андрэя і яго апавяданні. Дый толькі Андрэй мог адразу адказаць, у якім годзе колькі сабралі дзякла, калі ўрадзіла жыта і колькі коп грошай вінны тыя ці іншыя воласці. Андрэй заўсёды нізка гнуў галаву перад Беатай, не аспрэчваў яе загадаў, нават тады, калі навіслі над ёю грозныя лісты караля за тое, што нядбайна распараджаецца маёмасцю князёў Астрожскіх — нават тады ніколі не дазволіў сабе Андрэй хоць слова

* Забурэнне — сварка.

сказаць у абарону тых стараст і цівуноў, якіх выганяла пані, каб на іх месца паставіць сваіх, прывезеных родзічамі з Кароны. Але ўсё роўна не любіла яго гаспадыня — можа, адчуваючы ў ім глыбока схаваную сілу супраціўлення.

— Куды я пайду ад іх? — аднойчы горка сказаў Андрэй, паказаўшы на паліцы, дзе ляжалі скруткі пергаменаў і стаялі цяжкія, у драўляных ці скураных пераплётах рукапісныя кнігі, — Пайду, а іх тут зваляць у кучу і спаляць. Каму ўсё патрэбна? Мала таго, што тут бабскі, легкадумны дух учыніўся, але ж сама пані ледзь разумее па-нашаму, таму ж і паненку вучыць. Можа, дачакаюся, калі прыйдзе дбайны гаспадар, каму старадаўняя слава дзедзіцтва баліць…

— Граф Лука наўрад ці зацікавіцца гэтым, — згадзілася Еўка. — Ён болей на завіханне вакол паненкі налягае ды на ўборы. Нядаўна прыехаў у руда-жоўтым жупане, гузікі — з дыяментаў. Марылька прыбягала, не магла нацешыцца такім гжэчным панам…

— Збытнія* мы тут людзі, панна Еўка, — уздыхнуў Андрэй. — Ім бы цэлымі днямі баляваць і весяліцца, а не пра айчыну думаць, пра тое, што Княства ў вайне непатрэбнай апошняе губляе…

Сапраўды, у Астрозе, нібы ачуняўшы пасля хваробы, а можа дзеля таго, каб усцешыць маладую князёўну, кожны амаль дзень усчыняліся то баляванні, то ловы, то другія забаўкі.

Аднойчы прыехаў князь Васіль Канстанцін Астрожскі, прыйшоў у гасціную, абабітую чырвоным адамашкам. Гаспадыня прыняла яго холадна, але ён, не надта зважаючы на яе настрой, падышоў да пляменніцы, адабральна агледзеў тонкі стан:

— Прыгажуня вырасла… І колер ярынны** табе ідзе… Нядоўга будзеш хадзіць у дзеўках…

Пані Беата падціснула вусны:

— Кароль абяцаў, што сам знойдзе жаніха. А вашмосць няхай другі раз не спрабуе — не выйдзе.

— У нашай радзіне бабы запраўляць не будуць! — адказаў ёй швагер, гнеўна скубануў рукавіцу за шырокім вышываным поясам, трасянуў шабелькай.

У пані Беаты на вачах паказаліся слёзы. Гледзячы на яе, і Гальшка загаварыла тоненькім, дрыжачым галаскам:

---

* Збытнія — лішнія.

** Ярынны — блакітны.

— Я прашу, шаноўны дзядзечка…

— Ну, ну, гэта не табе! — дзядзечка пагладзіў яе шырокай, касцістай рукой, зачапіўся за тонкія валасы, ціха вылаяўся, але ўслых сказаў толькі: — Доўга не марудзьце. Чым хутчэй прыбярэ яе багацці нехта з жаніхоў, тым меней сварак і звадаў будзе на Белай і Малай Русі!

— Нехта…— прабурчала Баркулабіха, гледзячы, як ён ідзе да выхаду. — А сам, нябось, ужо прыгледзеў каго… Быць не можа, каб спусціў замужжа на іншых! Сам хоча быць панам богам! Бач яго, красамоўца!

У замку ўжо ведалі, што кароль, пішучы да свайго паверніка, маршалка літоўскага Радзівіла, баяўся, што мужам маладой Астрожскай стане сын ваяводы Збароўскага. Копія з таго ліста, старанна перапісаная, ужо ляжала ў архіве замка. І Андрэй, а за ім і Еўка чыталі: «…Над тым раздумваю, каб вужа вялікага таго да нашага панства не ўсадзілі… ваявода і так мае ўжо многа маёнткаў на Русі, каторыя сваёй пажадлівасцю яшчэ і далей памнажае. Калі б сын ваяводы пабраў Гальшку за жонку, тады на цэлую Валынь і на Русь расцягнуў бы сваю магутнасць… Трэба ў той справе скора аглядаціся, бо к таму няма так злой справы, да каторай пані-маці наша, нам на злосць, не хацела б прычыніціся…»

Можа, якраз таму, даючы балі і прыёмы, раздумвала княгіня Беата над тым, што толькі каралева Бона зможа дапамагчы ёй. Не хацела паддацца волі каралеўскай, мяркуючы і надалей быць гаспадыняй вялізных маёнткаў. Патрэбны быў такі зяць, які б усё ўзяў з яе рук і быў за гэта назаўсёды ўдзячны. Любы з каралеўскіх улюбёнцаў мог запытацца ў яе, як кіравала маёмасцю, колькі грошай сабрана за час яе ўладанняў, ці брала пазыку. А справы былі нядобрыя. Даходы зменшыліся, некаторыя землі і лясы заняпалі праз нядбайнасць прыставаў, цівуноў. Зменшылася колькасць борцяў, усё меней бочак ярыцы дастаўлялася ў сам замак Астрожскі…

Цяпер, калі сваяк даў зразумець, што не варта цягнуць з замужжам дачкі, яна вырашыла ехаць неадкладна. Перад тым раніцай паклікала пісара Андрэя і прадыктавала ліст да караля.

Пырскаючы атрамантам, пісаў, хутка перакладаючы на латынь яе словы, Андрэй. Пісала Беата аб тым, што прымае з пачцівасцю ўсе лісты караля. Але — тут яна доўга думала, пасля некалькі разоў мяняла напісанае, — дачка яе, будучы цяпер па-

няю ўласнай волі, за радаю сваёй маці і сваіх прыяцеляў* можа сама сабою распараджацца.

Літоўскае права, ухваленае на сейме ў Вільні ў 1551 годзе, дазваляла аддаваць замуж дзяўчат-сірат толькі са згоды іх бліжэйшых родзічаў, і пані Беата пастаралася даць гэта адчуць каралю.

А праз тыдзень яна выязджала з Астрога да Варшавы, дзе ў гэты час жыла каралева Бона.

Цэлы тыдзень у замку ішла мітусня — швачкі і вышывальшчыцы, абутнікі, пакаёўкі шылі, складалі ў вялізныя, аздобленыя разьбой куфры сукні і мехавыя плашчы, пантофлікі і шалікі, а падкаморы, лоўчыя, кухмістры і шамбеляны займаліся гаспадарчымі справамі і выдаткамі. Дарога была няблізкая, гаспадыні ні ў чым не хацелі мець недастатку — іначай солана давялося б прыдворным!

Да княжацкай бібліятэкі гэты шум не адносіўся. Еўка дзень за днём перапісвала паперы, даглядала кнігі, падклейваючы пагрызеныя мышамі старонкі, то загадваючы ювеліру паправіць залаты пялёстак ці прамыць каштоўны камень на абкладзе, асабліва калі кнігу патрабавалі наверх, у панскія пакоі. Але Гальшка цяпер з неахвотаю загадвала прачытаць што-кольвечы на ноч. Часцей яна клалася спаць і доўга ляжала без сну, думаючы пра нешта сваё. Затое пані Беата загадвала чытаць сваёй чытальніцы часта. Прыходзіла Баркулабіха, бурчала:

— Чытаюць-чытаюць, а яна ляжыць і ці то слухае, ці не… У Альжбеты язык адвальваецца, а пані хоць бы што… Ужо і раніца часам, а яна ўсё слухае. Дый каб пра што бажэсцвеннае — не, пра розных мудрацоў ёй падавай, пра выверты і забурэнні ўсялякія… Пэўна, думае, як караля ці самога Пана Бога ашукаць…

Альжбета, дачка кашталяна, была дзяўчынаю ганарліваю, гарачаю — ці не таму аж да раніцы любіла яе трымаць пані Беата ў сваёй спальні, абабітай блакітным аксамітам, з вялізным разьбяным ложкам і люстрам у залатой аправе. Любіла назіраць, як, ледзь не плачучы ад шаленства, чытае Альжбета «Кнігу Смарагд», альбо «Дзве кнігі абедзве Маргарыты», альбо «Кнігу вялікую Дыянісія Арэапагіцкага». Калі была ў добрым настроі, загадвала чытаць па-польску — пра першых каралёў Кароны, пра ўцехі закаханых Абеляра і Элаізы і іх горкую разлуку. Чытала Альжбета горай за Еўку дый часта спатыкалася

* Дакладная вытрымка з судовай хронікі таго часу.

на беларусінскім слове, таму што бацька яе стаў кальвіністам і гарнуўся болей да Нямеччыны. Але і па-нямецку чытаць ён не надта быў ахвочы, як увогуле не любіў кніг. Любіў кашталян хмельнае, а найбольш — салодкае віно мальвазію, апранаўся з ахвотай і стараннем, нібыта жанчына, і дачцэ гразіў карамі, калі чым прагневіць яна пані Беату. Еўку ж нібыта не заўважала гаспадыня і Гальшцы забараніла пра яе ўспамінаць, таму што, як казала яна Баркулабісе, «упартае нешта і зацятае ў вачах» Еўкі бачыла. Але і дадому не адсылала, хаця аднойчы, набраўшыся адвагі, прыйшла Еўка да яе і, склаўшы рукі, як перад абразамі, маліла адпусціць у Нясвіж, да бацькоў. Чужою сябе адчувала ў Астрозе, і зусім бы змарнела, каб не Андрэй. Але пані Беата доўга глядзела на дзяўчыну, пастуквала нагой у тонкім юхтовым боціку, і тонкая рука яе з доўгімі бялюткімі пальчыкамі ляжала на аксамітавай сукні насцярожліва.

— Добра, — вырашыла нарэшце. — Але спачатку папрацуеш на гардэробе разам з ахмістрыняй. А пасля ліст ад мяне адвязеш яго мосці пану Мікалаю. Можа, ён цяпер у Нясвіжы. Кажуць, будуюць там многа.

Еўка моўчкі пакланілася пані і пайшла ўніз. А назаўтра з раніцы пачала работу — седзячы пры гардэробнай, запісвала ўслед за ахмістрыняй: «Шабка елмурка сукна лазуровага — дзве копы грошай літоўскіх, поес чырвоны з ножамі — 24 гроша, кобераc — 4 копы грошай літоўскіх, хустка, вышываная чырвоным ядвабам, — 2 залатых…» І далей, ажно да вечара. Указваліся цэны, таму што дзе-дзе, а ў палацы за маёмасцю сачылі, і калі б падмяніў хто шубку заечую — многа бізуноў хадзіла б па спіне ахмістрыні і яе памочніцы!

Выпадкова з паграбіцы выцягнулі скрыню, адчыніўшы якую, убачылі жанчыны зброю — панцыр, поручы, бляхі, барвіцы* ляжалі там, а паверх — бярдыш** з прыгожай рукаяццю.

— Гэта ўсё пана Канстанціна, — задуменна сказала ахмістрыня. — Такой зброяй татараў ён сек, ваяваў з ворагамі Княства… Ах, Божа вялікі! Якая слава аб ім грымела, а памёр — і цяпер іржою пакрыюцца ягоныя прылады.

---

* Барвіца — кальчужная сетка ад ніжняй часткі шлема да плячэй.

** Бярдыш — халодная зброя ў выглядзе шырокай сякеры з закругленым у форме паўмесяца лязом, насаджаным на дрэўка.

— Не пакрыюцца! — падышоў непрыкметна Андрэй, доўга глядзеў на даспехі. — Няма спакою вакол, кроў яшчэ ліцца будзе…

Зачынілі скрыню, аднеслі назад, а ў Еўкі сэрца кроўю аблілося — гэта ж колькі людзей некалі лягло пад тым бердышом?!

А з другіх дзвярэй падзямельных барылы* з мядовым напіткам выносілі, пляцёнкі баршчу, галоўкі капусты ды рэдзькі кошыкі, сала вяпровага, ялавічыны скрынкі, а яшчэ гваздзікі, шафран, перац — усяго не злічыць. А далей не грузілі — прымалі ад мужыкоў вепраўшчыну, і тыя ж скрыні, барылы, глякі ў падзямеллі неслі ды неслі. Кіпела вакол, віравала работа, і Еўка сцішылася. Рабіла сваё, толькі ўначы падумалася ёй — а што ж там, у Нясвіжы, чакае? Што яна ўбачыць? Можа, і лепей паехаць, каб адляцелі мары ды прывіды, каб перастала думаць пра жыццё дарэмнае і марнасць усіх клопатаў навакольных? Адвязе ліст у канцылярыю пана Мікалая, паглядзіць, якім стаў Нясвіж. Андрэй на развітанне падарыў ёй жменю манет, пастаяў побач, задуменна сказаў:

— Адна душа была блізкаю, дый тую звялі… Ты ж, дачка, беражы там сябе, душу сваю беражы ад уздражнасці** і злосці.

— Так гаворыш, бацька, нібы са мной развітваешся, — папракнула яго Еўка.

— Мо і так, — згадзіўся Андрэй, — Перастаў ад жыцця чакаць нечага, можа, таму і не надта ім даражу.

І пяшчотна пагладзіў яе па плячы, павярнуўся і рушыў да сваіх кніг.

Канчалася зіма 1555 року. У Варшаве, у зімовым садзе каралевы-маці, цвілі нязнаныя на Польшчы кветкі, пахла лімонавым веццем. Старая ўжо, але вёрткая і парывістая, з калючым поглядам маленькіх цёмных вочак на пажоўклым, азызлым твары, Бона літасціва дазволіла Беаце пацалаваць руку, абняла яе.

Каралеву Бону многія не любілі і пры двары, і ў аддаленых землях Княства за сквапнасць і неразборлівасць у сродках. Але адносіны яе да Беаты Касцялецкай выклікалі здзіўленне — мала ўступалі яны адносінам каралевы да родных дачок. Шапталіся, што тут уладарка перавышала жанчыну, Бона шукала аддадзеных ёй людзей. А родзічы Беаты былі ўдзячны ёй бязмерна.

---

* Барыла — бочка, мера вадкіх рэчываў.

** Уздражнасць — раздражненне.

Праўдай было тое, што род Касцялецкіх, пачынаючы ад самога Андрэя, кашталяна Вайніцкага, і канчаючы біскупам пазнанскім Янам, таксама сынам караля, быў з тых, чыёй сілай чужая для польскай Кароны італьянка так цвёрда трымала ўладу. Але лепшыя гады Боны прайшлі. Сын яе, Сігізмунд Аўгуст, які ў маладосці піў і еў толькі з матчыных рук, цяпер, пасля многіх сварак і сутычак, а асабліва пасля загадкавай смерці Барбары Радзівіл, стаў смяротным яе ворагам. А яна, нягледзячы на старасць, была яшчэ кусліваи і грознай, любіла паказаць сваю ўладу і таму, насуперак яму, з падкрэсленай любоўю прыняла Беату з Гальшкай.

Слугі, стоячы за дзвярыма, побач з пакаёвымі паннамі каралевы, назіралі за тым, як прысела перад каралеваю Гальшка, схіліўшы аж да зямлі ўкрытую лёгкім белым покрывам галаву. Лазуровая яе сукня была вышыта дыяментамі, дыяменты блішчалі на мяккіх русых валасах. Пані Беата была ў барвовым, абшытым пясцом плашчы, вялікая залатая фібула жаўцела на шыі, светлыя валасы, укладзеныя ў адмысловую прычоску, былі пакрытыя белай карункавай хусцінкай.

Садоўнік-італьянец зрэзаў з вялікага пышнага куста белую ружу, падаў яе Боне. Тая панюхала кветку, палюбавалася ёю, пасля працягнула Гальшцы:

— Вазьмі. Усе кавалеры пры двары анямеюць ад тваёй красы.

— Іх і так шмат, міласцівая пані, — тонкім галаском адазвалася Беата, дапамагаючы дачцэ прышпіліць кветку да грудзей. — Мне б толькі выдаць яе замуж як належыць.

Боне падалі другую кветку, яна азірнулася (панны адразу ж падставілі ёй разьбяную лаву, яна грузна села на яе), пасля задумалася, гледзячы на маладую жанчыну, чые прыгоды ўсхвалявалі дзве дзяржавы і нават суседнія краіны. Расправа над Змітраком Сангушкам, пажадлівыя заходы польскіх і літоўскіх паноў былі ёй добра вядомы. Але яна ведала, што сын яе, Жыгімонт Аўгуст, пакуль схільны аберагаць Княства ад паноў польскіх, не даць ім замацавацца на яго землях.

Яшчэ з тых даўніх часоў, калі, застаўшыся пасля смерці Ядвігі не надта пажаданым каралём Кароны польскай, ліхаманкава шукаў навокал хаця якой падтрымкі Ягайла-Уладыслаў, былы самастойны ўладар магутнага Вялікага Княства Літоўскага, засталася ў ім перасцярога і ўпэўненасць, што ён і патомкі яго, у выпадку чаго, маюць свае, патомныя землі. Сын Ягайлы, дванаццацігадовы Казімір, быў ужо аднойчы аб'яўлены незалеж-

ным ад Польшчы князем, і толькі вялікае жаданне Кароны не страчваць магутныя землі на ўсходзе прымусіла папоў згадзіцца на абранне Казіміра яшчэ і каралём польскім. Астацца сам-насам з крыжакамі было небяспечна, і менавіта землі Княства надавалі Ягелонам моцы ў самыя першыя дзесяцігоддзі іх уладарання. Да таго ж старадаўнія праваслаўныя роды, якія яшчэ трымалі ўладу ў Княстве, клапаціліся пра яго незалежнасць. Статут літоўскі не дапускаў, каб паляк, жанаты з беларусінкай, заставаўся на яе землях — не, ён атрымліваў выкуп — за зямлю, якая ўся заставалася за родзічамі жонкі.

Бона ведала гэта. Ненавіснымі былі ёй самыя магутныя ў Княстве Радзівілы, якія ўжо «па кудзелі»* пабывалі на троне і якія нізавошта не дапусцілі б яе выбару для маладой князёўны Астрожскай, дзед якой быў нездарма надзеяй і гонарам беларусінаў і ўкраінцаў. Усіх іх яна ўяўляла зараз, гэтых ганарлівых, незалежных баяр, якія давалі каралю тытул вялікага князя літоўскага і Белай Русі — Паўла Сапегу, ваяводу навагрудскага, Станіслава Паца — віцебскага ваяводу, Юрыя Тышкевіча, што сядзеў на Брэстчыне, Мікалая Тальвоша — кашталяна мінскага, Юрыя Зяновіча — кашталяна полацкага. Даходзілі да яе звесткі, што менавіта іх падтрымкай ўпаўзла на землі Княства і Кароны ерась арыянская, з зямель еўрапейскіх пушчаная.

Калісьці яна многа зрабіла для таго, каб юнакі Кароны і Княства ехалі вучыцца ў родную яе Італію, у другія еўрапейскія землі. Але, як і ўсюды, для валадара трэба трымаць быдла найлепей у стайні, каб яно не надта многа ведала. Бо менавіта гэтая моладзь, падвучаная ва ўніверсітэтах, была цяпер сілай. Насенне, якое каралева дапамагала сыпаць, цяпер спела, як калоссе, на тых акрутных, упартых землях і прыносіла горкія плады непаслушэнства. Нават сын яе, Жыгімонт Аўгуст, гатовы быў калі не спрыяць, то не перашкаджаць схізме. Што ж, яны, тыя палітыкі, мелі рацыю, адзін за адным адпадаючы ад каталіцтва і праваслаўя і пераходзячы ў кальвінізм. Яны робяць разлік на тое, што чужая польскай і маскоўскай ідэям рэлігія можа стаць асновай для сваёй, толькі *іхняй* дзяржаўнасці! Гледзячы на тоненькую, бледнатварую дзяўчынку, якая стаяла перад ёю, Бона звыклым поглядам палітыка ацэньвала сітуацыю, але і жаночае, даўно забытае шкадаванне варухнулася ў ёй — аддадуць каму-небудзь у ахвяру, дзеля земляў і чужых разлікаў, якія гэтае

* «Па кудзелі» — па жаночай лініі, «па мячу» — па мужчынскай.

дзіця нават не разумее. А пасля будзе ўсё астатняе жыццё толькі слухаць распавяданні пра нейкае там вялізнае, страшнае каханне і — верыць і не верыць тым распавяданням…

Яна дазволіла гасцям пажыць з ёю, у яе пакоях. Сын не асмеліцца чапаць іх тут. Усё яшчэ моцнай была старая каралева, і каля яе, пры яе двары, былі і цяпер многія з тых, хто спадзяваўся на літасць каралевы, каб выхапіць сабе староства альбо прыдворны чын. І вечарам поўна было ў пакоях, дзе каралева прымала гасцей. Спевакі, прыехаўшыя з Італіі, каб вярнуцца назад з грашыма і каралеўскай літасцю, флейтысты, блазны адзін за адным выходзілі на навошчаную, на самы новы еўрапейскі манер, падлогу перад высокім, з чорнага дрэва крэслам, дзе сядзела каралева, і пацяшалі гасцей. Свечкі ў залатых кандэлябрах, люстры з венецыянскага шкла, высокія крышталёвыя келіхі на століку перад каралевай, дыяменты ў валасах жанчын — усё ззяла, пералівалася ў жоўтым святле мноства свечак, ад грубак, пакрытых тоўстай кафляй, несла цяплом, але і пахла гарэлым. Там, за сценамі, у перадпеччы, сядзелі печнікі і бесперапынна клалі на тлеючае вуголле альховыя, бярозавыя альбо сасновыя калоды.

Каб перабіць пах гарэлага, падлогу перад прыёмам злілі пахкай вадою, і Беата, якая была зацягнена ў новую, аксамітавую, але з празмерна тонкай таліяй сукню, ледзь не траціла прытомнасць. Але нічым гэтага не паказвала, абмахваючыся шытай золатам хусткай, вяла размовы.

Многія са старэйшага пакалення, гледзячы на яе, успаміналі вяселле першай тады прыгажуні пры кракаўскім двары, з князем Іллюком Астрожскім якраз на другі дзень пасля таго, як дачка старога Жыгімонта павянчалася з вялікім князем сямігародскім і будучым каралём Угар, Іванам Заполіяй. Нароўні з каралевічам Жыгімонтам Аўгустам стаяў на тым вяселлі каралеўскай дачкі князь Іллюк, чыё вяселле адзначылі амаль гэтак жа пышна, як і папярэдняе. Многія тады ўздыхалі ад зайздрасці, што прыгажуня Беата з'язджае з Кракава, а паны-рада на Літве, ведаючы, што ў пасаг не дае панна Касцялецкая мужу амаль нічога, толькі круцілі галовамі, гаворачы пра яе звычку да раскошы і славы. Яна і на гэты прыём апранулася не як маці дарослай дачкі, а як маладзюткая дзяўчына, — на влошскі манер: светлыя валасы забраны ззаду ў вузел. Сукня на шыі перахоплена вузкім шнурком, твар патанае ў карунках, пышныя рукавы захіляюць Гальшку.

Беата ж шкадавала, што каралева жыве не ў Кракаве, горадзе, любімым ёю, а ў Варшаве. Там, у Кракаве, сапраўды ўсё лепшае,

што было ў жыцці — маладосць, каханне, поспех пры двары… А пасля — кароткая радасць жыцця з мужам і клопаты, турботы з-за маёмасці, з-за велізарных багаццяў, якія ёй радасці не прыносілі… Пасля прыёму, паскардзіўшыся старой Баркулабісе, доўга не магла заснуць Беата, забыўшыся нават, як звычайна, пацалаваць на ноч дачку.

Цёмная, яшчэ амаль зімовая ноч плыла над Варшаваю, над Кракавам, дзе малады кароль, схіліўшыся над картаю Каралеўства, слухаў гарачыя словы Мікалая Сянніцкага*, арыяніна, аб тым, што роўнасць людзей — права, дадзенае ім пры нараджэнні, а сакратар каралеўскі, Францішак Красінскі, нячутна выходзіў туды і сюды, падносячы на старадаўнім лакавым, прывезеным з усходніх краін, падносіку цяжкі, з мноствам граняў старадаўні келіх з шафранавым пітвом, і, слухаючы госця, зласліва ўсміхаўся пра сябе… Маладая Гальшка бачыла ў сне вясёлага, прыгожага, як грэчаскі бог, спевака, а яшчэ сніла, як бяжыць яна па лузе, затканым, як на габеленах, белымі ліліямі.

Еўка ж у гэтую ноч, калі над палямі ярка гарэў Уласажэлец**, дабралася да сваіх, змучаная фурманкай, дзе ў ногі дзьмула, як з бездані.

Бацькоўскі двор здаўся ёй пацьмянелым, як бы ўрослым у зямлю. Лямус, стайня з вазоўняй, гумнішча — усё было як бы збрoснелым, заледзянелым. Фурман, прывязаўшы каня да «компаса»***, пайшоў у кухню вячэраць, а Еўка, падняўшыся па высокім, з балясінамі, ганку, прайшла ў сталовую, дзе ўжо чакала яе маці.

Усё тыя ж абразы, атуленыя бялюткімі, з чырвонай вышыўкай ручнікамі, віселі на покуці, на пабеленых сценах месціўся: стары, старанна зацыраваны габелен, падораны некалі, пад ім — два разьбяныя куфры. Лава была засцеленая мядзведжаю шкураю, добра працёртай — яе таксама пазнала Еўка.

Кранула, што маці, чакаючы яе, відаць, ужо колькі дзён апраналася ў лепшае: на цёмнай сукні — летнік адамашкавы**** з аксамітнымі ўстаўкамі, на галаве — намітка з вісону*****.

---

* Мікалай Сянніцкі (1521–1582) — арыянін, знакаміты прамоўца сеймавы.

** Уласажэлец — сузор’е Пляяд.

*** Компас — высокі слуп, да якога прывязвалі коней.

**** Адамашак — шоўк. Тканіна з Дамаска.

***** Вісон — батыст.

Устала з лавы. Твар асвяціўся радаснай усмешкай. Пайшла насустрач, стрымліваючы сябе. Хварэла маці, гэта было адразу заўважна, мусіць, рыхтавалася і да смерці, таму што ўвесь час была сцішаная, рухалася мала, толькі неадрыўна глядзела на даччын твар.

І бацька выйшаў не абы-як — у вышываным жупане, накрытым тонкай скурай, ботах з высокімі халявамі. Натапыраныя доўгія вусы зусім сівыя. І сястра Ганна, якая ўжо замуж была выдадзеная, але з-за смерці мужа вярнулася да маці, таксама выбегла прыбраная — у саяне зялёным люнскім, з шалікам адамашкавым гваздзіковым на галаве. Па гэтых прыкметах, а таксама па тым, як трымаліся з ёю родныя, зразумела Еўка, як высока ставяць яны тое, што дачка іх жыве не абы-дзе, а ў самой пані Астрожскай, у чыіх жылах цячэ кроў каралеўская. Горка ёй стала на душы — не ведаюць яны, што дачку ў тым Астрозе бізунамі секлі, што пані з ёю не гаворыць! Даведаўся б аб тым бацька — памёр бы, мусіць, ад сораму. «Але ж, — адразу падумалася ёй, — абое яны — і маці, і бацька — былі калісь пры Радзівілах, дык няўжо там не прывыклі да свавольства магнацкага?» А пасля зразумела, што бацька, доўгія гады жывучы сваім дваром, і сапраўды забыўся на ўсё, што закранала некалі гонар, і помніў толькі бляск забаў, свавольствы і ўцехі. І гэта сагравала яго ў самотнай старасці. Тое ж, што жыў ён цяпер ні ад кога не залежачы, забыты і Богам, і Радзівіламі, поўніла яго гонарам, што — змог сам стаць на ногі, не зламаўся. А цяпер вось яна, дачка, перад суседзямі — такой жа шляхтай, як і ён, — дапамагае трымаць гонар. І ўжо, вядома, заўтра наладзяць у маёнтку баляванне і прымусяць яе расказваць, расказваць, што там да чаго… Ведалі і тут, на Белай Русі, аб прыгодах Гальшкі Астрожскай, гадалі-думалі, хто стане наступным мужам, і тое, што Еўка мае да таго хаця якое дачыненне, і на яе клала нейкі водбліск незвычайнасці, таямніцы.

Назаўтра сапраўды наехала шляхты — процьма. Прыехалі нават паны Завішы, а таксама Кітовічы — мноства паненак на выданні, усе вёрткія, цікаўныя, як векшы*. І, на радасць маткі і бацькі, змаглі яны суседзяў прыняць як мае быць. На стале былі не толькі свае, мясцовыя страны — дзічына, зайчаціна і вепрычына, густа, аж да звону ў вушах, пасыпаная перцам, тоўчаным мускатным арэхам і гваздзікамі, шчупакі і галаўні ўпечаныя,

---

* Векшы — ваверкі.

але і галяндэрскія* селядцы, і гарчыца, і каша з дарагога рысу. Трайныя мяды, віно пілі пераважна мужчыны. Але і для жанчын, спецыяльна з самога Нясвіжа, з аптэкі, былі прывезеныя розныя салодкія прысмакі, стаяла некалькі галовак цукру, розныя варэнні. А яшчэ — і такое бачылі паны ўпершыню — на стале паставілі два гарбузы, напоўненыя замарожанай белай масай з малінавым прысмакам. «Марожанае», — ганарліва растлумачыла недасведчаным Ганна. Нават мужчыны пакаштавалі дзіўнае тое марожанае, але салодкае не надта спадабалася ім, і яны перайшлі на віно, жалудовую і гваздзіковую гарэлку.

І Еўка мусіла расказваць. Гаварыла яна складна і займальна — усе сядзелі як скамянелыя. Пра ўсё расказала: і як пана Сангушку на стайню валаклі, і як, сустрэўшы дачку пасля, пані Беата розныя падрабязнасці судовай справы аб тым здарэнні расказвала.

Шляхта таксама ведала, што на справе аб выкраданні князёўны Астрожскай сутыкнуліся два моцныя ворагі — колішні ваявода Марцін Збароўскі і гетман Ян Тарноўскі, цесць Васіля Канстанціна Астрожскага. Яны і нагаварылі каралю, што гетман Тарноўскі хоча праз шлюб той уцерціся ў давер да аднаго з самых моцных родаў Княства і ўплываць на яго справы. Было вядома, што ўжо перад судом пароль у лісце да Мікалая Радзівіла Рудога, свайго ўлюбёнца, наракаў на гетмана. А некаторыя мясціны з суда над Сангушкам, перапісаныя, хадзілі на руках, і імі зачытваліся, нібыта старадаўнімі раманамі пра каханне. У архіве Радзівілаў быў увесь пратакол суда, і пісарам пры двары давалі вялікія грошы, каб перапісалі яны выступленні сведкаў, а асабліва — рэчніка Адахоўскага, заступніка Змітрака Сангушкі. Пры Еўцы не хацелі надта выказваць свае адносіны да Сангушкі, якому спачувала ўся шляхта Белай Русі, але месца, дзе гаварыў Адахоўскі пра княгіню Беату, усе ведалі і помнілі:

«О літасцівы каралю і найяснейшы гаспадзіне! Помні на тое, якая то нявеста і маці — тая княгіня Іллёва? Яна сквапная; да сэрца прыпадаюць ёй тыя замкі, месцы, вёскі і воласці, каторымі ўпраўляе і каторых з рук сваіх не хоча выпусціці, каторыя з дачкою і мужам яе падзяліці не хоча… Што за маці, якая кажа: няхай абое згінуць, абы я адпомсціла?»

Ведалі тут, што польскія вяльможы ўсе галасавалі за смяротны прысуд Сангушку, а баяры Княства — за тое, каб даць трохі часу на рашэнне гэтай справы. Але, паколькі было іх меней і

* Галяндэрскія — галандскія.

пакольні, вывозячы Гальшку, пакінуў Сангушка без дагляду пагранічныя гарады, за якімі павінен быў назіраць, і вынес яму пароль смяротны прысуд. Спрачаліся цяпер за сталом: што вышэй — каханне ці ваенны абавязак? І, як заўсёды, жанчыны казалі адно, а мужчыны — другое. За вясёлым тым гвалтам спачатку не пачула Еўка таго, што казаў пан Завіша. Але ўсё ў душы адразу напялася, і стол паплыў перад вачамі, калі данёсся да яе працяг:

— І шрам той, блізна* страшная на твары пана Марціна так і засталася з тае начы. Але як тое было — нічога не кажа ён. Дый не падступіцца да яго — бакалаўр жа, вучыць дзяцей шляхты!

Еўка ціха нахілілася да маці:

— Пра каго пан Завіша гаворыць?

Маці не пачула спачатку. Сухенькая, звялая, яна сядзела, абводзячы гасціну заклапочаным позіркам. А кал і пачула, адказала абыякава:

— Тут, у Нясвіжы, прыехаў летась… Бакалаўр малады… З бедных Завішаў…

І зноў, як калісьці, усю доўгую ноч Еўка не магла заснуць. Стаяла ля акна, глядзела, як у цемры трымцяць на марозным ветры старыя вербы, як з глухім шэлестам час ад часу мяце па ганку лёгкая завея і, уздыхаючы, перажоўвае сена ў хляве скаціна. Пад ранак на двары зазвінеў лядок пад нагамі работнікаў, зацурчэла малако ў даёнках, глуха застукалі ў ахвіцынях маслабойкі. Бацька выйшаў на двор у калматым кажуху, і радасна падбег да яго сабака, падобны да колішняга Чмеліка… А тонкі серпік маладзіка гэтак жа, як і паўтара года назад, у Німбургу, упарта вісеў у паружавелым небе, і толькі праз дзверы раптам, нібыта недзе хлынула ў дом ранішняе паветра, пацягнула слабым пахам алешыны, пахам першай маладой траўкі. Яна глыбока ўдыхнула яго і раптам паверыла, што жыццё яшчэ ўсё наперадзе, што шчасце для яе не спрахла недзе, не знікла ў невядомых скрынях, а чакае яе, такое ж нясмелае, жыватворнае, як гэтае паветра роднага кута…

У Нясвіжы яна спачатку разгубілася — куды ехаць? Увесь ён быў іншы, нібыта цалкам перанесены з другіх краёў. Але гэта гады — тыя гады, што яна правяла ў Астрозе, далёка адсюль. Раз за разам нешта змянялася тут, і ўсяго чатыры зімы назад сястра колішніх уладароў была каралеваю Польшчы. Нягледзячы на тое,

* Блізна — рубец, шнар.

што Барбара памерла, Радзівілы з кожным годам узмацняліся ўсё болей. Нясвіж, увесь у будаўнічых лясах, нібыта заяўляў аб тым, што варта толькі захацець таго Радзівілам — і сюды, а не ў Кракаў ці Варшаву будуць з'язджацца паслы і замежныя госці… Таго ніколі не суджана будзе ім, але застанецца Нясвіж — памяць пра доўгавяковую іх магутнасць…

Пані Беата як у ваду глядзела — гаспадар прыехаў сюды на кароткі час з Вільні. Агромністы, яшчэ не цалкам пабудаваны замак стаяў на месцы колішніх камяніц, але цяпер ён чамусьці быў абкружаны вадой. Няўжо і ваду прымусілі тут цячы так, як таго захацелася гаспадарам? У канцылярыі яе пачціва прыняў замкавы ўраднік, пакланіўшыся, прапанаваў пачакаць.

— Мне толькі аддаць гэты ліст яго мосці, — сумеўшыся, сказала Еўка. Перадала вялікі скрутак з чырвонай пячаткай.

— А можа, вас захочуць распытаць пра што-кольвечы? — ураднік выклікаў пісара, загадаў далажыць яго мосці і, толькі дазнаўшыся, што пан Мікалай прылёг адпачыць, адпусціў Еўку. Павагаўшыся, яна папрасіла знайсці пана Марціна, настаўніка.

Ураднік зноў выклікаў некага з дваровых слуг, а калі той, вярнуўшыся, далажыў, што бакалаўр з раніцы паехаў у Клецак, папрасіў Еўку прыйсці пазней ці лепей заўтра раніцай. Яна выйшла, шчыльней захутаўшыся ў хустку з казінага пуху, адчуваючы, як, нягледзячы на цёплы суконны каптан, прабіраюць яе дрыжыкі. Да абеду хадзіла па Нясвіжы, азіралася, заходзіла ў крамы. Гандлёвая плошча з ратушай была запоўненая людзьмі, у крамах прадаваліся тавары з замежных краін, прылаўкі згіналіся пад кукламі адамашка і белі, ядвабу і мяхоў. Зазыўна крычалі абутнікі, шкляры, кушнеры. Далей гандлявалі сваімі таварамі рымары, сырамятнікі, бондары, і войт, выйшаўшы з ратушы, паважна гаварыў нешта сваім дарадцам, якія пачціва слухалі яго, схіліўшы галовы ў модных каўпаках і берэтах. Еўка зайшла нават у новы, толькі што пабудаваны касцёл. Там, ля сцяны, белай і высокай, на рыштаванні, стаяў жывапісец, з-пад пэндзля яго выглядаў пяшчотны і задуменны твар Радзівілаўны, абрысы яе каралеўскай сукні. Пасля Еўка зноў крочыла па Нясвіжы, а спадарожніца, эканомка, хадзіла за ёю, задыхаючыся ад хваробы, што засела ў вантробах, трасучы дробна старэчай галавою.

А ўвечары, калі маладая жанчына ў палатняным каптанчыку, з касой, што ўпала на плечы, і ў простым чэпчыку дапамагала бацьку лічыць сярбшчызну, якую яшчэ трэба было здаць дзяржаўнаму войту, застукалі колы, са скрыпам расчынілася брама,

прапускаючы госця. Еўка змярцвела. Але то быў толькі малады, гадоў сямнаццаці, отрак у светлым жупане і чырвоных портах, падпяразаны шырокім вышываным поясам. Ён пачціва пакланіўся Еўцы, а пасля, паклікаўшы яе ўбок, перадаў словы яго міласці бакалаўра пана Марціна, каб яна не шукала з ім сустрэчы. Ніколі. Нізавошта. І дадаў яшчэ чамусьці отрак, скончыўшы гаварыць, — «аман». Ці ад сябе. Ці ад Марціна.

Аглушаная, Еўка глядзела, як схаваўся ён за брамай, як работнікі доўга стукалі клямкаю, зачыняючы вароты. Бацька нешта пытаўся — яна не адгукалася. Пайшла ў пакой, дзе стаяла лава, на якой спалі яна і сястра, паваліліся на сяннік, уткнулася тварам у свежую пошаўку* і праляжала так паўночы без думак, амаль без дыхання. У галаве звінела, чорным каменнем перакатвалася гэтае «аман». І розныя думкі, адна за адной, мітусіліся ў разгарачанай галаве. Чаму? За што? Ёй жа — нічога не трэба. Толькі ўбачыцца! Толькі глянуць! А недзе апоўначы раптам новая з’явілася думка, — шкадаванне ахапіла ўсю яе істоту, гарачай хваляй разлілося па целе.

Гаварыў жа пан Завіша пра страшны шнар на ягоным твары! Можа, таму і не хоча Марцін яе бачыць? Можа, баіцца яе вачэй? І тады, устаўшы, пайшла яна ў пакой для гасцей і там, развёўшы вадою стары, ледзь не засохлы атрамант-чарніла, напісала колькі слоў і раніцай папрасіла завезці той ліст зноў у канцылярыю.

Колькі дзён прайшло — адказу не было. І тады зноў папрасіла яна ў бацькі каня і, узяўшы старую эканомку, паехала ў Нясвіж.

На гэты раз яна не пайшла ў замак, а, зайшоўшы ў касцёл, уступіла ў размову з жывапісцам, якога бачыла яшчэ ў першы прыезд. Гэта быў влох**, і ён, пачуўшы гаворку па-латыні, узрадаваўся, як дзіця. Блытаючы русінскую і влошскую мовы, расказаў, што другі год жыве ў Нясвіжы, плацяць яму тут добра, але што блага — няма ў людзей той весялосці і адкрытасці, як у роднай Італіі. Можа, ад таго, што прырода тут суровая, людзі такія ж — негаваркія, замкнёныя. І жанчыны прыгожыя таксама глядзяць сурова, вось яна, белісcіма, — Ева, о Ева! — паводзіць сябе як цывілізаваная жанчына, не баіцца загаварыць з бедным іншаземцам…

Паўгадзіны не прайшло, а Еўка ведала ўжо, што Джыавані сябруе толькі з панам Марцінам, але і сяброўствам гэта ледзь назавеш. Пан Марцін таксама замкнёны, але душа ў яго залатая, і ён гаворыць таксама на італьянскай мове, а яшчэ — па-нямецку

* Пошаўка — навалачка.

** Влох — італьянец.

і па-польску. Хоча пан Марцін пайсці яшчэ ў духоўную семінарыю, староніцца жанчын, а дзеці яго, як ні дзіўна, слухаюцца. Увечары заўсёды прагульваецца адзін, ідзе вунь па той дарозе, таксама адзін, і хаця б узяў калі які кінжал, бо ў Нясвіжы многа прыезджых людзей, вунь якое будаўніцтва…

Упарта, нягледзячы на ўгаворы эканомкі, сядзела Еўка ў карчме, ела і слухала, як гавораць мужчыны і жанчыны аб налогах на піва і як знішчаюцца ўсе корчмы, што не пры гасцінцах, таму што часта заводзяцца ў іх падазроныя людзі. Выйшла адтуль толькі тады, калі закацілася сонца і на вуліцах пацішэла. А пасля хутка пашыбавала па адзінокай дарозе міма пасаджанага калісьці парку, туды, дзе дарога гублялася ў хмызняку, а яшчэ далей атулялі яе магутныя яліны.

— Бог з табой, мая паненка! Няхай заўтра заб’е мяне твой бацька, але я душа хрышчоная, не пайду нанач у лес! — сказала, хрысцячыся, эканомка і засталася непадалёку ад палаца, а Еўка хутка, нібыта хто яе гнаў, пайшла па дарозе. Увайшла ў лес і стала пад ялінаю, адчуваючы, як шалёна б’ецца сэрца. Адталы за доўгі, ужо амаль вясновы дзень лядок зноў падмёрз, яна баялася хадзіць, таму што ў сцішэлым лесе чуваць было далёка — так далёка, што, калі пачаў вухкаць сыч, рэха панеслася скрозь, ажно да самага палаца.

Неўзабаве на дарозе паказалася адзінокая фігура, яна панура рухалася ў бок лесу. Нехта — высокі, у цёмным, — ішоў сюды, таксама як і яна, адзінокі.

Калі чалавек параўняўся з ялінай, Еўка адчула, як кінулася ў твар кроў. Гэта не быў твар Марціна, з яго юначай гожасцю і мяккасцю. Твар мужчыны, глыбока перарэзаны ўродлівым шнарам, твар, дачасна састарэлы, пакутлівы і худы, выглядаў з-пад чорнага капюшона. Але ўслед за гэтым яна пазнала яго — па вуснах, што, нават сціснутыя, захоўвалі нейкую лагоднасць, па вачах, разумных і задуменных. І — выйшла з-за дрэва.

Мужчына здрыгануўся, але ледзь прыкметна. Ён моўчкі глядзеў, як яна ішла да яго, худы твар закамянеў яшчэ болей.

Еўка хацела загаварыць — але горла было сцятае. І тады, не помнячы сябе ад жалю і журбы, яна зрабіла адзінае, што магло дапамагчы ім абаім, — яна абвіла яго рукамі, як свайго, як роднага, і, схапіўшы худыя яго пальцы, стала іх цалаваць.

Марцін, захоплены знянацку, стаяў, апусціўшы рукі. Яна не магла бачыць, што твар яго скажоны мукай, толькі пачула голас:

— Нашто вы… гэта?

— Я думала… я думала… вы мёртвы! — словы вырваліся з яе грудзей, яна, не стрымліваючыся, загаварыла, захлынаючыся, прасіла літасці — з-за таго, што не магла пахаваць яго, таму што і яе, як і Гальшку, сілай пасадзілі і павезлі. Яна расказвала, што і мёртвага любіла яго, што не жыла, а пакутавала… І што ніколі, ніколі не адпусціць яго болей…

Тады ён таксама абняў яе, і, не помнячы ні аб часе, ні аб акружаючым — ні аб чым, аглушаныя і накрытыя гарачай, нястрымнай плынню любасці і шчырасці, яны кахалі адзін аднаго, і, апроч зораў, што густа высыпалі ў небе, зялёнага мяккага моху і магутных ялін, што высока ўзнесліся ў неба, нічога не было, і толькі глуха, аднастайна, але ўпарта, не перастаючы, вухкаў далёка-далёка ў лесе сыч…

Праз тры дні Марцін разам з дзядзькам, старым Юрыем Завішам, прыехаў да Ваяра Касцевіча — прасіць, каб даў дазвол на шлюб і на прынящце дачкой кальвінісцкай веры.

Шляхціц выслухаў іх спакойна, пасля сказаў:

— Раз яго мосць выбрала для сябе гэтую новую веру, я нічога не магу сказаць пра яе благога — яму відней. Але дачка мая, як і мае продкі адвеку, праваслаўныя. Калі ёй так проста веру бацькаву змяніць, то як яна будзе вернаю малжонкай свайму мужу?

І не згадзіўся на тое, як ні гаварылі яму стары і малады Завішы пра тое, што новая царква бліжэй да простага чалавека, такога, як ён, і што паміж ім і богам не будзе цяпер хцівага і пагрузлага ў грахах духавенства.

— Што свяшчэннікі думаюць пра мірское і грашаць — праўда, — сказаў Касцевіч. — А што я просты чалавек — нязгода! Я — патомны баярын, род мой ад Гедымінавічаў ідзе і ад Рурыкавічаў адначасна. Нягледзячы, што я збяднеў — але гэта ў руцэ Божай. Спадзяюся падняцца, а можа, дзеці дапамогуць. Здаецца мне, што гэтую новую веру перачакаць трэба…

— Але ж дачка ваша кахае яго, — паказаў Юры Завіша на пляменніка, — і ён яе таксама!

— Можа, з-за таго вернецца да свайго, бацькоўскага, — спакойна сказаў гаспадар. — Загінуў яго бацька, як харобры воін, і сыну не прыстала ад яго адмаўляцца. Апроч таго, абяцаў я пані Беаце, што будзе да смерці дачка мая служыць Астрожскім…

Марцін выйшаў ад Касцевічаў счарнелы. Перадаў Еўцы ліст, дзе прасіў яе паўздзейнічаць на бацьку праз маці. Але Марта спалохана замахала рукамі:

— Я не красамоўца, думаеш, лацно* мне з ім жыць было? Усё жыццё слухаць слухаў, а рабіў па-свойму. Суседзі вунь невымоўне шкоды чынілі — маўчаў. А пасля сваіх пахолкаў** узяў ды з гакаўніцамі*** пана Богуша падсцярог. Аб чым гаварылі, не ведаю, але абыход**** наш цяперака ніхто не чапае…

А па нейкім часе бацька паклікаў дачку да сябе і сказаў ёй сурова:

— Час табе вяртацца, дачка. Вяртайся да пані Беаты. Тут табе не месца, і жаніх такі нам непрыдатны.

— Але чаму? — апускаючыся ля ног бацькі, яна падняла да яго змучаны за гэтыя дні твар. І папрасіла: — Злітуйцеся, тата!

Ён доўга глядзеў на яе, пасля прагаварыў:

— Вас не абвянчаюць без бацькоўскага благаслаўлення. І — не магу парушаць свайго слова. Я — шляхціч.

Ён не хацеў нават гаварыць пра Марціна, называючы яго здрайцам і адступнікам.

За гэтыя дні Еўка многа разоў спрабавала тлумачыць яму, што, заціснутыя паміж дзвюма магутнымі сіламі, думаючы пра сваю дзяржаўнасць, лепшыя людзі Княства шукалі асобнай рэлігіі, грунтуючыся на якой можна было б стварыць самастойную дзяржаву… Прынамсі, так гаварыў пра гэта Марцін, так думалі і ў Астрозе некаторыя магнаты з акружэння самой Боны. Што да Еўкі, то ёй цяжка было разабрацца ва ўсім, і думала яна толькі пра адно — што за Марцінам гатовая была ісці нават у пекла… Спачатку яна пра тое думала з жахам, пасля і такая плата стала здавацца мізэрнаю. Пражыць з ім жыццё! Душа яе, што спачатку разрывалася на часткі, паспакайнела, калі маладая жанчына зразумела, што гатовая плаціць любую мыту, перанесці любыя пакуты. Але і гэтага мала тым, хто мае большае права на яе жыццё і смерць, чым яна сама! І яна гатовая была ўзненавідзець бацьку, маці… Што ёй да права абычаёвага, якое гаворыць: «Гдзе бы каторая дзеўка без волі бацькоўскае і мацярынскае ішла замуж, такавая адпадае ад пасагу і ад імення бацькоўскага і мацярынскага»? Але страх перад бацькам не даваў гаварыць, яна толькі чаплялася за яго боты і прасіла:

— Злітуйцеся, тата…

* Лацно — лёгка.

** Пахолкі — дзецюкі.

*** Гакоўніцы — ружжы.

**** Абыход — гаспадарка.

А ён адпіхнуў яе і выйшаў. Загадаў запрагаць коней і фурману загадаў, каб вёз дачку да Варшавы, дзе б вырашыла тую справу пані Беата.

Калі ж садзілі дачку ў вазок, сказаў ёй коратка, што, калі вернецца яна ўпотай да Марціна, таго звольніць са школкі канцлер, таму што нельга прапаведніку, бакалаўру жыць з блуднай дзеўкай. Калі ж без згоды бацькоў пяройдзе яна ў веру кальвінскую, паганую, сам застрэліць яе з гакаўніцы.

— Што ж, — Еўка ўпершыню паглядзела бяссоннымі, абведзенымі сінечай вачмі на бацьку адкрыта, — застаецца чакаць.

— Маёй смерці? — шалёна глянуў пан Касцевіч. — Чакай. Але пры мне — ніколі!

У тыя ж дні ў Варшаву прыехаў кароль Жыгімонт Аўгуст.

Прыехаў заклапочаны, бо ехаў з Літвы да Петрыкава на сейм. Яшчэ з часоў каралевіча Казіміра ўсё набірала і набірала сілу шляхта, але цяпер, калі дзяржаву раздзіралі рознагалоссі, панырада Княства адкрыта гаварылі аб жаданні нарэшце набыць самастойнасць. Справа Гальшкі Астрожскай таксама была знакам, як захоча вырашаць кароль складаныя супярэчнасці ў Кароне.

Але цяпер Жыгімонт Аўгуст быў настроены іначай, чымся год назад. Адпадзенне Княства, якое за год набыло выразныя рысы мажлівасці, значыла для яго страту. Выбар — альбо-альбо — паўставаў перад ім з грознай сілай. Патрэбны былі рашучыя меры, каб спыніць гэтае раздзіранне дзяржавы, стрымаць паноў-раду і зноў прывесці іх да паслушэнства. Цяпер замужжа Гальшкі павінна было паказаць усім, што ад гэтага часу не будзе больш вялікай розніцы паміж межамі Польшчы і Княства, і таму ён вырашыў, што мужам Гальшкі стане Лукаш, граф з Горкі. Братоў Андрэя і Лукаша ён любіў, спадзяваўся, што яны аддзячаць яму той жа прыязнасцю і падтрымкай. Ваяводам Лукаш стаў пасля таго, як Ян Касцялецкі, родзіч княгіні Беаты, пайшоў у біскупы. Думалася, што гэта сцішыць Беату.

Дзеля таго па загаду Жыгімонта Аўгуста прыехаў Лукаш з родзічам сваім, Андрэем Чарнкоўскім, біскупам Пазнанскім. Тады ж Чарнкоўскі пайшоў у пакоі каралевы-маці і перадаў княгіні Іллёвай жаданне караля. Княгіня Беата задумалася было, але старая каралева заўважыла са здзекам:

— Мой сын нарэшце дабраўся да вашых скарбаў, твая мосць, і цяпер ужо амаль збройне выдае замуж дачку!

Беата ведала, што старая гаспадарыня гаворыць гэта дзеля сваркі, з хітрыкамі. І ўсё ж яна ўважліва слухала ўсё, што, шы-

буючы туды і сюды па драўлянай, гладка выструганай і воскам нацёртай падлозе, казала каралева. А тая паступова ўзбуджалася так, што на старых яе, амаль ужо незаўважных грудзях трымцеў адамашак, а коленская* курыльніца, зробленая ў выглядзе вастраверхага замка, з трубаў якой курыўся пахкі дымок, падскоквала на высокім буфеце.

— Ты ж даўно сядзіш на ўдовіным стольцы! — казала каралева. — І не дзіця неразумнае, каб цябе страфаваці — адчытваць, прабіраць. Нават стрый** Канстанцін — усяго толькі дарадца!

І Беата, якая гатова была ўступіць каралеўскаму жаданню, адмовілася прызнаць кандыдатуру Лукаша. Яна загадала перадаць каралю, што сама знойдзе мужа для дачкі. Біскуп доўга ўгаворваў яе — ало дарма. Каралева Бона шпіліла яго словамі дзёрзкімі і насмешлівымі.

Жыгімонт, якому біскуп, блытаючыся і стараючыся змякчыць адмову, перадаў яе, пачырванеў амаль пад колер яго шарлатнага — пурпуровага — каптана. Пасля з усяе сілы стукнуў кулаком па дубовым стале, за якім палуднаваў, ажно пасыпаліся цыновыя і сярэбраныя місы, упаў і раскалоўся келіх з тоўстага ўзорыстага шкла.

— Не будзе так, як ім хочацца! Каб бабы кіравалі каралеўствам!

Уначы двор каралевы-маці быў абкружаны стражнікамі, і, нягледзячы на гнеў яе і тупатанне, ад якіх ціхія вулачкі каралеўскага замка ажно трымцелі, вышэйшыя саноўнікі каралеўства ўвайшлі ў пакой да княгіні Беаты і, не застаўшы яе (тым часам яна ўцякла і схавалася ў лазні), павялі да выхаду маладую князёўну, ласкамі ды ўгаворамі стараючыся схіліць яе да шлюбу. Канцлер Асецкі даводзіў, што маці стала блага, і паслаў шукаць княгіню — каб супакоіць дачку.

Перад самым вянчаннем ёй прынеслі пярсцёнак, зняты з рукі маці, як згоду на той шлюб, і падчас вянчання, якое адбывалася ў капліцы, былі чуваць яе словы: «Згодна, калі на тое воля княгіні, маці маёй…»

Пасля, як адпусцілі яе зноў у пакоі да маці, адзін з маладых прыдворных, Андрэй Апалінскі, будучы велікапольскі генеральны стараста, напаўголаса сказаў епіскапу Пазнанскаму, які праводзіў вянчанне:

---

* Коленская — кёльнская.

** Стрый — дзядзька па бацьку.

— Ойча вялебны пане Андрэй! Два сэрцы з’ядналі вы, якім ніколі не быць разам. Неба не прымае каханне па прымусу.

І, стомлена гледзячы на яго, адказаў пахмурны Чарнкоўскі:

— Каханне — гэта для людзей простых, а нас узвышае над чэрню ўменне ахвяраваць сабою… ну, дзеля айчыны. А неба… Так, неба… Але бліжэй да нас з вамі яго мосць, кароль Жыгімонт. Вучыцеся гэтаму, мой шаноўны пане…

Кароль у гэты час шалёна імчаў па замерзлых пад ноч дарогах. Хрумцеў, лопаўся пад капытамі яго цісавага* каня малады лядок. Церусіў калючы, з наледдзю снег, неба, зацягненае начнымі аблокамі, грозна лажылася на ўзгоркі. Успона** на кані, вышытая срэбрам, рабілася вільготнаю, прыдворныя церусіліся ззаду. Жыгімонт сцішыўся, паехаў крокам, паправіў шлык*** з куніцы, што падчас скачкі насунуўся на вочы. Раптоўна ўспомніў вечар чатыры гады назад, калі імчаўся вось гэтак жа на рыцарскі турнір у Вільню, але тады побач была карэта, з якой выглядаў ружовы, выкшталцоны і дзівосны, як ружа, твар каралевы Барбары, яна ўсміхалася, паказваючы роўныя, белыя, як часнок, зубы, і ён, хмялеючы ад радаснага бляску ў яе вачах, забыўся на ўвесь той гвалт і сорам, якім абярнуўся быў ягоны шлюб з ёю. Забыўся на кпіны і ледзь схаваныя пад ветлівасцю абразлівыя інтанацыі сенатараў, гнеў і крыкі маці, на адмаўленне вянчаць іх адкрыта, на вачах усёй Рэчы Паспалітай… Успомніў і спалоханы, амаль дзіцячы тварык Гальшкі Астрожскай, пыхлівы, ганарлівы выраз вуснаў яе маці — што ж, калі яна, ягоная сястра па бацьку, хоча паказаць уладу — не дамо. Жыгімонт Стары быў памяркоўны, маці ж Беаты, Кацярына Цельнічанка, таксама была спакойнай, ціхмянай — адкуль у Беаты такая зацятасць? Успомніў, як сам з шаленствам крычаў сенатарам і путным**** пры двары, загадваючы сёння ж правесці вянчанне… успомніў, паморшчыўся і зноў памчаўся наперад, гонячы ў Петрыкаў, на сейм, дзе чакалі важныя дзяржаўныя справы, дзе гетман вялікі літоўскі Мікалай Руды Радзівіл сядзеў з лістом ад вяльмож Княства, са скаргамі, што яны церпяць уціск і акруту ад вяльмож Рэчы Паспалітай. Пішуць: паводле гэтага давядзецца ім шукаць іншую веру, якая б стала апорай пакрыўджаным, па-

* Цісавы — цёмна-гняды, каштанавы.

** Успона — гунька, покрыўка для коней.

*** Шлык — высокая шапка.

**** Путныя — чыноўнікі па асобых даручэннях пры двары.

колькі даўняя, грэчаская вера не дае такой абароны, а пакорліва схіляецца на ўсход… Караля трывожыла, што ў мінулым годзе ў Заблудаве была адкрытая коштам Радзівілаў першая на Белай Русі кальвінісцкая семінарыя, што заходняя ерась папаўзла па Княстве, што да маці-каралевы прыязджаюць пасланцы з Італіі і таксама шэпчуцца з ёю пра нейкі ордэн у каталіцтве, заснаваны Лаёлам, і што не раз ужо казала яму Бона, што толькі гэты ордэн здольны сабраць у адно дзяржаву, якая, нібыта сатлелае залатое рыззё, распаўзалася ў пальцах… Але і многія польскія вяльможы казалі пра тое, што, ад'яднанае і самастойнае, Княства стане здабычай ворагаў і што час дыктуе неабходнасць сабраць народы ў адно, аб'яднаўшы іх — праз унію і далей — у каталіцтва… Час, складаны і смутны, вымагаў дзеянняў, кароль, якога таксама раздзіралі групоўкі, сумняваўся і разважаў, а з усіх бакоў усё настойлівей, неадменней ціснулі на яго, і ён часам адчуваў сябе слабым і няздольным на тое адзінае, важнае рашэнне, якое акрэсліць лес народаў… Літва з Жамойцю, Малая і Белая Русь, Валынь і Падляшша, сама Рэч Паспалітая — розныя звычаі, мова, нават універсальныя лісты* даводзіцца пісаць па-беларусінску, па-польску і на лаціне…

Пра гэтае ж у тую ноч, толькі па-іншаму, думаў Марцін, які сядзеў у невялікім каменным дамку непадалёку ад замка разам са сваімі сябрамі над лістом, які прыйшоў са Швейцарыі. Гаварылася ў ім аб тым, што дасюль не могуць дараваць вучоныя ўсёмагутнаму Кальвіну яго памылкі. Усе шэпчуцца аб тым, што кроў, як бачна, цячэ ў чалавека так, як аб тым напісаў іспанец Мігель Сервет, а яго па загаду Кальвіна спалілі на вогнішчы. «Нечуваная і нябачная ў нас, на землях беларусінскіх справа, — чытаў кашталян нясвіжскі Міхал Кавячынскі, — колькі гадоў прайшло, і ўсе грамчэй гавораць аб тым, што Кальвін не лепшы, чым прадажнае каталіцкае духавенства…»

— Пан Мікалай будзе моцна гневацца за такі ліст, — сказаў другі брат Кавячынскі. — Ён адкрыў адзін кальвінісцкі збор, цяпер чарга за Нясвіжам. А нам як быць? Паспрабуй запярэч яму!

— Але і пан Сымон Будны чалавек найразумнейшы, дасведчаны, — сказаў, падняўшы галаву ад стала, Андрэй Крышкоўскі, падчашы. Ён не ведаў, што ўсяго праз год з невялікім зробіцца міністрам кальвінісцкага збору, які толькі будаваўся ў Нясвіжы.

---

* Універсальныя лісты — звароты да падданых.

— Але ж ён усё роўна кальвініст, — запярэчыў Марцін. — Хоча таго ці не хоча, але мусіць падпарадкавацца абшчыне. Канешне, Кальвін не Пан Бог, але для нас кальвінізм спрыяльны. Цяпер або ніколі! Толькі для таго, каб людзі зразумелі, што і як, патрэбны бітыя кнігі — так, як у Чэхіі, у Нямеччыне. Друкаваць іх не так цяжка, я досыць наглядзеўся на тое, калі вандраваў па тамтэйшых краях.

І яны ўчатырох пачалі горача гаварыць аб тым, што і як трэба будзе арганізоўваць у Нясвіжы. Гаварылі і пра друкарню, намячалі, дзе купляць абсталяванне, адкуль выпісваць друкароў.

І ўвесь час Марціна грызла скруха — як адпусціў ён у далёкі свет Еўку? Але сілай пашлюбіцца з ёю — значыць да смерці абразіць бацьку, чый выбуховы нораў і вальналюбства былі досыць вядомыя. Суцяшаў сябе тым, што пройдзе час, усё неяк абатрэцца і наладзіцца.

Грызла яго, нягледзячы на тое, што сам ён быў гарачым прыхільнікам новага веравызнання, сумненне — ці здольна яно вывесці дзяржаву і народ на самастойны шлях, ці пойдуць за ім людзі? Ведаў жа пра ўпартае, зацятае супраціўленне каталіцызму — пакуль у яго пераходзілі толькі некаторыя беларускія шляхетныя роды. Вось і бацька Еўкі — ад свайго не адступаецца, лічыць страту старой, бацькоўскай веры за здраду. А калі ўдумацца, то вера нібы бацькоўская, але яшчэ раней бацькі нашы Перуну ды Велесу маліліся, дасюль дзяды спраўляем і знаку ад мёртвых чакаем, калі цяжка, пытаемся на магілах, дзе znічы запальваем: як быць, шаноўныя дзяды, што нам параіце? То дзе ж ён — сапраўдны звычай дзедаўскі?!

Змучаная прыехала Еўка ў Варшаву. Прыехала ў ліпені, калі над Старым Мястам ярка свяціла гарачае сонца, спрабуючы прабіцца скрозь стагадовыя дубы і вялізныя каржакаватыя ліпы, пасаджаныя яшчэ пры Казіміру, а Вісла, накрытая безліччу залатых лускавінак, нагадвала вялізную лянівую русалку. Тут з нядаўніх часоў пачалі збірацца сеймы, і Варшава відавочна вырывалася наперад перад Кракавам і, як усякая новая сталіца, імкліва расла і пашыралася. Хаця акраінныя яе вулачкі ўвосень, відаць, яшчэ тапіліся ў цяжкай, чырванаватай гліне, ды каля цэнтра брукаванка ляжала роўна і весела, і дамы-камяніцы, ніжнія вокны якіх былі забраныя жалезнымі кратамі, пазіралі на прахожых насцярожана і задзірліва. Яшчэ на пастаялым двары Еўка даведалася, што Гальшка зноў выйшла замуж, але жыве яна асобна ад мужа, нягледзячы на загад караля.

Пані Беата сустрэла яе непрыветна.

— У мяне і сваіх клопатаў досыць, — заявіла з гневам. — А бацька твой ухвалы дастойны за цвёрдасць. Я не магу яго пераконваць, каб адпусціў цябе ў арыянства, хаця многія нашы сваякі гатовы надзець новую скуру і пяяць па-новаму. Не! Да таго ж — ці ён не чалавек слова? Ці ён не шляхціч!

Затое Гальшка сустрэла Еўку з нечаканай радасцю. Яна кінулася ёй на шыю, на вялікі гнеў мацеры, і, нягледзячы на той гнеў, настаяла, каб Еўка засталася з імі ў Варшаве, пры двары.

— Мамусю, як жа адпраўляць яе да тых барбараў? — лашчылася яна да маці. — Што ёй там рабіць? Сум на без яе, бо наша Альжбета заікаецца амаль на кожным слове. А мне так даўно хацелася паслухаць пра Баву, кнігу толькі што пераклалі з нейкай там сербскай! Альжбета дрэнна чытае па-беларусінску, нават латынь і тую як след не асвоіць! Я загадала перапісаць для сябе «Баву».

Альжбета і сапраўды, нібы знарок, запіналася, доўга ўчытвалася ў словы, чым выводзіла з цярпення Гальшку. Пасля таго як Еўка вызваліла дзяўчыну ад надаелых абавязкаў, яна ад радасці падарыла ёй сярэбраную жукавіну — пярсцёнак.

— Панна так доўга не спіць, і мой Януш ніяк не можа дачакацца! — сказала яна. — Калі я стану тут непатрэбнай, я змагу выйсці замуж, бо бацька мой не надта хоча сварыцца з пані Беатай!

Баркулабіха таксама абрадавалася Еўцы.

— Няма смачнейшае вадзіцы, чым з роднае крыніцы, — сказала яна. — Нешта абрыдла мне па розных кутах цягацца. А на цябе гляну — свая, яно і лягчэй.

Яна надта здала за гэты час, ногі яе раздзьмула, яны сталі вялікія, як калоды. Скардзілася на жыццё.

— Толькі ляжаш — а тут то вады цукровай падай, то гарбаты. Наша пані начамі дрэнна спіць, дый маладая таксама. Ну, як тут не будуць мучыць згрызоты, з такіх варункаў?

І яна расказала Еўцы ўсё ў падрабязнасцях, як сталася тое вяселле. Дадала ад сябе, што дарэмна іх гаспадыня працівіцца каралеўскай волі. Хаця шляхта і вольная ў Кароне, як нідзе болей, але ж кароль ёсць кароль, і не слабой жанчыне, хаця б і ягонай, як кажуць, сястры, важдацца з тымі замужжамі. Дадала, што, хаця Гальшка і вянчаная з графам Лукашам з Горкі, але ён — сам па сабе, а яна — сама па сабе, пры маці ды пры найяснейшай каралеве. Мучыцца трасянкай ды нейкімі мроямі.

Што Гальшку сапраўды пачалі мучыць мары, Еўка пераканалася хутка.

Вечарамі, калі ў кандэлябрах гарэлі свечкі і праз чырвоныя, зялёныя і жоўтыя шкельцы каляровых вокнаў свяціла поўня, ад чаго твар маладой жанчыны здаваўся прывідным, у спальню нібы ўваходзіў адчай. Еўка сядзела ў крэсле, чытала роўным голасам:

— Бава ўвайшоў у камору і ўбачыў паняў, а яны сядзяць на абедзе за сталом; і Бава ўвайшоў бліжэй і ўсланіўся на посах, рэчэ паням: «Для бога вас прашу і за літасць добрага віцязя Бавы». Калі чула Дружнена, як імянуюць Баву, не магла болей есці і піці і пайшла да пілігрыма і рэкла яму: «Ці бачыў ты, дзе Бава? Як яго знаеш, што яго дзеля просіш?»

Гальшка ўскоквала, твар яе чырванеў:

— Калі на мяне глядзяць нашы віцязі, я бачу ў іх вачах сквапнасць, але не бачу святла. Скажы мне, няўжо я такая брыдкая, што на мяне могуць глядзець толькі як на куфар з пенязямі?!

Еўка суцяшала яе, угаворвала, а самую яе грызла і грызла туга. Баялася сказаць Гальшцы пра Марціна і пра сябе, баялася — таму што была гэта яе апошняя надзея. Калі адмовіць Гальшка, калі не захоча ўгаварыць пані Беату — тады ўсё, тады можна сохнуць і жаўцець без аніякай надзеі на чалавечае жыццё, на шчасце.

Яна ўсё чакала зручнага выпадку, каб пагаварыць з Гальшкай, але хісткая надзея яе то разгаралася, то знікала, калі маладая пані, відаць, не дзеля падману, а ўсур’ёз заяўляла, што без Еўкі яна адчувае сябе адзінокай і скрушлівай, і што нікуды яе ад сябе не адпусціць.

— А калі я… вось так, як у кнізе, пакахаю? — аднойчы запыталася ў яе Еўка.

Гальшка на момант задумалася, а пасля заявіла з дзіцячай непасрэднасцю:

— Я загадаю, каб твайго мужа ўзялі ў мой маёнтак, да нас. Ён будзе таксама служыць пры нашым двары!

Еўка ўсміхнулася горка: не, Марцін не паедзе ў Астрог, ён застанецца на роднай зямлі. Не дзеля таго, каб мець грошы і пасады, вучыўся ён за мяжой, вандраваў па розных гарадах! Вяртаўся на радзіму, каб служыць ёй — і толькі ёй, радзіме… Адказала горка:

— Паненка сама пакуль не ведае, дзе будзе яе двор. Бач, нарачоны тваёй мосці сам можа не паехаць у Астрог, а ўзяць цябе да сябе, у Шаматулы. Ягоны замак там…

— Ён не муж мне! — успыхнула Гальшка. — Мяне вянчалі сілком! Мамуля кажа — лепей задушыцца, чым пакарыцца насіллю! Да таго ж гэты Лукаш нейкі слізкі, вёрткі, як вугар. І ўсё стараўся пагладзіць, а рука ў самога вільготная, як яшчарка!

Пасля дадала, памаўчаўшы:

— Мамуля кажа: калі купляць мужа, то харошага. Мой бацька быў не самым прыгожым пры кракаўскім двары, але затое рахманым. І яна добра жыла за ім. Шкада, што я яго не ведаю. Калі б ён быў жывы, нас бы так не шпурлялі, як цяпер…

Ішлі тыдні, месяцы. Залатая луска на Вісле нібы выцвіла, рака цяпер была непрыветная, шэрая, ускаламучаная, сшарэлае лісце глуха шоргала аб чарапічныя дахі дамоў на Старым Мясце, дзе жыла пані Беата са сваім дваром.

Каралеву-маці ўсё цясней абступалі хваробы, яна паднімалася толькі пад вечар, а на прыёмах была хмурная, нервовая, калючыя чорныя яе вочы пазіралі на свет з усё большай непрыязнасцю. Яна любіла паўтараць: «Сама старасць ужо ёсць хвароба». Вяртаючыся ад яе, абедзве жанчыны — Беата і Гальшка — бывалі такія ж заклапочаныя і хмурныя. Пакаёўкі беражліва здымалі з ног старэйшай пані башмачкі з белай скуры, вышытыя ружовым шоўкам, з плячэй яе — адамашкавы саян з буйнымі жамчужынамі, падносілі ёй пахкасці і націралі скроні духмянаю коленскаю вадою, а яна, лежачы на блакітнай канапцы з залатымі разводамі, горка, на ўвесь дом, скардзілася на сваю ўдовіную долю і крычала на маладую князёўну, якая паспешліва ішла да сябе ў спальню і там пачынала рыдаць. У такія хвіліны слугі ў пярэдніх пакоях хаваліся хто дзе — гнеў гаспадарыні перакідваўся на іх, і не аднаго пасля дралі лазінамі пры гарадскім магістраце.

Можа, ад таго, што Еўка шмат чытала і думала пра жыццё, а можа, ад таго, што, колькі сябе помніла, шкадавала чалавека і ўсё жывое, яна рабілася мудрэйшай і сцішана-засяроджанай. Гальшка ўсё мацней прывязвалася да яе. Калі маладая князёўна білася ў трасянцы, а Баркулабіха спалохана мітусілася паміж дзвюма гаспадынямі, не ведаючы, каму і як дагадзіць, Еўка ўваходзіла ў спальню, моўчкі адхіляла пакаёвак, пачынала сама распранаць Гальшку, не гаворачы ані слова, чакаючы, пакуль сыдзе першы выбух слёз і слоў.

— Што я ёй зрабіла?! — плакала Гальшка. — Праз мяне яна загубіла сваё жыццё? Дык ці я віною, што яна ж нацкавала на князя Змітрака Сангушку пагоню і яго разарвалі на кавалкі? Можа, я жыла б шчасліва з ім?!

Клаліся далёка за поўнач, прачыналіся амаль пад полудзень. Снедалі хмурна — адна супраць адной у вялікай сталовай, за сталом, накрытым вышытым абрусам. Слугі моўчкі падавалі ў сярэбраных місах з гербам Астрожскіх піўны суп з клёцкамі, бліны з рыбай, поліўку. Неахвотна, спакваля перакідваліся адна з адной слоўцам, пасля, як бы нічога не было, гаварылі паміж сабой. Потым Беата пачынала ўпрошваць дачку дараваць ёй, выбухала слязьмі, абдымала Гальшку, абяцала да смерці быць разам. Пасля ехалі ў краму альбо выклікалі каралеўскага крамніка на дом, прымяралі абутак, апратку, глядзелі новыя крэмы і пахкасці. Прыязджалі краўцы, шаўцы, празрыстыя кавалкі белі, аксаміту, шафранавых, блакітных, шафіравых шаўкоў ляталі па пакоі, чуліся смех, шчэбет… Еўка сядзела ў службовым пакойчыку, чакала, пакуль спатрэбіцца яна гаспадыням. Баркулабіха месцілася побач, бурчала сабе пад нос. Еўка аднойчы ўслухалася — і з таго часу перастала нудзіцца доўгімі гадзінамі чакання. Баркулабіха, відаць, пад старасць як бы вярталася ў тое асяроддзе, з якога выйшла — з той шляхты, якая не адразу выбілася на службовыя пасты, а спачатку выхоўвалася пры сваім дробным маёнтку, з сялянскімі дзецьмі, з мамкамі-карміліцамі, узятымі ў суседняй вёсцы. Усё болей праступала ў высакамернай, ганаровай шляхцянцы нешта простанароднае, усё болей любіла яна нават стравы прасцейшыя, свае, і вось цяпер, нібы праз доўгае маўчанне яе, прарвалася тое, што яна чула ад нянькі і, аказваецца, запомніла на ўсё жыццё:

— Багатыр магутны, Іван Падвей, ад ветру нарадзіўся, таму і Падвеем празваны. Вятры ў нас буйныя, нястрымныя, лясы высокія і дрымучыя, рэкі быстрыя і гаючыя. А яшчэ былі на свеце Ванька Папялушка, браты Вячорка, Паўночнік і Заравы. І кожны добры маладзец — волат…

Тады ўступала ў размову Еўка:

— А мой бацька расказваў, і чула я гэта ад пісара Андрэя, што нейкі князь рымскі Палямон, які цару Нерону быў крэўны, сабраўся з жонкаю, і з дзецьмі сваімі, і са скарбамі, і з многімі сіламі, узяўшы з сабой астранома, які разумеў шлях па зорах, паехаў па моры, каб знайсці сабе месца зручнае, дзе б маглі пасяліцца і мешкаць — жыць — спакойна. І не малы час яны па моры хадзілі, прайшлі Міжземнае мора і дайшлі да ракі да Шумы, а тою ракою Шумаю ў мора-акіян, і морам-акіянам дайшлі ўжо да вусця ракі, дзе Нёман упадае, і верхам Нёмна дайшлі да ракі Дубісы. Там і пасяліліся і сталі продкамі нашымі…

— І я чула пра князя Палямона і трох сыноў яго, нібыта продкаў нашых, — задумліва казала Баркулабіха. — Але многія думаюць, што казкі гэта…

І яна зноў пачынала расказваць пра Чортаў камень, які ўтварыў браму. Калі праз тую браму прайсці ўначы, ператворышся ў ваўкалака. Але ў ваўкалака можа ператварыць і злы чараўнік. І не толькі аднаго чалавека ператворыць ён, калі захоча, а мноства народу. Ператварыў жа, напрыклад, цэлы вясельны оршак, і маладую з маладым, і сватоў… І тры гады бегаў той ваўчыны вывадак па зямлі, аж пакуль не знайшлася добрая чараўніца Ганна, якая адчаравала тых маладых… Але тады малады закахаўся ў прыгожую вясёлую чараўніцу і не захацеў вяртацца да сваёй нарачонай. А тая ад гора ўтапілася ў возеры, і стала яно ад жалю блакітным…

Калі княгіня Беата дазналася пра тое, што вакол Еўкі і Баркулабіхі ў такія часіны збіраюцца амаль усе дваровыя людзі, яна забараніла расказваць казкі. Але ўсё роўна — пачатак быў пакладзены. Цяпер нават прыдворныя панны ўпотай прыязджалі, каб паслухаць казкі Баркулабіхі. Тады Беата здалася — бывала, і сама ўжо спынялася каля дзвярэй службовага пакоя, а аднойчы запрасіла Баркулабіху да сябе, і ўпершыню не радкі з вершаў влошскіх паэтаў загучалі ў духмяных, прапахлых воннасцямі пакоях гаспадарыні, а казкі і паданні той Белай Русі, пра якую яна чула, але якую не ведала, хаця і была замужам за адным з сыноў мясцовага роду.

Узімку сватаўся да Гальшкі князь Іван з чэшскага роду Падэбрадаў, але ён не спадабаўся Боне:

— Ні павярнуцца, ні руку пацалаваць як след не ўмее. Не такі рыцар патрэбны Гальшцы!

І зноў ішлі тыдні за тыднямі.

А вясной нечакана ўсё змянілася. Каралева Бона, ля якой усё болей вілося нечуваных тут раней манахаў з новага влошскага ордэна Ігнацiя Лаёлы, рашылася вярнуцца на радзіму.

Дзень за днём ішлі і ішлі фурманкі з багаццямі, якія Бона вывозіла ў Італію. Нават Пётр Кміта, які быў апорай старой каралевы, адгукнуўся пасля яе ад’езду з непрыязнасцю пра тую сквапнасць, з якою каралева, што прывезла ў пасаг пяць тысяч залатых дукатаў, адвозіла з Кароны і Княства багацці, у колькі разоў большыя. Бона забірала з сабою ўсё — нават рукапісы, нават сваю калекцыю абутку — яна так і памрэ, амаль нічога з таго не надзеўшы на распухлыя і хворыя ногі.

З Беатаю старая каралева развіталася таксама нявесела, непрыязна сказала:

— Хопіць мне вас тут усіх прыграваць. Няўдзячная зямля, няўдзячныя людзі!

Сярод рукапісаў, якія каралева Бона везла з сабою, быў экзэмпляр «Паэма пра зубра» мясцовага, з Княства, паэта Мікалая Гусоўскага. Ён будзе праз многа стагоддзяў знойдзены ў Фларэнцыі.

У тую ж ноч, пасля ад'езду каралевы, і Беата загаварыла аб падарожжы. Сабраўшы каля сябе дваровых паненак, загадала пісару Яську пісаць чарговы ліст да Радзівіла, каб даў параду — дзе цяпер шукаць ёй прытулку?

У вялікім доме было ціха і змрочна. Гальшка адзінока сядзела ля акна, глядзела на раку. Моцны, ужо з марозам вецер біўся ў новыя шкляныя шыбы, калыхаў аканіцу. У руцэ Гальшка трымала высокую, вузкую шкляніцу з цёплым шафранавым пітвом. Калі на званок у пакой увайшла Еўка, пачула:

— Будзеш чытаць мне сёння да ранку. Баюся спаць — так баліць сэрца.

— Можа, паклікаць лекара? — азвалася Еўка.

— Лекара не трэба. Стары влох, — Гальшка грэбліва зморшчыла вусны, — толькі будзе абсліньваць мае рукі пацалункамі і даваць корань мандрагоры. Не хачу чарадзейства, апрыкрала мне ўсё!

— Дзіця б вам, ваша мосць.

— Адкуль яно возьмецца, тое дзіця? Божа, як мне млосна ад усяго.

— Мне таксама млосна, — ціха сказала Еўка, дастаючы з высокай, з ручкамі са слановай косці шафы, вялікую, у рознакаляровых каменьчыках кнігу.

— Што ты параўноўваеш мяне і сябе? — ускінулася Гальшка. — Я — унучка Канстанціна Астрожскага, мае скарбы ледзь не багацейшыя за каралеўскія! Хто больш за мяне варты шчасця?!

— Ваша мосць, і халоп мае такую ж кроў, як і ўсе людзі, і яму баліць…

— Гэта ты… У новых ерасях, відаць, набралася! — Гальшка падціснула вусны і раптам зрабілася падобнай да сваёй маці. — Яны руйнуюць веру, яны лічаць, што царква не патрэбная!

— Што ж, можа, і праўда, што Бог павінен быць першнаперш у сэрцы, што яго трэба адчуваць, — нечакана для сябе запярэчыла Еўка. Кроў ударыла ёй у галаву — прагаварылася

Баркулабіха пра яе таямніцу! І праўда — Гальшка ведала тое, што даверыла Еўка няньцы ў хвіліну роспачы.

— Не думай, што я адпушчу цябе, — зноў загаварыла яна высокім, рэзкім голасам. — Адпушчу, каб ты вярнулася да свайго Марціна, каб нараджала дзяцей і жыла ў ерасі і ерассю поўніла іх? Не, ты ніколі не пойдзеш замуж!

Еўка выпрасталася, твар яе стаў смяротна-бледным:

— Нават кароль не мае ўлады над нашай душой, адзін толькі Бог! Калі станеце мучыць… хай мой грэх на ваш род упадзе. Не адзін такі грэх на ім…

Гальшка гнеўна выпрасталася, ускочыла з крэсла. Рукі яе затрэсліся, яна зрабіла рух, нібы хацела кінуць скляніцу ў Еўчын твар, але стрымалася. Пайшла па пакоі, зноў села ў крэсла.

Сказала другім голасам:

— Ты… сапраўды сама зацяла б сабе горла? Пакончыла б з сабою?

Еўка таксама села на лаву, памаўчала. Сказала глуха:

— Там было б відно…

Кальвінісцкая школка ў Нясвіжы, дзе выкладаў Марцін, мясцілася каля ратушы, якую дабудоўвалі, і, кожную раніцу ідучы на заняткі, ён бачыў, як над ёю віліся галубы. Белыя, з шызым, зеленаватым, чорным адлівам, яны лunалі над высокім шпілем ратушы, і хлопец часам зайздросціў птушкам, якія маглі ляцець куды захочацца, не клапоцячыся пра хлеб і жытло.

У школцы было пяць настаўнікаў, Марцін выкладаў лацінскую і беларусінскую мовы, а таксама рыторыку і паэзію. Астатнія настаўнікі вялі дыялектыку, гісторыю, матэматыку, выкладалі таксама старагрэчаскую і стараяўрэйскую мовы.

Часта ў школку заходзілі сіньёры з праверкай — іх выбіралі са шляхты і гараджан. Найчасцей на ўроках Марціна бываў Лаўрэн Крышкоўскі. Прыходзіў, сядзеў, слухаў. Пасля школы яны ішлі прагульвацца за горад, мінаючы гандлёвыя рады, крочылі за браму, дзе драмаў стражнік з алебардай і гакоўніцай, а часцей рэзаліся ў косці двое ці трое вартаўнікоў, міналі брукаванку і паглыбляліся ў алею з цісавых дрэў, дзе ў самую спёку было прахалодна.

Гаварылі пра лісты, якія рэгулярна дасылаў сюды, да сваіх прыяцеляў, Сымон Будны, які цяпер вяртаўся ў Княства. Тут, у Нясвіжы, былі амаль усе кнігі, выдадзеныя Скарынам, — іх завезлі сюды клопатам Мікалая Радзівіла Чорнага. Кнігі куплялі

адразу ж, як толькі яны з'яўляліся, і адпраўлялі ва ўсе кальвінісцкія школы, якімі валодаў усёмагутны канцлер Вялікага Княства Літоўскага. Будны пісаў пра тое, як ён наведваў Скарыну ў Празе — ужо хворага, маўклівага, зацятага ў вывучэнні раслін і лекаў з іх. Лаўрэн Крышкоўскі сам збіраў травы і, па прыкладу Скарыны, вывучаў іх, і марыў калі-небудзь выдаць кнігу па медыцыне, «каб простаму люду паспалітаму палёгку зрабіць». Высокі, хударлявы, як бацян, Лаўрэн мог ісці побач з Марцінам і гаварыць, гаварыць без стомы. Звычайна маўклівы, тут ён ажываў, расказваў пра ўсё, што яго турбавала. Менавіта Лаўрэн папярэдзіў Марціна, калі ў Нясвіж сабраўся прыехаць суперінтэндант. Школьнікі, на здзіўленне духоўнай асобы, бліскуча цытавалі Катона і Цыцэрона, а таксама чыталі вершы Вяргілія, Гарацыя і Авідзія. Лаўрэн супакойваў занадта ўнідлівых сіньёраў, калі яны знаходзілі ў дзейнасці школкі нейкія адступленні ад статута, напісанага для беларускіх школ навагрудскім суперінтэндантам Андрэем Дабжанскім.

Нясвіжскі наместнік Мацвей Кавячынскі быў больш заняты. Ён вечна разбіраў скаргі, мірыў шляхту з радцамі, якія не саромеліся браць за кожную вырашаную справу добры хабар, і толькі час ад часу далучаўся да такіх прагулак.

— Чытаем дзецям беларусінскую мову, а падручніка на ёй не маем, — папракнуў аднойчы Марціна.

— Я сам складаю лекцыі па мове, — адказаў Марцін. — Праўда, гэта цяжка. Мова наша і ад маскоўскай, і ад польскай адрозніваецца, хаця многа падобнага ёсць. Пара ўжо падручнікі пісаць, пара іх і выдаваць. Мы не можам болей карміць дзяцей царкоўнаславянскаю, тою, якою праваслаўная царква гаворыць. І нямецкая нам таксама не трэба.

— А ты і думай, думай, Марціне! — заахвочваў яго Мацвей Кавячынскі. — Калі кожны настаўнік не будзе спадзявацца на тое, што прышлюць аднекуль, а сам пачне сваёй галавою думаць, у нас хутка і падручнікаў і кніжак — такіх, як Скарына пераклаў і надрукаваў, шмат будзе!

І Марцін у вольныя гадзіны, калі заканчваў рыхтавацца да ўрокаў, прысоўваў да сябе шклянку з атрамантам, грубую, у прожылках паперу, прывезеную з Еўропы, і пісаў тыя практыкаванні, якія ён хацеў пакласці ў аснову падручніка: «Народ наш беларусінскі слаўны сваёй гісторыяй, вядомы сваімі звыцяжствамі — перамогамі — над татарамі і крыжакамі».

Часта да яго пад вечар прыходзіў рэгент вучнёўскага хору ў кальвінісцкім зборы Януш Рагойша. Выкшталцоны, з бялюткім

каўнерам вакол масіўнай шыі, ён даставаў з шырокіх, звычайна аксамітных штаноў чатырохгранны штоф і з размаху ставіў на стол:

— Брат мой Марцін, моцна прагну я вазліянне зрабіці з добрым чалавекам…

Марцін пакутліва моршчыўся, але Януш не надта зважаў на тое. Ён здымаў сваю магерку, абітую зялёным вяршком, расхінаў сіні каптан з вітымі сярэбранымі шнурамі, садзіўся, выцягваючы ногі.

Януш быў прыкметнай фігурай у Нясвіжы. Яго хор, што спяваў на восем галасоў, хваліў сам пан Мікалай Радзівіл, а знаўцы спеваў — гродскія і сіньёры, часам, сабраўшы грошы, уручалі іх Янушу, каб той прыводзіў вучняў на дом да якога-небудзь міласціўца і там спяваў песні больш свецкія, якія падыходзілі да свята. Найбольш жа зарабляў Януш на Вялікдзень, калі ў Велькуноч разам з хлопцамі хадзіў валачобнічаць над вокны. Прыходзіў ён і да Марціна, разбудзіўшы яго зладжаным, іскрыстым спевам:

Як не дасі кока,
Выб’ю табе вока.
Не дасі другое —
Выб’ю табе й тое…

Праўда, некаторыя велькаможныя людзі, у тым ліку і сам віцэ-рэгент Бухавецкі, намеснік начальніка канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага, лічылі, што гэта распуста і разбэшчванне вучняў. Але просты люд Нясвіжа — рамеснікі, купцы, а галоўнае — падмайстры, найміты, чэлядзь нявольная — моцна любілі той хор. Януш Рагойша выводзіў сваіх хлопчыкаў на плошчу і, бывала, пад Радаўніцу ці на Успенне Багародзіцы хор спяваў проста пад вокнамі ратушы. На тыя сумныя песні збіралася поўная плошча народу, і некаторыя пачыналі падпяваць, а пасля, здаралася, спявала ўся плошча…

Асабліва любіла, прыязджаючы ў Нясвіж, слухаць той хор ваяводзіна Віленская, пані Мікалаевая Радзівілавіча. Яна і падарыла рэгенту залаты пярсцёнак з сіняй жуковінай, які заўсёды ззяў на яго руцэ.

Апошнім часам, а менавіта — праводзіўшы Еўку, Марцін не адпрэчваў Януша, а сам даставаў прыпасеную бутэльку з венгерскім вінам, якую папярэдне купляў у краме, і яны сядзелі, выпівалі з келіхаў, гаварылі. Аднойчы, адкрываючы для нечага бодню — сундук для адзення, зачапіў Марцін, і пакацілася па

падлозе брамка — жаночы галаўны ўбор, упрыгожаны жэмчугам.

— Ты гэта што? — задзівіўся Януш. — Ты што — жанаты?

Марцін аднекваўся, але мусіў быў расказаць пра Еўку.

— Эх ты, мацак! Бацвінне літоўскае*! Адпусціў дзеўку! — зазлаваўся Януш. — Ды яшчэ парушаную табою ж… А што, калі заняжарыць? А калі наложыць на сябе рукі?

Марцін разгубіўся.

— Што ж рабіць?

— Напішы ёй.

— Куды?

— І гэта называецца бакалаўр! Ды куды ж, у Варшаву, на двор яе мосці пані Іллёвай. Дзякуй богу, твая Еўка граматная, значыць, прачытае той ліст…

Марцін як ашалеў ад радасці — схапіў Януша за залачоныя брамы каптана, страсянуў, закружыў па пакоі. Той дарэмна вырываўся, пасля, задыхаўшыся, устаў.

Доўга ў тую ноч пісаў Марцін свой першы ліст да Еўкі. «Тоскна мне жыць, бо меўся ўзяці цябе за малжонку, але аблеглі нас непрыемнасці, скруты, і цяпер, нібы асочнікі, якія сочаць за зверам, глядзяць за табою і мною чужыя людзі. А думалася жыць згодліве, яко ў святым пісанні сказана…»

Той ліст Еўцы аддалі перад самым ад’ездам. Пані Беата таксама атрымала тайны ліст ад вялікага канцлера Княства Мікалая Радзівіла, і згодна яму, а таксама парадаю старой каралевы, збіралася ў Львоў, дзе пры касцёле дамініканаў былі ў яе родзічы. Заплаканая, дзяўчына падышла да гаспадыні якраз тады, калі тая разам з кашталянам складала спіс маёмасці і падарункаў манастыру.

— Не будзе табе ні майго, ні бацькоўскага благаславення! — сказала яна разгневана Еўцы. — У такі цяжкі час пакідаць Гальшку? І табе не шкада яе?

— Ваша мосць, я памру, — ціха прагаварыла Еўка, нізка схіляючы абвітую празрыстым ядвабам галаву.

Пані Беата пабялела, затупала нагамі.

— Вон! — закрычала. — Вон! І каб слова болей не чула ад цябе. Распусніца!

* «Бацвінне літоўскае» — зняважлівае прозвішча ліцвінаў, г. зн. беларусаў.

Еўка хацела яшчэ нешта сказаць, але горла перацяла, у вачах замільгацелі чырвоныя жарынкі, усё злівалася ў нейкія прывідныя здані, і яна не магла разарваць гэты морак, вярнуцца да ранейшага свету. Яна, не помнячы, як выйшла з пакоя, тут жа цяжка асунулася на вошчаную падлогу, балюча выцялася галавой аб выкшталцоны, перламутрам аблямаваны столік. І гэта было апошняе, што яна адчула…

Двор княгіні Беаты з'ехаў у Львоў. А наконт Еўкі было перададзена кашталяну, што, як толькі ачуняе, павінна ехаць за маладой паняй, якой будзе служыць да смерці. І хай не спрабуе вяртацца ў Нясвіж — бацькі не прымуць яе без згоды пані Астрожскай.

І пацягнулася Еўка, хворая яшчэ, знясіленая, з адчуваннем марнасці жыцця, з ціхай, затоенай надзеяй на нейкія змены, па дарогах, то топкіх і гразкіх, то шырокіх, брукаваных каменнем, што нібы само сабой вырастала на тутэйшых палях. Ехала на фурманцы, разам са слугамі княгіні, якія везлі ў Львоў з варшаўскіх аранжарэй садавіну.

А навокал цягнуліся бедныя вёскі, і сялянкі ў зрэбніне, дзеці ў лахманах азіраліся на фурманкі і доўга глядзелі ўслед, а бывала, на плошчы мястэчка віселі, гайдаліся трупы, і войты сцябалі пугай жанчын, што абдымалі ногі нябожчыкаў… Мільгалі вокны багатых маёнткаў, дзе свяціліся кандэлябры і грымела музыка рыгадонаў — танцаў, уведзеных у моду каралевай Бонай.

Толькі сцямнела, а гарадскія вароты Львова — дубовыя, з падвойнымі ўзорыстымі кратамі — збіраліся зачыняць. Быў строгі загад новага старасты аб тым, каб ніводзін падазроны чалавек не зайшоў у горад.

У Львове было неспакойна. Дваровыя людзі княгіні Беаты, асмялеўшы, штовечар учынялі на гарадскіх вуліцах сутычкі з гараджанамі. Добра яшчэ, каб яны проста пілі ў піўніцах ды карчомках, хваліліся адзін перад адным жупанамі ды шаблямі. Не — нагледзеўшы прыгожую месцічку, яны адбівалі яе ў мужа, з рогатам валаклі кабету па вуліцы, чынячы тым вялікую сарамату і гвалт. А нядаўна пісар княгіні страляў з ручніцы ў гарадскую варту, дзе раніў гарадскога радцу — члена рады — і абывацеля Мацвея Стрыйку.

Вось чаму маладая жанчына, якая прад'явіла варце ліст княгіні Беаты і заявіла, што яна вяртаецца на службу, выклікала вялікую цікавасць. Пан стараста, нават не зашпіліўшы гаплікі

жупана, прыбыў на кані да брамы і доўга дапрошваў жанчыну, ці няма пры ёй другіх лістоў ад асоб, варожых каралю, і нават уласнаручна перакапаў увесь сціплы багаж прыезджай.

Гулка разносіліся іх словы па вузкай камяністай вулачцы, і варта амаль не звярнула ўвагі на нейкага жабрака, які, кульгаючы, пралез скрозь напаўадчыненыя вароты. Дый сам пан стараста нават не заўважыў хлопа — не гэткі стане насіць лісты да княгіні! А між тым, калі Еўка пад'ехала на рамізніку да манастырскай аптэкі і пастукала ў вузкія дзверы кватэры, дзе размяшчалася яе гаспадыня, да гэтых жа дзвярэй адначасова падышоў і жабрак. Але цяпер ён не кульгаў, і з-пад дзіравага плашча з капюшонам бліснулі ва ўсмешцы маладыя, дзёрзкія вочы. Холеная белая рука ўзялася за цяжкую клямку, і варта было ў прыадчыненых дзвярах з'явіцца чаляднiку, як той з нізкім паклонам выбег насустрач госцю. У пакоях над аціхлай аптэкай запалілася святло, усчалася мітусня.

Гальшка сядзела ў сваім пакоі заплаканая, яна амаль подбегам памчалася насустрач Еўцы:

— Матухна запрасіла сюды князя Слуцкага, заўтра вянчанне. Што ж, у мяне два мужы цяпер будуць?!

Баркулабіха прыгнечана прамовіла:

— Колькі я ўжо свечак за яе паставіла і, каб сэрца матчына змірыць, малілася. Можа, ад таго, што шмат ерасей разнаітых у Княстве і Кароне развялося, Бог ад нас адвярнуўся?

Так Еўка даведалася, што, насуперак волі караля і загаданаму ім шлюбу, пані Беата вырашыла даказаць усім і кожнаму ў дзяржаве, што яна будзе рабіць і паступаць па-свойму. Еўка не магла, зразумела, здагадацца, чаму князь Сімяон Трэці Слуцкі стаў жаніхом для Гальшкі, але калі б яна магла падслухаць размову, што адбылася ў той вечар у пакоях гаспадыні, многае б для яе праяснілася.

Пані Беата, узрадаваная, у той вечар здавалася зусім маладой. Белыя валасы яе, высока прыўзнятыя над ілбом і пакрытыя залацістай сеткай, адцянялі чорныя доўгія вейкі і пафарбаваныя памадай — па толькі што прывезенай з Францыі модзе — вусны. Залацісты шаўковы, у тон сетцы, летнік быў накінуты на баршчовага колеру сукню. Князь Сімяон пачціва схіліўся над доўгімі тонкімі пальцамі — ад іх пахла нечым востра духмяным.

— Святар гатовы, — сказала яна, — А можа, пан захоча ксяндза?

Князь рэзка ўскінуўся, яна супакоіла:

— Я павінна запытацца. Цяпер усё болей праваслаўнай шляхты пераходзіць у каталіцтва, інакай не здабудзеш высокіх пасад.

— Але ж, ваша мосць…— пачаў Сімяон, яна перабіла, махнуўшы рукой:

— Назад у каталіцтва я нізавошта не перайду, хаця б дзеля таго, каб пазлаваць гэтага… вloскага маладзенчыка, які ўмее толькі зачароўваць кабет і прыгожа ссоўваць берэт на левае вуха…

— Ваша мосць гаворыць пра караля?

— Перш за ўсё пра майго брата… І гэта зусім не бэсціць маю маці… Хто можа ўстаяць супраць караля?

Пакаёўка ўнесла на вялікім падносе рэдкія ў гэты час нават у аранжарэях ананас і персікі. Гэта як бы дало другі накірунак размове.

— Я вымушана лічыцца з раднёю мужа, і перш за ўсё з гэтым выкрутным* панам Васілём. Астрожскія, на жаль, маюць большую вагу, чым Касцялецкія. Граф Лукаш не падыходзіць яшчэ і таму, што землі ў Княстве ён, згодна са Статутам, не можа займець. А выкуп Астрожскія дадуць мізэрны. З вамі ж, я думаю, мы знойдзем згоду, пан чалавек не толькі даўцэпны**, але і храбры воін.

Яна пачала скардзіцца на караля, пасля загадала прынесці спіс даходаў з маёнткаў. Слухаючы яе, князь Сімяон думаў пра тое, што ён знойдзе на тыя маёнткі лепшых старастаў і войтаў, што павядзе гаспадарства цвёрдаю рукой і не надта будзе дагаджаць карызлівай цешчы. Пакуль жа, нават пасля вянчання, адзіная магчымасць атрымаць пасаг — ва ўсім лагодзіць яе. Шлюб у Варшаве, як-ніяк, адбыўся па волі караля. Праўда, рашэнне гэта можа адмяніць сейм… Гледзячы на прыгожую кабету, што сядзела побач, ён думаў і пра тое, што прасцей можна было б атрымаць многае з багаццяў Астрожскіх… Але не — гонар не дазволіў бы яму няроўны шлюб: Беата па ўзросту ледзь маладзейшая за маці… Ды хто б гэта сказаў, гледзячы на яе?

Відаць, жанчына нешта злавіла ў яго позірку, усмешка зазмяілася на яе вуснах. «Ласіца»***, — падумаў ён з нейкім нават захапленнем…

---

* Выкрутны — лукавы.

** Даўцэпны — кемлівы.

*** Звер з сямейства куніц.

Еўка ўсё шукала зручнага моманту, каб вырваць у княгіні згоду на шлюб з Марцінам. Ну няхай бы проста дала ёй адпушчэнне, не можа быць, каб бацька ў рэшце рэшт не згадзіўся на тое, каб прыняць у сям'ю любага дачцэ чалавека. Але падступіцца цяпер ні да Гальшкі, ні да самой пані не выпадала, і яна, пазбягаючы лішні раз паказвацца на вочы сакратару Беаты Юрыю, які ўзяў на сябе падрыхтоўку да гэтага немагчымага, вар'яцкага, як ён разважаў, вяселля, цэлы дзень блукала па львоўскіх вуліцах. Паміж Ніжнім замкам і касцёлам дамініканаў, ля якога яны жылі, стаяла Кракаўская брама — варта праводзіла Еўку доўгімі поглядамі, але нічога не запытала. Тут жыло шмат markup рознага люду, на той час пераважна немцы, якіх запрасіў сюды яшчэ Казімір Вялікі. У Кракаўскім жа прадмесці жылі таксама армяне — яны ўпарта, у адрозненне ад немцаў, трымаліся сваёй мовы і нацыянальных строяў. Каля цэркваў на Львовых гарах і на Ягелонскай вуліцы жылі праваслаўныя, многа было купцоў з Грэцыі, якія пасля заваёвы Царгорада туркамі шукалі прытулку ў Рэчы Паспалітай. Можна было сустрэць і татар*, што жылі пад Высокім замкам. І ўсё гэта віравала на крутых вулачках места, імкнулася на рынкі, якіх, як і касцёлаў і цэркваў, было шмат навокал. Шляхта, якая не мела права жыць у горадзе, усё-такі ўпарта пралазіла туды дый адкрывала шынкі і крамы.

Аб чым найболей гаварылі паўсюдна — у гандлёвых радах, піўніцах, кавернях — гэта аб тым, што абвенчаны з Гальшкай па загаду караля граф Лукаш з ваенным абозам стаў за сценамі манастыра, размясціўшыся ў доме армяніна, што стаяў насупраць. Княгіня ж загадала падняць невысокую сцяну за аптэкай, закупіць прыпасаў і зброі.

— Паны б'юцца, а ў бедных чубы трашчаць! — крычаў ля піўніцы высокі чубаты рамеснік.

— Ужо стралялі тры разы з гармат! — паведамляла ў краме тоўстая гандлярка ў асляпляльна белым чэпчыку і клятчатай спадніцы, хрысцілася.

Вечарам адбылося вянчанне. Пад рэдкія выбухі гармат і стук кельмаў паўмёртвая ад хвалявання і страху Гальшка абходзіла алтар, апускалася на калені перад святарам.

* Львоў быў падзелены на дзве юрысдыкцыі. Унутраным горадам кіраваў консул; прадмесці належалі юрысдыкцыі замка, і кіравалі імі старасты.

У царкве было няшмат народу, але на ўсіх тварах ляжаў цяжар заклапочанасці і затоенага страху. Хто ведае, чым абернецца гнеў караля?

Еўка глядзела на бледны, нежывы твар нявесты, на дыяментавы круг вакол тонкай, высокай шыі. Спела ў ёй шалёнае жаданне кінуць усё гэтае вар'яцтва. Ёй бы не тут стаяць, а самой вянчацца з Марцінам — а там хаця і на смерць. Багаты і магутны Мікалай Радзівіл, але не чаляднікі ў яго ні Марцін, ні Еўка. Праўда, калі захоча зацкаваць іх ганчакамі, ніхто не заступіцца. І ўсё ж… Ёсць надзея, што, дазнаўшыся аб усім, толькі засмяецца ён і, махнуўшы рукой, скажа пра пані Беату: «Бабскія выбрыкі!» І тады не дастане іх яе драпежная, тонкая ручка… Але, можа, яго мосць Мікалай Руфус-Руды, як празвалі яго ў дзяржаве, і задаволіць яе прыхамаць. І тады ў першым жа зборы ці царкве аб'явяць іх шлюб несапраўдным, і за блуд загадаюць яе сцяць горлам на якой-небудзь плошчы або, самае лёгкае, вазіць па вуліцах у саламяным вянку разам са зладзеямі і разбойнікамі…

Яна, відаць, занадта пільна глядзела на прыгожыя, далікатныя пальцы, упрыгожаныя залатымі пярсцёнкамі, якія цяпер, нервова сплеценыя, здаецца, дрыжалі ад узрушэння: княгіня Беата азірнулася ўбок, але, здаецца, не заўважыла яе ў натоўпе, хаця ад мноства свечак у царкве было светла, як у сонечны дзень.

А тым часам стараста, атрымаўшы суровы загад самога караля прымусіць непаслухмяную прымірыцца з графам Лукашам і аддаць яму дачку, сам з двума радцамі і памагатымі ўлез на бліжэйшую гару, дзе праходзіла падземная труба, па якой ішла ў манастыр вада.

Вясельная вячэра атрымалася напалову: смажаны дзік, курапаткі і зайцы занялі сваё месца за сталом. А шчупакі, кракаўская «каралеўская» каша з разынкамі, вінная поліўка з вострымі прыправамі, кісялі так і засталіся на кухні не даваранымі.

Тую ноч у доме спалі хіба толькі маладыя. У княгіні была істэрыка. Яна надавала поўхаў галоўнаму повару, а ў сакратара запусціла медным падсвечнікам. Чаляднікі і дамы пахаваліся хто куды, нават Баркулабіха, узяўшы суконны плашч і запрасіўшы з сабой Еўку, выкульгала з дому і пайшла на старую лаву пад манастырскім бэзам.

— Хай аціхне.

— Столькі моліцца, а на людзей глядзіць, як на сабак! — не вытрымала Еўка.

— Такая ёй улада Богам дадзена. А ты, дзеўка, ведай, што і сабака на таго не брэша, чый хлеб есць.

— Хіба яна гэты хлеб здабывае? Арэ, сее, жне? — амаль з роспаччу сказала дзяўчына. — Ці хаця так, як мы, адрабляе яго?!

Баркулабіха загневалася:

— Скруцілася ты нешта там, гаворыш не сваімі словамі. Каб я болей не чула гэтага!

Бэз адцвітаў, і пахла салодкім і незваротным. З зарасніку цягнула золкай сырасцю. Выпала раса, лава рабілася вільготнаю. З-за цёмных, як выразаных, абрысаў манастыра ўстала поўня, і адразу заіскрылася трава, густыя цені ляглі навокал.

— З чаго яна такая — то вузенькая, то як талер? — задумліва загаварыла, памаўчаўшы, Еўка, гледзячы на поўню.

— А то святы Юры задзвіжку то паднімае, то апушчае, каб на зямлю глядзець. Вось салаўёў ён выпусціў на зямлю, цяпер глядзіць, колькі там расы. Мала — залатым ключом кладоўку адапрэ, пальe поле…

Яны пайшлі ў дом толькі тады, калі, пад раніцу, згаслі вокны і ўсталявалася цішыня.

А яшчэ праз дзень, змогшыся, княгіня Беата дазволіла ўвайсці да сябе старасту і ягонаму брату. Доўга, да самай поўначы, гаварылі яны, і быў чуваць то крык княгіні і звон разбітых скляніц, то ўгодліва-пачцівы, але разам з тым і цвёрды голас старасты Борзы.

Раніцай пад дом пад'ехала карэта. Сімяона ўжо не было — за поўнач адправіўся ён у Слуцак. Княгіня абяцала, што кароль, даведаўшыся аб усім, адпусціць Гальшку да маці. Баркулабіха пакорліва склала свае рэчы ў кораб, прасачыла, каб у вялікі каваны сундук з сукенкамі і ўборамі маладой паклалі галінкі грэцкага арэха — ад молі.

Знураная, адразу нібы састарэлая, у карэту садзілася і Еўка. Яна не вытрымала — упала на калені перад маладой, калі тая закрычала на маці, што ёй абрыдла, як паланянцы, пераходзіць з рук у рукі, і загадала, што паедуць з ёю неадменна Баркулабіха і Еўка.

— Пашкадуйце! — Еўчын голас зрываўся. — Раней не хацела прасіць, цяпер малю — адпусціце.

Яна збілася, гаворачы аб Марціну. Але Гальшка не хацела нічога слухаць — страх перад чужымі людзьмі, перад новым паваротам лёсу адбіраў у яе ўсякую спагаду да чужога гора. І княгіня, якая разам з дачкой плакала, адразу выпрасталася, гнеўна тупнула нагой:

— Няма ў подлых людзей ні каліва літасці!

— Я не подлая! — ускінула галаву Еўка. — Бацька мае паперы аб баярстве!

Баркулабіха тузанула яе за рукаў, падняла, павяла збірацца. Усе ў доме, і княгіня таксама, былі ўпэўнены, што карэта адвязе Гальшку ў дом старасты, каб там чакаць распараджэння Жыгімонта Аўгуста. Але стараста рашыў іначай — і ўжо надвячоркам карэта, запрэжаная чацвёркай лепшых коней, пакаціла з горада, каб хутчэй сцішыць замятню і збыць галоўную прычыну звадаў і неспакою. І граф Лукаш, за горадам сустрэўшы жанчын, разам з братамі і прыяцелямі гарцаваў на конях, схіляўся да акенца, пытаўся, ці не трэба чаго яе мосці. Прамільгнулі касцёл Марыі Снежнай, Кракаўская брама з высокімі вежамі, камяніцы з чырвонымі чарапічнымі дахамі. І зноў, як колькі гадоў назад, перад трыма жанчынамі была невядомасць, і твары ў іх былі аднолькава смутныя і гаротныя…

Граф Горка, нягледзячы на тое, што найбагацейшая нявеста Княства ізноў належала яму, адчуваў сябе моцна пакрыўджаным і як бы ашальмаваным гэтым новым нечаканым вяселлем ягонай жонкі. Дарэмна ўгаворвалі яго прыяцелі, якія перад дарогай наладзілі ў карчме сапраўднае баляванне і былі на добрым падпітку.

— За цябе яго мосць кароль! — гаварылі яны. — Алелькавічаў ён ненавідзіць, а сейм зробіць по-ягонаму!

Усе яны ведалі, што варожасць караля ідзе ад даўняй непрыязі Ягелонаў да князёў Слуцкіх, адзін з якіх, Сімяон Першы, быў некалі званы Віленскім сеймам на стол Вялікага Княства Літвы і Русі насуперак Казіміру Чацвёртаму, які дапусціў адлучэнне Падоліі ад Княства і аддаў яго Кароне. Але не было таямніцай і нежаданне праваслаўных магнатаў Княства дапусціць на яго зямлі чужынцаў. Жыгімонт Аўгуст, які раней падтрымліваў Радзівілаў, цяпер, праз шэсць гадоў пасля смерці Барбары, усё болей хіліўся да думкі аб'яднаць Княства і Карону больш моцнымі сродкамі. Год назад выклікaныя каралевай Бонай езуіты ўжо добра-такі папрацавалі над тым, каб каралеўскія жаданні ішлі ў патрэбным кірунку. Наспявала тое, што будучыя гісторыкі назавуць дзяржаўнай здрадай, — акт перадачы сваіх правоў вялікага князя Кароне без узгаднення з магнатамі Княства.

І ўсё ж Радзівілы былі сілай, з якой лічыўся і кароль. Абраннік княгіні быў даспадобы і ім, і князю Васілю Канстанціну Астрожскаму, які ўсё болей з шалапутнага, легкадумнага рыцара

ператвараўся ў сур’ёзнага, удумлівага палітыка, заклапочанага лёсам краю, яраснага праціўніка любога замаху на Княства. Было вядома, што ён думае адкрываць у Астрогу вучылішча для русінаў і ўкраінцаў — насуперак езуітам, якія вокамгненна арганізавалі свае школы па ўсёй Кароне і рваліся на землі Княства.

Еўка слухала гэтыя размовы мужчын, што суправаджалі іх карэту, стараючыся ўгадаць, куды іх вязуць. На адным з прыпынкаў яна нават ціха запыталася пры гэта ў бялявага, тонкага хлопца, які сядзеў убаку ад усіх, думаючы пра нешта сваё. Ён павагаўся, але адказаў, што яго брат вязе жонку ў родавы маёнтак у Шаматулы.

— Ці далёка ж гэта адсюль?

Калі Еўка даведалася, што Шаматулы знаходзяцца далёка за Кракавам, яна самотна апусціла галаву. Што толку біцца ў роспачы, галасіць? Шчасце адыходзіць ад яе, нібы прывід. Можа, нарадзілася яна пад нешчаслівай зоркай? Тады дарэмныя ўсе намаганні — будзе так, як накавана. Ды, можа, чалавек адольвае лёс?

— Чаму панна такая смутная? — відаць, крануты яе роспаччу, запытаўся брат графа Лукаша.

— Пан не зразумее мяне ўсё роўна. Захопнік не зразумее зняволенага, — з гневам на іх, якія захапілі, нібыта здабычу, безабаронную жанчыну, адказала Еўка. Ведай яна, што пан Юрый мучыцца тым жа, чым і яна, — разлукай з дзяўчынай, якую кахаў моцна і горача — паспачувала б яму. А даведайся, што дзяўчына тая зусім бедная шляхцянка, на якую ўсчалі сапраўдныя ганенні за тое каханне, а бацькоў нават зганяюць з дзедзіцтва, з зямлі, перайшоўшай ад прадзедаў, — можа, і не гаварыла б з ім так рэзка. Ні ён, ні яна не ведалі будучага — бедныя шляхцічы, выгнаныя са свайго лапіка зямлі, неўзабаве стануць звычайнымі зямянамі, ім не падняцца болей, — а пан Юрый ажэніцца з багатай нявестай, будзе займаць прыдворныя пасады і пастараецца забыцца на сваю ахвяру.

— Бадай жа іх ліха разбіла! — ўсплеснула рукамі Баркулабіха, калі даведалася, куды яны едуць. — Гэта ж ён там не будзе жыць, гэта ён нас у вянзенне* цягне!

Буркулабіха як у ваду глядзела: шаматульскі маёнтак быў абарончым замкам, наперадзе якога, перад дарогаю, размясцілася круглая, з вузкімі байніцамі, вежа. Неабдымныя прас-

* Вянзенне — зняволенне.

торы рассцілаліся перад тымі, хто паднімаўся на вежу, і госці, захопленыя, глядзелі на расквечаны луг, дзе бачны былі белыя кашулі касцоў, на агромністыя ліпы вакол замка, на рэчку, што, пятляючы між алешын, блакітна ззяла ўдалечыні.

— Вы прывезлі мяне, каб зрабіць палоннаю? — спытала вечарам, седзячы побач з графам на высокім крэсле за вячэраю, Гальшка.

Яна была занадта маленькаю і кволай для гэтага, падобнага на трон, крэсла, пад яе падклалі некалькі падушак. І твар яе зрабіўся маленькі, з кулачок.

Граф Лукаш не стрымаўся, стукнуў кулаком па стале, так што затрымцелі шкляныя, з пукатымі вінаградзінамі ля ручак, кубкі.

— Я ўвесь час гавару тваёй мосці, што хачу цябе любіць і шанаваць як належыць мужу. Чаму ты не хочаш слухацца караля?!

Гальшка ўся сцялася, тонкая рука яе, што сціскала сурвэтку, пайшла плямамі, Еўка ўбачыла, што і па шыі, там, дзе не закрываў карычневы каўнер, папаўзло густа-ружовае. Яна асмелілася адказаць, адчуваючы шкадаванне.

— У пакоях, дзе пасялілі пані, так сыра і змрочна…

— Дык нагрэюць! — зверавата глянуў на яе гаспадар. Адвярнуўся, загадаў войту аднесці ў пакоі жонкі яшчэ колькі жароўняў.

— Лукаш сам яе пагрэе! — хіхікнуў побач з Гальшкай адзін з тых, хто суправаджаў карэту. Ён даядаў шчупака ў шафранавым соусе, запіваючы мальвазіяй. Круглы, з абвіслымі шчокамі твар ільсніўся ад задавальнення.

— А ён конь добры! — зарагатаў другі, праліваючы піва на шырокія порты.

— Зна-а-ем!

— То дзеткі будуць здаровыя!

— Па яму-то будуць! А па ёй?

— То дай божа ёй папышнець. Кажуць жа: кабета пышна, як замуж выйшла!

За сталом пайшлі, пасыпаліся жарты. Жанчын было няшмат — жонкі войта і стольнага, сястра сакратара ды пані з яе прыслужніцамі. А халастая кампанія графа Лукаша і заўсёды піравала шумна і весела, гэтак жа, як і ездзіла на паляванні. Многія з прысутных ваявалі, перамагалі на турнірах. Нездарма ў сталовай на сценах, абітых шаўковай усходняй тканінай, віселі шаблі, дзіды і ручніцы, рукаяці якіх, аздобленыя чаканкай і майстэрскай разьбой, паблісквалі пры святле духмяных свечак.

Баркулабіха, што сядзела пры Гальшцы, накладваючы ёй на сярэбранае блюда што-кольвечы са стала, раптам устала:

— Пані прывыкла, што рыцары не п’юць так многа, пакуль кабеты не пакінуць стала.

Адразу ж устала і Гальшка, за ёй Еўка. За сталом запанавала няёмкае маўчанне, брат графа падскочыў да нявесткі, схіліўся ў паклоне, прапанаваў руку. Калі жанчыны выходзілі, нейчы голас усё ж не стрымаўся.

— Хо, благая тая дамова, дзе вала бадзе карова!

І амаль адразу ж раздаўся шалёны крык гаспадара, загрымеў, падаючы, посуд, хрыпла забрахалі ганчакі, якія месціліся ля лоўчага.

Апоўначы граф Лукаш прыйшоў у пакоі да жонкі на моцным падпітку. Хістаючыся, стаў у дзвярах.

— Ідзіце прэч адсюль, — сказаў Еўцы і Баркулабісе.

Гальшка сядзела ў крэсле, гэтак жа сцяўшыся, зубы яе дробна калаціліся. Еўка знянацку выпусціла з рук кніжку, па якой чытала, добра разумеючы, што пані не слухала.

— Вяльможны пан, яе пашкадаваць трэба, — падала голас Баркулабіха.

— Прэч! — сказаў ён і, зрабіўшы крок наперад, хацеў схапіць Гальшку за крысо шарсцяной влошскай сукні. Але на ягоным шляху ўстала Еўка.

— Любоў пад прымусам толькі нямому быдлу прыстала, а не тваёй мосці! — амаль закрычала яна. — Ці вы законы толькі пішаце, а не думаеце іх спаўняць? Ці няма ўжо над вамі, над вяльможнымі магнатамі, нават і Боскага суда?!

Яна яшчэ нешта крычала, калі грубая мужчынская далонь змаху заціснула ёй рот. Другой рукой граф Лукаш раз’ятрана штурхануў Еўку.

Штурхануў — але ў той жа момант закрычала, забілася ў крэсле, белымі вачамі вар’яткі гледзячы перад сабой, маладая княгіня. І тады, прамармытаўшы праклён, ён пайшоў прэч.

Граф Лукаш паехаў з Шаматулаў назаўтра, загадаўшы перавесці жонку ў вежу, адкуль выйсці было можна толькі пад прыглядам стражнікаў. У суседнім пакоі каменшчыкі зрабілі камін, пані Байтовая сама ўласнаручна заслала ложак прасцінамі галяндэрскага палатна, прынесла тканы залатымі ніцямі абрус, павесіла на сцяну шыза-белы дарагі габелен. І хаця і на стале, і на буфеце, і на падлозе — усюды ляжалі пушыстыя дываны — увесь час скардзілася Гальшка, што ёй холадна. Еўка і Баркулабіха падшывалі сукенкі — яна ўсё худзела, марнела і,

здаецца, не чакала нічога — ні вызвалення, ні лістоў ад маці, ні літасці ад караля.

Еўка ж з той самай хвіліны, калі ўзабралася на вяршыню цвержы і пачула, як пераклікаецца варта, вырашыла, што не аддасць марна свае гады на тое, каб сядзець на гэтай чужой зямлі, сярод чужых людзей. Наёмнікі-немцы вартавалі іх, і твары былі непрыветныя, нібы сілком навязалі ім гэтых паланянак.

— Хіба гэта хрысціяне? Горш за татараў, дадушы! — казала Баркулабіха.

Яна гаварыла цяпер толькі на роднай мове, не прызнаючы нават польскай, якой карысталася доўгія гады. Прасіла Еўку зноў і зноў чытаць «Аповесць пра Трышчана і Ізоту», з перакладзеных кніг адзіную, што засталася ў іх. А вечарамі баяла казкі, тармасіла маладых жанчын, прымушаючы то вышываць, то вучыцца іграць на лютні, каб не мучыла іх тасклота-туга.

Ішлі месяц за месяцам. З вышыні было відаць, як даліна перад замкам то жаўцела і шарэла, то, пакрытая снегам, ззяла і смяротна-пустэльна пералівалася пад малінавым святлом марознага дня, то зноў пачынала наліваццa маладым зялёным сокам. Лапікі палёў на ёй бачыліся гэтак выразна, як клеткі на шахматнай дошцы: Еўка і Баркулабіха вывучыліся іграць у варцобы*. Гальшка ж, у нязменнай чорнай сукні і чорным покрыве на галаве, часта выходзіла на балюстраду вежы і гадзінамі глядзела ўдалячынь, не гаворачы ні слова.

Еўка дарэмна спрабавала наладзіць хаця якія адносіны з вартай ці з жанчынамі, якія прыходзілі прыбіраць. Вайтовая ж, якая прыносіла стравы, нават і слухаць не хацела ні пра якія лісты ці пасланні.

— Пан заб’е нас! — толькі і гаварыла яна з грымасай жаху.

Вартаўнікі ж, калі яна спрабавала з імі загаварыць, слухалі, не перабіваючы, а пасля на ламанай мове адказвалі:

— Загадана маўчаць.

Калі ж яна аднойчы пасля прагулкі загаварыла з ландскнехтам, што чысціў зброю, седзячы на акне, ён, азірнуўшыся, паспрабаваў яе абняць. Яна дастала з кішэні талер, вартаўнік адмоўна паківаў галавой, цягнучыся да яе грудзей. І больш яна баялася гаварыць з імі, баялася іхніх прагных вачэй, нахабных усмешак.

* Варцобы — шахматы.

Нечаканая дапамога прыйшла адтуль, адкуль яе не чакалі. Аднойчы Еўка адна выйшла прагуляцца. Дарожкі, па якіх яна магла хадзіць, усе былі відны замкавай варце, але дзяўчына звыклася з ёю. Яна спынілася на самым павароце, там, дзе высокі падмурак пляцоўкі абрываўся ўніз, стаяла, задумаўшыся, глядзела на раку.

— Пані такая маладая, а марна траціш жыццё! — раздаўся голас знізу. Еўка здрыганулася, глянула: на градах, што былі разбіты адразу за пляцоўкай, корпалася жанчына. Градаў было нямнога, ідавочна, яны належалі сям'і войта ці старасты. Жанчына была немаладая, рыхлая; на чырвоным ад сонца твары была спагада.

— Не па сваёй ахвоце трачу, — азвалася Еўка.

— Ну так, так… І пані ваяводзіна такая ж слічная і багатая, а шчасця не мае.

(Нядаўна стала вядома, што кароль даў графу Лукашу ваяводства, спачуваючы яго няшчаснаму шлюбу. Гальшку цяпер называлі ягоным тытулам.)

Еўка азірнулася. Варта, здаецца, не звяртала на яе ўвагі, і яна зноў загаварыла з жанчынай.

Агародніцу ўзялі ў замак нядаўна, ёй тут, нягледзячы на добры заробак, не падабалася — «нейкае ўсё нялюдскае». І калі праз тыдзень асцярожных гаворак на прагулках — а Еўка цяпер выходзіла гуляць і адна — яна папрасіла жанчыну перадаць у паштовую камору невялічкі пакет, тая, павагаўшыся, згадзілася.

— Адзін раз, і то таму, што мой кум там за кучара, — сказала агародніца баязліва.

Еўка шчодра расплацілася з ёю, але сумненне мучыла — ці дойдзе пакет да Нясвіжа? І ён сапраўды згубіўся, прапаў. Не ведала яна — Марцін шукаў яе, распытваў усіх, хто прыязджаў у Нясвіж, але ніхто не мог сказаць, куды падзелася такая непрыкметная істота, як адна з чалядніц пані Беаты.

Нечаканую вестку аб ёй прынёс Кавячынскі. Сярод лістоў, што прыходзілі ў канцылярыю Радзівілаў у Нясвіжы, неяк апынуўся ліст княгіні Беаты. Мусіць, слала яна лісты і на Вільню, і на Лоск, і на Клецак. Горка скардзілася яна на сваё жыццё, на тое, што не можа вызваліць сваю дачку з Шаматулаў, што кароль не хоча яе слухаць, а прыдворныя дбаюць не аб справядлівасці, а аб дабротах ды пасадах. Асобна гаварыла і пра князя Васіля Канстанціна Астрожскага, які хоча выжыць яе з Астрога як чужаніцу і папракае тым, што яна не дбае пра свае землі ў Княстве як належыць.

— Значыць, яна там, іначай дала б мне вестку! Я паеду ў тыя Шаматулы! — загарэўся Марцін. — Не маюць права трымаць вольнага чалавека, як вязня!

Мацей Кавячынскі ўзяўся адгаворваць яго, даказваючы, што, калі сярод года кіне працу, прыйдзецца Марціну вельмі несалодка. Хутка прывязуць літары і друкарскі станок. Пачнецца вялікая справа. І ўсё гэта кінуць і рынуцца ў няблізкі свет? Да таго ж хто пусціць яго ў замак? Не пускаюць нават маці, княгіню. Што гаварыць пра людзей простых, нязнатных! Вельмі няпэўна ўсё з Еўкай. А што, як яна выйшла замуж у далёкіх княжацкіх харомах? Так-так, жыве сабе ў Вільні або далей, дзяцей завяла…

Марцін паехаў да бацькоў Еўкі. Але яго не пусцілі нават на парог.

— Даводне* вядома, што вы, антытрынітарыі, ужо і на Хрыста, і на Троіцу замахнуліся, подлае, сатанінскае племя! — Прыцэліўшыся ў маладога чалавека з гакаўніцы, бацька скамандаваў: — Прэч, антыхрыст!

Чуткі ж пра княгіню Беату і ўвогуле былі розныя: нібыта яна жыве ў Кракаве разам з зяцем, Сімяонам Слуцкім, пасля называлі Краснік пад Люблінам, маёнтак ваяводы Тэнчынскага. Можа, Еўка была ў яе, а можа, сапраўды знайшла сабе каго пры бліскучым і легкадумным двары Беаты?

Да таго ж шмат, да невыноснасці шмат было спраў па школе і асабліва па падрыхтоўцы падручніка па гісторыі. Марціну хацелася напісаць пра ўсё, што адбывалася некалі ў Вялікім Княстве Літоўскім. І пра тое, што быў у ім некалі слаўны горад Полацак з Рагнедаю і Усяславам, і пра тое, што ўнукі Гедымінавы, Андрэй Полацкі і Глеб Друцкі, храбра змагаліся з татарамі на Куліковым полі. Зусім нядаўна жыў тут славуты Канстанцін Астрожскі, якога паставілі першым у гаспадарскай радзе Рэчы Паспалітай, хаця ён не быў католікам. Не маглі не паставіць — ваенныя заслугі яго былі непараўнальныя, нездарма атрымаў ён прозвішча «рускага Сцыпіёна». І так былі незадаволеныя тым зайздроснікі — прыбліжаныя караля, што ў 1522 годзе выдаў Жыгімонт спецыяльны прывілей, абяцаў панам-радзе, што пасля смерці Астрожскага аддасць тое месца ваяводзе віленскаму… А тыя ж Радзівілы? Гетман польны літоўскі Юрый, пераможца ў трыццаці бітвах, празваны «Літоўскім Геркулесам»? А як не ўспомніць Грунвальд і як не расказаць пра дзівоснае перапля-

* Даводне — дакладна.

ценне на гэтай зямлі старадаўняга рускага і новага, беларусінскага, а таксама таго, што прынесла Крэўская унія з Польшчай? Ягелоны — ад Ягайлы, ад яго і Соф'і Гальшанскай — род гэты, слаўны і магутны, даў многіх вялікіх людзей. І хіба можна не напісаць пра Рэфармацыю, якая так патрэбна, каб скінуць прыгнёт царквы, каб зрабіць людзей роўнымі?

Да таго ж у адным з лістоў паведамляў Будны, што атрымаў запрашэнне ў Клецак і можа заехаць да сваіх сяброў у Нясвіж. І ўсё гэта трымала Марціна на месцы, трывожыла, займала думкі.

Так прайшло ажно тры гады.

Прыезд у Нясвіж Сымона Буднага затрымаўся — Віленская кальвінісцкая абшчына заказала яму некалькі лекцый, ён зацягваў іх напісанне. Пасля неяк прызнаўся, што не адчуваў у сябе натхнення, а без таго грэшна пускаць што-кольвечы ў свет. Убогае пісанне не ўзвышае чалавека, наадварот, засушвае яго душу. Марцін перастаў ужо і чакаць госця ў Нясвіж.

І ўсё ж апошнімі днямі красавіка Мацей Кавячынскі паслаў па Марціна служку.

У магістраце, гледзячы зверху з акна на расквечаныя гандлёвыя рады і гараджан, сядзеў малады хударлявы чалавек з упалымі шчокамі, у простым суконным плашчы. Вузкія вусны былі шчыльна сціснутыя, каля арлінага носа заляглі глыбокія зморшчыны.

— Здароў, браце студыёзус, — сказаў ён, паціскаючы руку Марціну. — Ты, кажуць, у тым жа Ягелонскім універсітэце быў амаль што разам са мной. Толькі я не задаволіўся бакалаўрам, паехаў у Базель. А ты?

Марцін чамусьці лічыў Буднага намнога старэйшым, і тое, што яны аднаго ўзросту, адразу неяк заспакоіла. Не настаўнік стаяў перад ім, а такі ж малады і дзёрзкі хлопец. І праўда, толькі маладыя здолеюць намацаць сапраўдную дарогу і вывесці на яе свой народ. І ён горача загаварыў з Сымонам аб рэформах школы, аб тым, што пачынаць трэба з навукі, ажно пакуль Мацей, смеючыся, не напомніў, што госця трэба хаця б пакарміць з дарогі. Ды ўсё ж Будны захацеў прайсціся па Нясвіжы, і перш за ўсё яны накіраваліся ў невялікі двухпавярховы будынак, што стаяў непадалёку ад плошчы і касцёла — прыгожага, не так даўно, усяго колькі гадоў, пабудаванага славутым Янам Бернардоні. У гэтым доме мелася быць друкарня, абсталяванне для якой чакалі з дня на дзень. Пахла свежай тынкоўкай, смалістым дрэвам — каля дзвярэй ляжалі свежыя, залацістыя, як жытняя салома, дошкі.

Будны, шырока расставіўшы ногі, быццам урослы ў зямлю, доўга стаяў, глядзеў на камяніцу.

— Другая пасля Скарыны друкарня. Шкада, што тут… Ну дык Клецак усяго ў некалькіх мілях, — сказаў нарэшце, нібы сам сабе адказваў на нейкія патаемныя думкі.

— І твая мосць атрымае там нарэшце свой двор, і чалядзінцаў, і людзей цяглых, — падхапіў Кавячынскі.

— Галоўнае, я змагу там гаварыць з людзьмі, — задумліва паправіў яго госць.

— І гэта вам не спешчаная віленская знаць, якая ходзіць у касцёл, каб паказаць свае новыя ўборы, а ў кальвінісцкі збор зазірае з-за цікаўнасці, бо ніколі не бачыла, каб у храме вісеў толькі крыж і які падсвечнік. Тутэйшыя людзі, хаця працуюць цяжка і абцяжараныя старастамі і войтамі, а можа якраз таму, хочуць гаварыць з небам.

Невядома як, але сустрэчныя людзі, відаць, даведаўшыся, што госць — міністр збору, як і Крышкоўскі, — або нізка кланяліся, здымаючы магеркі і капелюшы, або проста праводзілі іх цікаўнымі позіркамі. Непадалёку ад старога драўлянага замка і касцёла, у лагчыне, сотні сагнаных халопаў капалі рыдлёўкамі зямлю.

— Тут будзе возера, і тады замак стане непрыступным, — растлумачыў Мацей.

— Прыгожы горад, зусім як у Швейцарыі, — сказаў Сымон. — Толькі пылу болей ды людзі глядзяць неяк спадылба. Яно і зразумела: тут чалавека дзешавей за гавяду лічаць, і вывесці яго з такога паднявольнага стану толькі навука зможа…

— Але ж, атрымаўшы навуку, ці не будзе халоп лічыць, што яму не трэба працаваць? Дый хто ўсё-такі тады гной на поле вывозіць будзе? — асцярожна загаварыў міністр нясвіжскага кальвінісцкага збору Крышкоўскі.

І яны зноў заспрачаліся, ды так, што спрэчка тая не перапынялася і за абедам.

— Калі не будзе ўлады, то як жа будзе трымацца дзяржава? — гаварыў Крышкоўскі. — Дай нашым мужыкам патолю, скажы, што араць поле можна па патрэбе, без прымусу, — хто выедзе на тое поле?

— Калі ў чалавека няма поўнай, можна сказаць, боскай свабоды, калі ён вечна ў ярме, як вол, — хіба можа ён называцца сапраўдным чалавекам? — гаварыў Сымон Будны. — Праца павінна стаць для яго патрэбнай, так, патрэбнай. Дзеля таго,

каб стварыць такога чалавека, які б любіў працу — вольную працу, — мы і стараемся сёння!

Марцін слухаў з заміраннем сэрца. Так, чалавек адрозніваецца ад быдла тым, што мае бессмяротную душу. А яго запрагаюць у цяжкі воз і б'юць пугай ці бізуном, і прымушаюць везці той воз. І так цягне ён той воз да самай смерці, так і не зразумеўшы, для чаго прыйшоў на зямлю…

Яму хацелася гаварыць і гаварыць з Будным. Але саромеўся запрасіць міністра ў свой сціплы дом з простай мэбляй, што засталася яшчэ ад дзеда. У хаце няма дываноў, якімі засцелены ў вялікім доме Кавячынскіх ледзь не кожны куток, ёсць толькі тканыя посцілкі дый заткнутыя за бэльку травы, што засталіся пасля Сёмухі. Але сам Будны выдзеліў яго і, прапанаваўшы яшчэ адну прагулку на Нясвіжы, зайшоў у дом да маладога настаўніка. Толькі тады Марцін паказаў яму запісы, доўга і горача тлумачыў, што і як хацеў бы напісаць.

— Давай, браце, — Будны доўга праглядаў запісы, любоўна перабіраў паперыны. — Зямлі нашай патрэбны такія людзі, як ты. А іх, хто дбае аб народзе, а не аб набітым трыбуху, мала, ой, як мала! І трэба ісці не толькі ў народ. Трэба, каб і высакародныя вяльможы дапамагалі. Іх продкі рабілі ўступку за ўступкай, а цяпер справа аб самым галоўным — аб лёсе народа. Яшчэ трохі, — і ён знікне, растворыцца, як растварыліся сярод немцаў прусы, як зніклі яцвягі. А ці ж літвіны — беларусцы — не народ?!

Марцін пасля таго, як праводзіў Сымона, доўга сядзеў у пакоі, не запальваючы святла. Усхадзілася непагадзь, дужы вецер са свістам гнаў па дарозе леташняе лісце, па краі неба клубіліся густа-чорныя хмары, абяцаючы не то дождж, не то позні снег, краёчкі іх адсвечвалі злавесным жоўтым колерам. Паспешліва грукаталі па брукаванцы колы сялянскіх вазоў і фурманак шляхты; заканчваўся дзень, і на плошчы зачыняліся невысокія каменныя крамы, а гадзіннік на ратушы працягла адзвінеў дзевяць гадзін вечара. Было відаць, як зачыняліся брамы, як на складзе грабара насупраць работнік доўга тузаў вялікі, у далонь, ключ, стараючыся закрыць замок. Бязладныя думкі Марціна былі аб тым, што Сымон, развітваючыся, неяк мімаходзь запытаўся, чаму ён дасюль не завёў гаспадыню, і, не пачуўшы адказу, змоўк.

Агромністыя ліпы каля дома бязладна рыпелі, і ад таго пачуццё няўтульнасці было асабліва моцным. Тады ж Марцін цвёрда вырашыў паехаць у Вільню, як толькі скончацца заняткі, і там

шукаць сляды Еўкі. Можа, яшчэ ўдасца сустрэцца там з кімсьці, хто ведаў Скарыну, паглядзець кнігі, пра якія пакуль толькі чулі ў Нясвіжы, але ніколі не трымалі іх у руках. І, пастараўшыся развеяць цяжкія прадчуванні, ён лёг спаць больш акрыленым, ускалыханы надзеямі дружыць і ездзіць да Буднага, і ўзнёс ціхую хвалу ўсім нябесным сілам за тое, што гэты незвычайны чалавек будзе жыць так недалёка і, значыць, можна будзе бачыцца з ім цяпер часта…

Адкрыццё друкарні ў Нясвіжы ўшанаваў сваёй прысутнасцю сам пан Мікалай Радзівіл Чорны.

Да яго прыезду бурмістрам была падрыхтавана ілюмінацыя: увечары, у прысутнасці гасцей, у цёмным небе ўспыхвалі цэлыя карціны, пасля якіх кожны раз з'яўляўся вензель «R», абкружаны, як вялікая камета, іскрамі і букетамі агнёў. Госці апладзіравалі. Сярод маладых магнатаў стаяў уладар суседняга замка ў Міры, Юры Іллініч, і захоплена глядзеў на дзівосы ў небе.

Куды меней увагі ўдзяліла шляхта ўласна друкарні. Пахадзілі, паглядзелі на рабочых у хвартухах, на станкі і набор літар, паслухалі пастара, які доўга і нудна гаварыў аб Рэфармацыі і асвяшчаў першыя друкаваныя лісты, пасля заспяшаліся на вячэру.

Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, малады кампазітар Тамаш Сакалоўскі і Марцін пасля ўрачыстай вячэры ў старым замку яшчэ некаторы час гулялі па вуліцах Нясвіжа.

— Катэхізіс выйдзе праз месяц, — казаў Будны. — Але адных такіх кніг мала. Трэба выдаваць азбукі, ноты, зборнікі песень. Здавён слаўная беларуская мова, але нашы магнаты ўсё часцей захапляюцца іншаземным. Нават маленькі Мікалай, сын старэйшага Радзівіла, гаворыць толькі на латыні — нягледзячы на тое, што бацька падтрымлівае кнігі на тутэйшай мове.

Лаўрэн Крышкоўскі прасіў Тамаша Сакалоўскага, каб той падумаў пра новыя песні, якія можна даваць дзецям у школу.

— Я ўжо падумаў, — спакойна сказаў Тамаш. — Мы з панам Сымонам нават назву прыдумалі для зборніка — «Канцыянал».

І яны горача заспрачаліся пра тое, якія песні трэба ўключаць у зборнік. На гулкіх вулачках гучалі імёны Мікалая Рэя, Анджэя Пшэцескага, Соф'і Алясніцкай. Тамаш нават спрабаваў спяваць некаторыя з іх песень. Варта, што хадзіла па горадзе, з зайздрасцю глядзела на маладых людзей, неахвотна ішла далей, дзе сярод драўляных дамоў мяшчан і рамеснікаў лавіла то п'янага, які ляжаў на вуліцы ў абдымку з гарнцам, то падлеткаў, якія

спрабавалі разводзіць які агеньчык за гумнамі. Над драўляным замкам стаяла чырванаватае ззянне ад мноства свечак, якія гарэлі ў пакоях, чуліся гукі музыкі.

— А як глядзеў на цябе малады Юры Ілініч! — успомніў Мацей. — Як на халопа, чамусьці ўзвышанага лёсам. Ніяк не прывыкнуць нашы паны да таго, што знатнасць не дае розуму, таленту. Гэта — ад неба. Здаецца, што-што, а неба яны павінны баяцца…

— Нічога — ні неба, ні Бога — не баяцца яны! — горача ўсклікнуў Тамаш. — Калі я з вучнямі скончыў спяваць і сеў за стол, пані Хруцкая зласліва запытала, што я буду рабіць, як страчу голас. На тое я адказаў, што, пакуль не страчу і галаву, неяк пракармлюся.

— А ты што маўчыш, Марціне? — запытаўся раптам Сымон Будны.

— А я чамусьці ўспомніў легенду пра Чорную Даму, якая ў нас вельмі папулярная, — адказаў Марцін.

— Не чуў! — з цікавасцю сказаў Будны.

Астатнія голасна загаманілі. Легенду тую ведалі ўсе, але ўгаварылі Марціна расказаць яе яшчэ раз.

Цёплая майская ноч з пахам старых ліп і маладых клейкіх лістоў таполі плыла над Нясвіжам, з плёскатам неслася рачулка Уша, уздоўж якой яны ішлі.

І Марцін пачаў расказваць пра тое, што нібыта кароль Сігізмунд Аўгуст, якога мучыла туга па прыгажуні Барбары, прыехаў сюды разам з панам Твардоўскім, чараўніком і чарнакніжнікам.

— Чаму сюды? — перабіў Будны.

І ўсе напярэймы адзін перад адным сталі тлумачыць, што душа чалавечая найчасцей прыходзіць туды, дзе ёй было добра.

— Тады хай бы Барбара ішла ў Вільню — там яна стала каралевай, — зноў не ўтрымаўся ад яхіднай рэплікі Сымон.

І ўсё ж ён з задавальненнем слухаў далейшае: Твардоўскі, трымаючы ў руках чароўнае люстра, на якім быў выразаны партрэт нябожчыцы, стаў заклікаць Люцыпара, Вельзевула і іншых князёў Цемры адпусціць каралеву. І яна нарэшце з’явілася — акурат такая, як на зваротным баку люстра: у белай сукенцы, з букетам руж у руцэ. І была такою жывою і чароўнай, што кароль забыўся на ўсё: кінуўся да яе і нават ужо схапіў за рукі. Але ў тую ж хвіліну раздаўся выбух, і ўсё зацягнула дымам.

— Нячыстая сіла не любіць, канешне, калі яе мацаюць рукамі, — упаўголасу дадаў Сымон Будны, але Марцін працягваў расказваць.

І на імгненне ўсім здалося, што на ліпавай алеі, дзе яны крочылі, узнікла цёмная постаць жанчыны. Узнікла — і растварылася ўдалечыні.

Марцін змоўк. Запанавала цішыня. І толькі Сымон, відаць, не паддаўся элегічнаму настрою. Востры, цвярозы яго розум нібы рассякаў, прэпарыраваў рэчы навокал.

— Калі яна была ў белым, то чаму ж стала прыходзіць нанова ўжо толькі ў чорным? — зноў запытаўся ён, але на гэты раз ніхто не адказаў.

А Марцін сказаў сабе, што ён цяпер абавязкова паедзе ў Вільню, каб дазнацца што пра Еўку. Адначасна зойдзе ў архіў старадаўніх актаў — там наладзіў добрыя сувязі Сымон Будны. Ды хутка павінны перавезці ў Нясвіж велікакняжацкі архіў — дамогся такога гонару Радзівіл даўно, але пакуль не прыстасаваны драўляны замак для гэтакай каштоўнасці. Трэба, канешне, самім разбірацца ў тых хітрых путах, якімі аблытваюць Княства, даказваючы, што нібыта ў самой Крэўскай уніі былі закладзены прынізлівыя ўмовы, на аснове якіх Ягайла стаў каралём. Але ж яшчэ не ўсімі забыта, што шлюб той ратаваў ад крыжакоў і Польшчу. Што ж такога незвычайна заманлівага было ў тым шлюбе для Ягайлы, дзеля чаго ён паставіў бы магутную дзяржаву залежным ад другой дзяржавы васалам?

Выбух рогату данёсся ад замка. Напружыўшы зрок, можна было ўбачыць белыя фігуры жанчын і хісткія мужчынскія постаці.

— Наша шляхецкая моладзь прывезла з Рыма не толькі веды, але і паганыя звычаі колішніх нобіляў. Новая забава: халопак апранаць вясталкамі і напускаць на іх хмельных гасцей. О, куды дзявацца ад распусты! — з горыччу сказаў Будны, адвярнуўшыся ў бок ракі. І дадаў яшчэ: — Ніякая рэлігія не выратуе іх ад гэтага… Жыццё пакладзеш — а ці будзе толк?

— Labor recedet, bene factum non absedet*, — упаўголасу сказаў Мацей Кавячынскі.

Будны толькі ўздыхнуў у адказ. У маўчанні яны павярнулі да прыходскага касцёла, аддадзенага пратэстантам, моўчкі раскланяліся з купкай галандцаў, што, сабраўшыся ў альтанцы, курылі свае трубкі і таксама пра нешта гаварылі. Запрошаныя ў Нясвіж дзеля таго, каб перабудаваць замак па старагаландскай сістэме ўмацаванняў, ямы трымаліся замкнёна і трошкі ганарыста, але

* Праца скончыцца, але добра выкананая работа не прападзе (польск.).

з Кавячынскім і Марцінам ахвотна размаўлялі па-нямецку, расказвалі аб радзіме, па якой прыкметна нудзіліся. Разыходзячыся па дамах, Сымон Будны нібы мімаходзь сказаў аб тым, што яго, відаць, мучыла і займала:

— Езуіты ідуць у наступ. І адкуль яны толькі ўзяліся на гэтай пакутнай зямлі?!

Пабыўшы колькі дзён у Вільні, Марцін адчуў, што ідэі Рэфармацыі як бы прыглухлі. За апошнія шэсць гадоў не было адкрыта ніводнага пратэстанцкага збору, затое будавалася ажно тры касцёлы. Было арганізавана некалькі езуіцкіх школ — і многія пратэстанты аддалі туды дзяцей, спакушаныя хто таннасцю, а хто якасцю навучання. Гаварылі, што вось-вось адкрыецца езуіцкая акадэмія, і нават называлі сярод імён вядомых вучоных каралеўскага прапаведніка Пятра Скаргу, аўтара зацных і страсных трактатаў аб каталіцызме, якія набывалі папулярнасць.

На шумных і вузкіх вулках Вільні ў натоўпе раз-пораз мільгалі чорныя сутаны езуітаў. Заклапочаныя, засяроджаныя твары, паспешлівы поступ — усё сведчыла аб тым, што «псы гасподнія», як называлі іх, занятыя важнымі справамі і нястомнай сваёй дзейнасцю.

З горыччу адзначыў Марцін, што нават тут, у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, рэдка цяпер гучала дзяржаўная мова — беларусінская. Гаварылі найчасцей на польскай, на лаціне. Асабліва студэнты. Многа было і замежных гасцей, пераважна купцоў. Ля храмаў тоўпіліся віленскія мяшчане ў кунтушах, суконных плашчах, пахла тут дзёгцем ад ботаў, і рыбай, і шкіпінарам. Затое ў ціхіх кварталах ля Гедымінавай гары, за ратушай, зелянелі дубы і клёны, і з карэт выглядалі аксамітавыя берэты, мехавыя шляпы багатых магнатаў і блішчэлі парчовыя, атласныя сукні іх жонак. Лета выдалася дажджлівым і неўрадлівым, і ранняя восень, халодная, няўтульная для бяздомных жабракоў, прынесла ў Вільню першыя, пакуль нячастыя гаворкі аб эпідэміі чумы, якая сабірала ахвяры ў Чэхіі і Нямеччыне.

«Катэхізіс» Сымона Буднага ўжо куплялі ў Вільні. У кніжнай краме стаяў малойчык у кароткім сінім плашчы і магерцы і гучна зазываў пакупнікоў. Спыніўшыся, Марцін з болем пабачыў, як двое каталіцкіх манахаў спрытна адсыпалі грошы на прылавак, перавязалі колькі кніг вяроўчынай і панеслі свой цяжкі груз. «Знішчаць жа “пратэстанцкае зелле”, — падумаў ён, — па ўсёй дзяржаве ўжо знішчаюць…»

Прыхіліўшыся да каменнай сцяны брамы, дзе высока ляцеў сярэбраны коннік з мячом, а ўнізе пад ім зіхацеў васьміканцовы крыж, сядзеў сляпы лірнік, спяваў баладу пра Зялёны Лес, дзе знайшлі магілу тысячы крыжакоў, а непадалёк распусная дзеўка цягнула ў вузкія дзверкі камяніцы багатага іншаземнага купца.

Марцін прыцаніўся да «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны, што выдалі тут, у Вільні, але цана, запрошаная гандляром, была непамернаю, і ён, уздыхнуўшы, адышоўся. Але вярнуўся на пастаялы двор пратэстанцкай абшчыны не з пустымі рукамі, а з перапісаным ад рукі казаннем Феадосія Касога — старца, што збег з Масквы і шукаў тут, у Княстве, сабе аднадумцаў. Павячэраўшы лустай хлеба і салам, Марцін хацеў быў узяцца за казань, але не змог: у руках і нагах з кожнай хвілінай нарастала ламоцце, у вачах мігцелі рознакаляровыя палосы. Ён лёг спаць, але сярод ночы прачнуўся ад болю, які разрываў вантробы, і ад гарачыні, што млосна накатвала на яго. Качаўся да раніцы, а пасля, устаўшы, каб папіць, упаў без прытомнасці на парозе, паспеўшы падумаць, што нічога не дазнаўся яшчэ пра Еўку, таму што Астрожскія з’ехалі з двара ў Вільні, і хіба толькі ў самім Астрогу нешта ведаюць пра світу маладой княгіні Гальшкі, дзе, мусіць, служыць дачка Касцевічаў.

…Марцін, сам таго не ведаючы, быў сярод першых ахвяр эпідэміі чумы, што ў той год ахапіла Еўропу і Вялікае Княства Літоўскае. Пахаваны абшчынай на гарадскіх могілках, ён хутка згубіўся са сваёй сціплай магілай сярод мноства пахаванняў, якія разрасталіся ўшыркі так, што гарадскім уладам праз колькі гадоў пасля эпідэміі давялося дазволіць, каб ставілі там жыхары свае саламяныя хаціны.

Сябры Марціна ў Нясвіжы заказалі па ім паніхіду, а паперы яго ўзяў сабе Мацей Кавячынскі, спадзеючыся што-кольвечы патрэбнае выдаць. Ды па смерці Мікалая Радзівіла Чорнага яго сын, перайшоўшы ў каталіцкую веру стараннямі езуітаў, выгнаў з Нясвіжа пратэстантаў і друкароў…

У гэты ж дзень і нават у гэты ж час у шаматульскі замак прыехаў граф Лукаш.

Раз’ятраны тым, што кароль, блаславіўшы яго на гэты неразумны, трагічны шлюб, не зрабіў нічога, каб запатрабаваць ад пані Беаты пасаг, ён на гэты раз прывёз добрую, на яго позірк, навіну — у Красніку памёр князь Сімяон Слуцкі.

— Цяпер ваша маці не будзе ўсюды крычаць аб тым, што сапраўдны яе зяць — гэты выскачка, гэты няўдалы палка-

водзец! —выгаворваў ён Гальшцы. — І вы напішаце, іначай адсюль я не выеду, ліст да яе з патрабаваннем прыслаць пасаг калі не поўнасцю, то хаця б часткова.

Гальшка сядзела ў крэсле бледная, погляд яе блукаў па вяршалінах вольхаў, што абкружалі рачулку, час ад часу вяртаючыся ў пакой. Але на графа яна глядзела так, нібыта ў пакоі не было нікога, і гэта раздражняла яго яшчэ болей. Граф ведаў, што з-за пастаяннага чорнага адзення яго жонку празвалі «чорнай княгіняй», а Шаматулы — «чорным замкам». Вось і цяпер яна не здымае чорнай наміткі, нібы якая манашка. А недзе енчыць і піша лісты ва ўсе бакі каралеўства яе маці, скардзіцца на злую нядолю і няшчасце.

— Тры гады я, як хрысціянін, цярплю пакутлівае становішча, яно зрабіла мяне пасмешышчам усёй Рэчы Паспалітай, — загаварыў граф. — Бог рассудзіў нас, ён паказаў, чый шлюб сапраўдны…

Баркулабіха і Еўка слухалі пад дзвярыма. У пуставатым пакоі голас гаспадара разносіўся гулка, як у бочцы. Але Гальшкі не было чутно. Нарэшце Еўка не вытрымала: яна пацiху прыадчыніла дзверы. Шоўкавы полаг ледзь закалыхаўся ад свежага паветра, якое магутна лілося праз адчыненыя байніцы, але ў пакоі гэтага не заўважылі. З таго месца, дзе яна стаяла, Еўцы была бачна тонкая, безжыццёвая рука маладой графіні, уся ў сініх жылках, амаль празрыстая. Рука гэтая, па меры таго як працягвалася размова, пачала спачатку няўлоўна, пасля ўсё болей дрыжаць, калаціцца.

— Вы напішаце гэты ліст! — настойваў граф Лукаш. Чырвоны ад узбуджэння, ён стаяў, нагнуўшы магутную шыю, растаўсцелы і разам з тым азызлы за гэтыя гады, і толькі нянавісць і шаленства былі ў ягоных вачах.

— Ну! — ён зноў тупнуў нагой.

— Калі вам заплоцяць… тады вы мяне ніколі не вызваліце! — раздаўся голас Гальшкі, тонкі, жаласлівы.

І раптам жанчына, саслізнуўшы з крэсла, упала на калені перад мужчынам.

— Забярыце ўсё. Забярыце праклятае багацце, якое мне засланіла свет. Адпусціце толькі. Куды-небудзь, хоць у манастыр! Дайце мне слова, адпусціце!

Яна з сілай пачала біцца аб падлогу, плачучы і пранізліва ўскрыкваючы. Граф Лукаш застыў ад нечаканасці. Нейкі цень спагады прамільгнуў на яго твары, але хутка змяніўся выразам

грэблівасці. Гэтая слабая, хворая істота ўжо даўно не выклікала ў ім нічога, апроч раздражнення і злосці. Сябры і родзічы, хаця і спачувалі яму, часам не маглі ўсё ж схаваць зласлівасці. Сенатары і магнаты Княства адкрыта пасміхаліся з яго на сеймах, праходзілі міма, абдаючы насмешлівымі поглядамі. Нават кароль, больш чым калі заняты справамі уніі і прыгнечаны няўдачамі і знясільваючымі любоўнымі ўцехамі, аднойчы сказаў хмурна, што спадзяваўся на большую спрытнасць графа ў адносінах да кабет, тым больш да ўласнай малжонкі…

Гальшка білася ля ягоных ног, пена выступіла на яе вуснах, рукі і ногі зрабіліся цвёрдымі, нягнуткімі. Убегшы, Еўка і Баркулабіха мітусіліся навокал, пырскалі духмянай коленскай вадой на грудзі гаспадыні, расціралі яе.

Граф, пастаяўшы крыху, выйшаў, цень пахмурнасці і заклапочанасці насунуўся на яго твар, пасля ён трохі павесялеў: магчыма, удасца патрабаваць апекі над такою вось няўцямнаю, хвораю жонкаю. Але — ізноў юрысты, законы, спрэчкі. «Праклятае жыццё», — ён адшпурнуў нагой пушыстую шэрую кошку, якая бегла да пакояў Гальшкі. Кошка заенчыла, замяўкала. Тады, чамусьці вінавата азірнуўшыся, граф Лукаш схапіў звярка і, падышоўшы да акна, расціснуў пальцы, што абцугамі трымалі слабое пушыстае стварэнне. Кошка з адчайным віскам паляцела ўніз, на каменную пляцоўку перад вежай.

Вечарам таго ж дня знясіленая Гальшка, абкладзеная падушкамі, з белым ручніком на галаве, паклікала Еўку.

— Грахі майго роду адгукнуліся на мне, — ціха сказала яна. — Мы жылі, не думаючы, што вакол нас людзі, можа, і праўда такія ж, як мы. Едзь да свайго Марціна, маці не ўладная над тваім жыццём, а я дам табе грамату…

— А вы, пані? — Еўка схапіла тонкую празрыстую руку, пацалавала яе.

— Я з нянькай. Яна старая ўжо. А табе жыць.

Яна знясілена адкінулася на падушкі. Памаўчала, дадала:

— Нават наша агародніца шчаслівейшая. У яе дзеці. Яе каравы, як звер, зарослы муж глядзеў на яе, і каханне свяцілася ў вачах. А на мяне… глядзяць толькі з пажадлівасцю… Хто я? Чорная княгіня!

Яна адвярнулася, ткнулася ў белыя падушкі. Баркулабіха замахала рукамі, зашыпела:

— Ідзі, ідзі! Прэч, прэч!

Але на развітанне абняла Еўку, перахрысціла і падарыла ёй тонкі залаты абразок.

— Гэта старадаўні абраз святой Ефрасінні Полацкай, — сказала, выціраючы вочы. — Твой гэты… лотр думае аб ранейшай славе Белай Русі, то хай абраз у вашым родзе і застанецца. Мае родзічы ўсе каталікамі сталі, а гэтая святыня… яна наша. Могуць і пераплавіць, бо пераплаўляюць жа нават крыжы і пацiры з цэркваў.

Першы раз бачыла Еўка слёзы на вачах вясёлай і ўладнай Баркулабіхі.

— Скора памру, — яна ўсё выцірала вочы ссохлай, але шырокай у касці рукой. Спачатку яна памрэ, донька мая, а пасля і я. А ты… хай Пан Бог даруе табе шчасце! І… і яшчэ. Панна наша не падумала, а табе нягожа ад яе жабрачкай вяртацца.

І яна сунула Еўцы скручаны і цяжкі ад сургучовых пячатак пергамен у скураным футляры. Дзяўчына ўзяла яго, здзіўлена запыталася:

— Што гэта?

— Дакумент на зямлю… Вёсачку маленькую табе падарыла… Вам дваім… На вяселле… Нешта ж у мяне таксама ёсць на гэтым свеце…

Бачачы, што Еўка вагаецца, сярдзіта зашыкала:

— Бач, бач, ганарыстая! Не табе — мужыку спатрэбіцца, калі унію правядуць. Бо з голаду абое здохнеце. І дзеці вашы.

Гэта перакапала. Еўка яшчэ раз абнялася са старой кабетай, села, паднімаючы сукню, у фурманку. У акне замка ўбачыла чырвоны, непрыветны твар графа Лукаша, апусціла вочы са страхам — раптам перадумае, пляснe ў далоні, і яе ссадзяць з фурманкі і зноў павядуць наверх, у гэтую суровую каменную вежу, дзе зімой шалёна выюць вятры і холад прабірае да касцей, нягледзячы на камін і грэлкі ў нагах?

«А я, Ева Касцевічуўна, не знайшоўшы дарагога мне чалавека, вярнулася назад у Шаматулы і была з няшчаснай князёўнай Астрожскай аж да адна тысяча пяцьсот семдзесят чацвёртага року, калі па смерці свайго гвалтам навязанага мужа яна выйшла з Шаматулаў і паехала ў Астрог да стрыя Васіля Канстанціна, якому і завяшчала свае скарбы. Бог пакараў князя за ўчынены некалі над ёю гвалт: сына яго забіў дваровы чалавек. Але, выпраўляючы свае грахі, выдаў ён пасля ў Астрозе “Біблію”, святую кнігу Боскую.

А я, пахаваўшы князёўну, чый розум памуціўся ад многіх бедаў, прыехала назад, пад Нясвіж, і, купіўшы невялікі фальва-

рак, жыву адна ў ім. Суцяшаю сябе тым, што змагла адправіць за мяжу, у Гейдэльберг, пляменніка Марціна Лукаша. Вучыцца недзе ў Кракаве і Беняш Будны, можа, дасягне некалі славы свайго дваюраднага дзеда, нягледзячы на тое, што езуіты змаглі-такі неадменне задушыць Рэфармацыю ў Княстве.

Але пра гэта, і пра лёс кніг, што тут друкаваліся, і пра самога Буднага, можа, напішу яшчэ.

“Чорная княгіня”, Гальшка, часта прыходзіць да мяне па начах. Можа, і праўда на тым свеце няма спакою яе душы? Мне, нягледзячы ні на што, пашанцавала болей, бо кахаю Марціна і зараз, і сёння…

Часта хаджу ў яго друкарню, у касцёл, што пабудавалі непадалёку. Душы чалавечыя на тым свеце сустракаюцца. Можа, яшчэ сустрэну яго?!»

*1989*

# АГОНЬ У ЖЫЛАХ КРЭМЕНЮ

## 1

Пяты дзень ішоў дождж. Па-асенняму пранізліва-халодны, ён сыпаўся і сыпаўся дробнымі кроплямі з нізкага шэрага неба, шчыльна засцілаючы наваколле. Трапяткія ад злоснага ветру прыдарожныя кусты, пабурэлае бацвінне, пожня, што цягнулася за ўзгоркі, ды палоска цёмна-сіняга, зубчатага лесу справа — усё расплывалася ў шэрані і самотнай смузе. Тлустая гліна дарогі набухла і блішчэла ад вады ў глыбокіх каляінах. Варта было аступіцца, і нагу, нібы схопленую нябачнымі абцугамі, цяжка было выцягнуць з вязкага месіва. Уздоўж дарогі цягнулася вузенькая, слізкая ад дажджу, але цвёрдая сцяжынка. Па ёй, згорбіўшыся, ішлі падарожныя.

Худая, ссінелая ад холаду жанчына гадоў трыццаці выглядала значна старэйшай. У саматканым андараку і вялікай суконнай хусце, яна аберуч трымала загорнутае ў посцілку дзіця, за плячыма ў яе вісеў вялікі дзіравы клунак. Твар, парэзаны раннімі маршчынамі, з моцна сцятымі сухімі гаротнымі вуснамі, калісьці, відаць, быў прыгожы, але гора і нястачы пакінулі на ім свае сляды: цёмныя вочы з парадзелымі вейкамі памутнелі ад слёз ці ад ветру, шчокі прывялі і здаваліся абвіслымі, нос выцягнуўся. Час ад часу кабета спынялася, падстаўляла дажджу рот, запалена ловячы халодныя кроплі. Тады хлапчук гадоў васьмі, што таксама з вялікім клункам за плячыма крочыў за ёй, стомлена прывальваўся да маці, дыхаючы дробна і часта. Перадыхнуўшы, яны зноў моўчкі цягнуліся па коўзкай сцяжынцы скрозь бясконцы дождж. Куды? Гэтага не ведалі ні маці, ні сын.

Жанчына з адчаем адчувала, што з кожным крокам губляе сілу, якой яшчэ трохі заставалася ў яе. Можа, таму, што ісці не было куды, але і заставацца ніяк не выпадала. Тое, што засталося ззаду, гнала і гнала яе з дзецьмі наперад. Па-сялянску дужую і вынослівую, яе раптоўна падкасіла страшная, не зусім яшчэ асэнсаваная ёю сіла, — і цяпер, разгублена ідучы ў незнаёмы свет, яна, як аглушаная, баялася думаць і ўспамінаць. Кружылася галава, часта тахкала ў грудзях сэрца, і чужымі рабіліся ногі. Калі ж спынялася перадыхнуць, перад вачыма паўставаў Міхал, глядзеў на яе нема. «За што?» — думала яна. Ён вечна шукаў нейкую справядлівасць, нібы яна і сапраўды ёсць на белым свеце! І вось — дачакаўся! Аднойчы вырваў з рук рыжага адверніка Сцяпана дзяўчыну з іх вёскі, Ганьку, якую той злавіў на лузе і зрываў з яе адзенне. Відаць, той і адпомсціў: прыйшлі

аднойчы з панскага двара халопы і абвінілі Міхала, што ўкраў ён у сваёй гаспадыні ў лесе бортнае дрэва. І што ж — знайшлі ў пуні кавалак бервяна. Знайшлі — і адразу павалаклі яго ў двор. Страшна крычала яна, як бегла за імі. Ведала: смерць прыйшла да іх у дом, і ад таго галасіла, білася галавой перад пані, што не краў мужык дрэва, што падклалі ім тое праклятае бервяно. Пані сядзела надзьмутая і пыхлівая, Сцяпан, ледзь не аблізваючы крысо яе пышнай аксамітавай сукенкі, нешта гаварыў і кланяўся.

Яна, не помнячы нічога, перажагнала сябе перад гаспадыняй:

— Не краў ён, прасветлая пані, Хрыстом нашым клянуся!

І — раптам змоўкла. Успомніла. А ў пані крывёй наліліся вочы:

— Ты… ты, халопка, не выканала мой загад? Не пайшла ў касцёл? Ерась падтрымліваеш? А што з папамі, якія тут былі, — ведаеш?

Яна ведала — Кацярына Мацієўская, знатная шляхцянка, нядаўна выгнала са сваіх уладанняў усіх папоў. А цэрквы зрабіліся касцёламі. Заганялі ў іх народ, угаворвалі, каб перайшлі ў каталіцтва. Ксяндзы былі ласкавыя, а пані — тая загадала, каб пры ёй ніхто не смеў насіць праваслаўныя крыжы, жагнацца пасвойму. Казалі людзі, што прыязджаюць да яе з Варшавы нейкія новыя манахі, называюць сябе езуітамі, яны і навучылі яе, што нельга цярпець на сваёй зямлі другую веру. Але навакольныя халопы чамусьці ўпарта трымаліся за старое, бо гэта «бацькамі і дзядамі завешчана». І ў ціхім, але ўпартым тым процідзеянні быў папрок для пані, горкі і балючы папрок. Пырскаючы слінай, пані крычала:

— Выкараню ўсё! Збродні праклятыя! А дзеці твае?

Жанчына, што стаяла на каленях, збялела. Ціха адказала:

— Веры бацькоўскай.

Пані вырвала з ліслівых пальцаў Сцяпана крысо кажушка:

— Узяць гэтых шчанюкоў! Мы навучым іх веры ісціннай. А таго, злодзея, абвесці вакол дрэва!

Кабета была па-сялянску дужая і вынослівая. Схапілі старэйшага, Янку, вырвалі з рук двухгадовага Алеся, яе звязалі і кінулі на зямлю. Яна ўсё бачыла і не адвяла позірку: калі Сцяпан, усміхаючыся, узяў з рук памагатых металічны каталіцкі крыж, раскаліў яго на вогнішчы, што было распалена слугамі, і некалькі разоў, трымаючы крыж абцугамі, прыклаў да грудзей яе сыноў… Як дужы гайдук успароў жывот яе Міхалу, выняў кішкі і, прыбіўшы іх да дрэва, павёў мужа вакол ствала, і той пакорліва ішоў, атупелымі, жудаснымі вачыма гледзячы ўпе-

рад, а кішкі дыміліся, наматваючыся на шурпаты ствол. Міхал упаў, тузаючыся ў сутаргах. Калі яе развязалі, яна спрабавала ўскочыць, кінуцца да дзяцей, да мужа, але ногі падламаліся, яна рухнула на зямлю, а потым усё-ткі папаўзла наперад. Хлопчык быў непрытомны, яго маленькая спіна пасінела. Востра пахла паленым чалавечым мясам, і яна расшыранымі вачыма дзіка глядзела на два чырвоныя крыжы, што былі адціснуты на дзіцячых цельцах распаленым жалезам.

— А з гэтымі што рабіць? — пачула яна над сваёй галавой голас старасты. Твар яго быў спакойны і абыякавы — не такое яшчэ даводзілася бачыць на гэтым двары.

Імгненне пані думала, гледзячы на халопаў, што моўчкі курчыліся на зямлі, як раздушаныя чарвякі. Залітыя слязамі вочы сустрэліся з гаспадынінымі. Старая ўжо, але сытая, у кажушку з вавёрчыных шкурак, з якога выпірала маршчыністае рыхлае цела, пані сядзела ў высокім утульным крэсле. Але, сустрэўшыся позіркам, раптоўна ўздрыгнула, адвяла вочы. Позірк яе наткнуўся на невысокага хлапчука ў падраным саматканым адзенні — таго самага, якому толькі што таксама прыкладвалі да цела крыжы, — ён стаяў і глядзеў на яе. Цёмныя, як у маці, ягоныя вочы здаліся ёй дарослымі — такая нянавісць была ў іх. Яна ўспыхнула гневам, хацела загадаць нешта — і нечакана для сябе хрыпла вымавіла:

— Хай ідуць адсюль. Хай здохнуць ад голаду!

…Дождж пачаўся назаўтра, калі жанчына хавала Міхала. Сама выкапала магілу, паклала яго на дошкі — труну не дазволіла рабіць пані — і доўга ўглядалася ў жоўты, у страшнай грымасе застылы твар. Побач усхліпваў Янка, ціхенька віскатаў ад болю і малы, а яна ўсё стаяла над нябожчыкам і думала, думала. Валасы ўпалі ёй на твар. Яна адвяла іх вялай рукой і зноў схілілася над мужам. А потым доўга, цяжка спрабавала загаварыць, і словы былі такія, нібы каменне.

— Гэта яны забілі бацьку твайго. Езуіты…

І хлопчык, запамінаючы, сказаў глуха:

— Езуіты.

Іх ніхто не правёў за ваколіцу. Баяліся панскага гневу. Толькі калі яна з Алеськам на руках валачылася ад роднай хаты ў невядомую дарогу, з усіх вокнаў выглядалі аднавяскоўцы. Чвякчвяк — ногі яе мясілі дарожную гразь, па твары цякла вада, роў малы пад хустай, і тады ўпершыню яна адчула, як мала ў яе сілы…

Сцяжынка крута пайшла ўверх. Пачыналася нейкае мястэчка. Напэўна, наперадзе хутка будзе Полацак. Яна ніколі не была ў гэтых краях, толькі чула, што ёсць такі горад, і трохі меншы за яго — Віцебск. І ўсё сваё жыццё кабета правяла ў вёсцы і адыходзіла ад яе, толькі калі дзеўкай бегала на вечарынкі да суседзяў. Але і Полацак быў занадта блізка ад яе былой пані, і кабета вырашыла ісці далей, пакуль зможа. І білася ў ёй жалоба — ніхто не пытаўся ў Міхала, чаго ён хоча, нібыта ён быдла нямое, а караць — тут жа гатовыя. Чым лепшая перад небам гэтая пані за іх, бедных людзей?

Раптоўна яна адчула востры боль у сэрцы. У вачах стала цёмна. Паспрабавала ўздыхнуць — і не змагла. Падняўшы мокры твар да неба, хацела перахрысціцца — і пачала падаць, апошнім праблескам свядомасці павярнуўшыся бокам, каб не пабіць дзіця, што ўжо спала ля грудзей…

## 2

Калі маці цяжка асунулася на дол, Янка спачатку здзівіўся і ў першы момант узрадаваўся — можа, хоць зараз яны адпачнуць крыху ад бясконцай дарогі, якая налівае цяжарам ногі і кружыць галаву. Паглядзеў на мокрую траву — расцягнуцца б на ёй, падклаўшы мяшок. На маці не глядзеў — трохі злаваўся на яе, што адламіла яму раніцай столькі ж хлеба, колькі і малому. Усё ж ён ідзе сам ды і нясе во які хатуль! Ён з палёгкай скінуў яго і знясілена зваліўся зверху, уткнуўшыся лобам у анучы, ад якіх пахла цёплай хатай, заціркай і яшчэ нечым утульным.

Ззаду заплакаў Алеська. Плач яго быў прыглушаны матчынай хусткай, але чуваць было, як ён папрасіў: «Мама, хлеба». Ён картавіў яшчэ, і таму атрымоўвалася: «Хе-ба». І ўслед за гэтым заплакаў мацней, спрабуючы вылезці.

«Што гэта з ёй? І голасу не падасць. Хлопца б выпусціла. Хай дыхне крыху», — падумаў Янка. Хаця балела спіна, на якую ўчора апусцілі жалеза, ён, абкручаны зёлкамі і суровым палатном, сёння не енчыў. За ўчарашні дзень ён нібы падрос і пасталеў, сцішыўся, зразумеўшы, што ўчора ўслед за бацькам маглі адправіць іх усіх. Дзівіўся Янка толькі аднаму — чаму людзі, якія стаялі навокал, былі абыякавыя да крыкаў маці і жудаснага енку бацькі? Што благога людзям зрабіў бацька? Наадварот, абараніў Ганьку — за гэта яго павінен быў бы ўзнагародзіць Пан Бог, пра якога шэптам, касавурачыся па баках, расказвала

маці. Няўжо ёсць яшчэ другі, больш моцны Бог, пра якога ўчора, захлынаючыся злосцю, крычала ім магутная і страшная пані?!

Ён, ужо са страхам, зірнуў на маці. Яна не варушылася, не стагнала. Заплакаў малы Алесь — патрабавальна, адчайна, і тады Янка падбег, затармусіў маці, закрычаў — немым крыкам, на ўсю моц:

— Ма-а-а!

Але крык яго прыглушыла нізкае неба, дождж, што хлынуў з новай яраснай сілай. Ад яго не ратавалі ні матчына хустка, ні клункі. І тады ссінелы, ледзь дыхаючы, пакінуўшы замоўклага брата і мёртвую маці, ён пабег наперад па дарозе, падаючы, выпэцкваючыся ў бруд і гліну, — пабег шукаць людзей…

3

Бліскучыя сытыя конскія спіны курыліся парай: нялёгка было везці па гразкай дарозе шыкоўную, выкаваную лепшымі віленскімі майстрамі карэту.

Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега, чорнавалосы, грузны мужчына з правільнымі, крыху аплыўшымі рысамі твару, нервова пакусваў таўставатыя вусны. Але калі ён звяртаўся да суседа, шырокі твар яго рабіўся ветлівы і пачцівы.

— Пан Скарга, спадзяюся, што яшчэ да цемнаты мы ўбачым з вамі горад, дзе дасюль расказваюць пра вас легенды?

— Вы занадта ацэньваеце маю сціплую дзейнасць. Кароль Стэфан Баторый і без мяне ўзяў бы Полацак.

— О, не кажыце! Тады ўсе нашы раскіслі, як гэтая дарога, праклятыя дажджы добра-ткі ахалодзілі гарачы пыл салдат. Дарэчы, і да вас маліліся тут капланы — езуіты, але нешта толку было малавата. Але варта было вам пакінуць акадэмію і пасняшыць сюды…

— Пацерна, які быў тут абозным капланам, захварэў ад няспынных маленняў. Хіба мог я пакінуць караля аднаго, без штодзённай малітвы?

— О, ён сам гатовы быў маліцца на вас! Калі куля з Полацкага замка прабіла сцяну яго лагернай хаты і ўпала ў міску перад вамі, ён, кажуць, пабялеў ад страху?

— Ваша мосць, гэта перабольшана. Ён проста спытаў мяне: «Што гэта азначае?»

— І вы сказалі прароцкія словы: «Заўтра раніцай маскалі папросяць нас да сябе на вячэру». Вы аказаліся нядрэнным прарокам! На другі ж дзень нашы войскі вярнулі Полацак!

— Пра гэта не варта гаварыць. Куды важней тое, што кароль выканаў свой абет, і Полацкая езуіцкая калегія амаль не ўступае Віленскай.

— Ну яшчэ б! Кароль нездарма адабраў у Спаскай праваслаўнай царквы ўсю яе маёмасць, 16 тысяч сялян і аддаў калегіі.

— Вы лічыце гэта няправільным?

— Ваша міласць, я дасюль помню і цаню словы каралеўскай граматы, дадзенай вам для заснавання калегіі: «Гэта робіцца для таго, каб езуіты заснавалі семінарыю, каб распаўсюдзілі ў схізматычных краінах каталіцкую веру, каб устранялі лацінскія прыходы, а значыцца, каб выкаранялі ўсе ерэтычныя вучэнні, не згодныя з духам каталіцкай царквы».

— Усё гэта правільна. Але чаму вы, вы, надзея Рэчы Паспалітай, пісалі свой знакаміты Статут (я, дарэчы, чытаючы яго два гады назад, захапляўся вашым юрыдычным талентам) — дык чаму вы пісалі яго на гэтай, прабачце, нікому ўжо не патрэбнай, апроч хлопаў, мове?

— О не! Гэта не хлопская мова. На ёй мы зусім нядаўна размаўлялі з папам рымскім. Нашы старажытныя граматы напісаны на ёй, і вы гэта добра ведаеце, пан Скарга! І я спадзяюся — яна не памрэ, нягледзячы ні на што! — Сапега нервова хруснуў пальцамі.

— Я не хацеў абразіць вас. Але цяпер Літва — гэта частка вялікай Польскай дзяржавы. Як каталіцтва знішчыць урэшце праваслаўе і розную ерась, так і польская мова паглыне ўсе дробныя мовы. Паглыне — але і сама ўзбагаціцца!

— Але каталіцызм і паланізацыя — гэта дзве зусім розныя рэчы. І пакуль што ёсць Вялікае Княства Літоўскае, нягледзячы на ўсе уніі…

— О, вы раззлаваліся, пан Сапега! Не будзем спрачацца. Час пакажа, чыя праўда.

Ён замоўк і стаў углядацца ў акенца карэты, затым загадаў фурману спыніцца.

— Гэта ж усяго толькі халопка! — здзівіўся канцлер, калі Скарга, крэкчучы, стаў вылазіць з карэты. — І яна, вашмосць, бадай што мёртвая.

Каралеўскі прапаведнік расхутаў клункі, загадаў фурману ўзяць дзіця, яно ўжо не плакала, а толькі ціхенька скуголіла. Пасля ён дакорліва паківаў галавой:

— Акруценства глыбока пранікла ў сэрцы нашых магнатаў. Кожнае стварэнне — ад Бога. І хлопчык гэты яшчэ, можа, стане любімай авечкай у яго статку.

Гаварыў ён гэта з дакорам, і Сапега, не ведаючы, ці ад шчырага сэрца выратаваў Скарга халопскае дзіця, ці дзеля таго, каб не ўпусціць магчымасці лішні раз паказаць сваю літасць і дабрыню, пакорліва схіліў галаву, не спрачаючыся і не ўхваляючы свайго субяседніка, а толькі ўздыхнуўшы, што сёлета, як ніколі, многа людзей брыдзе па гразкіх асенніх дарогах немаведама куды. Вось і яны едуць у Полацак наведаць езуіцкую калегію, да якой у яго, Сапегі, настолькі не ляжыць душа, што ён бы з большай радасцю разнёс яе гарматамі… Але ёсць загад караля, і мусіш яго слухаць. Ехаць у цёплых каптанах, пакрыўшы ногі мядзведжымі шкурамі, даволі ўтульна, субяседнік у яго цікавы — некалі ж вернецца ён назад у Вільню, да сваіх кніг, да пекных паняў, да ўсіх радасцяў, што можа яшчэ даць жыццё.

Скарга, папраўляючы чорны дажджавы капялюш, думаў пра тое, што вось ужо за трыццаць гадоў прайшло з таго часу, як па запрашэнні віленскага епіскапа Валерыяна Пратасевіча прыйшлі ў гэты край езуіты, а зробленае імі нібы ўвесь час растварaецца ў агромністых тутэйшых прасторах, як шчопця солі ў адным з гэтых азёр… Яны ехалі ўжо па беразе возера, магутныя цёмныя яліны грозна шумелі наверсе, хвалі перакочваліся і глуха плёскаліся ў бераг, такі ж непрыветны, як і ўсё навокал. Скарга думаў пра тое, што задача, якая ўяўлялася і так няпростай — знішчыць у гэтым краі ўсё, што нагадвае пра часы вольнасці і незалежнасці, калі мясцовы князь Альгерд акунаў кап'ё ў Чорнае мора, дайшоўшы да яго, а сама Польшча, знясіленая тэўтонамі, прагла мець добрую апору і прасіла Ягайлу стаць каралём — гэтая задача аказалася невыносна цяжкай. Магнаты Белай Русі, Літвы, Жамойці ўпарта трымаліся прывілеяў і правоў асобнай дзяржавы, і хаця многія з іх перайшлі ў каталіцтва, але гэта не паменшыла зацятасці, з якой яны шукалі магчымасцяў захаваць Вялікае Княства Літоўскае. Але ж свая мова, свае звычкі і фінансы, сваё войска і юрыспрудэнцыя — яны ж у любы момант змогуць патрабаваць аддзялення, як было гэта пасля смерці Ягайлы. Яны і цяпер сцвярджаюць, што ўмовы першай уніі былі іншыя, што падробка без пячаткі і без подпісаў, а не сапраўдны акт ляжыць у архіве капітула… Адзінае выйсце — растварыць гэты бунтоўны народ у Рэчы Паспалітай — дзяржаве, у якой вялікая будучыня. А для гэтага пойдзе ў ход усё магчымае. Слых яго ўлавіў дзіцячы плач. Вось такія, як гэты хлоп, будуць працаваць на ідэю акаталічвання, яны будуць самымі вернымі псамі езуітаў. Туркі разумна выкарысталі кінутых і бязбацькавічаў. Бацькоў

выразалі, а дзяцей рабілі мамелюкамі. Трэба, каб і тут, на гэтай няласкавай, няскоранай зямлі было як болей такіх мамелюкаў…

Янка дабрыў-такі да добрых людзей, яны ўпусцілі яго ў хату, накармілі і пайшлі, каб пахаваць адну хрысціянскую душу і, можа, уратаваць другую. Нябожчыца, абмытая дажджом, ляжала там жа. Малога Алесіка не знайшлі нідзе. З тайнай палёгкай уздыхнулі муж і жонка — сваіх дзяцей поўна, а яшчэ б немаўля… Гэты прышлы хлопчык ужо памач. І кароў на яго можна будзе пакінуць, і жыта жаць ён умее. Жыта — адвечная доля селяніна, і родзіць яно густа ў ліхія часіны — таму, відаць, што многа крыві чалавечай на тутэйшых палях…

Восень 1622 года была па-летняму цёплая, сонца грэла траву і кусты ля дамоў, і Вільня, звычайна ў гэты час хмурая і непрыветная, здавалася асабліва прыгожай. Ранішнія туманы, што не да канца разганяла вераснёўскае сонца, прыдавалі абрысам дамоў тонкую ружова-млявую расплыўчатасць, так што яны здаваліся крыху нерэальнымі, нібы намаляванымі.

Золатам вышываныя сукні жонак магнатаў і прыдворных, шаўковыя велянсы, віятыкі, гафтаваныя срэбрам шаўковыя сукенкі шляхцянак, капелюшы, магеркі, аксамітавыя берэты мужчын — усё гэта надавала багатым кварталам горада выгляд гожы і слічны.

Па вузенькім вымашчаным каменнем дворыку Троіцкага манастыра, некалі адабраным мітрапалітам Пацеем у праваслаўнага брацтва, ішоў малады манах. Быў ён у звычайнай для ўсіх настаўнікаў калегіі чорнай сутане, якая, аднак, ляжала на ім так лоўка, што адразу выдавала шытво лепшых віленскіх краўцоў. Коратка астрыжаныя цёмныя валасы маладзілі худы, энергічны твар з тонкімі рысамі, разумнымі светлымі вачыма. Чужымі здаваліся на гэтым цвёрдым, нібы высечаным з белага мармуру твары адно вусны — чырвоныя, пульхныя, як у наіўнага, пацялячы задаволенага жыццём юнака. Ен знарок падціскаў іх, яшчэ больш насупліваючы бровы.

Тоўстыя каменныя сцены манастыра стваралі ўнутры амаль правільны чатырохкутнік, з якога быў толькі адзін выхад на вуліцу. У адных з вуглавых дзвярэй стаяў высокі манах.

— Брат Казімір, пан настаяцель заняты. Прасіў крыху пачакаць. Вось тут, пшэпрашэм.

Ён паказаў на невялікую драўляную лаву, на якую падала яркае святло. Малады чалавек усеўся на яе, выцягнуў з кішэні

сутаны невялічкую кніжачку ў чорным аксамітавым пераплёце і паглыбіўся ў яе. Потым уздыхнуў і, закрыўшы кніжку, моўчкі правёў пальцамі па загалоўным лісце. «Пётр Скарга. Адказ на артыкул аб езуітах».

Ён помніў гэтую кніжку назубок. Некалі, яшчэ дзесяцігадовым хлопчыкам, ён слухаў словы, надрукаваныя цяпер у ёй, і, здаецца, зноў чуў голас чалавека, якому быў абавязаны ўсім і якога ўспамінаў штодзённа, хаця са смерці яго прайшло ўжо амаль дзесяць гадоў.

Тады, у Вісліцкім касцёле, прысутнічалі сенат, сеймавыя паслы і сам кароль Жыгімонт Трэці. А ён сядзеў непадалёк ад алтара ў групе вучняў калегіі, апрануты анёлкам, і з гордасцю глядзеў, як кідаў Скарга гарачыя, усхваляваныя словы водпаведзі тым, хто пасмеў распусціць свой брудны язык на езуітаў: «О рыцары і прасветлая шляхта! Вы аддаяце нам свой скарб — вашых дзяцей; скажыце, ці так вы плаціце нам за нашы паслугі? О моладзь і лепшая надзея вялікіх польскіх дамоў! Ты ў нас вучылася, ты адукавана святлом нашых калегій — скажы: чаму благому мы цябе вучылі? І ты, святлейшы кароль, сведчы пра нас — для чаго ты трымаеш нас пры сваім двары?»

Цішыня стаяла ў касцёле. Нехта побач кашлянуў, на яго зашыкалі.

«Дух Кальвіна і Лютэра не ажыве да таго часу, пакуль Польшчу будуць берагчы езуіты — гэтыя верныя псы папы…»

Здавалася, абрушыліся сцены касцёла. Апладысменты, хаця нельга апладзіраваць у касцёле, усхваляваныя твары. А прапаведнік павольна сыходзіў з кафедры, твар яго быў пакрыты буйнымі кроплямі поту, сівыя бровы ссунуты, і ён хутчэй прашаптаў, чым сказаў:

— Казік, вады.

І ён, шчаслівы, прыбег з поўнай чашай вады і замілавана глядзеў, як спакойна, стрымана адказваў Скарга світце караля, што акружыла яго:

— На жаль, шмат забурэнняў нават між духоўнымі асобамі. Што ж казаць пра шляхту?

А потым, калі ўсе пайшлі, паклаў руку яму на галаву і сказаў ласкава:

— Я задаволены тваімі поспехамі, сын мой. Але мясцовую славянскую мову трэба знаць лепей. Яна яшчэ спатрэбіцца табе. — І, звяртаючыся да вучняў калегіі і іх бацькоў, усміхнуўся: — Многім вашым высакародным сынам не хапае такой прагі да навукі, якую выказвае гэты хлапчук.

На што нехта ліслíва сказаў:

— Нездарма ж гэта ваш выхаванец, пан рэктар. А ці праўда, што ён — беларусец?

— Ён каталік. І, спадзяюся, будзе верным сынам Рэчы Паспалітай. А вы, выпадкова, не ведаеце, хто былі вашы продкі, пан Хадкевіч?

І ўсе вакол пачалі смяяцца невядома чаму. А класны настаўнік, брат Іеронім, пачціва пакланіўшыся рэктару, моўчкі павёў вучняў за сабой і толькі каля самай калегіі павучальна сказаў:

— Усё сваё жыццё ты павінен быць удзячны пану рэктару.

…Ён і так быў удзячны. І не за тое, што знакаміты каралеўскі прапаведнік Пётр Скарга падабраў яго, як расказвалі манахі, паміраючага на дарозе. А за тое, што з Полацка той прывёз яго сюды, у Вільню, да лепшых настаўнікаў Польшчы, за тое, што далучыў да еўрапейскай культуры, даў магчымасць стаць настаўнікам дзяцей аднаго з самых бліскучых некалі магнатаў Вільні — дома Гаштольдаў. Род Гаштольдаў, цесна звязаны з родам князёў Гальшанскіх, які даў польскую каралеву Соф'ю — маці караля Казіміра — і далейшых Ягелонаў, скончыўся ўсяго паўвека назад, яго багацце перайшло да езуітаў. Але родзічы Гаштольдаў, якія сталі арандатарамі палаца ў Вільні, былі досыць багатыя і знатныя людзі, служыць у іх было пачэсна.

Некалькі разоў, яшчэ вучнем старэйшых класаў у калегіі, малады настаўнік бываў у гарадскіх беднякоў. Звычайна яны жылі ў падвалах вялікіх камяніц, якія так упрыгожвалі віленскія вуліцы. Гэта былі рамеснікі, якія працавалі ад цямна да цямна і ўсё-ткі зараблялі так мала, што варта было галаве сям'і захварэць, як уся сям'я ўпадала ў галечу. Маладыя члены брацтва міласэрнасці прыносілі такім сем'ям грошы, адзенне, хлеб — усё, чым можна было хоць трохі дапамагчы няшчасным. Казімір ганарыўся, калі людзі дзякавалі яму, кідаліся цалаваць рукі, як збаўцу ад голаду. Не раз расказвалі на занятках, як, уступіўшы ў члены брацтва, сам кароль Жыгімонт Трэці са сваёй світай хадзіў па вуліцах збіраць міласціну для бедных людзей.

Праўда, некалькі разоў сем'і, куды яны прыходзілі, былі праваслаўныя. І вельмі часта, нягледзячы на голад, людзі адмаўляліся ад дапамогі. Толькі раз, калі разгневаны майстар з пракляццем выгнаў іх, жонка яго, змучаная, рана пастарэлая кабета, выбегла за імі і, працягваючы рукі, папрасіла:

— Людцы вы мае, не звяртайце ўвагі на хворага чалавека! Дзеці мруць, дык чаму не прыняць ад добрага чалавека помач? А што не католікі — дык даўно ўжо ўгаворваю мужыка: давай перахрысцімся! Па сённяшніх часах інакш і не выжывеш!

Ён доўга думаў над яе словамі. Іх веры патрэбны такія перабежчыкі, што з-за кавалка хлеба гатовы прыняць хоць іслам? А потым рашыў: патрэбны! Не яна, а яе дзеці, якіх выхавае святы касцёл, будуць вернымі сынамі Айчыны.

Айчына… Любові да яе вучыў і Скарга, святы айцец, як называў яго Казімір. Пра Айчыну ён гаварыў палка і натхнёна. Пра гэта казалі яго кнігі.

Казімір помніў тыя словы, таму што з дзяцінства завучваў усё, што пісаў яго настаўнік: «Божа! Я выканаў тую службу, на якую ты паслаў мяне. Я вучыў людзей, каб яны цвёрда і шчыра любілі свае абедзве мацеры — касцёл і Айчыну, каб ерэтычныя нязгоды іх не раздзялялі… Паноў сваёй Айчыны я вучыў: будзьце вернымі і паслухмянымі сваім каралям — аберагайце сябе ад бурчання і дарэмнага гневу — майце між сабой сяброўства і сваёй вольнасцю не наклікайце на Айчыну няволі! Ад усёй душы я жадаў, каб паны не прыцяснялі сваіх падданых… Я вучыў іх, каб яны збіралі сродкі не на шаўковае адзенне, віны і раскошу, а на абарону Рэчы Паспалітай… і сваёй Айчыны мілай…»

Казімір ведаў — таму і нельга мець літасці да рознай ерасі, што іменна яна, вынікшая з самага страшнага зла — вальнадумства, — і разбурае Айчыну. З дзяцінства яго вучылі паслушэнству. Нездарма настаўнікі ранняй вясной уткнулі ў агародзе некалькі палак-кульбак — і кожную раніцу, да самай восені, вучні палівалі вадой дзеравяшкі. Іх вучылі верыць, што гэта не кульбакі, а дрэўцы, і яны верылі. А той, хто не навучыцца верыць, не варты належаць да высокага ордэна езуітаў, якім ганарыўся сам папа рымскі.

«Езуіты — гэта цэмент, без якога нельга пабудаваць каменны будынак сапраўднай веры», — не раз гаварылася ў калегіі, а потым у акадэміі, дзе рэктарам быў настаўнік караля — Пётр Скарга.

…Сонца пякло Казіміра. Але ён не варушыўся, раздумваючы. На нос нешта села. Ён правёў пальцамі па твары і доўга разглядаў маленькую серабрыстую павуцінку, немаведама як прыляцеўшую ў каменны мяшок манастыра. Яна чамусьці нагадала яму панну Зосю — маленькую, пяшчотную шляхцянку, малодшую дачку віленскага старасты пана Тышкевіча. Зосі толькі што стукнула шаснаццаць, але ў вачах яе, смяшлівых і какетлівых, часам мільгала нешта такое жаночае, што ён адчуваў: у яго пачынаюць чырванець вушы і грукае сэрца. Калі яна пакорліва станавілася ў касцёле на калені і нявінна нахіляла прыгожую галоўку, ён лавіў сябе на жаданні дакрануцца вус-

намі да пушыстых белых кудзеркаў. Але вочы яго заставаліся халодныя і раўнадушныя.

Усё гэта — часовыя спакусы, не больш. У мяне ёсць вышэйшае прызванне. Я, просты манах ордэна езуітаў, буду мець больш улады і сілы, чым любы з высакародных шляхцічаў Вільні, што жаніхамі прыходзяць у дом Тышкевічаў. Нездарма дэвізам сабе ён выбраў лацінскі выраз: «Silicis venis abstrudo ignis» — «Агонь, што схаваны ў жылах крэменю». Яму падабалася паэзія і дакладнасць гэтых слоў. Так, знешне ён будзе як крэмень. А ўнутры душа будзе гарэць агнём… агнём веры.

І ўсё-ткі ён, не прызнаючыся сабе, любіў тое, што гнеўна асуджаў на словах: багацце магнацкіх палацаў, іх раскошу, крышталь на абедзенным стале, венецыянскую парчу на жанчынах і пурпурныя заслоны ў гасціных. Багацце пахла вострымі індыйскімі спецыямі, коленскай вадой і мускусам у зімовы вечар — о, не так, зусім не так, як пахла жыллё беднякоў. Ён ненавідзеў іх чырвоныя, распараныя ад бясконцай работы рукі, іх лахманы і зацкаваныя твары, іх невуцтва. Ён добра ведаў іх грубую гаворку — але гэта было патрэбна для будучай яго работы, і ён ненавідзеў тую работу таксама. Але іначай не возьмеш таго, што хочаш, — улады і раскошы.

На двары пачуліся крокі. З дзвярэй выйшаў заклапочаны Леў Сапега. Убачыўшы Казіміра, ён, аднак, прыязна ўсміхнуўся яму.

— А, гэта ты, місьцюк? Падрос, падрос. Даўно не бачыў цябе. Кажуць, ты робіш нядрэнную кар’еру?

Казімір смірэнна схіліў голаў.

— Я, ваша мосць, толькі стараюся выконваць часцінку той агромністай работы, што завяшчаў нам усім дастойнейшы настаўнік…

— Дарэчы, цябе і выклікае мітрапаліт якраз для гэтага. Чуў я, што нябожчык пан Скарга прасіў клапаціцца аб табе, называў цябе будучай гордасцю езуітаў?

— Брат мой Іосіф-Вельямін клапоціцца пра мяне адзіна з прычыны сваёй міласэрнасці…

— Бачу, маладзенчык рымскі, вышкалілі цябе добра. Ну, будзь здароў. Часы цяпер такія, што хопіць усім нам работы. Але адно помні: Княства не памерла, і ты, пане, усё-ткі не паляк, а беларусін…

Ён з прыкрасцю махнуў рукой і размашыста пакрочыў да выхаду.

Казімір падняўся.

«Вось яшчэ дзівак, — падумалася яму. — Носіцца са сваім Княствам Літоўскім, нібы Ягайла амаль два стагоддзі назад не аддаў тое Княства Польшчы, а Жыгімонт-Аўгуст не пацвердзіў таго. Вяльможа размаўляе на славянскай гаворцы, на якой беларусіны-хлопы гавораць, а Статут такі напісаў, што гэтым хлопам і шчыліны свабоднай не пакінуў. А што пра беларусіна сказаў — дарэмна. Ніхто не ведае, чый ён. Знайшлі — ну і што?»

Іосіф-Вельямін Руцкі, мітрапаліт уніяцкай царквы, сядзеў, задумаўшыся, за доўгім дубовым сталом. Пачуўшы крокі Казіміра, ён падняў галаву і кіўнуў на стул побач.

Маладыя сінія вочы, сівая кучаравая барада і высокі лоб рабілі твар гэтага немаладога ўжо мужчыны прыгожым і адухоўленым. Ён быў добра вядомы ў Рэчы Паспалітай не толькі як мітрапаліт, але і як заснавальнік першага ордэна сярод уніятаў — базыльянскага. Ордэн названы быў у гонар святога Васілія і зроблены па абразчыку езуіцкага. Выхаванец езуітаў, Іосіф-Вельямін Руцкі ўсё-ткі часам спрачаўся з каталіцкім духавенствам, не даючы яму вялікай улады над краем. Дай ім волю, гэтым прагным ксяндзам, — яны і ніводнага ўніята не пакінуць. А унія, па глыбокім перакананні Руцкага, магла стаць асновай для самастойнай рэлігіі, на аснове якой можна было б захаваць народ. Праўда, пра гэта мітрапаліт не гаварыў нікому, апроч блізкіх сяброў, бо гэта было небяспечна. Да таго як прыйсці да такой мэты і да такіх думак, малады Руцкі шукаў праўды і справядлівасці па розных шляхах. У маладосці быў праваслаўным, потым стаў кальвіністам. А паслухаўшы палымяныя пропаведзі Скаргі, перайшоў у каталіцтва. Папа Урбан Восьмы, заняты ў той час справамі уніі, пераканаў яго, што унія паспрыяе людзям Княства набыць роўнасць у дзяржаве. Вярнуўшыся з Рыма ў Вільню, Руцкі, аблашчаны Скаргам і адным з тварцоў уніі, мітрапалітам Іпаціем Пацеем, раўніва пачаў працаваць на карысць уніі. Ішлі гады… і ён рабіўся іншым, з болем думаў пра страчаную вольнасць і самастойнасць Княства. …Стул, на які сеў Казімір, зарыпеў. Мітрапаліт нарэшце адарваўся ад сваіх думак.

— Брат мой, я выклікаў цябе па важнай для нас усіх справе. Ты асабіста ведаў настаяцеля Свята-Троіцкага манастыра Кунцэвіча?

— Я некалькі разоў бачыў яго ў нас у калегіі, але ніколі не размаўляў з ім.

— Гэта добра, што ён не ведае цябе. Ты знаеш, што ён цяпер узведзены на Полацкую ўніяцкую кафедру?

— Так.

— У апошні час з Полаччыны прыходзяць трывожныя чуткі. У вялікай рэўнасці сваёй брат наш па ордэну Іасафат Кунцэвіч выклікаў незадаволенасць схізматыкаў, іх так многа яшчэ ў Княстве. Усе нашы намаганні разбіваюцца аб упарты фанатызм праваслаўных.

— Таму што ў сэрцах нашых яшчэ ёсць месца для літасці да тых, хто губіць сваімі рознагалоссямі, ірве цела нашай маці — Кароны.

Руцкі пранізліва паглядзеў на маладога езуіта.

— Я рады, што ты добра разумееш, брат мой, нашы задачы. Таму і вырашылі даверыць табе, дастойнейшаму, цяжкі крыж нястомнай работы нашай.

— Я гатовы, ойцец.

— Ты не выслухаў, што належыць зрабіць.

— Навошта? Я зраблю ўсё, што загадае ордэн.

— Выдатна! Дык вось — два гады назад, калі архіепіскап паехаў у Магілёў, каб перавесці праваслаўныя цэрквы ва ўніяцкія, яго не пусцілі ў горад. Нават пагражалі гарматамі. Зачыншчыкаў пакаралі — 20 чалавек павесілі, а цэрквы ўсё-ткі перадалі архіепіскапу. Цяпер многа скаргаў ідзе на яго з Віцебска. Адчуваю, што там неспакойна. Але брат Іасафат крыўдзіцца, калі мы пасылаем адсюль каго-небудзь з ордэна. Лічыць, што ён справіцца і сам. Дык вось — ты паедзеш у Віцебск. Будзеш жыць у доме аднаго з мясцовых майстроў, тайнага служкі ордэна. Ты што вучыў у акадэміі?

— Медыцыну па асобнаму курсу, кухарскую справу і залаташвейную.

— Ну так. Майстар гэты шые па золату. Ты будзеш працаваць у яго памочнікам. Трэба зблізіцца з мясцовымі ўніятамі. Ты пяройдзеш ва ўніяцкую веру.

— Уніяцкую?! Слухаю.

— Вядома, гэта пакуль што. І будзеш пісаць мне — асабіста! — пра ўсё, што ўбачыш вакол. Свайму ордэну ты таксама будзеш паведамляць важнае. Але пра гэта скажуць яны самі.

Руцкі замоўк і пільна паглядзеў на твар маладога езуіта: здаецца, у душу гэтага беларусіна езуіты ўклалі-такі мудрасць і ўменне пераконваць людскія сэрцы. Ён жа вучыўся ў самога Скаргі і быў яго любімцам.

Мітрапаліт раптоўна спытаў пранікнёна і шчыра:

— Сыне мой, ці прыходзяць да цябе сумненні ў тым, наколькі правільны твой шлях?

Твар у манаха ўпершыню за час гутаркі асвяціўся. Вочы ў яго пацямнелі, і чырвань з’явілася на бледных шчоках:

— Не, у мяне няма сумненняў.

— Та-ак… Але ж нават твой настаўнік часам сумняваўся. Дарэчы, ты помніш, што без яго ты быў бы звычайным хлопцам, а можа, і наогул не выжыў бы?

— Я не хачу, каб мне бясконца напаміналі аб маім паходжанні! Яно не перашкодзіла мне добра навучыцца ўсяму, што мелі ласку даць мае настаўнікі!

— Гардыня — цяжкі грэх. За гэтыя словы — дзесяць дзён цяжкага посту!

Ён памаўчаў.

— А зараз я хачу даць табе больш канкрэтнае заданне. Але… яшчэ скажы…

Вочы мітрапаліта, здаецца, наскрозь пранізвалі субяседніка.

— Скажы мне, як свайму духоўніку, ці хацелася табе даведацца што-небудзь пра сваіх родных, пра тое, хто ты?

— Не. Я не хачу нават думаць пра гэта. Я — Казімір Яноўскі і не хачу быць нікім іншым.

Твар мітрапаліта аставаўся прыязны — нельга было зразумець, як ён паставіўся да гэтых слоў. Але вось лёгкі смутак ахінуў яго твар, ён узняў вочы ўгору.

— Для гэтага трэба ўжыць усе-ўсе магчымыя сродкі! Калі патрабуе справа, можна зрабіць выгляд, што ты праваслаўны. Ты ж добра помніш, для чаго быў створаны святым Лаёлам ваш ордэн?

— Барацьба за адзіную веру — вось задача. Настане час, калі на ўсёй зямлі не будзе ніводнага схізматыка і народы стануць пад сцяг папы — намесніка Бога на зямлі! І дзеля гэтай высакароднай мэты не трэба шкадаваць ні сябе, ні блізкіх…

Так Казімір даведаўся, што ў Віцебску ёсць брацтва, дзе адзін з самых заядлых схізматыкаў — нейкі Ян Корань. Увайсці ў яго акружэнне, «узарваць» збродняў знутры, аблудна стаць іх сябрамі… І калі адсылаў яго мітрапаліт, расказаўшы ўсё патрэбнае пра ўніятаў Віцебска, вочы ў маладога манаха гарэлі радасцю і рашучасцю. «Агонь, што тоіцца ў жылах крэменю…»

Наперадзе чакала дарога. А за ёю — новыя прыступкі да славы, да ўзвышэння…

Віцебская ратуша, пабудаваная пасля таго, як горад у 1597 годзе ўслед за Магілёвам і Пінскам атрымаў магдэбургскае права, была бачна здалёку, за колькі вёрстаў ад места. Позняе

асенняе сонца, што шчодра ў той кастрычніцкі дзень свяціла над Віцебскім краем, ярка ззяла на вялікіх шыбінах вузкіх і высокіх аканіц ратушы з разьбянымі балонамі. Калі гадзіннік на ратушы паказаў поўдзень, дзверцы, адмыслова зробленыя ў цыферблаце, расчыніліся, і коннік з мячом у руцэ, а за ім і фігура, што сімвалізавала час, уся ў белым, з касой на плячы, выехалі з дзверцаў і павольна праплылі вакол цыферблата. Звонкія, трохі пранізлівыя гукі музыкі паплылі над натоўпам, што стаяў на плошчы і зачаравана назіраў відовішча.

У натоўпе гараджан і замежных купцоў, варты з машталерамі і коп'ямі нічым не выдзяляўся малады чалавек у цёмнай шапцымакгерцы, у каптане з влоскага сукна з ворсам, у карычневых — брунатных — портах. За спінай у яго быў патрапаны варок — торба з шарсцяной тканіны, вышытая чырвонымі і чорнымі нітамі. Цёмныя валасы, гожа падстрыжаныя ў пастрыгальнай каморы, выбіваліся з-пад макгеркі роўнымі акуратнымі пасмамі, светлыя зеленаватыя вочы глядзелі шчыра і светла. Гараджанкі пазіралі на прыгожага рамесніка, але ён быў цалкам захоплены тым, што бачыў у гандлёвых радах, якія блізка падыходзілі да ратушы і новага каталіцкага касцёла, які яшчэ не быў адкрыты.

Каля крамкі, над вострым дахам якой круціўся на ветры металічны сцяжок з гербам Віцебска — той жа коннік з мячом на бела-чырвоным фоне, — стаяла некалькі чалавек. Высокі, з раннімі зморшчынамі вакол вуснаў, з суровым, але энергічным тварам мужчына гучна казаў тоўсценькаму, юркаму, як уюн, чалавечку:

— Нашто кавалям было такі ўшчынак чыніць? Дамовіліся дзверы каваць за адну цану, а цяпер кошт панізілі амаль удвая, а з нашым цэхам нават не параіліся?

— Ваш старшына згадзіўся, — відавочна стараючыся гаварыць цвёрда і пераканаўча, гундосіў круглы чалавечак. Ён ссунуў амаль на патыліцу вішнёвы берэт з залатымі шнурамі, нервова папраўляючы скураны пояс з вялікай металічнай спражкай.

— А хто яго прасіў? Чаму ён з намі не параіўся? — раздаліся галасы навокал. Высокі чалавек тым часам, не паніжаючы голасу, запытаўся:

— Што вы паабяцалі нашаму Вячуню, што ён, не пагаварыўшы з майстрамі, самавольна на такі ўбытак кавальскаму цэху згадзіўся?

— А ты, Корань, усяго толькі майстар, і ніхто цябе старшыной цэха не рабіў, каб мы перад табой апраўдваліся! — раптам акрысіўся чалавечак.

— Дык выберам! — загудзелі вакол галасы. — Ён не тое, што Вячуня, які скача перад вамі на цырлах!

— Хопіць, хлопцы, хопіць! — загаварыў высокі чалавек. — У мяне няма столькі грошай, як у Вячуні, і не трэба мне той старшына! Але і нашы інтарэсы згамаваць не дазволім! І ты, — звярнуўся ён да чалавечка, — і бурмістр адкажаце цэху за самавольства, што ўчынілі!

Памочнік бургамістра адразу збавіў тон — канфлікт з цэхам кавалёў быў для гарадской рады непажаданы. Войны, паходы каралевіча Уладзіслава на Маскву патрабавалі вялікай работы кавалёў, дый Віцебску зброя была неабходна. І таму ён зноў загаварыў памяркоўна:

— Гарадской казне пільна патрэбны грошы. Самі ведаеце — у горадзе не плоціць падаткаў шляхта, духоўныя асобы. А колькі рамеснікаў з чадзі нявольнай, якія жывуць у горадзе, а падаткаў не плоцяць, таму што яны не гарадскія, а паднявольныя! Не раз казаў пан бургамістр і пісаў пра тое вялікаму князю, але і сам яго мосць кароль дае такія прывілеі панам магнатам, што ні яны, ні іх людзі нам непадсудныя. А грошай колькі трэба! І дарогі рабіць, і горад ачышчаць ад бруду, і каравулы ўчыняць!

— Тваю мосць, як бачыш, шкадаваць трэба!

— Нібыта гэта не нам плаціць бясконцыя гэтыя маставыя, стругавыя, вазавыя, а вам!

— А квітавыя, а замкавыя!

— Ціха! — перакрыў гвалт памочнік бургамістра. — Звяртайцеся да свайго старшыны, разбірайцеся з ім! А падаткі плаціць усё роўна будзеце, нашто толькі бурду ўздымаць! А завадатар зноў ты, Корань!

І, не слухаючы болей крыкаў, паспешліва пайшоў у памяшканне ратушы, абурана мармычучы, што вечна ўсім не задаволены гэтыя рамесныя пасады, а самыя бунтоўныя з іх — Узгорскі, Заручайскі і Задунайскі.

Малады чалавек у цёмнай макгерцы ўважліва слухаў спрэчку, пасля непрыкметна пайшоў за невялікай купай людзей, якія абкружылі высокага чалавека і ішлі за ім, голасна размаўляючы аб сваіх крыўдах. Паступова яны разыходзіліся.

Высокі чалавек каля аднаго з маленькіх, нібы ўрослых у зямлю, дамкоў развітаўся з таварышамі і пайшоў у хату.

Хата гэтая нічым бы не выдзялялася сярод такіх жа будынін, у якіх жылі дробныя рамеснікі Узгорскага пасада, каб не адна асаблівасць: вокны яе і вароты былі аздоблены металічнымі рашоткамі, і зроблены яны з рэдкім адчуваннем прыгожага.

Пакручастыя завіткі, узоры больш прысталі б адной з багатых трохпавярховых камяніц, якіх так многа было ў цэнтры Віцебска — горада, які ненамнога ўступаў Полацку, трэцяму ў Княстве гораду па багацці і прывілеях.

Віцебск таксама не быў пакрыўджаны ўвагай караля: пачынаючы з 1444 года, горад атрымліваў мноства ўстаўных грамат, дзе правы яго жыхароў, асабліва багатых магнатаў і духавенства, усё павялічваліся, як павялічваўся вываз тавараў з горада ў многія гарады Еўропы і Рэчы Паспалітай. Вывозілі воск, скуры звяроў, мёд, нават попелу вывезлі ў Рыгу ажно на дваццаць тысяч злотых у мінулым годзе.

І ўсё ж вуліцы, дзе жылі рамеснікі — кавалі, цесляры, ганчары, пекары, — былі, як у многіх гарадах Еўропы таго часу, брудныя і неўладкаваныя. Восенню нават фурманцы цяжка было праехаць па гразкіх вуліцах, а жыхары прабіраліся каля дамоў па вузкіх драўляных кладках.

Праз некаторы час, паўзіраўшыся на дом, дзе жыў Корань, малады чалавек грэбліва абцёр трэскай запэцканы бот і пайшоў назад. Некаторы час ён блукаў па горадзе, пасля, зайшоўшы на адну з вуліц, што мясціліся каля старога замка і ад таго былі больш сухія і чыстыя, пастукаўся ў кватэру, чые вокны былі значна ніжэйшыя за маставую. Фіранка на акне варухнулася, мужчынскі твар выглянуў на двор і, убачыўшы маладога чалавека, худы, з жоўтым ацёчным тварам мужчына груба запытаўся:

— Чаго трэба?

— Такі купец, як шаноўны Літавор, мог бы і прыўратніка трымаць. Хіба чаляднікаў не хапае? — пачціва і ўсё-ткі злёгку як бы насмешліва сказаў госць.

Літавор угледзеўся ў прыезджага і хутка, нават трохі паспешліва, адчыніў дзверы.

Пакой, куды ён завёў госця, быў цесна застаўлены мэбляй — цёмным буфетам з белымі і сінімі нямецкімі кубкамі, рознымі шафкамі, лавамі для сядзення, абітымі ласінай скурай і добра-такі зашмальцаванымі. У куце стаялі варцабы-шашкі, у другім — бочка з воцатам — востры пах разносіўся вакол. Госць паглядзеў, мімаходзь заўважыў:

— Нездарма мне казалі, што твая мосць баіцца нават паказваць сваё багацце, каб не давалі высокіх падаткаў гарадскія радцы. Вы, беларусіны, нават жыць як след не ўмееце.

— Прывезлі залатое шытво і ўзоры, ваша міласць? — запытаўся гаспадар замест адказу, лісліва гледзячы ў вочы госцю.

— Ваша мосць, я, недастойны падмайстар Лукаш, прывёз па вашай просьбе лепшыя абразчыкі віленскага і рыжскага залатога шытва і буду шчаслівы пажыць у вас і трохі навучыць вашых работнікаў самым модным сярод віленскіх модніц і шляхціцаў абразчыкам, — Лукаш дастаў з-за спіны торбу і паклаў яе каля сябе.

— А, ну так, так, — хуценька прамармытаў гаспадар. — Зразумеў, пан Лукаш.

Ён не здзівіўся пераходу незнаёмца да тону пачцівага, амаль прыніжанага.

— Толькі Лукаш! — паправіў яго малады чалавек. — І запомніце, што я ў няміласці ў Вільні і хачу прыстроіцца да вас. Мару аб гэтым, але тайна. Пра гэта можаце сказаць як бы між іншым. І — ніякай асаблівай перавагі! Як да ўсіх! Зразумелі?

— Я думаю, вы праваслаўны, — паўшэптам, калі ўжо яны збіраліся выходзіць з пакоя, папярэдзіў Літавор. — Інакш нашы чаляднікі — памочнікі майстроў — вам давяраць не будуць.

— Так? — запыніўся на імгненне малады езуіт. — Добра, пасполам нешта прыдумаем. Будзем рабіць паводле звыкласці тутэйшай…

Пацягнуліся дні за днямі. Маўклівы, негаваркі Лукаш спраўна рабіў заданні майстра: працягнутую скрозь спецыяльны станок тонкую залатую нітку — каніцель — ён лоўка намотваў на бабіны і пасля, надзеўшы сярэбраны напарстак, вышываў ёю самыя складаныя заказы — жаночыя кофты і вісону — з бацістаў і паркалю. І не толькі сам працаваў — Сцяпана, які быў зусім сапсаваў зіпун белы палатна коленскага з бавоўнаю, прынесены радцам места Віцебскага Мілейчыцам, Лукаш выправіў: распароў Сцяпанаву вышыўку, хуценька намаляваў новыя ўзоры ў выглядзе вінаградных лозаў, як на славутых бібліях доктара Скарыны, — і ўзрадаваны Мілейчыц заплаціў болей, чым меўся, а Сцяпан пазбегнуў кары. Чурылу, які не мог справіцца са станком, ад чаго каніцель выходзіла няроўная, ён разабраў станок, і той, старанна прачышчаны шурпатай паперай, прывезенай новым падмайстрам, пачаў працаваць спраўна.

Праз нейкі час работнікі майстэрні запрасілі Лукаша пайсці з імі ў покутную карчму, дзе яны наладжвалі рэдкія свае баляванні. Лукаш ахвотна згадзіўся, і там, калі апаражнілі малайцы сёмую бутэльку вінную гарнцавую дый колькі квартаў гарэлкі жаландковай і заелі іх печанымі галаўнямі, пяцёра малайцоў як з глузду з’ехалі — гарчыцаю шчокі пачалі мазаць і скакаць.

Але Лукаш быў цвярозы, нібы і не піў нароўні з усімі. І нават дзевак вясёлых-віслён, што ўжо наважыліся праверыць кішэні хлопцаў, адагнаў, а пасля сам з яўрэем Шмулем разлічыўся і звыш належнага толькі паўгроша даў, чым Шмуль быў надта незадаволены.

Работнікі ў майстэрні Літавора, якія спачатку насцярожліва ставіліся да новага работніка, у рэшце рэшт вырашылі, што хлопец ён нішто сабе, і патроху сталі яму давяраць.

— Трэба Хвёдара, падлу, правучыць! — сказалі аднойчы яму Сцяпан і Зміцер. — Кажуць, што ён ва ўніяцтва збіраецца пераходзіць.

— Вера — гэта справа добраахвотная, — асцярожна раздумваў Лукаш.

— Якая там добраахвотная! Спадзяецца месца майстра заняць у цэху канатнікаў, а майстрам на цяперашнія часы праваслаўнага не надта паставяць. Думалі, чалавек Хведзька, а ён — на табе! — гарачыўся Сцяпан.

Лукаш толькі пацiснуў плячыма, не адказваючы. Затое загаварыў Антон, што моўчкі сядзеў у куце і намотваў залатую каніцель:

— А што ж нам, усё жыццё вось так і хадзіць у падмайстрах? А можа, хлопец і праўда чалавекам застанецца, сваіх выцягваць будзе. А што ўніят — так сабе, для блізіру… З ваўкамі жыць… А жывём жа!

— Дык ён ужо і па-панску гаварыць спрабуе. Веры бацькоў вырачыся — як ваўкалакам стаць. Яны, паны нашы, толькі і думаюць пра свае багацці, і ім чужую скуру надзець — як плюнуць. А мне не ўсё роўна, што я павінен буду бацькі адрачыся, маці апляваць. Яны мяне і за сына лічыць не будуць! — Сцяпан тупнуў нагой, кулакі яго сціснуліся.

— Трэба, хлопцы, дык трэба, — лагодна ўсміхнуўся Лукаш. — Праўда, я не надта люблю ў бойкі лезці, але як трэба…

— Вось ты! — не супакойваўся Сцяпан. — Табе ж майстра прапаноўвалі ў Вільні, а ты не захацеў і не палез ні ва ўніяты, ні ў каталікі! Сюды прыехаў — але і тут, браце, цяперака нявыкрутка нашаму брату. Загінем мы, мусіць, усё-ткі, прымусяць яны такі нас ляхамі стаць, няйначай!

— Калі ўсе станем рогам, нічога не зробяць, — разважліва сказаў Зміцер. — Брацтвы таксама моцныя, і Масква нас падтрымлівае!

— Успомні пра палачан. Цар Іван колькі іх пабіў ды татарам аддаў! — сказаў Антон.

І загаварылі, заспрачаліся дзецюкі, ажно пакуль не зайшоў гаспадар, не крыкнуў на чаляднікаў ды ім не пагразіў.

Хлопцы з Літаворавай майстэрні добра-ткі правучылі Хведзьку, але Антон, які трымаўся ззаду і не надта ўлягаў у бойку — шкадаваў, як сам прызнаўся, Хведара — нясмела сказаў Лукашу:

— Б’ешся ты, братка, неяк так…

— Здорава ён б’ецца, да душы! — зарагатаў Сцяпан.

— Як? — запытаўся Лукаш.

— Ну, неяк так… Жорстка надта…

— Жорстка! — перадражніў Зміцер. — А як трэба — як баба? Як ты, што ўсё ззаду трымаўся? Думаеш, мы не бачылі?

І Антон болей не гаварыў нічога, толькі стаў трымацца далей ад Лукаша і нават, калі трэба было, стараўся да яго не звяртацца. Затое хлопцы яшчэ болей пачалі давяраць Лукашу, і ён ужо многае ведаў: і пра віцебскае брацтва, і пра цэхі — як хто настроены. І пра ўсё гэта акуратна і дакладна пісаў ён у Вільню — адразу па двух адрасах… Пісаў пра тое, што ніці мясцовай смуты ў руках шляхты, а з простага народу — у каваля, да якога няма падыходу, але ён шукае і знойдзе слабое месца каваля. І знайшоў — ды так нечакана, нібы і сапраўды дапамаглі яму вышэйшыя сілы.

Неяк пад Сёмуху гаспадар паслаў Кораня па яго гандлёвых справах у навакольныя вёскі. Мала было прададзена на віцебскіх кірмашах авечай поўсці, дый тая стала каштаваць дорага. Гаспадар жа спадзяваўся, што Лукаш дамовіцца з заможнымі шляхцічамі, каб гандлявалі яны поўсцю на месцы, і яна абыдзецца яму больш танна.

Апроч залаташвейнай справы займаўся Літавор прадзівам, для гэтага ў доме ў яго было дваццаць работніц, і на тое, што нідзе работніцы тыя не былі запісаныя і не ўваходзілі ні ў адзін цэх, глядзелі скрозь пальцы: Літавору дапамагалі нябачныя, але адчувальныя для яго сілы.

Была вясна, гнуткія бярозкі наліваліся маладымі клейкімі лісточкамі, трава густа ішла ў рост, і высокае сіняе неба здавалася бяздонным. Лукаш ехаў на фурманцы, правіў коньмі. Сытыя коні беглі хутка і радасна — вырваліся на прастору. Але ні сіняя, магутная Дзвіна, якая ціха і павольна несла свае воды да мора, ні белапенныя хвалі, што млява біліся ў бераг і, з шыпеннем аблізваючы жоўты роўны пясок, адкочваліся назад, ні птушкі, што заліваліся над палямі, — нішто не займала ўяўленне і душу маладога езуіта. Ён не заўважаў, што цёплы духмяны вецер ласкава абвявае твар і расхінае каптан, што стомленая доўгаю зімою зямля прагна ўбірае ў сябе сонца і чыстае паветра…

Лукаш у думках сплятаў магчымыя і немагчымыя інтрыгі, каб пранікнуць у дом каваля Кораня. Палала ў яго сэрцы і асабістая нянавісць — у адной з корчмаў, калі Літаворавы хлопцы падвялі Лукаша да каваля Янука, той, змераўшы поглядам гнуткую, тонкую постаць маладога віленчука, учэпістым позіркам нібыта пранізаў яго. І хаця прыязна ў адказ усміхаўся яму Лукаш, неяк неўзлюбіў яго каваль — нягледзячы на ўсе спробы разгаварыць яго, толькі бурчаў нешта ў адказ, а руку на развітанне падаў неахвотна. Цяжкі, але як бы і зацікаўлены позірк яго Лукаш успамінаў не аднойчы і перасмыкаўся. Другі раз атрымалася горай — калі, сустрэўшы каваля каля ратушы, Лукаш пахваліў ягоныя работы — вароты ратушы, як ён ведаў, былі зроблены Януком — той апёк яго цяжкім позіркам і працадзіў:

— Нейкі выкрутны, лукавы ты, хлопец. І чаго чэпішся да мяне, не ведаю.

І пайшоў не развітаўшыся. Але пасля не вытрымаў — азірнуўся. Сустрэліся яны яшчэ раз позіркамі — і разышліся.

І аб гэтым думаў цяпер Лукаш, паганяючы коней па роўнай, цвёрдай дарозе.

Ужо трэці дзень ездзіў ён па вёсках, як аднойчы, на самым выездзе з Чарнагосцяў — маленькай палявой вёсачкі на беразе на дзіва прыгожага возера — убачыў натоўп і пачуў дзікі, як непрытомны, крык:

— Не вінаватая я! Не ведзьма, Параскевай-Пятніцай клянуся!

Плакала, заломваючы рукі, старая кабета, стоячы наводдаль натоўпу. Пад’ехаўшы бліжэй, Лукаш убачыў, што людзі глядзяць на ваду, а там, б’ючы па вадзе рукамі, пялёхкаецца кабета ці дзяўчына. Спыніўся ён і з цікавасцю стаў назіраць за тым, што адбывалася. Не такі часты, але звычай гэты — правяраць ведзьму вадой — існаваў у Княстве. Езуіты ўсяляк стараліся заахвоціць гэты звычай, і апошнім часам асабліва многа маладых кабет і жанчын патанулі ў азёрах і рэчках, абвінавачаныя ў тым, што наводзілі хваробу на жывёл і людзей.

— Не тоне, бач яе! Ведзьма! — казалі ў натоўпе.

— Доўга не пратрымаецца, — са шкадаваннем гаварылі другія, маладзейшыя. — Не вінная Ганна, дарма яе абгаварылі.

І сапраўды — дзяўчына, апошні раз крыкнуўшы, паказалася з вады амаль па пояс і, высока ўзняўшы рукі, схавалася зноў. Лукаш, відаць, паехаў бы далей, але востры, як у рысі, позірк яго злавіў: дзяўчына, здаецца, была прыгожая. Светлыя валасы, твар, хаця і скажоны страхам, прывабны і белы, як лілея. А што, калі паспрабаваць тое, што мільганула ў галаве, як згадка?

Прайшло колькі імгненняў — дзяўчына не паказвалася.

— Ну, бачыце — не ведзьма яна, — саскочыўшы з фурманкі, Лукаш падышоў да вады.

Кабета загаласіла мацней, кінулася да вады. Яе трымалі за рукі.

Лукаш, скінуўшы кашулю, азірнуўся на старцаў, перахрысціўся:

— Ну, выратую яе — грэх мне даруецца! Маліцеся за нас, людцы!

…Ён ныраў ужо пяты раз, але на цёмным дне сярод водарасцяў дзяўчыну знайсці было цяжка.

— Кідай гэта дзела, хлопец! — крычалі яму з берага. Але ён упарта нырaў, са злосцю хацеў настояць на сваім, даказаць гэтаму быдлу, чаго варты.

Тонкае, беспрытомнае цела ён знайшоў, калі сам быў ужо на апошнім дыханні.

Людзі дапамаглі яму выцягнуць дзяўчыну на бераг, але, стоўпіўшыся вакол, калі незнаёмы чалавек стаў ажыўляць тапеліцу, расчаравана параілі, пабачыўшы яе ссінелы твар:

— Кінь ты гэтае дзела, дарэмна ўсё.

Разганяючы людзей бізуном, падышоў войт, сказаў, схіліўшыся над целам:

— Значыць, Ганна не ведзьмай была… А я надта злы на яе быў за сына… Ну, цяперака нікому ўжо не будзе галаву круціць…

— А калі я яе ажыўлю? — сказаў Лукаш, нястомна разгінаючы і згінаючы млявыя дзявочыя рукі — так вучылі ў школе езуітаў.

— Калі-небудзь наноў яе ў раку кінуць. А лепей — замуж аддам за конюха Бірылу, у яго чацвёра дзяцей без маці…

Кабета, пачуўшы гэта, загаласіла мацней, кінулася на зямлю каля дачкі:

— Мая ты дачушка! За што цябе злыя звялі са свету?!

— Ціха! — крыкнуў войт. — Ну, не ведзьма, дык чаго за беднага не ішла? Усё каля багатых круцілася. А які гаспадар такую голь у двор возьме?

— То прадай мне яе, — сказаў Лукаш.

— Што прадаваць? Яна мёртвая! — зняважліва сказаў войт, перавярнуў ботам дзяўчыну. — Дзякуй Богу, цяпер сын мой з добрай дзеўкай ажэніцца…

Але Ганна ажыла. Праўда, Лукаш і сам быў згубіў надзею ажывіць яе, але ім кіравала самалюбства: больш за гадзіну шчы-

раваў ён. Войт з радасцю даў яму адкупную паперу, і, нягледзячы на крыкі і енкі маці, Ганна назаўсёды з’ехала з вёскі.

Ачуняўшы, яна цалавала Лукашовы рукі, абліваючы іх слязьмі, дзякавала за вызваленне ад жабрацтва і цяжкай працы. Яна і сапраўды была прыгожая. Гледзячы на Ганну, зразумеў ён, што знайшоў тое, што жадаў: вясёлая, гаваркая. Такія хутка паддаюцца сіле. Ды яшчэ любіла дзяўчына прыгожыя ўборы, гатовая была дзеля раскошы на ўсё. І ўспаміналіся падчас іх падарожжа Лукашу словы адной з лекцый, дзе гаварылася, якія зоркі кіруюць лёсам людзей: «Апрадзіт, альбо Венус, — ажэ хто ся народзіцца ў тую звязду, любіць распусту…» Відаць, Ганна была народжаная пад тою зоркай — не паспелі даехаць да Віцебска, як ледзь не збегла яна з нейкім збяднелым шляхціцам, які паланіўся ёю на пастаялым двары.

Лукаш біў яе доўга і маўкліва — аж пакуль, енчачы, не папаўзла яна да ягоных ног і звалілася ля іх у беспрытомнасці. Але, адліўшы вадой, зноў біў яе — пугаўём, у канец якога была ўкладзена свінчатка. Гледзячы, як пырскае кроў, як звіваецца ў нясцерпных пакутах гнуткае, дасканалае, відаць, выключна для плоцкіх уцех створанае цела, ён не адчуваў шкадавання. З халоднай пільнасцю сачыў, калі наступіць той момант. Той, калі яна — *зламаецца*. Трэба было ўлавіць гэтае імгненне, іначай ён мог бы забіць яе да смерці, а яна павінна была аддаць яму не толькі кошт свайго нікчэмнага жыцця, за які была выкуплена ў войта, але і даць яму многа болей, бо магла даць яму сапраўды многа… І толькі калі ўбачыў у вачах яе жывёльны страх і сапраўдную пакору, тады падняў, адвёў на ложак (а біў у гумне, што стаяла далёка ад пастаялага двара), сам змазаў, акрываўленую, сваімі мазямі. З таго дня глядзеў за ёю, нібы клапатлівы брат, прывёз у Віцебск, наняў кватэру. Зрэдзь прыходзіў, гатаваў ежу, паказваў, як трэба зрабіць мяса, як прыгатаваць піўны суп ці грыбную поліўку, як засмажыць дзічыну. У адзін з вечароў, калі разам з ёю піў віно (хлопам у майстэрні сказаў, што завёў сабе каханку з замужніх, яны верылі), Ганна паспрабавала яго спакусіць. Ён высмеяў дзяўчыну кпліва і груба. Доўга расказваў ёй пра віленскіх арыстакратак — як апрануты, як паводзяць сябе. Гаварыў аб прыдворных дамах — і адчуў, што туга сціснула сэрца. Калі ён зможа вярнуцца назад, у свет вытанчанасці і багацця! Ганна слухала не дыхаючы. А калі сказаў ёй, як бы між іншым, што можа калісьці забраць яе з сабой у Вільню, — адчуў, што вось яно, яе самае балючае месца. Ведаў здаўна — каб падпарадкаваць сабе чалавека, трэба намацаць самае запаветнае, самае

балючае — і на гэтым даб'ешся многага. Розныя людзі, розныя ў іх памкненні — у аднаго прага багацця, славы. Другі любіць жанчыну. Маці можа з-за дзіцяці пайсці на любую ахвяру. Ёсць і вышэйшае — Айчына, Вера… Гэтая дзяўчына хацела быць у месцы, дзе жывуць самыя бліскучыя і багатыя людзі Княства. І ў тым, што яна дасягне запаветнага праз яго толькі, — залог улады над ёю, улады сапраўднай і непадзельнай…

Калі раны яе трохі зажылі, ён нарэшце сказаў, дзеля чаго ўзяў яе з сабою.

— Ісці да каваля і гадаваць яго дзяцей? — яна была расчараваная.

Ён зласліва сказаў, што, перш чым трапіць у ложак да каго-небудзь з Радзівілаў, ці Пацаў, ці Сапегаў, трэба добра павучыцца на хлопах… Прыгожых дзевак хапае. Трэба, апроч прыгажосці, яшчэ многае, і ён навучыць яе гэтаму — калі яна захоча. Яна здрыганулася ад позірку і згодліва заківала галавою…

Так Ганна трапіла ў дом да Янука.

Пакуль высокі худы мужчына з праніклівым поглядам слухаў яе жаласлівы расказ аб тым, што ўцякла яна ад гаспадара, які сілом хацеў забраць да сябе ў пакаёўкі, Ганна нават загаліла рукаў і паказала белую, як алебастравую, руку з цёмнымі страшнымі пісягамі, і адчувала яна сябе, як бедны грэшнік на Страшным Судзе. Здавалася, каваль ускочыць, закрычыць, выкіне з дому. Але ён толькі запытаўся:

— Чаму ж да мяне прыйшла?

— Сказалі добрыя людзі, што ваша жонка памерла і двое дзетак засталося. Я і падумала — вам недарагая прыслуга спатрэбіцца, а мне добры гаспадар, бо кажуць, што вы — добры…

— Кажуць! — усміхнуўся ён. Пасля задумаўся.

— Ну што ж, пабудзь пакуль. Можа, што і далей прыдумаем. Сам покуль упраўляўся, але раз ужо Бог цябе прыслаў…

Пасля цяжкіх сельскіх работ абавязкі па дому здаваліся Ганне лёгкімі. Прыбраць дом, накарміць дзяцей, памыць і зацыраваць бялізну — усё спорылася ў яе руках. Яна лётала па доме, нібыта насіла яе маладая, здаровая прага жыцця, якая шукала выйсця.

Каваль прыходзіў стомлены, моўчкі еў, адпачываў, пасля сыходзіў з двара. На Ганну ён амаль не звяртаў увагі, быў роўны і стрыманы. І гэта яе крыўдзіла. Прывыкла, што мужчыны пры адным яе з'яўленні як шалелі, — стараліся дакрануцца, прылашчыцца.

— Як каменны гэты каваль, ліха яго вазьмі! — сказала неяк пры сустрэчы Лукашу. Той толькі пасміхнуўся.

— Ты сваё возьмеш, — сказаў з пахвалой, адабральна-цынічным поглядам змераўшы стройную Ганніну постаць у суконным каптаніку, з доўгай чырвонай спадніцай.

І калі праз нейкі час, лётаючы па хаце, няўзнак злавіла позірк каваля, які адразу ж апусціў вочы, зларадна ўсміхнулася. Так і сталася — аднойчы прыйшоў каваль да яе ўночы, і яна яго не адштурхнула…

— Выходзь за мяне замуж, — сказаў ён назаўтра ж. Ганна сцепанулася: не хапала ёй стаць каваліхай! Але адказала з усмешкай:

— Не гарыць жа… Вось хай дзеці да мяне прывыкнуць, я трохі абгледжуся. Дый папер няма ў мяне, як жа возьмеш за жонку?

— Папер…— ён задумаўся. — Можа, мне дапамогуць. Паспрабую… Беглую чэлядзь нявольную вяртаюць сілком гаспадару.

— А хто паможа? — наіўна запыталася Ганна, але змоўкла, бачачы, што ён неяк здзіўлена глянуў на яе. — А што, калі нам звярнуцца да пратэстанцкай абшчыны? Там могуць мяне выкупіць, і пан мусіць згадзіцца…

Яна ведала: пратэстанцкая абшчына, якая знаходзілася паблізу замка на падораных землях маршалкам троцкім князем Паўлам Друцкім-Сакалінскім, не раз прыходзіла на дапамогу тым, хто хацеў уступіць у шлюб паводле кальвінісцкага звычаю.

— Чужым прадацца?! — гнеўна глянуў на яе Янук. — Не! Знойдзем выйсце і так! Пакойны ваявода Сцяпан Збаражскі пусціў гэтую погань у горад, цяпер іх, як і езуітаў, не выкурыш.

— Чаму ж погань? Яны на мове нашай гавораць, не тое што каталікі, — баязліва глянула на яго Ганна.

— Ну і што? Лісіца таксама прыкідваецца мёртвай, каб злавіць курыцу. Эх! Прадалі Княства, прадалі Айчыну, а цяпер дзяруць яго на розныя часткі!

— Хто прадаў?

— Хто? Магнаты, будзь яны праклятыя. А цяпер польскія паны назад не хочуць нам нашы вольнасці аддаваць, сілком у Люблінскую ды Брэсцкія уніі загналі, пакуль тут з царом Іванам ваявалі. І абяцалі дапамогу, а пасля і ад дапамогі, і ад слоў адмовіліся: ваюйце самі, кроў сваю ліце, а мы пасля прыйдзем ды на вашых касцях патопчамся!

Ён увесь узгарэўся, вочы яго свяціліся бляскам, ён нібыта вырас. І яна ў першы раз пaглядзела на яго з захапленнем, першы раз убачыла ў ім чалавека, за якім можна было б пайсці на любую кару, абы быць побач… Але пачуццё гэтае хутка знікла. У яго

свая, у яе свая дарога. Скончыцца яе служба, як толькі скажа Лукаш, а пасля… Пасля яе чакае не гэтая каўтрышовая сукня ды грубыя чаравікі, а тонкая шарсцяная валняніца, фалендышовыя ды адамейкавыя спадніцы, а на галаве — белы, з тонкага празрыстага вісону караблік. Калі яна апранецца так, ніводная з багатых шляхцянак не параўнаецца з ёю, Ганнай! Прыгожы камень дыямент, але без ювеліра хіба заззяе ён так, як маленькае сонейка? Ювелір такі ў яе ёсць. Гэта — Лукаш. Але зможа яна мець жаданае толькі пасля таго, як дакажа сваю прыдатнасць да ягонай службы. О, дзеля гэтага яна гатова служыць яшчэ колькі трэба, абы не звяла яе краса, яе прывабнасць, абы не згаслі сінія, як валошкі, вочы! Да таго ж яе адпускная — у руках Лукаша. І дакляраваў ён аддаць яе некалі, у далёкім будучым. Ганна старалася не думаць пра ўсё гэта. Ад думак на твары будуць зморшчыны. Але адно трэба было дазнацца — што замыслілі гарадскія рамеснікі, як звязаны яны з праваслаўным брацтвам, як адносяцца да уніі. Трэба было слухаць усё, што гавораць сябры Янука, якія цяпер зноў пачалі збірацца ў ягоным доме. Зблізіўшыся з Ганнай, каваль цяпер не надта таіўся ад яе, і многае яна магла падслухаць, пра многае здагадацца.

Аднойчы, расказваючы, хто прыходзіць у дом Кораня, яна расказала, што на грудзях у каваля выпалены каталіцкі крыж — невялікі, з дзвюма дзірачкамі. Лукаш уздрыгнуў.

— Пакажы, які прыкладна, — папрасіў ён. Ганна, паказваючы рукамі, хацела прымераць на ім, ён адхіснуўся.

Нікому стараўся не гаварыць ён пра выпалены на грудзях крыж. У дзяцінстве, у школе, хлапчукі дражнілі яго, але настаўнік Казімір Сапега, збяднелы парастак багатага магнацкага дрэва (малога, прывезенага ў Полацак, назваў ён сваім імем, бо, пастрыжаны ў манахі, не мог мець дзяцей), строга папярэдзіў іх, што гэта Боскі знак, што іх таварышу наканавана зрабіць многае ў славу каталіцкага крыжа, і яны сцішыліся. Калі ён прыехаў у Вільню, пра крыж на ягоных грудзях, мабыць, ведалі, і гэта было адной з прычын, што яму доўга не давалі ніякіх спецыяльных заданняў, таму што выпалены крыж — адзнака, а сынам Лаёлы, якія павінны ўмець мяняць скуру, лёс і асяроддзе гэтак жа лёгка, як вопратку, адзнак лепш не мець.

Вестка, прынесеная Ганнай, яго ўразіла. Што агульнага магло быць у віцебскага каваля і яго, манаха з ордэна езуітаў? Можа, яны належалі калісьці да аднаго пана? І ён папрасіў Ганну дазнацца, адкуль, з якога роду-племені гэты схізматык, як трапіў ён у Віцебск.

Самае ж галоўнае, пра што расказала яна Лукашу, — у Полацку рыхтуецца замах на полацкага архіепіскапа Іясафата Кунцэвіча.

Ужо некалькі гадоў лютаваў ён на полацкіх, магілёўскіх і віцебскіх землях. Шэптам і ўслых гаварылі, што ў Полацку ён нават загадваў выкапаць нябожчыкаў, пахаваных на праваслаўных могілках, і кінуць іх сабакам. Шапталіся, што ўласнаручна забіў ён некалькіх жанчын, што ішлі на Радаўніцу памінаць продкаў. Палачане, якія цярпелі найболей, прыслалі ў Віцебск ганцоў з просьбай падтрымаць іх, калі раптам пасля забойства Кунцэвіча кароль прышле ў Полацак войска.

— Та-ак…— Лукаш зразумеў, што час яго настаў. Адным махам разлічыцца з ненавісным яму кавалём і пакінуць апрыкрую майстэрню, працу над шытвом, пастаянныя выпіўкі ў покутных каморах. Ад усяго гэтага пазбавіць яго чарговы данос. Але доказы? Ён разважаў нядоўга. Пергаментны ліст са спісам асоб, што рыхтуюць змову, Ганна павінна падкласці ў дом каваля.

Яна выслухала гэта спакойна, толькі на імгненне тонкая зморшчынка паявілася між роўных цёмных броваў. Яны сядзелі ў асобнай каморы, якую здаваў на час такіх вось тайных спатканняў з віслёнамі гаспадар покутнай карчмы. Тут яны былі ў бяспецы. Віленскі капітул меў прапінацыю на віцебскі карчэмны шынок з усімі яго карчомкамі, і даход яго ў мінулым годзе склаў за дзве тысячы злотых. На зашмальцаваным століку стаялі дзве кварты з трункам, настоеным на гваздзіках і шафране, на талерцы ляжалі два галяндэрскія селядцы і кавалак вепрычыны, смажаны з лоем і бобкамі.

— Ці не змагла б ваша мосць выдаткаваць хаця б адзін дукат на карабок бавілу? — жаласліва папрасіла пасля некаторага маўчання.

Лукаш ужо ведаў — так яна робіць, калі маецца сказаць нешта важнае. Але на гэты раз ён дастаў не адзін, а два дукаты — сапраўды, калі яна зробіць што трэба з паперай… І яна, хаваючы дукаты ў кішэню, радасная, расказала яму, што выпытала ў каваля ў адну з гарачых начэй, калі ён, знямогшыся ад яе пацалункаў, быў падатлівы і мяккі, як дзіця.

Адпусціўшы Ганну, Лукаш-Казімір доўга сядзеў над квартай моцнага, аж перахоплівала дыханне, напітку. Калі ўсё праўда, што расказала Ганна аб прапаўшым у каваля малодшым браце, пра тое, як халопы пані Мацііеўскай забілі іх бацьку… Усё ў ім паўстала супраць гэтага. Каваль — яго родны брат! Гэты пануры, хмуры, суровы чалавек некалі калыхаў яго, няньчыў, апекаваўся!

Як бы хацелася яму пазбыцца і гэтага сваяцтва, і гэтай як праклятай Панам Богам зямлі! Паехаць бы ў светлы влоскі край, дзе вечнае сонца, дзе прыгожыя жанчыны кахаюць сваіх духоўнікаў, дзе ўсё лягчэй і прасцей, чым тут! Зямля гэтая сапраўды замешаная на крыві, усё на ёй цяжкае, страшнае, гняце душу і забівае невыноснымі для яе пакутамі!

Каваль павінен знікнуць, і хутчэй, каб ніхто з дасведчаных людзей ордэна не змог дазнацца, што манах Казімір, любімчык Скаргі, мае брата-схізматыка і, мала таго, дзяржаўнага злодня — злачынцу. І ён не дасць кавалю памерці прынародна, як багатыру, — не, смерць яго будзе ціхая і нечаканая.

Пад самае вадохрышча, калі снежныя віхуры з дзікім рогатам біліся ў застаўленыя дошкамі вокны беднякоў і гарадскія жабракі дрыжалі ад холаду і плакалі на вёсках галодныя дзеці, у добра напаленай, чыста прыбранай хаце каваля сядзелі за сталом чацвёра. Дзеці — хлопчык і дзяўчынка — елі аўсяны кісель, жавалі салодкае печыва.

— Звыкся я з табою, Ануля. Нядоўга ты ў нас, а як згодна жыць сталі, — замілавана сказаў каваль.

Ганна заружавелася, пагладзіла па галоўцы хлопчыка.

— Ідзіце спаць, — загадаў бацька, яны падняліся і паслухмяна адправіліся ў камору.

— Дамовіўся, што пад Саракі абвянчаемся ў царкве Узнясення, што на Гарбарнай вуліцы. Там і паперу дадуць, што ты мяшчанка месца Віцебскага. Скончыцца тваё нявольніцкае жыццё.

— Пане Божа, дай! — азвалася Ганна. Яна ўстала, прынесла з каморы дзве тоўстыя гранёныя скляніцы, наліла ў іх з бочачкі віна.

Дрыжалі ў яе рукі, прыгожы, як вытачаны, твар нібы пазелянеў і на момант страшна перакасіўся грымасай адчаю і жудасці… Але каваль нічога не заўважыў. Уздыхнуў, як выдыхнуў:

— Чаму людзі не могуць жыць у згодзе? Нібы збытнія яны на зямлі. А яна ж прыўкрасная, грэх благое на яе сказаць…

Пад самы ранак дзверы, не зашчэпленыя з ночы, ціха рыпнулі. Ганна, апранутая, у цёмнай хусце, правяла Лукаша ў спальніцу, запаліла свечку.

Малады езуіт стаяў, глядзеў на магутнага каваля, што скурчаны ляжаў на прасцінах у смяротным сваім сне. Грымаса пакуты і непаразумення адбілася на ягоным твары, вочы былі прыадкрытыя.

— Ваша мосць, вось крыж, — ціха шапнула Ганна. Яе паранейшаму калаціла.

— Дзеці дзе? — Лукаш-Казімір павёў вачыма.

— Тамака, — яна кіўнула ў бок каморы. — Маку ім дала, спяць.

— Жывыя? — здзівіўся ён. — Пакажуць на цябе.

— Я тут не застануся нізавошта! — ледзь не ўскрыкнула Ганна. — Не вытрымаю, раскажу стражнікам ці кату!

Ён, павярнуўшыся, задумліва паглядзеў на яе, і пад тым поглядам Ганна ўпала на калені:

— Не карайце на горла! Прыдамся яшчэ пану!

— Добра, збірайся, — згадзіўся ён.

Прайшоў па хаце, адчыніў вечка бодні, дзе ляжала адзенне, асцярожна паклаў складзены ліст на дно кадушкі. Сам папаласкаў скляніцу, паставіў яе ў шафу.

З данясення начальніка каравула Узгорскага пасада ваяводзе места Віцебскага:

«Каваль той Корань, узяты на рукоймы паводле яго імкненняў да размаітых ерасяў у ноч перад Кшчэннем, грыбкоў паеўшы, праставіўся. Дзеўка імем Ганна, чалядніца кавалёва, што хацеў ён узяць за малжонку, ад страху вялікага ўцякла. Дзеці ж кавалёвы, накладам багалюбных мужоў віцьбескіх, у абшчыну пры замку ўзятыя».

З ліста манаха Казіміра, дасланага ў Вільню праз тайную пошту езуітаў:

«Адвяшчаючы добрае здароўе Вашай Міласці, мушу далажыць: ерась праваслаўная ў месцы, дзякуючы дапамозе пана Езуса, з коранем вырваная. Горлам сцятыя дзесяць чалавек — за змову супраць праасвяшчэннага Іасафата Кунцэвіча, дый у месце Полацкім трыццаць тры чалавекі. Каваль жа Корань, будучы галоўным радцам ерэтыкоў праваслаўных, ад страху атруціўся, паперы ж яго былі заарыштаваныя і пра злыя шкоды сведчылі».

За верную службу і шчыра выкананае заданне брат Казімір атрымаў павышэнне: ён стаў духоўнікам пані Зосі Пац, у дзявоцтве Тышкевіч.

Пані Зося, адна з віленскіх прыгажунь, была ў захапленні ад духоўніка, і яго суровы, аскетычны твар, стройная постаць у выдатна сшытай сутане сталі мільгаць у лепшым віленскім храме, выклікаючы зацікаўленасць многіх прыяцелек пані Пац, чые каханкі ў многім уступалі вытанчанай элегантнасці маладога духоўніка. Некаторыя з іх з радасцю перахапілі б яго ў прыгажуні пані Зосі — грэх надае асаблівую пікантнасць жыццю. Дый за вялікі грэх не лічылася такое ў богабаязным месце віленскім — помнілі, як сама вялікая княгіня і каралева поль-

ская Бона нават у глыбокай старасці мела каханка-духоўніка. Праўда, той аказаўся нягоднікам — выманіў каралеву з многімі скарбамі Княства і Кароны ў Влохію ды там абрабаваў яе. Не адна пані, уздыхаючы, слухала апавяданні старых літоўскіх паноў-беларусінаў аб тым, якія брошы ды каралі, жамчужыны ды браслеты старога праваслаўнага роду вывезла Бона з айчыны. Мужчыны ж думалі пра кнігі дый старадаўнія акты Княства, якіх таксама многа згамавала Бона, ад чаго на Белай Русі новае слоўца з'явілася — «збондзіў».

Але праз год, калі ў лістападзе ўчынілі мяшчане горада Віцебска гвалт і напад на праасвяшчэннага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча, літасць генерала ордэна і членаў капітула — духоўнага савета пры епіскапе — да брата Казіміра паменшылася. Утрымаўся ён на ранейшым месцы толькі адчайнымі намаганнямі пані Зосі, але з таго часу стаў задумвацца, ухіляцца ад прыемных сваіх абавязкаў. Колькі ні старалася цярплівая і надта прывязаная да свайго духоўніка пані, аднак задуменне яго павялічвалася, і аднойчы, седзячы на абедзе ў доме, у прысутнасці гасцей і гаспадара дома ўскочыў ён і дзіка закрычаў, што ў талерках вяльможных паноў ляжыць зямля, якая нібыта пухне, запаўняе сабою ўвесь дом і хутка праглыне ўсіх. І што агонь яе не пераможа… Пані Зося спалымнела: у місах і талерках былі дзічына дый смажаныя качкі, таксама мядзведжыя пяткі і, зусім яшчэ новае ў Рэчы Паспалітай, стаялі на стале блюды з бабровымі хвосцікамі і лычамі. Мясціліся там і торты з цынамонам і цукрам, стаялі і цукровыя галовы, а таксама для кабет розныя памадкі і варэнне. Але духоўнік, нават схоплены служкамі, усё крычаў пра зямлю і нейкага брата, што прыходзіць да яго штоночы, так што давялося везці яго ў шпіталь добрых братоў-баніфатаў.

Некалькі гадоў запар, калі ў касцёле асабліва чулліва гаварылася пра міласэрнасць і любоў да бліжняга, пані Зося разам з прыяцелькамі, загадаўшы запрэгчы лепшых коней і падаць прывезеную з Варшавы карэту, ездзіла ў шпіталь наведваць бедалагу, стараючыся, каб гаворка пра гэта дасягнула вушэй віленскай знаці. Але праз пэўны час, калі, захоплены добрым сэрцам, яе дом стаў часта наведваць сын падстолія Адам Бжоска, візіты яе сталі радзець, а пасля спыніліся. А неўзабаве Казімір, як ёй сказалі, задушыў сябе вяроўкай, будучы пашкоджаным у розуме, загубіўшы тым душу сваю бессмяротную.

Ганну, тады ж прывёзшы ў Нясвіж, уладкаваў брат Казімір у манастыр бернардзінак, у брацтва Прасвятой Дзевы Марыі

Шкаплернай, дзе меўся «одпуст», каб «набіралася розуму ды слічнасці ў абыходжанні са знатнымі персонамі». Ганна не супраціўлялася — год праміне хутка, але выгады ад таго будзе многа, дый манастыр той — пачэсны.

На споведзі прызналася яна ў тым, што звяла са свету чалавека, але грэх той быў хутка дараваны, бо не чалавека, а паганага ерэтыка атруціла яна. Але і праз нейкі час, стаўшы каханкай аднаго з магнатаў віленскіх, кожны год пад Вадохрышча заказвала яна службу па ўбіеннаму Януку… А пад старасць, стоячы на каленях у знакамітым касцёле, трымаючы каштоўным каменнем абсыпаны трэбнік, прызналася яна Богу, што лепей было б ёй стаць чэснай жонкай каваля, бо нікога не пакахала яна болей і нікога так не шанавала, як яго. Стаяла яна, а падол старадаўняга блакітнага казакіна складкамі ляжаў вакол, і старым яе каленям было мулка на мяккай аксамітавай падушцы. Пуста было ў яе на душы, і пуста было ў яе багатым доме, дзе трымала яна толькі сіротку-беларусінку ды старога аблезлага мопса, якога карміла з сярэбранай лыжачкі.

І ніхто не ведаў, што вечарамі, шчыльна зачыніўшы дзверы, каб не падслухала чэлядзь, яна вучыла сіротку зусім занядбанай тут, у Вільні, некалі слаўнай у Вялікім Княстве гаворцы, а сіротка танюткім галаском спявала ёй даўно забытыя і пад старасць упарта ўспомненыя памяццю песні…

*1989*



# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

Пададзеныя тут паэтычныя творы Вольгі Іпатавай друкуюцца паводле выданняў: «Раніца» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1969), «Ліпеньскія навальніцы» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1973), «Снягурка» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1974), «Парасткі» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1976), «Задарожжа» (Мінск: [б. в.], 2004).

## ПРОЗА

### РАМАНЫ

*Залатая жрыца Ашвінаў (с. 57)*

Упершыню — час. «Полымя», 1997, № 10–11; 1998, № 6–7.

Друкуецца паводле выд.: Іпатава В. Альгердава дзіда: раманы. — Мінск: Беллітфонд, 2002. — (Серыя «Беларускі гістарычны раман»).

*Альгердава дзіда. Раман (с. 345)*

Упершыню — час. «Полымя», 2001, № 9–10.

Друкуецца паводле выд.: Іпатава В. Альгердава дзіда: раманы.

### АПОВЕСЦІ

*Чорная княгіня (с. 463)*

Друкуецца паводле выд.: Іпатава В. Перакат (Мінск: Мастацкая літаратура, 1984), дзе апублікавана ўпершыню.

*Агонь у жылах крэменю (с. 551)*

Друкуецца паводле выд.: Іпатава В. Перакат, дзе апублікавана ўпершыню.



# SUMMARY

Volha Ipatava, the Belarusian writer, translator and active public figure, was born in the settlement of Mir, Hrodna region in 1945. Having lost her mother at a very early age, Volha was brought up at Hrodna Children's home. After graduating from the Philology Department of the Belarusian State University in Minsk, she worked as a teacher, an editor at Hrodna Regional Television studio, a literary employee for the newspapers *Litaratura i Mastatstva (Literature and Arts)* and *Chyrvonaya Zmiena (Red Generation)*, the chief editor of literary and drama telecasts of the Belarusian television, for the journal *Spadchyna (Heritage)* and as the chief editor of the newspaper *Kultura (Culture).* Volha Ipatava was the Chairman of the Union of Belarusian Writers and the Honorary Academician of the International Academy of Sciences of Eurasia.

The Belarusian writer started her literary activity with poetry. In 1969 her first collection of poetry *Ranitsa (The Morning)* was published. Since the 1970s she has been publishing prose works. The pleasant phenomenon in Belarusian Soviet literature was her book of prose *Vetser nad Stromai (The Wind over the Bluff)* published in 1977. Nevertheless, the most brightly her talent is displayed in novels and stories on history of Belarus.

The present book of *Selected Works* comprises all the most considerable novels by Volha Ipatava: *Zalataya Zhrytsa Ashvinau (The Golden Priestess of the Ashvins)* and *Alherdava Dzida (Alherd's Spear)* as well as the stories *Chornaya Kniahinya (The Black Duchess)* and *Ahon u Zhylakh Kremeniu (The Fire in the Veins of Flint),* that display different pages of Belarusian history, and also a number of verses.

The book was compiled and the preface was written by the literary critic, the Candidate of Philology Lidziya Savik.



# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА

### РАМАНЫ



### АПОВЕСЦІ

**Іпатава, В.**

**І-76** Выбраныя творы / Вольга Іпатава ; уклад., прадм. і камент. Л. Савік. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 592 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-7089-84-0.

Аднатомнік выбраных твораў выдатнай беларускай пісьменніцы Вольгі Іпатавай (нар. 1945) склалі лепшыя вершы, гістарычныя раманы і аповесці.

Семдзесят шосты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

**Іпатава Вольга**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Кастусь Цвірка*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 24.08.2014.
Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 31,08 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 31,42.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Пры ўдзеле ТАА «Харвест».
Пасведчанне аб ДРВВРДВ № 1/17 ад 16.08.2013.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб ДРВВРДВ № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-7089-84-0




Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр-т Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы
РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы
*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы
МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы
АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы
УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы
ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы
АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы
ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ЦВІРКА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ВІТКА. Выбраныя творы
ВІКТАР КАРАМАЗАЎ. Выбраныя творы
МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. Выбраныя творы
ІВАН ЧЫГРЫНАЎ. Выбраныя творы
ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ. Выбраныя творы
МАСЕЙ СЯДНЁЎ. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КУЛАКОЎСКІ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае
АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае
АРСЕНЬ ЛІС. Выбранае
КАЗІМІР МАШЫНСКІ. Усходняе Палессе
АЛЯКСАНДР НАДСАН. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

ВАЛЯНЦІН ТАЎЛАЙ. Выбраныя творы